УДК 94(476)
ББК 63.3 (4Беи)622

Т 65

**Янка Трацяк**

Т 65 **Саветы.** Заходнебеларускі раман-хроніка / Я. Трацяк. – Гродна: ЮрСаПрінт, 2015 – 430 с.

ISBN 978-985-5626-07-6

Падзеі ў рамане-хроніцы разгортваюцца ў 1939 – 1941 гг. у Заходняй Беларусі. Сюжэтную канву складаюць такія вельмі спрэчныя і неадназначныя ў беларускай гістарыяграфіі з’явы, як прыход Чырвонай Арміі, усталяванне савецкай улады, калектывізацыя, раскулачванне, рэпрэсіўная і культурная палітыка; прасочваецца абагульняючы вобраз Саветаў. У творы цесна пераплятаюцца між сабою рэальнасць гістарычных падзеяў (аўтарам выкарыстаны архіўныя, мемуарныя, дакументальныя і навуковыя матэрыялы) і мастацкі вымысел як аўтарскія інтэрпрэтацыі і спробы рэканструкцыі тых падзей.

У хроніцы ёсць цікавыя матэрыялы і інфармацыя для мясцовых краязнаўцаў, гісторыкаў, настаўнікаў, літаратараў і ўсіх, хто цікавіцца разнабаковай гісторыяй свайго краю.

**УДК 94(476)**
**ББК 63.3 (4Беи)622**

**ISBN 978-985-5628-07-6**

# 1. 1939 ГОД (З НАТАТНІКА ЗАХОДНІКА)

*Пра тое, што ў сьвеце неспакойна, гаварылі даўно. А вось у гэтым годзе усё болей і болей сталі гаварыць пра вайну. У беларускіх віленскіх газэтах можна было сустрэць цікавую палітычную аналітыку пра тое, што вайна непазьбежная, што дзьве вялікія сілы, якія паўсталі ў Эўропе – сталінскі рабоча-сялянскі камунізм і гітлераўскі рабочы нацыянал-сацыялізм – ня могуць, з сваёй прыроды, суіснаваць мірна. Пытаньне было толькі ў тым, хто можа стаць ахвярай агрэсіі гэтых савецкіх і нямецкіх рабочых ізмаў.*

*Гітлер, як толькі прыйшоў да ўлады, распачаў бескампрамісную барацьбу з камуністамі, узьвёў антыкамунізм у ранг дзяржаўнае палітыкі, канчатковая мэта якой – зьнішчэньне бальшавіцкай Расеі і захоп яе неабсяжных тэрыторый для размнажэньня арыйскай нацыі. Антыкамінтэрнаўскі пакт, які быў заключаны нацыянал-сацыялістычнай Нямеччынай зь Японіяй ў 1936 годзе, а пазьней – з фашыстоўскай Італіяй, толькі пацьвярджаў намеры нямецкага фюрэра, які пераканаўча стараўся запэўніць кожнага ў тым, што камуністычная зараза не павінна распаўзацца ўва ўсім вольным сьвеце. І ў гэтым яго падтрымлівалі ня толькі Італія зь Японіяй. З нейкім спадзяваньнем глядзелі на Гітлера і Чэмберлен, і Даладзье, і вялікі дэмакрат Рузьвельт. Праўда, іх і сьмяшылі, і насьцярожвалі некаторыя заявы Гітлера і яго апетыт да неабсяжных тэрыторый, але й анічога не рабілася зь іх боку ня толькі, каб утаймаваць фюрэра ў гэтым кірунку, але нават, каб нагадаць умовы Вярсальскага пагадненьня, паводле якога Германіі забаранялася мець баяздольную армію, новыя віды зброі, прад'яўляць тэрытарыяльныя прэтэнзіі да іншых дзяржаваў, прымаць удзел у вайсковых блёках і г.д. Наадварот, калі што й рабілася кіраўніцтвам заходнеэўрпейскіх краінаў, дык толькі каб улагодзіць, задобрыць і хаця ж не раззлаваць Гітлера. І прыкладаў таму было вельмі шмат: гэта і нейкая незразумелая маўклівасьць вакол гонкі ўзбраеньняў, якую распачаў Гітлер, распрацоўваючы новыя віды танкаў, самалётаў і падводных лодак, і адсутнасьць рэакцыі на першыя тэрытарыяльныя парушэньні Гітлерам умоваў Вярсалю: далучэньне да Германіі Рэйнскага краю ў 1936 годзе і аншлюс Аўстрыі ў сакавіку 1938 г., маўляў, на гэтых тэрыторыях пражываюць немцы, чыстыя арыйцы з нардычным характарам...*

*Няўжо гэтым самым заходнія палітыкі хацелі адвесьці прагнучы позірк нямецкага фюрэра ад сваіх тэрыторыяў і*

*прадэманстраваць сваю лаяльнасьць і гатоўнасьць і надалей парушаць міжнародныя правы, калі толькі Гітлер будзе рухацца і дзяліць Эўропу ў правільным кірунку – ва ўсходнім кірунку?!.*

*А ўсялякія такія парушэньні міжнароднага права ў адносінах да тэрыторыяў, у якім бы кірунку яны не праводзіліся, – нядобрая прыкмета.*

*А паўнамоцтвы Вярсальскай дамовы давалі магчымасьць саюзьнікам нават за найменшае парушэньне іх пунктаў акупаваць тэрыторыю Германіі, і – раз і назаўсёды пакончыць з нацызмам.*

*...А як можна было разумець незразумелую цяганіну і маруднасьць Вялікабрытаніі і Францыі вакол пытаньня пра стварэньне антыгітлераўскай кааліцыі з удзелам СССР?! Ня верылі Сталіну, ці, проста, баяліся яднацца з краінай працоўных і сялянаў?.. Няўжо ў Лондане і Парыжу сталінская камуністычная Расея выклікала нашмат большы перапалох, чым гітлераўская нацысцкая Германіяй?!.*

*Усё гэта складвалася ў нейкую дрэнна прадуманую сістэму патураньня Гітлеру, якую, дарэчы, Гітлер зразумеў і выкарыстоўваў так, як хацеў.*

*Неадназначнымі выглядалі «добрасуседскія» стасункі між Нямеччынай і Польшчай.*

*Шмат гаварылася пра тое, што Нямеччына ня стане нападаць на Польшчу – якая ёй карысьць ад гэтага. Наадварот, можа так стацца, што Гітлер дапаможа Польшчы ў барацьбе супраць бальшавізму – на гэтае вельмі спадзяваліся некаторыя прыўладныя колы ў Варшаве і стараліся заручыцца падтрымкай рэйхстагу. Нездарма і рейхсміністр Германіі Герман Герынг, самы блізкі хаўрусьнік Гітлера, некалькі разоў наведваў Польшчу й ўсякі раз даводзіў, што вялікая Германія для палякаў самая што ня ёсьць дружалюбная краіна.*

*Праўда, пасьля гэтага падвыпіўшы Герман распачынаў цьмянныя гутаркі пра нямецкі горад Данцыг, у якім таксама жывуць арыйцы...*

*І польскім міністрам тады нічога не заставалася, як толькі рабіць выгляд, што яны «ніхт фэрштэйн» – не разумеюць яны пра што гутарка...*

*...А нядаўна, казалі, быў той Герынг на паляваньні ў Белавежскай пушчы. Зразумела, што не адзін ён там страляў зуброў тых і ласёў і смакаваў пушчанскія настоі, а разам з высокімі польскімі дзяржаўнымі ўрадаўцамі, сярод якіх быў і маршал Эдвард Рыдз-Сміглы і міністра замежных справаў*

*Польшчы Юзэф Бек. Доўга не маглі вялікія паляўнічыя нагаварыцца, асабліва, калі гутарка ішла пра вялікія паляваньні на вялікія тэрыторыі – столькі было агульнага ў поглядах, у планах, у мэтах... Пан Бек адобрыў далучэньне Аўстрыі да Германіі і падкрэсьліў зацікаўленасьць Польшчы ў чэшскай праблеме. На што Герынг пачціва прыхіліў галаву і адказаў, што Гітлер будзе абавязаны Польшчы за такую пазіцыю. І тут паляўнічыя сышліся ў тым, што Чэхаславакія – штучнае дзяржаўнае ўтварэньне і з гэтым утварэньнем трэба нешта рабіць... Тым болей, што і там пражывае вельмі шмат няшчасных арыйцаў і палякаў...*

*Добра разумелі суразмоўцы інтарэсы адзін аднаго, калі гутарка ішла пра Літву, Вугоршчыну, Украіну...*

*Вось толькі вольны горад Данцыг...*

*Але найбольшае разуменьне выклікаў усходні кірунак такой двухдзяржаўнай палітыкі. Нямецкі генерал стараўся пераканаць польскі ўрад у тым, што для ўсёй Эўропы ў цэлым небясьпечны ня толькі бальшавізм, але й Расея як такая. У адказ польскі міністра Бек заверыў Герынга, што вялікі польскі народ добра памятае зьнішчэньне імпэрскай Расеяй Вялікай Польскай Рэчы Паспалітай як дзяржавы і гэтага ніколі не даруе... І сёньня вельмі важнай мэтай польскай палітыкі зьяўляецца ня толькі супраціў расейскай агрэсіі, але й зьнішчэньне Расеі, а тым болей камуністычнай. І палякі зробяць для гэтага ўсё, што толькі будзе ад іх залежыць. Пры гэтым польскі міністра асабліва любіў падкрэсьліць, што Польшча ніколі не дазволіць ніводнаму салдату Савецкай Расеі ступіць на сваю тэрыторыю... Што няма й ніколі ня будзе ў Польшчы аніякіх ваенных пагадненьняў, блёкаў і дамоваў з СССР... Што зьнішчэньне бальшавізму зьяўляецца галоўнай мэтай яго палітыкі... Што яму не хапае эпітэтаў, каб ахарактарызаваць тую нянавісьць, якой працяты вольныя грамадзяне Польшчы да Расеі...*

*(Дарэчы, у Расеі нікольні не адставалі ў выбары слоўцаў у адносінах да Польшчы, якую інакш як буржуазнай, прадажнай і фашыстоўскай не называлі).*

*Удзячны Герынг у сваю чаргу важна падкрэсьліваў, што такой дзяржаве як Польшча недастаткова аднаго выхаду ў Балтыйскае мора, Польшча павінна мець свой выхад і ў Чорнае мора...*

*Такім чынам, суразмоўцы прыходзілі да высновы, што інтарэсы Польшчы і Нямеччыны ў адносінах да камуністычнай Расеі, ды й ня толькі да Расеі, супадаюць цалкам.*

*Пасьля такіх паляваньняў і гутарак звычайна вайны між сабой не пачынаюць, а калі й пачынаюць, дык толькі сумесным паходам на Маскву.*

*Вось толькі Данцыг...*

*У Варшаве цешыліся сваім сяброўствам зь Нямеччынай, хвалілі Гітлера і радаваліся таму, што польскі міністра едзе ў Берлін вучыцца як трэба змагацца з камуністамі.*

*Палякі таксама, відаць, мелі добрыя намеры, каб хоць нейкім чынам улагодзіць і задобрыць Гітлера.*

*З другога боку, палякаў гэтых і міністраў можна было зразумець: баяліся яны ня столькі немцаў і страты Данцыгу, колькі Расеі: для іх Расея, што царская, што бальшавіцкая, была й заставалася найболей небясьпечным ворагам польскай дзяржаўнасьці й такім жа дзікім агрэсарам, які заўсёды прагнуў прывіслянскіх тэрыторыяў.*

*Быццам мала было гэтых тэрыторыяў у Расеі.*

*Словы польскага міністра пацьвярджаліся актыўнай прапагандай і агітацыяй супраць саветаў у сродках масавай інфармацыі. На старонках газэтаў выступалі розныя польскія палітычныя дзеячы з вельмі негатыўнымі характарыстыкамі і ацэнкамі савецкага партыйнага кіраўніцтва, ролі партыі бальшавікоў і зьнішчальнай крытыкай самога Сталіна. Палітычныя аналітыкі неаднаразова падкрэсьлівалі, што небясьпеку вайны трэба чакаць толькі з боку сталінскага чырвонага ўсходу. Праўда, высновы такія не былі беспадстаўнымі: зямля віленская поўнілася чуткамі пра нейкія мірныя сталінскія манёўры на савецка-польскіх межах, куды Саветы сьцягнулі шматлікую армію. Быццам, вось-вось Сталін павінен аддаць загад пра пачатак паходу Чырвонай Арміі на захад ад польска-савецкай мяжы. Другія казалі, што між Польшчай і Саветамі існуе мірная дамова 1932 года аб не нападзе адзін на аднаго й яе нарушэньне можа выклікаць міжнародны вэрхал, але нават і тыя, хто такое казаў, сумняваліся ў вэрхале, а тым болей у міжнародным.*

*У польскім грамадзтве панавала нейкая хваравітая баязьлівасьць расейскага камунізму. Яго прывід бачыўся ва ўсім, што не было польскім, альбо што мела хоць нейкія адхіленьні ад польскасьці. І, дарэчы, такая сітуацыя была характэрнай ня толькі для віленскіх і мясцовых палякаў, але і для польскага ўраду ў Варшаве, для якога найбольшымі камуністамі былі ня столькі польскія прыхільнікі камунізму, колькі беларускія сацыял-дэмакраты і нацыяналістыя. У гэтым сэнсе можна гаварыць пра яшчэ адну адметнасьць польскага грамадзтва – ня*

*вельмі прыхільныя адносіны да беларускасьці. Мала таго, што беларускасьць успрымалася як «мужыцкасьць», як праяўленьне некультурнасьці і непісьменнасьці, дык яна яшчэ раўнялася з камуністычнай ідэялёгіяй і агітацыяй. Дыфензыва*[1]*, сьлежкі, даносы, разборкі ў пастарунках вакол беларускага пытаньня – усё гэта, асабліва ў апошнія месяцы, стала штодзённым заняткам. Зноў загучаў паўсюдна жарт Юзэфа Пілсудзкага наконт таго, што «ня кожны камуніст беларус, але кожны беларус – камуніст», толькі з той розьніцай, што загучаў ён не як жарт, а як павышэньне пільнасьці і кіраўніцтва да дзеяньня польскім паліцэйскім, дыфензыве і іншым дзяржаўным службам і структурам. Шмат якім беларусам, і далёка не камуністам, словы свайго земляка, які некалі казаў, што «з аніводнага беларуса не падзе ані адзін волас з галавы ў новай польскай дзяржаве», выходзілі бокам у польскіх турмах на Лукішках і Бярозе-Картузскай: валасы тыя пучкамі ляцелі на цэментаваную падлогу з галоваў асуджаных беларусаў.*

*Тут, зноў жа, трэба заўважыць і той факт, што пад камуністычныя ўплывы звычайна траплялі тыя, каго звалі «рускімі», г. зн. праваслаўная частка беларусаў – яны з нейкай незразумелай цікавасьцю і спадзяваньнем глядзелі на савецкі ўсход сонца, быццам і сапраўды адтуль павінна было прыйсьці для іх шчасьце...Часткова, іх можна было зразумець – у каталіцкай Другой Рэчы Паспалітай інтарэсы праваслаўных беларусаў нікога не цікавілі, а калі й цікавілі, дык роўна настолькі, каб гэтых інтарэсаў увогуле не існавала. Іх пазбавілі шмат якіх жыцьцёвых прывілеяў (да прыкладу, узяць арэнду, ці пазыку ў зямельным банку), абмежавалі ў сацыяльных, палітычных і культурных правох... і адчувалі яны сябе маргіналіямі і чужакамі на сваёй зямлі. Усякія іх памкненьні нагадаць пра сябе, а тым болей абурэньні і незадаволенасьць разглядаліся як супраціў польскай дзяржаўнасьці. Таму і не выпадкова, што яны найчасьцей траплялі ў лік падазроных і асуджаных.*

*Але, часам даходзіла і да абсурднага: у сувязях з камуністамі абвінавачваліся беларускія каталіцкія сьвятары: Вінцэнт Гадлеўскі, Адам Станкевіч, Віктар Шутовіч, Андрэй Цікота... Гэта нешта было нечуванае для палякаў, каб каталіцкі ксёндз настолькі «звар'яцеў» і страціў усякі страх перад панам Богам, што стаў гаварыць «па-беларуску», зьмяніў «велькі ензык боскі» на халопскую камуністычную мову...*

[1] Дыфензыва – польская тайная паліцыя.

*Падзеі, тым часам, у сьвеце разгортваліся непрадказальна. Пасьля ўдалага аншлюсу Аўстрыі, апетыт у Гітлера павялічваўся непамерна. І трэба ж было так здарыцца: у час сустрэчы з чэшскім паслом зьвярнуў увагу Гітлер на цікавы апендыкс на карце Эўропы пад назовам Судэты... Выразаць! Загарэўся ідэяй фюрэр і лёс Судэтаў быў вырашаны. Дробныя фармальнасьці былі афармленыя ў ноч з 29 на 30 верасьня 1938 года на не зусім прыстойным Мюнхенскім хаўрусе, у выніку якога Вялікабрытаніяй, Францыяй, Італіяй і Германіяй з парушэньнямі многіх міжнародных правоў быў узаконены захоп Гітлерам часткі Чэхаславакіі – Судэцкай вобласьці...*

*Але аднымі Судэтамі тут не абышлося. Гітлеру тады, як ніколі, патрэбныя былі саюзьнікі, каб не выглядаць самотным агрэсарам. І такімі саюзьнікамі ён зрабіў палякаў, прапанаваўшы ім добрую частку чэшскай тэрыторыі, зыходзячы, відаць, з тэорыі славянскага адзінства чэхаў з палякамі і хаўрусу апошніх з вялікай дзяржавай, якая з Польшчай «пабрацку» можа падзяліцца чэшскімі землямі, а ў перспектыве дапаможа ўратавацца ад расейска-сталінскай агрэсіі. Хітры Гітлер задобрыў палякаў чэшскім кавалкам так, як такім жа кавалкам задобрылі яго добрыя дзядзькі Чэмберлен і Даладзье. Дарэчы, апошнія маглі толькі радавацца, што Гітлер пайшоў дзяліць Эўропу ў «правільным» кірунку.*

*30 верасьня палякі запатрабавалі ад чэхаў памежны раён Цешын, а 2 кастрычніка правялі аперацыю «Залужжа», у выніку якой польскімі войскамі былі акупіраваныя Цешынская Сілезія і прылягаючыя тэрыторыі Славакіі.*

*Вось толькі цешыліся зь Цешына палякі нядоўга. 24 кастрычніка 1938 года Гітлер запатрабаваў ад міністра замежных справаў Польшчы забяспечыць «польскі калідор» да Усходняй Прусіі будаўніцтвам чыгункі, вярнуць Германіі горад Данцыг, і заявіць пра ўваход у Антыкамінтэрнаўскі пакт...*

*Вось тут ужо пану Юзафу Беку было не да паляваньняў... Паабяцаў пан міністра добра падумаць і праявіць палітычную гнуткасьць.*

*А пакуль пан Юзаф думаў наконт гнуткасьці, Гітлеру яго вялікая арыйская Германія з Судэцкай вобласьцю здалася маленькай для размнажэньня, і ён, доўга ня думаючы, стаў яе пашыраць за кошт астатняй тэрыторыі Чэхаславакіі. Пры тым рабілася гэта настолькі ціха і моўчкі – ні стрэлаў, ні крыкаў, – што нават ніхто й не заўважыў, як у сакавіку 1939 года па вуліцах Прагі праехалі нямецкія танкі і швэндаючыся прагуляўся Гітлер, як пан па сваіх сотках. Вось*

*толькі бедны Масарык, як убачыў Гітлера пад вакнамі свайго міністэрскага кабінету, дык адразу й бахнуўся вобзем у непрытомнасьці. І сюзьнікі чэхаў – французы і ангельцы – таксама нічога такога не заўважылі кепскага ва узброеным шпацыры Гітлера па вуліцах Прагі, і таксама, дыпламатычна, маўчалі.*

*А вось мясцовыя крэсовыя палякі ў гэты час хадзілі радаснымі і на матыў «Ешчэ польска не згінэла...» кожнаму стараліся напець: «Вітам смагле немца в Праге, а за Львівам пшымем Кіев!».*

*Дарэчы, да Кіева было ўжо недалёка. У тым жа сакавіку 1939 года Венгрыя, нацкаваная Гітлерам, пачала праводзіць акупацыю Закарпацкай Украіны, і ў гэтым яе вельмі актыўна падтрымлівала гнуткая Польшча, але гнуткасьць гэтая Польшчу ўжо не ратавала.*

*Патрабаваньні Трэцяга Рэйха да Польшчы, нягледзячы на ўсю яе прыхільнасьць да зьнешняй палітыкі Гітлера, ніскольки не зьмяншаліся, а наадварот, расьлі не па днях, а па гадзінах. Закарцела Гітлеру мець вольны доступ да Ўсходняй Прусіі ня толькі праз чыгунку, але й праз аўтабан Берлін – Кёнігсберг, які называлі Берлінкай, а яшчэ запатрабаваў Гітлер асаблівых прывілеяў у Польшчы нямецкаму насельніцтву з нардычным характарам, а патрабаваньні вярнуць Данцыг сталі больш жорсткімі і пагражальнымі. Такі ўльтыматум Гітлера (заяўлены ў сакавіку) абвастрыў польска-нямецкія адносіны да ўзроўню непазьбежнай канфліктнай сітуацыі, пра што й было заяўлена Ю. Бекам міністру замежных справаў Германіі Рыбентропу. Нарэшце дайшло да польскіх бекаў, што Гітлер хоча скарыстаць Польшчу як свайго паслухмянага сатэліта і ня больш, а гэта значыць, пазбавіць Польшчу ўсякага самастойнага права вырашаць свой палітычны, эканамічны й дзяржаўны лёс. Добра вядомы досьвед міралюбівых адносінаў Нямеччыны з Чэхіяй напярэдадні анэксіі апошняй наводзіў палякаў на сумныя развагі. І магло так стацца, што адны нямецкія генералы будуць з польскімі генераламі зуброў тых страляць каля Белай Вежы, а другія – будуць маршыраваць з сваім войскам па Польшчы, як па калідору, да Данцыгу і заместа зуброў адстрэльваць палякаў.*

*Урад Польшчы, на ўсякі выпадак, вымушаны быў абвясьціць скрытую мабілізацыю і ўзмацніць свае пазіцыі шляхам перадыслакацыі войска з усходніх межаў на заходнія.*

*А ўсякія перамяшчэньні войска таксама ёсьць нядобрая прыкмета.*

*А яшчэ па Вільні хадзілі чуткі пра самагубства польскага міністра, які, быццам бы, прапанаваў плян уратаваньня сьвету ад гітлерызму, а менавіта: стварэньне ваеннага антыгітлераўскага польска-савецкага блёку з усходу і адпаведнага англа-французскага блёку з захаду, заціснуць Нямеччыну між двума франтамі, як гэта было ў часы Антанты. Самагубства ( хутчэй за ўсё было ўчыненае забойства ) польскага міністра можна было растлумачыць толькі тым, што такі блёк у той час анікому быў не патрэбным: ані Чэмберлену, ані Рузьвельту, ані Сікорскаму– на Гітлера глядзелі як на нейкага месію, з дапамогаю якога можна будзе лёгка расквітацца з камуністычным рухам і, у першую чаргу, з таталітарнай імперскай Савецкай Расеяй, якая, хоць і пачырванела, але не ад сораму, а ад крыві – а гэта было яшчэ больш небясьпечней для сьвету.*

*І няўцям было падумаць гэтым палітыкам, што могуць быць і іншыя хітрыя варыянты, розныя камбінацыі ды заблытаныя схемы, пры якіх нехта таксама можа спадзявацца на Гітлера, бо й ў гэтага «некага» таксама могуць быць з Гітлерам агульныя і свае інтарэсы ў сьвеце, асабліва такія, якія кранаюць розныя падзелы і перадзелы тэрыторыяў, што гэты нехта й сам ня супраць прыняць чынны ўдзел у такой дзяльбе, падтрымаць, калі што, нямецкі народ і яго рабочую нацыянал-сацыялістычную партыю і скарыстаць яго ў барацьбе з ненавіснымі буржуямі і імперыялістамі, якія яшчэ ў 1918 годзе хацелі расправіцца з маладой краінай саветаў; што гэты нехта й сам ня супраць ўстанавіць у сьвеце сваю дэмакратычную дыктатуру пралетарыяту і камунізму, ці савецка-расейскага нацыянал-сацыялізму...*

*І цяжка было меркаваць і тым болей прагназаваць, хто каго здолее перахітрыць у гэтых няпростых палітычных гульнях, пры якіх, здавалася, падман, хлусьня, хітрасьць і сіла рабіліся найбольш уплывовымі і пераканаўчымі аргументамі.*

## 2. Спадар

Лета 1939 года ў Заходняй Беларусі было нейкім нервовым. Нешта такое, здавалася, было напружанае ў самой атмасферы. І нават прырода была нейкай непрадказальнай: ці раптам прыпарыць так, што немач робіцца, і тады хочацца бульдыхнуцца ў сажалку, якая кішэла дзяцьмі; ці раптам наляціць аднекуль вятрыска, разгоніць дзетвару, нагоніць белых, як вата, аблокаў і замрэ, быццам нечага спалохаўшыся, і тады зноў становіцца млява ад парнасці. Іншы раз – на небе ні хмурынкі, толькі копы з сенам распусціш, а тут наляціць раптоўна хмарка і такім спорным дожджыкам палье тваё сенца, што не адзін дзень пасля гэтага будзеш яго прасушваць.

Людзі, хоць і завіхаліся на сваіх і панскіх палетках, але без той паспешлівасці, якая бывае звычайна ў вельмі дажджлівае ці сухое лета. Складвалася ўражанне, што людзям быццам не было чаго і куды спяшацца. Усё часцей і часцей можна было ўбачыць гурт мужчын на полі ці сенажаці, якія жвава нешта абмяркоўвалі. Варта толькі было сабрацца дзе двум ці тром чалавекам разам, як тут жа да іх падцягваліся цікаўныя з іншых палеткаў. Цяжка было згадаць, каб такія стыхійныя сходкі праходзілі летась ці пазалетась.

Але найчасцей збіраліся надвячоркам. Пры тым стараліся скончыць працу заранёў, каб завідном упарадкаваць каня, справіцца з гаспадаркай і выйсці на хвіліну «на бадзякі», пачуць, што ў свеце белым робіцца. Летам не было вялікай патрэбы сядзець у хаце – звычайна збіраліся ў канцы вёскі на валунах, якія тут ляжалі стагоддзямі і ляжаць, відаць, з часоў ледніка. Напачатку дзяліліся махоркай і газетай і з асалодай зацягваліся дымам, а пасля нехта з разважлівых і сталых вяскоўцаў пачынаў:

– Ну, што, зноў, відаць, вайна! –і тут жа тэму падхоплівала адразу некалькі басістых галасоў:

–Ага! Зноў салдаты, бандыты, партызаны…

–Зноў немцы, палякі, рускія...

– Зноў белыя, чырвоныя, зялёныя...

– І колькі можна?…

–Быццам, няма іншага занятку...

–Быццам, няма іншай гутаркі...

– Чаму няма? – нехта запярэчыць. – А зямля?..

–А хлеб?..

–А душа?..

–А цела?..

–Што табе цела, калі зямля будзе гарэць пад нагамі!

–Во-Во! Куды ты яго пакладзеш?!

–Га-га-га!

–Гы-гы-гы!

Прыкладна, такі характар насілі вясковыя гутаркі: ад сур'ёзнага да смешнага і наадварот. Але, іншым разам, праз жарты і падкавыркі прасочваліся вельмі сур'ёзныя тэмы, асабліва тады, калі на гэтыя сустрэчы западаў нехта рэдкі і важны: альбо начальства якое, альбо з беларускай ці польскай інтэлігенцыі які-небудзь нацыяналісты ці сацыялісты. На такіх, праўда, людзі глядзелі з лёгкай іроніяй, як на нейкае «дзіва дзіўнае», але выгляду не падавалі.

А яшчэ часта збіраліся ў Багданоўцы, у завішным затулку, які называўся Загон. Праўда, у Загон звычайна заганялі людзей тады, калі ўзнікалі важныя дзяржаўныя пытанні. Тады прыязджала начальства з павету і даводзіла свае патрэбы да народу.

Вось і на гэты раз такая патрэба ўзнікла – надумала гміна арганізаваць сустрэчу з намеснікам віленскага ваяводы панам Лакуціеўскім. Напачатку, ўвогуле, гутарка ішла пра тое, што прыедзе сам ваявода – генерал пан Людвіг Бацянскі і, можа, яшчэ нават нейкі міністра з Варшавы.

У намесніка ваяводы – пана Лакуціеўсага – у Ходзькаx (дзве вярсты ад Багданоўкі) быў свой маёнтак, куды вельмі часта ён прыязджаў з Вільні адпачываць і весела бавіць час. Як раз, менавіта ў гэтых днях, ён у маёнтку спраўляў нейкі баль.

Сустрэча павінна была адбыцца ў суботу пад вечар. Людзі гаварылі, што гэта будзе вялікае дзіва, калі такія вялікія паны аб'явяцца ў Багданоўцы.

У Загоне сабралася недзе каля трох дзясяткаў сялян з Дойневічаў, Ракавічаў, Бяляніцы, Мазалёў і іншых навакольных вёсак; падышлі і парабкі з двароў мясцовых паноў Дабрынскага, Карчэўскага і Лакуціеўскага.

Людзі паглядалі з цікавасцю ў бок Крыжавых Дарог, адкуль павінна была паказацца ваяводская дружына, але там было ціха і пуста.

– Ну што, відаць, польскага «дзіва дзіўнага» мы так і не дачакаемся? – прагаварыў Сцяпан Андраловіч, бядняк-селянін з Ракавічаў і мясцовы рэвалюцыянер. – А я так хацеў запытацца ў ваяводы «Ты цо робіш, Людвік?..

Зварот гэты «Ты цо робіш, Людвік?» у апошні час стаў вельмі папулярным на Ашмяншчыне і Дзісненшчыне. Яго

часта сталі паўтараць тады, калі нехта рабіў нешта не так. Аўтарства яго прыпісвалі Дзісненскаму дэкану ксяндзу Антону Зянкевічу. Ён быў бадай што адзіным ксяндзом польскай нацыянальнасці, які падтрымліваў беларускіх каталіцкіх святароў у іх праве маліцца на сваёй мове. І калі паводле загаду ваяводы Бацянскага выдалілі з Друйскага кляштара айцоў марыянаў ўсіх беларусаў-манахаў, ён дамогся сустрэчы з ваяводам і першае, што сказаў пры гэтым: «Ты цо робіш, Людвік?

– Надта мы твайму Людвіку патрэбны, – разважыў Вальдэмар Саковіч, у гадах ужо чалавек з Няроўкі. – Будзем чакаць свайго дзіва!

– Ці не стрыечніка ты маеш на ўвазе? – пацікавіўся Юстын Буткевіч, невысокі, але вяртлявы і з залысінамі селянін з Дойневічаў.

Стрыечным братам Вальдэмару прыходзіўся Юлесь Саковіч з Баўдыроў, вядомы беларускі нацыяналісты, сацыялісты і змагар з польскім рэжымам, які зараз адбываў пакаранне недзе ў польскай турме.

– А калі і стрыечніка, дык што тут такога? – насцярожыўся Вальдэмар.

– Анічога...

Вальдэмар быў высокага росту, сінія, даверлівыя і чыстыя вочы, як у дзіцяці, валасы пшанічнага колеру надавалі яму нейкія патаемныя рысы балта-славянскасці. З ім ніхто ніколі не спрачаўся: не таму што баяліся яго фізічнай сілы – Вальдэмар мухі не пакрыўдзіць – асцерагаліся пакрыўдзіць Вальдэмара.

Чакаў ён не столькі Юлеся, колькі свайго сына Віктося. Звязаўся сын з сваім дзядзькам і пайшоў яго слядамі. Дайшоў да таго, што і яго, як дзядзьку, выгналі з універсітэта за беларускую дзейнасць, і зараз быў ён недзе ў Вільні пад дазнаннем...

Сонца, тым часам, ужо добра хілілася долу. Жанчыны паспяшаліся дахаты, за імі пайшлі колькі мужчын, бо чакаць ваяводаў ужо не было сэнсу. Засталіся ў Загоне каля дзясятка мужчын, найбольш актыўных, але і яны, пагаварыўшы трохі пра свае справы, пра паноў, палякаў і вайну збіраліся ўжо разыходзіцца, як раптам на дарозе паказаліся дзве постаці.

– А вось вам і «дзіва», – загадкава кінуў рэпліку невядома каму Ян Сакалоўскі з пад Барка, заможны селянін, які жыў на водшыбе і меў мянушку «Амэрыканец».

Мужчыны сталі прыглядацца да постацяў, маўляў, хто першы пазнае і не памыліцца.

– Адно дзіва, – Сцяпан Андраловіч прыжмурыўся, – ці не сам Спадар гэта...

Спадаром называлі Янку Станкевіча, тутэйшага беларускага нацыяналіста з Вурлянятаў. Быў ён вядомым чалавекам не толькі ў іхняй гміне і Вільні, але і ва ўсёй Заходняй Беларусі: засядаў паслом у Польскім Сейме, пасля ўзначальваў розныя беларускія суполкі і арганізацыі, рэдагаваў віленскія беларускія газеты і часопісы. Хадзілі такія чуткі, што для беларускае справы Янка Станкевіч набыў каля Старой Рудні 600 гектараў зямлі. Маўляў, на сваю часопісь і беларускія газеткі грошы патрэбны. Паводле другой версіі, зямля гэтая належала Беларускаму сялянскаму звязу, адным з арганізатараў якога быў і Спадар. А ў нашага селяніна той, хто валодаў такімі валокамі зямлі, выклікаў значную павагу.

Калі постаці падышлі крыху бліжэй, пазналі і другое дзіва. Яно было крыху меншае ў параўнанні з Янкам Станкевічам па значымасці. Быў гэта Віктось Саковіч – сын Вальдэмара – такі ж высокі і светлы, як і бацька, толькі ў адрозненні ад бацькі трохі летуценны.

Янка Станкевіч (часта на яго гаварылі – Станкеўчык, альбо доктар філялёгіі) быў невысокага росту, але стройны, падцягнуты, усёроўна як ваяка, прывітаўся стрымана з кожным за руку, а калі даведаўся, што чакалі не яго, а ваяводаў-генералаў, рассмяяўся:

– А чым я не генерал?.. Зважай! Крокам руш!..

– А як жа! Штыхуйся! Вобзем бац!– паддзеў Калістрат Стрыга з Харлаўшчыны, у гадах ужо дзяцюк. Быў Калістрат нейкім нервовым, гарачым і рэзкім, чым палохаў не столькі вясковых дзяўчатаў, колькі іх бацькоў, маўляў, з такім зяцем не ўжывешся.

– Генерал бяз войска, – неяк больш сур'ёзна прагаварыў Сцяпан Андраловіч, – што ражон у полі...

– Войска ў нас пакуль што адно – Войска Польскае, – нагадаў Амерыканец.

– Якое яно не было б, абы ваяваць не прыйшлося, – выказаў сваё меркаванне яшчэ адзін Андраловіч – Антось з Дойневічаў, шматдзетны селянін.

– А, відаць, прыйдзецца, – неяк задумліва прагаварыў Амерыканец.

–Ага! Зноў салдаты, бандыты, партызаны…

–Немцы, палякі, рускія...

– Белыя, чырвоныя, зялёныя...

– Стоп, хлопцы! – перакрычаў усіх Сцяпан. Так атрымлівалася, што ён быў заўсёды ў цэнтры і, як бы кіраваў пра-

цэсам. У Сцяпана нешта такое было ў характары, што прымушала прыслухоўвацца да яго словаў, нейкая такая прыродная пераканаўчасць. – Мы ўжо пра гэта на другое кола заходзім, зараз будзем гаварыць пра душу, цела і зямлю пад нагамі…

Хлопцы гучна засмяяліся.

– А можа, нам што-небудзь спадар Янка хоча сказаць, – звярнуўся Сцяпан да Станкевіча. – Ня так жа проста ён апынуўся ў нашым кусце...

Янка Станкевіч пасмяяўся з усімі і больш сур'ёзна загаварыў:

– А й сапраўды, хлопцы, можа быць не да сьмеху ў вашым і ў нашым кусьце, калі будзе вайна. Хоць людзі нашы прывыклі да войнаў: яны, калі ваююць, ды робяць гэта прафэсыйна, гераічна, адважна й сьмела... – спадар Янка меў такую манеру гаварыць, што здавалася, ён звяртаецца да кожнага і пералічвае іх ваярскія здольнасьці:

– А калі не ваююць, – дык шукаюць розную нагоду, каб прыстасавацца й не ваярыць зусім. Прытарнуюцца так, што й не прымусіш іх ваярыць ані за якія абяцанкі!– тут Янка паглядзеў на Амерыканца, на Антося Андраловіча, на іншых.

– Сталін прымусіць! – упэўнена заявіў, як паабяцаў усёроўна, Сцяпан. Пры гэтым, ён неяк спрытна падкруціў свае белыя вусы, і гэта, чамусьці, усім кінулася ў вочы.

– Ты кажаш, прытарнуюцца... Хавацца будуць у лясох, кустах ад белых, чырвоных, зялёных... ад усіх будуць хавацца... Што, я ня ведаю!– махнуў рукой Антось Андраловіч з Дойневічаў.

Прозвішча ў Антося было такое ж рэдкае, як і ў Сцяпана, – Андраловіч, але сваякамі яны не былі. Можа, і было дзе якое сваяцтва, але яно загубілася. Былі яны, прыкладна, аднаго ўзросту – недзе каля сарака гадоў, і росту амаль што аднаго – вышэй сярэдняга. Толькі Антось выглядаў трохі болей маладжавей, больш жывой чырвані было ў яго на твары, і ў Антося не было вусоў.

– Так, так! Ён ведае, ён у тую вайну хаваўся! – пад'ялздычыў Антося Юза Будкевіч.

–Тады ўсё хаваліся...

– Але адны хаваліся ў кустох, а другія, як Юза, пад бабскай спадніцай, – падкавырнуў Юзу Кастусь Карповіч з Мазалёў.

–А чаму так? – перабіў іх Янка Станкевіч. – Бо ў нашага народу яркава выражаны генэтычны ўхіл да вайны, на роўні генэтыкі – навейшай навукі пра чалавека – можна гаварыць пра патэнцыю да ваярнасці альбо генэтычнае неўспрыняцьце вайны наагул...

–Гэта знача –не патэнцыю, – растлумачыла «трохі меншае дзіва», – Віктось Саковіч і сам жа зарагатаў.

Але рагатаў Саковіч толькі адзін – астатнія, нават і бацька, неяк дзіўна паглядзелі на яго, а пасля перавялі такі ж погляд на Станкевіча і анічога не сказалі.

– Дзядзька Сцяпан – перакладзі! – з нечаканай просьбай да Сцяпана Андраловіча звярнуўся яго пляменнік Пятро. Дарэчы, пляменнікаў у Сцяпана было шмат – усе былі вельмі актыўнымі ў плане сацыялістычных ідэяў і непрыхільнасці да польскай палітыкі. Прыкладам усякай барацьбы для іх быў дзядзька Сцяпан. Пляменнікі заўсёды спасылаліся на яго, маўляў, дзядзька Сцяпан сказаў, дзядзька зрабіў, дзядзька паказаў, растлумачыў і гэтак далей. Магчыма, праз гэтае так і празвалі ў вёсцы Сцяпана – Дзядзькам.

–А што тут перакладаць... Людзі ёсьць усякія: і такія і гэтакія, – растлумачыў Дзядзька.

–Во-во! І такія й гэтакія, – падтрымаў Янка Станкевіч. – Адныя – патэнцыяльныя ваяры, а другія – патэнцыяльныя неваяры...

–Непатэнты, – зноў няўдала «пажартаваў» Віктось.

–Вось ты, Антось, мне здаецца, адносішся да другой катэгорыі, – працягваў Янка Станкевіч, не звяртаючы ўвагі на рэпліку маладога Саковіча.

–А чаму адразу я? –здзівіўся Антось Андраловіч.

–Нам цяжка зразумець твае катэгорыі, Спадар, – разважліва прадоўжыў тэму Юстын Будкевіч.– Але ў адносінах да непатэнцыі я разумею так, што Антось наш – слабак у ложку!

Зноў раздалося гучнае «гы-гы!» і «га-га!». Такія рэчы, як ложак добра разумелі ўсе.

– Што такое патэнцыі, Спадар Янка, мы ў царкоўнапрыхадзкіх школках не праходзілі, – Антось нутром адчуў нейкі падвох. – У мяне дванаццаць дзяцей, а ты тут пра генэтыку, катэгорыі нейкія гародзіш...

– Га! Найшоў чым хваліцца... Дзяцей можа і сусед накляпаць! –умяшаўся ў гутарку Болесь Бутка з Дойневічаў. – Юстын, да прыкладу...

Мужчыны зноў зарагаталі, а калі трохі супакоіліся, першым загаварыў Дзядзька Сцяпан:

– Кляпаць нават касу трэба ўмець, але я не пра гэта... Я хачу сказаць, што народ наш вельмі працавіты...

– А працавіты ён ня толькі ў ярме ў полі, – даводзіў сваё Антось. – Амаль у кожнай хаце ад пяці да васьмі дзяцей... Усюды пасьпяваюць!

– Яно дык так, спадары, але я меў на ўвазе ня гэтае майстэрства, – удакладніў Янка Станкевіч.

– А тут яшчэ няведама, што болей важнае! – Юстын падміргнуў Антосю.– Не вайна ж, думаецца!..

– Правільна думаецца, – адгукнуўся Калістрат Стрыга.

– Вось-вось! Адзін схаваецца пад бабскую спадніцу і яго аніякімі заклікамі адтуль ня выцягнеш, – загаварыў Ян Сакалоўскі (Амерыканец). – А другому, дык абы толькі пабіцца з кім, паганяць каго, палётаць дзе, пастраляць – такому і жанчыны іншы раз не да патрэбы...

– І ты правільна думаеш, далёка пойдзеце, хлопцы! – падкалупнуў і на гэты раз Калістрат. – Але не далей Лукішак.

На Лукішках, у Вільні, была вядомая польская турма, праз якую прайшлі многія беларусы. Відаць, Калістрат так хацеў пажартаваць, але жарт не выклікаў смеху.

– А ў цябе, я гляжу, надта язычок востры, – Ян Сакалоўскі спакойна павярнуўся да Калістрата, – А ў мяне якраз ср... ня голеная...

Пасля выбуху смеху першым загаварыў Сцяпан:

– Тут няма чаго думаць – ваяваць прымусяць кожнага, а толку з гэтага?

– Вось-вось, што толку?! – падтрымаў Сцяпана Антось Андраловіч. – Зямля ж наша і не такая вялікая, каб рабіць зь яе пляцдармы і палігоны ды ганяцца адзін за адным!

– Але ж і не такая малая, каб у норах сядзець! – выдаў контраргумент Сцяпан.

– Так-так, спадарства, і ганяцца ня варта, і сядзець ня трэба! Але так атрымліваецца, што адны любяць ваярыць, а другія – ня любяць, – прадоўжыў сваю тэму Янка Станкевіч. – І гэта перадаецца ад бацькоў нашых, ад дзядоў.

– Ведаеш, спадар Янка, любяць-ня любяць пытаньне вельмі спрэчнае. Вайна – гэта табе ня Тэкля якая. Вайна такіх пытаньняў задаваць ня будзе, – Антось гаварыў узбурана, і ён ведаў, што гаварыў, бо перажыў Першую імперыялістычную вайну на лініі фронту. – Вайна прыходзіць у кожную хату, ад яе анідзе не схаваешся, ня знойдзеш паратунку...

– І я ведаю добра, што такое – вайна, – важна заявіў Болюсь Бутка, чалавек з вельмі багатым вайсковым досведам. – Але ваяваць можна па-рознаму, тут, галоўнае, з кім ваяваць.

– Галоўнае й зь кім ваяваць і за што? – падхапіў слушную ідэю Янка Станкевіч. – Летувісы, альбо, як мы іх тут завём,

– літоўцы, будуць ваярыць за Літву, украінцы за Украіну, а нашы «войны» нейкія незразумелыя. Калі ж у нас нехта чужы не ваюе за свае інтарэсы, што бывае вельмі рэдка, дык мы ваюем самі з сабой за інтарэсы іхнія, альбо не ваюем зусім, калі б гэта нават і варта было б рабіць.

– Як там у Купалы? – Сцяпан на хвілінку задумаўся і неўзабаве прадэкламаваў:

*Выйшлі роднай вёскі дзеці*
*Паміраць на белым сьвеце,*
*Расьсяваць па сьвеце косьці*
*Праз кагосьці, за кагосьці...*

– Во-во!.. Праз кагосьці, за кагосьці... Лепш ня скажаш, – падтрымаў Станкеўчык. – Праўда, тут ёсьць моўныя хібы.

– Ого! – усклікнуў Віктось. – А ты, дзядзька Сьцяпан, гаворыш, што тут няма чаго думаць! Нават у Купалы ёсьць моўныя хібы... Так сам доктар філялёгіі кажа...

– Кажа, кажа! – перадражніў Сцяпан. – Шашалевіч твой доктар да моўных хібаў, але не пра іх гаворка!

– Тут альбо так, альбо гэтак, – Болюсь пакруціў рукой і прадоўжыў тэму. – Як той чалавек, які жыве пры раскрыжаваньні дарог: ён альбо любіць падарожных, альбо ненавідзіць іх.

– Мы ўсе жывём на раскрыжаваньні – адсюль і войны, і наша мянтальнасьць, і наша ваярства, – зноўку ажывіўся Янка Станкевіч. – Крыжакі, татары, маскалі, палякі, шведы, французы, немцы – і ўсе ж з зброяй... І ўсіх прыхадняў мы задобрыць стараемся, улагодзіць, дагадзіць ім хочам, гасьціннасьць паказаць...

–Біць іх трэба, каб баяліся, – рашуча заявіў Антук Дайновіч.

– Дык жа не па-хрысьціянску! – падхапіўся Калістрат. – Там, трэба шчокі падстаўляць... Што на гэты конт ксёндз Адам сказаў бы?

– Прыхадням ён так і сказаў бы: «Падстаўце другую шчаку...» – прагаварыў Янка Станкевіч. – Толькі вось ударыць няма каму...

– Во-во! Хто – за плугам, хто – за каровамі, хто – за бабамі, – Ян Сакалоўскі шматзначна паківаў галавой.

– Хлопцы, ці не Пуценька ідзе? – пільна ўзіраючыся ў прыцемкі звярнуў увагу Сцяпан на постаць, якая шпарка набліжалася да хлопцаў.

– Падазроная асоба, гэты Пуценька, – заўважыў Антук Дайновіч. – можа, зойдзем да мяне на падворак, ці ў хату?.. Як, спадар Янка?

Хата Дайновічаў стаяла адразу за Загонам, трохі бліжэй да рэчкі.

– Спадар ня супраць, – засмяяўся Янка.

– Ну, тады пасунуліся паціху, – прапанаваў Антук і некалькі чалавек пайшлі ўбок яго хаты.

Калі яны трохі адышлі, Пятро гучна звярнуўся да Сцяпана:

– Ну, што, дзядзька, падыдзем, паслухаем?

– А што там слухаць? Ведаю я яго песні з васямнаццатага года – мелкабуржуйскі беларускі нацыяналісты... Лепей у мяне зьбяромся...

Такім адказам Сцяпан усіх вельмі здзівіў – і ў тым жа васямнаццатым і ў дваццатых гадах Сцяпан сам лётаў хатамі і збіраў людзей на сустрэчы з Станкевічамі, у тым ліку і з спадаром Янкам. А сёння ўжо «няма чаго слухаць».

Як відавочна мяняюцца часы і як мяняюцца людзі...

– А што там у цябе слухаць?! – задаў рытарычнае пытанне Болюсь Бутка, удзельнік руска-японскай вайны, рускай рэвалюцыі 1905 года, Мікалаеўскай вайны, бальшавіцкага перавароту ў Піцеры і Слуцкага паўстання... Супакоіўся Бутка толькі ў 20-х гадах, калі абзавёўся, як казалі людзі, на старасці гадоў, сям'ёй. Быў ён каржакаватым, пакладзістым і вельмі ўпэўненым ў сваіх рухах. З ім лёгка было працаваць у пары (сена складаць на тарпу, дровы пілаваць ці, сечку рэзаць). А яшчэ цяжка было вызначыць у якім веку быў чалавек. Сам Болюсь сцвярджаў, што вось ужо мусіць размяняць шосты дзясятак, але пра гэты дзясятак чулі людзі і пяць гадоў таму назад і дзесяць.

Болюсь гаварыў так:

– Там – песні пра беларусаў, а ў цябе – казкі пра марксызмы... А чалавека трэба трымаць у голадзе – тады ў яго будзе адно толькі жаданьне – паесьці. А накормлены ён, як тая скацінка, пазабаўляцца захоча і пачне чорт ведама што выдумляць.

– Ну, так ужо цябе палякі і закармілі, – Сцяпан паспрабаваў запярэчыць.

– Мяне – не, а таму я болей анікуды ня лезу. Раней быў адзін пан на ўсё навакольле, а цяпер што робіцца? На кожным хутары пан! Усе гэтыя ідэялёгічныя, палітычныя, сацыялістычныя і маразматычныя выбрыкі ад таго, што закармілі народ. І кожны палез у паны і падпанкі...

– А вазьмі ты сьвіньню, – Аляксандра Саўрыновіч, які да гэтага ўвесь час маўчаў, надумаў падтрымаць Сцяпана.–

Галодная сьвіньня носіцца завугольлямі, падворак пераверне, а накармі яе, – заваліцца дзе-небудзь у балота і толькі рохкаць будзе…

– Дык тое ж сьвіньня! А чалавеку палёт патрэбны… Ня хлебам адзіным жыве чалавек! – аргументаваў Болюсь.

– Ну, ведама, што яшчэ бульбай, мясам, салам, – дапоўніў спіс Саўрыновіч.

– Ага, а ты ня дай яму хлеба, бульбы, мяса… і ў яго будзе толькі адно жаданьне, адна ідэя – паесьці! – даводзіў сваё Болюсь. –А накормлены, ён дадумаецца да таго, як так зрабіць, каб толькі есьці і каб толькі не працаваць… Адсюль усе рэвалюцыі і войны… Што, ня так, Сьцяпан!? А таму анікуды я не пайду!

– А вазьмі ты пацука і прыпры яго дзе-небудзь да сьцяны – на чалавека кінецца, праўда, дзядзька Сьцяпан? – умяшаўся ў дыскусію пляменнік Пятро.

– Кінецца, кінецца, – неяк разгублена прагаварыў Сцяпан.

– Ды кіньце вы дурнотай займацца! – не вытрымаў Антось. – Усе вашы параўнаньні зь сьвіньнямі ды пацукамі анічога ня вартыя! Усё залежыць ад самога чалавека, ад яго патэнцыі, як казаў Станкеўчык… Лябіха і баязліўца як ты не кармі, ён такім і памрэ… Тут нешта іншае кіруе чалавекам…

– Во! – усклікнуў Саўрыновіч. – Відзіш, як пайшла навука Спадара на карысьць. Трэба і далей павышаць свой ровень. Так што, пайшлі, Болюсь…

– Я й так высака стаю на роўні, пайду лепей патэнцыю пашукаю на печы… А вы Пуценьку з сабой вазьміце…

– А ты бабу не забудзься ўзяць на печ, – параіў Саўрыновіч.

– Так, што дзе куды?.. Магу, магу, хоць зараз! – на хаду праявіў аператыўную падрыхтаванасць Пуценька, падыходзячы да хлопцаў.

– Прырода кіруе, што тут кіруе, – кінуў рэпліку Болюсь, але яго ўжо ніхто не слухаў. – Ці праўду я кажу, Пуценька?

– Што праўда, што крыўда – гэта як для каго! У кожнага свой пуць. – падключыўся да гутаркі Пуценька. – Здарова, мужыкі!

Але «мужыкі» ня сталі працягваць гутаркі, тут жа пачалі развітвацца і моўчкі разыходзіцца. Нехта накіраваўся ўбок хаты Дайновіча, балазе была яна ў двухстах метрах ад Загона. Іншыя разам са Сцяпанам пайшлі ўбок Ракавічаў, астатнія, у адзіночку альбо па некалькі чалавек, разышліся ў розныя бакі ў кірунку сваіх хатаў.

Неўзабаве Загон апусцеў.

У той вечар было яшчэ адно цікавае здарэнне: вестка пра тое, што ў Загон прыехаў нейкі доктар, хутка абляцела ўсю вёску і дарогаю да Дайновіча група жанчын разам з бабулькамі перахапіла доктара Станкевіча, маўляў, у адной баліць галава, у другой – спіна, ў трэцяй – жывот. Доктар «філялёгіі» нешта ім даводзіў, але бабулькі настойліва намагаліся, каб ён выслухаў і вылечыў іх хваробы, калі ён доктар. Праз колькі хвілін расчараваныя хворыя зразумелі ў чым справа, і ўжо астатнім тлумачылі, што «ат, гэта ня той доктар».

* * *

Сярод вяскоўцаў і раней не было ідэйнага адзінства ў пошукаў сваіх шляхоў да лепшай долі, а зараз тым болей. Было відавочным, што сама бедныя (батракі і малазямельныя) праяўлялі цікавасць да жыцця ў Савецкай Беларусі; у іх асяродку часта можна было пачуць: «Мусіць трэба і ў нас рабіць сацыялізму». Пераважна, гэта былі сяляне з вёсак Мазалі, Навінкі, Ручаі, Харлаўшчыны. Іх можна было зразумець: пасля Першай сусветнай вайны і рэвалюцыяў ад іх гаспадарак і хатаў анічога не засталося – усё было знішчана і здратавана акопамі і бліндажамі, снарадамі і бомбамі да такой ступені, што заараць гэтую зямлю было немагчыма. Акопы тыя, парослыя хмызняком, так і засталіся да сёння. А лепшая зямля была падзеленай між мясцовымі панамі і асаднікамі. Гэтым сялянам прыйшлося нанова адбудоўваць свае сялібы, а пасля штогод ледзь-ледзь звязваць канцы з канцамі, каб не памерці з голаду. Лепшай долі гэтым сялянам пры паляках не спрыяў і той факт, што яны ў асноўным належалі да «рускай» (праваслаўнай) веры. Ідэйнымі лідарамі гэтай групы былі малазямельныя сяляне: Сцяпан Андраловіч з Старых Ракавічаў і Мікалай Стрыга з Ракуцева. Але і сярод іх не было маналітнасці: адныя арыентаваліся на расейска-бальшавіцкі сацыялізм (маўляў, без Расеі адны не справімся), другія стаялі на ўласна беларускіх сацыялістычных пазіцыях.

Сярэднякі закансерваваліся ў сваёй непрыхільнасці да розных ідэяў і моцна трымаліся сваіх гаспадарак; для іх магла быць прымальнай тая форма ўлады, якая спрыяла б іх прыватніцкім інтарэсам; і польская эканамічная палітыка шмат каго задавальняла ў гэтым. Але з цягам часу і яны ўсё болей і болей схіляліся да незалежніцкай тэматыкі, якую прапагандавалі прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі – у гэтай групе былі як каталікі, так і праваслаўныя.

Нешматлікую частку беларускага насельніцтва ўяўлялі сабой багатыя і заможныя: у такіх сем'ях захоўваўся шляхецкі гонар, памяць пра радавую годнасць і элітнасць. Шмат хто з іх з спачуваннем і інтарэсам адносіўся да беларускасці. Зразумела, што былі і такія, якія згадвалі свае даўнія прапольскія карані, альбо з скуры лезлі, каб толькі выбіцца ў падпанкі і паны – яны стараліся пераймаць звычкі польскіх абшарнікаў і гаварыць па-польску (у народзе такі працэс называўся «пшэкаць» дзе трэба і не трэба), але ад гэтага говару крывіліся сапраўдныя палякі. Больш горшага пана ці начальніка з такіх мясцовых выхадцаў, альбо, як яны называлі сябе «мы палякі-крэсовякі», знайсці было цяжка. Было некалькі такіх «крэсовякаў» у Дойневічах і Ракавічах, але ўплывы іх былі мізэрнымі. Увогуле, да беларускасці ніхто, апрача такіх «крэсовякаў», польскіх асаднікаў, урраднікаў і польскага духавенства не адносіўся з варожасцю і катэгарычнай непрымальнасцю.

Астатнія былі абыякавымі да развязкі беларускага пытання, альбо не бачылі такога пытання ўвогуле.

Антось Андраловіч не збіраўся ісці на сустрэчу з ваяводамі – хапала працы і без іх, але так атрымалася, што Ганька (жонка) папрасіла схадзіць у Ракавічы да цешчы па зёлкі – дзеці прыхварэлі. Можна было б паслаць каго-небудзь з старэйшых дзяцей, але Антось надумаў пайсці сам: і цесця даўно не бачыў, і швагроў, і сустрэцца не мяшала б, і пагаварыць было пра што. Так, па дарозе, апынуўся ён у Багданоўцы і затрымаўся ў Загоне.

Гутарка з Янкам Станкевічам адбылася разважлівай, павучальнай і карыснай, можа таму, што тэма вайны – занадта хвалюючая для кожнага селяніна тэма.

Пасля, як у Загоне сталі ўсе разыходзіцца, Антось на нейкую хвіліну затрымаўся ў нерашучасці, а чаму б не падысці да Дайновіча, чаму б не паслухаць Спадара і далей?

І, можа, падышоў бы, каб не зёлкі тыя...

У Ракавічы да цесця Антось ішоў разам з Саковічамі: бацькам і сынам, балазе можна было ісці адной дарогай.

Хадзілі такія чуткі пра Віктося Саковіча, што ён быў ударыўся ў камсамол, і ў Ракавічах, у Андраловічаў – Пятра, Івана і іх дзядзькі Сцяпана, бываў часцей, чым у свайго бацькі і дзеда.

Антось мог бы пайсці наўпрасткі, праз кладку, але карцела запытацца ў маладога Саковіча пра Янку Дайновіча. Дзеля гэтага можна было даць невялікае каленца.

Янка Дайновіч быў старэйшым братам Антука, да якога толькі што пайшоў спадар Станкеўчык.

– Дарэчы, бачыў нядаўна Дайновіча, перадае найлепшыя зычаньні, маладзец, трымаецца, – апярэдзіў Віктось. – Збіраюцца перавесці яго да Юлеся, у Бярозу-Картузскую... Яму ўжо засталося няшмат...

Дэфензіва іх тады (каля года таму назад) хацела арыштаваць усіх: Віктося Саковіча, Янука Дайновіча, Сцяпана Андраловіча, Мацвея Пятровіча, Васіля Далькевіча і іншых. Але Сцяпану тады ўдалося схавацца і, дзякуючы гэтаму, ён заставаўся на волі. Сцяпану і варта было хавацца, бо адзін тэрмін, па справе «Грамады» ён ужо адбыў, але, як казаў крэўскі войт, навука пайшла «да дупы» – Сцяпан зноў стаў ствараць беларускія гурткі, секцыі, арганізацыі, Таварыства беларускай школкі і ладзіць розныя падазроныя для ўладаў імпрэзы.

Тое самае можна было б сказаць і пра Юлеся Саковіча, за якім цягнуўся вельмі доўгі шлейф нацыянальна-рэвалюцыйнай барацьбы ад часоў «Грамады». Юлесю Саковічу і Януку Дайновічу далі недзе каля трох гадоў і зняволілі на Лукішкі. Па гэтай жа справе праходзілі і Віктось з Мацвеям Пятровічам, селянінам з суседняй вёскі. Віктось амаль што год прасядзеў на Лукішках, кшталту, пад дазнаннем, а Пятровіча нядаўна перавялі ў польскі канцлагер у Бярозе-Картузскай, пра што нават «Хрысьціянская Думка» пісала.

Вальдэмар Саковіч дарогай болей маўчаў, а вось сын яго Віктось любіў пагаварыць: стаў расказваць пра Вільню, пра апошнія віленскія чуткі, пра тое, што палякі высяляюць з Вільні беларусаў: ужо выслалі беларускіх святароў Адама Станкевіча і Уладзіславу Талочку, і хочуць выселіць з Вільні ўсіх беларусаў, бо баяцца, што яны з летувісамі падымуць паўстанне супраць панскай Польшчы.

– Але паўстанне трэба было рабіць ня толькі ў Вільні, але й паўсюдна, а ў Савецкай Беларусі ёсьць людзі, якія маглі б дапамагчы ў гэтым, – гаварыў малады Саковіч і вочы яго гарэлі, – Толькі ўся бяда ў тым, што наш народзе не падрыхтаваны да такой барацьбы. Тут меў рацыю спадар Янка, калі гаварыў пра ваяўнічых і неваяўнічых беларусаў...

Так яны яшчэ раз звярнуліся да той гутаркі, і Антось асцярожна спытаўся ў гэтага маладога і галавастага былога студэнта:

– А што ты скажаш пра яе, як там, – генэтычную не патэнцыю, – здаецца так, і пра вайну?..

Антосю такі разумны набор слоў Янкі Станкевіча нічога не казаў.

Віктось ахвотна стаў тлумачыць:

– Генэтычны – значыць такі, які перадаецца паводле генаў ад бацькоў, але гэта можа быць яшчэ і ерунда. У Нямеччыне зараз вельмі моднай стала навука яўгеніка, паводле якой недалужны і прыдуркаваты бацька ня можа мець дзяцей, бо й дзеці будуць такімі самымі. А спадар Янка меў на ўвазе ваяўнічасьць, бо ёсьць нацыі ваярскія, прыкладам, каўказскія, а ёсьць талерантныя, якія ня любяць ваяваць... У якіх няма ахвоты да вайны, а не да жанчыны.

– А-а, вось яно што, – толькі і сказаў Антось. Тады гэта, апошняе, яго больш за ўсё ўразіла.

На развітанне малады Саковіч прапанаваў Антосю сабрацца ў дзядзькі Сцяпана праз хвілін трыццаць, каб прадоўжыць гутарку, бо так яны дамовіліся, але Антось спаслаўся на «няма часу». Праўда, была і яшчэ адна акалічнасць, паводле якой Антось не хацеў збірацца ў хаце Сцяпана: неяк не ладзілі між сабою іхнія бацькі і дзяды, і не былі яны гасцямі адзін ў аднаго. З другога ж боку, Антось з вялікай падазронасцю адносіўся да сацыялістычных ідэяў, нечага, можа, сама важнага, ён не разумеў у гэтых ідэях, а таму і была праблема з іх успрыняццем. Да таго ж у Сцяпана збіралася ў асноўным адна моладзь. Куды болей Антося хвалявалі ідэі, якія агучваў Спадар Янка Станкевіч, а таму вырашыў ён хуценька падляцець да цесця, узяць патрэбныя лекі (там заадно можа ўдасца ўгаварыць каго-небудзь з швагроў на сустрэчу) і, вяртаючыся назад, заскочыць да Дайновіча. Янку Станкевіча варта было паслухаць.

А ўвогуле, цікавы гэты чалавек – Янка Станкеўчык. Другі раз такое слоўца калупне, аж смешна робіцца. А пасля згадваеш, што і ў дзядунькавай гутарцы часта пралятали такія словы, як, прыкладам, «бурдылёк»; зараз так ужо ніхто не гаворыць, а дзядунька некалі пытаўся у бабунькі: «Маня, дзе мой бурдылёк зь лекамі...». Альбо, неяк напрыканцы 20-х гадоў заглянуў Станкеўчык у вёску з агітацыяй за беларускія спісы кандыдатаў. Тады ён казаў, што «толькі нікчэмныя і падлыя (у сэнсе – паўшыя, альбо падшыя) людзі не шануюць свайго роднага: сваёй мовы, зямлі і сваіх геніяў». Антосю не выпала тады быць на сустрэчы, але, калі ён спытаўся ў Кастуся Будкевіча, што цікавага гаварыў Станкеўчык, дык пачуў: «Ат, анічога такога не казаў, маўляў, мы пераможам, і ўсё такое, праўда, гаварыў, што толькі падлы ня любяць беларускай мовы». Пасля таго выпадку празвалі ў вёсцы «падламі» тых, хто занадта адкрыта абураўся беларускай гаворкай: сярод такіх былі не толькі войт і пані Лакуціеўская з Ходзькаў, але

і адзін праваслаўны бацюшка, які часта прыязджаў у мястэчка. Дарэчы, адкапаў Станкеўчык недзе і гэтае слова «спадар» і стаў звяртацца з ім да кожнага. А пасля слова падхапілі і не аднойчы чуў Антось яго з вуснаў інтэлігентных беларусаў. А яшчэ Станкеўчык быў добрым майстрам выкінуць іншым разам такую думку супраць палякаў і маскалёў, што пачынаеш аглядвацца, – каб хоць хто не пачуў, – пасля ж бяды не абярэшся. Увогуле, пры кожнай сустрэчы з гэтымі вурляняцкімі Станкевічамі (Антось ведаў ксяндза Адама, Стася Лявончыкава, які пісаў смешныя вершы па-беларуску і Спадара), было над чым задумацца. А іншы раз за працай, і трэба, каб галава была занятая нечым іншым, бо, калі ўвесь час толькі і думаць пра зямлю і гаспадарку, дык жа здурэць можна.

Зразумела, што Янка Станкевіч апынуўся ў тутэйшых краях не выпадкова, і варта было б падысці, паслухаць, каб ведаць, што да чаго ў гэтым свеце.

Нічога не атрымалася ў Антося з шваграмі ў плане агітацыі – яны (а іх было трох) цвёрда стаялі на нейтральных пазіцыях і стараліся быць чым далей ад усякай палітыкі. Болей таго, сталі даводзіць Антосю, што зараз не варта прымаць удзел у такіх імпрэзах, бо невядома яшчэ, што будзе заўтра, а яму не палітыкай трэба займацца, а думаць пра дзяцей. Да швагроў далучыліся і цешча з цесцям, і Антось ужо быў не рады, што закрануў такую тэму – узяў лекі і прыспешыў дахаты.

* * *

У прыземістай хаце Дайновічаў сабралася некалькі чалавек: сам Антук Дайновіч высокі, хударлявы дзяцюк у гадах (брат Янука), Юза Будкевіч з Дойневічаў – гэты, наадварот, невысокага росту саракагадовы мужчына, Аляксандра Саўрыновіч і Кастусь Карповіч з Мазалёў, таксама дзяцюкі, Ян Сакалоўскі (Амерыканец) з-пад Барка – пажылы ўжо даволі чалавек з сівымі валасамі і такой жа светлай барадой. Нечакана з’явіліся Віктось Саковіч і Зміцер Жаўток (апошні быў з далёкай суседняй вёскі, сябра і прыхільнік Сцяпана). Сваім прыходам яны вельмі здзівілі астатніх, – відаць, Сцяпан адмяніў свае зборы.

Хлопцы прыселі за вялікім дубовым сталом, хтосьці сеў збоку на лаве каля сцяны, хтосьці прымасціўся на драўляным ложку – месца хапіла ўсім.

– Зараз паслухаем апошнія навіны! – раптам абвясціў Антук Дайновіч і паставіў на стол невялічкую скрыначку, закручаную ручніком:

– Радыва, – патлумачыў ён.

Прыёмнік быў вялікай рэдкасцю і не кожны яго нават бачыў, а тым болей чуў. Хлопцы прыціхлі і з цікавасцю сталі назіраць, як Антук асцярожна круціў конусападобную ручку наладкі. У скрыначцы шумела, гыркала, прарывалася музыка і нейкі неразборлівы лямант. Ажно раптам усё сціхла і разборліва, нават неяк урачыста, загучаў голас дыктара: «Аллё, Аллё! Граждане и гражданки! В эфире «Радиопередача». Вниманию радиослушателей предлагается речь товарища начальника Главлита Н. Г. Садчикова «О роли товарища Иосифа Виссарионовича Сталина в развитии советской радиотехники и задачах рабочего радиолюбительства...»...

– Ну што, будзем слухаць? – неяк насмешліва запытаўся Антук.

– Пашукай што лепшае, – параіў Саўрыновіч.

І ў прыёмніку зноў нешта пстрыкнула, зашумела, загукала, загудзела...

Ажно прыгожы жаночы голас на добрай беларускай мове стаў гаварыць пра савецкую даярку, якая актыўна ўключылася ў стаханаўскі рух і ў сацыялістычнае спаборніцтва: ўзяла на сябе абавязак надаіць ад каровы тры тысячы літраў малака. Радыёжурналістка пытаецца ў савецкай даяркі, а ці не зашмат гэта для калгаснай каровы, бо столькі, маўляў, карова можа і не даць малака... Можа, дзве з паловай хопіць... Я дам! – гаворыць савецкая даярка і, відаць, б'е сябе кулаком ў грудзі...

– Дарэчы, у Савецкай Беларусі жывуць такія ж людзі, як і мы, – не даслухаў да канца савецкую даярку Віктось. – А ў менскіх газэтах пішуць, што савецкія беларусы заўсёды гатовыя прыйсці нам на дапамогу і прынесьці волю і незалежнасьць... Нам трэба быць разам!..

– Ну, ведама – разам... Гэта ж столькі малака будзе, – не прамінуў моманту паддзець Віктося Ян Сакалоўскі.

– Тое, што нам трэба быць разам – у гэтым ніхто не сумняваецца, – узяў слова спадар Янка. – Але ня трэба забывацца, што за Савецкай Беларусяй стаіць савецка-сталінская Расея, у якой пра нас, беларусаў, няма аніякага панятку, як не было яго і ў 19 стагоддзі. Нам ня трэба забывацца, што ані адна дзяржава сьвету не прынесла нам столькі бяды і нястачы, колькі гэта было зроблена Расеяй, як бы яна не называлася, – імпэрская сутнасьць яе застаецца нязьменнай. Зараз Сталін вынішчыў амаль што ўвесь нацыянальны актыў ва ўсходняй Беларусі. Там ужо баяцца вымаўляць беларускія словы... Вусатаму патрэбны мілітарызаваны пляцдарм, такі ж, які быў патрэбны і царскай Расеі!..

У прыёмніку зноў нешта ляснулася і загучаў урачысты голас дыктара: «Всесоюзный радиокомитет ещё раз указывает всем радиокомитетам и радиоузлам на необходимость усиления классовой бдительности к микрофонным материалам и борьбы за проведение ленинско-сталинской национальной политики, твердо памятуя указание тов. Сталина: «Пережитки капитализма в сознании людей гораздо более живучи в области национального вопроса, чем в любой другой области, они более живучи, так как имеют возможность хорошо замаскироваться в национальном костюме»...[1].

– Вось-вось, пра што я й казаў! Сталін з нас здыме ня толькі нацыянальны касьцюм, але й кашулю, і душу вытрасе! – усхвалявана запэўніў Янка Станкевіч.

У прыёмніку нешта зноў пстрыкнула і на змену ўрачыстаму голасу дыктара раптам апантана і незразумела стаў крычаць нейкі прамоўца. Крычаў ён з такім напорам, з такім надрывам, што хацелася слухаць яго і нават зразумець, што ён гаворыць. Праўда, крычаў ён на нямецкай мове.

– Адольф Гітлер, – растлумачыў Антук.

– Заткні яму рот! – першым ня вытрымаў Саўрыновіч.

– Ды выкіні ты гэтую скрынку! – даў параду Зміцер Жаўток. – Нешта ня бачу я ў ёй толку...

Антук пстрыкнуў нейкім тумблерам і ўсе гукі, крыкі і лямант прапалі, а пасля абвёў позіркам усіх прысутных і сказаў:.

– Здаецца, больш ужо ніхто ня прыйдзе...

– Можа яшчэ хто й прыйшоў бы, – прагаварыў Юза Будкевіч. – Але ёсць людзі, якія аніколі ня будуць у адной суполцы... Я казаў сваім, і Міхасю, і Юлесю, і Юстыну, і Мікалаю, а яны: «А той і той будзе?». Кажу: «Можа й будзе!». А яны ў адказ: «Тады нас ня будзе». І ўся гутарка.

– Малавата нас, беларусаў, – заўважыў Станкеўчык.

– Тут усе беларусы, толькі, як узьнікае такое пытаньне, пачынаюць цямніць, бо ведаюць, што за гэта аніхто ж не пахваліць: ані пан, ані войт, ані поп, ані ксёндз. Тады пачынаюць дзяліцца паводле веры на «польскіх» і «рускіх» і анічога не дакажаш!

– Здаецца мне, што справа тут ня толькі ў веры, – Янка Станкевіч задумаўся, але не надоўга. – Сярод беларускага актыву ў Вільні шмат каталікаў і праваслаўных, ёсьць вуніяты і пратэстанты, юдзеі нават і мусульмане ёсьць, але што нас яднае ўсіх разам – гэта разуменьне нашай беларускай краёвасьці. Усе мы жывём на гэтай зямлі і мы павінны вырашаць, якой ёй

[1] О радиофикации и радиовещании. Сб. постановлений. М., 1935.

быць. Гэта ня можа быць вышэй нашай веры ў Бога, але гэта мусіць быць вышэй нашай канфэсійнасьці. Вось пра гэта трэба найболей гаварыць людзям...

– Я спрабаваў нешта такое казаць, але бяз толку, – Дайновіч махнуў рукой. –Людзі сталі зайздроснымі. Многія разам ня будуць ані працаваць, ані ваяваць...

– Адны пацягнуцца да Саветаў, як тыя, прыкладам, Калістрат ці Сьцяпан, бо праваслаўныя, а другія будуць цягнуцца да Польшчы, як Страчынскі ці Качанюкі, бо каталікі, – дапоўніў Саўрыновіч.

– Пацягнуцца, таму што свайго ня маюць, – заўважыў Косця Карповіч.– А беларушчына, як і раней, анікому, апрача нас, непатрэбная.

– Так, гэта – праблема і можа калі абмяркуем яе асобна, – зноў узяў слова спадар Янка Станкевіч. – А сёньня ў палітыцы высьпяваюць вялікія зьмены – вайна, з усёй верагоднасьці, непазьбежная... Гэта можа быць вайна між Саветамі і Польшчай, альбо між Польшчай і Нямеччынай, альбо між Саветамі і астатнім сьветам, альбо між Нямеччынай і астатнімі... Адно зразумела, што ў гэтую вайну будуць уцягнутыя шматлікія дзяржавы з сваімі ідэялёгамі, ад лёсу якіх будзе залежыць і наш лёс. Нам, беларусам, у такой сытуацыі трэба самавызначыцца: ці мы выпрацоўваем свой кірунак і фармуем свой лягер, ці мы павінны зь некім змагацца разам, супроць каго й за што йсьці?.. Бо ў запраўднасьці можа атрымацца так, што мы апынемся ў кожным з гэтых лягераў паасобку і будзем ваяваць між сабою, як гэта было ўжо ня раз... Трэба зь людзьмі гаварыць, тлумачыць ім, што, і як, і да чаго…

– Надта яны цябе будуць слухаць, – засумняваўся Карповіч.

– Між іншым, – працягваў Янка Станкевіч далей, – у пэрспэктыве магчыма сутыкненьне гітлераўскага нацыянал-сацыялізму і савецкага сацыял-камунізму. Зло ня можа не сутыкнуцца між сабою. І ў такім сутыкненьні звычайна перамагае большае зло. Сёньня пытаньне трэба ставіць такім чынам: як нам, беларусам, ня трапіць у гэтыя кроважэрныя жорны. Да слова кажучы, на днях, у вольным горадзе Данцыгу, адбылася беларуская канферэнцыя, на якой была прынятай рэзалюцыя... Зараз я вам зачытаю. – Янка Станкевіч дастаў з грудной кішэні невялікі складзены папалам лісток. – Вось: *«Ёсьць толькі адна магчымасьць атрыманьня незалежнасьці радзімы – абаперціся на вялікі нямецкі народ. Толькі пад сьцягам нацыянал-сацыялізму й дзякуючы бязьлітаснай барацьбе з агрэсіяй дэмакратычных*

*дзяржаваў і іх захопніцкай і прыгнятальніцкай палітыкай у адносінах да Беларусі, якая праводзілася ўрадамі Літвы, Латвіі, Польшчы і СССР, мы можам дабіцца незалежнасьці й шчасьця народу... Маючы афіцыйныя завярэньні кіруючых сфэраў вялікага брацкага нямецкага народу, мы ўпэўнены, што выйграем нашу барацьбу...»*[1].

Янка замоўк і наступіла невялікая паўза.

– Немцы, несумненна, вялікі народ, – першым загаварыў Аляксандра Саўрыновіч. – Хто з нас ня ведае і ня помніць немцаў ад часоў Мікалаеўскай вайны, але тут гутарка ідзе пра нямецкі нацызм, а гэта, я думаю, ня трэба блытаць з народам.

– Не адзін ты так думаеш, – прадоўжыў Дайновіч. – Заўважце – гутарка ідзе пра «брацкі нямецкі народ»... Зь вялікім сумнівам я адношуся да «брацкіх народаў» – і маскалі нам былі братамі, і ляхі, і літоўцы, і казакі, і шведы... Нацярпеліся мы ад гэтых братэрстваў, во! – Дайновіч правёў рукой па шыі і зноў стаў круціць прыёмнік.

– Так, нам няма чаго шукаць ані ў нацызьме, ані ў камунізьме. Нам трэба ствараць сваё, – спадар Янка абвёў усіх поглядам. – Нам трэба знайсьці патрэбных людзей і распачаць вызвольную працу. Нам трэба самім рабіць сваю Беларусь. Зараз можа так стацца, што выпадзе шанцунак абвясьціць сваю незалежную Заходняю Беларускую Рэспубліку. У гэтым кірунку праводзіцца адпаведная праца. Болей скажу, створаны дзяржаўныя структуры ЗБР і сваё войска, праўда, войска невялікае. Нам трэба быць гатовым да таго, каб скарыстаць гэты шанцунак. Толькі свая дзяржава можа ўратаваць народ ад генацыду, адкуль бы ён не зыходзіў, і быць гарантам будучыні. І каму гэта рабіць, як ня нам, беларусам?!

– Толькі ты нас, Янка, за беларускасьць не агітуй, ня трэба нас агітаваць, – звярнуўся Карповіч да Спадара і той у знак згоды кіўнуў галавой.

– Вось вам, на першы раз, беларускія газэткі і кнігі, – Янка Станкевіч дастаў з сваёй торбы тоўстую пачку. – Давайце чытаць людзям. Гаварыце зь імі, арыентуйце іх на беларускасьць, далучайце да нашае справы. Калі распачнецца вайна, хай не сьпяшаюцца браць у рукі зброю, а калі возьмуць, хай не страляюць у сваіх. Мы будзем чакаць свайго часу. Нам трэба знайсьці свой шанцунак, знайсьці і скарыстаць яго! – Станкеўчык падняўся з-за стала. – Можа, праз месяц - другі я яшчэ да вас завітаю... А пакуль што, я мушу разьвітацца...

---

[1] Цыт. Паводле: Уладзімер Сакалоўскі, Уладзімер Ляхоўскі. Нямеччына і беларускі нацыянальны рух напярэдадні і ў першыя гады Другое Сусьветнае вайны // Bialoruskie Zeszyty Historyszne, 2000, № 13.

Калі за Янкам Станкевічам зачыніліся дзверы, першым загаварыў Карповіч:

– Добра яму так разважаць, Спадару гэтаму... Хто яго газэты нацыяналістычныя зараз чытаць будзе? Шмат хто спадзяецца на Саветаў. Хіба ён ня бачыць гэтага ў сваёй Вільні?

– Ну, гэта пытаньне спрэчнае, – зазначыў Ян Сакалоўскі. – Але і з Саветамі– аніякага шанцу!

– Але ж гэта – сіла і з такою сілай нельга не лічыцца! – запярэчыў Віктось Саковіч.

– Ня будзем спрачацца! – прапанаваў Ян Сакалоўскі. – Я асабіста сумляваюся ў тым, што народ можа зьяднаць беларуская ідэя. Добра змагацца за ідэі, калі ёсьць сіла і грошы на гэта, а калі нічога такога няма – толькі падстаўляць сябе. Нешта падобнае мы ўжо праходзілі ў 1918-19 гадох...Тады таксама Янка Станкеўчык лётаў і агітаваў, а яго я ведаю даўно – заядлы заўзятар беларушчыны... У гэтых Вурлянятах усе Станкевічы такія...

– Патрэбны й такія, каб дух зусім ня згас, – заўважыў Карповіч.

– Дух, можа, і ня згасьне, а вось цела ўратаваць будзе вельмі цяжка! – Не то жартам, не то ўсур'ёз прагаварыў Саўрыновіч. – Добра гаварыць пра шанцунак, калі ёсьць выбар, а калі выбару няма, – дык і шанцу няма!

– А помніце слуцкіх паўстанцаў: «Пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына...», – надаў Дайновіч.

– А таму й пайшлі паміраць, што не было аніякага шанцу выжыць!.. Памерлі, а Бацькаўшчыны, як не было, так і няма... Толку! – Юза Будкевіч махнуў рукой.

–Так безнадзейна, як ты, Юза, шмат хто разважае. А шанцунак трэба ствараць, а не чакаць, пакуль ён зваліцца зь неба ці нехта паднясе яго, – спакойна прагаварыў Карповіч.

– Ствáрай, ствáрай! Толькі я пагляджу, што з гэтага атрымаецца. Вось як толькі ты высунешся дзе-небудзь з сваім шанцам, дык, адразу й загрукаеш брукам пад канвоем, як яго брат, – Юза кіўнуў на Антука.

– Ды грукаў я ўжо ботамі па бруку!..

– Дзяцюкі, як той казаў, нам патрэбна калектыўнае мысьленьне ў адным кірунку, што, дарэчы, і прапаноўвае спадар Станкеўчык! – неяк урачыста распачаў Саўрыновіч. – І калі мы здольныя на такое мысьленьне – мы знойдзем свой шанцунак!

– Дазвольце мне колькі слоў наастатак, бо будзе як заўсёды: пагаварылі, разышліся і забыліся, – Ян Сакалоўскі чамусьці падняўся з месца:

– Я трохі пабываў у сьвеце... Нямеччына, Англія, Амэрыка... Ідэя задзіночання народу, як казаў спадар Станкевіч, можа быць толькі адна – ідэя беларускасьці. Вакол такой ідэі павінны згуртавацца ўсе, хто жыве на этнічнай тэрыторыі Крывіі-Беларусі, хто прагне сваёй Айчыны і пэрспэктывы сваім дзецям, але, мне здаецца, што нашмат куды важней сёньня зьберагчы жыцьцё сабе і блізкім нашым, і гэтым самым захаваць шанцункі, ідэі, каб перадаць нашчадкам!.. Гэтае для нас болей ажыцьцявіма…

– Дык усё ж такі будзем хавацца, – неяк іранічна прагаварыў Карповіч.

– Не хавацца, а выжываць, – вельмі спакойна удакладніў Ян Сакалоўскі.

Хлопцы задумліва маўчалі. Кожны разумеў, што жыццё – сама дарагая каштоўнасць, якую даў Бог чалавеку, толькі малады Саковіч сказаў нешта такое незразумелае, кшталту:

– Выжыць, каб памерці...

– Во, дзе народ?!. – адрэгаваў на рэпліку Саковіча Антук і пстрыкнуў тумблерам.

Пра радыё на нейкі момант былі забыліся, а тут раптам праз нейкі трэскат і шыпенне ў прыёмніку загучаў урачысты голас дыктара:

– Говорит Москва! В эфире радиостанция имени Коминтерна. Последние новости...

Хлопцы прыціхлі.

– Сегодня, 23 августа 1939 года в городе Москва, в столице первого в мире социалистического государства, на высоком официальном уровне состоялось междугосударственная встреча представителей великого советского народа в лице члена политбюро Центрального комитета Всесоюзной коммунистической партии большевиков, председателя совнаркома и народного комиссара иностранных дел Союза советских социалистических республик товарища Вячеслава Михайловича Молотова с одной стороны, и представителей великого немецкого народа в лице министра иностранных дел Третьего рейха Великой Германии товарища Иоахима фон Риббентропа, с другой стороны. В результате встречи был подписан договор о мирном существовании двух великих государств: Союза Советских Социалистических Республик и Республики Германии. Договор подписали: от Союза Советских Социалистических Республик народный комиссар иностранных дел Союза советских социалистических республик товарищ Вячеслав Михайлович Молотов, от Республики Германии – министр иностранных дел товарищ Иоахим фон Риббентроп. На встрече также



присутствовали генеральный секретарь Всесоюзной коммунистической партии большевиков товарищ Виссарион Иосифович Сталин и другие официальные лица.

С этого исторического момента все вопросы между нашими великими государствами будут решаться исключительно мирным путём, с учётом интересов двух великих народов. Стороны обязались все споры и конфликты между собой разрешать исключительно мирным путём в порядке дружеского обмена мнениями. В случае, если одна из договаривающихся сторон окажется объектом военных действий со стороны третьей державы, другая договаривающаяся сторона не будет поддерживать ни в какой форме эту державу...

Дыктар гаварыў так прыгожа, што яму хацелася верыць, асабліва, калі ён даводзіў, што ніхто так не думае пра мір і супакой на зямлі, як гэтае робяць вялікія палітыкі ў асобах таварыша Сталіна і таварыша Гітлера.

– Вось табе й на, – разгублена прагаварыў Карповіч.

– Вось табе й раз, вось табе й два, – дапоўніў Ян Сакалоўскі аніколькі не здзівіўшыся пачутаму.

## 3. «Ці хцэ пан вальчыць за Айчызну?»

Неяк ужо напрыканцы лета да Антося Андраловіча зайшоў Пуценька, сусед праз дарогу. Пуценька – гэта была яго мянушка, а якое было ў яго прозвішча, дык адразу і не згадаеш, бо ўсе ў вёсцы, ад малога да старога, яго называлі толькі так. Пуценька быў невысокага росту, увогуле, здавалася, што Пуценька трохі не дарос – у яго было ўсё маленькае: маленькая галава з такімі маленькімі прыжмуранымі і хітрымі вочкамі, маленькія ручкі, ножкі... Адным словам, маленькі чалавек.

Калі ён пачынаў гаварыць, дык складвалася ўражанне, што гаворыць падлетак, альбо трохі недаразвіты чалавек.

Антось тады парадкаваў у паветцы. Калі сена звозіў спяшаўся, панакідаў абы як, бо баяўся каб дождж не замачыў, а зараз, калі пойдзе салома, не будзе куды яе скласці.

– Дзядзька Антось усё працуе, – заместа прывітання прагаварыў Пуценька.

– Можа, дапаможаш?…

– Не, няма часу... Трэба ў адно месца падляцець...

– Далётаешся...

Антось паставіў вілы ў кут і выйшаў з паветкі.

– На, дзядзька Антось, паглядзі, што робіцца ў сьвеце, – Пуценька выцягнуў з халявы газету.

Антось узяў газету. Газета была расейскай, што для тутэйшых мясцінаў было рэдкай з'явай. На першай паласе красаваліся два вялікія партрэты Сталіна і Гітлера. Трохі ніжэй – нейкі тэкст. На другой старонцы – партрэты Молатава і Рыбентропа.

– Бярыце, пачытаеце калі-небудзь...

– Няма калі чытаць, Пуценька, – прагаварыў Антось, але газету паклаў на тарпу з сенам. – Што, Сталін з Гітлерам нейкі хаўрус замыслілі?

– Так, заключылі мірную дамову між сабою, – растлумачыў Пуценька.

– Дамову?! А нам з гэтага якая выгода?

– А такая, што вайны ня будзе.

– Ну, калі ня будзе, дык добра, толькі сумняваюся я, што два злыдні разыдуцца мірна.

– Чаму два? Адзін – Гітлер, а Сталін – вождзь міравога пралетарыяту, – запярэчыў Пуценька. – Ходзяць чуткі, што Сталін зьбіраецца правесьці мабілізацыю – падграбе ў войска: і запасьнікаў, і навабранцаў... А пасьля і нас падграбе...

– Што значыць – «падграбе»? – не зразумеў Антось.

– Ну, ёсьць такая думка пра ўзьяднаньне беларусаў у адну савецкую кучку... Але гэта – калі толькі захочуць самі беларусы... Сьцяпан, да прыкладу, хоча...

– Мала чаго хоча Сьцяпан... А ты?

–Дык жа ў адной сям’і – яно нашмат лепей...

– У сям’і не бяз вырадку... А калі хто ня хоча?

– Тут трэба будзе хацець, дзядзька...

– А калі палякі не захочуць?

– А хто ў іх пытацца будзе! У Сталіна зараз такая армія, такая зброя! Пераўзыходзіць і польскую і нямецкую разам ўзятыя па танках, па самалётах, па жывой сіле! Будзе так, як

захоча Сталін, і калі ён возьме нас пад сваю вялікую апеку, лічы, дзядзька, што нам вельмі добра пашэньціць, – важна падвёў высновы Пуценька.

– Пашэньціць, а як жа, – хмыкнуў Антось і запытаўся: – А ты чаго прыходзіў?

– Можа, дзядзька Антось, пад вечар які, можа, дасьць на якую гадзіну каня якога з возам...Гальля хачу прывезьці...

У Пуценькі гаспадарка была мізэрная: два гектары зямлі, карова, тры курыцы і кот. У такой гаспадарцы не было вялікай патрэбы ў конскай сіле, але, калі гэтая патрэба ўзнікала (а ўзнікала яна не толькі вясной і ўвосень, калі трэба араць, садзіць і баранаваць), тады Пуценька ішоў да Антося.

– Колькі разоў табе казаў, Пуценька, што трэба мець свайго каня ў гаспадарцы, – Антосю, як спраўнаму гаспадару цяжка было зразумець, як можна абысціся без свайго каня. – Пад вечар прыходзь...

– Добра! А можа так стацца, дзядзька Антось, што і конь не спатрэбіцца, – шматзначна прагаварыў Пуценька.

– Калі не спатрэбіцца, тады не прыходзь...

– Увогуле можа не спатрэбіцца... ані вам, ані мне...

– Ты гэта пра што?

– А ўсё ж пра яе, пра вайну...

– Вось тады конь, як ніколі, спатрэбіцца... Калі не табе, дык твайму вялікаму апекуну, – Антось ведаў што казаў. – Ты што, забыўся, што рабілася ў Мікалаеўскую вайну, як забіралі коней і не пыталіся дазволу, альбо, які гвалт быў гэтай вясной: замест таго, каб зямлю араць, коней хавалі па лясох ад Войска Польскага…

– Чаму, помню! І коней хавалі і самі хаваліся, – дапоўніў Пуценька. – Каб не прыйшлося зноў хавацца.

– Вось-вось...

Пуценька пайшоў, а Антось сур'ёзна задумаўся. Можна было б і не верыць гэтым чуткам, пра якія гаварыў Пуценька, але насцярожваў той факт, што не было дэмабілізацыі з Войска Польскага ў гэтым годзе. Валодзю Сідаровіча адпусцілі толькі на пару дзён на пахаванне бацькі, хаця тэрмін яго службы закончыўся яшчэ ў тым годзе. А калі палякі распачалі трохі заранёў праводзіць чарговую мабілізацыю, дык усё стала зразумелым. Напачатку, вядома, забіралі тых, хто належаў да «рэзэрвы Войска Польскага» і ў каго падыходзілі гады да службы, а пасля ўжо распачалі прыцягваць на розныя вайсковыя камісіі, зборы, вучэнні, манёўры ўсіх: і хто быў звольнены ў запас трохі раней, і хто ўвогуле не служыў.

Тады шмат каго забралі ў тое войска. З адной хаты маглі забраць ўсіх мужчын, годных да службы. Не дапамагалі жаночыя просьбы, слёзы і галашэнні, каб хоць аднаго сына пакінулі, бо не будзе каму малаціць і бульбу капаць.

Не пакідалі. Відаць, вельмі строгі быў гэты загад і не даваў анікому ільготаў.

Так, некаторыя хаваліся ад гэтых «пабораў» у лесе, але такіх было няшмат.

Але ці доўга прасядзіш у лесе?..

Прыходзілі тады і да Антося Андраловіча, але паглядзелі на сямейку – дванаццаць душ – асабліва не напіралі, толькі польскі ўраднік дастаў нейкія паперы і прапанаваў:

– Ці хцэ пан вальчыць за Айчызну?

Антось тады адказаў коратка:

– Ня хцэ!

– Кеды пан ня хцэ, то можэ пан даць коніска да Войска Польскега?

– І каніска ня хцэ...

Ураднік падазрона паглядзеў на Антося, а пасля нешта скрабануў пяром у сваіх паперах і, нічога не гаворачы, накіраваўся да дзвярэй.

А вось тутэйшы пан Язэп Страчынскі, якога праз захапленне Юзэфам Пілсудскім так і празвалі ў вёсцы – Пілсудскі, незадаволена прагугнявіў:

– Ну! Ну! Лёгка ты, Антось, хочаш адбрыкацца ад Айчызны... Ня выйдзе!

– Ты, дзядзька Язэп, не нунукай, – вельмі спакойна прагаварыў тады Антось. – Зь першага, я не належу да рэзэрвы, а з-другога, Айчызнаў зараз разьвялося вельмі шмат – у кожнага свая Айчызна.

– Па-першае, Антось, я табе не дзядзька Язэп, а пан Юзэф, – заўважыў Страчынскі. – А па-другое, можна падумаць, што ў цябе ёсьць свая Айчызна?

– А можна падумаць, што яе ў мяне няма! – у фон Страчынскаму адказаў Антось.

– Якая Айчызна, Антось, разуй вочы?.. Можа, «мы выйдзем шчыльнымі радамі...», хто выйдзе? – іранічна кінуў Страчынскі. – Галота? І ты, можа, разам зь імі?! Як той казаў: «Задрав штаны за камсамолам...», ха-ха-ха!

Антось хацеў нешта адказаць у такім жа тоне, але ў гутарку ўмяшалася Ганька, жонка:

– Пан Язэпка, што табе благога зрабіў Антось?

– Ну, зноў Язэпка! – скрывіўся Страчынскі. – Што ты, Ганька, мяне ганьбіш перад польскімі ўраднікамі? Я естэм пан Юзэф, Ганька. І вазьмі гэта да памёнтку сваего.

– Добра, добра, вазьму... А яму якое войска – у яго нага краваточыць, і што я буду адна рабіць зь дзяцьмі?

– Нага... Дзеці... Абы толькі апінію нейкую знайсьці... Дзяцей наробяць, абы толькі ня вальчыць за Айчызну... Патрыёты! – абураўся пан Юзэф.

– А каб цябе гурончыка, што ты да нас маеш, пан Юзэф Строчыньскі? – больш афіцыйна звярнулася Ганька.

– Я, Ганька, да цябе анічога ня маю... Вось браты твае адразу прыйшлі: хто да рэзэрвы, а хто дабравольна вальчыць за Айчызну... А гэты – Страчынскі кіўнуў убок Антося – «ня хцэ». Хто так адказвае!.. Толькі дызертыры!

Антось ведаў гісторыю пра сваіх швагроў Качаноўскіх. Каб наш народ дабравольна ішоў ваяваць – вялікая рэдкасць. Напачатку забралі малодшага – Яську – «да рэзэрвы». У рэзерв звычайна забіралі на год тых, хто нядаўна вярнуўся з войска. Пасля Пётра, старэйшы, быў неяк у гміне і гаварыў, калі што якое, дык ён першым пойдзе змагацца супраць сталінскага бальшавізму і гітлераўскага фашызму; і яго, «калі што якое», адразу ж і забралі. А за ім неўзабаве выклікалі і Язэпа, але ён пасля доўгіх роздумаў позву тую ў войска парваў і, на ўсякі выпадак, стаў хавацца ў лазні, але не прайшло і тыдня, як польскі афіцэр з двума вайскоўцамі вывялі яго з лазні як палоннага. Пасля ездзіў цесць у гміну і павет на сваім жарэбчыку і з поўнымі торбамі, каб задобрыць тую справу. Відаць, задобрыў, бо вярнуўся без торбаў і жарэбчыка.

– Дызертыры будуць асуджаны гісторыяй і Богам як здрадцы Айчызны! – пагражаў Страчынскі.

– Дык то ж дэзертыры! А ён, які дэзертыр?!. І што ты да яго ўсё чэпішся, брыдота? – Ганька ўзялася не на жарты. – А калі так, хай яго тая гісторыя з Богам і судзіць!

– Сама ты брыдота! – агрызнуўся пан Юзэф і ўслед за астатнімі паспешліва выйшаў з хаты.

Тады Страчынскі вельмі здзівіў Антося. Страчынскі не належаў фармальна да гэтых вайсковых камісіяў, але праз свой крэсовы патрыятызм адчуваў нейкі абавязак перад Рэчу Паспалітай. Дарэчы, тры сыны яго служылі ў войску польскім і гэтым ён толькі ганарыўся, асабліва перад польскімі ўраднікамі. Прынамсі, сам ён не быў палякам і патрыятызма яго была эпізадычнай – спрадвеку тут жыў род Страчынскіх і ніхто ніколі на польскай мове не гаварыў. Дарэчы, такіх «палякаў», як Страчынскі, у вёсцы было няшмат. Іншы раз і цесць любіў

патураць Страчынскаму ў польскасці, асабліва, калі падап'юць трохі. Тады адзін да аднаго: «пан Юзэф», «пан Алекс», хаця ўсё ў вёсцы звалі аднаго Язэпам, а другога – Алесем.

Страчынскі быў у добрых адносінах з Антосевым цесцем, былі яны не толькі суседзямі, але нават і сябравалі. І колькі разоў Антось з шваграмі і цесцем дапамагаў Страчынскаму: ці гной вывезці на поле, ці сена звазіць, ці лес траляваць (такія тутэйшыя паны, як Страчынскі, прыслугі не трымалі), а тут раптам – такая ўдзячнасць: «ці хцэ пан вальчыць за Айчызну».

Праўда, яго, Антося, не так лёгка будзе абуць у салдацкія боты – у яго сваё войска – дванаццаць дзяцей, жонка і гаспадарка... Праўда, трое дзетак адышлі на той свет, але ані Антось, ані Ганька не выкрэсліваюць іх з памяці – для іх яны як жывыя. Дванаццаць дзяцей – можа, яно і зашмат трохі, але анічога не зробіш, так, відаць, было Богу ўгодна – вось так і нараджаліся дзеці адзін за адным. А калі і гэтага будзе ім мала, тады пакажа ён сваю краваточыну – старую рану на назе. Краваточына гэта мела сваю гісторыю хваробы – як своеасаблівы эксперымент у ратаванні ад войска і ад вайны ў 1917 годзе, калі яму падышоў тэрмін. Не ў час тады падышоў тэрмін, ох ня ў час. Тады дзядунька, незадоўга да свайго скону, падказаў рэцэпт, паводле якога раней ратаваліся ад пабораў у маскалі, а менавіта: трэба падставіць аголеную частку нагі (лепей сцягно ці калена) пад гняздо з раззлаванымі восамі ці пчоламі і цярпець, пакуль добра не пакусаюць. Антось скарыстаўся парадай дзядунькі, балазе ў гаспадарцы былі свае пчолы, – і з таго часу нага ў яго не зажывае: краваточыць і смярдзіць, а лекары ў адно – гангрэна, маўляў, якое войска – рэзаць трэба... Так і не стаў Антось вайскоўцам, і вось, амаль што дваццаць гадоў ходзіць ён з гэтай «гангрэнай» і нічога. Далман з Лебедзева – добры лекар і знахар – казаў нeяк Антосю, што можна вылечыць яго нагу, калі толькі ён захоча. Але Антось тады разважыў так, што як толькі ён вылечыць нагу, дык адразу яго ў войска тое і заграбуць. А калі раптам вайна – час такі неспакойны – ідзі і ваюй тады здаровай нагой.

У Антося свае адносіны да войска – не любіць ён войска і ўсё, што звязана з ім. Цярпець не можа нават салдацкай формы, не гаворачы ўжо пра зброю. Неяк Пецька – старэйшы сын – фрэнч вайсковы прынёс аднекуль, дык Антось хацеў спаліць яго ў печы і спаліў бы, каб Ганька тады не выхапіла яго з рук і не перашыла той фрэнч сабе на фартух.

Такія ж адносіны былі ў Антося і да вайны. Нагледзеўся ён на вайну ў Першую імперыялістычную – тры гады жыла

сям'я на лініі фронту, пасля – рэвалюцыя, грамадзянскія войны: расейска-беларуская, расейска-польская, а карацей – войны ўсіх з усімі. І ўсе войны чамусьці праходзілі праз яго падворак. І тут ужо як нейкі здзеклівы напамін: да гэтага часу на яго агародзе, як помнік усякай вайне, тарчыць хвастом уверх неўзарваная бомба ад той Мікалаеўскай вайны. І каму толькі Антось не гаварыў пра яе – анікому няма аніякай справы да бомбы, маўляў, калі баішся – перастаў хату ў другое месца. І ўвесь адказ. Праўда, бомбе той знайшоў Антось прымяненне ў гаспадарцы. Не дагледзеў неяк раз ён сваіх дзяцей, і злаўчыліся яны на той бомбе арэхі біць... А пасля гэтага, неяк так атрымалася, прапала бабка, а тут якраз – надвор'е, касіць трэба, а косы не накляпаныя... Пакуль у тое мястэчка злётаеш, каб набыць бабку – паўдня страціш... Вось тады Антось і паспрабаваў накляпаць касу на хвасце той бомбы – клёп выйшаў такі, што касой галіцца можна было. Праўда, мала было суцехі ў тым, што ў гаспадарцы і бомба можа спатрэбіцца.

## 4. 1939 год (з нататніка заходніка, працяг)

*...А пасьля падзеі сталі разгортвацца з такой хуткасьцю, што ня кожную падзею людзі пасьпявалі абмеркаваць між сабою. Тое, што яшчэ толькі ўчора здавалася вельмі важным у перспектыве магчымых варыянтаў разьвіцьця, сёння ўжо адыходзіла ў нябыт няспраўджаным і адвергнутым.*

*Нешта падобнае адбылося пасьля 23 жніўня – дзень сустрэчы Молатава і Рыбентропа ў Маскве і падпісаньне дамовы між Савецкім Саюзам і Германіяй аб не нападзе адзін на аднаго. Падзея гэта была настолькі нечаканай, незразумелай і неадназначнай ў грамадзтве, што, збольшага, яна не магла ўспрымацца міжнароднай супольнасьцю інакш, як толькі ў штыкі: такі хаўрус – гэта пагроза ўсяму сьвету. Праўда, знаходзіліся і адэпты такой палітыкі, якія пераканаўча аргументавалі, што падобным пактам Сталін і Гітлер перахітрылі Лябрэна, Чэмберлена і Рузвельта разам узятых, маўляў, стварыць ім зараз магутную антыгітлераўскую ці антысавецкую кааліцыю будзе ня так проста, а ў іх – Сталіна і Гітлера – інтарэсы ў гэты момант супалі, як ніколі... Так, хіба што супадалі іх інтарэсы толькі ў 1917 годзе, калі за нямецкае золата ў Расеі рабіўся бальшавіцкі пераварот. А тут інтарэсы іх супадалі ня толькі ў Польшчы, але і ў Беларусі, Украіне, ў Прыбалтыцы, у Балканах...*

*Гітлер і Сталін – народжаныя, як адзін, так і другі агульнаеўрапейскімі эканамічнымі крызісамі пачатку XX*

*стагоддзя, Першай імперыялістычнай вайной, рэвалюцыямі ў Германіі і ў Расеі, яны, як два духоўныя блізьнюкі ідэйна былі вельмі блізкімі адзін да аднаго...*

*Адзін узначальваў Нацыянал-сацыялістычную нямецкую рабочую партыю, другі – Усесоюзную камуністычную партыю бальшавікоў, якая па-сутнасьці яднала рабоча-сялянскі сацыялістычны рух... Але, як адна партыя, так і другая былі адзінымі кіруючымі партыямі ў сваіх таталітарных дзяржавах – іншых партый іх лідары не цярпелі.*

*Англа-амэрыканскім і французскім імперыялістам у гэтыя трывожныя дні было не да спакою... Здарылася тое, чаго яны болей за ўсё баяліся, а менавіта: дзьве краіны, пакрыўджаныя Вярсальскімі пагаденьнямі 1919 года (Савецкую Расію да перамоваў тады не дапусьцілі і эўрапейскія тэрыторыі дзялілі без яе), зьядналіся не дзеля таго, каб вусатыя фюрэры прызнаваліся адзін аднаму ў каханьні...*

*Адно было зразумела дакладна: змычка такая не прынясе сьвету міру.*

*І было б недальнебачным і наіўным і надалей праводзіць палітыку ўлагоджваньня Гітлера.*

*Але найбольш расчараванымі 23 жніўня засталіся тыя, хто спадзяваўся на Гітлера ў барацьбе з камунізмам і тыя, хто бачыў дэмакратычную і сацыялістычную будучыню Польшчы. Зьбянтэжанасьць выклікаў той факт, што дзьве магутныя ваенныя дзяржавы – Савецкі Саюз і Вялікая Германія – дасягнулі такога напружаньня, што ўжо не ваяваць яны не маглі, а калі яны ня будуць ваяваць між сабою, дык узьнікала лагічнае пытаньне, зь кім тады яны зьбіраюцца гэта рабіць?*

*Пункт дамовы наконт выпадку ваенных дзеяў з якой-небудзь трэцяй дзяржавай разьвязваў рукі абодвум агрэсарам.*

*Усё часьцей і часьцей гучалі здагадкі пра тое, што Сталін з Гітлерам нешта задумалі нядобрае, але што – трымалася ў вялікім сакрэце. Праўда, сакрэт гэты быў сакрэтам толькі для «брацкіх» нямецкага і савецкага народаў. Ангельскія газэты ўжо назаўтра выдавалі на сваіх старонках усе тайны сакрэтнага пратаколу, у тым ліку і пра будучы лёс Польшчы...*

*Вось тут узьнікае яшчэ адно вельмі цікавае пытаньне: а хто ж гэта такі-гэтакі «скінуў» інфармацыю і зьмест сакрэтных пратаколаў дзядзьку Чэмберлену? Няўжо ангельскія шпікі?!. А хіба ж ня ўсіх яшчэ шпікоў перасадзіў Сталін у 1937 – 1938 гадох?!.*

*Але, відаць, чытаючы тыя сакрэтныя пратаколы, Чэмберлен вырашыў падтрымаць Польшчу, і 25 жніўня Вялікабрытанія*

*заключыла аналягічную дамову з Польшчай аб не нападзе і ўзаемнай падтрымцы ў час ваенных канфліктаў. Гэта гаварыла пра пачатак фармаваньня антыгітлераўскага блёку ў Эўропе.*

*Але такі блёк Польшчу ўжо не ратаваў. Такі блёк быў болей патрэбным Сталіну, чым каму-небудзь іншаму: не антысавецкі ж блёк фармаваць у Заходняй Эўропе.*

*Які лёс чакаў беларусаў у гэтых змовах, пратаколах, блёках – прагназаваць было вельмі цяжка, хіба што, анічога добрага. Звычайна пры разьвязваньні праблемаў на такіх узроўнях у беларусаў ніколі не пыталіся пра іх меркаваньні, іх ніколі нікуды не запрашалі і пра іх ніхто нідзе й ніколі не згадваў, быццам і не было іх зусім і няма.*

*1 верасьня 1939 года Гітлер, інсцэніраванай правакацыяй з пераапрананнямі (а інакш і быць не магло), распачаў адкрытыя ваенныя дзеяньні супраць Польшчы. Нямецкія самалёты бамбілі польскія гарады (апрача Гданьску), а нямецкія генералы, як на вялікім паляваньні ўсяроўна, павялі свае танкі і войскі знаёмымі сьцежкамі ў кірунку Белай Вежы. Для адных такое паляваньне было вялікай нечаканасьцю, для другіх – заканамернасьцю...*



*Апошнія падзеі тэндэму Гітлер – Сталін заставілі прызадумацца ангельскіх і французскіх прэзідэнтаў і прэм'ер-міністраў: Мюнхенскі хаўрус адбываўся бяз Чэхіі – і Чэхіі ня стала; Маскоўскі пакт Малатава – Рыбентропа праводзіўся без палякаў і лёс Польшчы ўжо практычна быў вырашаны. Да якой яшчэ змовы могуць дайсьці два неадэкватныя палітыкі Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы здагадацца было няцяжка. А таму й нядзіўна, што неўзабаве, 3 верасьня, Англія і Францыя абвясьцілі Нямеччыне вайну – на ўсякі выпадак... мала што можа быць... І тут усім стала зразумелым – пачалася Другая сусьветная вайна. Праўда, абвяшчэньне гэта і вайна зь іх боку былі нейкімі дзіўнымі: ім хапіла сьмеласьці заявіць, што яны выступаюць супроць Германіі ў падтрымку Польшчы, а самі пасьля быццам спалохаліся сваёй сьмеласьці: быццам з-за вугла сталі назіраць за Гітлерам, чакаць і спадзявацца, што, можа, задаволіцца ён Польшчай, а пасьля задаволіцца Саветамі і спыніцца на гэтым, можа... А калі Саветамі раптам падавіцца, тады й яны тут як тут...*

*А Гітлер, тым часам, спакойна праводзіў усходні бліцкрыг і яму аніхто ў гэтым не перашкаджаў, бо не было каму перашкаджаць. Праўда, узорнай дэманстрацыі бліцкрыгу – за два-тры дні акупаваць тэрыторыю Польшчы да Буга – у Гітлера не атрымалася. І толькі 14 верасьня, амаль што праз два тыдні ад пачатку вайны, нямецкія салдаты акружылі Брэст, а 15 – узялі Беласток.*

*У такой сітуацыі ня выйсьці насустрач свайму лепшаму сябру і хаўрусьніку таварышу Гітлеру вялікі «вождзь» сусьветнага пралетарыяту, партайгеносэ Сталін проста ня мог, пра што яскрава сьведчыла дэманстрацыя вельмі добрых, нават братэрскіх адносінаў між імі (між вялікімі рускім і нямецкім народамі) – усё гэта наводзіла кожнага на сумную думку, што чарговы падзел Рэчы Паспалітай, а пасьля, магчыма, і Эўропы ужо не за гарамі, калі ўжо недзе не за лесам...*

*Дарэчы, наконт лесу: з лесу адкрыта выйшлі тыя хлопцы, якія ў свой час хаваліся ад мабілізацыі ў Войска Польскае. Асаблівым польскім, ці яшчэ якім-небудзь іншым патрыятызмам яны не вылучаліся, бальшыня зь іх непрыязна адносілася да польскіх асаднікаў, мясцовых паноў і ўвогуле да тых, хто сабой уяўляў уладу.*

## 5. «Вызваленне»

А вайна неўзабаве пачалася і ў Багданоўцы. Праўда, вайну гэтую ў іх распачаў не Гітлер ці Сталін, а Сцяпан Андраловіч.

За колькі дзён да гэтага Сцяпан ездзіў некуды за Маладзечана на нейкі патаемны бальшавіцкі сход, – як пазней стала вядомым, – сход Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. Відаць, падпольны гурток кэпэзэбоўцаў (чальцоў і кандыдатаў КПЗБ) ім быў арганізаваны і ў Ракавічах задоўга да гэтых падзеяў. Пры жаданні няцяжка было здагадацца, хто мог бы ўваходзіць у гэты гурток: з Ракавічаў – Кастусь Казакевіч і Юлесь Тытуш; з Мазалёў – Іван Сідаровіч, Валодзя Страх і Васіль Гоман; з Ракуцева – Стрыгі – усіх іх можна было вельмі часта сустрэць у атачэнні Сцяпана. Многія з гэтых асобаў самі альбо бацькі іхнія былі некалі ў «Грамадзе», бо ячэйка «грамадоўцаў», закладзеная тут у свой час не без дапамогі беларускага пасла ў польскім сойме Ігната Дварчаніна, была вельмі сур’ёзнай. Пад мудрым кіраўніцтвам Сцяпана дзейнічала, відаць, і камсамольская ячэйка, куды ўваходзілі пляменнікі Сцяпана Іван і Пятро Андраловічы, Рыгор (Жора) Картановіч, Восіпчык і Калістрат Стрыгі з Харлаўшчыны і Стрыгі з Мазалёў

і Ракуцева (Косця, Антон, Мікалай, Рыгор і іншыя). Такі спіс не можа быць дакладным і поўным, але менавіта гэтыя людзі напрыканцы 30-х гадоў сімпатызавалі Саветам.

Невядома, якія на тым партыйным сходзе Сцяпан атрымаў інструкцыі, але з яго вяртаннем у навакольных вёсках можна было заўважыць нейкае ажыўленне, якое падмацоўвалася прыездамі братоў Калманаў з Мястэчка. Іх часта можна было ўбачыць у Ракавічах і Мазалях разам з Сцяпанам, альбо Сцяпана ў Мястэчку разам з імі. Пра што яны гаварылі, невядома, – болей гаварылі браты, а Сцяпан толькі слухаў і ківаў галавой.

Неўзабаве сяляне, якія працавалі ў двары Дабрынскага ў Багданоўцы, сталі патрабаваць надбаўку да свайго заробку, маўляў, Ахматовічы ў Бяргалішках не крыўдзяць сваіх работнікаў і плацяць куды болей. Там, недзе, чулі яны, сяляне таксама вельмі задаволеныя сваімі панамі. А гэта хіба заробак?..

А тут сталі хадзіць розныя чуткі пра тое, што недзе работнікі пабілі панскага эканома. Там, недзе, сяляне да паўсмерці збілі панскага ляснічага, а недзе раздзялілі між сабой панскае дабро і падпалілі маёнтак.

Дарэчы, у акрузе такіх паноў, якія трымалі прыслугу і мелі пастаянных работнікаў, было шмат: у Ходзьках – паны Лакуціеўскія, у Казлоўшчыне – Казлоўскія, у Людвінова – Кісялеўскія, у Казароўшчыне – Ластоўскія, у Парлоўцы – Дабрынскія, у Драздзішках – Расальскія, у Ракуцеве – капітан Дэмскі, у Ваколіцы – Дэмбоўскія, у Чаркасах – Крачкоўскія. Некаторыя з іх (Дэмскі і Дэмбоўскі) былі асаднікамі – у 20-я гады атрымалі дармавінку ад дзяржавы ў памеры каля 40 гектараў зямлі, а пасля што дакуплялі, а што адбіралі ў сялян.

Сцяпан паноў гэтых ведаў з дзяцінства – колькі ён з бацькам сваім поту праліў на палетках Дабрынскіх, Расальскіх, Лакуціеўскіх – цяжка сказаць. З дзяцінства праніксся ён рэвалюцыйнай нянавісцю да гэтых эксплуататараў народу і ў гэтай нянавісці ён не быў адзінокім. Калі ў чарговы раз ён стаў апантана завяраць вяскоўцаў у тым, што чакаць ужо няма чаго, што трэба самім браць багатае панскае дабро ў свае бедныя рукі, дык нямала знайшлося такіх бедных рук да гэтага дабра.

Шаснаццатага верасня ў суботу, неяк ужо пад вечар, зноўку бачылі Калманаў у Ракавічах: ехалі яны разам са Сцяпанам у спрытным вазку і жвава нешта абмяркоўвалі. А вечарам ў Сцяпанавай хаце доўга гарэла лямпа, чуліся заклапочаныя мужчынскія галасы і нейкая незразумелая мітусня.

А назаўтра, у нядзельку да ўсходу сонца, пачуўся нарастаючы гул з боку Ракавіч і Мазалёў. Гэты трывожны гул і разбудзіў вяскоўцаў. Напачатку нічога нельга было ўбачыць і зразумець што да чаго, але там, дзе вось-вось павінна было падымацца сонца, падымаліся над краявідам, як зграя каршуноў, чорныя самалёты. Праз колькі хвілін амаль што палова неба была пакрытай чорнымі штрыхамі тупарылых бамбавозаў, якія павольна паўзлі над лесам у супрацьлеглую паласу неба. Ажно шыя дранцвела, пакуль правядзеш іх вачамі на другі канец неба – не самалёты, а нябесныя чарапахі. Куды ляцелі савецкія «чарапахі» – цяжка сказаць, можа бамбіць Вільню, а можа куды і далей.

Але сумненняў наконт Саветаў ужо не было.

Вёска не спала. Нават дзеці выскачылі з сваіх ложкаў у начных кашулях на падворак і, гэтак жа, як дарослыя, моўчкі праводзілі вачыма самалёты. Толькі дзевяцігадовы Чэсік спытаўся ў Антося:

– Тата, гэта што?..Ужо, вайна пачалася?

– Пачалася, сынок, пачалася...

Антось колькі хвілінаў глядзеў на самалёты ў нейкім здранцвенні. З такога стану яко вывеў нечаканна ўрачысты голас суседа Пуценькі:

– Здравія жалаю, таварыш дзядзька Антось! – крычаў ён праз дарогу.

Антось аж здрыгануўся ад нечаканасці, а пасля не менш, чым ад самалётаў, здзівіўся такому звароту:

– Здароў, Пуценька... ты ж раней заўсёды казаў «Добры дзень пану!»...

– То ж раней, а зараз, калі прыйдуць нашы таварышы, трэба будзе казаць «Здравія жалаю, таварыш».

– А што, у вашых таварышаў няма добрага дня?

– Не, няма! Толькі здравія... Але ня гэта галоўнае, – інтрыгаваў Пуценька.

– А што галоўнае? – зацікавіўся Антось.

– А галоўнае тое, што сёньня, у дзевяць гадзін раніцы будзе выступаць па радзіву сам таварышч Сталін! Во!

– Што ты кажаш? – здзівіўся Антось. – Трэба будзе паслухаць!

– Абавязкова трэба! Учора падзеля гэтага Калман нават радзіва падкінуў Сьцяпану... Так што, схадзі да Сьцяпана, там шмат будзе народу...

І Пуценька, не спяшаючыся, гэтак жа як самалёты на небе, папоўз за Антосева гумно па сваёй патрэбе.

Самалёты гудзелі яшчэ хвілін з трыццаць – сорак, не болей. Услед ім гэтак жа павольна падымалася над лесам чырвонае сонца і тут жа хавалася ў хмары.

Сорамна, відаць, было сонцу за такі світанак.

На працягу ўсёй раніцы адчувалася нейкая трывожная маўклівасць на людскіх падворках; людзі, быццам бы недзе пахаваліся ад гулу, ад самалётаў і ад усяго, што іх чакала ў гэты дзень... што чакала ў наступныя дні... Пустым здаваўся ў гэты дзень і гасцінец, па якім звычайна ў нядзелю ішлі людзі ў мястэчка: хто ў царкву, хто ў касцёл. А як жа пойдзеш, – думалася людзям, – а раптам насустрач бальшавікі, якія не вераць у Бога, яны ж і пастраляць могуць, калі даведаюцца куды ты ідзеш...

Невялікае ажыўленне можна было ўбачыць на панскіх падворках у Багданоўцы, Ходзьках, Людвінова, Парлоўцы. Пры тым паны самі завіхаліся больш, чым работнікі. З парабкаў шмат хто ўвогуле не выйшаў на працу ў гэты дзень, а той хто выйшаў замест звычайнай штодзённай працы пакаваў і выносіў на вуліцу торбы, клумкі, дываны, кажухі і іншыя рэчы...

Антось не пайшоў да Сцяпана слухаць радыё. Было радыё ў цесця, у Качанюка, але цесць яшчэ невядома, ці стане слухаць Сталіна. Цесць, увогуле, нікога не слухае, нават цешчу. А калі ён не будзе слухаць Сталіна, дык не дасць і іншым паслухаць – ён такі. Антось вырашыў схадзіць да Дайновіча. Там, калі і будзе хто, дык пару чалавек, не болей.

Ганька пры яго адходзе раптам запярэчыла:

– Было б што слухаць... Пілсудзкага некалі лётаў слухаць, а толку! Лепш сьвінчо задраціў бы, усё гулта перавярнула...

Але Антося спыніць ужо нейкім парасём было немагчыма.

У Дайновіча ў хаце, апрача яго самога, былі толькі Аляксандра Саўрыновіч і Зміцер Жаўток. Хлопцы пыхкалі самакруткамі і ўважліва слухалі радыё.

– Сталін? – спытаўся Антось і кіўнуў на прыёмнік.

– Молатаў, – ціха адказаў Дайновіч.

– Адзін чорт, – буркнуў Антось і прысеў на зэдліку каля парога.

*«...Прошло каких-нибудь две недели, а Польша уже потеряла все свои промышленные очаги, потеряла большую часть крупных городов и культурных центров. Нет больше и Варшавы как столицы польского государства. Никто не знает о местопребывании польского правительства. Население Польши брошено его незадачливыми руководителями на произвол*

*судьбы. Польское государство и его правительство фактически перестали существовать. В силу такого положения заключенные между Советским Союзом и Польшей договора прекратили свое действие...*

– Ты глядзі, што робіцца! – усклікнуў усхваляваны Жаўток.

– Цішэй ты! – перабіў яго Саўрыновіч.

*...В Польше создалось положение, требующее со стороны Советского правительства особой заботы в отношении безопасности своего государства. Польша стала удобным полем для всяких случайностей и неожиданностей, могущих создать угрозу для СССР. Советское правительство до последнего времени оставалось нейтральным. Но оно в силу указанных обстоятельств не может больше нейтрально относиться к создавшемуся положению...*

– А каго ж тады баяцца, калі Польшчы як дзяржавы няма, а Гітлер – лепшы сябра? – не зразумеў Антось.

*...От советского правительства нельзя также требовать безразличного отношения к судьбе единокровных украинцев и белоруссов, проживающих в Польше и раньше находившихся на положении бесправных наций, а теперь и вовсе брошенных на волю случая. Советское правительство считает своей священной обязанностью подать руку помощи своим братьям-украинцам и братьям-белоруссам, населяющим Польшу...*

– Салавей! Я чую грукат тваіх каваных капытоў! – раптам гучна ўсклікнуў Антук Дайновіч і пстрыкнуў тумблерам. – Успомнілі пра братоў украінцаў і беларусаў праз дваццаць гадоў, а чаму ж пра іх не ўспаміналі ў 1921 годзе?!.

– Але як прыгожа гаворыць...Можа яшчэ што сказаў бы, – зацікавіўся прамовай Жаўток.

– Сказаў бы!.. Скажа, што зробіць цябе, Жаўток, самым шчасьлівым чалавекам у сьвеце,–ухмыльнуўся Саўрыновіч. – А ты, дурань, і паверыш!

– Я, можа, і не паверу, а вось іншыя павераць.

– Ат! Пустая гаворка, – Антось махнуў рукой. – Лепей бы я парасё задраціў...

– Лепей бы ты Сталіна зь Гітлерам задраціў! – падаў слушную параду Антук...

– А што вы хочаце? Хочаце, каб ён сказаў, што пачаўся новы перадзел Эўропы з Гітлерам? І кожны бярэ сабе, што бліжэй? Тут ёсьць вялікая палітыка! – падвёў свае высновы Жаўток.

– А вось тое, што зараз пачнуць браць усе і ўсё, што ляжыць бліжэй і што ляжыць ня так, як каму хацелася,– гэта факт, – Антось загаварыў нейкімі загадкамі. – Тут галоўнае паказаць прыклад, нешта падобнае было ў чатырнаццатым годзе.

Хлопцы добра зразумелі, што хацеў сказаць Антось. Калі пачынаюцца войны, тады чалавек траціць усякае права на сваё: на сваю зямлю, гісторыю, культуру, маёмасць...

Хлопцы яшчэ засталіся пагаварыць трохі і «высмактаць» па адной самакрутцы, а Антось пайшоў дахаты.

Па дарозе, якраз каля двара Карчэўскага, Антось сустрэў Пуценьку. Той ляцеў некуды радасны і шчаслівы (гэта значыла выпіўшы і не трохі), трымаючы ў руках нейкую праклямацыю. Замест вітанняў Пуценька пракрычаў здалёку:

– Ну, як сказануў, як сказануў! – Тут Пуценька глянуў у праклямацыю: «*Советское правительство считает своей священной обязанностью подать руку помощи своим братьям-украинцам и братьям-белоруссам...*»



ЛИСТОВКА

№ 1 | Орган политотдела N-ской части | 15 сентября 1939 г.

# О внутренних причинах военного поражения Польши

[illegible]

– Ну й што? – вельмі спакойна прагаварыў Антось.

– Як, што? – ужо сёньня, вось-вось нашы браты пададуць руку помашчы, як ты... вы дзядзька не разумееш! – падыходзячы бліжэй тлумачыў Пуценька.

– Што? Ужо ідуць? – здзівіўся Антось.

– Ужо пад Маладэчанам!..

– А ідуць як,з рукой працягнутай, ці як?

– Зь якой рукой? – не зразумеў Пуценька.

– Ну, ты ж казаў, з рукой помашчы...

– А-а-а, – Пуценька на нейкую хвілінку задумаўся, пасля больш сур’ёзна запытаўся:

– Вось я не разумею, дзядзьку, ці дзядзька Антось радуецца дапамогі таварышаў, ці наадварот, здзекуецца?

– Я, Пуценька, чаго баюся, каб ад гэтай працягнутай рукі дапамогі, мы не працягнулі ногі...

– Калі дзядзька Антось прыйдзе на сустрэчу і будзе крычаць: «Здарова, таварышы, доўга чакалі...», дык дзядзьку тады няма чаго баяцца, – і Пуценька зарагатаў, задаволены сваім жартам. – Дарэчы, сустрэча будзе недзе каля сямі гадзін вечара... Прыходзь...це...

– Ня ведаю, – буркнуў Антось. – Парасё трэба будзе драціць...

– Во! – узрадаваўся Пуценька. – Дык, хай дзядзька парасё тое возьме з сабою на сустрэчу, каб было што палажыць у працягнутую руку дапамогі! – Пуценька зноў зарагатаў і паляцеў некуды далей, размахваючы праклямацыяй.

Антось тады нічога не стаў крычаць услед Пуценьку, толькі падумаў, што далётаецца некалі Пуценька сваімі жартамі і праклямацыямі.

Дзень гэты быў нейкі няўдалы. Мала таго, што не было настрою (бамбавозы сапсавалі), ды і надвор'е было нейкае такое ж заблытанае, туманнае: сонца то выгляне з-за хмараў, то схаваецца так, што, быццам, яго і ніколі не было на тым небе; хмары наляцяць, пырскнуць дажджом, вецер заскавытае, засвішча, закруціць на стрэхах салому – і замрэ раптам, быццам да нечага прыслухоўваючыся... Хаця, з другога боку, – дзень, як звычайны восеньскі дзень. Адно, што, можа, кідалася ў вочы, дык гэта бабы на агародах; у царкву і касцёл не пайшлі, бо баяліся, а на агародзе ў такі час працы заўсёды шмат. Мужчыны, відаць, кожны па-свойму рыхтаваўся да «вызвалення». Нехта лётаў вёскай і заклікаў на сустрэчу (Пуценька), нехта нешта выстаўляў і арганізоўваў сустрэчу (Сцяпан), а большасць карцела над тым, дзе і што так схаваць, каб «вызваліцелі» не маглі адшукаць і вызваліць ад прыхаванага дабра. А бабам тым што – вечна прыгнутыя літарай «Г» што на полі, што дома ім напляваць было ў якой паставе сустракаць «вызваліцеляў».

Да палудня было недзе яшчэ каля гадзіны, як у Багданоўцы, каля панскіх двароў Карчэўскага і Дабрынскага сталі збірацца людзі: у асноўным, вясковая бедната з Бяляніцы, Дойневічаў, Мазалёў і Ракавічаў. Сабралася недзе каля добрага дзясятка, у асноўным маладых дзяцюкоў і мужчынаў сярэдняга ўзросту. Чакалі Сцяпана, ён вось-вось павінен быў падысці з сваімі пляменнікамі і тады распачнецца рэквізіцыя. Што гэта такое – ніхто толкам не ведаў, але здагадваўся.

А неўзабаве гурт вясковай беднаты пад кіраўніцтвам Сцяпана абступіў двор пана Карчэўскага.

Што да двара Карчэўскага, дык тут вельмі гучна сказана – двор.

Так, некалі Карчэўскія былі вялікім родам, і ім належала адна трэцяя частка зямлі ў Ашмянскім павеце Вялікага княства Літоўскага. За ўдзел у паўстаннях супраць Расеі ў 1863 годзе Карчэўскія, амаль што ўсе, апынуліся ў Сібіры, а землі іх і фальваркі рабіліся дзяржаўнымі альбо распрадаваліся і дарыліся расейскім чыноўнікам і палкаводцам. Калі хто і вяртаўся на радзіму з высылкі, дык аніякага права на сваю зямлю і былую маёмасць ён ужо не меў. У такой жа сітуацыі апынуліся Карчэўскія ў Багданоўцы і Парловай Гары ў другой палове XIX стагоддзя – уся іхняя ўласнасць была скупленай нейкім царскім генералам Дабрынскім. Сын паўстанца Карчэўскага пакідаць Багданоўку, дзе знаходзіўся радавы магільнік, на якім былі пахаваныя дзясяткі пакаленняў іх прашчураў, не стаў. Напрыканцы XIX ст. ён вярнуўся з Сібіры, на пачатку стаў жыць недзе каля Вільні. А тут Першая сусветная вайна... Вярнуліся Карчэўскія ў Багданоўку пасля 1921 года. Будавацца прыйшлося з нуля. Сын старога паўстанца пасадзіў у невялікай хатцы эканома, які і вёў усе гаспадарскія справы, а сам жыў у Вільні. А паралельна завёў судовую цяжбу з Дабрынскімі за вяртанне хоць часткі сваёй зямлі і маёмасці.

Эканом Карчэўскага (заядлы паляк-крэсовец, які патрабаваў ад сялянаў, каб яго называлі панам) для вядзення гаспадаркі трымаў некалькі работнікаў (батракоў). А былі гэта вяскоўцы з Дойневічаў, Ракавічаў і Мазалёў. Дык вось, Сцяпан з імі стараўся дамовіцца па-добраму, маўляў, не мяшайце нам праводзіць канфіскацыю маёмасці і арышт ворагаў народу, а менавіта панскага эканома-эксплуататара. Але калі адна частка работнікаў у двары Карчэўскага падтрымала ідэю арышту, дык другая, у якой былі і сваякі нападаючых, катэгарычна была супраць. Так, слова за словам, між нападаючымі і панскімі работнікамі (у тым ліку і між роднымі і блізкімі) завязалася бойка. Атрымалася так, як казаў Янка Станкевіч пра тое, што беларусы будуць ваяваць між сабой. Найбольш заядлым абаронцам дабра ў двары Карчэўскага быў Паўлюк Картановіч па мянушцы Курашчуп.

– Бальшавіцкае быдла! – крычаў ён размахваючы віламі. – Калі будзеце забіваць пана-эканома, забівайце і мяне!

Быў Курашчуп старэйшым братам Грышкі Картановіча, найбольш актыўнага задзіры і паплечніка Сцяпана.

– Супакой брата! – звярнуўся Сцяпан да Грышкі і той спрабаваў падступіцца да Паўлюка, але той і слухаць не хацеў:

– Выблядак! – крычаў ён на брата. – Закалю, як скаціну! – і кінуўся з віламі на Грышку так, што той ледзь выкруціўся.

Сам жа панскі эканом быў вельмі рашучым і напорыстым.

– Хто сунецца першым – таго і засяку! –злосна крычаў ён на ўвесь двор і трос сякерай у паветры.

Пасля ўсяго гэтага вяскоўцы сталі сціплай кучкай і спакойна паглядалі, як работнікі ўкладвалі панскі нажытак на фурманкі.

Сцяпан, Пятро і Стрыга з Ракуцева (мянушка Коля-Камсамоля) залёталі каля грамады, заклікаючы да актыўных дзеяў:

– Што пасталі як бараны! Спалохаліся?! Яны вашу кроў пілі, нажываліся, а вы, можа, шкадуеце іх?! – падбухторваў Сцяпан.

Але людзі стаялі і панура маўчалі. Больш таго, колькі сялян выйшла з натоўпу і стала памагаць пакаваць клумкі. Тады Сцяпан і Пятро падбеглі да воза і давай скідваць клумкі на зямлю. Да Сцяпана падскочыў Паўлюк Картановіч:

– Быдляк, ты цо робіш?

І між імі завязалася звычайная бойка, і чым бы яна закончылася – невядома, калі б пляменнік Пятро не залемантаваў:

– Дзядзька Сцяпан, уцякай! – і Сцяпан, калі ўбачыў, што да яго бяжыць эканом і размахвае сякерай, тут жа спрытна перамахнуў праз плот.

Лёнька Валюк, адзін з батракоў Карчэўскага, падышоў да людзей і ціха прагаварыў:

– Пан тут быў нядаўна, казаў, што, калі каму нешта будзе патрэбным, хай ідзе ў двор і бярэ, толькі каб нічога не ламалі і не палілі...

Але нават і пасля такой прапановы бальшыня засталася стаяць на месцы, толькі некалькі чалавек, радасныя, накіраваліся былі ў панскую канюшню, але і яны спыніліся на вокрык Пятра, пляменніка Сцяпана:

– Ніхто нічога самавольна браць ня будзе! – зяпярэчыў ён – Усё мы разьмяркуем зь дзядзькам самі па хатах, каб не было крыўды.

Неўзабаве павозка, напоўненая клумкамі, выехала з двара Карчэўскага.

– Ну, што, так і стаяць будзем, бараны?! – крычаў Сцяпан. – Дабро само з рук вашых, з кішэняў вашых выцякае, а мы бу-

дзем глядзець... Можа сьлязу пусьцім?.. Загалосім: «На каго ж вы нас пакідаеце, родныя?..».

Але людзі стаялі моўчкі, і толькі, калі панская павозка загрукацела брукам, выскачыў аднекуль з-за ліпаў Коля-камсамоля з стрэльбай у руках і з крыкам: «Стаяць!» стаў страляць услед. Неўзабаве грукат заціх, і толькі тады людзі зайшлі ў двор Карчэўскага, але браць там, каб нешта надта патрэбнае, не было чаго. Сцяпан пакінуў некалькі чалавек для варты, а сам з большай групай накіраваўся ў двор Дабрынскіх.

У доме Дабрынскіх у гэты час заставаліся старая пані Марыля і дзве яе непаўналетнія дочкі Ірэна і Ліля. Сыны – Сева і Слава былі мабілізаваныя ў Войска Польскае. Жанчыны, пачуўшы нейкі шум і гоман на падворку, выйшлі з дому.

Калі сялянскі натоўп падышоў трохі бліжэй, Сцяпан гучна абвясціў:

– Іменем сялянскага рэвалюцыйнага камітэту...

Пані, калі ўбачыла нядобразычлівыя твары сялян і Сцяпана з яго «камітэтам», адразу зразумела, у чым была справа, і залямантавала на ўвесь падворак:

– А людцы ж мае добрыя, што ж я вам дрэннага зрабіла?.. Сьцяпанка, Косьця, Пуценька, я ж вас верашчакай карміла...

– А мяса не давала! – нагадаў Пуценька.

– А ці, можа, я каго абманула, а ці, можа, не заплаціла каму?.. А ці, можа, мой пакойны чалавек каму што кепскае зрабіў... А ці, можа, мае дзеці пакрыўдзілі каго?.. – працягвала лямантаваць пані.

– Чулі мы, што пані ўцякаць збіраецца, – больш далікатна пачаў Кастусь Казакевіч.

– А куды мне ўцякаць? – пані зноў залямантавала. – У гэтай зямлі чалавек мой ляжыць... Усё ад палякаў хацеў уцячы...

Уся справа была ў тым, што старога Аляксандра Дабрынскага недзе напрыканцы 1920-х гадоў пахавалі – павесіўся (іншыя казалі, што атруціўся). Што стала нагодай для такога трагічнага зыходу, ніхто толкам не ведаў. Быў ён сынам Антона Дабрынскага, царскага генерала, расейскага сенатара і тайнага саветніка цара. Антон Дабрынскі недзе пасьля 1863 году набыў сваім дзецям землі і фальваркі роду Карчэўскіх (былых паўстанцаў) у Багданоўцы, Парловай Гары і ў Лошы (недзе за Ашмяной). Казалі, што маці Аляксандра мела дэспатычны характар, была праваслаўнай і лічыла сябе «рускай», хоць у жыцці гаварыла «папросту», у доме забараняла спяваць польскія патрыятычныя песні.

Сам жа Аляксандра перад Першай сусветнай вайной быў маршалкам дваранства Ашмянскага ўезду, пасля ваяваў супраць Кайзера, меў узнагароды. Быў ён праваслаўным, меў цягу да расейскай культуры, але ў жыцці карыстаўся змешанай мовай, хоць добра ведаў і польскую, і беларускую, і расейскую.

Жонка яго, пані Марыля, была з Баліцкіх, з мясцовай беларускай акаталічанай шляхты, вельмі прыгожай і добрай была жанчынай. Нейкім асаблівым польскім патрыятызмам не вылучалася, а людзі на яе казалі: «свая пані». Перад Першай сусветнай вайной пані Марыля вучыла ў Багданоўцы дзетак пачатковай грамаце; вучыла на расейскай мове і, дзякуючы ёй, сёння некалькі дзясяткаў дарослага насельніцтва вёсак Дойневічы, Ракавічы і Мазалі ведаюць «рускія» літары і могуць добра чытаць.

У Мікалаеўскую вайну ўсе пабудовы ў Багданоўцы былі знішчанымі: што рускія салдаты разабралі на бліндажы і акопы, а што згарэла ад нямецкіх гарматаў. Пасля 1921 года сям'я вярнулася ў Багданоўку на папялішча і пустое месца. Занава трэба было будавацца і распачынаць новую гаспадарку. А тут новыя польскія ўлады нагадалі Аляксандру пра верную службу расейскаму імператару, завялі нейкія судовыя справы і паводле адной з іх ён павінен быў выплаціць вялікія грошы за быццам бы незаконна набытую яго бацькам зямлю, а тут яшчэ з'явіліся нашчадкі роду Карчэўскіх і сталі патрабаваць ад яго кампенсацыю. (Так атрымалася, што на гэтай зямлі сутыкнуліся дзеці бацькоў, якія бязлітасна між сабою ваявалі: сын рускага генерала і сын камандзіра атраду паўстанцаў). Аляксандар Дабрынскі аформіў тады пазыку ў банку, але выплаціць у час працэнту не мог. Другім палякі спісвалі такія крэдыты, але толькі не яму. А тут яшчэ асаднікі сталі шкодзіць на кожным кроку: то работнікаў пераманяць у час сезону, то рэвізію нашлюць, каб давесці, што Дабрынскі не гаспадар, што ён не здольны да аплаты крэдыту і паставіць пытанне пра канфіскацыю зямлі. І Дабрынскаму прыйшлося прадаць некалькі дзясяткаў гектараў лесу і амаль што палову зямлі, але гэтага было мала. А тут яшчэ сталі патрабаваць яго пераходу ў каталіцтва. Вярнуўся ён з Вільні аднойчы невясёлым і паведаміў сваім сумную вестку, маўляў, быў у банку, быў у судзе... і анічога – з дня на дзень павінна адбыцца частковая канфіскацыя маёмасці... Вось тады і не вытрымаў пан Аляксандра Дабрынскі... Адны казалі, што павесіўся, другія – што выпіў нейкай гадасці звечара, а пад раніцу пан ужо быў акалеўшым.

Але той факт, што пахавалі пана на закрытым родавым магільніку Карчэўскіх, а не на праваслаўным у Мястэчку, гаварыў пра свядомае самагубства.

– Чаго пан падвіс? – пыталіся людзі ў эканома.

На што той злосна адказваў:

– Ты ў папа спытайся, перада мною пан не спавядаўся!

Казалі, што ў смерці Дабрынскага вінаватымі былі яшчэ і асаднікі, якія хацелі завалодаць гэтай зямлёй.

З асаднікамі былі праблемы ў шмат якіх мясцовых паноў.

Дабрынскія не былі такімі багацеямі, каб тут можна было добра пажывіцца сялянам. Праўда, 70 гектараў зямлі, 8 кароў, 6 коней, свінні, куры, індыкі, зерне, бульба...

– А мне ад каго ўцякаць? І куды я ўцяку з непаўналетнімі дочкамі? – лямантавала пані.

– І сапраўды, анікуды яны ня дзенуцца, – разважыў Сцяпан. – Трэба будзе паставіць на ўлік запасы зярна і бульбы... Ты, Пятро, паглядзі тут, пасля раздзелім, а я з хлопцамі – у Ходзькі і Людвінова!

Колькі чалавек з Сцяпанам ускочылі на воз і пагналі каня на Крыжавыя Дарогі.

Ходзькі ад Багданоўкі былі не болей за дзве вярсты; Людвінова трохі далей. Ходзькамі называліся таму, што некалі тут была сядзіба вядомага роду Ходзькаў, з якога выйшаў не адзін выбітны чалавек. У другой палове XIX ст. сядзіба перайшла ў рукі паноў Лакуціеўскіх. Зараз там гаспадарыў пан Мечыслаў Лакуціеўскі – правая рука віленскага ваяводы.

Зямля ў Людвінова некалі належала паўстанцу Людвіку Расальскаму – адсюль і назва, а пасля некалькімі валокамі зямлі завалодаў пан Кісялеўскі.

Ехаць шыбка на возе не выпадала, бо дарога была ўся ў калдобінах і калюжынах, але, наколькі можна было, Сцяпан гнаў каня. На двары ў Лакуціеўскіх стаялі тры павозкі і нейкія людзі насілі і ўкладвалі клумкі – чуткі наконт іх ад’езду пацвердзіліся.

– Паспелі! – абрадаваўся Сцяпан, калі пад’ехалі да варотаў. Але тут раптам бабахнулі запар два стрэлы, а пасля яшчэ два. Хлопцы прытуліліся да коней, ад’ехалі ўбок і схаваліся за ліпы. Ніхто ж не думаў, што паны Лакуціеўскія пачнуць адстрэльвацца з сваіх пакояў і, такім чынам, узяць іх будзе не так проста, бо толькі ў Сцяпана і Грышкі Картановіча былі стрэльбы, а ў астатніх – сякеры і косы. Штурм адкладваўся, бо сілы былі няроўныя.

– Нічога страшнага, – гаварыў Сцяпан. – Вось-вось павінны падысьці чырвонаармейцы, а мы ім такія падарункі!.. Галоўнае – затрымаць паноў.

Але тут замест чырвонаармейцаў раптам наскочыла невялічкая група польскіх жаўнераў, відаць, з ініцыятывы аднаго з сыноў Лакуціеўскага, які служыў у Войску Польскім. І тут распачаўся сапраўдны бой, у выніку якога Сцяпан з сваімі хлопцамі вымушаны былі ўцякаць і хавацца ў лесе. Тады Сцяпан сказаў Калістрату, каб выпраг каня і скакаў у вёску па дапамогу, галоўнае, каб людзі ўзялі стрэльбы і прыехалі конна, а сам з некалькімі хлопцамі прытаіліся каля дарогі. Лакуціеўскія асабліва не спяшаліся, укладвалі нешта ў фурманкі, воддаль спакойна салдаты палілі папяросы.

Калістрат абвярнуўся даволі шыбка. Якраз Лакуціеўскія збіраліся выязджаць на двух фурманках і ў суправаджэнні групы салдатаў, сярод якіх былі свае хлопцы, мабілізаваныя тыдні два-тры таму назад у Войска Польскае. Сцяпан спрабаваў уступіць з імі ў перамовы, але хлопцы былі незгаворлівымі. А тым болей, што сярод іх былі і такія, якія вельмі падазрона глядзелі на савецкую ўладу і разам з ёю на Сцяпана. І тады Сцяпан загадаў страляць. Салдаты пачалі адстрэльвацца. Але, нягледзячы на страляніну, Лакуціеўскім удалося выехаць. Сцяпан арганізаваў пагоню, але і пагоня гэтая скончылася нічым. Дзве панскія фурманкі, кожная запрэжаная ў парку дагледжаных жарабцоў-стаеннікаў, суправаджаліся тымі ж салдатамі – страляць жа ў сваіх хлопцаў не было вялікай ахвоты. Сцяпан паслаў некалькі хлопцаў напярэймы праз Чаркасы і Чухны, маўляў, пакуль паны аб'едуць Татарскія горы, можна будзе зрабіць за Камяніцай засаду і ўзяць іх ў аблогу. Але да паноў у Мястэчку далучыліся яшчэ з добры дзесятак уланаў, і падаліся яны не на Баруны, як разлічваў Сцяпан, а на Мірклішкі. Хлопцам нічога не заставалася, як толькі пагалёкаць услед і пастраляць наўздагон. А скакаць за імі да Вільні было не разумна. Праўда, даходзілі пасля такія чуткі, што быццам бы старую пані Лакуціеўскую ці то паранілі, ці то забілі, але, як там было на самай справе, ніхто не ведаў. Яшчэ некалькі чалавек атрымалі лёгкія раненні з абодвух бакоў, хоць у сваё апраўданне ўсе казалі, што стараліся страляць у паветра.

Калі Сцяпан вярнуўся ў Багданоўку, першае, што кінулася ў вочы – гэта п'яныя Мечык і Славік. Былыя панскія батракі сядзелі на ганку панскага дому і жвава гарталі нейкую кнігу. Сцяпан куляй праляцеў каля іх – у пакоях было пуста і гола, абарвалі нават шпалеры, толькі некалькі абразоў вісела на куце і на падлозе валяліся карціны, паперы і кнігі.

– Што гэта? – спытаўся Сцяпан у батракоў.

– Не-не! Г-г-гэта, Дзядзька, ня мы... Гэта камітэтчыкі і-і... б-б-бедныя, – заікаючыся сталі тлумачыць хлопцы.

– Бедныя! – усклікнуў Сцяпан і рэзка скамандаваў. – У Ходзькі!

І коннікі паскакалі. Але і там, у Ходзьках, было такое ж самае відовішча. Нават дзьверы і ваконныя рамы паспелі вынесці за гэты кароткі час. Болей таго, Грышка Картановіч абкладаў панскі дом саломай.

– Ты што, падпаліць хочаш? – здзвіўся Сцяпан.

– Ага! – весела адказаў той. – Во агніска будзе! У Вільні ўбачаць...

Сцяпан тады саскочыў з каня і шпарка параскідаў ботамі салому:

– Што за народ! – абураўся ён. – Ім бы красьці, паліць, ламаць... А тут жа можна будзе і камуну зрабіць, і школку, ды мала што... Жыць каму можна, такое места... А калі што, хату ж перавезьці можна бліжэй да цэнтру...

– А ты кульку за гэта ня хочаш? – пазлараднічаў Грышка.

– Якую кульку? – не зразумеў адразу Сцяпан.

– Лясную і панскую – у тупаваты лобік.

– Ах вось яно што! Спалохаўся, значыцца. А калі падпаліш, дык, думаеш, не даведаюцца, хто падпаліў? Падпаліш – сам прыстрэлю! – прыстрашыў ён Грышку і больш спакойным тонам не столькі загадаў, колькі папрасіў:

– А пакуль што вазьмі каго з хлопцаў і паглядзі тут за парадкам, павартуй хату, скаціну, інвентар, пакуль супакоіцца. А заўтра раздзелім гэтае дабро паміж беднякамі.

– Наконт таго, што тут супакоіцца, я вельмі сумняваюся, – адказаў Грышка. – Мусіць, ня трэба было чапаць нам ваяводы...

І меў Грышка тады рацыю.

Анікога з паноў не застаў Сцяпан і ў Людвінова. Альбо Кісялеўскія зранку з'ехалі, альбо пачулі стрэлы ў Ходзьках і схаваліся недзе паблізу. На ўсіх панскіх пабудовах віселі амбарныя замкі, а падворкам бегалі два ваўкадавы, падымаючы брэх на ўсё наваколле. Сабакаў, вядома, застрэлілі, а ўзломваць замкі пакуль што не сталі. На ўсякі выпадак і тут Сцяпан пакінуў пяць чалавек стражы, а сам вярнуўся ў Багданоўку.

Нешта падобнае адбывалася і ў Ракуцеве, дзе Стрыгі з мазальскімі хлопцамі «аблажылі» сядзібу асадніка капітана Дэмскага. Але капітан не быў бы вайскоўцам, каб не меў зброі. Пасля кароткіх перамоваў ён устроіў такі феерверк з грымотамі і стрэламі, што нападаючыя не ведалі куды ўцякаць.

Каб гэтых паноў тады не чапалі, дык, можа, і усё добра было б! Так гаварылі і разважалі пасля многія вяскоўцы. Можа, і вайны не было б, каб Сцяпан тады не ўзбаламуціў народ, бо наступствы, якія разгортваліся далей, усякі раз раскручваліся ад гэтага моманту. Усякі раз шукаліся арганізатары, віноўнікі і ўдзельнікі гэтай расправы.

Дзень гэты быў занадта доўгім. Бывае, што дзень мільгане так, што і не заўважыш. І калі б не зробленая нейкая праца, дык і не заўважыў бы, што пражыў дзень, што прыжыў другі дзень, што пражыў жыццё.

Антось тады цэлы ранак без толку соўгаўся падворкам туды-сюды, так і нічога толкам не зрабіўшы. А якая тут можа быць праца?! Валіцца ўсякая праца з рук… І жыцця няма, бо якое ж гэта жыццё, калі цябе вось-вось прыйдуць вызваляць?… А для селяніна нічога няма больш важнага, чым вольная і спакойная праца на зямлі. Як бы там не было пры тых паляках: добра – дрэнна, але селянін звыкся ўжо, прыстасаваўся за дваццаць гадоў да ўмоваў, якія б яны не былі, і стаў наладжваць жыццё... І тут, раптам – «вызваленне»... А ты не ведаеш: ад чаго вызваленне? Ад каго вызваленне? Чаму вызваленне? Што вызваляюць? Каго вызваляюць? Навошта вызваляць?.. І што ты пасля гэтага «вызвалення» будзеш рабіць такі ўвесь «вызвалены» ад усяго?..

У той жа дзень зранку абляцела вёскі чутка пра тое, што ўжо недзе на падыходзе неперāможная Чырвоная армія. Як дарослыя, так і дзеці, пакуль не сцямнела, раз ды пораз паглядалі на розныя дарогі, бо цяжка было прадбачыць, з якога боку прыйдзе «вызваленне». Найбольш верагоднымі варыянтамі былі ўсходні (з Рымцеляў, Казароўшчыны – праз Няроўку і на Ракавічы) і паўднёвы (з Гароцькаў – праз Лоска, Слабаду, Крыўск і Ермакі). Але вызваленне магло б падысці і з паўночнага боку, гэта значыць з Мястэчка, бо ўсякія «вызваленні» і ўсялякія ўлады звычайна прыходзілі адтуль.

З нецярпеннем чакала чырвонаармейцаў група Сцяпана Андраловіча. Пасля таго, як настрашылі і паганялі трохі паноў, некалькі чалавек, найболей актыўных прыхільнікаў Саветаў і камсамолу, сабраліся ў Сцяпана – гадалі, меркавалі, якім чынам лепш арганізаваць урачыстую сустрэчу. Шмат думалі і гаварылі пра гэта ўчора вечарам. Сцяпан распавядаў пра нейкія ўстаноўкі, маўляў, брама патрэбна, сцягі, плакаты з надпісамі і вельмі добра, каб быў партрэт Сталіна. Урачыстую прамову скажа ён сам. Сёння, пакуль лёталі за

панамі, нічога такога не зрабілі і таварышы-вызваліцелі могуць пакрыўдзіцца. У сувязі з такой сітуацыяй надумалі сустрэць чырвонаармейцаў на Крыжавых Дарогах (незалежна ад таго, з якога боку яны не ехалі б, гэтыя дарогі ім не абмінуць) і прывесці іх у Багданоўку, дзе і планавалася ўрачыстая імпрэза з нагоды. У якасці нейкага прыстанішча для сустрэчы вырашана было скарыстаць нічыйную хату Карчэўскага – чым, як казаў Сцяпан, не камунарскі штаб. Пуценька арганізоўваў нешта кшталту прывітальнай брамы. Для гэтага патрэбны былі хвойкі, дошчачкі, пару слупкоў – з імі аніякай праблемы не было – у лесе былі тыя хвойкі і слупкі – праблема была толькі ў тым, што ніхто не хацеў ехаць за тымі хвойкамі. Таксама ніхто нічога слушнага не мог ані падказаць, ані дапамагчы ў тым, на чым напісаць прывітанне, пра што напісаць, як напісаць. Аблётаў тады Пуценька навакольныя вёскі ў пошуках чырвонага паркалю, але людзі, як толькі даведваліся, што паркаль патрэбны на тое, каб на ім нешта нагрэйзаць і выкінуць, не давалі. Урэшце прыйшлося напісаць чырвонай бураковай фарбай на габляванай дошцы. (Габляваныя дошкі Пуценька знайшоў у дзеда Бутрыма – той іх габляваў сабе на труну). З буракамі праблемы не было. Нягледзячы на тое, што літары скакалі, атрымалася даволі прыстойна: «Здраствуй таварышч Сталин наш вошдзь дараги». Людзі, праўда, засумляваліся ў тым, што сам Сталін прыедзе, але Пуценька супакоіў усіх і заверыў, што нават калі сам Сталін і не прыедзе, дык ён усёроўна даведаецца, як тут урачыста і душэўна яго сустракалі.

Дошку прыбілі да ліпы каля дому Карчэўскага.

Але ў той дзень, 17 верасня, вяскоўцы вызвалення свайго не дачакаліся.

У той дзень, неяк ужо пад вечар, вярнуўся з польскага астрогу Янук Дайновіч. Янук адзін час быў правай рукой Сцяпана, сябрам «Грамады» і ўваходзіў у «калечка», якое было вельмі блізкім да сацыялістычных ідэй, за што быў атрымаў каля трох гадоў астрогу. Але апошнім часам ён стаў вельмі моцна сумнявацца ў правільнасці гэтых ідэяў. І тым не менш, арыштавалі яго апошні раз за сувязь з беларускім нацыянальным рухам.

Першае пытанне, з якім кожны звяртаўся да Янука было такім:

– Адпусцілі, ці сам уцёк?..

На што Янук адказваў:

– Сталін з Гітлерам амністыю выдалі.
– Пашэнціла...
– І не кажы...

Хата Янука стаяла на водшыбе сядзібы Дабрынскага – маленькая хатка, якая некалі была спецыяльна збудаванай для панскай прыслугі, а пазней пан Дабрынскі аддаў яе (ці прадаў) Дайновічам. Дык вось, у той вечар у хатцы змясціўся добры дзясятак вяскоўцаў. Цікава было даведацца, што робіцца ў свеце ад чалавека, які пабываў у гэтым свеце і толькі што з яго вярнуўся. Але нічога такога новага Янук не сказаў. Так, вайна непазбежная, і вайна гэтая сёння пачалася: Сталін з сваім хаўруснікам Гітлерам вырашылі правесці перадзел Эўропы і свету. Заходняя Беларусь можа трапіць у сталінскую зону. Калі не сёння, дык заўтра зранку тут будуць савецкія танкі і вайскоўцы ў ботах. Вось і ўсё.

Было відаць, што Янук не меў вялікай ахвоты да гэтых гутарак, альбо давала знаць стомленасць з дарогі, альбо асцерагаўся Янук сказаць нешта такое, каб пасля зноў не апынуцца за кратамі.

У тую ноч цяжка было знайсці чалавека, які мог бы спакойна заснуць – людзі баяліся праспаць прыход Саветаў. Баяліся, што гэты прыход можа адбыцца знянацку, сярод ночы, з гвалтамі, лямантам, крыкам, галашэннямі...

Але ноч прайшла спакойна. Толькі пад самую раніцу пачуліся недзе далёка выбухі, а пасля стрэлы.

А назаўтра не паспела яшчэ развіднець, а моладзь ужо круцілася ў Багданоўцы і незразумела было, ці яны спалі дзе ў гэтую ноч, ці ноч была для іх усяночнай.

А вось людскія і панскія агароды ў гэты дзень пуставалі з раніцы доўга, а звычайна ў гэты час яны ажывалі вельмі рана – людзі выбіралі з зямлі ўжо не толькі бульбу, але і буракі, рэпу, цыбулю, часнок.

Затое прыкметна ажывала Багданоўка, праз колькі хвілін падышлі астатнія і актыў прыхільнікаў быў гатовы да сустрэчы. Воддаль стаялі некалькі чалавек і паўсюдна круціліся дзеці, якія з цікавасцю паглядалі на мясцовых актывістаў.

Напачатку незразумелы гул пачуўся з Людвінова, і дзеці гуртам кінуліся ў той бок, на Крыжавыя Дарогі. Юзік Мігановіч, падлетак, тут жа ўзляцеў на ліпу і праз хвіліну радасны закрычаў зверху:

– Танкі! На Крыжавых Дарогах!.. Павярнулі на Мястэчка!..

– А да нас? – Сцяпан, было відаць, хваляваўся.

– А да нас – не...

– Трэба нешта прыдумаць, каб завярнуць іх у Багданоўку, – прапанаваў Сцяпан і актывістыя сталі абмяркоўваць прапанову.

Неўзабаве з лесу, збо-ку Ермакоў, паказаліся нейкія падводы, якія ледзь-ледзь цягнуліся па ўхабістай і гразкай дарозе, і нехта пажартаваў:

– Саветы ідуць! Рус-кія! – і ўсе рассмяяліся.

Але, калі праз колькі хвілін за падводамі выпаўз танк, за ім яшчэ два, а пасля некалькі машынаў з прычэпленымі гарматамі і кухняй, а пасля паваліла бясконцым патопам кавалерыя, смех сам сабой заціх. Некалькі чалавек кінуліся насустрач. А калона тым часам паступова пачала расцягвацца на добрую вярсту. За кавалерыяй пайшлі падводы і пяхота. **«Пяхота не адставала ад кавалерыі».**

За тэхнікай беглі як дзетвара, так і дарослыя. Мішка Шахно, чыя хата была першай ад дарогі, бег за машынай і, радасны, прыкладваўся вуснамі да задняга борта:

– Дачакаліся, дачакаліся! – крычаў ён пры гэтым і радаваўся, як дзіця. – Нашым брацціям-вызваліцелям – наша сялянскае «Ура!».

Звалі яго ў вёсцы Булёнчыкам, так празвалі таму, што любіў гаварыць: »Пайду булёнчыка хлебану». А тут, ідучы на сустрэчу, «хлебануў» ён, відаць, не толькі булёнчыку, але і гарэлачкі.



У Ракавічах, на раскрыжаванні, калона спынілася. Пасля адзін танк, і каля дзясятка падводаў павярнулі на Багданоўку, а астатняя калона рушыла на Мястэчка. Неўзабаве першыя падводы сталі пад'язджаць да Загона, а канец хваста ўсё яшчэ быў недзе ў лесе.

Антось не думаў ісці на сустрэчу з савецкімі танкамі, а тым больш прымаць афіцыйны ўдзел у су-

стрэчы, але прыйшоў да яго Янук Дайновіч, сябра, і можа адзіны такі сябра, і ўгаварыў, маўляў, трэба падысці, калі што, збоку пастаім, паглядзім, каб ведаць што да чаго...

Ведаць што да чаго, можа, і варта было, але тут трэба яшчэ патрапіць так, каб не тарчаць там гадзінамі, чакаючы тых саветаў. Надумалі хлопцы няспешліва падыйсці ў Багданоўку, а калі трэба будзе пачакаць у Дайновіча. Але тут у падворак заляцелі меншыя Антосевы сыны – Ясік і Чэсік з крыкам:

– Тата, тата! Башлыкі ідуць!

– Якія башлыкі? – не зразумеў Антось.

– Чырвоныя! – і малыя гэтак жа шпарка зніклі з падворка.

– Бальшавікі, трэба думаць! – удакладніў Янук, – Пара ісці.

Але тут Ганька перагарадзіла ім дарогу:

– Вы анікуды ня пойдзеце! – катэгарычна заявіла яна. – Вы што, бальшавікоў ня ведаеце – паб'юць альбо пастраляюць!

– Ніхто там анікога страляць ня будзе, – спрабаваў угаварыць Янук Ганьку.

– Ня будзе?! Ты што, Янук, забыўся, што гаварылі пра Федзю Высоцкага?!. Які ўжо быў камуністы – усё ад палякаў хаваўся... У Саветы ўцёк зь сям'ёй, а там да сьценкі – і ўсю сям'ю разам зь ім...

Ганька прывяла вельмі пераканаўчы аргумент, некалькі гадоў таму пра гэты выпадак шумела ўсё Мястэчка. Федзя Высоцкі ваяваў за Саветаў у 1918 – 20-х гадах, быў камандзірам чырвонаармейскага атраду, а пасля арганізаваў ячэйку КПЗБ у Мястэчку, а пасля ўзначаліў Маладзечанскі акруговы падпольны камітэт КПЗБ, але на яго след натрапіла польская дэфензіва, і ён вымушаны быў перапраўіцца з сям'ёй ў БССР, дзе і быў абвінавачаны ў шпіянажы і застрэлены.

– Ат, ніхто ня ведае, як там было на самай справе, – засумняваўся Антось.

– Так і было, – ціха прагаварыў Янук. – Сядзеў я першы раз на Лукішках з Шыдлоўскім Валодзем з Смаргоняў, – сапраўдны беларус, актывісты ТБШ і сакратар раённага КПЗБ, – пасьля ён выйшаў, але яго арыштавалі другі раз і адправілі ў Картуз-Бярозу, а неяк, гады з два таму, ён зноў выйшаў з турмы і з цяжарнай жонкай і сям'ёй падаўся ў БССР, але пры нелегальным пераходзе мяжы ў раёне Радашковічаў быў арыштаваны НКВД і абвінавачаны ў шпіянажы. Дык вось, учора я ў Вільні знаёмага сустрэў, казаў, што расстралялі Валодзю, а жонку яго цяжарную і з малымі дзяцьмі адправілі ў Сібір. Быццам, палякі Саветам шапнулі, што Валодзя імі завербаваны,

а тым – абы страляць... Вось так было і зь Федзем Высоцкім, – Янук замоўк.

– А што!.. Дык я ж тое й кажу! Ня трэба хадзіць, – зноў заявіла Ганька.

– Трэба, ня трэба – гэта я ўжо сам вырашу, – заявіў і Антось. – А падысці, я думаю, варта – жыць пры Саветах, можа, прыйдзецца...

І такі аргумент быў не менш пераканаўчым.

А калі з Багданоўкі данесліся крыкі і шум, яны, паціху рушылі ў той бок.

Дарогай да іх далучыўся Васіль Далькевіч, Антосеў сусед:

– Можа дзе сына сустрэну, – растлумачыў ён Антосю і Януку мэту свайго паходу.

Недзе каля двух гадоў таму назад сын Васіля раптоўна знік. Напачатку ўсе падумалі, што ён, як і Сцяпан, хаваецца ад дэфензівы, але ў вёсцы ад людзей не схаваешся – людзі ведалі, дзе і хто хаваецца ў лесе. А тут... ішлі месяцы, а пра Рамана нідзе ніхто ні слухам ні духам. І тады сталі гаварыць пра тое, што ён, напэўна, уцёк у Саветы. Болей таго, сталі даходзіць чуткі, што быццам яму паверылі бальшавікі, і, што ён там недзе вельмі добра ўладкаваўся – начальнікам нейкай камісіі.

Васілю Далькевічу было за шэсцьдзесят гадоў, не болей, але выглядаў ён чалавекам нашмат старэйшым – на гадоў дзесяць-пятнаццаць пастарэў чалавек за гэтыя гады перажыванняў за сына.

Антось з Януком былі ў сяброўскіх адносінах з Далькевічамі, і, вядома, спачувалі бацькам і перажывалі за Рамана, свайго сябра дзяцінства.

– А што, ёсць надзея сустрэць Рамана? – асцярожна спытаўся Антось.

– Сцяпан неяк заікнуўся, што, маўляў, рыхтуйся да сустрэчы, можа, з салдатамі і ён прыйдзе...

Так атрымалася, што сябры падышлі ў Багданоўку як раз у той момант, калі на панскі двор заязджалі першыя падводы Чырвонай арміі. Мужчыны далучыліся да натоўпу вяскоўцаў, якія стаяў трохі на водшыбе і спакойна сталі назіраць за падзеямі.

Да натоўпу нечакана падскочыў Булёнчык і стаў абвінавачваць усіх у негасціннасці і бескультурнасці:

– Даўбні, чаго пасталі, як бараны некультурныя?! Так брацццяў сваіх не сустракаюць!

Стары Ігнась Саковіч з Няроўкі (дзед Віктося Саковіча і бацька Вальдэмара) ў адказ Булёнчыку гучна прагаварыў:

– Нешта ня бачу я тут сваіх, як ты кажаш, брацціяў...
– А твае браты, відаць, у Польшчу паўцякалі, – Булёнчык рассмяяўся. – Дастанем і там!

На такую выхадку Булёнчыка стары Саковіч анічога не адказаў. Можа для каго і не, а для Саковіча такая выхадка была вялікай абразай. Саковічы вельмі шмат працавалі, хацелі выбіцца ў людзі, разбагацець, але польскія гмінныя і павятовыя ўлады заўсёды нешта знаходзілі незаконнае ў іх працавітасці і ўсякі раз абкладвалі іх альбо вялікім штрафам, альбо непамерным падаткам. А можа, і таму, што яны былі праваслаўнымі і прынцыпова падкрэслівалі сваю беларускасць, а стары Саковіч усякі раз дэманстратыўна пляваўся, калі праходзіў каля польскага ўрадніка ці паліцэйскага.

Ігнась Саковіч – дзед, якога яшчэ трэба было пашукаць, ростам пад два метры, з шырокай сівой барадой і доўгімі белымі вусамі, хоць і быў ужо ў гадах, але меў яшчэ нейкую сілу: ён моўчкі ўзяў Булёнчыка за каўнер і пад рогат вяскоўцаў даў яму нагой пад азадак.

Булёнчык, смешна махаючы рукамі, зарыўся носам у шырокую балоцістую каляіну, толькі што пракладзеную гусяніцамі танка. Уставаў ён страшна абураны пад рогат вяскоўцаў.

– Ты ў мяне гэтае балота есці будзеш! – крычаў ён Саковічу, выціраючы твар, сарочку і порткі, але той ужо не звяртаў на яго аніякай увагі.

А «брацці» з усходу, між іншым, вельмі здзівілі вяскоўцаў – сярод іх рэдка траплялiся чырвонаармейцы з славянскім аблiччам: амаль што ўва ўсіх чорныя, як смоль, галовы, смуглыя і скулаватыя твары з шыракаватым носам і вузкімі, раскосымі вачыма, якія глядзелі неяк холадна і не па-брацку.

– Чарговае нашэсце татара-манголаў, дый толькі, – пажартаваў Янук Дайновіч, але жарт не выклікаў аніякай рэакцыі, толькі Ян Сакалоўскі дадаў з сумам:

– Такім толькі загадай, дык яны кожнага да сценкі паставяць...

Было добра відаць, як да падводаў накіравалася афіцыйная група сустракаючых на чале з Сцяпанам. Некалькі ваенных саскочылі з коней і пайшлі насустрач. Дзетвара, шчаслівая, бегла за танкам, які цягнуў здаравенную гармату, а калі ён спыніўся, да танка кінуліся дарослыя: нехта мацаў рукамі бронь, нехта, выціраючы слёзы, яе цалаваў. Антось таксама пасунуўся быў да танка – хацеў разглядзець яго зблізку, бо раней такой бляшанкі бачыць не прыходзілася, але на палове

дарогі спыніўся – уразіў яго не столькі танк, колькі танкісты. Напалову вылезшы з вежы, ён болей быў падобны на негра ў шлеме, толькі вочы блішчалі нейкім задзірлівым бляскам. Танкісты спакойна назіраў за тым, як людзі цмокалі абляпаную балотам браню, а пасля па-заліхвацку цвыркнуў праз зубы слінай у іх бок і з нейкай агідай раптам прагаварыў: «Нацешыцеся яшчэ, нацешыцеся!..» і схаваўся ў вежы.

На фоне шэрай і прыпыленай масы салдатаў заўважана вылучаўся камандзір: арліны позірк, закінутая на патыліцу фуражка з кукардай і чырвонай пяцікутнай зоркай, мундзір цёмназялёнага колеру і сіняе галіфэ з чырвонымі лампасамі – усёроўна, як у Сталіна. Седзячы на кані, ён абыякава пацісну ў працягнутыя рукі Сцяпана і Пуценькі, і нешта стаў гаварыць ім.

Сустрэча ж адбывалася чын чынам: вышываны ручнік, хлеб, соль, кветкі, прывітальныя прамовы, крыкі «ура!». Пуценька даводзіў камандзіру пра тое, як цяжка было рабіць прывітальную браму, а з другога боку Сцяпан цікавіўся здароўем таварыша Сталіна. Але камандзір атрада, здавалася, анікога не слухаў, ён тут жа абвясціў:

– Не будзем ждаць астатніх салдатаў, у нас мала времени і много дел.

– Таварышы! – усклікнуў Сцяпан і ўскочыў на танк. – Таварышы! Адкрываем урачысты мітынг з нагоды нашага вызвалення! Нарэшце мы дачакаліся нашага шчасця! Слава нашым вызваліцелям! Ура!

– Ура! – закрычалі актывістыя, дзеці і запляскалі ў далоні.

Група вяскоўцаў, сярод якіх былі і Антось з Януком, такога энтузіязму з крыкамі і рукапляскамі не праяўляла.

– А зараз дамо слова камандзіру слаўнай Чырвонай Рабоча-Сялянскай арміі! Прашу! – крычаў Сцяпан.

Камандзір дастаў з нагруднай кішэні шматок паперы і стаў чытаць:

– Я очень утешаны тем, что с высоты этой боевой лошади, как великий Ленин с высоты броневика, должен вам абъявить свои сеньтябрьские тезисы. Во-первых, в данном случае речь идёт об освободительном походе Красной Армии. Кто будет трактовать эти события как-то иначе, тот может стать потенциальным врагом социалистической революции и делов великих Ленина-Сталина!..

Тут камандзір адарваўся ад сваёй паперы і акінуў арліным позіркам сабраўшыхся.

Людзі насцярожана маўчалі.

– Эт-то – раз! – камандзір левай рукой дэманстратыўна загнуў палец правай рукі.

– От сегоднешнего дня абъявляю для вас Советскую власть, потому что с сегоднешнего дня о вас будет заботиться могучая, кипучая Коммунистическая партия под руководством великого товарища Сталина! Эт-то – два! – тут ён зноў кінуў свой арліны позірк у натоўп і дадаў. – Бурные аплодисменты, переходящие в овации...

– Ура! – першым закрычаў Сцяпан і радасна запляскаў у далоні; яго тут жа падтрымалі прыхільнікі і аматары крыку.

– Все ваши деревни и прилегающие территории с сельхозугодьями присоединяю к Беларусской советской социалистической республики, или скорочено БССР! Эт-то – три!

– Ура! – на гэты раз усіх перакрычаў Пуценька.

– Призначаю временным советским начальником прилегающих советских деревень Степана... как твоя фамилия?.. Ага, Андрияновича! Эт-то – четыре!

– Ура! Ура! Ура! – крычала група Сцяпана.

– А его временным советским заместителем призначаю Путеньку! Эт-то – пять! – камандзір загнуў апошні вялікі палец на руцэ і паказаў кулак.

– Ура! Ура! Ура! – крычаў амаль што адзін Пуценька, за выняткам некалькіх жаночых і дзіцячых галасоў.

– Пусть этот день будет первым днём существования вашей коммуны, которую, есть мнение, возглавят Степан и Путенька и в которую, есть мнение, войдуть лучшие коммунары из лучших представителей от народа! Эт-то – шесть! – камандзір стаў загібаць пальцы на левай руцэ. – Ура!

– Ура-а-а! – прагучала некалькі галасоў.

– Слава Вялікаму Сталіну! – выкрыкнуў камандзір.

– Ура-а-а-а! Ура-а-а-а! Ура-а-а-а! – трохразовым рыкам праляцела салдацкае «ура-а-а-а!» над наваколлем.

У адказ на гэта гракі ў векавых ліпах паднялі такі гвалт, што колькі хвілінаў трэба было чакаць, пакуль яны супакояцца.

– А сейчас, всех вас приглашаю на очень торжественное собрание в Местечко по этому же поводу! Кто желает, айда с нами! Эт-то – сем! – працягваў крычаць камандзір.

– Ура-а-а!

– Даю на сборы десять минут! На этом политический митинг па причине освобождения подневоленых народов от польского фашистско-буржуазного иго прошу считать закрытым! Эт-то – восем!

– Хвіліну! – пракрычаў Сцяпан. – І я запрашаю ўсіх прысутных на ўрачысты сход у Мястэчка – я там буду выступаць...

– Эт-та дзевяць! – гучна прагаварыў нехта з прысутных.

– Ура! Ура-а-а! – крычалі маладыя і гарластыя актывістыя, відаць, трохі збянтэжаныя тым, што так мала далі магчымасці пакрычаць «ура».

Калі трохі прыціхла, Ігнась Саковіч выйшаў з натоўпу наперад і, падымаючы, як школьнік, руку ўверх, нясмела запытаўся:

– А ці можна, пан камісар, пытаньне задаць?

– Какие ещё пытаньні! – камандзір незадаволена махнуў рукой. – Здесь всё понятно... Чево тебе?

– Ціха! – супакойваў народ Сцяпан.

– Дык, вось, а ці праўда, што ў вас есьці няма чаго?

– Эт-та дзесяць! – гучна прагаварыў усё той жа голас...

Сцяпан падыйшоў бліжэй да камандзіра і, відаць, пераклаў яму словы Саковіча.

– Глупости говоришь, товарищ, бред собачий, ты посмотри на бойцов, разве они подобны на тех, кому есть нечего?!.

«Байцы», хоць і мала былі падобнымі на сваіх «малодшых» братоў-беларусаў сваёй смуглатой, але выглядалі так сабе.

– А каўбасы ў вас ёсць? – выкрыкнуў нехта з натоўпу.

– Што за вопросы, конечно!

– А апельсіны?

– А бутэрброты?

– А как же!

– А Амстэрдам, Грэта Гарба, Карлавы Вары таксама ёсьць? – на гэты раз пытанне задаў Ян Сакалоўскі – геаграфію ён ведаў нядрэнна.

– О, сколько хочеш... И амстэр дамаў, и этих грэтаў, и вараў, и даже путы и броды!.. Мы их на фабриках делаем!..

– Што за пытаньні ў вас?! – абурыўся Сцяпан. – Вы нармальныя пытаньні задавайце! А калі не, дык усё на гэтым!

– Яшчэ адно пытаньне можна? – выкрыкнуў Янук Дайновіч.

– Давай, апошняе! – дазволіў Сцяпан.

– Я чалавек малапісьменны, – распачаў Янук здалёку, – хоць ўвесь сьвет аб'ездзіў: быў два разы ў Бяргалішках, у Маладэчане раз і два разы на Лукішках...

– Лукишки – это хорошо!.. Короче! – перабіў камандзір.

– Дык вось, у мяне пытаньне, – спакойна працягваў Дайновіч. – Хто такія камунары? Што, яны будуць хадзіць і пы-

таць у кожнага: каму нары? каму нары? Як гэта на Лукішках было?! Бо Пуценька, які ж ён намесьнік, ён нічога рабіць ня ўмее! Я яго намесьнікам конюха не прызначыў бы! А тут… камунары…

– Эт-та дзесяць! – гучна прагаварыў усё той жа голас...

–Дык жа дзесяць ужо было! – нехта паправіў з натоўпу.

– І за гэта таксама дзесяць могуць даць…

Навокал пачуўся шум, смех і іншыя выкрыкі. Камандзір хацеў нешта сказаць, а пасля зноў махнуў рукой, на гэты раз салдатам, і тыя заспявалі «Інтэрнацыянал» і, магчыма, словамі «Кто был ничем, тот станет всем» пераканалі не толькі Янука, але і іншых у тым, што прызначэнне Пуценькі мае рэвалюцыйную рацыю.

Дарэчы, у час песні камандзір паклікаў пальцам да сябе Пуценьку, даў яму блакнот, аловак і нешта пры гэтым прашаптаў яму на вуха. Пуценька адышоўся трохі ў бок і нешта стаў запісваць у той блакноцік.

А пасля песні камандзір скамандаваў «Вольно! Перекур двадцать минут! Разойтись!» и салдаты хуценька разышліся на перакур.

Перакурам гэта, праўда, назваць было нельга – салдаты падыходзілі да каго-небудзь з мясцовых і ціха пыталіся: «А у вас не будет что перекусить?» і па два-тры чалавекі хуценька адыходзілі ўбок бліжэйшых хатаў.

Сцяпан з камандзірам і яшчэ некалькімі чырвонаармейцамі шпарка накіраваліся ўбок панскай канюшні. Да іх падбег Васіль Далькевіч і звярнуўся да камандзіра з пытаннем наконт сына. Камандзір пакруціў галавой, маўляў, не бачыў, не чуў і накіраваў Далькевіча да салдатаў, можа хто з іх дзе сутыкаўся з сынам, але і тыя гэтаксама круцілі галовамі на яго запыт.

Антось і браты Дайновічы стаялі трохі збоку і спакойна сузіралі працэс вызвалення. Неўзабаве да іх падышлі два параўнальна маладыя салдаты і пацікавіліся наконт «перакусіць». Антось сказаў, што далекавата ісці, амаль каля вярсты, калі паспееце, дык пайшлі, але чырвонаармейцы ісці адмовіліся. Дайновічы не маглі запрасіць у хату, бо ў хаце ляжала хворая маці, але Антук сказаў, што, калі яны не супраць, можа вынесці па скрылачку вэндзанай сланіны. Чырвонаармейцы, было відаць, не зразумелі пра што ідзе гутарка і папрасілі «закурыць». Антук пайшоў за сланінай, а Янук прапанаваў ім сваю табакерку – круглую бляшанку з-пад халвы і акуратна складзены аркуш газеты. Хлопцы скруцілі самакруткі, зацягнуліся і адзін з іх загаварыў:

– Мы вам принесли счастье, свабоду и равенство!

– А што такое – шчасце? – раптам спытаўся Янук.

– Это когда все свободны и равны! – адказаў салдат.

– А свабодны ад чаго? – зноў спытаўся Янук.

– От всего!

– Ага-а-а! – шматзначна праспяваў Янук. – Ты чуў, Антось, ад усяго свабодныя: ад зямлі, ад хаты, ад гаспадаркі, ад падаткаў...

– Ого! – толькі і ўсклікнуў Антось.

– Вот именно! – самазадаволена пацвердзіў салдат, пускаючы дым калечкамі.

– А што значыць «равенство»? – на гэты раз спытаўся Антось.

– А то, что все будут равны!

– Усе будуць багатымі? – цікавіўся Антось.

– Нет, равны и счастливы! Што вы до меня прыстали? – салдат пачаў нерваваца.

– Сынок, Бог лесу не параўнаў, а вы хочаце людзей параўнаць, – Антось толькі пакачаў галавой.

– Какой лес – мы его высечем! Какой бог – нету бога!.. А ты чё – контра? Да ў нас есть приказ! – і салдат шпарка стаў здымаць з пляча вінтоўку. – За всякие контрреволюционные выступления расстрельвать на месте...

– Да ты што, салдат! – спрабаваў спыніць гарачага чырвонаармейца Янук, але той ужо лязгаў затворам.

На шчасце Антося, праходзілі той хвілінай побач Сцяпан з камандзірам. Камандзір вёў за вобраць лепшага панскага стаенніка. За імі шлі некалькі салдатаў, якія таксама набылі сабе лепшы «транспарт». Сцяпан нешта шапнуў камандзіру, і той уважліва паглядзеў на Антося: трохі прыгорбленыя плечы, мультанавая сарочка, зношаная даматканая світка, стаптаныя чаравікі.

– Да брось ты это дело, солдат, – спакойна прагаварыў камандзір. – Ты што, не видишь, что перед тобою обсолютно несознательный элемент, а не сознательная контра…

– Так он, товарищ красный камандзир, неправильные вопросы задаёт, сволачь! – пераконваў камандзіра салдат.

– Я сказал, отставить! – паўтарыў «красны» камандзір. – Сейчас не время... А то, что задаёт неправильные вопросы – это недаработка местного актива....

– Тваё счастье! – прагаварыў салдат і закінуў вінтоўку за плечы.

– Ага, вось яно што, – кіўнуў галавой Антось. – Цяпер я сапраўды разумею, што такое па-вашаму шчасьце...

Антось, як не дзіўна, быў вельмі спакойны.

– То-та ж! – зазначыў салдат і накінуўся на сланініну, якую толькі што паднёс Антук.

– У яго добры конь ёсьць, – закруціўся раптам Пуценька каля камандзіра, паказваючы пальцам на Антося. – Я ведаю...Конь добра цягне...

Але камандзіру, відаць, Антосеў конь быў ужо непатрэбным.

– А яшчэ, ён шапкі не здымаў, калі сьпявалі «Інтэрнацыянал» – у мяне запісана, – і Пуценька паказаў блакноцік.

– А вот с этим, товарищи, надо будет разбираться отдельно... со всеми... Имейте ввиду! – камандзір спрытна ўскочыў вярхом на свайго новага каня і закрычаў:

– Стройся! В калону па четыре становись! – і салдаты, нахаду, хто жуючы, хто палячы махорку, не спяшаючыся сталі займаць месца ў шарэнгах.

– Шагом марш! Запевай!

«Смела мы в бой пойдём За власть Советов....».

Салдаты, якія сядзелі на павозках і танку, памахалі сцягамі і стрэльбамі на развітанне. У адказ некаторыя махалі ўслед салдатам шапкамі, рукамі і белымі хустачкамі. Стась Шахно крычаў, што «мы вас будзем ажыдаць». Старая Андраловічыха, маці Сцяпана, шаптала малітву: «Сьцеражы вас, сыночкі, Божа» і хрысцілася ўслед калоне. Група дзяцей і камсамольцаў доўга бегла за калонай, амаль што да Крыжавых Дарог. А там, тым часам, калона вызваліцелей павярнула на Вавукі.

... І как один умрём В борьбе за это...

– Куды гэта яны, бедненькія? – з нейкім спачуваннем прагаварыла Зіначка, маладая і прыгожая вясковая актывістка, камсамолка-падпольшчыца з падмаляванымі, відаць, бураком, зыркімі чырвонымі губамі.

– Не дайшло? У песьні сказана – паміраць за гэта! – адказала ёй Ніна Тытуш, другая актывістка.

– Дык што ж гэта за ўласць такая, за якую трэба ўсім паміраць? – здзівілася Зінка.

– Ну, усім-ня ўсім... Некаму ж трэба,– ціха адказала маці Сцяпана.

– На Лыткаўшчыну яны, відаць, даліся! – умяшаўся ў гутарку жанчын Юстын Буткевіч. – Там шмат такіх як ты!

Дзяўчына фыркнула, пакруціла пальцам каля скроні і пайшла ў дом.

– Чым губы фарбаваць, ты лепш спадніцу памыла б! – кінуў ёй услед Юстын.

– У мястэчку яны будуць доўга абвяшчаць савецкую ўладу, – з відам знатака заявіў стары Ігнась Саковіч. – Пасьля ў Баруны паедуць, там у базыльянскіх мурох казармы зробяць, так заўсёды было.

Увогуле, гэтае Чырвонае войска здзівіла ўсіх сваім узбраеннем, асабліва рускімі штыкамі, якія ледзь не ў кожнага савецкага пехацінца былі прывязаныя да вінтовак вяровачкамі. Тут жа адзначылі, што нават у рускай арміі кампаніі Мікалаеўскай вайны 1914 – 1918 гг. такога «прагрэсу» не назіралася. Хоць і гэтае войска вельмі і вельмі нагадвала рускую армію 1914 года: такі ж говар, такія ж манеры і замашкі, і тая ж пагарда да людзей, толькі тыя, здаецца, былі болей тактоўнымі, болей культурнымі ці што?.. Тыя, калі што якое было не так, не спяшаліся да сценкі ставіць, як гэтыя.

Янук Дайновіч угаворваў Антося падскочыць у Мястэчка на мітынг, але Антось не паехаў, маўляў, тут хоць Сцяпан заступіўся, а там, калі што якое, дык не будзе каму. А, з другога боку, чаго было ехаць, – і так усё было зразумелым: скончылася адно панаванне панскае і адных паноў, і пачынаецца другое, народнае, і другіх – выхадцаў з народу. Ані Янук, ані Антось не належалі да першых і, з усяго відаць, не будуць належаць і да другіх – парадокса нейкая.

Не паехаў Антось у Мястэчка і дарма. Пасля столькі было гутаркі, абмеркаванняў, пераказаў таго, што там адбывалася на мітынгу. Увогуле, гісторыя гэта з часам стала абрастаць рознымі чуткамі і легендамі. Але той, хто там быў, не стане нешта выдумляць такое, чаго там не было – якая яму ад гэтага карысць? А тое, што адбывалася ў Мястэчку, прыкладна, выглядала так:

Сабралася недзе каля двух тысяч чалавек, праўда, вельмі шмат было салдатаў, і гэта, нягледзячы на тое, што асноўныя часткі чырвонаармейцаў пайшлі на Ашмяны і «браць Вільню». Даклад пра міжнароднае становішча чытаў генерал, палітрук Беларускага фронту т. Міхцін. Казаў гэты таварыш, што становішча ў Саветаў зараз спрыяе таму, каб ўсё становішча ў Еўропе і Азіі належала ім. Чырвоная Армія распачала свой вызвольны паход так, што пяхота не адстае ад артылерыі (тут гучнае салдацкае «ур-р-а-а!» і рукапляскі, быццам артылерыя, на нейкі момант заглушылі прамоўцу) і закончыць свой паход толькі тады, – працягваў генерал, – калі апошні буржуй і прыгнятальнік працоўнага народу будзе знішчаны пад мудрым кіраўніцтвам вялікага Сталіна. Пры тым, як толькі прамоўца згадваў Сталіна і Молатава, альбо, калі гаварыў такія словы,

як «наша камуністычная партыя», «наша непераможная Чырвоная армія», «наш вялікі савецкі ўрад», яго прарывалі салдаты цягучымі крыкамі «ур-р-а-а!» і доўгімі рукаляскамі. Людзі, падазрона паглядаючы адзін на аднаго, таксама крычалі і пляскалі ў далоні, але без асаблівай радасці. Гаварыў гэты генерал і пра тое, што Савецкі Саюз працягнуў братэрскую руку дапамогі беларускаму і польскаму народу ў іх барацьбе супраць прыгнятальнікаў і буржуяў.

– Зразумейце правільна, – казаў савецкі генерал. – Рабоча-сялянская Чырвоная Армія па загаду Савецкага ураду, Вялікага Сталіна (бурныя авацыі) выступіла ў гэты вызвольны паход з мэтай выратавання беларусаў і ўкраінцаў...

– А нас ад каго ратавалі? – выкрыкнуў нехта з натоўпу, але генерал ігнараваў рэпліку і працягваў далей:

– Наш паход, ні ў якім разе, катэгарычна нельга трактаваць, як акупацыю заходніх земляў, альбо ваенны паход супраць Польшчы... Наш паход вызваліцельны ў адносінах да беларускага народу і міратворчы ў адносінах да палякаў. Мы ідзём на дапамогу польскаму народу ў яго няроўнай барацьбе з Германіяй... І разам з тым, мы, з Вялікай Германіяй адновім ў Польшчы парадак і супакой, дапаможам арганізаваць дзяржаўныя структуры Польшчы, зробім народную ўладу ў Польшчы…

Праўда, гэтыя словы не зусім супадалі з рэчаіснасцю: якраз у гэты момант праз мястэчка дэманстратыўна прагналі групу раззброеных польскіх памежнікаў, відаць, рэшткі корпуса аховы пагранічча. Болей за ўсё ўразіла тое, што памежнікі гэтыя былі без верхняга адзення, толькі ў белых споднях і вайсковых фуражках, што вельмі цешыла чырвонаармейцаў. У мястэчку ім паказалі дарогу на Варшаву і, быццам, адпусцілі, але формы не вярнулі.

– А цяпер слухай загад камандуючага войскамі Беларускага фронту таварыша генерала Кавалёва, – працягваў савецкі палітрук. – Пункт першы: «Ва ўсіх гарадах на тэрыторыі, што была занята войскамі Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі, да сфарміравання органаў улады стварыць Часовыя ўпраўленні з прадстаўнікоў Чырвонай Арміі і мясцовага насельніцтва, на якія ўскласці кіраўніцтва адміністрацыяй, гаспадарчай і культурна-асветніцкай дзейнасцю ў гэтых гарадах; пункт другі: загадваю Часовым упраўленням тэрмінова прывесці ў дзеянне ўсе прадпрыемствы і ўстановы, што павінны абслугоўваць насельніцтва. Абавязаць уладальнікаў тэрмінова адкрыць для нармальнай працы: магазіны, хлебапякарні, лазні, кінатэатры

і г. д; пукт трэці: заклікаю насельніцтва дапамагаць Часовым упраўленням, садзейнічаць у правядзенні запланаваных імі мерапрыемстваў...».

Пасля дакладу т. Міхціна пачаліся выступы. Старшынстваваў на сходзе мясцовы актывісты Лёва Калман. Напачатку ён сам сказаў колькі словаў радасці з нагоды доўгачаканага вызвалення і даў слова рабочаму-клёпачніку Саладкевічу (бацька яго быў родам з Мікулеўшчыны). Гаварыў клёпачнік прыкладна так: «Нашай радасьці няма межаў. Мы першы раз пасьля доўгага панскага гнёту сабраліся самі вырашыць пытаньні свайго жыцьця... І дзякуй за гэта камуністычнай партыі Савецкага Саюзу і вялікаму, дарагому таварышу Сталіну і таварышу Молатаву...». Пасля гэтага зноў рукапляскі і доўгае «ура-а-а-а!» Пасля Лёва Калман даў слова беднаму селяніну, але выдатнаму актывісту і змагару з польскай мелкай буржуазіяй з вёскі Ракавічы Сцяпану Андраловічу. Дзякаваў Сцяпан таварышу Сталіну і кампартыі, дзякаваў за тое, што менавіта яны прынеслі беларускаму народу свабоду і магчымасць жыць і свабодна працаваць у адной краіне – Беларусі. Пасля нейкая бядлячка Феня прачытала па паперцы: «Мы ўсе як адзін просім далучыць нас да Савецкай Беларусі, да непераможнага Савецкага Саюзу, дзе пад кіраўніцтвам бальшавіцкай партыі і любімага таварыша Сталіна (бурныя авацыі) будзем будаваць шчасьлівае жыцьцё...». Пасля яшчэ некалькі жадаючых, без аніякага прадстаўлення слова, залазілі на трыбуну і крычалі пра тое, як яны і ўвесь беларускі народ удзячныя таварышу Сталіну.




У Мястэчку, трэба сказаць, болей было радасці, чым у Багданоўцы.

Так, на адным танку маладзенькі чырвонаармеец раздаваў жадаючым савецкія газеты – па адной газеце ў рукі. І трэба сказаць, што такая раздача была вельмі актыўнай: за газетамі выстраілася чарга чалавек з дваццаць, стаялі і дарослыя і дзеці. На гэты факт нават т. Міхцін звярнуў увагу і пацешыўся тым, які вялікі інтарэс праяўляе мясцовае насельніцтва да свабоднага слова савецкай улады. Але тут газеты закончыліся як раз на чарзе дзеда Грынкевіча з Мястэчка.

– Паслухай, сынок, можа там дзе знойдзеш, хоць адну газэтку! – прасіўся дзед. – Цяжка без газэты…

– Нет, батя, всё… халява окончилась! – адказваў яму чырвонаармеец.

– Товарищ солдат, найдите дедушку газетку, постарайтесь, видите ли, как он к знаниям стремится, найдите, – тут ужо не вытрамаў сам т. Міхцін і заступіўся за дзеда.

Дзед Грынкевіч, атрымаўшы такую падтрымку, аж павесялеў:

– Знайдзі, сынок, знайдзі, а то… – тут дзед павярнуўся да т. Міхціна і прадоўжыў сваю радасць – А то цяжка без газэты – надаела ўжо з лапухамі ва ўборную хадзіць…

У Мястэчку, праўда, было болей такіх, вясёлых і падобных на ракаўскага Булёнчыка. Нездарма Ізя Шнэер хадзіў ад адной кучкі салдатаў ці цывільных да другой і нешта ім прапаноўваў «з-пад палы».

Толя Страшкевіч – мясцовы пралетарый-ганчар, шчаслівы і радасны, нёс партрэт Сталіна і гучна спяваў: »Ад веку мы спалі, ды нас разбудзілі…». Добра спяваў. Мала таго, пры гэтым прытанцоўваў і лез цалавацца з усімі, бо быў трохі «наступіўшы на корак». Усё было б добра, калі б ён ненарокам не паваліўся і не выпусціў з рук партрэт Сталіна. Паляцеў той партрэт у лужу… Нехта засмяяўся… А тут салдаты, генерал, начальства – камуністыя і ўсе бачылі, як падымаў ён партрэт той, як з вусоў вялікага правадыра сцякала брудная вада… Тут нехта з новага начальства вынес прысуд Страшкевічу: «Как смел, сволачь!.. Уронил честь, ум, совесть и достоинство всего советского народа и Коммунистической партии!». Чырвонаармейцы хапілі беднага Страшкевіча і ў замак XIV стагоддзя – лепшага месца для „экзэкуцыі” салдаты, зразумела, знайсці не маглі. Праз колькі хвілін апомніўся і сам Страшкевіч – хмель, як рукой зняло, калі зразумеў, што прачнуўся ён адвеку, відаць, не ў час. Не ў час, відаць, ён і заспяваў. А калі зразумеў, куды яго валокам цягнуць салдаты, стаў прасіцца і крычаць, маўляў, ён за здароўе таварыша Сталіна выпіў, хто яму забароніць выпіць за любімага правадыра, а што так атрымалася, ну паслізнуўся, ну з кім не бывае, даруйце, таварышы. А калі яго паставілі да каменнай замкавай вежы і малады афіцэр закамандаваў салдатам „Цэлься!”, вакол іх залёталі і загаласілі нейкія бабы, пры сваяцтву, відаць, сталі збірацца людзі і ўвогуле пачалася нейкая трывожная мітусня. І тады генерал даў загад „Отставить», і сказаў пры гэтым, што «не будем омрачать этим нелепым случаем этово торжествен-

ного момента, потом разберёмся... А сейчас надо веселиться и радоваться...».

Апошнія словы людзі зразумелі літаральна.

У Мястэчку было некалькі крамаў і некалькі манапалькаў, якія належалі жыдам. Гандлявалі яны, як прадуктамі, так і рознымі рэчамі, у асноўным адзеннем, абуткам і гаспадарчымі прыладамі. Жыды не лічылі сябе вялікімі панамі і ад новай улады не ўцякалі. Толькі ў гэтыя трывожныя дні зачынілі свае крамы з разлікам на тое, што з дня на дзень цэны могуць пад-




скочыць у некалькі разоў, асабліва на такія тавары, як запалкі і мыла. Пасля таго, як мітынг быў закончаны, шмат людзей, у тым ліку і салдатаў, сабралася каля манапалькі, якая гандлявала віном і гарэлкай, іншыя – каля другіх крамаў. Некаторыя абураліся:

– Такой праздник!..

– Ага-ага! Такое сьвята!..

– А здесь с братьями...

– З таварышамі не чаркануцца...

Чырвоныя камандзіры здагадваліся, чым гэта ўсё можа скончыцца, але толькі што прызначаны імі ў якасці часовага старшыні ўправы таварыш Лёва Калман спакойна разважыў.

– Я нічога такога ня бачу ў тым, калі нашыя мясцовыя нэпманы адчыняць свае лавачкі, бо паводле папярэдняй дамоўленасьці зь імі, яны павінны былі гэта зрабіць.

– Нас это волнует меньше всего, – прагаварыў камандзір. – Солдатам строжайше запрещено заходить в магазины и что-

либо покупать. У нас, в России, всё есть... Однако допускать беспорядков нельзя, а они могут возникнуть...

Было вырашана адшукаць Шнэера, Рабіновіча, Абрамовіча і іншых лавачнікаў і цывілізаваным парадкам адчыніць крамы.

Лавачнікі альбо нехта з іх сем'яў круціліся сярод людзей, навастрыўшы вушы, і праблем з іх пошукамі не было. Крамы, у тым ліку і манаполька, адчыніліся хутка. І тут распачалося. Напачатку местачкоўцы стварылі даўку каля прылаўка, а пасля неўпрыкметку сталі падыходзіць салдаты. Пад даўкай узброеных людзей местачкоўцы імгненна былі адкінутыя ў канец чаргі. Салдаты ж хапалі ўсё падрад, адны за нешта плацілі савецкімі рублямі, а другія, дык і так, пагражаючы рэвальверам, кулаком, турмой і Сібірам, пхнулі ў запазухі, кішэні і ахапкамі выносілі адрэзкі тканіны, абутак, адзенне і іншы дробязны тавар. Вельмі здзівілі, асабліва жанчынаў, тры чырвонаармейцы, якія трымалі ў руках толькі што вынесеныя з лаўкі жаночыя станікі. Адзін з салдатаў прымяраў станік да каленкаў, другі – да сваіх грудзей, а трэці павязаў станікам галаву і так хадзіў па мястэчку.

У хуткім часе ўзнікла чарга каля будынку пошты. Пошта таксама некалькі дзён не працавала, а тут адшукалі былую паштарку, якая павінна была дапамагаць салдатам зашываць ў каробкі, мяшкі, бандэролі «дабро», і пісаць адрасы амаль што ўва ўсе гарады і вобласці вялікага і магутнага Савецкага Саюза, у якім «всё есть» і дзе ўсе былі роўныя і шчаслівыя. Такім чынам была наладжана вайсковая палявая пошта, а неўзабаве ўвесь тавар быў загружаны ў парожнюю грузавую машыну і пасылкі з дабром былі адпраўлены на чыгуначную станцыю ў Смаргоні.

* * *

Толькі некалькі чалавек не прымалі ўдзелу ў гэтым гандлёвым гармідары і вылучаліся на фоне астатніх іншай заклапочанасцю. Васіль Далькевіч з Дойневічаў хадзіў па Мястэчку ад адной кучкі чырвонаармейцаў да другой і ўсё распытваў пра сына, але салдаты безнадзейна пацiскалі плячыма і круцілі галовамі ў адказ. Абнадзеяў Далькевіча трохі генерал Міхцін, які запісаў прозвішча ў свой нататнік і паабяцаў разабрацца.

Другім заклапочаным быў малады савецкі сяржанцік, які сабраў вакол сябе групу местачковай моладзі і досыць жвава расказваў пра тое, як добра ім жывецца ў СССР, маўляў, папяросы танныя, гарэлка – капейкі, а на працы цэлы дзень грушы

акалачваюць... Праўда глядзеўся гэты «вызваліцель» у сваёй фуфайцы (ватніку) сярод добра і модна адзетай моладзі неяк па-жабрацку бедна, але яго гэта аніскалькі не бянтэжыла – ён адчуваў сябе вызваліцелям і пераможцам.

– Ну, чё, Дуся! – весела крычаў ён, – разрешите пригласить! – і нахабна хапаў дзяўчыну за пояс.

– Я ня Дуся, а Зіна, – адказала Зінка з Мазалёў і спрытна выкруцілася з-пад рукі чырвонаармейца.

– Эх, Дуся, Дуся, Дуся, жыву я і люблюся, – заспяваў сяржанцік і кінуўся быў за другой дзяўчынай, але тая паднялa такі піск, што ўхажору прыйшлося самому ўцякаць. Пасля яшчэ можна было пачуць «Дусю» каля касцёла, дзе стаяла кучка болей сур'ёзных дзяўчатаў і жанчынаў, але і там, відаць, не знайшоў камандзір сваю Дусю, бо неўзабаве яго можна было ўбачыць каля замка. Ён самотна сядзеў на замкавым камяні, на якім, магчыма, некалі сядзелі вялікія князі літоўскія Ягайла ці Вітаўт, і пісаў ліст дадому:

«*Привет с Западной Белоруссии! Нашей Красной Армии было поручено задание, чтобы освободить Украинский и Белорусский народы от панского гнёта, под которым народ находился 20 лет. И взять его подзащиту, так как Польское правительство при первом столкновении с немцем не смогло защитить своё государство. Польское правительство обанкротилось и разбежалось, оставив людей на произвол судьбы. На нашу долю выпало счастье дать помощь этому народу и взять его под защиту – освободить от гнёта польских*



*панов и офицеров. Красная Армия выполнила эту задачу с честью. Освободили народ навсегда, которые были обречены на смерть и голод. Присоединили Западную Белоруссию к советской Белоруссии и установили власть рабочих и крестьян – власть советов.*

*Жизнь наша проходит пока мирно вобщем нормально, но о международной обстановке не забываем и всегда готовы по зову правительства выступить на защиту своих священных границ, а так же для освобождения трудящихся любого государства, которые хотят мирной жизни. Наша армия пока Действующая, а завтра может быть наступающая.*

*В отношении женского движения. Девочки здесь хорошенькие. Здесь есть Полячки, Белоруски, Еврейки на лицо очень красивенькие но плохо, что они очень богомольные, они так сильно уверены в бога, что не поддаются никаким доказательствам. Её предлагаеш слушай пане? пойдём в кино, а она тянет в костёл по нашему в церковь.*

*Вот сколько мы проезжали деревень у них на каждой улице стоит будка, в которой смазан на глину бог ну вобщем мы много видели богов здесь тоже бога разные! У Поляков свой бог, у Евреев свой бог, у русских свой бог. И вот говориш ей, что бога у всех разные, но... цена им всем в базарный день, а она отвечает, я ниц, ниц неразумию тоесть ни... непонимаю ну думаеш чорт с тобой когда не понимаеш... »*[1].

* * *

Пад вечар салдаты пакідалі вызваленае ад ворагаў мястэчка і вызваленыя ад тавараў крамы – кіраваліся на начлег у Баруны, у базыльянскія муры, а там іх чакаў далейшы вызвольны паход праз іншыя мястэчкі, гарады, вёскі і крамы. Праважатых было няшмат: мясцовае начальства, некалькі сацыялістаў, камсамольцаў, дзівакоў і маладзіц, якія паспелі за кароткі час задурыць мазгі бравым чырвонаармейцам.

Каля адчыненых насцеж дзвярэй крамаў сядзелі з сваімі сем'ямі жыды-лавачнікі і плакалі. Калі хто ў гэты час праходзіў побач з местачкоўцаў, яны хапалі таго за руку і цягнулі ўнутр памяшкання:

– Ты толькі глянь! Ты толькі паглядзі, з чым я застаўся!.. Вай-вай, гора мне!...

Пустыя вітрыны і паліцы сапраўды моцна ўражвалі. Пажылыя людзі казалі, што нешта падобнае было хіба што ў час

---

1 Цытуецца паводле : В.Зензинов. Встреча с Россией. – Нью-Йорк, 1944.

бежанства да прыходу немцаў у 1915 годзе. Тады не толькі крамы, тады ўсё мястэчка апусцела і вымерла.

Праўда, жыдам-лавачнікам людзі мала спачувалі, бо здагадваліся, што добрая палова тавараў недзе засталася ляжаць у надзейнай схованцы і будзе чакаць свайго часу, калі ўсё супакоіцца і калі ўсталюецца парадак.

У Мястэчку, літаральна на другі дзень пасля яго далучэння да Савецкае Беларусі, з'явіўся нехта Мокша: важны, з партфелем, у сінім галіфэ з лампасамі і цёмна-зялёным мундзіры. Мокшаў тут спрадвеку не было і людзі нават не ведалі, ці гэта яго сапраўднае прозвішча, ці гэта мянушка. А калі хто да яго так і звяртаўся, дык ён абурана казаў, што ён, маўляў, табе не Мокша, а «таварышч упаўнаважаны, ідэйны памочнік начальніка савецкага пасёлка». Казалі, што ён аднекуль з усходняй Беларусі. Нейкімі арганізатарскімі здольнасцямі ці, скажам, разуменнем моманту, ён не вылучаўся. Гаварыў завучанымі цытатамі і, калі яго хто не разумеў, пагражаў допытамі ў нейкім «галоўным палітычным упраўленні краю». Напачатку ён прыцягваў да сябе ўвагу тым, што стараўся давесці кожнаму, што толькі адзін ён з'яўляецца тут сапраўдным беларусам, а астатнія – не. Людзі яго слухалі, як нейкага дзівака, з іранічным бляскам у вачах і не лічылі для сябе вялікім гонарам лезці ў нейкія там спрэчкі з такой асобаю. З большага, ад яго адмахваліся, як ад надакучлівай мухі, альбо гэтак жа іранічна пагаджаліся. А вось людзі з Дойневіч (маецца на ўвазе Янук Дайновіч, Васіль Далькевіч і Адоль Канопка неяк, будучы ў мястэчку, на чарговы выбрык Мокшы наконт беларусаў не стрывалі.

– Тут жа адны жыды і палякі, – гучна скардзіўся ён афіцэру чырвонаармейскага атраду на рынычным пляцы, пры гэтым паказваў пальцам і гучна брыдка лаяўся. – Во, відзіш – гэта жыд (і загнуў матам на Рабіновіча), а гэта – паляк (абазваў брыдка ксяндза), а гэта і сам чорт не разбярэ (на татарына Якубовіча)... Тут жа няма аніводнага нармальнага чалавека... Адзін я толькі нармальны...

Янук Дайновіч, праходзячы воддаль і чуючы такую нацыянальную палітыку мясцовай улады спытаўся:

– Ну а мы тады хто?..

– Хто вы?.. Палякі скарэй за ўсё...

– Дык ведай жа, начальнік, што тут ёсць і беларусы і іх тут нашмат болей за астатніх!

– Ну, я не знаю... Однако ж, какіе вы белорусы – говоріте неправільно, культуры своей не імеете, неграмотные... не то, что я?! – даводзіў сваё Мокша.

– А што ты? – далей цікавіўся Янук.

– Мої прэдкі – усе былі ісьцінай рускай веры, і я ёсьць не іспорчаны польскім элементом, як вы здесь, а потому я і есьць настаяшчы беларус, вот як! – гаварыў Мокша.

– Колькі там гэтага элементу было... ат, – ухмыльнуўся Далькевіч. – Адзін пан у мястэчку і па аднаму пану ў вёсках – і ўвесь элемент...

– Каго яны маглі тут папсаваць... Больш у Вільні стараліся, – падхапіў тэму Канопка. – Ну адну бабу, другую... і ўсё!

Хлопцы гучна рассмяяліся з свайго дасціпу.

Але не смяяўся толькі Дайновіч.

– Калі ты беларус, дык чаму тады не размаўляеш на матчынай мове? – дацінаў ён пытаннямі Мокшу.

– А як я маўляю? Я на своём мацерным языке і талкую. А всякіх там діалектов мы не прызнаём, вот як!

– Тое, што ты па-мацярынскаму гаворыш, мы чуем. А што гэта за прозьвішча ў цябе нейкае не беларускае, Мокша, – пацікавіўся прозвішчам Канопка.

– Фамілія, что лі? Так это от слова «мошка»... Есть много фамілій ад насякомых, напрымер, Камароф, Жук, Жуковскі, Мухін і так дальше, – тлумачыў Мокша.

– Мокшы – гэта ўгра-фінскія плямёны, – праявіў даволі-такі някепскія пазнанні ў гісторыі Дайновіч, відаць, знаёмства з спадаром Янкам Станкеўчыкам пайшло на карысць. – Раней, вельмі даўно, так называлі маскалёў.

– Цяпер усё пераблыталася... Нейкі маскаль будзе выдаваць сябе за беларуса і з скуры лезьці, каб толькі не гаварыць па беларуску, а беларус будзе даводзіць, што ён «істінно рускі», – выказаўся на гэты конт Далькевіч.

– А другі будзе даводзіць, што ён польска-сармацкага паходжаньня, – дадаў Канопка. – Як будзе больш выгадней.

– Падаждзі! – Мокша выцягнуў з-за пазухі вучнёўскі сшытак і разгарнуў. – Сматры і чытай: ня Горскі, а Гурскі, не Забалоцкі, а Заблоцкі, іли вось тут: Ежі Пшіхачь, Анджей Тшетяк – тут не сразу ўловішь, что рэч ідзёт пра Юрку Прыхача і Андрэя Трацяка...

– Што за сьпіс? – пацікавіўся Дайновіч.

– Спіскі парафіянаў на расейскай мове, відаць, ксёндз для чыноўнікаў складаў, – узрушана гаварыў Мокша.

Мокша лікаваў.

– А што, мать вашу, я же і твердзіл о польском элеменце, вот он! Это я імел ввіду!

– А такія, як ты, папсутыя маскальскім элементам. Чаго толькі мова твая вартая – брыдка слухаць... Адны маскалі гнеш... цьфу! – тут Дайновіч, сапраўды, смачна плюнуў пад ногі Мокшу.

– Ты так на савецкую власьць!? – павысіў голас Мокша і тут жа схапіўся з Дайновічам загрудкі. – Ды я табе счас... в морду... Ты знаеш, хто я?... Ты ешчо узнаеш... В главном політіческом управленіі краю всё узнаеш!

– Вось, вось, калі што ня так – сьценка на сьценку і мардабой... Гэта таксама па-беларуску? – даволі спакойна прагаварыў Дайновіч і спрытна адбіў руку Мокшы.

Невядома, чым бы гэта ўсё скончылася, бо на дапамогу Мокшу бег нейкі камісар у вайсковай форме, нахаду расшпільваючы кабуру. Далькевіч тады з Канопкам імгненна сталі між імі і расцягнулі ў розныя бакі.

– Всем стоять! Рукі за голову! – закрычаў камісар, пагражаючы рэвальверам.

– Не нада шуму, таварыш камандзір, пусть ідут, – прапанаваў раптам Мокша.

– Ну, как скажіте...

– А мы з табой есшчо стрэцімся! – паабяцаў Януку на адыходзе Мокша.

– Стрэцімся, стрэцімся!

На гэтым тады яны і разышліся, а пасля стала вядомым, што Мокша некалі з Пуценькам былі сябрамі, што, быццам бы, яны працавалі недзе ў адным месцы. І нездарма Пуценька часта між іншым заводзіў гутарку пра Мокшу: «Якая глыба! Якая глыба! Гэта такі-гэткі будзе вялікі, вялізарны начальнік!».

Тое, што яны хутка знюхаюцца, у гэтым ніхто не сумняваўся.

Яшчэ адзін цікавы выпадак з нагоды «вызвалення» адбыўся на старой французскай дарозе (гэтай дарогай адступалі войскі Напалеона ў 1813 г. ). Невялікая група аматараў з навакольных вёсак Вурляняты, Біцяняты і Вішнёўка, пераважна моладзь, карыстаючыся з таго, што вёскі знаходзяцца ў баку ад дарогі і «вызваліцелі» могуць у вёску не заехаць, вырашылі самі выйсці ім насустрач. Праўда, у іх з сабой не было, ані партрэтаў Сталіна, ані транспарантаў з прывітальнымі словамі, нават звычайнага белага ручніка з хлебам і соллю ў іх не было. Так надумалі зрабіць самі. Відаць, нейкая прыродная цікавасць кіравала гэтымі людзьмі. Адзінае, што яны мелі з сабою – гэта

бел-чырвона-белы сцяг, пасаджаны на доўгае дрэўца. Калі ж танкі сталі пад'язджаць бліжэй, замахалі хлопцы гэтым дрэўцам, стоячы на водшыбе. Танкі спыніліся, але з іх ніхто і не вылез. Колькі хвілін танкі пастаялі, а пасля з дзікім рэвам рванулі ўперад, абкідваючы сустракаючых граззю і чадам. Стась Чатырка ледзь паспеў адскочыць убок з дарогі, як танк пранёсся ў некалькіх сантыметрах ад яго. Склалася ўражанне, што калі б хто стаяў на дарозе, дык танкі гэтак жа рванулі б зместа ўперад.

Ніхто не чакаў такой сустрэчы і сустракаючым анічога не заставалася як толькі пакрычаць, пасвістаць, і памахаць сваім сцягам услед калоне. Пасля гэтага ў іх асяродку адбылася невялікая дыскусія, маўляў, трэба было ўзяць не беларускі, а чырвоны сцяг, напісаць нешта, з ручніком выйсці – можа, тады яны вылезлі б з броні той... А так... А калі б вылезлі, дык што б яны сказалі? Таксама пытанне...

А неўзабаве яны ўбачылі кавалерыю. Моладзь зноў згрупавалася і стала моўчкі чакаць. За метраў чатырыста конніца спынілася і раптам пайшла ўрассыпную, раздаліся стрэлы і над галовамі сустракаючых весела заціўкалі кулі.

– Лягай! – нехта крыкнуў з хлопцаў і ўсе кінуліся на зямлю.

А праз колькі хвілін яны пачулі грозны воклік:

– Кто старший?

– Мы тут усе роўныя. – нехта адказаў з ляжачых.

– Кто такие?

– Сяляне мы...

– Кто? Кто?

– Ну, як вам сказаць?.. Сяляне мы, беларусы...

– Это мы ешчё посмотрим, какие вы белорусы.

У гэты момант нехта, відаць, спрабаваў устаць, бо вершнік грозна закрычаў:

– Лежать! Всем лежать! – а пасля гэтага прадоўжыў допыт. – Оружие есть?

– Не – а...

– Так что ж вы, беларусы, с иностранными знамёнами нас встречаете?

– Дык, гэта наша знамя, беларускае. – нясмела пачулася ў адказ.

– Убрать, немедленно! – закамандаваў голас. – Комсомольцы, коммунисты есть?

– Есть адзін! – выкрыкнуў Міхалка з Біцянятаў.

– Можешь встать, только без резких движений и медленно!

Міхалка памалу стаў выпрамляцца.

– Почему не подготовлена встреча на уровне? Это что за саботаж? Что за самодеятельность такая?..

– Так выйшла, таварыш камандзір, так выйшла, – нясмела апраўдваўся Міхалка. – Больш не паўторыцца, не-не...

– Потом разберёмся, а сейчас все медленно встаём...

Першае, што кінулася ў вочы тым, хто разгінаў спіну і станавіўся на ногі – гэта чорныя дулы і ствалы стрэльбаў у руках салдатаў неславянскай знешнасці, накіраваных на кожнага сустракаючага.

– И всем домой бегом марш! – і камандзір стрэліў з нагана ўверх.

І тут ужо сустракаючыя кінуліся ў чыстае поле хто куды.

## 6. *Падзел ІІ Рэчы Паспалітай (з нататніка заходніка)*

*Саветы, з свайго боку, сваім «вызваленчым» паходам прадэманстравалі свой «бліцкрыг» з Польшчай. Яно, дык і зразумела – галоўныя сілы польскага войска баранілі сваю Айчыну на захадзе ад немцаў, змагаліся і за Гданьск і за Варшаву, а на ўсходзе памежныя атрады не маглі доўга супрацьстаяць савецкім танкам. Ужо 22 верасьня нямецкі генерал Гудэрыян і савецкі камбрыг Крывашэін на галоўным пляцы горада Брэста прымалі парад германскіх і савецкіх войскаў.*

*Падобныя сумесныя маршы «братьев по оружию» праходзілі ў Гародні, Баранавічах і Пінску – так гітлераўская Нямеччына і Савецкі Саюз весела дэманстравалі сваю перамогу над славянскай Польшчай.*

*Да 25 верасьня ўся тэрыторыя Заходняй Беларусі, уключаючы Беласточчыну і Віленшчыну, была акупаванай Чырвонай арміяй. Людзі, з большага, да гэтай падзеі аднесьліся стрымана. У беларускіх асяродках, нават незалежна ад палітычных поглядаў, віталася ўз'яднаньне беларусаў у адной краіне, але асуджаўся ваенны хаўрус між Сталіным і Гітлерам і супольнае зьнішчэньне імі Польшчы як дзяржавы. І да палякаў, да ўчарашніх сваіх прыгнятальнікаў, беларусы аднесьліся з разуменьнем і спачуваньнем. А тут і сапраўды было каму спачуваць, і ня толькі палякам, але й усім, хто жыў у Другой Рэчы Паспалітай. Заціснутыя, быццам у абцугі, між двух лютых драпежнікаў, людзі кідаліся хто на Захад, а хто на Усход. Усе дарогі, незалежна ад кірунку, былі забітыя бежанцамі. І гэта было ня проста вялікае пе-*

*расяленьне народаў – гэта была бязьлітасная барацьба за выжываньне.*

*У той жа час, калі» братэрскую» руку дапамогі саветы працягнулі беларусам і украінцам, дык палякам заставалася толькі разлічваць на такую ж «братэрскую» руку Гітлера, альбо працягваць ногі. Францыя і Вялікабрытанія, пасьля ўводу савецкіх войскаў у Польшчу, зышліся ў тым, што дапамагчы Польшчы яны ўжо нічым ня змогуць. А Чэрчыль у сваім выступе па радыё 1 кастрычніка заявіў, што «саветы павінны былі стаць на гэтай лініі, бо гэта было неабходным для бясьпекі Расеі супраць нацысцкай пагрозы, і створаны Ўсходні фронт нацыская Германія не адважыцца атакаваць...».*

*Супакоіў лорд... Прынамсі, ангельйскі дэндзі сказаў тое, што хацеў пачуць маскоўскі «вождзь» сусьветнага пралетарыяту.*

*Афіцыйна ж падзел Польшчы выглядаў вельмі гуманна і прыгожа: «вызваленьне брацкіх народаў з-пад панскага прыгнёту». Але такое «вызваленьне» аніяк не ўкладвалася ў якую-небудзь рацыянальную схему. Першае, чаму яно праводзілася гвалтоўна, без папярэдняй дамоўленасьці з «брацкімі» народамі, якіх прыйшлі вызваляць ажно два браты-вызваліцелі: гітлераўскія нацысты (відаць былі вялікімі гуманістамі і славянафіламі) і расейскія бальшавікі (таксама гуманісты-міратворцы)?..*

*Не ўкладвалася аніяк у сьвядомасьці і разуменьне таго, чаму ўз'яднаньне і ратаваньне адных славянаў (беларусаў і украінцаў) ад другіх славянаў (палякаў) праводзіцца трэцімі славянамі (рускімі) у цесным хаўрусе з гітлераўскай Германіяй. Няўжо ў Маскве нічога ня чулі пра выказваньні Гітлера адносна Саветаў, камунізму і славянаў, няўжо такая кніга як «Майн Кампф» была невядомай Сталіну і яго паплечнікам. Няўжо не разумелі ў Крамлі, што паходам на Польшчу Гітлер стаў рэалізаваць сваю звыш ідэю: заваяваньне, вынішчэньне і пераўтварэньне ўсіх славянаў да ўзроўню рабоў і сабак для арыйцаў?!*

*Якую ж вялікую паслугу ў гэтым зрабіла Гітлеру найбольш разьвітая і моцная славянская краіна, краіна – рупар славянскага задзіночаньня і надзеі славянаў, калі пад мудрым кіраўніцтвам камуністычнай партыі і, асабіста, правадыра ўсіх народаў, у тым ліку і усіх славянаў, ударыла паздрадніцку і нечаканна ў сьпіну славянам-палякам!..*

*Ці гэта такая была хітрая гуманная тактыка?..*

*А яшчэ, а ці лічыўся хто з тым, што ў тым жа польскім войску было сотні тысяч блізкародных рускім славянаў –*

*беларусаў і украінцаў?! Колькі іх палягло ў баях супраць такога вызваленьня, як з Захаду, так і з Усходу?!*

*Хто й калі адкажа на пытаньне, чаму Сталін, маючы армію, якая ў два разы пераўзыходзіла армію Польшчы і Германіі разам узятыя, пайшоў на такі хаўрус з Гітлерам? Болей таго, якімі мэтамі кіраваўся ён, калі сваё прасоўваньне ў глыб Польшчы адклаў на два тыдні пазьней ( не 2 верасьня, а 17 ), калі Гітлер амаль што захапіў усю Польшчу, а паводле пакту Молатава – Рыбентропа Варшава павінна была дастацца байцам Рабоча-сялянскай чырвонай арміі?.. Няўжо ў словах аднаго чырвонаармейскага камандзіра, які сказаў, што»чым больш тут немец пакладзе народу, тым менш нам тут работы»была рацыя?..*

*Прагаварыўся камандзір...*



*Дарэчы, праскоквалі ў некаторых выказваньнях «вызваліцеляў» і ў друку цікавыя развагі і паняткі, якія перакрэсьлівалі ўсякае «братэрства».*

*Так, Лазар Кагановіч, адзін з паслугачоў Сталіна, адкрыта гаварыў пра тое, што першачарговай задачай Крамля была задача «прыбраць да рук» дзяржавы тыя тэрыторыі, якія былі аднесены паводле пакта з Германіяй у якасьці сфэры інтарэсаў Савецкага Саюза.*

*У дакладзе «Аб зьнешняй палітыцы СССР» наркам замежных справаў В. Молатаў урачыста падкрэсьліў, што «оказалось достаточно короткого удара по Польше со стороны германской армии, а затем – Красной Армии, чтобы ничего не осталось от этого уродливого детище Версальского договора...».*

*Здавалася, што неяк не да твару міністру вялікай дзяржавы такія некарэктныя, цынічныя і абсалютна непісьмовыя заявы.*

*Але справа тут была не ў дыпламатычнай карэктнасьці і цынізму – такая была ўрадавая пазіцыя СССР, якая раскрывала захопніцкую сутнасьць сталінскай палітыкі.*

*Сам Сталін характарызаваў Польшчу не інакш, як толькі фашысцкай дзяржавай і заяўляў, што яе зьнішчэньне ў сёньняшніх умовах гаворыць пра тое, што адной буржуазнай дзяржавы стала менш... «І нічога няма кепскага ў тым, што ў выніку разгрому Польшчы, мы распаўсюдзім сваю сацыялістычную сістэму на новыя тэрыторыі і насельніцтвы», – абяцаў Сталін*[1]*.*

*Разумець гэта трэба было так: вось адну буржуазную дзяржаву ўжо зьнішчылі, а колькі там яшчэ засталося іх ў сталінскім сьпісе? Колькі гэтых дзяржаваў, да якіх сталінскія сокалы данясуць факел сусьветнай сацыялістычнай рэвалюцыі, якой трызьнелі на кожным вугле савецкія прапагандысты, і куды, як вялікі вызваліцель працоўных народаў ад апошняга буржуя увойдзе вялікі Сталін.*

*А гэтым апошнім буржуем можа быць і Чэмберлен і Рузьвельт...*

*Чаму не... Мала хто можа быць...*

*І не пры чым тут нейкія браты-беларусы, ці браты-украінцы, але няхай яны сабе думаюць і цешацца тым, што іх вызваляюць ад панскага прыгнёту. А тое, што ім быў лёс наканаваны, прыкладна такі ж, як і буржуям, пра гэта гаварыць зараз ня варта, пра гэта ўжо пасьля...*

*Усякі раз робіцца сьмешным, калі чуеш, што «Важнейшым вынікам савецка-германскай дамовы ад 23 жніўня 1939 г. для Беларусі ёсьць гістарычна справядлівая ў жыцьці беларускага народу падзея – уз'яднаньне Заходняй Беларусі з БССР».*

*Народу было яшчэ наканавана самому разабрацца ў гэтых падзеях, каб пераканацца ў народнай мудрасьці: «Лепей з разумным страціць, чым з дурнем знайсьці».*

---

[1] Фирсов Ф. И. Архивы Коминтерна и внешняя политика СССР в 1939-1941 г.г. Документы 1941г. М, 1998, кн. 2 , стр. 584.






*Але ўжо сёньня можна задумацца над тым, што такі «вызваленчы» паход Сталіна ў Зах. Беларусь і Зах. Украіну ці не з'яўляецца пачаткам рэалізацыі сталінскай звышідэі «Вялікага Вызваліцеля» народаў ад нацызму: чым больш тэрыторый акупіруе Гітлер і чым большы генацыд ён створыць для зваяваных народаў на гэтых тэрыторыях, тым больш магчымым, жаданым і доўгачаканым будзе для іх прыход месіі-вызваліцеля з савецкага ўсходу – Вялікага Сталіна. У тым, што ён здолее перахітрыць Гітлера, Сталін, відаць, не сумняваўся.*

*А між тым, савецкая ўлада ў Зах. Беларусі ўмацоўвала свае пазыцыі. 21 верасьня быў выдадзены спецыяльны загад на арганізацыю народнай міліцыі і рабочай гвардыі. Ствараліся рэвалюцыйныя сялянскія камітэты з байцоў Чырвонай Арміі, агентаў НКВД, прыезджых партыйцаў і мясцовых актывістаў.*

*Такім чынам рэўком, міліцыя і гвардыя сталі галоўнымі структурамі ў арганізацыі новага парадку.*

*28 верасьня ў Маскве была падпісаная чарговая дамова між СССР і Нямеччынай аб дружбе і дзяржаўных межах: Гітлер правёў Сталіну «лінію Керзона»,паводле якой між імі размяжоўваліся сфэры ўплыву на заваяваных тэрыторыях былой II Рэчы Паспалітай. Праўда, тут можа быць вельмі спрэчным пытаньне, хто каму што праводзіў і ставіў умовы. Пры падпісаньні дамовы Рыбентроп вымушаны быў*

*прыняць і пагадзіцца з прапановай Сталіна наконт таго, што ажыцьцяўленьне гітлераўскіх планаў у адносінах да прыбалтыйскіх краін і Украіны павінна быць канчаткова спынена: маўляў, гэта сфэра ўплыву савецка-расійскіх міратворчых сілаў.*

*Акурат недзе ў гэтыя дні ў шматлікіх вёсках і мястэчках, дзе паступова ўсталёўвалася савецкая ўлада зьявіліся транспаранты і ўлёткі з надпісам: «Няхай жыве і мацуецца вялікая дружба вялікіх народаў Германіі і Савецкага Саюзу, дружба, якая мае ўсе падставы быць вечнай і трывалай, таму што замацаваная на крыві!!! (В. І. Сталін)».*

*На чыёй крыві?..*

## 7. «... Хитрой ведьмы нет в живых... »

Недзе ў канцы верасня і пачатку кастрычніка сталі вяртацца ў вёску хлопцы і мужчыны, якія былі мабілізаваныя ў Войска Польскае. Першымі прыходзілі тыя, чые вайсковыя часткі знаходзіліся недалёка ад хаты: у Вільні, Гародні, Баранавічах, Беластоку, Бярэсці. Трохі пазней вярнуліся ваякі з цэнтральнай і заходняй Польшчы. Living Рознае гаварылі былыя салдаты: і пра тое, як яны стаялі насмерць за Варшаву і іншыя польскія гарады пры наступленні немцаў, і пра тое, як яны мужна змагаліся, абараняючы Вільню і Гародню ад саветаў, і пра тое, як без адзінага выстралу прыходзілася здаваць гарады і мястэчкі, як немцам, так і рускім. Шмат хто з іх быў у тых польскіх вайсковых фармаваннях, якія, выконваючы спецыяльны загад вярхоўнага галоўнакамандуючага Войскам Польскім генерала Рыдз-Сміглы, – з Саветамі не ваяваць, – не аказвалі супраціву Чырвонай Арміі, і іх Саветы раззбройвалі. Жахлівымі гісторыямі ў гэтых аповядах былі моманты, калі савецкія «энкэвэдоўцы» праходзілі перад шэрагамі палонных Войска Польскага – адбіралі афіцэраў у форме і тых, у каго былі чыстыя, не рабоча-сялянскія рукі: іх адводзілі ў яр і тут жа з нагана застрэльвалі. А салдатаў узгаднялі з нейкімі спісамі і адпускалі дахаты.

Неўзабаве вярнуліся і Антосевы швагры – Пятро і Ясь. І неяк вечарам Антось з Ганькай іх наведалі. Пятро з Юзюком ад першых дзён вайны і да капітуляцыі Польшчы абаранялі Варшаву. Ваявалі яны ў розных вайсковых частках, але стараліся між сабою сувязі не траціць. Расказваў Пятро цікавыя рэчы: і пра тое, як у войску распаўсюджвалі чуткі пра польскі ўрад, які кінуў сваю дзяржаву і збег да ангельцаў, і пра тое, як польскія

патрыёты без цэнтралізаванага камандавання і каардынацыі дзеяў войска выступілі на абарону горада і стаялі да апошняга, да таго моманту, пакуль немцы не рушылі тэхнікай. І што цікава, казаў Пятро, дзейна змагаліся за Варшаву поплеч з палякамі ўчарашнія вязні-беларусы, якія былі асуджаныя тымі ж палякамі за антыпольскую дзейнасць яшчэ да вайны – розныя «грамадоўцы» і «кэпэзэбоўцы», а некаторыя з іх сядзелі ў цэнтральных турмах Вялікапольшчы, бо на Лукішках і ў Картуз-Бярозе ўсім не хапала месца. Дык вось, іх, быццам бы, немцы прыйшлі вызваляць ад іх прыгнятальнікаў, а яны за Варшаву, супраць тых жа немцаў галовы лажылі... Увогуле абаронцаў у жывых засталося няшмат. І ён, Пятро, быў лёгка паранены аскеркам ад бомбы ў плячо, а вось Юзюку, брату, пашанцавала трохі меней: яму аскеркамі ключыцу разбіла – зараз у лазарэце і пакуль не ачуняе, дахаты, відаць, не вернецца.

А Ясь стаяў каля Бельска – з яго вайсковай часткай не ведалі што рабіць: ці кінуць яе на абарону Варшавы ад немцаў, ці выставіць супраць Саветаў. Пакуль камандаванне думала, да Варшавы ісці стала позна, а з Саветамі было загадана не ваяваць. А ў мястэчку, дзе яны стаялі войскам і чакалі загаду, мясцовыя камуністы вырашылі ўрачыста сустрэць чырвонаармейцаў. Усё зрабілі: браму ўпрыгожылі ялінкамі, падрыхтавалі трыбуну для выступаў, хлеб, соль, і, што сама галоўнае, павесілі вялікі партрэт Сталіна з надпісам «Жыць стала весела, жыць стало лучше!», а тут – немцы апярэдзілі



чырвонаармейцаў. І што вы думаеце, урачыстая імпрэза з нагоды сустрэчы адбылася на сама высокім узроўні: хлеб-соль, гучалі прамовы, толькі заместа слоў «вялікага Сталіна», камуністыя гаварылі «вялікіх Гітлера і Сталіна», і што сама дзіўнае, нямецкія салдаты, усякі раз праходзячы каля партрэта Сталіну, аддавалі чэсць і крычалі «Хайль, Гітлер!», альбо «Хайль, Сталін!».

А іх вайсковая частка, з вялікім спазненнем, атрымала загад выступіць на абарону Брэста. З цяжкімі баямі яны прарвалі акружэнне і падышлі да горада – там ува ўсю ішоў бой. Ад іх вайсковай часткі засталася, можа, рота, не болей, і яны далучыліся да абаронцаў Брэсцкай крэпасці і некалькі дзён стаялі супраць адборных нямецкіх дывізій. А пасля вымушаны былі здацца. Немцы іх раззброілі і адпусцілі дахаты.

Расказвалі хлопцы і пра «братэрскую» сустрэчу «братьев по оружію» з абдымкамі і пацалункамі, а пасля сумесную дэманстрацыю і парад з адпаведнай нямецкай і савецкай сімволікай войск арміі Трэцяга Рэйха і Чырвонай арміі ў Бярэсці. Выглядала гэта так: ідзе нямецкі танк з чорным крыжам на баку, а за ім – савецкі з чырвонай зоркай, пасля зноў – з чорным крыжам, а за ім – з чырвонай зоркай... А на трыбунах – толькі паблісквающь нацыскія і савецкія кукарды маршалаў ды генералаў дзвюх армій, якія стаяць поплеч, як лепшыя сябры: савецкі генерал Крывашэйн і нямецкі – Гударыян.

Узахлёб тады перакладчыкі крычалі пра тое, што гітлераўскія і сталінскія сокалы нарэшце навядуць парадак не толькі ў Еўропе, але і ва ўсім свеце. Прыкра было глядзець, як рускія і нямецкія салдаты скідвалі ў кучу польскія, чэшскія і іншыя харугвы еўрапейскіх дзяржаваў, а пасля глуміліся над імі. А яшчэ далася ў памяць сваім цынізмам прыпеўка, якую дружна спявалі чырвонаармейцы пад гармонік:

*Панской Польши нету больше,*
*Хитрой ведьмы нет в живых,*
*Не захватит в лапы Польша*
*Наших братьев трудовых...* [1].

У Бярэсці, дарэчы, браты і сустрэліся.

Паслухаць хлопцаў было вельмі цікава. Так, Пятро расказваў пра варшаўскіх палякаў, пра тое, як яны аднесліся да другога падзелу Рэчы Паспалітай, да немецкай і савецкай агрэсіі, а Ясь – пра беларусаў Падляшша. У выбары між Сталіным і Гітлерам палякам выбіраць асабліва не было чаго: для адных нацызм здаваўся меншым злом, для другіх

[1] Словы В..Лебедзева-Кумача.

– камунізм. Трохі дзіўным было тое, што падляскія беларусы, асабліва праваслаўныя, вельмі спакойна ўспрымалі прыход Саветаў.

Шмат было ў іхніх аповедах абсурднага, страшнага і недарэчнага з таго, што яны ўбачылі за гэты кароткі перыяд нямецка-польскай і савецка-польскай войнаў, бо, так атрымалася, былі яны ўдзельнікамі і сведкамі адной вайны і другой.

А пасля пайшла гутарка пра іх бягучыя справы, пра іх шанцы і перспектывы. Пятро думаў вярнуцца ў Варшаву і пашукаць альбо стварыць падпольны антыгітлераўскі камітэт, Ясь наважыўся хавацца ў лесе, а калі выпадзе ваяваць, дык ваяваць і супраць нацыстаў і супраць бальшавікоў.

Цесць уважліва слухаў, нешта перапытваў, сам гаварыў мала, але гаварыў узважана і дэталёва.

– Трэба, хлопцы, уцякаць адсюль, – прапанаваў раптам смелы варыянт цесць. – І чым далей, тым лепей.

– Куды ўцякаць?.. Далёка не ўцячэш, – разважаў Пятро. – Хаця, іншы раз, я і сам пра гэта думаў...

– Пакуль тут неразьбярыха, пакуль няма тут такога парадку, трэба як мага хутчэй ехаць у Амэрыку, Аргентыну, Аўстралію, абавязкова ехаць! – даводзіў цесць. – Тут ня будзя жыцьця... Не дадуць тут жыць і працаваць, вось убачыце! А ваяваць – за што ваяваць?.. Зь кім ваяваць?..

Доўга тады сядзелі і гаварылі, шмат абмеркавалі варыянтаў, толькі не бачыў гэтых варыянтаў для сябе Антось. Зразумела, што ані ў Амерыку, а тым больш у Аўстралію ён не паедзе; не будзе ён шукаць ці ствараць нейкія камітэты ў Варшаве, як не будзе прымаць удзелу ў гэтых камітэтах нават тут, дома, калі яны раптоўна ўзнікнуць; не будзе ён хавацца ў лесе і партызаніць... Ён будзе жыць як жыў і працаваць так, каб дзеці не памерлі з голаду...

– А ты што думаеш, Антось? – вывеў яго з задумення Пятро.

– Пакуль ня ведаю... дзеці ў мяне...

– У такой сытуацыі, калі абавязкова трэба нешта рабіць, а ня ведаеш што, – лепш анічога не рабіць, – даў слушную параду цесць.

Відаць, і тут цесць меў рацыю.

А яшчэ праз колькі дзён, знік Пятро, а Яська стараўся не паказвацца на людзях. У вёсцы, калі хто і цікавіўся ў Антося наконт Качанюкоў (так у вёсцы называлі Качаноўскіх), дык ён адказваў коратка: «А я ведаю, дзе? Як забралі ў польскае войска, так з таго часу я іх не сустракаў». Тое ж гаварылі і цешча з цесцем.

# 8.Актывістыя

Часовыя савецкія начальнікі «прилегающих советских деревень» Сцяпан і Пуценька ў невялічкай хатцы Карчэўскага стварылі нешта кшталту афіцыйнага рэвалюцыйнага сялянскага камітэту беднаты (РСКБ). Сцяпан падкрэсліваў, што іх першачарговай задачай ёсць справядлівы падзел панскага дабра і зямлі паміж малазямельнымі і беднымі сялянамі. Але адразу кідалася ў вочы, што падзел гэты датычыць у першую чаргу тых, хто ўваходзіў у гэты камітэт. Спрэчкі вакол таго каму што і колькі даць, іншы раз зацягваліся амаль што да раніцы і даходзілі да бойкі. Невядома, чым бы гэта ўсё скончылася б, калі б не з'явіўся ў хаце Карчэўскага новы чалавек у форме. Прывёў яго Лёва Калман недзе на трэці, ці чацвёрты дзень пасля «вызвалення» і адрэкамендаваў як спецыяльнага ўпаўнаважанага камісара камуністычнай партыі бальшавікоў. Невысокага росту, тоўсценькі, у акулярах, у афіцэрскім шынялі, цёмна-зялёным мундзіры і сінім галіфэ – выглядаў ён вельмі салідна. Прозвішча яго было таварыш Кацалапаў. На сустрэчы з мясцовымі актывістамі пра сябе ён шмат не гаварыў: маўляў, з сям’і піцерскага рабочага, удзельнік вызвольнага паходу, камісар Чырвонай Арміі, член ВКП(б), упаўнаважаны савецкай улады, партыя прыслала яго рабіць савецкую ўладу такой, якой яна павінна быць.

У першы ж дзень яго з'яўлення, быў скліканы сход актыву камітэту беднаты. На сходзе прыезджы таварыш зачытаў загад камандуючага войскамі Беларускага фронту генерал-маёра, таварыша Кавалёва пра тое, што трэба ствараць часовыя ўпраўленні савецкай улады непасрэдна на месце (на местах) і наладжваць свой савецкі нармальны гаспадарчы і культурны працэс дзейнасці.

Пасля агучвання загаду Сцяпан сказаў колькі слоў пра тое, што ўжо было зробленым яго камбедам. У час выступу Сцяпана ўпаўнаважаны нешта запісваў, удакладняў і задаваў пытанні, а пасля абвясціў, што ім усім трэба выпрацаваць стратэгію развіцця савецкай улады на мясцох, так, як гэта ўжо было зроблена ў некаторых мястэчках і гарадах Заходняй Беларусі.

Тым часам, пакуль выпрацоўвалася стратэгія, у свае хаты вярнуліся некаторыя мясцовыя паны. Праўда, вярнулася, збольшага, толькі жаночая палова, старыя, хворыя і непаўналетнія.

Іх вяртанне стала вялікай нечаканасцю для многіх і асабліва для Сцяпана і яго каманды:

– Вось гэта падарункі! – цешыўся Сцяпан. – Самі ў рукі прыйшлі.

– Што ты будзеш рабіць з гэтымі «падарункамі?» – разважалі іншыя камітэтчыкі. – З бабамі і дзяцьмі ваяваць будзеш?

– Калі ёсць бабы, будуць і мужыкі! – даводзіў Сцяпан. – У лесе будуць хавацца... У нашым, ужо савецкім, лесе...

Вяртанне іх можна было зразумець: тыя, хто ўцякаў ад Саветаў, траплялі ў нямецкую зону ўплыву, можа, гэта было і лепш для ўцекачоў, але не заўсёды. Расказвалі пра выпадкі, калі немцы цэлыя вагоны такіх бежанцаў разварочвалі назад і пад аховай адпраўлялі ў СССР. А на «лініі Керзона» усіх жадаючых выехаць у Амерыку сустракалі «энкэвэдысты» з сабакамі і без аніякага суда тут жа адпраўлялі ў Сібір як здраднікаў Радзімы. Чаму менавіта як здраднікаў – было незразумела як самім «здраднікам», так і тым, хто іх адпраўляў. Прынамсі, аніхто не мог дакладна сказаць, якой Радзіме яны здрадзілі: Польшчы – дык Польшчы ўжо няма; Савецкаму Саюзу... дык тады, калі яны «здраджвалі», ані Саветаў, ані Саюзу ў Заходняй Беларусі яшчэ не было. Стары пан Карчэўскі пасля некаму ў вёсцы расказваў, як ён з гэтым пытаннем дайшоў да самага галоўнага савецкага начальніка на перавалачнай станцыі ў Бярэсці. Самы галоўны даў вельмі дасціпны адказ: «Ёсць загад... Пакуль нічога лепшага не прыдумаем – пабудзеце здраднікамі Радзімы».

Тут зразумелым было адно: што застрэліць як здраднікаў Радзімы было нашмат лягчэй, чым нешта прыдумаць лепшае. І стралялі.

А самога пана Карчэўскага выкінулі з сталыпінскага вагона пад адабрэнне нават аховы за тое, што ён сваім кашлем біў, як у бубен, і страшыў астатніх сухотамі. Выкінулі яго з цягніка па дарозе ў Сібір, пад Гародзькамі, – нейкіх дзесяць вёрст хады да былой радавой сядзібы ў Багданоўцы. І хоць дзеду было пад восемдзесят гадоў, але ён неяк дапоўз да радавога магільніка ў Багданоўцы, каб тут, відаць, і сканаць пад бацькавым крыжам. Знайшлі яго ледзь жывога людзі выпадкова і дапамаглі дайсці да «камунарскага штабу», каб разабрацца на месце з гэтым дойшлым невядомым чалавекам. Праўда, стары Карчэўскі хоць і рэдка бываў у Багданоўцы, але хаты сваёй ён не пазнаў: выбітыя вокны, абарваныя шпалеры, запляваная падлога і невыносны смурод ад недакуркаў і табачнага дыму. Калі ён з'явіўся на парозе, камітэтчыкі анямелі, быццам нябожчыка ўбачылі. Напачатку Сцяпан, калі згледзеў у «нябожчыку» ледзь жывога старога Карчэўскага, загадаў выставіць яго

за дзверы, маўляў, хай ідзе туды, адкуль прыйшоў. Так, можа, і зрабілі б, але ў гэты час з'явіліся на парозе таварышы з мястэчка: Калман і Кацалапаў. Упаўнаважаны камісар Кацалапаў, калі зразумеў у чым справа, сказаў, што так савецкая ўлада не робіць, маўляў, пакуль не будуць афармленыя паперы на вызначаныя далёкія, альбо недалёкія месцы пражывання гаспадароў, яны маюць права на свой дом. Камісар прапанаваў такі выхад: пакуль камітэтчыкі праз кампетэнтныя органы не афармяць патрэбных папераў на новае месца пражывання былога гаспадара пана Карчэўскага, альбо пакуль не высняць адкуль, як і з якімі мэтамі апынуўся пан ў Багданоўцы, хай ён пакуль што пераначуе ў каго-небудзь з суседзяў.

Калістрат рэзка тузануў пана за плячо і здзекліва прапанаваў:

– Ідзі пагуляй, стары, пакуль мы разбяромся...

Але стары Карчэўскі дапоўз па аплёванай падлозе да кута і не столькі сказаў, колькі прахрыпеў, што ён прыйшоў сюды паміраць, і адсюль яго вынесуць хіба што толькі нагамі ўперад. Актывістыя не супярэчылі такому капрызу старога, наадварот, Калістрат тут жа праявіў жаданне дапамагчы ў гэтай справе, але таварыш Кацалапаў і на гэты раз меў іншую думку:

– На ўсё свой час, – казаў ён уважліва паглядаючы на Карчэўскага. – Савецкая ўлада так ня робіць. Хай пабудзе тут пару дзён, болей ён не працягне... На ўсякі выпадак, для парадку, трэба будзе паставіць ахову... А мы, пакуль што, вымушаны пашукаць сабе іншае месца.

Прасторную і вялікую хату, каб хапіла ўсяму камітэту і новаму начальству, знайсці на вёсцы было нялёгка. У сувязі з гэтым было вырашана заняць пакоі дому Дабрынскага, а ім пакінуць кухню і спальню, маўляў, навошта ім такі вялікі дом на траіх. Сцяпан папярэдзіў пані Марыю пра іх высяленне з палавіны дому і пра часовае кватэраванне з заўтрашняга дня ў іх доме савецкай ўлады.

Але, калі назаўтра савецкая ўлада ў асобах Пуценькі, Пятра Андрыяловіча, Юлеся Тытуша, Косці Казакевіча і двух чырвонаармейцаў апынулася каля брамы Дабрынскіх, дык заўважыла, што брама была закручанай на дрот так, што голымі рукамі адкруціць яе было немагчыма, і ў такім выпадку прыйшлося савецкай уладзе біць нагамі ў браму да таго часу, пакуль яна з трэскам не адляцела ўбок. І толькі тады людзі з шумам апынуліся перад ганкам, на якім спакойна стаяў сам пан-гаспадар Сева Дабрынскі. Яму было недзе каля 30 гадоў; высокі, хударлявы, з закручаным уверх чорным чубам, ён

менш за ўсё быў падобным на пана. Узнік ён зараз на ганку, як нейкі прывід. Яшчэ ўчора ніхто пра яго вяртанне не гаварыў, а сёння стаіць ужо, як статуя. Відаць, толькі што з дарогі: запыленыя салдацкія чаравікі, армейскі фрэнч, стомлены твар. . .

– Бі яго! – крыкнуў Пятро і падаўся быў уперад, але тут жа прагучаў стрэл і ўсе сталі, як укопаныя.

– Што вам трэба? – спытаўся Сева, спакойна разглядаючы рэвальвер, з дула якога віўся сіняваты дымок.

Чырвонаармейцы заляглі з вінтоўкамі за вуглом паветкі і чакалі загаду.

– І-і-і-менем рэ-рэ-валюцыйнага камітэту сялянскай беднаты ваша маёмасьць ад сёньняшняга дня а-а-а-б’яўляецца народнай! – гучна і заікаючыся абвясціў прысуд Кастусь Казакевіч.

– Нешта, хлопцы, я не зусім зразумеў, што вы хочаце?..

– Нам патрэбна памяшканьне, ваш дом і ваша дабро, – больш смялей на гэты раз заявіў Пятро.

– А ты, галапупец, ня лопнеш ад прагнасьці? – здзівіўся пан Сева.

– Пан пэўна ня ведае з кім размаўляе? – вельмі спакойна адрэгаваў на панскую абразу Казакевіч.

– Я ж вас, Косьцік, усіх, як аблупленых, ведаю...

– Гэта мы раней былі аблупленымі, а зараз – мы ўлада! – з гонарам адказаў Юлесь Тытуш.

– Якая ўлада?

– Улада ў нас зараз адна – савецкая!

– А ў вас дакументы ёсьць, што вы ўлада?

– Якія дакументы? – здзівіліся актывістыя, а Пуценька гучна заявіў:

– Пан Сева, у нас вунь, калі што, чырвонаармейцы за вугламі са стрэльбамі дакумэнтацыю вам могуць прапісаць…

У гэты час на ганак выйшла пані Марыля, а за ёю дочкі. Дабрынскія сталі між сабою нешта абмяркоўваць, а актывістыя вырашылі паслаць пляменніка Пятра, каб прывёў свайго дзядзьку – Сцяпан разбярэцца.

Сцяпан прыехаў вельмі хутка, і першае, што ён убачыў – гэта пана Сёву Дабрынскага на сваім двары, – той спакойна хадзіў падворкам і даваў нейкія парады па гаспадарцы аканому і сваім работнікам. Воддаль, пад старой ліпой, стаялі актывістыя з чырвонаармейцамі і палілі махорку.

– Добры дзень, пан Усевалад Дабрынскі! – гучна прывітаўся Сцяпан, злазячы з каня. – Якім такім лёсам пана зноў занесла да нас?

– Дабрыдзень, Сьцяпан! Толькі аніякім лёсам мяне адсюль і не выносіла... Гавораць, што ты зараз – ўлада?

– Ну, так і ёсьць – я ўлада, – важна прагаварыў Сцяпан.

– Якая ўлада?

– Народная!

– Ага! А яны,– пан Сева кіўнуў на хлопцаў.

– І яны таксама ўлада, – пацвердзіў Сцяпан. – Толькі я большая ўлада, таму што я народам абраная...

– Які народ цябе абіраў?

– Наш працоўна-сялянскі народ!

– Ты – самазванец, Сьцяпан, бунтар, Сьценька Разін!..

– Ну-ну-ну, тут выражацца! Усё паводле закону...

– Якога закону?

– Паводле ленінска-сталінскага... Паводле якога ваша панаваньне скончылася. Аддавайце дабро працоўнаму народу мірным шляхам і эвалюцыйна.

– Дабра захацелі!.. Хто працаваў у мяне – сваё дабро атрымаў!..

– Зямля павінна належаць народу, а не яго эксплюататарам! – даводзіў Сцяпан.

– А мне што павінна належаць?

– Тое, што й ўсім...

– Пан Сева можа прыйсьці ў камуну і стаць камунарам, – даў слушную параду Пуценька.

– А можа мне лепей адразу стаць старшынём калгасу «Зара Камунізму»? – вельмі сур'ёзна запытаўся пан Усевалад.

– Пан Усевалад любіць жартаваць, але зямля ў нас з'яўляецца народнай і дзяржаўнай формай уласнасьці, – нагадаў Сцяпан.

– У каго гэта ў вас? У вас аніколі зямлі не было!..

– Дык будзе...

– Дык няхай дзяржава ці ваш народ і купляе ў мяне гэтую зямлю... Дзед мой некалі яе купляў…

– Так ня выйдзець... Вы самі, пан Усевалад, павінны ўсё аддаць людзям...

– А пасьля адзець рызманы і пайсьці ў манастыр? Але ж я не Кірыла Тураўскі...

– Будзьце вы хоць папам рымскім, хоць Македонскім! – ня вытрымаў такой гутаркі пляменнік Сцяпанаў. – Ёсьць пан-эксплюататар і гэтым усё сказана!.. Калі хоча пан уцякаць, хай уцякае... А мы ствараем сваю савецкую ўладу і цацкацца з панамі ня будзем! – Пятро гаварыў і глядзеў не на пана Сёву, а на свайго дзядзьку.

Дзядзька Сцяпан з адабрэннем кіўнуў галавой.

– Так, зь першага: я анікуды ўцякаць не зьбіраюся, – рашуча заявіў Усевалад Дабрынскі. – А дабра ў мяне народнага, ня болей, чым у цябе, Пятро. Можаш падлічыць: сем душ у хаце на 60 дзесяцін зямлі – атрымліваецца нават менш, як дзесяць дзесяцін на аднаго чалавека...

– У некаторых чатыры дзесяціны на дванаццаць чалавек! – заўважыў Кастусь Казакевіч.

– А па – другое, вы ня маеце аніякага права чыніць такі самасуд і разбой, бо вы яшчэ не ўлада. Вы самі ж перад Саветамі і адкажаце за гэта, бо кампраметуеце Саветаў!...

– Ты меней гавары! – перабіў яго Тытуш, але Сева не звяртаючы ўвагі працягваў:

– Трэцяе, – калі што каму трэба, хай ідзе ў двор і бярэ, – Сева гаварыў вельмі спакойна. – Я не шкадую.

– Нам альбо ўсё, альбо анічога, – удакладніў камунарскую пазіцыю Пуценька.

– Ну, наконт усяго – трэба пачакаць, – шматзначна заявіў Сцяпан. – А сёньня будзем лічыць, што мірныя перамовы скончыліся нечаканым панскім аскалам і фіяскам...

– Як хочаце, так і лічыце сваімі аскаламі, – абыякава адказаў Сева і пайшоў у дом.

Пры такой сітуацыі не было сэнсу ставіць пытанне наконт кватэры для камунараў, але Сцяпан асабліва не перажываў. Загадаў яму Кацалапаў падрыхтаваць спісы польскіх асаднікаў, служачых, ляснічых і тых, хто быў мабілізаваны ў Войска Польскае. Спісы тыя ўзначалівалі ажно два Дабрынскія: Усевалад (Сева) і Слава. Так што, відаць, нядоўга Дабрынскім быць на волі.

Актыву прыйшлося перабрацца, як яны даводзілі «часова», у хату Сцяпана.

Такім чынам, далейшае фармаванне часовай управы, чырвонай гвардыі, камітэту беднаты, нейкіх сельрэўкомаў, камісій, арганізацый, суполак, камуны і нешта кшталту сельскага савету працягвалася ў Ракавічах: абмяркоўвалі і абіралі «прадсядацеляў і начальнікаў дзярэўні», нейкіх старшынь, намеснікаў, сакратароў, загадчыкаў, розных сяброў, як яны казалі – членаў. Адным словам, выпрацоўваліся, як і абяцаў упаўнаважаны, планы стратэгіі і перспектывы развіцця савецкай улады на вёсцы.

Для гэтай справы былі прысланыя спецыялісты з усходу: адзін з іх быў вядомы ўжо ўпаўнаважаны таварыш Кацалапаў, а астатнія – гэта атрад, чалавек дваццаць чырвонаармейцаў.

Такім чынам была створана сялянская нацыянальная чырвоная гвардыя.

Чырвонаармейцаў раскватэравалі ў людскія хаты, па дватры чалавекі ў кожную. У першую чаргу, салдатаў бралі да сябе актывістыя – для іх гэта быў вялікі гонар: жыць у адной хаце з вызваліцелямі. Праўда, некаторым салдатам прыходзілася спаць на падлозе, на саломе, а што зробіш – не хапала ўсім канапаў... Але ў большасці было наадварот: на падлозе, альбо ў сенях спалі гаспадары, а «вызваліцелі» ў святліцы на канапах. А вось есці яны сядалі дружна разам з актывістамі і іх сем'ямі за адзін стол.

У Дойневічах чырвонаармейцы кватэравалі ў трох хатах: у Міхася і Юзы Будкевічаў, і, зразумела, у Пуценькі. Пуценька паказаў ім дарогу за Антосева гумно (у Пуценькі не было сваёй уборнай) і салдаты, відаць, былі непераборлівымі, дружна туды хадзілі. Неяк Антось спрабаваў паўшчуваць, маўляў, «нехарашо» гэта – за чужое гумно лётаць да ветру, а вас тут трох, Пуценька чацвёрты, можна выкапаць яму, доскамі абкласці і – рабі што хочаш... Але салдаты, відаць, выхаваўчага працэсу так і не зразумелі і гадзілі разам з Пуценькам Антосева гумнішча і надалей.

Другі раз меў гутарку Антось з салдатамі на сваім падворку. Яны зайшлі проста так, паглядзець, як тут жывуць нармальныя людзі. Слова за слова – разгаварыліся. І тады Антось нясмела запытаўся:

– А што, таварышы салдаты, як далей што будзя?

І тады адзін салдат, трохі старэйшы за іншых, сказаў:

– Калі, гаспадар, салам пачастуе, скажам, што будзе…

Антось кіўнуў галавой Ганьцы і тая вельмі хуценька прынесла колькі кавалачкаў парэзанай сланіны, пару цыбулін, хлеба – перакусіць можна было. А пасля прапанавала кожнаму па кубку малака.

Калі салдаты падсілкаваліся, старэйшы з іх падзякаваў і сказаў:

– Я гляджу ў гаспадара ёсць сала, малако, жыта ў арудзе, бульба ў склепе…

– Ну, гэта як сказаць...

– Пуценька казаў, што ў цябе ўсё ёсьць… Дык вось, дзядзька пытаўся, што будзе… Дык вось, анічога такога ў цябе ўжо ня будзе...

– Як гэта – анічога, – перапытаў Антось.

– А вось так: ані сала, ані малака, ані жыта…

Наколькі салдат гэты меў рацыю, стала зразумелым Антосю праз колькі дзён. Неяк пад вечар зайшоў на падворак да

Антося Юза Будкевіч і стаў скардзіцца на сваіх пастаяльцаў, маўляў, як пацукі якія, анідзе анічога не паложыш – усё пажыраюць, усё, што на кухні, у каморы, у склепе, у арудзе... Мусіць, і сапраўды анічога ня будзя…

А неўзабаве і пуценькавыя чырвонаармейцы прыйшлі да Антося ўзяць трохі бульбы, пасля – мукі, а пасля запатрабавалі кавал сланіны...

* * *

На чарговым сходзе актыву стала вядомым, што, на сённяшні дзень, улада працоўных і сялянаў у Ракавічах і Дойневічах валодае яснай і выразнай стратэгіяй. Пра гэта паведаміў народу таварыш камісар Кацалапаў, які спецыяльна падзеля гэтага прыехаў з мястэчка. Для пацвярджэння сказанаму ён агучыў свае патрабаванні. Першым патрабаваннем быў загад аднесці назад усе панскія рэчы: посуд, мэблю, інструмент, інвентар і іншыя, нават дробныя рэчы – усё, што людзі парасцягвалі з панскіх пакояў у час стыхійных бунтаў. Маўляў, гэтыя рэчы з'яўляюцца сацыялістычнай уласнасцю і павінны належаць народу, у сувязі з гэтым іх трэба абавязкова аднесці, каб не было горш… Праўда, некаторыя бедныя сяляне сталі абурацца, маўляў, якому народу?.. А яны тады хто, хіба не народ?.. Але панскія рэчы, і не толькі Карчэўскага, але і навакольных паноў, якія пакінулі свае гаспадаркі, паціху зносілі ў спецыяльнае памяшканне ў былым складзе Карчэўскага. Зносілі, каб не было горш.

А назаўтра, на досвітку, да склада пад'ехала грузавая машына і старую панскую мэблю, посуд, будаўнічы інструмент, панскае адзенне (кажухі, касцюмы, сукенкі, швэдры) і іншыя болей-меней каштоўныя рэчы Мечык з Славікам па загаду Кацалапава сталі руплівa ўпакоўваць у кузаў.

– Куды гэта? – шмат хто цікавіўся такой загрузкай.

– На кудыкіну гару, – весела адказваў усім Кацалапаў.

Праўда, калі ж з такім пытаннем звярнуўся Сцяпан, Кацалапаў адказаў вельмі коратка:

– Народу!

– Якому народу? – нечага, відаць, не разумеў Сцяпан.

– Нармальнаму народу! – растлумачыў Кацалапаў.

А пасля добра загружаная машына паволі пасунулася ў бок Менску.

Наступным крокам таварыша Кацалапава была пагроза арышту старога Карчэўскага. Пан, за гэтыя дні, заместа таго, каб акалець, пайшоў раптам на папраўку. Тут, праўда, і мяс-

цовыя людзі трохі дапамаглі пану, не далі памерці галоднай смерцю, маўляў, навошта нам такі грэх на вёску, і хто што мог, той і прыносіў пану: хто зёлкі і адзенне, хто ежу і напоі.

Толькі вось Кацалапаў, Сцяпан і два чырвонаармейцы нічога не прынеслі паміраючаму старому чалавеку, калі зайшлі яго адведаць. Болей таго, іх здзівіла чыстая падлога ў хаце, ложак з падушкамі і коўдрамі, на якіх сядзеў пан Карчэўскі.

– Ты глядзі што робіцца! – не хаваў свайго здзіўлення Кацалапаў. – Жывы...

– Т-а-а-а-к! – шматзначна затакаў Сцяпан. – Прыйдзецца прымаць стражайшыя меры.

– Жастачайшыя! – удакладніў Кацалапаў.

Пан Карчэўскі асабліва не абрадаваўся іх прыходу.

– Заўтра ж вы будзеце арыштаваныя паўторна і накіраваныя туды, куды вы не даехалі з першага разу! – Кацалапаў гаварыў так, быццам аддаваў загад на расстрэл, і толькі пасля трохі больш лагодней. – Савецкая ўлада любіць справядлівасць... Таварыш Сьцяпан, вы адказваеце за дастаўку!

– Адкажам!

А назаўтра пан Карчэўскі недзе прапаў. Калі Сцяпан з чырвонаармейцамі прыйшлі яго «забіраць», ў хаце анікога не было. Прайшліся па вёсцы, пашукалі ў суседніх хатах, у тых, хто дапамагаў Карчэўскаму – нідзе няма пана, як скрозь зямлю праваліўся сын былога паўстанца.

Прапаў, дык прапаў – актывістаў гэта мала турбавала. Пад радасныя крыкі і лозунгі яны вярнуліся ў дом Карчэўскага, каб прадоўжыць сваю дзяржаўную справу. Пакуль актывісткі наводзілі ў панскіх пакоях рэвалюцыйны парадак, два чырвонаармейцы да вугла дому прыбілі чырвоны сцяг. Відаць, з тым намерам, што нішто так не спалохала б старога Карчэўскага (калі б ён надумаў вярнуцца), як гэтае рэвалюцыйнае палотнішча.

У гэтым жа доме, пад чырвоным сцягам, камісар Кацалапаў адвёў сабе невялікі пакой-спальню, як ён казаў, на ўсякі выпадак. Кватэраваў упаўнаважаны ў Мястэчку, а ў Багданоўцы ён бываў толькі па справе арганізацыі.

Яшчэ адзін пакойчык (сенцы) у панскім доме занялі салдаты.

Пад арганізацыйную кантору камбеда заставалася невялікая панская гасцінная.

Пасля Кацалапаў загадаў Сцяпану напісаць шыльду, якая сведчыла б пра тое, што ў гэтай мясцовасці ёсць арганізаваная афіцыйная савецкая ўлада. Шыльду трэба было павесіць на відным месцы пры ўваходзе ў панскі дом, каб усе бачылі.

Назаўтра здалёку кідаўся ў вочы над дзвярыма надпіс чырвонымі фарбамі на габляванай дошцы: «Часовая Ўправа Савецкай улады тут».

Каля ганку дзяжурыў Сцяпан і кожнаму, хто праходзіў побач Сцяпан нейк усхвалявана паказваў на дошку:

– Мая работа, бачыш!

Але людзі хто як аднёсся да гэтай «работы». Адны казалі «здорава», другія анічога не казалі, а Зінка, мясцовая актывістка, сказала: «Як красіво...»

Правісела, праўда, дошка нядоўга – да першага прыезду Кацалапава. Глянуў ён на шыльду і скрывіўся:

– Что это за «часовая управа?..». Здесь, что – часы вправляют? Вправо, влево... Не пойдёт! Надо как-то іначе...

Сцяпану прыйшлося добра падумаць, як жа засведчыць тут прысутнасць савецкай улады.

Назаўтра на будынку вісела шыльда, на якой не зусім роўнымі літарамі было напісана: «Временное правітельство Советской Власті».

Камісар, калі ўбачыў такі надпіс, аж прысеў ад нечаканасці:

– Вы что здесь, ох... – крычаў ён на Сцяпана. – В Сібір захотелі? Временное правітельство... Зімні тут устроілі!.. Немедленно убрать!

Прыйшлося Сцяпану зноў перарабляць надпіс. На гэты раз ён доўга не думаў і напісаў: «Главное сельское управленіе Советской Народной Властi» і такі варыянт быў прыняты камісарам з адабрэннем.

Шумеў тады панскі дом шматгалоссем, быццам пчаліны вулей, у якім завяліся не то шэршні, не то восы, не то трутні...

Неяк апынуўся ў гэтым доме і Антось – трэба было ўдакладніць адну паперку наконт зямлі і заадно пацікавіцца, калі адкрыюць школку ў вёсцы – каляды ўжо на носе, а дзеці ў хаце сядзяць. Тады Антося ўразілі гэтыя ў асноўным маладыя хлопцы і дзяўчаты, якія весела і з нейкім натхненнем пісалі паперкі, паказвалі іх адзін аднаму і ўсё хадзілі панскімі пакоямі адзін за адным. Тады Антось нават трохі пазайздросціў ім – ён у свае маладыя гады на полі спіны не разгінаў, а гэтыя, быццам няма для іх аніякага поля.

Нейкі пісарчук, прыехаў аднекуль з-пад Бабруйска, хадзіў і пытаўся, як правільна напісаць на расейскай мове «ведамосьць», ці «ведомость», ці «ведомасть»?

– Пішы ўсё праз «о», не памылішся, – параіў яму Пуценька і той, высалапіўшы язык, старанна пачаў скрабаць пяром.

А пасля паказаў ён Антосю сваю пісаніну. Атрымалася так: «Ведомосьць о здаче куріного помёто».

Але гэта была яшчэ палова бяды. Паводле той ведамасці Ян Яскевіч стаў Іоанам Іоскевічом, Вінцук Бурка стаў Вікеньціем Бурко, Пяшкур – Печкуром, Рэпа - Репо, а Баран – Байранам. Казалі, што пісар той нават Сцяпана і Пуценьку запісаў не так. Чуў ён, што Сцяпана называюць Дзядзькам, а Пуценька для ўсіх быў Пуценькам, дык і даў ім прозвішчы на свой капыл: адзін стаў Дядько, а другі – Путько.

Калі Антось пасля расказваў гэтым Іоскевічам, Печкурам і Байранам, як пісарчук у камунарскіх дакументах перакруціў іх прозвішчы, дык яны асабліва не бянтэжыліся. Яскевіч, калі даведаўся, што ён Іоскевіч, стаў абурацца тым, што яму гэты пісар скруціў адну кілю памёту, маўляў, ён здаў шэсць кіляў, а запісана ў яго толькі пяць. Астатнія толькі пасмяяліся, а Баран дык нават усхваліў такі пачын, маўляў, усё вельмі правільна, бо колькі ўжо можна яму хадзіць Бараном, хоць пры савецкай уладзе паходзіць Байранам. Пасля, казалі, бегаў ён да таго пісарчука і прасіў, каб імя яму таксама перайнакшылі, маўляў, ну што гэта за імя такое – Волюсь, ну хоць бы Валерый, а лепш за ўсё – Лорд: Лорд Байран – вось гэта гучыць, вось так было бы правільна.

Тады так атрымалася, што Антось Андралові стаў сведкам цікавай гутаркі між актывістамі. Ён зайшоў да іх у пакой (кабінет), але яны зрабілі выгляд, што не заўважылі яго. Гутарка ішла пра стварэнне нейкіх камітэтаў.

– Таварышы, нам трэба на сходзе абмеркаваць старшынь новых камітэтаў, – прапанаваў Кацалапаў.

– Правільна, таварышы! – падтрымаў ідэю Пуценька. – На чале кожнага камітэту павінен быць таварыш кіраўнік: бедны, чэсны і з народу... як я...

– Таварышы, у нас створаны камітэт беднаты, – працягваў Кацалапаў, – сельскі рэвалюцыйны камітэт, аддзел Чырвонай гвардыі... У перспектыве – аддзел народнай міліцыі, народны кантроль, рэвізійная камісія, камсамол, прафсаюзы... Што яшчэ? Ага, камуна... І на ўсе гэтыя арганізацыі патрэбныя не часовыя, а пастаянныя кіраўнікі. У каго якія прапановы, таварышы?

– У мяне! – падняўся нейкі незнаёмы чалавек, таксама, як і Кацалапаў у шынэлі, кіцялі і сінім галіфэ. – Таварышы! Прапаную стварыць свой народны камітэт, скарочана – нарком.

– Таварышы! Нарком – гэта народны камісарыят, – растлумачыў Сцяпан. – Не зусім падыходзіць, таварыш Трэпелеў...

– Хто мяне вучыць будзе! – абурыўся той. – Мы, таварышы, створым свой народны камітэт і прызначым старшынём камітэту не абы каго, а наркома!

– У прынцыпе няправільна, таварышы – не згаджаўся Сцяпан. – Але, калі так хочаце, на першы раз можна і так.

– А хто ў такім разе будзе наркомам, таварышы? – пацікавіўся Пуценька.

– Я думаю, што мы прапануем свайго кандыдата і дадзім права народу абраць сабе наркома... Правільна? – прапанаваў Кацалапаў.

– Правільна! Очань дажа! – адгукнуўся Казакевіч.

– Таварышы, тады няхай жыве нарком усіх наркомаў таварыш Сталін! – выгукнуў чалавек у шынэлі і сінім галіфэ, padняўся з-за стала і закрычаў:

– Ура, таварышчы!

Усе ўскочылі, як пад каманду, і закрычалі «У-ра-а-а!».

– Таварышы, тады давайце прыступім да абмеркаваньня кандыдатур старшыні камітэтаў, – вёў рэй далей Кацалапаў. – У мяне ёсьць некалькі вельмі вартых кандыдатур на прыкмеце... Толькі трэба іх выклікаць...

– Адкуль выклікаць, таварыш Кацалапаў? – не зразумеў Сцяпан.

– Адкуль нада, таварыш Сьцяпан! – адказаў Кацалапаў. – Хаця можна і з мясцовых, таварыша Пуценьку, да прыкладу...

– Мяне... можна, – пагадзіўся Пуценька.

Але тут Сцяпан зрабіў выгляд, што быццам бы толькі цяпер ён заўважыў Антося.

– А што вы...ты... тут, таварыш, робіш? – здзівіўся Сьцяпан.

Антось не адразу зразумеў, што гэта да яго звяртаюцца.

– Я?

– Ты, ты! – бесцэрымонна затыкаў Пуценька.

– Наркомам хачу стаць! – раптам сур’ёзна заявіў Антось. – Ня Пуценьку ж наркомам становіцца, які зь яго нарком?.. А тут, дай думаю, зайду, можа, паперу дзе якую трэба падпісаць гэтым, як іх... таварышам?..

– Вы... ты... тут, дзядзька, так не жартуйце, – першым адрэгаваў на рэпліку Пуценька. – Ідзі...це, дахаты!

– Што таварышчу нада? – пацікавіўся Кацалапаў. – Как я панімаю – таварышч ад народа. Хадакоў ад народу завсегда нада выслушаць! Так в чом дзела, таварышч?

– А справа ў тым, пан начальнік... – Пачаў было тлумачыць Антось, але яго рэзка перарваў той незнаёмы:

– Паны ў Варшаве!...

– А-а-а... Ну! – зразумеў Антось і коратка выклаў сваю праблему наконт школкі, маўляў, работу ў гаспадарцы амаль што парабілі – на вуліцы кастрычнік, а цэлая класа школьнікаў на печы сядзіць і дурнотай займаецца, а ў мястэчка далекавата малым...

Атрымаўшы вельмі кароткі адказ «зайдзіце, таварышч, праз нядзельку», Антось выйшаў з «кабінету».

У карыдоры яго нагнаў Пуценька:

– Вы што, дзядзька Антось, мяне перад таварышамі прынізілі?

– А што я такога сказаў? – здзівіўся Антось.

– Нічога... Толькі трэба неяк больш далікатней... Я ўсё ж такі начальства...

– Ах вось яно што! – зноў здзівіўся Антось. – Наркомам хочаш стаць?!.

– Хачу-не хачу – ня ваша справа. Таварышу Кацалапаву больш відней...

– Касалапаву, кажаш? Ну-ну! – тады толькі і сказаў Антось і пайшоў.

Дарэчы, у былых панскіх пакоях найбольш важнай персонай і сапраўды быў ўпаўнаважаны таварыш Кацалапаў.

Таварыш Кацалапаў звярнуў на сябе ўвагу тым, што гаварыў узважана, коратка і стараўся гаварыць па сутнасці. Праўда, гэтая сутнасць была нейкай затуманенай і абстрактнай, але яна, як не дзіўна надавала яго прамовам воблік складанасці і важнасці праблемы. Яго слова было апошнім і вырашальным, ад яго залежала ўсё, што мела адносіны да кожнага актывіста, да кожнага селяніна і яго сям'і, да кожнай панскай і сялянскай гаспадаркі. «Я есьмь альфа і амега, апошняя інстанцыя», – часта любіў гаварыць Кацалапаў у вельмі цесным коле актывістаў, і тут ён меў рацыю. Гаварыў ён на расейскай мове, але, каб не вылучацца стараўся ўжываць беларускія словы, асабліка, калі гутарка была звернута да сялян. Таварыш Кацалапаў кантраляваў увесь працэс фармавання савецкай улады і накіроўваў яго туды, куды трэба. І ён ведаў куды. Але стараўся рабіць гэта вельмі далікатна і асцярожна, быц-

цам бы ён тут і не пры чым, быццам усё тут ідзе ад народу, ідзе з ініцыятывы мясцовых актывістаў, а ён так, збоку…

Хітры быў таварыш.

Недзе ў Расеі засталася яго сям'я. Але па ім не было відаць, каб ён моцна тут нудзіўся без жонкі і дзяцей. Асабісты бок гэтага чалавека быў шчыльна закрыты для кожнага цікаўнага і дапытлівага. Здавалася, што ўвогуле ў гэтага чалавека няма нічога свайго, асабістага: адно толькі –Ленін, Сталін, партыя, саветы… Адно, што часам было недарэчным, дык гэта тое, што яго прозвішча Кацалапаў часта блыталі з Касалапавым, альбо з Кацапавым. На што Кацалапаў далікатна папраўляў субяседніка і гаварыў, каб запомнілі правільнае прозвішча, маўляў, так будзе лепш. За вочы Кацалапава празвалі Мядзведзем; і быў ён трохі падобны на мядзведзя – такі ж непаваротлівы і трохі касалапы.

Найбольш набліжанай асобай да таварыша Кацалапава з мясцовых актывістаў стаў Сцяпан Андраловіч.

Сцяпан Андраловіч быў правай рукой Кацалапава. Калі трэба было каму звярнуцца да новага начальства, ішлі не да Кацалапава – ішлі да Сцяпана. У Сцяпана пыталіся, з ім раіліся, у яго прасілі; яму верылі і спадзяваліся на яго дапамогу. І хаця ў Сцяпана было нямала ворагаў сярод вяскоўцаў, але большыня яго падтрымлівала, маўляў, калі і быць некаму начальнікам пры новай уладзе, дык каму ж яшчэ як не Сцяпану, – чалавек гэтую ўладу выпакутваў ад 1918 г., ад арганізацыі тых яшчэ саветаў у Ракавічах і Солах, праз Грамадзянскую вайну, праследаванні польскіх уладаў за беларускасць, мардаванні ў пастарунках, турэмныя краты на Лукішках і ў Бярозе Картузскай за прыхільнасць да камуністычных ідэяў…

Сцяпан і раней быў прыхільнікам сацыялізму, але не такім апантаным, як рабіўся зараз. Зараз ён быццам бы памаладзеў на гадоў дваццаць у плане актыўнасці, як малады насіўся полем, арганізоўваў нешта з моладзю, тлумачыў актывістам, нешта абмяркоўваў з Кацалапавым і з Калманамі, лётаў калі што ў Мястэчка за нейкай новай даведкай альбо інфармацыяй. Сцяпаніха (жонка) скардзілася неяк на вёсцы, што здурнеў чалавек, дахаты прылятае толькі на некалькі хвілін, на хаду перакусіць і зноў некуды ляціць… Забыўся, што ёсць дзеці, гаспадарка нейкая, што ёсць жонка, урэшце… Пахудзеў, абнасіўся, толькі вочы блішчаць нейкім нездаровым бляскам…

Сцяпан выступаў як пасярэднік між упаўнаважаным Кацалапавым і народам. Усё планы, задуманыя ўпаўнаважаным,

супадалі чамусьці з планамі Сцяпана і ажыццяўляліся ім на практыцы. Такі тэндэм абяцаў даць добры плён.

Апошнім часам Сцяпан стаў хадзіць з нейкім падазроным невядомым чалавекам у такой форме, што і ў Кацалапава: шынэль, кіцель і сіняе галіфэ. Прозвішча ў яго было таварыш Трэпелеў. Цікавіўся ён ўсім: і людзьмі, і людскімі гаспадаркамі, і хто што рабіў пры Польшчы, і хто і як сустракаў чырвонаармейцаў, і хто куды ездзіў і чаго, і хто куды ходзіць і да каго. Казалі, што гэты ўпаўнаважаны ў кіцялі будзе новым савецкім начальнікам з'яднаных вёскаў: Бяляніцы, Дойневічаў, Мазалёў і Ракавічаў, бо Кацалапаў пойдзе вышэй. Калі хто пытаўся ў Сцяпана наконт новага начальства, ён адказваў неяк цьмяна, маўляў, хутка будзе сход, на якім народ сам будзе абіраць сабе найбольш вартаснае начальства, бо савецкая ўлада – гэта, у першую чаргу, і ёсць воля і ўлада народу.

Другім чалавекам сярод прасавецкага актыву з мясцовых стаў Кастусь Казакевіч.

Кастусь Казакевіч яшчэ зусім нядаўна абсалютна нічым не вылучаўся: не быў ён змагаром за беларускасць, як, прыкладам, Сцяпан, і не быў ён вялікім прыхільнікам Саветаў, як Стрыгі з Ракуцева. Але чалавекам ён быў разважлівым, памяркоўным і беспрынцыповым. Па ім ніколі немагчыма было пазнаць, што ён думае і адчувае: твар, як маска – аніякай эмацыйнасці, аніякай радасці і амбітнасці, а яго ўласная пазіцыя заўсёды супадала з аўтарытэтнай думкай, прапановай і пазіцыяй канкрэтнага чалавека. Такімі аўтэрытэтамі раней былі пан Лакуціеўскі і войт – і яны былі станоўчай думкі пра Казакевіча, а цяпер – таварыш Кацалапаў.

Сваімі паводзінамі Казакевіч быццам паказваў, што нястолькі яму патрэбна гэтая ўлада, колькі ён патрэбен ёй. Ніхто з мясцовых не змог бы так спрытна ўлагодзіць нейкую канфліктную сітуацыю, як гэта мог зрабіць Казакевіч, зрабіць сваёй памяркоўнасцю, беспрынцыпнасцю і абыякавасцю.

Дарэчы, Кастусь Казакевіч адзін з першых стаў гаварыць з Кацалапавым і Калманам на расейскай мове (так, як гэта рабілі яны). Атрымлівалася ў яго не надта добра, але Кацалапаву гэта падабалася і ён вельмі часта ставіў Казакевіча ў прыклад іншым.

Трэцім чалавекам у мясцовым актыве, стаў, з лёгкай рукі «вызваліцеля» – камандзіра Чырвонай арміі, Пуценька.

## 9.Пуценька

Малады камандзір на мітынгу ў Багданоўцы ненарокам прызначыў Пуценьку намеснікам начальніка «советской деревні». Менавіта так думалі вяскоўцы.

Пасля гэтага Пуценька тут жа стаў ствараць сваю каманду і наблізіў да сябе былых панскіх батракоў Мечыка і Славіка. Да фізічнай працы хлопцы імпэту не мелі, калі што рабілі, дык так, як мокрае гарыць – раздражнялі толькі. Болей таго, прызвычаіліся хлопцы да гарэлкі, якую дабывалі абменам на крадзенае панскае дабро альбо на якія-небудзь гаспадарчыя рэчы. Пан Усевалад Дабрынскі ў свой час не раз іх праганяў з працы ў двары, але праз колькі дзён яны зноў прыходзілі, прасіліся, і пан знаходзіў ім нейкі занятак. Мабілізацыю ў Войска Польскае яны прасядзелі ў лесе, а як прыйшлі Саветы яны з парады Пуценькі вырашылі стаць камунарамі. Вось неяк за чаркай Пуценька і размаляваў ім перспектывы новага шчаслівага жыцця, а менавіта: «Вы адзенеце белыя кашулі і чорныя фракі, бо будзеце маімі асабістымі вартаўнікамі…«. А пакуль Пуценька «прыстроіў» іх вартаваць камунарскі склад часовай управы савецкай улады. Так Мечык і Славік сталі дзень і ноч «дзяжурыць» у былым складзе пана Карчэўскага. Часта з імі вечарамі «дзяжурыў» і Пуценька, і тады склад шумеў рознымі рэвалюцыйнымі і народнымі песнямі.

Увогуле Пуценька ў вёсцы з'явіўся, можа, які з дзесятак гадоў таму назад. Сам ён з тутэйшых, Антось добра помніць яго маці і бацьку, праўда, бацька, трошкі з'явіўся пазней у Пуценькі, калі яму было каля года. А хто быў сапраўдным бацькам, дык гэта і сам Пуценька не ведаў. Помніць Антось і нават малога Пуценьку: крываногі, смаркаты і плаксівы. Быў ён не нашмат маладзейшым за Антося. Хата іх была за выганам – іх яшчэ называлі «Выганскія». У Мікалаеўскую вайну яны падаліся ў бежанцы, у Расею, а адтуль так і не вярнуліся. А куды было вяртацца, калі ад хаты анічога не засталося пасля вайны, нават камені з падмуроўкі і тыя расцягнулі на акопы.

Ніхто ў вёсцы не ведаў, адкуль з’явіўся Пуценька і дзе прападаў гэтыя гады. Злыя языкі пагаворвалі, што ён быццам недзе пад Смаленскам ці пад Воршай праводзіў лінію партыі, але лінія атрымалася трохі крываватай, і ён вымушаны быў вярнуцца на радзіму, без якой, як любіў сцвярджаць сам Пуценька, жыць не мог на чужыне.

Прыбіўся Пуценька да Марты, як той блудны кот ці сабака да чужой хаты. Марта была ўжо ў гадах кабета, у свой час замуж не выйшла і жыла з старой маці ў маленькай хатцы, а

тут раптам Пуценька... Як зляцеліся, дык цэлы тыдзень днямі з хаты не выходзілі, толькі старая Адэля, маці Марты, увесь час сядзела на ганку і ківала галавой. Так, у хаце патрэбны быў і мужчына, і гаспадар. Хаця, праз колькі гадоў сумеснага жыцця, Марта пачала больш крытычна выказвацца, маўляў, у хаце ані таго, ані другога, толькі лішні рот і галава з заскокамі. Што гэта былі за заскокі таксама добра ведалі ў вёсцы. Пуценька часценька любіў заявіць нешта такое, кшталту:

– Наша пуць – гэта пуць рабочых і зь сялянамі!..

Альбо:

– Наша пуць – гэта ленінска-сталінскі пуць! – і пачынаў спяваць: «Другога нет у нас путі, в руках у нас вінтовка!».

Альбо:

– Наша путь – гэта пуць у Савецкую Беларусію, а пасьля ў Расею-матушку!

Праўда, ніхто і ніколі не ўспрымаў усур'ёз ані яго самога, ані яго выказы. Мужыкі толькі пасмейваліся і яшчэ болей кпілі над гэтымі «пуцямі». Нехта нават прыпеўку склаў:

*Другога нет у нас путі, –*
*Кажа Пуценька,*
*І ў ложка ён ляціць*
*З Мартай хуценька.*

Магчыма, праз гэтыя «пуці» яго і празвалі Пуценькам, хаця і вонкава ён вельмі адпавядаў гэтаму слову: невялікага росту, увішны, вяртлявы і быццам увесь час некуды спяшаецца і нікуды не ідзе. Мянушка так прыстала да чалавека, што хутка ўсе забыліся пра яго сапраўднае прозвішча і імя. Нават Марта і тая называла яго Пуценькам. І ён не крыўдзіўся, альбо рабіў выгляд, што не крыўдзіцца.

Польскія паліцыянты часта заводзілі яго ў пастарунак, але праз колькі гадзін адпускалі. Можа, ён ім паказваў нейкія дакументы ці даведкі – гэтага ніхто не ведаў. Пасля пастарунку Пуценька некалькі дзён быў маўклівым і панурым, а затым пачынаў на чым свет стаіць лаіць польскіх паліцыянтаў і зноў браўся за сваё: «Наша путь – путь к пабедзе камунізму!», «Другога нет у нас путі...» і гэтак далей.

Але навучыў ён гэтым лозунгам хіба што толькі свайго 5-гадавалага сына. Антосю часта прыходзілася чуць праз вуліцу, як падвыпіўшы сусед кідаў маломy рэплікі:

– Сашок! Куды мы ідзём?

– Мы ідзём к пабедзе камуністычнага тлуда! – бойка адказваў Сашок.

– Маладзец! - хваліў бацька.

Альбо:

– Сашок! Што такое савецкая власць?

– Савецкая власць – гэта ім дустам лізацыя плюс электла лізацыя ўсёй стланы!

– Таксама, маладзец, хаця не зусім дакладна, але падрасьцеш – давучышся! – абнадзейваў бацька.

У Пуценькавага малога была адна цікавая звычка: калі хто прыходзіў да іх у хату, ён адразу пачынаў лезці ў яго торбу... Што ён там шукаў – аднаму малому было вядома, але вельмі часта пасля такіх пошукаў ён ставіў перад госцем няёмкае для яго пытанне:

– Сто, нават і пляскі не плынёс?!.

«Далёка так могуць зайсці Пуценькі», – думаў Антось і не змыліўся.

Калі трэба было што Пуценьку зрабіць у гаспадарцы, дык ён звычайна прыходзіў да Антося, прыходзіў як за парадай, так і за якой-небудзь прыладай – у яго нават прыстойнай сякеры не было, а што ўжо гаварыць пра абцугі, габэлькі і іншае. Прыходзілі суседзі, Пуценька з Мартай, пазычыць хлеба, ці мукі, ці крупаў якіх – мала чаго прыходзілі, і Антось даваў і пазычаў: як не дасі – усё ж такі пры суседстве.

Неяк адвячоркам Ганька карміла малога Валіка. Старэйшыя дзеці яшчэ былі хто дзе пры рабоце, а Антось зайшоў у хату выпіць вады.

– О, тата прыйшоў! Давай за тату лыжачку, хап, о так, малайчынка, – угаворвала Ганька малога.

Тут амаль што следам за Антосем у хату ўвайшоў Пуценька.

– Добры вечар! – прывітаўся Пуценька і асцярожна прысеў на лаву, каля парога.

– Добры! Ажно паглядзім, які будзе, – адказаў Антось.

– Павінен быць добрым, – працягваў гутарку Пуценька.

Малы з'еў лыжку кашы за тату і за маму, а вось за бабульку прыйшлося Ганьцы зноў ўгаворваць:

– Ну, Валічак, за бабуньку, хоць трошкі, а то прыйдзе бабунька і гасьцінца ня дасьць.

– Кінь дзіцё сілкаваць, – заўважыў Антось, – ня хоча есьці – ня трэба!

– Хай есьць, пакуль ёсьць што, хай наядаецца, – адказала Ганька і працягвала далей. – А за дзядуньку, сыночак, давай за дзядуньку, хоць лыжачку...

– Я бы параіў вам, цётка, за трудзяшчыхся лыжачку, абавязкова за трудзяшчыхся, – прапанаваў раптам Пуценька.

Антось змаўчаў, а Ганька працягвала:

– Ну, а давай, сыночак, як дзядзька кажа, за трудзяшчыхся, давай...

Але тут малому як нешта зрабілася: ён пачаў крыўляцца, паказваць язык, пускаць бурбалкі з роту і выплёўваць нават тое, што было «за дзядуньку».

– Бр-л-л-л-бу, – падаваў голас малы, круціў галавой і «за трудзяшчыхся», відаць, прынцыпова есці не хацеў.

– Не сілкуй малога, я табе сказаў! – павысіў голас Антось, і Ганька на гэты раз адсунула міску ўбок.

– Блага, што ня хоча за трудзяшчыхся, – пашкадаваў Пуценька.

– Як падрасьце, думаю, дык ня толькі зьесь, але і вып'е за тваіх трудзяшчыхся, – заўважыў Антось.

– Чаму вы кажаце, за маіх? За нашых, але Бог зь імі... А я да вас, дзядзька Антось, з такой просьбай, – пачаў Пуценька.

Пуценька заўсёды прыходзіў толькі з просьбамі. Іншай нагоды ў Пуценькі ніколі не было.

– А просьба такая...

Пуценьку на той раз спатрэбіўся біцюк, бо свой ён скарыстаў на іншую патрэбу, а тут пару снапоў варта было б апрацаваць... Цэп ёсць, а біцюка няма... Антось не стаў адвязваць цэпа ад біцюка, тым больш, што сумняваўся Антось у тым, што быў калі-небудзь гэты цэп у Пуценькі – даў яму добры цэп, хай махае…

Пасля адносіны з Пуценькам сталі псавацца неяк самі сабой. Аднаго разу спатрэбіўся Антосю малаток, усю хату ён перавярнуў, а малатка так і не знайшоў, а пасля ўспомніў, што Пуценьку даваў малаток той. Ён да Пуценькі, а той божыцца, клянецца, што аднёс малаток. У Антося сям'я вялікая, але ніхто так і не згадаў, каб Пуценька калі адносіў малаток. А пасля, неяк на сенакосе, згледзіў малаток той Пецька ў руках Пуценькі. І так было з іншымі рэчамі, пакуль Антось не ўзяў пад строгі кантроль і ўлік свой інвентар і інструмент.

А яшчэ прамануў быў Пуценька лётаць за Антосева гумно, як усёроўна ў кусты якія, бо сваёй уборнай у Пуценькі не было. Мала што на гумнішчы можна было пасадзіць, а тут – дзе ж ты пасадзіш... І казаў ён пра гэта Пуценьку, а таму што з гуся вада...

Неяк перад прыходам Саветаў, можа, за якіх два месяцы да таго, прапаў быў Пуценька. Напачатку нават ніхто і не заўважыў, што няма чалавека, і толькі неяк панскі аканом,

сустрэўшы Антося, пацікавіўся, чаму яго сусед не ходзіць на работу ў двор.

Паводле таго, як Марта сябе паводзіла, можна было меркаваць, што яна альбо ведае, дзе знаходзіцца муж, альбо ён і для яе не стаў вялікай стратай.

Знікаў ён, дарэчы, і раней. І, калі хто пытаўся ў Марты, маўляў, дзе ж твой Пуценька, – тая адказвала абыякава:

– Лётае нейдзе...

Альбо:

– У прочкі даўся, – і сама толькі смяялася.

Што гэта былі за «прочкі», можа, толькі адзін Пуценька і ведаў. Пагаворвалі ў вёсцы, што быццам Пуценька трохі не таго... што находзіць на яго нейкі шал, і тады ён ляціць у поле, у лес... Няведама куды ляціць... Звычайна пасля такіх «палётаў» у вёсцы з'яўляліся бальшавіцкія газеты і ўлёткі. Але хадзіў ён у прочкі і «лётаў» нашмат часцей, чым нешта з'яўлялася. Тым не меней людзі ўжо ведалі, калі знікае Пуценька – чакай бяды. Нешта падобнае было зусім нядаўна, калі зноў прапаў Пуценька – і з'явіўся за колькі дзён перад прыходам Саветаў.

З'явіўся тады і распачаў актыўную арганізацыю дзеля сустрэчы байцоў Чырвонай арміі.

– Няма ў нас іншага пуці, як толькі ісьці і сустракаць! – чуўся яго голас то каля адной, то каля другой хаты. – Бо толькі доблесная Красная армія, каторая всех сільней, можа вызваліць нас ад нішчаты і буржуазна-панскага прыгнёту...

Прапаноўваў ён і Антосю прыняць афіцыйны ўдзел у сустрэчы, але Антось адмовіўся, маўляў, за працай няма калі хадзіць на такія ўрачыстасці.

...А пасля Пуценька абнімаўся з камандзірам Чырвонай арміі, круціўся каля яго, нешта ўсё расказваў, паказваў, тлумачыў...

Неяк ужо пасля «вызвалення» аб'явіўся Пуценька на Антосевым падворку радасны і вясёлы з газетай:

– Слухай, дзядзько, што пішуць, – замест прывітання прапанаваў Пуценька і пачаў зачытваць: «Жыццё сялян стала свабодным і шчаслівым. Віленская Праўда ад 5 кастрычніка. Усе, як адзін, выступаўшыя выказвалі сваю цвёрдую ўпэўненасць, што яны, як і ўсё сялянства, гатовы прылажыць свае сілы на тое, каб з поспехам выканаць стаячыя перад імі задачы па ўмацаванню рэвалюцыйнага парадку. Выступаўшыя гаварылі, што для ўсяго сялянства Заходняй Беларусі няма і не можа быць большай радасці і шчасця, як жыць і працаваць пад сонцам Сталінскай Канстытуцыі, у брацкай дружнай сям'і народаў вялікага Савецкага Саюза...».

– Што такое шчасьце я ўжо ведаю, – кінуў іранічна Антось, – Здагадваюся і пра сонца сталінскай канстытуцыі…

– Цемната несусьветная, – важна падкрэсліў Пуценька, – Пайду лепш дзецям верш пакажу, хай вучаць.

Недзе праз хвіліну ў хаце пачуўся голас Пуценькі:

*Спі мой сыночак! Лёс горкі*
*Больш не кране ў барацьбе,*
*Зоркі, Крамлёўскія зоркі*
*Будуць свяціці табе.*
*Жудкіх не зведаеш ночак,*
*Блукаць не будзеш нідзе,*
*Долю тваю, мой сыночак,*
*Сталін да сонца ўзвядзе.*

Дыкламатар вершаў з Пуценькі быў ніякі і дзеці трохі пасмейваліся з дарослага дзядзькі, які чытае не лепш за іх. Але Пуценька дачытаў да канца і сказаў, каб верш вывучылі на памяць, бо належыць ён пяру самога Янкі Купалы, а ён, як прадстаўнік Сталіна, заўтра прыйдзе і праверыць…

І, дарэчы, прыйшоў назаўтра з сваім малым Сашкам, які прадэманстраваў свае здольнасці дэкламацыі, кшталту: «*золкі, кламлёўскія золкі будуць свяціці табе*»,

…І вось, ты глядзі, хоча Пуценька стаць наркомам. І можа стаць… Тут анакдай Сцяпан неяк агаварыўся, што Пуценька зрабіўся зараз такім лятонцым, што за ім не ўгонішся.

А яшчэ праз колькі дзён, раніцою, ледзь толькі Антось паказаўся на ганку, як пачуў фанабэрысты голас Пуценькі:

– Эй, ты! Каб сёньня на сход прыйшоў...

Антось яшчэ аглядзеўся навокал, можа, не да яго звяртаюцца...

– Ты, ты! Не круці галавой! – развеяў Пуценька ўсякія сумневы.

– А ты што, можа наркомам стаў?

– Як захацеў! А каб на сходзе быў!

– На якім сходзе?

– На вялікім!.. А то будзеш пасьля гаварыць, што ты і гэтага ня ведаў і таго ня ведаў… Няведаньне не ратуе ад адказнасьці!..

Але гэта быў голас не таго Пуценькі, над якім яшчэ ўчора можна было пакпіць, гэта быў ужо голас начальніка, можа, яшчэ і не такога вялікага, бо быў без сіняга галіфэ з лампасамі, але і не такога малога, на якога не варта звяртаць увагі. А яшчэ, рэзанула па вушах гэтае «эй ты» – раней Пуценька звяртаўся да Антося толькі на «вы».

– Буду глядзець, можа і прыйду…

– Тут няма чаго глядзець! Альбо з намі, альбо супраць нас!

– Зь кім гэта – з вамі? З табой, зь Мечыкам, з Славікам? – перапытаў Антось.

– Ты не валяй дурня! З намі – гэта значыць з таварышам Сталіным, з партыяй Леніна-Сталіна, з Савецкай Расеяй, з камісарамі...

– Мне ў гэтай кампаніі, ведаеш, мулка...

– Я табе найду кампанію з усімі рабочымі і сялянамі сьвету!

– А калі я не хачу быць з усімі рабочымі і сялянамі сьвету? Што я зь імі рабіць буду?.. Тады што?

– Тады – магіла! Я ж табе сказаў, хто не з намі, той супраць нас!

– А калі я не хачу быць з вамі і ня буду супраць вас, тады што?

– Тады – амба... Слухай, калі ты такі разумны, прыйдзі сёньня і задай сваё дурное пытаньне… Табе адкажуць… Будзе камісар, будуць таварышы з павету, салдаты... Табе адкажуць, – і Пуценька хуценька падаўся за гумно, на хаду здымаючы дзяжку.

## 10.Загон

Сход павінен быў адбыцца ў Загоне. Менавіта так нехта перайначыў панскі выган за Багданоўкай, хоць да Мікалаеўскай вайны там і быў панскі загон для жывёлы: невялічкая палянка на згібе гары ў атачэнні ліпаў і бэзу, дзе, як у затулку, заўсёды было суха і не так ветрана – лепшага месца для збору людзей не знойдзеш.

Туды, наколькі ведае і помніць Антось, заўсёды заганялі людзей, калі трэба было даць важную абвестку, альбо зрабіць судзілішча, альбо пачуць голас народу, альбо нешта ўзяць ад гэтага народу. Некалі жандармы і царскія чыноўнікі ў Загоне ўсё дапытваліся, хто дапамагаў «польскім мяцежнікам», альбо хто баламуціў народ рознымі антыцарскімі пракламацыямі і ўлёткамі; некалькі чалавек тады забралі прама з Загона. А пасля кайзераўцы дэманстравалі дэмакратыю: пыталіся ў народа, у якой яны дзяржаве хацелі б жыць: у нямецкай, польскай, літоўскай, расейскай ці бальшавіцкай. А пасля – рэвалюцыя, грамадзянская вайна... Шумеў тады Загон. І хто толькі туды не заганяў людзей, альбо просьбамі, альбо стрэламі. Даходзіла часам да смешнага: прыязджае нейкі важны паляк з ксянд-

зом і пачынаюць тлумачыць вяскоўцам, што яны ёсць люд польскі; наступнага дня з'яўляюцца літоўцы і даводзяць, што ў гэтай мясцовасці ажно да самага Менск-Літоўскага жывуць літоўцы, альбо ліцвіны, што тлумачылася імі як адно і тое самае; рускія яшчэ ад часоў той Імперыялістычнай вайны як фронтам стаялі даводзілі, што гэта руская зямля і беларусы – «это те же рускіе, но немного испорченые польскім элементом» (мужчыны толькі смяяліся з такіх высноў); дырэктар Барунскай гімназіі, Сымон Рак-Міхайлоўскі, гаварыў, што мы – беларусы, толькі з той розніцы, што адны каталікі, а другія праваслаўныя. Бывалі тут зрэдку і Станкевічы з Вурлянятаў і іншыя беларусы.

Пры тых агітацыях у Загоне часам падымаўся шум, гвалт і не абыходзілася без гумару. Да прыкладу, Карповіч з Мазалёў, чалавек з гумарам, кідаў літоўскім агітатарам рэпліку кшталту:

– Ну, вось вы кажаце, што мы не палякі, дык адкуль тады ў нас з’явіўся Ванька Пшэк?

Навокал распачынаўся гучны рогат, а Ванька, якога абзывалі Пшэкам, неўзабаве пачынаў тузацца з Карповічам.

Альбо нехта з натоўпу пасля чарговай польскай агітацыі стараўся ўдакладніць нацыянальную сутнасць народу:

– Вось вы гаворыце, што мы тут усе палякі, але ж якія мы палякі, калі ў нас жывуць амэрыканцы, аргентынцы, маскалі, рускія, японцы… Я ўжо не кажу пра жыдоў і татараў... Як тут наконт сутнасьці?

Калі ж агітатары былі прыезджымі, яны пачыналі гаварыць пра шматнацыянальны склад насельніцтва і гэтым яшчэ больш рабілі сітуацыю смешнай. У вёсцы ўсе ведалі «аргентынцаў» і «амэрыканцаў»: былі на заробках у Аргентыне і Амэрыцы, прыехалі і празвалі адпаведна; альбо «японцаў»: дзед любіў расказваць пра свае подзвігі на руска-японскай вайне, мала таго, дык яшчэ любіў паўтараць: «я понял, я понял», так і стаў Японцам; альбо – «рускіх»: зноў жа нехта там з родных пры выпіўцы любіў казаць: «рускія пасьля першай не закусваюць», так і стаў Рускім. Мянушкі ад бацькоў пераходзілі на дзяцей – вось і ўся шматнацыянальнасць. У Балобанах жыве Беларус – яго ўсе так завуць, хоць прозвішча ў яго Маркоўскі. Пераехаў ён з Беласточчыны, казаў, што там палякі жыцця не даюць тамашнім беларусам. І выдзеліўся ён на агульным фоне тым, што прынцыпова падкрэсліваў, што ён – Беларус. Так і празвалі.

Дарэчы, наконт беларусаў. Прыязджалі яны тады з Вурлянятаў, з Шутавічаў, з Жодзішкаў. Рабілі на беларускай

мове прадстаўленні, спявалі песні, чыталі вершы. Ужо, нават ў Дойневічах, пачаў складацца свой беларускі гурток, і Антось быў яго ўдзельнікам (іграў на гармоніку). А сустрэчы такія распачыналіся звычайна з гутаркі: нехта зачытваў рэферат на беларускую тэму, а пасля дыспутавалі. На адной такой сустрэчы ксёндз Адам Станкевіч вельмі пераканаўча гаварыў пра Беларусь і пра тое, хто яны такія ёсць.

Згадваецца цікавы эпізод, які адбыўся ў Загоне недзе ў тых гадах. І тады прыехала некалькі чалавек, таксама гаварылі па-простаму. І вось адзін пачаў чытаць верш «А хто там ідзе?». Ведаў гэты верш і Антось, неяк яшчэ раней Янук Дайновічаў даваў пачытаць. Усё было ў ім блізкім, родным і зразумелым: як усероўна пра яго, альбо бацьку, ці дзеда. Але, колькі ён ні спрачаўся з Януком, адзін момант заставаўся незразумелым. І, калі верш быў дачытаны да канца, у Загоне загучаў голас Антося:

– Хацеў бы спытацца?..

– Калі ласка!

– Вось тут: хто ідзе, чаго ідзе, што нясе і куды нясе – усё гэта правільна, я сказаў бы, да сьлёзаў правільна, і лепш ня скажаш! Толькі вось мяне цікавіць такое пытаньне: а хто іх вядзе? Бо куды ж яны могуць прыйсьці самі: сьляпыя, глухія, пагарджаныя век цэлы – гэта вам не хаханькі?..

Тут Антось дзеля важнасці перадыхнуў і прадоўжыў:

– А яшчэ... а ці ведаюць яны, куды трэба ісьці? Я, да прыкладу, ня ведаю! У сьвет цэлы – каму я там патрэбны?.. Што я там буду рабіць у сьвеце гэтым?.. А дзе той, хто мог бы паказаць такім дарогу?.. Ці знойдзецца ён? А калі й знойдзецца такі, і возьме ў рукі паходню, і скажа: «за мной!», і шлях укажа, а ці пачуюць глухія?.. А ці ўбачаць сьляпыя?.. А ці ўразумеюць пагарджаныя?.. Вось дзе рэч няясная...

Загон маўчаў, толькі нехта прысвіснуў, а людзі паволі павярнулі галаву на дэкламатара, маўляў, што скажаш на гэта.

– Вядзе іх ідэя «людзьмі звацца» і, калі яны хочуць звацца людзьмі, дык, значыць, яны ўжо нешта пачулі, нешта ўбачылі, нешта зразумелі! – вельмі коратка і дасціпна адказаў дэкламатар, але Антосю зноў жа не спадабалася гэтае «нешта». Хацеў ён удакладніць, але тут загаварыў наступны выступоўца:

– Літаратурны твор – гэта ня ўлётка. Мы хочам перадаць вам думкі вялікага нашага беларускага песьняра Янкі Купалы, каб вы ведалі, што ёсьць і ў нас, у нашай роднай мове вялікія

і цудоўныя творы. Я прычытаю адзін такі твор, які будзе тут вельмі дарэчы.

Чытаў ён пра прарока. Антось ведаў і гэты верш, і таксама праз Дайновіча. Калі ж чытальнік дайшоў да словаў «пара ў рукі браць паходні, Ісьці ў ноч, сьвет рассьвятляць, Бо, што ня возьмеце сягоньня, Таго і заўтра вам ня ўзяць…», тут раптам Грышка Картановіч перабіў чытальніка:

– Стойце, хлопцы! Я ня супраць пайсьці і ўзяць, толькі давайце канкрэтна: куды трэба ісьці і што трэба браць?.. Вось Сьцяпан неяк аднойчы прагаварыўся, што да пана трэба ісьці і забіраць у яго каня, карову, хамут, колы… і ўсё зразумела. А вы тут усё намёкамі ды намёкамі!

Пачуўся шум і рогат, а калі аратар дачытаў да словаў: «А колькі ж нам дасі чырвонцаў, калі мы пойдзем за табой», усталявалася на нейкі момант цішыня, а пасля ў гэтай цішы прагучаў настойлівы голас Сака, пажылога чалавека з Няроўкі:

– А й сапраўды, а колькі нам дасі чырвонцаў?..

Зноў навокал шум, смех, падкавыркі.

– Сак за капейку жабу ў Вільню загоніць!

– Дык колькі дасі? – дамагаўся свайго Сак.

– А я на такія меркантыльныя і правакуючыя пытаньні не адказваю! – агрызнуўся малады выступоўца.

– Адкуль грошы ў прарока? – даволі гучна і сур’ёзна заявіў Янук Дайновіч, і вясёлая балбатня сама сабой прыціхла.

Антось тады задумаўся над гэтымі чырвонцамі. А можа і варта было б даць пару чырвонцаў! Тады, на дзіва, шмат хто пайшоў бы, бо людзі, даведзеныя войнамі і рэвалюцыямі да жабрацтва, маглі б куды хочаш пайсці: хоць у рай, хоць у пекла. Антось тады падышоў да Сцяпана, які стаяў і размаўляў з двума прыезджымі незнаёмцамі і, улавіўшы момант, падзяліўся сваімі думкамі.

– Э, каб так усё было проста, Антось, як ты кажаш, не было б у нас праблемаў! Толькі, дзе тыя чырвонцы ўзяць? – Сцяпан развёў рукамі.

– Той, хто мог бы нам дапамагчы, баіцца, каб не пайшла яго дапамога на карысць бальшавікам, – падключыўся да гутаркі чарнявы незнаёмец. – Бяда ў тым, што багатыя беларускую справу сур’ёзна не ўспрымаюць. Ёсць пару чалавек, дык толькі на газеткі і хапае. Самім трэба неяк рупіцца.

– А бальшавікі? – спытаўся Антось.

– Бальшавікі? – ажывіўся чарнявы. – Ёсьць спадзяваньне на іх, бо гэтая ўлада такіх жа бедных, як і мы, беларусаў. Галоўныя іхнія ворагі – розныя паны, памешчыкі, капіталісты,

буржуі... Бальшавікі ў іх ня просяць грошай – забіраюць самі. У бальшавікоў жа ідэя, каб не было багатых, каб усе былі роўныя. Дарэчы, гэтая ідэя і нам, беларусам, разьвязвае рукі...

– Вельмі спрэчнае пытаньне наконт рук, – умяшаўся ў гутарку другі незнаёмец. – Ёсьць думка, што не разьвязвае, а яшчэ больш зьвязвае...

– Ты ж глядзі, што робіцца, – тлумачыў чарнявы Антосю, не звяртаючы ўвагі на свайго калегу.– Ты ж ня супраць таго, каб зямлю аддаць бедным. Але перш, чым аддаць, трэба зьліквідаваць багатых як клясу, а ўсё іхняе дабро спусьціць на патрэбы партыі рабочых і сялян, тваёй партыі, бо ты ж селянін. Толькі ж ніхто табе тую зямлю так проста не аддасьць, але ты ўжо зацікаўлены ў тым, каб яе атрымаць, і нават задарма. У цябе з’яўляецца рэальны шанцунак мець зямлю і стаць багатым… Вельмі рэдкі шанцунак, згадзіся. Падзеля гэтага і рэвалюцыя робіцца, ты выганяеш пана і становішся ўласьнікам яго зямлі задарма. Усё вельмі проста.

– Куды ўжо прасьцей, – паківаў Антось галавой. – А калі пан мне скажа «пшэдзь да дупы» і не захоча ўцякаць, тады што?..

– Што значыць, не захоча? Ён жа твой першы вораг і такі ж вораг працоўна-сялянскага клясу і савецкай улады... Ты ня ведаеш, што робяць з ворагамі?..

– З ворагамі? – Антось чамусьці задумаўся.

– Усё вельмі проста, – прыйшоў на дапамогу Янук Дайновіч. – Ты павінен раскідаць панскае гняздо, забіць пана, да прыкладу, Лакуціеўскага, яго жонку і дзяцей...

– А дзяцей навошта? – здзівіўся Антось.

– А каб ня помсьцілі, як вырастуць... Правільна я думаю, таварыш? – Янук з нейкім запалам у вачах глядзеў на чарнявага.

– Во, во! Гэтаму дайшло... Рэвалюцыйны розум маеш, баец! – падбадзёрыў той.

– Ага! Вось яно што... А пасьля я павінен украсьці яго дабро, – тут ужо здагадаўся Антось, у чым справа...

– Ну чаму украсьці – забраць, – паправіў чарнявы.

– Ага, гэта так у вас цяпер называецца, – працягваў Антось. – Забраць, каб іншыя не ўкралі... Забраць яго зямлю і на гэтым разбагацець?! Вось гэта ідэя!

– Так, гэта адзіны шанцунак! – пацвердзіў чарнявы.

Але Антось толькі ўхмыльнуўся і працягваў:

– А пасьля, калі я разбагацею, бо, калі я буду мецьма зямлю, я абавязкова разбагацею, так?

– Ну, вядома так...

– І тады, як я разбагацею, прыйдуць другія, такія ж ідэйныя лябіхі, як ты, – Антось тарканулў пальцам у грудзі чарняваму, – і зробяць са мной тое самае, што я зрабіў з панам і зь яго сям'ёй!.. І зноў усе будуць роўныя і шчасьлівыя! Хто гэта так хітра прыдумаў: Маркс, Ленін, Троцкі ці, можа, ты сам? Толькі чаго тады мы тут стаім, гаворым нейкую ерунду, ня ўсе ж паны яшчэ паўцякалі...

– Астынь, Антось! – супакоіў Сцяпан. – Ня так ты трохі ўсё разумееш... Мы ж усё жыцьцё гнулі карак на паноў... Мае рацыю таварыш, хопіць цярпець нам. Хочацца пажыць як чалавеку, хочацца Чалавекам сябе адчуць... Людзьмі звацца...

– Ну-ну! – заківаў галавой Антось. – Перад кім адчуць? Перад кім звацца? Вось прыедзе барын... Царскія жандармы нас за людзей не прымалі, а зараз адтуль прыйдзе бальшавік і ўважыць нас гэтак жа, як і жандармы, і назаве ён нас людзьмі...

– Вось тут ужо болей рацыі, – загаварыў другі незнаёмец. – Вось мы й гаворым зь людзьмі пра Беларусь, і вершы чытаем, бо хочам, каб не маскаль намі камандаваў, а каб самі мы свой лёс вырашалі, самі сваю дзяржаву тварылі, як літоўцы, як украінцы, як палякі...

– Толькі мы ня справімся самі без старшых таварышаў і братоў, камуністаў-ленінцаў, – перакруціў на свой лад чарнявы.

– А для гэтага патрэбны грошы! – зрабіў выснову Сцяпан. – І мы, такім чынам, прыйшлі да таго, з чаго пачыналі.

– Добра палякам было рабіць Польшчу, – загаварыў Янук Дайновіч. – Лакуціеўскі, да прыкладу, цэлы атрад узброіў, зямлю нават раздаваў, каб толькі ішлі ў яго атрад. А што можа зрабіць галота?..

– Галота, калі яе ўмела накіраваць, можа зрабіць вельмі шмат, – зноў пачаў тлумачыць чарнявы. – Не багатыя рэвалюцыю зрабілі, а мы! Так і ў вас будзе!

– А, дарэчы, за якія грошы рабілі вы рэвалюцыі? – Янук Дайновіч задаў нечаканае пытанне, на якое ніхто не адказаў.

– Выходзіць, што апрача гвалтоўнага перадзелу вы анічога прапанаваць ня можаце? – на ўсякі выпадак спытаўся Антось.

– Ну падумай ты сам, які пан захоча з табой дабравольна падзяліць сваё дабро! – за чарнявага адказаў Янук.

– Рэвалюцыя, на тое яна і рэвалюцыя, каб выкарыстаць усе метады. Але ўгаворамі рэвалюцыі ня зробіш, – удакладніў чарнявы. – Трэба ствараць сялянскія рэвалюцыйныя камітэты...

І тады Сцяпан прапанаваў:

– А што нам адкладваць, давайце і створым свой камітэт!..

– І арганізавана пойдзем зарабляць грошы на рэвалюцыю, – дадаў не то сур'ёзна, не то іранічна Антось.

А камітэт і сапраўды стварылі. Чалавек пятнаццаць уваходзіла ў той Беларускі сялянскі камітэт. Сцяпан стаў старшынём, а ў складзе сяброў былі Янук Дайновіч і Антось Андраловіч. Называлі іх у гэтым камітэце хадэкамі, хаця фармальна да партыі хрысціянскіх дэмакратаў яны не адносіліся. А называлі так таму, што яны выступалі супраць гвалту. Праўда, той камітэт існаваў нядоўга, бо зноў прыехала нейкая новая ўлада, распусціла той камітэт (яшчэ і прыстрашылі) і прызначыла сваё начальства.

* * *

На гэты раз у Загоне, пад ліпамі, стаяў стол, які быў засланы чырвонай тканінай. За сталом важна ўселіся чатыры чалавекі: два з іх былі невядомыя, відаць, з павету, плюс Кацалапаў, – усе ў кіцелях цёмна-зялёнага колеру і сініх галіфэ,– і Сцяпан у звычайным фрэнчы.

Калі б ў Заходняй Беларусі разгарнуўся антысавецкі супраціў, дык прыезджых савецкіх начальнікаў можна было б за адзін дзень зліквідаваць. Яны кідаліся ў вочы сваёй уніформай: доўгае чорнае паліто ці шынэль, а пад імі цёмна-зялёны мундзір і сіняе галіфэ. Колер мундзіра і галіфэ стаў настолькі модным, што нават Пуценька хваліўся неяк, што замовіў у Шнэера, у Мястэчку, матэрыялу для пашыву сіняга галіфэ з лампасамі і цёмна-зялёнага мундзіра, казаў, што заказаў сабе «упраўленчаскі» мундзір і «напраўляючае» галіфэ, і ў гэтай форме хоча ўступіць у партыю Леніна-Сталіна. Так што неўзабаве будзе хадзіць Пуценька ў форме сапраўднага савецкага начальніка і кіраваць будаўніцтвам сацыялізму.

У прэзідыуме Пуценькі пакуль што не было, відаць, не паспеў яшчэ пашыць сваё галіфэ.

Камандаваў у Загоне камісар Кацалапаў, быў ён упаўнаважаным на іхняй акрузе. Стараўся гаварыць ён пабеларуску, але гаварыў на такой мяшанцы-трасянцы, што брыдка было яго слухаць. Пасля кароткага ўступу ён даў слова нейкаму, відаць, вялікаму рэвалюцыянеру і важнаму чыну ад партыі, які напачатку стаў хваліцца тым, што бачыў жывымі нейкага Карла, Леніна, Сталіна, Будзённага і яго каня з конніцай. Затым стаў віншаваць савецкі народ з вялікімі падзеямі, з усясветнай рэва-

люцыяй і з перамогай камунізму ўва ўсім свеце. Пасля драў горла пра мудрагелістыя і эпахальныя здзяйсненні камуністычнай партыі пад кіраўніцтвам вялікага і мудрага Сталіна. Гаварыў шмат пра індустрыялізацыю, электрафікацыю, калектывізацыю і каналізацыю ўсёй краіны, згадваў пра Кузбас, Магнітку і Сібір; звярнуў увагу на ваенную савецкую тэхніку, ворагаў народу (зноў згадаў Сібір) і міжнародны імперыялізм... Закончыў свой выступ рэвалюцыянер словамі: «жыць нам стала лепей, жыць нам стала весела!».

Выступаў і Сцяпан: расказваў пра гістарычнае значэнне ўз'яднання беларускага народу ў адной савецкай дзяржаве.

Пасля слова браў упаўнаважаны за арганізацыю камунаў, арцеляў і калгасаў. Яго выступ быў больш цікавым, бо кранаў праблемы амаль што кожнага.

Пасля камісар «прадставіў» яшчэ аднаго ўпаўнаважанага, як казаў, свайго першага памагатага ў арганізацыі савецкай улады, таварыша капітана з прозвішчам Трэпелеў. Быў гэта той самы ў форме, які хадзіў з Сцяпанам і ўсё распытваўся пра кожнага.

Пасля камісар Кацалапаў абвясціў выбары.

– До недавнего часу ў нас былі врэменные ўправы і такімі ж врэменнымі былі і прадсядацелі савецкай дзярэўні і камуны. А цяпер настаў такі час, калі мы самі можам паізбраць пастаянных рукавадзіцелей, ібо будзем организовываць сельскія саветы на мясцох, а вясною будзем творыць колхоз імяні вялікага Сталіна. Так вот, прадсядацелямі і іх замясціцелямі павінны быць лучшые із лучшых. Пусть такіх поізберот сам народ. Прадлагайце, пажалуста, лучшых кандзідатаў!

Вось тут і ўзнікла праблема. А хто ж можа быць лепшым, калі кожны жадаючы ў начальнікі, думае, што ён сам і ёсць найлепшым? Альбо нехта прапаноўваў свайго кандыдата: называў прозвішча свайго брата, кума, свата, а нехта тут жа, рознымі крытычнымі заўвагамі, падкалупкамі і абразамі, адхіляў толькі што прапанаваную кандыдатуру.

– Саковіча?!

– Куркуль твой Саковіч!

– Качанюка?!

– Яшчэ большы куркуль!

– Сакалоўскага?!

– Амэрыканскія парадкі завядзе!

– Антося Мультана?!

– Усіх у мультанкі адзене!

– Пуценьку?!

– Галава слабая!
– А лоб, дык вось, наадварот...
– Га-га-га!
Прапаноўваліся і тут жа абвяргаліся прозвішчы Болюся Буткі, Аляксандра Саўрыновіча, Косці Казакевіча, Косці Карповіча і іншых.
– Таварышы! – камісар Кацалапаў падняўся. – Прашу цішыні. Так анічаво ня выйдзець... Тут я запісаў некаторыя фаміліі і мы паставім іх на абмеркаваньне. Ітак, Болюсь Бутка, сколько іместся в наліччі гектаров землі?
– А навошта вам? Я не хачу быць аніякім прадсядацелям!
– Пяць гектараў у яго, конь, карова, сьвінні і куры! – заместа Будкі адказаў Юстын Буткевіч.
– Панятна, харашо жывёце, запішам. Не пайдзёт. Так. Андраловіч Сьцяпан?
– Тры гектары было пясочку, каня і карову аддаў у камуну, – адказаў сам Сцяпан.
– Так. Очань харашо. Будзем мець на ўвазе. Казакевіч?
– Усё, што было – у камуне!
– Так, харашо. А ці вісіць у тваім доме партрэт таварышча Сталіна?
– Вісіць! – упэўнена адказаў Казакевіч.
– Харашо! Будзем мець не увазе.
– Сакалоўскі?
– Сямнаццаць гектараў, дзьве каровы, дзьве сьвінні, куры, качкі, – смела і нават з нейкім гонарам заявіў Ян Сакалоўскі.
– Так... сямнаццаць?! Не-не, не пайдзёт, садзісь! Качанюк ?
– Трыццаць у яго! А калі больш дакладна – трыццаць з паловай, – удакладніў Сцяпан.
– Ого! Не пайдзёт! Садзісь! Сымоновіч Прохар?
– У мяне шэсьць гектараў...
– А хазяйства якое, што дзержыш?
– Конь, карова, авечка, парсюк, сьвіння, жонка...
– Панятна! Запішам. Не пайдзёт. Садзісь.
– А ў яго партрэт Сталіна на сьцяне вісіць! – пракрычаў нехта з натоўпу.
– У каго? – насцярожыўся камісар.
– У Прохара!
– Таварышч Прохар, вы можаце пацьвердзіць факт вывескі партрэта таварышча Сталіна ў сваім доме?
– Магу...
– Так, харашо, будзем мець на ўвазе. Саковіч?
– Сорак!

– Ого! Таварышы, кого вы прадлагаеце ў прадсядацялі? Эта жа кулакі! Я іх ваабшчэ зь сьпіска выкрэсьліваю.

– Але затое якія гаспадары! Бо мала мець зямлю, трэба яшчэ умець працаваць на ёй! – зазначыў Сакалоўскі.

– Добра, добра! Разьбяромся! Антось Мультан?

– У мяне, як і ў іншых, можа, прозьвішча ёсьць, – заўважыў пад рогат іншых Антось Андраловіч.

– Мне як сказалі, я так і запісаў…

– Выкрасьлі і тое, што запісаў і болей не гавары так! Я ў начальнікі ісьці не зьбіраюся! – заявіў Антось.

– Как хаціце! Пуценька?

– У міня между протчым тоже есць прозьвішча і фіо, імя і імя па бацьку!– заявіў Пуценька.

– Я думаю, что мы з вашым фіо бліже познакомімся потом, в процесе работы, а сейчас о дзеле! – перабіў яго камісар. – Так, сколько там у тебя?

– Адзін!

– Чего – адзін? – не зразумеў камісар.

– Кот! – нехта выкрыкнуў з натоўпу.

– Адзін гектар сенажаці з балотцам і адзін гектар поля...

– З чартапалохам!..

– З пясочкам, – удакладніў Пуценька. – Да, есьць кот Марцін і тры курыцы: Чубатка, Рабушка і Страус...

– Што, страўса маеш? – здзівіўся камісар.

– Не, гэта я так курыцу назваў за яе вялікія яйцы...

– Давайце пра яйцы лучше не будзем!– зноў перабіў яго камісар пад гучны народны смех і шум. – У вас всё?

– Не! Есчо являюсь намесьнікам прадсядацеля савецкай дзярэўні...

– Так! Вот это – харашо! У меня будут вапросы політіческага садзержанія. Вапрос первы: а ці вісіць у цябе ў хаце на сьцяне партрэт таварышча Сталіна?

– А як жа! І Сталіна, і Гітлера, і Леніна – усе ў мяне вісяць! – упэўнена заверыў Пуценька.

– Маладзец! – узрадаваўся камісар. – Вопрос втарой: когда нарадзілся вождь мірового пролетаріата?

– Вождь мірового пролетаріата нарадзіўся 20 апреля, – няўпэнена адказаў Пуценька.

– 20 апреля нарадзіўся саратнік вялікага Сталіна і вождзь націанал-соціалізму Адольф Гітлер, а вождь мірового пролетарыята вылез на два дня пазьней...

– 22 апреля! – выкрыкнуў хуценька Пуценька.

– Так, правільно! Есчо раз маладзец! Вот такіх нам надо пралетарыяў! Чэсных, знаюшчых, з чыстай совесьцю, і я думаю, што твая кандыдатура падыходзячая. Запішам.

– І я так думаю, – важна заявіў Пуценька.

– Ну, калі мы аднадумцы, дык няхай падыходзячая кандыдатура да стала падыходзіць! І, я думаю, дастатачна, – камісар падняўся. – Таварышы! Прашу цішыні! Есть мненіе ізбрать прадсядацелям сялянска-рэвалюцыйнага камітэту беднаты таварышча Пуценьку, а прадсядацялем коммуны – таварышча Сьцяпана Андрыяновіча! – абвясціў камісар. – Кто – за, кто – проціў, прошу высказвацца!

Супраць Сцяпана былі больш заможныя, але камсамольцы паднялі такі крык «за», што галасоў «супраць» аніхто і не пачуў. А вось супраць Пуценькі былі амаль што ўсе, але ніхто не стаў падымаць рукі ані «супраць», ані «за», ніхто не стаў і выказвацца. Толькі, калі камісар сказаў, што «абодва кандыдатуры адзінагласно», падняўся такі гучны рогат, што нават гракі, якія хацелі напачатку, відаць, перакрычаць мітынгоўшчыкаў, не вытрымалі, з крыкам падняліся чорнай зграяй над ліпамі і паляцелі некуды ўбок лесу.

– Мы пад Пуценькам хадзіць не будзем! – катэгарычна заявіў Янук Дайновіч.

– Не, не, не! – у адзін голас падтрымалі астатнія сяляне.

– А гэта ўжо значэньня вялікага ня мае! – спакойна адзначыў камісар. – Будзеце хадзіць не пад Пуценькам, а пад савецкай уладай.

– Пуценька – гэта ўлада?.. Сьмех адзін...

– Сьмех ня сьмех, яшчэ паглядзім... А сейчас прашу цішыні, ібо слова прадстаўляецца прадстаўніку савецкай власці на масцох, а іменна законна абранаму народам новаму прадсядацелю сельскага камітэту сялян і беднякоў, хоць і беззямельнаму, і, как я понял, таварышчу недалёкаму, но очань чэснаму і ідэйнаму, таварышчу Пуценькаву! – урачыста пракрычаў камісар. – Прашу!

Пуценька выйшаў да самаробнай трыбуны (сам рабіў), дастаў паперу і гучна зачытаў:

– Прыйшоў нарэшце мой і сацыялізму зорны час! – і яшчэ нешта хацеў дадаць чэсны таварыш, але за раптоўным выбухам рогату пачуць яго голас было немагчыма.

– Цішэй вы, глоткадралы! – абурыліся некаторыя жанчыны на гарластых мужчынаў. – Дайце паслухаць, што чалавек хоча сказаць.



– Чалавека знайшлі! – адгукнуліся тыя і яшчэ больш заходзіліся рогатам.

І тады над сталом падняўся той важны чын у сінім галіфэ з лампасамі, які шмат гаварыў пра дасягненні Саветаў, прыпадняў правую руку ўверх і, калі трохі прыціхла, загаварыў:

– Таварышчы! Очань даже зря эці вашыя сьмехуёчкі... І есшчо нада пасматрэць, хто будзе пасьля сьмяецца... І хай ня думае той хто добра схаваецца, што ён будзе добра сьмяяцца, – ад нас не схаваешся… Мы знойдзем, пад зямлёй жывых ці мёртвых знойдзем, і будзем смяяцца апошнімі! Ха-ха-ха!

Праўда, ніхто гэтага «ха-ха-ха» не падтрымаў.

– Сматрыце, каб плакаць не прыйшлося, – працягваў чын. – Кстацці, калі вялікага Сталіна ізьбіралі, тожа некаторыя смяяліся... А гдзе яны сійчас, гдзе?.. Дасьміяліся! Не саветую!

На дзіва, імя Сталіна і згадка пра тых, хто некалі з яго смяяўся, зрабілі сваю справу. Народ трохі супакоіўся.

– Прадалжайце, таварыш Пуценька, толькі пакарочэ! – кіўнуў камісар Пуценьку.

– Я толькі хацеў сказаць, што... – Пуценька зноў зазірнуў у паперу. – Выступаўшыя гаварылі… Ага во… Для ўсяго сялянства Заходняй Беларусі няма і не можа быць большай радасці і шчасця, як жыць і працаваць пад сонцам Сталінскай Канстытуцыі, у брацкай дружнай сям'і народаў вялікага Со-

вецкага Саюза… Тут павінны быць апладысменты… Я з задавальненнем павяду гэты карабель, які неўзабаве будзе называецца сельсаветам, павяду сярод варожых рыфаў назло сусьветнай буржуазіі… У мяне ўсё…

– Моцна сказана, але я прасіл пакарочэ! – нагадаў камісар, – Можа ў вас ёсьць якія прапановы?

– А як жа! – абрадаваўся Пуценька. – У мяне ёсьць дзьве прапановы, якія я хачу ўнесьці і зь якіх пачне работу наша сялянска-пралетарская арганізацыя, – Пуценька перавёў дух. – Першае: трэба перайменаваць клерыкальную назву нашага цэнтра Багданоўка ў Камунарку...

– Ура-а! – закрычалі маладыя камунары і запішчалі камунаркі.

– Другое: нам трэба, як гэта зрабілі пад Воршай, – паставіць стэлу ў пазіцыю з чырвонай зоркай на відным месьце...

– Мяне? А чаму мяне? Чаму я?! – закрычала абураная Стэла Гоман. – І не падумаю нават становіцца! Найшоў што! Хай вунь Зінка становіцца, яна камунарка і стаць можа ў якую хочаш пазіцыю...

– Ды не пра цябе гутарка, дурная! – агрызнуўся Пуценька.

– Сама ты цаца добрая! – закардыячыла не менш абураная камунарка Зінка на Стэлу. – Думаеш я ня ведаю, як ты ў бульбоўніку зь Нікадымам качалася?..

– Цішэ, таварышчы жэнчыны, цішэ! – пракрычаў камісар. – У нас тут праісходзіт арганізацыя саветской уласьці і камуны, а не бляцкія разборкі! Прадалжайце і закругляйцесь, таварышч Пуценьков!

– А яшчэ нам трэба распрацаваць праект помніка Леніну – Сталіну і паставіць яго...

– Што таксама ў пазіцыю? – здзівіўся камісар.

– Не, каля будучага сельсавета паставіць… Вось і ўсё. Я закругліўся! Няхай жыве Савецкая уласьць і лепшыя яе прадстаўнікі на мясцох! Ура! – закончыў Пуценька.

Дружнага «ура», праўда, не атрымалася. Зноў крычала толькі моладзь.

– А сейчас слова прадстаўляецца таварышчу прадсядацелю камуны! – зноў урачыста абвясціў камісар.

Сцяпан гаварыў пра тое, што такое камуна і што такое калектывізацыя, навошта яны патрэбныя і што яны могуць даць пры добрасумленных адносінах да працы. Падзяліўся планамі і праектамі арганізацыі калгасу, які павінен быць сфармаваны ў наступным годзе. Згадаў гаспадаркі паноў Дабрынскіх, Карчэўскіх і Лакуціеўскіх, якія павінны быць нацыяналізаванымі, але што гэта такое, відаць, для многіх

засталося незразумелым. Гаварыў ён нядрэнна, але не пераканаўча. Нешта казаў пра супольную працу і пра роўную дзяльбу зробленага, але, як гэта будзе адбывацца, засталося незразумелым. Не даў ён грунтоўнага адказу і на пытанне Яна Сакалоўскага, чым калгас лепшы за прыватную гаспадарку? А тое, што калгаснікі будуць самі гаспадарамі і будуць самі распараджацца калгасным дабром, як сваім, гучала няўпэўнена і непераканаўча. Хацеў нешта дапоўніць камісар Кацалапаў з гэтай нагоды, але, апрача нейкага «камуніcцічаскага сазнання», некалькіх палітычных лозунгаў кшталту «Савецкая власць – гэта электрафікацыя і калектывізацыя ўсей страны!» і «Няхай жыве дзела Леніна–Сталіна!», нічога больш вартага не сказаў.

З тых прамоваў Антось зразумеў адно: багатых у вёсцы болей не будзе і багацейшым стаць ніхто не зможа, у тым ліку і ён. Дарэмна ён яшчэ спадзяваўся прыкупіць трошкі зямлі, каб было пакінуць што дзецям. Тут не тое што купіць, тут, глядзі, каб не адабралі і гэтую. У каго лішкі зямлі, дабра, зерня, жывёлы, забудоўляў трэба будзе аддаць таму, у каго гэтага не хапае. І так будзе «чэсна» і справядліва. А тое, што Антось ад чатырох гадзінаў раніцы і сам і дзяцей падымае да работы і працуюць цэлы дзень, каб мецьма гэтую лішку, бо дзеці растуць – гэтага ніхто пры новай уладзе ўлічваць не будзе. А Пуценька, як той малады панічок, можа спаць да васьмі раніцы, што на вёсцы ўвогуле лічылася вялікім грэхам, а не, дык можа спаць і цэлымі днямі, бо ў яго нічога няма, бо ён пралетары і яму галава не баліць, як жыць далей, бо яму Антось павінен будзе аддаць тыя лішкі, якія быццам у яго ёсць. Дык хіба ж гэта справядліва?..

Сцяпан супакойваў Антося, маўляй, не хвалюйся, з табой будзем асобна разбірацца, будзем улічваць пры раздзеле колькасць душ.

Хаця і ад такіх слоў не надта, каб Антось заставаўся задаволеным. Чаму яны павінны дзяліць чужое дабро? Ён жа не лезе ў іхнія гумны, хаты, хлявы. Якое яны маюць права дзяліць тое, да чаго рук не прыкладалі. Другая справа – панскае дабро, там уся вёска працавала, а ў яго, у Антося, хто працаваў: ён і дзеці, дык чаму павінны дзяліць іншыя?

* * *

Першы дэкрэт, які выдаў новы камітэт пад кіраўніцтвам Пуценькі (камітэтам фактычна кіраваў камісар Кацалапаў), быў дэкрэт аб зброі: «...кожны павінен здаць органам савецкай улады агнястрэльную зброю дабравольна, альбо паведаміць,

дзе такая знаходзіцца. У праціўным выпадку той, хто будзе захоўваць зброю, будзе падвергнуты арышту, суду і зняволенню на доўгія тэрміны пакарання як вораг народу і савецкай улады».

Дакумент гэты Пуценька стараўся давесці да кожнага. Людзі згадвалі, што нешта падобнае было і пры палях, і нешта здавалі, а ў каго пасля выпадкова знаходзілі незарэгістраваны рэвальвер ці карабін, прысуджалі вялікія штрафы. Праўда, усё залежала ад сітуацыі. Болюсь Бутка расказваў, як ехаў на кірмаш у мястэчка і прыхапіў з сабою рэвальвер – мала што можа быць у дарозе. А на кірмашы тым быў нейкіператрус, і знайшлі паліцэйскія рэвальвер той пад сядзеннем. Выкруціўся Болюсь тым, што стаў даводзіць, як ён у пастарунак вёз зброю тую, каб здаць уладам, але напачатку хацеў парасё купіць на кірмашы, пакуль быў гандаль... Рэвальвер, праўда, забралі, але прыйшлося і парасё аддаць, каб адпусцілі... І адпусцілі і нават падзякавалі.

– Гэтыя не падзякуюць, – заўважыў Болюсь Будка.

Сам начальнік, Пуценька, гаварыў так:

– Для мяне тут анічога няма новага – усё робіцца так, як рабілася ў Магілёўшчыне: напачатку трэба забраць зброю ў людзей, а хто ня здасьць – таго ў Сібір зь сям'ёй і з канфіскацыяй... А пасьля мы забяром дабро і золата – яго будзе лягчэй забраць тады, калі ў людзей ня будзе зброі, а забіраць трэба, бо золата толькі бэсьціць людзей!..

І цяжка было зразумець, ці гэта Пуценька так жартуе, ці ён так усур'ёз, але на ўсякі выпадак пачалі патроху зносіць у панскі дом усё тое, што можна было назваць зброяй: паляўнічыя стрэльбы, дубальтоўкі мінулага стагоддзя і нават нехта прынёс мушкет. Людзі спакойна аддавалі тое, што ім было непатрэбным і цяжка было паверыць, што гэтая зброя была ў іх апошняй. Камісар Трэпелеў, які прымаў зброю, крывіўся, гледзячы на такі арсенал:

– А кулямёт дзе дзеў? – дапытваўся ён у дабравольца з абрэзам. – Прызнавайся, лепей будзе... Горш будзе, як адкапаем на тваім агародзе, – у нас рыдлёўкі доўгія, нямецкія...

І запісваў камісар прозвішчы дабравольцаў у асобны спіс. Спіс той уважліва і прыдзірліва вывучалі Пуценька, Сцяпан і Казакевіч – было падобным на тое, што пойдуць хатамі зператрусам у пошуках прыхаванай зброі.

# 10. Праклятае золата

Апрача савецкіх вайсковых структураў, актыўна сталі дзейнічаць розныя стыхійныя ўзброеныя групы (атрады), якія рабілі напады на польскіх асаднікаў, ляснічых,ураднікаў і паліцэйскіх. Атрады тыя складаліся, у асноўным, з тых, хто напачатку хаваўся ад мабілізацыі ў Войска Польскае, а пасля – ад набору ў Чырвоную Армію. Праўда, былі і такія, якія ў Чырвоную армію ішлі нават з ахвотай. Так, Вася Старлецкі з Равоў у дзень прыходу чырвонаармейцаў угаварыў камандзіра забраць яго з сабою ў якасці навабранца, бо яму ўсёроўна гады ўжо падышлі і ён хацеў бы прыняць удзел у вялікім гістарычным вызвольным паходзе Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі.

Ад прызыву ў Чырвонае войска сталі хавацца пасля таго, як стала вядомым, што маладых хлопцаў з Заходняе Беларусі адразу кідаюць на Фінскую вайну[1]. А даведаліся пра гэта ад навабранцаў, якія праз нейкіх паўтары месяцы службы парадавалі ў сваіх лістах бацькоў тым, што «вызваляюць працоўных Фінляндыі ад паганых белафінаў». А неўзабаве прыйшла сумная вестка: загінуў недзе, вызваляючы белафінаў, Вася Старлецкі.

Тое, што хлопцы не хацелі ісці служыць, а ў перспектыве і ваяваць, можна было зразумець з нейкіх пацыфісцкіх меркаванняў. Ім прыходзілася хавацца ў лесе як ад саветаў (чырвонаармейцаў, народнай міліцыі і гвардыі), так і ад польскіх узброеных груповак. Такія лясныя атрады паступова павялічваліся за кошт дызертыраў, крымінальнікаў і люмпенпралетарыяту, і, часцей, розныя крымінальныя рэцыдывісты рабіліся камандзірамі. Неўзабаве гэтыя людзі пачалі ўзбройвацца – у той сітуацыі, відаць, інакш і нельга было. У асноўным гэта былі абрэзы з вінтовак Мікалаеўскай вайны і рэвальверы. Усякіх сутычак з вайсковымі фармаваннямі, як польскімі, так і савецкімі, яны пазбягалі, але спецыялізаваліся на дробных дыверсійных вылазках у адносінах да мясцовага начальства і насельніцтва. На гэтым заканчваўся іх пацыфізм. Зразумела, што ў гэтых атрадах шмат было аднавяскоўцаў альбо людзей з суседніх вёсак. Але вяскоўцам ад гэтага лепш не рабілася – свае добра ведалі, што ў каго і дзе было, і як, дзе і што можна было ўзяць; і хто як жыў і чым хто дыхаў... І такія веды вельмі часта прымяняліся «сваімі» для шантажу: альбо перад палякамі, альбо перад Саветамі – у залежнасці ад сітуацыі і выгады. А яшчэ невядома дзе былі і што рабілі тыя

[1] Савецка-фінская вайна – узброенны канфлікт між СССР і Фінляндыяй у перыяд ад 30 лістапада 1939 г. да 13 сакавіка 1940 г.

прызыўнікі Войска Польскага з краю, якім вяртацца дахаты было небяспечна: наўрад ці маладыя Лакуціеўскія, Ластоўскія, Страчыцкія паўцякалі ўслед за сваім урадам да ангельцаў.

Савецкая ўлада такія атрады, як і ўсякія іншыя несавецкія ўзброеныя фармаванні, тут жа празвала «бандамі». На іх сталі спісваць крадзяжы коней у людзей і ў камунараў, якія апошнім часам зачасцілі. Яны, відаць, выкопвалі і бульбу людскую і выводзілі ноччу з хлява скацінку, і выносілі з людскіх хатаў цёплыя рэчы і прадукты. «Бандыты» не толькі рабавалі людзей, – яны сталі прэтэндаваць на такую кантралюючую інстанцыю ў арганізацыі зямельнага пытання і жыццёвых праблемаў у вёсцы. Да іх меркаванняў прыслухоўвалася мясцовае начальства і простыя людзі. Аслухацца іх было раўназначным таму, што падвергнуць сябе і сям'ю небяспецы – маглі прыйсці ноччу і расквітацца. І калі раптам узнікалі пытанні наконт таго, чаму той чалавек не бярэ такі добры надзел панскай зямлі альбо чаму нехта адмовіўся ад панскай каровы ці каня, дык можна было здагадацца, што зямля тая і карова, паводле некага, павінны быць перададзены ў іншыя бедныя рукі, звычайна гэтыя рукі былі бацькоў і сваякоў тых, хто ў гэтых бандах быў завадатарам.

Шмат для каго прыйшоў час згадаць старыя крыўды і, пры першай жа магчымасці, адпомсціць. Найбольш распаўсюджаным быў метад даносу. Маўляў, той і той пры паляках, альбо ў часы рэвалюцыі і той яшчэ польска-савецкай вайны, альбо яшчэ пры царскай Расеі, быў тым і тым, рабіў тое і тое, з чым сёння савецкая ўлада змагаецца і гаварыў непрыстойнасці пра Леніна і Сталіна. Праўда, даносчыкі, у хуткім часе, становіліся вядомымі, бо звычайна праходзілі як сведкі. Другім метадам была помста. Таму і не дзіўна, што з прыходам Саветаў зачасцілі няшчасныя здарэнні і выпадкі: там, недзе каля вёскі, знайшлі чалавека мёртвага, а там нейкія бандыты забілі чалавека ў яго ж хаце, а там, недзе, падпалілі хату і ўся сям'я згарэла, бо дзверы былі падпёртыя знадворку.

Мясцовы ляснік, Гоман з Мазалёў, неаднойчы даводзіў рэвалюцыйным камітэтам ў Ракуцеве і Ракавічах пра тое, што ў лесе ён часта знаходзіць абсталяваныя шалашы і ляжанкі з недапалкамі – з усяго было відаць, што нехта хаваецца і, можа, з нядобрымі намерамі хаваецца ад людзей, але мясцовае начальства аніякай увагі на гэтыя факты не звяртала – не было калі.

А тут, неяк аднойчы, усё наваколле жахнулася ад страшнай весткі: у Няроўцы да смерці замучылі старога Сака. Яго не

проста прыйшлі і забілі, а доўга катавалі: падвешвалі да бэлькі і білі, ламалі пальцы, распальвалі на грудзях агонь... Вось тут і ўзнікае тое пытанне, якое можа ўзнікнуць толькі ў такой сітуацыі: за што?

Прыехалі следакі, некалькі чырвонаармейцаў, міліцыянераў – пачалі распытваць: што, дзе, да чаго...

Але ніхто нічога толкам не ведаў, не чуў, не бачыў...

Праўда, следакі асабліва і не капаліся ў гэтай справе. Тым болей, хутка стала вядомым, што Сак быў у спіску ворагаў народу і вось-вось яго павінны былі арыштаваць. Меў ён заможную гаспадарку і праходзіў як кулак. Пуценька, у сувязі з яго забойствам, гаварыў, што, маўляў, так будзе з кожным ворагам народу, маўляў, народныя мсціўцы вынеслі народны прысуд і героі палічылі за лепшае застацца невядомымі.

Такія высновы Пуценькі толькі рассмяшылі людзей. У вёсцы шмат хто ведаў, што магло б стаць нагодай для дзікай расправы над Сакам, але гаварыць пра гэта асцерагаліся. Пры Саветах вельмі хутка кожны зразумеў, што залішняя асвядомленасць можа быць нагодай для бяды, і куды лепей было прамаўчаць, маўляў, чалавека ўжо не вернеш з таго свету, а сабе можаш толькі нашкодзіць.

Прынамсі, Сцяпан інфармаваў старшага аператыўнай групы, уводзіў у курс справы, і можна было толькі здагадацца, пра што ў іх ішла гутарка: Сцяпан, як актывісты і камітэтчык, мог расказаць пра тое, што іншыя гаварыць не адважыліся б, а менавіта пра падзеі дваццацігадовай даўнасці. Пра гэта вельмі шмат гаварылі ў сярэдзіне дваццатых гадоў, тады, калі Сак купіў дрэва, пашырыў хату, паставіў гумно, разбудаваў хлеў, а ў ім завёў чатыры каровы, тройку коней, свінні, куры, гусі і, што сама галоўнае – стаў купляць зямлю ў фантастычных, для беднага селяніна, памерах... На якія такія «шы-шы», не маглі дацяміць людзі? Альбо скарб знайшоў Сак, альбо пабратаўся з чортам, які яму тыя грошы торбамі носіць.

Вось тады і сталі людзі гаварыць адкрыта пра тое, адкуль можа быць такое багацце ў Сака.

У Мікалаеўскую вайну Сак не ваяваў – тады ўжо быў у гадах. Паспрабаваў быў бежанства, але праз два месяцы здолеў нейкім чынам вярнуцца. Вярнуўся якраз у той момант, калі рускія салдаты здзіралі салому з страхі – хацелі разабраць хату на ўмацаванне акопаў. Так і стаў жыць у суседстве з рускімі салдатамі, прынамсі, так жылі ўсе ўздоўж лініі фронту, хто не кінуўся ў бежанства. Што гэта было за жыццё – не пажадаеш нават лютаму ворагу – усё, як на вайне: бомбы, снара-

ды і вечна галодныя рускія салдаты. Перабіваліся неяк разам – дапамагаў ён салдатам – дапамагалі салдаты і яму. Сак быў праваслаўным, і гэтая «рускасць» збліжала яго не толькі з салдатамі, але нават і з некаторымі рускімі афіцэрамі. Болей таго, Сак добра ведаў мясцовасць і на той бок лініі фронту: за Крэвам, Чухнамі, Невярышкамі, Вярэбушкамі; добра ведаў сцежкі і дарожкі праз Хоцькаўскі лес і Чухнаўскія балоты – усё гэта спатрэбілася яму як праваднiку і дарадчыку рускім салдатам у ажыццяўленні некаторых планаў і дыверсіяў супраць немцаў.

Пасля рэвалюцыяў, калі ваенная супрацьвага між рускімі і немцамі стала бессэнсоўнай, стала рушыцца і размывацца, як лёд на рэчцы, лінія фронту. Дайшло да таго, што праз лінію фронту сталі вольна хадзіць не толькі людзі ў цывільнай вопратцы, але і ў вайсковай; не было розніцы – рускі салдат гэта ці нямецкі. Быў час, калі рускія і нямецкія салдаты пакідалі свае батарэі ў акопах, кідалі свае вінтоўкі і разыходзіліся ў розныя бакі, хоць камандаванне абодвух бакоў прымала сама строгія меры ў адносінах да дызертыраў.

Вось тады, неяк надвячоркам, на падворку Сака апынуўся нямецкі салдат. Быў ён без зброі, але на шырокай дзяжцы праз плячо вісеў скураны тоўсты вайсковы ранец. Тады яшчэ Сак падумаў, што ў такой торбе можна што хочаш палажыць: і пару рэвальвераў, і вінтоўку ў разабраным выглядзе. Першае, чаго хацеў немец – гэта «эсен» – есці, і Сак вынес яму скарынку хлеба. Той з прагнасцю накінуўся на скарынку. Пасля немец стаў блытана тлумачыць Саку нешта наконт «нах хаўзу»:

– Ich möchte nach Hauz[1]!..

Сак ня быў вялікім знаўцам нямецкай мовы, але што такое “нах хаўз” ведалі ў вёсцы нават дзеці.

– Ну, хочаш дахаты ісьці, дык ідзі...

– Ja, ja, та хаты, та хаты! – усклікнуў радасны немец і зноў стаў нешта тлумачыць, але Сак на гэты раз аніяк ня мог уцяміць, чаго ён хоча.

– Helfen Sie mir bitte! Helfen Sie mir bitte[2]! – паўтараў немец і ўсё гаварыў пра нейкія “ейсенбаны”, “цугі”, але такіх слоў Сак ужо не ведаў. І толькі, калі немец стаў “ту-тукаць” і паказваць, як ідзе цягнік, тады Сак зразумеў, што немец хоча, каб ён адвёз яго на чыгуначную станцыю.

– Найн! –сказаў тады яму Сак.

Сказаў таму, што прайсці рускія пазіцыі да чыгуначнай станцыі ў Гародзькі, каб цябе не заўважылі, практычна немагчы-

[1] Я хачу да хаты! (нем.)
[2] Дапамажыце мне, калі ласка! (нем.).

ма, – тут праходзяць у некалькі радоў суцэльныя лініі акопаў... А вёрст шаснаццаць будзе, калі не больш. А тут яшчэ невядома, як адрэагуюць на немца і на такую паслугу рускія салдаты і афіцэры – мала, што яны братаюцца, а тут закардыячыць які-небудзь царскі вайсковы чын – усё прыпішуць, і «пособничество врагу и измену Отечеству». Хіба яму патрэбна такая рызыка?..

– Найн! – паўтарыў Сак.

І тут немец стаў адшпіляць сваю торбу...

«Ну, вось, – падумаў тады Сак, – дастане рэвальвер, і нікуды ня дзенешся».

Але немец заместа рэвальвера дастаў жменю залатых манетаў. Яны, быццам сонечным зайчыкам, разанулі Саку па вачах.

– Я... ich... дам пану... Я аплоць проезд, – тлумачыў немец.

– Рамізьніка знайшоў! – буркнуў Сак і задумаўся.

Немец са слязамі ў вачах глядзеў на Сака і чакаў.

– Я табе ня фурман! – абурыўся Сак.

– О, я-я, фурман! – усклікнуў немец, узрадаваўся і працягнуў залатыя манеты Саку.

Сак уважліва праглядзеў некалькі манетаў. Не быў ён «залатых дзел майстрам» і золата бачыў ўпершыню ў руках немца, але нейкім нутром адчуў і зразумеў, што гэта было сапраўднае золата.

Тут было над чым падумаць.

– Гут! – урэшце сказаў Сак, адчыніў дзверы і прапусціў немца ў хату.

Назаўтра, як толькі ледзь-ледзь пачало віднець, з падворка Сака выехалі ўпрэжаныя ў добрага коніка сані. На санях сядзелі два пажылыя мужчыны, абодва ў цывільнай вопратцы без зброі, толькі ў аднаго з іх быў перавязаны твар белым паркалем, праз які выступала кроў, а другі ціха падганяў каня. Ведаў Сак глухую дарогу лесам – праз тылавыя вайсковыя рускія часці, хоць і каленца трэба будзе выкруціць добрае і пэўна будзе замецена сцежка, але затое спакайней. Спынілі яго салдаты толькі за Мікулеўшчынай. Нават не спынілі, Сак сам затрымаў каня, падышоў да салдатаў і стаў іх распытваць, як праехаць да вайсковага шпіталю – вось куму немцы ў Мястэчку сківіцу выбілі – гаварыць не можа, а да доктара тэрмінова трэба, можа, іх доктар гляне... Салдаты ахвотна расказалі, як лепш зараз праехаць Бярэзіну і даехаць у Забрэззе, а там і рукой падаць да палявога лазарэта. Толькі адзін з іх падышоў да саначак і парнуў штыком вінтоўкі ў сена, з якога было зроблена сядзенне – штык бясшумна схаваўся ў сене.

І Сак з немцам паехалі далей. А далей дарога ішла старым лесам.

Праўда, што было пасля – аніхто толкам не ведае. Толькі ў сярэдзіне дваццатых гадоў, калі Сак стаў раптам багацець, людзі сталі гаварыць, што быццам бы абакраў Сак нейкага немца. Немец той і прасіўся, і картачкі паказваў дзяцей і жонкі, і золата ўсё аддаваў, каб толькі адпусціў яго Сак жывым...

Бывае такое, калі нейкі голас настойліва нагадвае пра тое, што не так чалавек нешта робіць у той ці іншай сітуацыі, але нейкая сіла заглушвае гэты голас...

Не адпусціў тады Сак таго немца. Біў каменем па галаве, а той, пакуль мог, праклінаў Сака і праклінаў тое золата.

Так было ці не так – ніхто толкам не ведае. Але, калі так было на самай справе, як кажуць людзі, дык цяжка сказаць, што кіравала ў той момант Сакам. Магчымасць выбіцца з вечнай галечы, забяспечыць будучыню сабе, дзецям, унукам? Прага да золата, багацця? Ці нешта іншае? А можа крыўда, ад той адвечнай несправядлівасці, якая чыніцца на гэтай зямлі стагоддзямі, крыўда, якая, як тое золата, засланіла вочы і розум Саку... Чаго гэты немец прыйшоў сюды?... Дзе ён знайшоў, дзе ён узяў гэтае золата? Чаму гэтаму чужынцу, а не яму, Саку, так пашэнціла? Ніхто ж гэтае золата немцу не дарыў? І не прадаваў?! Каго абакраў гэты немец? Каго забіў? Хто большае мае права на гэтыя залатыя манеты: гэты нямчура, які прыйшоў сюды за скарбамі, за чужымі скарбамі, ці ён, чый род спрадвеку на гэтай зямлі спіны не разгінае. Можа, у гэтых манетах слёзы, кроў і пот яго бацькі-паўстанца, яго дзеда-уніята, яго прадзедаў і прапрадзедаў? Чаму гэты нямчура павінен вывозіць гэтыя скарбы з гэтай зямлі? Чаму кожны прыхадзень прыходзіць на гэтую зямлю, каб узбагаціцца, і толькі тыя, хто жывуць на гэтай зямлі, не маюць аніякага права нават на больш-менш прыстойнае жыццё? Чаму? Чаму? Чаму? Што гэты нямчура зрабіў бы з ім, каб ён апынуўся на яго месцы, у такой сітуацыі, у яго Нямеччыне?! Сказаў бы: бяры, вывозь нашы залатыя запасы?!. Наўрад ці?!.

Так ці інакш апраўдваў сябе Сак, задумваўся ён ці не над тым, што нішто ў гэтым свеце за так анікому не даецца – невядома...

І толькі, калі немец замоўк і знерухомеў, выцягнуў Сак з яго пазухі тую залатую торбачку, а разам з торбачкай вываліўся пад ногі і рэвальвер з поўнай абоймай. «Вось яно што робіцца, – падумаў тады Сак, – тут няведама яшчэ, чым немец гэты расплаціўся б з ім: свінцом ці золатам?»

– Што ты тут робіш? – пачуў ён раптам голас ззаду і здранцвеў.

Аглянуўся – стаіць Сулковіч з паляўнічай стрэльбай, амаль што сусед, з Драздзішак.

– Еду лесам, гляджу: конь знаёмы стаіць запрэжаны... Думаю, што тут робіць пан Сак, можа, дапамога якая патрэбна? – гаварыў Сулковіч і падыходзіў бліжэй.

– А гэта што за чалавек тут валяецца носам у сьнег? Увесь у крыві! І пісталет тут пад нагамі, – Сулковіч узяў рэвальвер і перавярнуў немца на спіну. – О, дык гэта ж немец! Да мяне прыходзіў, прасіўся, каб да цягніка падкінуў, золата паказваў... вось з гэтай торбы...

– Застрэліць мяне хацеў, нямчура, – апамятаўся нарэшце Сак. – Ледзь апярэдзіў...

– Дык ён што, мёртвы?

– Ня ведаю, паглядзі...

Сулковіч прашчупаў пульс:

– Гатовы, здаецца...

– Што будзем рабіць, пан Сулковіч? – спытаўся Сак.

– А што тут рабіць, закапаць немца трэба, хоць у сьнег зарыць...

– А з гэтым? – Сак кіўнуў галавой на торбу.

– Падзелімся па-суседзтву, калі ты не скупы... Я думаю, што нам хопіць на дваіх зь ліхвою...

– Толькі маўчаць трэба, каб аніхто анідзе анічога аніякага, – нагадаў Сак.

– Зразумелая рэч, сусед, магіла! – паабяцаў Сулковіч.

Пасля таго, як падзялілі золата, яны раз’ехаліся ў розныя бакі: Сулковіч, як ён казаў, у Лоска да ксяндза, каб мшу заказаць па бацьку, а Сак пацягнуўся дахаты.

Да лета ўсё было ціха, а калі людзі сталі хадзіць у ягады і грыбы – наткнуліся дзеці на чалавечыя астанкі і расказалі дарослым. Тады некалькі чалавек з вёскі надумалі пахаваць астанкі, каму б яны не належалі. Калі сталі збіраць тое, што засталося ад чалавека, знайшлі некалькі залатых манетаў, якія былі параскіданыя на паляне. Тут і сталі гаварыць пра прычыну забойства. А тое, што гэта быў нейкі немец, вызначылі па выцвілай картачцы, на якой можна было яшчэ разглядзець жаночую постаць і чацвёра дзяцей, а на адвароце – неразборлівы надпіс на нямецкай мове і дату.

...А пасля людзі сталі гадаць і гаварыць, на «якія такія шышы» Сак стаў рабіцца панам.

Прынамсі, гадаць і гаварыць так маглі не толькі пра Сака, а пра кожнага, хто набываў зямлю, тэхніку, іншую ма-

ёмасць. Нешта падобнае можна было пачуць пра Страчынскага, Кісялеўскага і нават пана Лакуціеўскага. Амаль што ледзь не ў кожнай прыфрантавой вёсцы ад часоў Мікалаеўскай вайны бытавалі такія альбо падобныя гісторыі: пра такіх звычайна так і казалі, што «ён, відаць, немца з золатам абабраў». Быццам іншага шляху, як можна разбагацець і стаць шчаслівым, народ не ведаў і не бачыў, і не хацеў бачыць.

Сак стаў багатым, а ці стаў ён шчаслівым, зноў жа, не спытаешся, бо праўды не скажа. Але хіба можа быць шчаслівым чалавек, калі людзі адкрыта, у вочы яму гаварылі пра тое, што ён нарабіў падзеля тых залатых манетаў і гэтага багацця.

Саку было над чым задумацца. Як магла прасачыцца інфармацыя? Хто мог што ведаць? Хто распускаў такія чуткі? Навошта?.. Няўжо Сулковіч?..

Гаварыў неяк Сак з Сулковічам, той бажыўся і кляўся, што маўчыць як рыба. Але не надта верыў Сак таму Сулковічу – хітры быў пан. І яшчэ невядома, як бы закончылася тая іхняя сустрэча ў лесе, каля забітага немца, калі б Сак першым падняў бы той рэвальвер...

Польскія ўлады на такі эканамічны рост Сака глядзелі скрозь пальцы – багацее чалавек, ну і добра, абы падаткі плаціў спраўна і чым болей. А вось чуткі пра золата шмат каму не давалі спакою, і неаднойчы жадаючыя хацелі спраўдзіць іх. Прыходзілі «золатадабытчыкі» да Сака неяк за палякамі, але тады Сак быццам чакаў некага – у тую ноч яму чамусьці не спалася. І калі сучка падняла звягу на двары, Сак з сынамі паспелі не толькі апамятацца пасля сну, але і ўзброіцца. І тады пачалася перастрэлка. Сак нават і не ведаў, колькі было гэтых бандытаў, гэтак жа, відаць, як не ведалі тыя, што ў гэтую ноч старэйшыя сыны застануцца начаваць у хаце. Сак баяўся толькі аднаго: каб не падпалілі хату. Хату, праўда, не падпалілі – падпалілі гумно і паранілі аднаго сына. Гумно з сенам і з сухой саломай згарэла, як свечка – яго ніхто і не тушыў. Дый ужо і не да гумна было... Параненага сына ў мястэчка да доктара давезці Сак не паспеў – памёр у дарозе.

Пасля гэтага выпадку прыгадалі людзі і яшчэ адно здарэнне ў сям'і Сака. Прыгадалі яго малодшую дачку – Анэлю. Была яна вельмі прыгожай і статнай дзяўчынай. Любімае дзіцё ў сям'і: ласкавая, добрая, ціхая і паслухмяная. Яна была што лекі для душы і супакаення для бацькі. Калі Сак стаў багацець з дня на дзень, купіў ён тады на кірмашы ў Вільні (казаў – у нейкага немца) два шчанюкі ад пародзістай аўчаркі. Шчанюкі праз год вымахалі ў добрых сабакаў-ваўкадаваў. Трымаў іх Сак на ланцугах, толькі ланцугі тыя не маглі ўжо ўтрымаць

іх, і сарваўся адзін з іх, і стаў лётаць з ланцугом наваколлем, і неўзабаве наклікаў на сябе цэлую зграю вясковых сабакаў. Анэля ў гэты час прыпасвала каровы на абмежках і здалёку ўбачыла напачатку свайго Бобіка, які бег у кірунку да Анэлі, а за ім зграю з гучным брэхам. Бобік, за некалькі метраў да Анэлі, развярнуўся і даў няроўны бой, а пасля кінуўся да ног Анэлі... Зграя сабакаў збіла Анэлю з ног... І рэзаліся сабакі на яе грудзях, твары, целе...

Толькі калі каровы зайшлі ў жыта, спахапіўся Сак, што ж там Анэля робіць, заснула яна ці што?..

Анэлю знайшлі на абмежку мёртвую. Ад страху, відаць, не вытрымала сэрца.

Пасля такога недарэчным было б пералічваць, колькі ў Сака прапала коней, кароў, свіней, авечак; ці нейкая хвароба прычэпіцца, ці ваўкі дапамогуць, ці невядома дзе што дзявалася. Недарэчным, хаця для селяніна прапажа аднаго каня ці кароўкі таксама было вялікай бядою.

Быў яшчэ адзін замах хапануць залатыя манеткі ў Сака, недзе праз дзень ці два пасля таго, як прыйшлі Саветы. Можа, тыя самыя Саветы і да яго прыходзілі, бо хто быў – невядома. Але анічога такога пра гэта не расказваў і сам Сак. Відаць, тады ён альбо адкупіўся, альбо пусціў пыл у вочы так, каб яму паверылі, што ў яго анічога такога залатога няма і не было аніколі.

...А вось на гэты раз, відаць, не паверылі...

Хто прыходзіў? Хто катаваў? Што за звяр'ё было, каб так здзекавацца над чалавекам?

Зразумела, што без сваіх тут, альбо без іх наводкі, не абышлося: калі не самі катавалі, дык пад вакном недзе стаялі і чакалі сваю залатую долю.

Напачатку сталі думаць на тых, хто быў у «бандзе». Гэта быў найбольш аптымальны варыянт. У «бандах» было шмат вяскоўцаў, вось нехта з сваіх між іншым і расказаў цікавую, ледзь не фантастычную гісторыю пра тое, як чалавек стаў багатым. Дайшло да крымінальнікаў, а тым як падарунак лёсу, а чаму б не «пашчупаць» гэтага багатага куркуля.

У сувязі з гэтай справай, апрача аператыўнай групы, быў выкліканы атрад чырвонаармейцаў. Першае, што было зроблена – гэта старанны вобыск у хаце і іншых пабудовах Сака і Сулковіча (Сулковіч трапіў пад падазрэнне як блізкі сусед). Некалькі дзён запар капаліся ў рэчах, разбіралі печы, узрывалі падлогу, перарылі сена, салому, бульбу ў склепе, нават гной пад каровай і той уздзёрлі – і ніякіх улікаў.

Пасля прайшліся па сваяках, родных, блізкіх, далёкіх, знаёмых – аніякага следу.

Аператыўна былі складзены спісы ўсіх, хто быў «у бягах». За іх хатамі быў наладжаны нагляд. Спіс падазроных пашырыўся за кошт тых, хто быў у нядобрых адносінах з Сакам. Урэшце ў лік падазроных трапілі ўсе, хто жыў у дадзенай мясцовасці. Увогуле, як казаў старшы аператыўнай групы, што тут усе вінаватыя ва ўсім – кожнага можна страляць як ворага народу і не памылішся.

Па-за падазрэннем заставаліся хіба што некалькі чалавек: самі аператыўнікі, камісар Кацалапаў і Пуценька. Нават Сцяпан, калі расказаў оперу ўсё, што чуў пра Сака, немца і яго золата, стаяў на асобым кантролі і быў папярэджаны операм аб нявыездзе з Ракавічаў.

Адпрацоўваючы версію ў падазрэнні ўсіх, пачалі рабіць ператрус у кожнай хаце. Для гэтага былі арганізаваны некалькі апергрупаў з саміх аператыўнікаў, чырвонаармейцаў, народнай міліцыі і актывістаў. Адной такой групай кіраваў камісар Трэпелеў, як пазней аказалася, аператыўны ўпаўнаважаны органаў Народнага камісарыяту ўнутраных справаў (НКВД). Заходзілі ў хату і пыталіся:

– А ці ведаеце вы, хто забіў Сака?

– Не, ня ведаем, – звычайна адказваў гаспадар.

– А чаму вы ня ведаеце?

– Ну, так атрымалася... Мы ж там не былі...

– А дзе вы былі?

– Ну... Я ўжо ня помню...

– А калі ня помніш, дык ты мог бы быць і там!

– Я там ня быў! – упэўнена заяўляў гаспадар.

– Дык ты ж ня помніш! Як ты можаш гаварыць пра тое, што там ня быў?

– Я там ня быў! – даводзіў гаспадар.

– А чаму ня быў? – дапытваўся камісар.

– Я ж ня ведаў...

– А каб ведаў, дык быў бы там?..

– Дзе быў бы? – не разумеў гаспадар.

– Там, дзе было золата...

– Якое золата?

– Якое ты прыхаваў! Мы ўсё ведаем! Залатыя манеты на стол! – тут камісар павышаў голас, даставаў рэвальвер і біў кулаком па стале.

– Няма залатых! – даводзіў спалоханы гаспадар.

– А якія ёсьць? – цікавіўся камісар. – Давай сюды, мы правядзём экспертызу, праверым!

Калі нейкі гаспадар паводзіў сябе пры гэтым вельмі спакойна і ніякіх манетаў не даваў, тады камісар Трэпелеў пачынаў крычаць:

– Золата! Давай золата, сука! – і біў кулаком у твар.

Пасля гэтага ў хаце рабіўсяператрус.

Наіўным было б думаць, што, калі ў каго і была дзе залатая манетка, дык яна ляжала бы на відавоку. Здаецца, гэта разумелі і аператыўнікі, тым не менш яны з нейкім нездаровым імпэтам капаліся ў шуфлядах, у шафах, вытрасалі сяннікі, адзенне, глядзелі ў каморы, на гарышчы, у паветках, у склепе. Не забываліся заглянуць у аруд і перашчупаць зерне. Вынікі такога вобыску былі проста нечаканымі: у некага знайшлі рэвальвер на скляпку ў саламянай страсе, у іншага вінтоўку, у таго – старыя царскія грошы пад падлогай, у другога – польскія... Калі царскія «мікалашкі» і «кацярынкі» яны проста кідалі на падлогу і тапталі нагамі, дык злотыя спрытна пхнулі ў свае кішэні (злоты можна было абмяняць на савецкі рубаль адзін да аднаго, але не болей трохсот). Знаходзілі і золата: залатыя шлюбныя пярсцёнкі, адзін пазалочаны сподачак, часы з пазалотай і адну царскую залатую манету – усё было канфіскавана ў якасці «вешчдокаў». Тыя, хто меў зброю і ў каго былі старыя грошы і нешта пазалочанае, – давалі дазнанні ў турме ў Ашмянах, і дзесьці праз дні тры-чатыры некаторыя з іх вярнуліся з чорна-сінімі слядамі дазнанняў пад вачыма. А вось Лаўрука Мігановіча з Дойневічаў з царскай залатой манетай забралі надоўга. Ён так і не вярнуўся да хаты, казалі, што быццам не вытрымаў катаванняў у турме і памёр.

Залатыя манеты знайшлі ў мястэчку ў Рабіновіча і Шнэера, але гэта анікога не здзівіла. Дзіўным было, калі б у мясцовых жыдоў не знайшлі золата. Рабіновіча і Шнэера забралі разам з манетамі, але неўзабаве адпусцілі, праўда, без манетаў. Хутчэй за ўсё ім удалося даказаць сваю непрычыннасць да забойства, а можа спрацаваў факт таго, што сярод новага раённага начальства было шмат іхняга народу.

Але нават і тыя, у каго нічога не канфіскавалі, таксама засталіся пакаранымі – з наступнага месяца значна павялічылі падаткі, магчыма, з улікам таго, што было знойдзена і адзначана аператыўнікамі пры вобыску.

Выраз «праклятае золата» тады чуўся ў кожнай хаце.

А неўзабаве стала вядомай яшчэ адна цікавая акалічнасць: быццам Сак перад смерцю паспеў нешта сказаць свайму сыну Лёву пра начны налёт. Чутка гэта пацвердзілася тым, што Лёву хацелі застрэліць: у адным выпадку яго ўратаваў добры конь, у другім – сабака, але тое, што два разы стралялі і не

папалі, гаварыла пра тое, што альбо стралец быў далёка не майстра па стральбе ў жывыя мішэні, альбо Лёва нарадзіўся пад шчаслівай зоркай. Лёва, дарэчы, таксама праходзіў як адзін з падазроных, толькі яго чамусьці не трымалі ў часовым турэмным ізалятары ў Ашмяне. А пасля раптам прапаў і Лёва. Жонка яго казала, што ў той дзень, як не стала мужа, Лёва маніўся ехаць у Ашмяну, казаў, што яму трэба бачыць сама галоўнага міліцэйскага начальніка. Навошта ён быў яму патрэбен, для чаго – яна не ведала. Пасля смерці бацькі Лёва стаў нейкім дзікім і зусім не гаваркім.

Бачылі людзі Лёву ў Ашмяне, бачылі, як ішоў вуліцай, як заходзіў у двухпавярховы будынак павятовага аддзелу НКВД і раённай міліцыі...

Цяпер з гэтым будынкам быў звязаны ледзь не кожны селянін, работнік, інтэлігент: даносы, падаткі, заявы, пажары, забойствы, крадзяжы – усё праходзіла праз гэты будынак, і кожны наведвальнік тут быў альбо сведкам, альбо панятым, альбо падазроным, альбо ўдзельнікам.

Бачылі людзі з суседняй вёскі, як нясмела Лёва штурхануў тыя чырвоныя дубовыя дзверы і схаваўся за імі...

Пасля гэтага Лёву ўжо ніхто не бачыў.

А праклятае золата абрастала чуткамі ўсё болей і болей. Людзі гаварылі, што на кірмашы нехта хацеў разлічыцца залатымі манетамі – яго тут жа і забралі. Казалі, што ў Рымцелях знайшлі забітага чалавека, а ў яго кішэні былі набітыя такімі ж манетамі. Там, недзе, сям'ю ўсю замардавалі, а гаспадара павесілі – не прызнаваўся, дзе схаваў золата. А ў Мінску быццам нейкага чалавека знялі з маскоўскага цягніка – хацеў вывезці золата.

А вясною спатрэбіліся доўгія нямецкія рыдлёўкі. Ледзь толькі мароз адпусціў зямлю, як распачаліся археалагічныя раскопкі вакол хутароў Сака і Сулковіча ў пошуках «залатых запасаў Радзімы». Капалі атрад салдатаў і матросаў, камуністы, камсамольцы, нейкія рабочыя з фабрыкі і заводу, рабфакаўцы, рабкораўцы і мясцовыя актывісты. Неўзабаве зямля ў раёне хутароў была зрытай так, быццам зграя галодных дзікоў прайшлася наваколлем. Знаходзілі чарапкі, крыжыкі, шлемы, багнэты, кальчугі, косці, але найболей было патронаў, гільзаў, баклагаў. Зразумела, што гэтыя знаходкі «археолагаў» не цікавілі. Праўда, і тут не абышлося без трагедый: выпадкова напароліся «археолагі» на снарады ад той імперыялістычнай вайны і як вынік – аднаго забіла і двух пакалечыла. Пасля гэтага вырашана было спыніць далейшыя пошукі. Праўда, спра-

вай гэтай далей сталі займацца начамі «чорныя капацелі». Сярод іх было некалькі груповак: адна прыезджая (гарадская), другая – з мясцовых. Не падзялілі яны неяк між сабою тэрыторыю раскопак і ўчынілі разборкі – тады людзі прачнуліся сярод ночы ад стрэлаў. Пасля гэтага яшчэ некалькі разоў людзі ў Няроўцы і Ракавічах ускаквалі сярод ночы ад выбухаў... А назаўтра, пасля разборак, закопвалі незнаёмых «археолагаў» тут жа, на «пазалочаным» полі.

Не такая яна ўжо была і лёгкая, гэтая залатая нажыва.

## 12. Пан Дабрынскі і першыя арышты «ворагаў народу»

Першага кастрычніка 1939 г. ў Багданоўцы арыштавалі пана Сёву Дабрынскага. На чорнай машыне прыехала аператыўная група з Ашмяны: трох пад фуражкамі, у цёмназялёным мундзіры і сінім галіфэ, чатыры чырвонаармейцы ў шынялях і мясцовыя актывістыя, зразумела, камісар Трэпелеў, Сцяпан, Пуценька і іншыя – усе ўзброеныя – ведалі, што ў Дабрынскага быў рэвальвер. Акружылі дом і прапанавалі Дабрынскаму здацца без бою, а не дык будзе горш. Дабрынскі здаўся. Зрабілі пэратрус у хаце, знайшлі вельмі важнае «вяшчэственнае даказацельства» – рэвальвер і старыя газеты на польскай мове. Дабрынскаму звязалі рукі, кінулі ў варанок і паехалі ўбок Ракуцева. З імі паехалі камісар Трэпелеў, Сьцяпан і Пуценька. У Ракуцеве арыштавалі асадніка капітана Дэмскага, у Крыўску – асадніка Дамбоўскага. І яшчэ ў той дзень арыштавалі ў Людвінова пана Кісялеўскага.

Арыштоўвалі толькі гаспадара – членаў сям'і пакуль што не чапалі. Пры арышце камісар Трэпелеў зачытваў нейкую пастанову, на падставе якой такі і такі памешчык, эксплуататар і вораг народу бярэцца органамі ўлады пад стражу для далейшай аператыўна-следчай працы. Сцяпан нагадваў, што ад гэтага дня гаспадарка арыштаванага будзе лічыцца нацыяналізаванай, гэта значыць камунарскай гаспадаркай.

Пасля таго, як пана Усевалада забралі, у двары Дабрынскіх засталася яго маці – пані Марыля і дзве сястры. Жанчыны пісалі шматлікія заявы да новага кіраўніцтва, пачынаючы ад Сцяпана і заканчваючы абласным пракурорам, з просьбамі вызваліць іх сына і брата, таму што няма ў яго віны перад новымі ўладамі. Лісты былі такога зместу:

*«Прокуратуре Вилейской области*
*Белорусской ССР*

*Заявление*

Мы гражданки, ссылаясь на сообщение прокуратуры Ошмянского района на факт того, что следствие по делу заключённого в г. Ошмяне сына и брата нашего Добринского Всеволода Александровича, направлено для рассмотрения в г. Вилейку, обращаемся с горячей просьбой освободить его как ни в чём невинного против Советской Власти и соеденить нас, две его несовершеннолетние сёстры, не имеющие сил прокормить себя и хронически больную мать, с ним вместе.

По случаю сообщаем, что Добринский Всеволод, получил очень задолженную землю и, не имея средств на среднее образование, работал тяжело с малых лет. Имел собственных 10 гектаров земли, обрабатывал остальную землю малолетних детей и 8 гектаров вдовей части матери. Весь доход приходилось отдавать на государственные банки, подати и др. долги отца, сделанные на суды с польским правительством, хотевшим конфисковать землю для охотников. После немецко-руской войны все постройки были уничтожены и часть земли была запродана соседним малоземельным крестьянам, так, что при поделе выходила на каждого члена семьи по 10 гектаров. О том, что наш сын и брат никого не обижал и делился чем мог, свидетельствуют многочисленные подписи и заявления людей с просьбами освободить его. Просим горячо, веря в Ваше правосудие, не откажите в нашей просьбе, освободите невиновного и сообщите нам по делу Добринского.

*Мария, Елена и Ирина Добринския.*
*Дата, подписи»*[1].

Лісты гэтыя пані зачытвала перад вясковымі жанчынамі, якія працавалі ў двары.

І самі сяляне пісалі аналагічныя лісты з просьбамі, прынамсі, яны даводзілі, што Дабрынскі, хоць і быў панам для іх, але быў панам добрым і справядлівым, асабліва не патураў сялянам, але і аніколі не крыўдзіў. Сяляне заўсёды маглі разлічваць у неспрыяльныя для выжывання часы на пана Дабрынскага, і не было такога выпадку, каб пан некаму адмовіў, выправіў за дзверы і не ў чым не дапамог. Добрай памяццю згадваюць людзі многія ўчынкі пана: і як зернем дзяліўся з людзьмі ў час сяўбы, і як коней даваў сялянам для апрацоўкі сваіх палеткаў, і як падвозіў цяжкахворых у Аш-

[1] Выкарыстаны дакументы Занальнага дзяржаўнага архіва г. Маладзечна: ф.Р-60.

мяну да доктара, і як з працы адпускаў раней напярэдадні святаў, і іншае.

Цяжка гаварыць пра тое, наколькі гэтыя лісты дапамаглі пану.

А неяк атрымала пані Марыя кароценькае паведамленне:

*«На ваше заявление отвечаем, что дело вашего сына и брата следствием окончено и направлено по подсудности, а в отношении его свобождения в просьбе вам отказано.*

*Прокурор спец. Отдела Вилейской Облпрокуратуры / Костюнин/»*[1].

Абвінавацілі пана Сёву Дабрынскага ў тым, што ён быў эксплуататарам сялян, не плаціў ім за працу і жорстка распраўляўся з імі пры дапамозе рэвальвера.

Найболей асвядомленым у справе Дабрынскага быў Пуценька. Калі сярод сялянаў узнікала гутарка пра Дабрынскага, Пуценька бесцырымонна ўсіх перабіваў і важна казаў:

– Я праходзіў па справе Дабрынскага і як сведка, і як абвінаваўца ад сялян-беднякоў. – Пуценька даставаў у чатыры разы складзены лісток паперы, разгортваў і ўрачыста чытаў: *«Произведённым по делу следствием установлено что Добржинский Всеволод Александрович, 1912 г. рождения, уроженец. ф. Богдановка, по происхождению из дворян, по национальности поляк, образование среднее, б/п, холост, до ареста проживал в фольварке Богдановка, былого Ошмянского уезда, Виленской области имеет 70 га. пахотной земли, 6 лошадей, 8 голов рогатого скота. Для обработки имеющейся земли применял наёмный рабочий труд, эксплуатировал 4 постоянных рабочих и 10 сезонных, заставлял их работать по 18 часов в сутки, при ничтожной оплате их труда. Как помещик жестока расправлялся с бедным крестьянством, вплоть до применения огнестрельного оружия. Будучи допрошен в качестве обвиняемого Добржинский в совершённых преступлениях виновным себя признал полностью. Следственное дело по обвинению Добржинского Всеволода Александровича следствием окончено и подлежит рассмотрению на Особом Совещании при НКВД СССР. Следователь УНКВД Вилейской обл. лейтенант Я.Солодовниченко. Подпись, дата»*[2].

Лісток гэты Пуценька прачытаў і Антосю, пры тым дадаў яшчэ, што ён, Пуценька, дапамагаў следаку фактамі по «ізобліченію эксплуататара і врага народа».

---

1 Выкарыстаны дакументы Занальнага дзяржаўнага архіва г. Маладзечна: ф..Р-60.
2 Выкарыстаны дакументы Занальнага дзяржаўнага архіва г. Маладзечна: ф..Р-60.

Антось тады хацеў сказаць нешта абразлівае ў адрас Пуценькі, але замест гэтага толькі спытаўся:

– А табе, Пуценька, ня будзе стыдна перад яго маці, сёстрамі, перад людзьмі?..

– За што? – здзівіўся Пуценька

– А за тое, што абгаварыў чалавека... Якіх 18 гадзінаў?.. Якая «жестокасць», агнястрэльная зброя?..

– А пры сенакосе і сенаваньні, колькі мы працавалі? – даводзіў Пуценька.

– Дык гэта ж пры сенакосе...

– А як рэвальверам ён ганяў нас, калі мы зь Сьцяпанам і з хлопцамі яго дом акружылі, прыйшлі, можна сказаць, дамовіцца па-добраму, а ён выскачыў, з рэвольвера «бах» уверх! – Пуценька патрос паперай. – Народ усё помніць! А ты яшчэ ў Мечыка запытайся, колькі разоў яму пагражаў пан!..

З Мечыкам была такая гісторыя: некалькі разоў бачыў яго пан Дабрынскі на працы п'яным і ўсякі раз казаў: «Яшчэ раз убачу, прыстрэлю, як сабаку!».

– І прыстрэліў бы, каб не савецкая ўлада, – працягваў Пуценька. – Савецкая улада, можна сказаць, Мечыку жыцьцё ўратавала... А ты, як я пагляджу, супраць яго арышту?

– Я, Пуценька, супраць таго, каб факты прыцягваць за вушы...

– За вушы... А ты ведаеш, што найбольшы супраціў саветам палякі далі пад Гародняй?..

– Ну, дык і што?

– А тое, што там Сева ваяваў супраць нас?!.

– Вас там не было...

– А як твой Сева Дабрынскі ў Рамана страляў, добра што той нябожчыкам прыкрыўся...

Антось з нейкім здзіўленнем і страхам глянуў на Пуценьку:

– А пры чым тут Раман?..

– А пры тым, што Дабрынскі страляў у яго!

Гісторыя з Раманам Любрыкам была вядомай у вёсцы кожнаму. Раман – гэта яшчэ той жулік і прайдзісвет, другога якога цяжка было знайсці ў свеце. Жыццё сваё ён звычайна праводзіў у турмах. А ў перапынках між імі дзівіў і цешыў народ сваім «майстэрствам». Казалі, што на яго рахунку былі кражы коней і перапродаж іх цыганам, абрабаванне банку ў Вільні і іншыя рабункі. Калі дзе-небудзь на кірмашы з'яўляўся Любрык, – людзі тут жа сядалі на свае вазы і пільна сачылі за яго неспакойнымі рукамі. Тыя, хто ведаў, хто такі Любрык, слухалі яго насцярожана і аднекваліся ад усякіх яго

прапаноў, нават калі яны маглі быць і выгаднымі. З большага яго ахвярамі былі людзі даверлівыя, не тутэйшыя. Так, Стась Чатырка з Вурлянятаў расказваў гісторыю: «Сяджу я ў хаце сваёй, каля вакна, гляджу баба нейкая падыходзіць да хаты і давай каля вуглоў хадзіць, хлеў разглядае, паветкі, склеп... Выходжу і пытаюся, што яна тут робіць? А яна мне: «А вы што тут робіце?» Я кажу, што я тут жыву... А яна: «Я тут буду жыць!». Я – гэта як? А яна: «А так... Я купіла гэтую хату!». Якое, кажу, купіла? Я хату сваю нікому не прадаваў! А яна мне: «Я задатак дала за хату...». Каму дала?.. Сталі разбірацца, выйшла, што падышоў да яе нейкі чалавек на кірмашы, разгаварыліся пра тое-сёе і ён між іншым сказаў, што прадае добрую хату... Даў адрас, сказаў, што за выганам, адразу направа, стаіць дом, здалёку відаць... Яна і прыйшла... Няцяжка было здагадацца, што гэтым чалавекам быў Любрык. Паказаў Чатырка цётцы месца тое, дзе сапраўды стаяла хата Любрыка, толькі хату сваю ён некалькі гадоў таму назад разабраў: ці не то прапіў, ці перавёз некуды.

Гавораць, што нельга абвесці жыда вакол пальца, але такая гаворка не датычыла Любрыка.

Рабіновіч – жыд з мястэчка – шмат каму скардзіўся на Любрыка:

– Гэта ж не чалавек, гэта ж нейкі зброд... Ідзе раз па кірмашу і плача: «А мая ж ты авечачка...». Заходзіць да мяне ў лаўку: «Пан Рабіновіч, пан Рабіновіч... А даруйце мяне, калі абы што пра вас казаў, альбо зрабіў што-колечы ня так... Каюся перад людзьмі і Богам... Альбо павешуся, альбо пачну жыццё спачатку... А мая ж ты авечачка... ». І ў сьлёзы, як баба якая... Супакойся, – кажу яму, – супакойся, і раскажы ў чым справа. А ён праз сьлёзы: «Было ў мяне сем авечак, і здохла адна... А мая ж ты авечачка...». Дык жа, кажу, шэсьць засталося... «Паздыхаюць і гэтыя, а мае ж вы авечачкі...». Чаго паздыхаюць? – пытаюся. «А карміць няма чым...», – адказвае. А я тады якраз зьбіраўся авечкі купляць, у людзей распытваў, пытаюся і ў яго, што за авечкі? «Адна старая і пяць маладых», – адказвае. Кажу, дык куплю я ў цябе авечкі твае. «Дык жа здохнуць... карміць няма чым...». Ня здохнуць, кажу, я ня сёньня, заўтра пад’еду... «Дык жа я сам здохну... тры дні ня еўшы... дзеці галодныя...». Я яму працягнуў нейкі злоты, кажу, ідзі паеш... А ён: «Не, так справа ня пойдзе, пан Рабіновіч, давай задатак за авечак, дзяцей паеду карміць». І я, як той дурань, даў. А на заўтра прыязджаю да Любрыка па авечкі, а ён валяецца п’яны. Пытаюся, дзе авечкі, а ён толькі мармыча не-

шта. Пасьля прадраў вочы, кажа, пайшлі пакажу. Прыводзіць мяне да печы і кажа: «Глядзі, вось на печы, каля трубы, старая авечка, – і на жонку паказвае. – А вось, вакол яе – маладыя авечкі (на дзяцей). Вось гэта баранчык…». А каб ты здох!.. Я да жонкі яго, так і так, заплаціў задатак… А яна ў лямант, каму паверыў, пан Рабіновіч, у нас зроду авечак не было, а задатак – прапіў ён ваш задатак… Найшоў зь кім зьвязвацца…

Дык вось, адно лета працаваў Любрык сезонным работнікам у пана Дабрынскага. Навакольныя паны ведалі Любрыка і таму на працу браць не хацелі. Ведаў яго і Дабрынскі, але ўзяў. Іншы раз малады пан любіў паслухаць пра «подзвігі» Любрыка; дзе ў гэтых аповедах была праўда. а дзе не – цяжка сказаць, але слухаць было цікава. Неяк слова за слова пан, маўляў, не веру і – усумніўся ў зладзейскіх здольнасцях Любрыка, абазваў Любрыка лгуном, абманшчыкам і прайдохам. Той загарэўся, калі пан не верыць, дык можа праверыць… Як? Хай пан толькі торбу з грашыма паставіць на стале, каля вакна і пільнуе… Калі торба да раніцы знікне, пан прайграў. Калі не – будзе працаваць Любрык у пана задарма да калядаў. Пан Усевалад зрабіў так, як дамаўляліся: торбу з грашыма паставіў на стол, каля вакна, а сам патушыў лямпу, сеў з рэвальверам насупраць і стаў чакаць. Недзе пад раніцу гучна дзынкнула шкло і ў вакне паказалася чалавечая постаць. У гэты ж момант прагучалі два стрэлы. Пан выразна пачуў нейкую валтузню за вакном і запаліў лямпу – торбы з грашыма на стале як і не было. А калі трохі развіднела, убачыў пан пад вакном мёртвага чалавечка, забітага, відаць, ім і спалохаўся не на жарты. Пасля, як падышлі работнікі, апазналі ў нябожчыку пад вакном чалавека з суседняй вёскі, якога тры дні таму назад пахавалі. Пан тады загадаў батракам аднесці нябожчыка на пагост і пахаваць, а пасля адшукаць і прывесці да яго Любрыка, але таго і след прастыў разам з той торбай.

Вось такое было прымяненне зброі панам Дабрынскім. Што было праўдападобным, дык тое, што любіў Дабрынскі хадзіць з сваім рэвальверам і, часам, папалохаць людзей, але толькі, калі на гэта была сур'ёзная нагода. Аднойчы панскі сторож Картановіч Паўлюк высачыў, як ракуцеўскія сяляне кралі ноччу панскае сена. Тады Дабрынскі некалькі начэй сам не спаў, а ўсё ж такі падлавіў ён момант з мужыкамі-злодзеямі і адкрыў «пальбу». Тыя пасля, казалі людзі, ноччу спаць не маглі – ускаквалі і нешта крычалі. Прыйшлося ім пасля ездзіць да Чубіка лячыцца ад пярэпалахаў.

У якасці галоўнага абвінавачвання ў справе пана Сёвы Дабрынскага праходзіла фармулёўка «социально опасный эле-

мент». Тут аніяк не ўкладвалася ў галаве, чым гэты элемент быў так небяспечны ўладам?

Далі таму «элементу» пяць гадоў выпраўленча-працоўнага лагера (ИТЛ), што паводле савецкіх тэрмінаў было вельмі і вельмі мала.

Калі з панам Дабрынскім усё было зразумелым паводле логікі савецкіх функцыянераў: ён пан, а значыць – вораг, дык арышт Зміцера Жаўтка з суседняй вёскі стаў як гром сярод яснага неба. Жаўток не толькі панам – падпанкам не быў; хоць і з сялянаў, але пісьменны і любіў паразважаць пра перамены ў краі. Відаць, некаму не зусім да спадобы былі гэтыя разважанні. Жыў у згодзе, быў добрым суседам і ўвогуле добрым чалавекам. Але, відаць, усё ж такі не ўсім ён быў добрым і некаму некалі, мусіць, не дагадзіў так, як таму хацелася. Уся справа была ў тым, што пры палякаХ працаваў Жаўток нейкі час секвістратарам – зборшчыкам падаткаў. На такой пасадзе дагадзіць кожнаму было проста немагчыма. І хаця пры палякаХ вялікіх праблемаў не было з падаткамі, але шмат хто не мог даравацЬ Жаўтку таго факту, што ён забірае ад іх дабро на карысць польскай дзяржавы. Але гэта было толькі паловай бяды – другой нагодай для помсты магла быць свядомая беларуская пазіцыя Жаўтка: знаёмствы і сустрэчы з сябрамі Беларускага пасольскага клубу Рак-Міхайлоўскім і Мятлом, заснаванне і кіраўніцтва суполкамі “Грамады” і ТБШ, сяброўствы ў “Грамадзе” і КПЗБ, пастаянныя слежкі паліцыі і разборкі ў паліцэйскіх пастарунках і іншае. А зараз, калі прыйшлі Саветы, настаў найбольш спрыяльны час помсты – зараз, калі палякі не засадзілі яго за краты, дык гэтае могуць з задавальненнем зрабіць Саветы.

Арыштавалі яго недзе ў пачатку кастрычніка, прыехала аператыўная група на спецыяльнай машыне з Ашмяны, у хаце зрабіліператрус. Два следакі ў форме НКВД зайшлі да суседзяў, пахадзілі па вёсцы, дзеля ліку нешта распытвалі пра Жаўтка, пра яго знаёмствы, сустрэчы, гутаркі. Трэці “энкэвдэшнік” у гэты час у хаце вёў допыт і афармляў патрэбныя паперы. З ім былі два чырвонаармейцы, а трэці салдат “дзяжурыў” на вуліцы.

Тым, хто ведаў Жаўтка, гэты арышт быў абсалютна незразумелым: які ён вораг савецкай уладзе?..

Зразумелым было толькі адно: нехта помсціў Жаўтку.

Можа таму, што гэта быў першы такі нечаканы і нічым не абгрунтаваны арышт, а можа і праз звычайную людскую цікавасць, на падворку Жаўтка сабралася каля двух дзясяткаў

мужчынаў. Цікавіла іх адно: у чым вінаваты Жаўток? Адказы аператыўнікаў наконт таго, што “паступіў сігнал”, людзей не задавальнялі – адразу ўзнікала пытанне: “Які сігнал?” і “Хто гэты такі сігналісты?”. Не рэагавалі вяскоўцы і на просьбы аператыўніка камісара Трэпелева разысціся сваімі хатамі падобраму. Урэшце, каб справа выглядала сур’ёзна і, магчыма, каб зняць напружаную сітуацыю, старшы аператыўнай групы, камісар, выйшаў на ганак у суправаджэнні двух чырвонаармейцаў і Трэпелева, даволі ветліва прывітаўся, павіншаваў усіх з перамогай партыі Леніна-Сталіна і сказаў:

– Мы имеем всякое право в случаи ослушивания вами органов советской власти на команду «разойтись!» либо арестовать вас, либо применить оружие. Но я вас, на первый раз, хочу простить и предупредить, чтоб это было в первый и в последний раз... Что касается вашего земляка, так, чтоб у вас не осталось каких-либо сомнений по поводу его законного ареста, я, по мере возможности, так как многое в интересах следствия разглашать не положено, ознакомлю вас с некоторыми пунктами протокола предварительного расследования... Слушайте.

Камісар разгарнуў сваю планшэту, дастаў лісток і стаў чытаць: «*... Оперативной группой НКВД арестован как провокатор польской дефензивы Желток Дмитрий Фомич, 1901 года рождения, житель деревни Куренец, белорус, грамотен... Произведённым по делу предварительным расследованием установлено, что Желток Дмитрий Фомич проживал в деревне Желтки... По предложению послов из польского сойма Рак-Михайловского и Метлы организовал контрреволюционную организацию «Белорусская Громада» в 1927 году и был активным деятелем до 1928 года; неоднократно вызывался в разведпляцувку начальником отдела тайной полиции Гродским, где ему предлагали стать агентом польской полиции, выдавать членов КПЗБ, за что ему предлагали 50 злотых, в дальнейшем обещали обеспечивать всем необходимым для жизни. Он якобы отказался от денег и отказался работать на тайную полицию... Далее установлено, что Желток Д. Ф. работал секвистратором с 1930 по 1932 год, защищал интересы бывшего польского правительства и угнетал крестьянство, отбирая имущество у крестьян за неуплату налогов. В частности, в деревне Любки им лично были отобраны 2 коровы у крестьян за неуплату налогов... Желток Дмитрий Фомич обвиняется в том, что является провокатором революционно-настроенных масс, защищал интересы бывшего польского правительства, угнетал беднейшие слои трудящихся, то есть, в преступлени-*

*ях, предусмотренных статьёй 74 Уголовного Кодекса БССР... Следователи УНКВД Московин, Зуев, Соснов... »*[1].

– Ещё вопросы есть? – пытанне камісара прагучала неяк вельмі пагрозліва.

– Пытаньняў няма, – адказаў за ўсіх Янук Дайновіч. – Ёсць толькі недаразуменьне... Так можна арыштаваць кожнага...

– Кожнага и арестуем, если будут улики на это – бесцырымонна адказаў камісар. – А сейчас расходитесь!

Людзі разышліся, а Жаўтка неўзабаве, са звязанымі рукамі, у суправаджэнні галашэнняў жонкі і дзяцей, вывелі з хаты, загрузілі ў машыну і павезлі.

## 13. Савецкія выбары

На чарговым сходзе ў Загоне (на гэты раз народ сабралі ў гумне Дабрынскага, бо пырскаў дожджык з мокрым снегам), Пуценька вельмі шмат гаварыў пра пана Сёву Дабрынскага: зачытваў (у мэтах прафілактыкі) абвінаваўчы акт і пагражаў разабрацца з тымі, хто выступаў з просьбамі ў яго абарону, маўляў, у яго ёсць калькі і арыгіналы такіх лістоў з подпісамі сялянаў. Пуценьку падтрымаў і Сцяпан, маўляў, не трэба толькі распускаць сліні па такіх ворагах працоўнага сялянскага люду, як пан Дабрынскі і яму падобныя – сяляне зажывуць шчасліва і радасна толькі тады, калі не будзе такіх эксплуатататараў, як Дабрынскі, і такіх правакатараў, як Жаўток.

На сходзе было вырашана забраць палову дому Дабрынскага пад патрэбы камуны і арганізацыі савецкай улады на месце. Планавалі ў гэтай палове размясціць хату-чытальню.

На сходзе раптам, ні з таго ні з сяго, узнікла пытанне наконт Вільні. Справа была ў тым, што дзясятага кастрычніка Сталін падарыў літоўскаму пракамуністычнаму ўраду беларускую Вільню і частку Віленшчыны. Такім рашэннем Сталіна абураўся нават Сцяпан:

– Што яны там сабе ў Маскве думаюць – у Вільні анікалі не было жмудзінаў. А цяпер, што робяць: завозяць з-пад Коўна і Шаўляя жамойтаў і выдаюць іх за літоўцаў.

Літоўцы і сапраўды пасля таго, як атрымалі Вільню, тут жа перайначылі яе ў Вільнюс і распачалі актыўна праводзіць сярод беларускага насельніцтва Вільні «ажмудзінне»: перакладаць на літоўскую мову ад А да Я імёны і прозвішчы. Так, Андраловічы і Януковічы сталі Андралойцемі і Янкойцемі, Міцкевічы і Станкевічы – Міцкевічусамі і Станкевічусамі, Стасіловічы – Стасюлёнісамі, Пятровічы – Пятраўскасамі,

---

[1] Выкарыстаны дакументы Занальнага дзяржаўнага архіва г. Маладзечна: ф..Р-60, в..3, спр. 525.

Трацякі – Трацяскаўсамі і гэтак далей. Болей таго, у Вільні зачынілі беларускія выдавецтвы, забаранілі выхад шэрагу беларускіх газетаў, пад пагрозай закрыцця была беларуская гімназія. Не без дапамогі літоўскіх камуністаў у першыя дні савецкай улады былі арыштаваныя шматлікія беларускія дзеячы ў Вільні. Відавочнай была перспектыва знішчэння беларускасці ў беларускай Вільні ўвогуле, і рабілася гэта свядома не толькі пры падтрымцы, але і па ўказцы Масквы.

– Было б ужо ад каго забіраць! – абураўся Сцяпан. – Хоць бы з народам параіліся...

У гэты час у памяшканне зайшлі Калман і Кацалапаў і рашуча накіраваліся ў прэзідыум.

– У цябе не спыталіся! – заместа прывітання строга заўважыў Кацалапаў. – Там, у Маскве, ведаюць, што робяць. Вільня твая была не беларускай, а польскай... А цяпер будзе літоўскай і савецкай. І калі трэба будзе, і Мінск можа стаць літоўскім...

– Менск хутчэй можа стаць расейскім, – выказаў здагадку Сцяпан.

– А ён і так ужо ёсьць расейскім!

Сцяпан не стаў спрачацца з Кацалапавым, і на гэтым пытанне з Вільняй і Менскам было б закрытым, калі б голас не падаў нехта Хаім Берка. Хаім у Ракавічах з'явіўся нядаўна. Прыехаў ён з сям'ёй аднекуль з-пад Варшавы – уцякаў ад немцаў. Хацеў трапіць у Савецкую Беларусь, але на старой польска-савецкай мяжы яго завярнулі назад.

– Таварышы, тут такая сітуацыя, – пачаў Берка. – Пасьля перадачы Вільні і Віленскага краю літоўцам, узьнікла новая мяжа між новай Літвою і той часткай тэрыторыі Заходняй Беларусі, якая была далучанай да Савецкай Беларусі. Былыя тэрыторыі Ашмянскага, Браслаўскага і часткі Дзісьненскага і Сьвянцянскага паветаў з насельніцтвам апынуліся ў поўнай ізаляцыі: у Вільню, у Літву і далей у заходнім кірунку нас, як заходнікаў, не пускаюць на новай мяжы летувіскія і савецкія памежнікі; у Мінск, у Савецкую Беларусь і далей на ўсход не пускаюць на старой савецка-польскай мяжы саветы. Мы, бежанцы з Польшчы, сярод якіх вельмі шмат яўрэяў, перад прыходам немцаў кінуліся былі ў розныя бакі – і засталіся чакаць немцаў на тэрыторыі, умоўна далучанай да БССР. Канчаткова межы яшчэ не вырашаныя, і няведама, што будзе з намі, калі Гітлер пойдзе далей на ўсход… Мы, яўрэі, сёньня знаходзімся як у пастцы…

– Дык, што вы хочаце ад нас? – перапыніў яго Кацалапаў.

– Ад вас я хачу хадайнічаньне на атрыманьне даведкі, паводле якой можна будзе перайсьці мяжу ў Савецкую Беларусь… Наколькі я ведаю, такія даведкі ёсьць у кожнага, хто прыехаў сюды з Савецкага Саюза…

– Мы такіх даведак не даём, таварыш, – зноў перапыніў яго Кацалапаў. – Гэта ня наша кампетэнцыя…

– Але, таварыш Кацалапаў, хадайнічаньне ў вашых магчымасьцях, – даводзіў Берка.

–Мы сёньня сабраліся тут не дзеля таго, каб афармляць паперы ў Савецкую Беларусь, – строга падкрэсліў Кацалапаў. – Сёньня ў нас на парадку дня Усебеларускі народны сход! У сувязі з гэтым дазвольце даць слова таварышу ўпаўнаважанаму Калману. Прашу!

Лёва Калман падзякаваў і стаў вельмі прыгожа, як казачнік-бай, гаварыць пра тое, што ўсе працоўныя Заходняй Беларусі праявілі пралетарска-рэвалюцыйную ініцыятыву і абвясцілі неабходнасць склікання «Всебеларускага народнага сабранія», якое будзе праходзіць напрыканцы бягучага месяца ў Беластоку. У сувязі з гэтай, вельмі патрэбнай дэмакратычнай прапановай, нам трэба будзе абраць сваіх, лепшых з найлепшых прадстаўнікоў у вышэйшы орган улады – Вялікі ўсенародны сход, прадстаўнікоў, якія будуць прадстаўляць інтарэсы ўсяго беларускага народу:

– Дзень выбараў прызначаны на 22 кастрычніка, а сам Народны сход – на 28,– абвяшчаў Калман. – Там, на Вялікім сходзе, будуць вырашацца пытаньні пра ўз'яднаньне народаў Заходняй і Савецкай Беларусі, будзе вырашацца наш і ваш лёс, лёс беларускага народу… Пасьля Сходу, таварыш Берка, межы будуць адкрытыя і кожны зможа абняцца з сваім савецкім братам…

– Каб у нас не было такога базару, які быў нядаўна пры стварэньні органаў савецкай улады на мясцох, – прадоўжыў тэму Кацалапаў, – прапаную вылучыць кандыдата і тут жа прагаласаваць за яго. Кандыдат павінен быць зь беднякоў, сялянаў, працоўных, батракоў, рамесьленьнікаў, з гераічным мінулым нацыянальна-вызваленчай барацьбы супраць польскіх прыгнятальнікаў... Добра будзе, калі гэты чалавек прайшоў загартоўку ў польскіх турмах… У сувязі з гэтым, слова прадстаўляецца зноў таварышу Калману.

– Мы доўга раіліся з таварышамі і прыйшлі да высновы, што такая кандыдатура ў нас ёсьць – гэта таварыш Залман – старшыня часовай управы горада Смаргоні, – абвясціў Калман.

– Янука Дайновіча, – нясмела прапанаваў Віктось Саковіч.

– Янука! – закрычалі астатнія.

– Дайновіч – наш чалавек! Ніхто столькі не адпакутваў за наш народ, колькі ён, – зашумелі астатнія.

Тут жа ўскочыў Пуценька і ўсіх перакрычаў:

– А я прапаную таварышча Калмана!..

– Очань харашо! – Кацалапаў адзначыў нешта ў сваім спісу. – Ітак, галасуем. Хто за Залмана? Хто за Калмана?.. Хто за Кацалапавага?

За Залмана, Калмана і, чамусьці, за Кацалапавага галасавалі адны і тыя самыя: Пуценька, Казакевіч, Сцяпан, Трэпелеў, яны самі за сябе і некалькі актывістак.

– А хто за Дайновіча?– нечакана зноў выгукнуў Віктось Саковіч.

За Янука Дайновіча падняўся лес рук. У сувязі з гэтым большасць стала патрабаваць, каб яму далі слова.

– Гавары, Дайновіч! – падбадзёрвалі аднавяскоўцы.

– Хай сабе гаворыць, дагаворыцца, – спакойна адрэагаваў на такі паварот справы Кацалапаў.

Гаварыў Дайновіч не шмат:

– Шаноўныя, я не разумею, чаму нам на кожным кроку стараюцца гаварыць няпраўду: вядома, што там, у Маскве, было прынята рашэньне аб правядзеньні Народнага сходу, але чамусьці стараюцца гэта падаць як ініцыятыву самога насельніцтва Заходняй Беларусі, маўляў, Савецкі Саюз ані ў якім разе не прэтэндаваў на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай, маўляў, усё гэта робіцца толькі зь вялікай просьбы прыгнечанага палякамі брацкага Савецкай Расеі беларускага народу?..

– Ня ўсё так проста, таварыш Дайновіч, – запярэчыў Кацалапаў. – На Беласточчыне вельмі шмат нашых прыхільнікаў...

– Ня болей, чым у іншым месце... Але, калі гутарка ідзе пра савецкую ўладу, – працягваў Дайновіч, – дык улада гэтая павінна быць у першую чаргу справядлівай да кожнага, беларусы павінны атрымаць магчымасьць свабоды роднага слова, адукацыі, нацыянальнай гісторыі, вяртаньне сваіх сімвалаў: «Пагоні» і бел-чырвона-белага сьцяга…

– А вы перакананы, таварыш, што гэта ўсё вельмі патрэбна сёньня народу? – пацікавіўся Калман.

– І я так думаю, – Калмана падтрымаў Кацалапаў. – Гэта не з'яўляецца першаснай патрэбай народу... Можа, хто хоча з

прысутных з места дадаць свае пажаданьні будучаму дэлегату на ўсебеларускі сход?

– Я хачу, – з места паднялася Зінка Сідаровіч, актывістка, бядначка з Мазалёў.

– Прашу, Зіна, – прапанаваў Кацалапаў.

У вёсцы хадзілі такія чуткі, што Кацалапаў заляцаецца да Зінкі. Некалькі разоў іх бачылі ўдваіх, а яшчэ чамусьці пасля ўсіх гэтых камунарскіх пасядзелак, Зінка толькі пад раніцу прыходзіла дахаты.

– Дык яна ж малапісьменная! - нехта выкрыкнуў з прысутных, але на гэты крык «прэзідыум» не звярнуў увагі.

Зінка разгарнула лісток паперы і стала чытаць:

– Я, Зінаіда Сідаровіч, бядначка з вёскі Мазалі, ад сябе асабіста і ад імя ўсіх працоўных Заходняй Беларусі хачу паставіць пытаньне перад удзельнікамі Народнага сходу Беларусі аб уваходжаньні тэрыторыі Заходняй Беларусі ў склад Савецкага Саюза і Беларускай савецкай сацыялістычнай рэспублікі і аб устанаўленьні на гэтай тэрыторыі Савецкай улады, а таксама аб поўнай канфіскацыі памешчыцкіх зямель, нацыяналізацыі банкаў і буйнай прамысловасьці...

– О! Вось што галоўнае, таварыш Дайновіч, на сёньняшні дзень! – важна адзначыў Кацалапаў. – А вы тут нейкія вражаскія сьцягі хочаце разьвесіць... Можа, мы, таварышчы, пераглядзім кандыдатуры нашы, пакуль яшчэ ня позна... А дваццаць другога кастрычніка прашу ўсіх на выбары! А вамі, таварыш Дайновіч, павінны заняцца кампетэнтныя органы!.. А вам, таварышч Зіна, большое парційнае і чалавечаскае спасіба! А вы, – да ўсіх астатніх, – таварышы, можаце ісьці дахаты, без вас разбяромся…

А пасля амаль што ўвесь кастрычнік толькі і гаварылі пра гэты народны сход, на якім будзе вырашацца лёс беларускага народу. Праўда, гаварыла толькі начальства. У выбарчых мэтах быў створаны камітэт агітацыі і прапаганды, які павінен займацца палітмасавай працай. Тады хадзілі хатамі актывістыя, агітавалі за Страшкевіча і Калмана – актывістаў з Мястэчка, і Залмана – старшыню часовай управы горада Смаргоні, якія і будуць там, у Беластоку, абараняць інтарэсы беларускага народу на ўсебеларускім сходзе (Дайновіч, маўляў, як былы вязень польскіх турмаў, не прайшоў).

Першым сур’ёзным мерапрыемствам камітэту быў агітацыйны паход, прымеркаваны да выбараў у Народны сход Заходняй Беларусі па маршруце Багданоўка – Мястэчка. Удзельнікамі паходу былі мясцовыя актывісты, камсамольцы,

моладзь і вучні старэйшых класаў. Калона, чалавек дваццаць, была ўпрыгожанай плакатамі і лозунгамі з заклікамі галасаваць за «абранніка народу». Узначальвалі натоўп камісар Кацалапаў, Казакевіч, Сцяпан і Пуценька. Астатнімі ішлі тры чырвонаармейцы з вінтоўкамі.

Актывістыя прапаноўвалі кожнаму падысці ў мястэчка на сустрэчу з кандыдатам і расказаць яму пра свае інтарэсы і пра сваё жыццё, але на гэтую сустрэчу, відаць, толькі самі актывістыя і хадзілі, бо назаўтра зноў лёталі па хатах, абураліся і пагражалі, што калі так сяляне будуць адносіцца да галасавання, дык ім прыйдзецца ўводзіць «штрафныя санкцыі да палітычна неактыўнага кантынгенту насельніцтва». Чамусьці сяляне не любілі і не хацелі расказваць кандыдатам пра сваё жыццё.

Не хадзілі на тыя сустрэчы і Антось з Януком – так неяк атрымалася. Пасля стала вядома, што не адныя яны праігнаравалі ўдзел у выбары свайго абаронцы. Не хацелі яны ісці і на такія выбары дэпутатаў на сход, але Сцяпан вельмі папулярна растлумачыў Дайновічу, як свайму былому калегу і аднакамерніку па польскіх турмах, што звычайна робяць саветы з тымі, хто ігнаруе іхнія мерапрыемствы...




А на выбарах, кожнаму, хто галасаваў, давалі па аднаму яблыку з садоў Лакуціескага і Карчэўскага.

Народны Сход у Беластоку 28 кастрычніка абвясціў савецкую ўладу ў Заходняй Беларусі і ўсе дэпутаты аднагалосна прагаласавалі за зварот да Вярхоўнага Савета СССР з просьбай прыняць Заходнюю Беларусь у склад СССР і злучыць яе з БССР, а таксама аб поўнай канфіскацыі памешчыцкіх зямель, нацыяналізацыі банкаў і буйнай прамысловасці.... Усё было так, як гаварыла ў сваім выступе малапісьменная Зінка, бяднячка з Мазалёў.

Неяк Янук зайшоў да Антося і, што праз смех, а што праз абурэнне, расказваў пра выхадку нейкага папа ў мястэчку. Поп гэты прыехаў аднекуль на памінальную службу з нагоды ўшанавання памяці св. Аляксандра Неўскага (праваслаўны прыход насіў яго імя). Дык вось, поп гэты, завяршаючы ўрачыстае набажэнства ў царкве, пасля слоў «Слава Ісусу Хрысту» стаў выкрыкваць лозунгі: «Да здравствует

Советская власть, ібо не бывает власті не от Бога!», «Да здравствуют советскіе історіческие выборы!», «Да пусть кремлёвская звезда освешчает путь всем народам міра!», «Да взовьётся Красное знамя на всей земле!». Людзі не ведалі, што рабіць: ці гаварыць «Амінь!», ці крычаць «Ура-а-а!».

Адыходзячы, Янук пакінуў газету, у якой паведамлялася пра волю беларускага народу, вызваленага з-пад польскага гнёту. Напісана было з пафасам: **«Прыклад Савецкага Саюза і горкі вопыт нашага жыцця ў панскай Польшчы пераконваюць нас у тым, што толькі Савецкая ўлада можа пазбавіць народы Заходняй Беларусі ад эксплуатацыі, нястачы, голаду і бяспраўя. Толькі Савецкая ўлада забяспечыць нам палітычнае, гаспадарчае і культурнае працвітанне, забяспечыць свабоду нацыянальнага развіцця ўсіх народаў Заходняй Беларусі»**[1].

Вельмі хацелася ў гэтае верыць.

* * *

Ужо ў першых днях лістапада мясцовае начальства прыступіла да рэалізацыі вынікаў народнага сходу. Калі было сказана пра канфіскацыю зямлі, дык з яе практычна і пачалі. Нягледзячы на тое, што зямля ў лістападзе пуставала, спецыяльная камісія, пад кіраўніцтвам Сцяпана і Казакевіча, стала мераць зямлю памешчыкаў Дабрынскіх, Лакуціеўскіх і Кісялеўскага. Заадно камісія тая разышлася так, што пайшла гуляць з «казлом» (землямерам) і вымяраць дзесяціны ў Качаноўскага, Сакалоўскага, Саковіча і Страчынскага – пра іх пачалі гаварыць, як пра кулакоў, таму, што было ў іх некалькі дзясяткаў тых дзесяцін. Невялікі інцыдэнт адбыўся на зямлі Саковіча. Саковічы выйшлі ўсёй сям'ёй: бацька, маці, чатыры сыны, нявесткі, унукі – і сцяной сталі на дарозе землямераў, тыя хацелі іх абысці, але стары Саковіч выхапіў «казёл» з рук Сцяпана і паламаў яго, пасля чаго між Саковічамі і камунарскай камісіяй пачалася звычайная вясковая бойка, якую спыніў камісар Трэпелеў стрэламі з рэвальвера.

Дарэчы, стрэлы пры «чорным передзеле» сталі адбывацца нашмат часцей, чым гэта было ў час «вызвольнага паходу» Чырвонай арміі. Так, гэтую землямерную камісію абстралялі невядомыя з лесу на гонях Страчынскага, а ў Ходзьках камісія нарвалася на засаду. Праўда, абышлося пакуль без ахвяраў, апрача лёгкіх параненняў, што наводзіла на думку пра застрашальную акцыю лясных «бандытаў».

[1] «Звязда», 30 кастрычніка, 1939 г.

У Ракуцеве камітэт беднаты, пад кіраўніцтвам Аніш-чыкаў (так называлі сям'ю Анісі (адсюль і Анішчыкі) і Рыгора Стрыгі, вырашыў абмерыць і падзяліць зямлю Дэмскага між беднякамі. Калі гэта было зроблена, сталі дзяліць маёмасць. Паводле спісаў камбеду, Анішчыкі адхапілі сабе палову дома Дэмскага і палову хлява з каровай і цялём. Нагадаем, што сам Дэмскі быў арыштаваны, сыны былі прызваныя ў Войска Польскае, і пра іх болей нічога не было чуваць, а ў доме засталася пажылая пані (Дэмшчыха) з дзвюма дарослымі дочкамі. Панскія работнікі паўцякалі ў першыя дні прыходу Саветаў, і жанчыны самі вялі ўсю гаспадарку. Анішчыкі з'явіліся на панскім падворку акурат тады, калі Дэмшчыха даіла карову. Пасля некалькіх даволі непрыстойных словаў прывітання, Анісся падбегла да пані, якая сядзела на зэдліку каля каровы, і спрытна ўдарыла нагой у вядро з малаком:

– Пайшла вон, эксплюататарка! Гэта ўжо мая карова!

Вядро з шумам і пырскамі малака падскочыла ўверх, карова рванулася ўбок, і пані з крыкам паляцела з свайго зэдліка. На шум і крык выскачылі з дому дочкі, але што маглі зрабіць жанчыны супраць добрага дзясятку людзей. Зачыталі Дэмскім пастанову камбеду і сталі людзі разбіраць сабе тое, што ім паводле гэтай пастановы належала, нягледзячы на хаўтурныя галашэнні Дэмшчыхі і яе дачок.

Не паспела завяршыцца кампанія з народным сходам, як распачалася агітацыя з нагоды дастойнай сустрэчы чарговай гадавіны з дня кастрычніцкай рэвалюцыі. За некалькі дзён да святкавання з Ашмяны прыслалі ўпаўнаважанага па культуры, які і павінен быў дапамагчы часовай управе арганізаваць свята так, як гэта павінна было быць. Але ўпаўнаважаны ў дзень свайго прыезду знёсся з Пуценькам, і хлопцы сталі адзначаць свята задоўга да яго афіцыйнага пачатку. За дзень да свята ўпаўнаважаны працверазеў і загадаў Сцяпану напісаць рэвалюцыйны плакат. Сцяпан, у сваю чаргу, вельмі крытычна аднёсся да такой прапановы, спаслаўшыся на тое, што дзеля гэтага яны запрашалі ўпаўнаважанага. Як там было на самай справе, невядома, але сёмага лістапада над управай вісеў чырвоны кумач з надпісам: «Няхай жыве 22-ая гадавіна Вялікай Кастрычніцкай Сацыялістычнай Рэвалюцыі!». На плакат доўга і падазрона глядзеў камісар Кацалапаў, пасля ён паклікаў да сябе ўпаўнаважанага па культуры і Сцяпана:

– Што гэта такое?

– Плакат – не зразумелі тыя.

– Плакат?! «Няхай жыве...», маўляў, няхай сабе, пакуль жыве, здохне... няхай даходзіць... Так?! Ці, можа, вы думае-

це, што я ня ведаю беларускай мовы?.. А гадавіна – гэта што? Вялікі такі гад?! А Кастрычніцкая – што гэта такое?! Гэта – як нешта непатрэбнае, як кастра ў вочы!..

Сцяпан спрабаваў нешта запярэчыць, але камісар яго не слухаў:

– Што вы мне тут народ дурыце! Контррэвалюцыю мне тут надумалі зрабіць?! Дык я вам зраблю!.. Зьняць і напісаць плакат правільна, без намёкаў і без гадаў! Нямедленна!!!

Пакуль актывістыя і народ збіраліся каля ўправы, ладзілі калону з плакатамі, лозунгамі, сцягамі і, абавязкова, з партрэтамі Сталіна і Леніна, Сцяпан з упаўнаважаным карцелі над новым тэкстам плакату. Нічога яны тут новага не выдумлялі, напісалі проста і коратка: «Да здравствует Велікій Октябрь!». Калі калона была падрыхтаванай, урачысты мітынг адкрываў камісар. Пасля выступаў нехта з раёну, а пасля Сцяпан. Усе яны гаварылі адно і тое самае: гаварылі пра тую сацыялістычную рэвалюцыю так, быццам з яе пачынаўся свет, і калі б не рэвалюцыянеры і бальшавікі «с вождём мирового пралетариата Лениным и его верным соратником Сталиным», дык даўно ужо настаў бы канец свету... Пасля школьнікі ладзілі літмантаж з вершамі пра рэвалюцыю, партыю і Сталіна. Праграма завяршалася спевамі «Інтэрнацыяналу». Спевы былі нястройнымі: не ўсе ведалі мелодыю і словы, да таго ж і галасоў не было такіх сярод спевакоў, каб можна было цягнуць тую мелодыю. Калі дапелі апошні куплет, пачулася рэпліка:

– І гэта нуднае ягнят бляяньне на пастбішчы...

Рэпліка засталася незаўважанай, а можа, проста не было ўжо калі рэагаваць і шукаць нядобразычліўцаў вялікай кастрычніцкай рэвалюцыі і «Інтэрнацыяналу», бо трэба было ісці калонай у Мястэчка. Арганізатары былі зацікаўленыя ў тым, каб як мага болей народу прывесці на ўрачыстасць, але не кожны жадаючы мог пайсці: у адных не было абутку прыстойнага, у другіх – вопраткі.

У мястэчку выступаў было значна болей. Выступалі нават тыя рэвалюцыянеры, якія бралі Зімні палац, бачылі Леніна ў Смольным, абаранялі Савецкую ўладу ад буржуяў і капіталістаў у конніцы Будзённага і, нарэшце, «на ціхім акіяне свой закончылі паход». Зноў выступала шчаслівая бяднячка Феня, якая дзякавала на чым свет стаіць вялікага Леніна-Сталіна, камуністычную партыю і савецкую ўладу. У завяршэнні праграмы мясцовая агітбрыгада дала пламенны рэвалюцыйны канцэрт: дэкламавалі вершы («мы говорим Ленин – подразумеваем Сталин, мы говорим Сталин, подразумеваем

– Ленин») і іншыя творы пралетарскіх пісьменнікаў, спявалі рэвалюцыйныя песні, у тым ліку і любімую песню Уладзіміра Ільіча «Варшавянку».

Прыкрым было хіба тое, што, пасля ўрачыстай часткі, хлопцы вырашылі зайсці ў карчму да Шнэера і зрабіць па кілішку за рэвалюцыю, а плакат «Да здравствует Велікій Октябрь!» пакінулі каля ўваходу... А калі выйшлі, на плакаце чорным вугалём было дапісана: «Да здравствует Велікій Декабрь, Велікій Январь, Велікій Февраль...!». Хлопцы былі вельмі засмучаныя такім актам вандалізму, плакат прыйшлося згарнуць і паведаміць мясцовым аператыўнікам, але віноўніка-вандала адшукаць так і не ўдалося.

Чарговы мітынг і сход быў прызначаны на 5 снежня – дзень Сталінскай Канстытуцыі. На гэты раз народу ў доме Карчэўскага сабралася роўна столькі, колькі магло змясціцца ў пакоях.

Сход на гэты раз праводзілі Калман і Кацалапаў, напачатку Калман расказаў пра важнасць і сусветнае значэнне Сталінскай Канстытуцыі, а пасля даў слова Сцяпану, які стаў чытаць даклад на тэму: «Сталінская Канстытуцыя – самая чалавечная Канстытуцыя ў свеце».

– Артыкул першы – абвяшчаў Сцяпан. – Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік зьяўляецца сацыялістычнай дзяржавай працоўных і сялянаў. Артыкул другі. Уся ўлада ў СССР належыць працоўным горада і вёскі... Артыкул трэці. Зямля замацоўваецца за калгасамі ў бясплатнае і бестэрміновае карыстанне, на векі вечныя...

Неха з прысутных дадаў:

– Амінь...

– Артыкул пяты... шосты... сёмы...

– Можа, ня трэба ўсе артыкулы пералічваць? – выкрыкнуў нехта з апошніх радоў. – Можа, што таварыш Сталін пра нас казаў?..

– Артыкул 9,– працягваў Сцяпан, – Законам дазваляецца мелкая прыватная гаспадарка аднаасобнікаў і кустарнікаў на падставе асабістай працы, з выключэннем эксплюатацыі і наёмнай працы... Артыкул дзясяты... Артыкул дванаццаты... Праца ў СССР зьяўляецца абавязкам і гонарам кожнага здольнага да працы грамадзяніна паводле прынцыпаў сацыялізму: «кто не работает, тот не ест» і «от каждого по его способности, каждому – по его труду»...

– А ці зробяць 25 сьнежня, на каляды, сьвяточным днём? – зноў пачуліся выкрыкі, на гэты раз – жаночыя галасы.

– Мінутачку, Пятровіч, – Кацалапаў прыпыніў Сцяпана. – А я такога сьвята ня ведаю, а калі яшчэ раз пачую пра каляды, дык будзеце вы ў мяне, грамадзянкі і грамадзяне, калядаваць гадоў дзесяць у раёнах вечнай мерзасьці.

– У сьнежні ў нас вельмі шмат сьвятаў, – прадоўжыў сьвяточную тэму Калман. – Вось, да прыкладу, Дзень Сталінскай Канстытуцыі, Выбары ў мясцовыя, раённыя і абласныя саветы, Дзень народзін вялікага Сталіна і Новы год – чатыры сьвяты, я не разумею, якія вам яшчэ каляды патрэбныя?!. Чытай, Сьцяпан...

– Артыкул сямнаццаты... Артыкул васямнаццаты...

На артыкуле 125: «У адпаведнасці з інтарэсамі працоўных і ў мэтах умацавання сацыялістычнага ладу грамадзянам СССР гарантуецца законам: а) свабода слова, б) свабода друку, в) свабода сходаў і мітынгаў, г) свабода вулічных шэсцяў і дэманстрацыяў» – вырашылі прыпыніцца і перанесці чытанні на наступны дзень.

Калман пры гэтым сказаў:

– На гэтай вясёлай свабодзе, дазвольце мне азнаёміць вас з новымі палажэньнямі савецкай улады.

Пастанаўленні, якія агучваў Калман, адносіліся да новага адміністратыўна-тэрытарыяльнага падзелу: заместа Навагрудскага і Віленскага ваяводстваў меркавалася ўтварыць новыя вобласці: Баранавіцкую, Беластоцкую, Брэсцкую, Вілейскую і Пінскую, а таксама – 101 новых раёнаў.

Што да Ашмянскага павету, дык планаваўся падзел павету на некалькі новых раёнаў: Астравецкі, Ашмянскі і Смаргонскі, а частка тэрыторыі адыходзіла да Валожынскага, Воранаўскага і Іўеўскага раёнаў. Так вырашылі зліквідаваць павет, які меў амаль што пяцісотгадовую гісторыю, і людзі былі ўжо прывыклыя да свайго цэнтру. Дзялілі і былую Крэўскую гміну на некалькі новых сельсаветаў: Вайташоўскі, Вярэбушскі, Мялэйкаўскі, Ракавецкі, Рымцельскі, Чаркаскі.

Цяжка сказаць, навошта было такое драбленне, адно было зразумелым, што не эканамічныя мэты застаўляюць Саветаў пайсці на такі крок. Кожная мясцовая ці раённая адміністратыўная адзінка патрабавала адпаведнага штату. Некаторыя сяляне адкрыта казалі, што зрабілі так падзеля таго, каб кожнага прыехаўшага з усходніх рэгіёнаў начальніка (а прыязджалі, чамусьці, толькі начальнікі) можна было забяспечыць цёплым месцам у тым савеце: сельскім, раённым ці абласным. А яшчэ былі розныя камы: парткамы, райкамы, прафкамы – і на кожны свой «кам», альбо, як гаварылі «па рускі» – «ком», патрэбны быў свой начальнік. Быў той начальнік,

збольшага, як ком у горле. Колькі іх тут зляцелася ў апошні час, як груганне якога, цяжка было сказаць. Справа была ў тым, што выбары ў мясцовыя, раённыя, гарадскія і абласныя дэпутаты не сталі праводзіць у гэты час, спаслаўшыся на тое, што камуністы-усходнікі не дастаткова яшчэ кантралююць сітуацыю на месце. Выбары намячаліся на травень, а зараз вырашана было забяспечыць мясцовыя органы ўлады прызначэнцамі – праверанымі і надзейнымі кадрамі з усходу. Праўда, пра гэта ў друку асабліва не крычалі – інфармацыя калі і падавалася пра нейкага новага начальніка, дык так, што начальнік гэты аб'яўляўся тут толькі па шматлікіх просьбах «трудзяшчыхся».

Перадача ўлады ад часовых управаў органам саветаў адбылася недзе напрыканцы студзеня – пачатку лютага 1940 г. Ад 15 студзеня афіцыйна стаў працаваць Смаргонскі раённы выканаўчы камітэт. Былі створаны адпаведныя раённыя адміністрацыйныя структуры. Ракавецкі сельсавет узначаліў «па просьбе трудзяшчыхся» нехта Кабяк Павел Аляксандравіч, прысланы «паводле рэкамендацыі» з вобласці. Камісар Кацалапаў узначаліў «па просьбе» партыйную арганізацыю Ракавецкага сельскага савета, куды, апрача яго і Кабяка, уваходзілі два чырвонаармейцы, участковы міліцыянер і маладая, прыехаўшая знекуль, сакратарка сельсавета. Сцяпан Андраловіч, як былы «кэпэзэбовец», быў толькі кандыдатам у члены КПБ (б).

Пасля Новага, 1940 года, сяляне Дойневічаў, Ракавічаў і навакольных вёскаў афіцыйна апынуліся ў Вілейскай вобласці, Смаргонскім раёне, Ракавецкім сельсавеце. Цяпер, калі што якое, людзі ехалі да новага, у тым ліку і абранага, начальства ў Смаргоні, альбо ў Вілейку.

Ездзіў да новага начальства ў раён і Антось. Трэба было ўдакладніць памеры падаткаў у дачыненні да шматдзетных сем'яў. Нешта Сцяпан альбо памыліўся, альбо свядома выпісаў яму такі падатак на зерне, які ўчыстую апустошваў яго аруд, а трэба было яшчэ перазімаваць і нешта пакінуць на сяўбу. Слухаць пра гэта Сцяпан не хацеў.

Без асаблівых цяжкасцей ён знайшоў былую польскую гімназію, дзе зараз размясціўся «дом правіцельства» і прайшоўся доўгім калідорам, разглядаючы вывескі на дзвярах і шукаючы патрэбную, як яму сказалі, «інстанцыю». Якія толькі прозвішчы і пасады не сустракаліся на гэтых таблічках: Саламон Абрамавіч Дордзік – першы сакратар раённага камітэту КП(б)Б партыі, Парфіновіч Аляксей Рыгоравіч

– другі сакратар, Сапожнікаў Якаў Давыдавіч – трэці. Загадчык аргінструктарскага аддзела – палітрук Агафон Дамінікавіч Абуховіч, інструктары Леў Саламонавіч Левін, Міхаіл Меeравіч Ліпмановіч, нехта А. М. Інтэ, Эсмантовіч – старшыня народнага суда, Брудно, Карпель – засядацелі, Лур'е – галоўны пракурор раёна, Якаўлеў, Айзенштад... І прозвішчы на дзвярах былі не тутэйшыя, і людзі, відаць, былі аднекуль прыезджыя, балазе панараблялі кабінетаў. У кабінеце сядзець – гэта табе не гной на полі трэсці... І во, адно знаёмае – Рабіновіч Б. І, загадчык райместпром аддзелам... Райместпром – і трэба такое ж павыдумляць....

Антось знайшоў патрэбны яму кабінет у канцы калідору, праўда, да кабінету ён так і не дайшоў – перад ім стаяў натоўп людзей, чалавек з трыццаць, не меней, і гэты натоўп чамусьці не радзеў і не набліжаўся да дзвярэй.

А ў кабінет усё шлі і шлі людзі без чаргі, прыкрываючыся нейкімі паперкамі і адгаворкамі, кшталту, я ад Івана Кузьміча, альбо я ад Кузьмы Іванавіча, альбо яшчэ ад нейкага «...авіча». Хацеў Антось сказаць, што ён і ёсць той самы Кузьміч, але яго нехта апярэдзіў. Пасля гэтага яшчэ прайшло да начальніка некалькі Кузьмічоў. Той, хто заходзіў у кабінет з чаргі, выходзіў расчараваным – маўляў, начальнік сказаў, як было вырашана на мясцовым узроўні, так і застанецца, бо мясцоваму начальству лепей відаць, чым яму, раённаму, з свайго кабінету. Урэшце Антось, прастаяўшы паўдня, глянуў на сонца і паехаў да хаты.

Аднаго Антось не мог зразумець, як народ мог «прасіць» сабе такое начальства, да якога не даступіцца, а калі і даступішся, дык яно ж нічога не вырашае. З другога ж боку, які народ «прасіў» гэтых дордзікаў, сапожнікавых, агафонавых, саламонаў розных быць над імі начальнікамі, калі пра іх ніхто нідзе ніколі не чуў?.. Уся гэта сістэма начальнікаў вельмі і вельмі нагадвала расейскую царскую сістэму, калі кожны, нават дробны начальнік, павінен быць аднекуль з Расеі. Калі і хто выбіраў для сябе сам з Расеі начальства? Такога яшчэ гісторыя не ведала.

## 14. Савецкі рай

У сувязі з паходам Чырвонай Арміі, для ўсіх людзей настала шчаслівае жыццё: для дзяцей – шчаслівае дзяцінства, для моладзі – шчаслівае юнацтва, для пажылых – шчаслівая старасць. Эпітэт «шчаслівае» так і лез у вочы з старонак савецкіх газетаў. Адным словам, складвалася ўражанне нейкага раю,

ды і толькі. А калі што не так, тут жа гучалі парады наконт таго, што табе трэба пад'ехаць у рай… у райкам, у райсавет, у райсабес, у райаддзел, у райсуд, у райбальніцу…

Быў Антось у тым раі… Ды і не толькі Антось, кожны, хто там быў, ведае, што лепей не ведаць такога раю.

Аднаго разу, пад вечар, вырашыў Антось схадзіць на бадзякі да Янука Дайновіча, балазе працы такой па гаспадарцы не было. Застаў ён Янука ў хаце за чытаннем газеты.

– Адзін? – спытаўся Антось.

– Маці на печы, – адгукнуўся Янук.

– Што пішуць? – пацікавіўся Антось.

– Што пішуць… Усё адно і тое, хочаш – зачытаю: «…Ленінска-сталінская нацыянальная палітыка прынесла доўгачаканае вызваленьне беларускаму народу ад польска-буржуазнага рабства і нябачны ў іхняй гісторыі росквіт культуры, на ўз'яднаных тэрыторыях перажывае небывалы ўздым прамысловасьць, ідзе актыўнае масавае стварэньне калектыўных гаспадарак…» і ўсякая такая ерунда.

– Ого! Ты глядзі, што робіцца, – здзівіўся Антось.

– Альбо во: «… найбольш перадавыя сяляне – батракі і беднякі – прыступаюць да арганізацыі калгасаў…». Якія ж яны перадавыя сяляне, калі яны батракі?!

– Гм-м, сапраўды, нейкая лухта, – пагадзіўся Антось.

– Не веру я ў гэтую бальшавіцкую агітацыю! – абурыўся Янук і адкінуў газету ўбок.

– Але, з другога боку, сталі бы так проста пісаць, паперу толькі марнаваць? – засумняваўся Антось.

– Паперы ім ня шкода… Вось у нас, што ў нас змянілася з таго, што тут нагрэйзана?

– Дык гэта ў нас…А ў Савецкай Беларусі, кажуць, рай ды й толькі!

– А хто ведае, як там, у іх? – ажывіўся Янук. – У «Беларускай Крыніцы» пра гэты рай не пісалі. Ня сталі б яны ўцякаць сюды, каб там так добра было б… Дзясяткі тысяч, як вараньня якога, зьляцелася лінію партыі праводзіць…

– І правядуць… І лінію партыі правядуць і элекпстрыку. Ня трэба будзя з керасінам вэждацца… Дойдзе й да нас чарга на рай… Будзе, як у Саветаў… Бальніцы бясплатныя, школы таксама, кароў пасі – дзе хочаш, хадзі – дзе хочаш… Цяпер адзін загон…

– Загон цяпер адзін… Толькі рай у кожнага свой, – Янук на хвіліну задумаўся і прагаварыў:

– Пакуль сам ня ўбачу, як там, у іх – ня дам веры!

– Было б на што глядзець, – пагадзіўся Антось.

А праз колькі дзён апынуліся Антось з Януком у Мястэчку.

У Мястэчку поўным ходам ішло будаўніцтва сацыялізму. Вось калі ўжо гаварыць пра будаўніцтва, дык ажыўленне ў гэтым плане можна было ўбачыць у кожным мястэчку і ў сельсавеце – усё залежала ад таго, наколькі былі прыдатныя для разбурэння аб'екты. Разбіралі звычайна непатрэбныя (чаму непатрэбныя?) панскія забудовы: стайні, гумны, хлявы, свіраны. Для калгасу будавалі адзін вялікі кароўнік і канюшню. Будавалі звычайна з таго матэрыялу, які можна было выкарыстаць ад разбору. Так, у Мястэчку разбіралі касцёл – на яго месцы было вырашана пабудаваць кароўнік. Разбіралі ў мястэчку і замак Гедыміна XIV стагоддзя: адкалуплівалі ламамі камяні і падвозілі да будаўніцтва сельсавецкай лазні і пад фундаменты будучай бальніцы і камунарскай канторы. На гэтых работах працавала мясцовае насельніцтва – далі людзям магчымасць нейкага заробку. Праўда, за той заробак не было чаго купіць у крамах, але гэта было іншае пытанне. Вельмі часта на такіх будоўлях сталі абвяшчаць суботнікі прысвечаныя Леніну, ці Сталіну, ці кастрычніцкай рэвалюцыі...

На замку пад пільнай аховай людзей у форме працавала група зняволеных, прывезеная аднекуль з Савецкай Расеі. Чалавек пятнаццаць вязняў пад дуламі «трохлінеек» Мосіна[1] цягалі камяні з замку на будаўніцтва лазні. Побач з імі працавалі і мясцовыя. Вязням строга было забаронена кантактаваць з мясцовымі, але, нягледзячы на гэта, ізаляваць вязняў ад сумесных перакураў і моўных кантактаў органам не заўсёды ўдавалася. Цікавымі былі іх уяўленні пра жыццё пад панскай Польшчай. Вязні былі вельмі здзіўленыя тым, што не ўбачылі тут ані згаладалага беларускага селяніна, згорбленага і ўпрэжанага ў панскае ярмо, ані раздзіраючыя хаўтурныя крыкі на панскіх палетках такіх жа галодных і худых беларускіх жанчынаў. Наадварот, здзівілі іх каржакаватыя постаці і чырвонамордныя твары мужчынаў, статныя і дзябёлыя жанчыны, якія без песні, здавалася, і не працуюць. Усіх «заходнікаў» вязні называлі кулакамі і прыдуркамі. Кулакамі былі ўсе, таму што мелі каня, карову, некалькі гектараў зямлі – такіх у Расеі яшчэ ў дваццатых гадах раскулачылі і выслалі. Прыдуркамі называлі тых, хто з захапленнем глядзеў на савецкае начальства і савецкае будаўніцтва. У сваю чаргу палітычныя

[1] Вінтоўка Мосіна узору 1891-1930 гг. 28 красавіка 1930 года загадам РВС СССР мадэрнізаваная вінтоўка была прынята на ўзбраенне Рабоча-сялянскай Чырвонай Арміі (РККА)..

зэкі расказвалі, што рабілася і робіцца там у іх, пры савецкай уладзе. Толькі нашыя «кулакі» і «прыдуркі», не давалі веры тым расказам: ну хіба ж можна было паверыць у тое, што ў Савецкім Саюзе людзі пухлі і паміралі з голаду альбо паядалі людзей, каб выжыць?.. Альбо, хто ж паверыць у тое, што за пару жытнёвых каласкоў ці качан капусты, узятых з калгаснага поля, людзей засудзілі на дзесяць гадоў лагеру?.. Усё гэта байкі трацкістаў, розных «контрыкаў» і махровых ворагаў народу. І мясцовыя «прыдуркі» хадзілі да начальства і дакладвалі, што такі і такі зэк займаецца антысавецкай агітацыяй, – і таго «агітатара» ўжо назаўтра не было на працы.

Адзін з зняволеных падышоў да Антося і папрасіў, каб яму купілі махоркі (ім было забаронена хадзіць у краму). Антось адмовіўся ад працягнутых грошаў, але просьбу выканаў. Толькі пакуль ён хадзіў у краму, Янук недзе каля пяці хвілінаў паразмаўляў з вязнем, і за гэты час пачуў прыкладна тое, пра што ўжо гаварылі людзі: пра кулакоў і прыдуркаў, пра каласкі і голад.

Калі Антось падышоў з папяросамі, Янук задумліва ківаў галавой і на гэты раз казаў прыкладна тое, што і раней:

– Пакуль сам ня ўбачу – не паверу!

А яшчэ праз колькі дзён пасля гэтай гутаркі раптам знік Янук Дайновіч. Хадзілі, розныя дагадкі: можа, зноў пасадзілі, можа, на фронт пайшоў, можа, у лесе дзе хаваецца, бо яму ёсць ад каго хавацца... Шмат чаго гаварылі людзі, але ніхто нічога толкам сказаць не мог. Маці Янука прыходзіла да Антося, і пыталася, і прасіла, каб Антось (бо ён павінен ведаць) хоць якім намёкам даў ёй знак, дзе Янук. Але Антось нічога не мог сказаць, апрача таго, што ўсё будзе добра і Янук абавязкова вернецца, хоць, здаецца, стаў сам здагадвацца, дзе той можа быць.

Аб'явіўся Янук ажно праз тры месяцы. І неяк адвячоркам зайшоў ён да Антося на падворак. Антось у гэты час парадкаваў на ноч гаспадарку: заганяў у загарадкі скаціну, зачыняў хлеў, гумно, паветку. А пасля яны прыселі на дрывотніку – у хату Янук ісці адмовіўся, маўляў, там дзеці яшчэ не спяць, а яму не хацелася, каб нехта слухаў іх гаворку. А гаворка была цікавая – расказваў Янук пра свае прыгоды. Як толькі ён даведаўся, што зноў стаў хадзіць цягнік з Ліды на Маладзечна, закарцела яму наведаць сталіцу нашу – Менск, а заадно і родную цётку ў Лагойску. Так ён без асаблівых намаганняў сеў у Гародзьках на цягнік, даехаў да Маладзечна, а там зрабіў перасадку на Мінск, але даехаў толькі да Краснага. Па дарозе яму выпадковы паса-

жыр расказаў пра «оградительную зону», што ў Радашковічах цягнік бяруць у цесны ланцужок савецкія пamежнікі: правяраюць дакументы і робяць мытны кантроль – так, як гэта бывае пры перасячэнні дзяржаўнай мяжы. Янук чуў пра тое, што ў Савецкую Беларусь «заходнікаў» не пускаюць – для гэтага патрэбна спецыяльная даведка, якую даюць мясцовыя органы НКВД толькі «ўсходнікам». І Берка яму гаварыў пра гэта, але ён не даваў веры. «А якая можа быць мяжа ў адной краіне? – дзівіўся Янук. – Быць такога ня можа!». Зразумела, што ў яго з сабою патрэбных дакументаў не было. Выпадковы пасажыр аказаўся даволі гаваркім чалавекам. Між іншым, ён расказаў, як зусім нядаўна злавілі аднаго польскага шпіка. Шпік, здавалася, усё зрабіў правільна ў плане канспірацыі: ноччу пералез пад дротам так, што нідзе не дзынкнула, нейтральнае поле прайшоў задам наперад (каб заблытаць памежнікаў), сляды свае пасыпаў махоркай (каб сабакі не ўзялі след), а злавілі на тым баку ў першай жа вёсцы – нехта з мясцовых падказаў, бо, ведама, незнаёмец, а за такія падказкі добра плацяць. А яшчэ гаваркі пасажыр даў намёк, якім месцам лепш за ўсё знайсці дзюрку на той бок.

Дзякуючы гэтаму пасажыру, Антук ведаў, што яму трэба рабіць і зрабіў прыкладна так, як той польскі шпік. Праўда, не скарыстаўся ён намёкам пасажыра наконт дзюркі, – насцярожыла тое, што «за падказкі добра плацяць», – і месца для пралазіны выбраў сваё, чым далей ад станцыі. Антуку яшчэ добра дапамагла мяцеліца, а ў вёскі ён вырашыў не заходзіць увогуле.

Трэба было ісці ці не трэба, Янук тады мала думаў. Быў шанцунак паглядзець самому на савецкі рай і пераканацца ў тым, рай гэта ці не. Дык чаму б не скарыстаць гэты шанцунак.

Вось так ён і дабраўся ў Лагойск.

Цётка Аксіння жыла ў Лагойску з сваёй дачкой Галінай – стрыечнай сястрой Янука. Апынулася цётка ў Лагойску ў час бежанства ў гады Мікалаеўскай вайны. А пасля вайны пазнаёмілася з мясцовым Франуком – франтавіком, бравым салдатам рускай арміі, які быў паранены і камісаваны, а ў хуткім часе стаў яе мужам. Так цётка і засталася ў Лагойску. Невясёлую гісторыю расказалі жанчыны пра жыццё ў хвалёнай Савецкай Беларусі. Дзядзьку Франука, мужа цёткі, як два гады таму арыштавалі. Быў ён георгіеўскім кавалерам – героем апошняй імперыялістычнай вайны; абвінавацілі ў «контрреволюционной деятельности, подрыву советской идеологии и в чрезмерном прислужництве и угодничестве враждебному царскому правительству». А праз год, у мінулым годзе, забралі і зяця – мужа Галіны. Зяць быў механікам у калга-

се, з вясны да позней восені амаль што дзень і ноч прападаў у тым калгасе і МТС[1]. Некуды не лез, а ў палітыку тым болей, але знайшлі зачэпку: на вялікдзень не даў дазволу на выкарыстанне тэхнікі (гусянічнага трактару) для разбурэння мясцовай царквы. Царква тая ўжо некалькі гадоў стаяла зачыненай – поп недзе прапаў – і хай бы стаяла, дык не ж. Ваяўнічыя камсамольцы вырашылі знішчыць сляды «религиозного умопомрочения и мракобесия», але без трактара знішчыць сляды было вельмі цяжка: прыйшлося ламамі ламаць дзверы, біць вокны і разбураць сцены, а сляды ўсёроўна заставаліся. Сьлядак усё дапытваўся і патрабаваў, каб падпісаў нейкую паперку, паводле якой ён і яшчэ чалавек дваццаць з Лагойску і нават з Менску належалі да нейкай антысавецкай арганізацыі пад кіраўніцтвам Франука. Ад мужа патрабавалі прызнаць сябе вінаватым, але ён не здаваўся да апошняга: цягалі яго на допыты, катавалі там і калечылі, і ён, відаць, не вытрымаў на тых допытах і памёр. Калі быў у Менску, на Валадарцы, яны кожную нядзельку хадзілі, і цяпер ходзяць, але ўсякі раз чуюць у адказ адно і тое: «в спісках не значится», «отсутствует», «выбыл», «не мешайте работать»… Так жанчыны засталіся без сваіх мужыкоў, а Галіна да таго ж яшчэ з чатырма малымі дзяцьмі на руках: большаму – восьмы годзік пайшоў, а меншаму – паўтары. Прыходзілі некалькі разоў да іх нейкія людзі, гаварылі «па-маскоўску», падсоўвалі паперы, патрабавалі, каб цётка і Галіна падпісаліся пад імі, каб на мужыкоў сваіх нагаварылі напрасніцу, але тыя наадрэз адмовілася. Пасля смерці мужа цётка думала, што, можа, адчэпяцца – дзе там. Пагражаюць, што і яе і нават Галіну з дзяцьмі яны «паставілі в очередь на высяленне, як членаў сям'і ворагаў народу»…

А што да нашага калгаснага жыцця, – расказвала цётка, – дык жыцця, як такога, і няма. У калгасах аніхто працаваць не хоча. Працу, якую можна было б зрабіць за гадзіну, расцягваюць на цэлы дзень. Вёска співаецца – п'юць самагонку альбо крамнае віно. Ужо пасля палудня ў калгасе не ўбачыш цвярозага чалавека. Улады на гэта глядзяць скрозь пальцы – ці, можа, гэта такая палітыка? І ўсе ходзяць задаволенымі. Прымаўку склалі: «Выпі там, выпі тут, бо ў Сібіры не дадут», і п'юць, як быццам перад апошнім днём… У пачатку трыццатых была галадоўка. Але, дзякуй Богу, тады ў хаце былі два мужчыны, як гавораць, з горам, з бядою, з квасам, з лебядою перажылі неяк той голад. А зараз цяжка прыходзіцца, ледзь-ледзь сцягваюць жанчыны канцы з канцамі: Галіна на ферме прападае, а цётка каля хаты болей – дзяцей глядзіць, і маюць невялікую гаспадарку: восем

[1] МТС – машына-трактарная станцыя.

курэй, парасё і агародзік свой. Вось так і жывуць. А калі будзе вайна, тут усе перакананыя ў тым, што Саветы прайграюць вайну, аніхто не пойдзе ваяваць за Саветаў – давялі народ да жабрацтва, да галадоўкі, да такога страху, што людзі ценю свайго сталі баяцца. Працуеш у калгасе за «палачкі», а чалавеку есці трэба, а есці няма чаго, бо купіць у краме – пустэча, а каб і было, дык няма за што купіць, а сябе не пракорміш з сваёй гаспадаркі, бо ўся твая гаспадарка апынулася ў калгасе. Спрабавалі некаторыя местачкоўцы карову трымаць, ды нядоўга пацешыліся малачком. На зіму пошару не збярэш, як не абкошвай балоты, лясныя прагаліны і хмызнякі. І бойся, каб хаця ж ніхто не відзіў, а калі відзіў, каб хаця ж не падказаў, таму што ўся трава – калгасная. Цягалі тую траву з балота начамі посцілкамі, а днём ішлі і працавалі ў калгасе, бо калі не выйдзеш, дык можаш стаць шкоднікам калгаснага будаўніцтва і ворагам савецкай улады. Калі і перажыла вёска голад, дык, можа, толькі дзякуючы аднаасобнікам і хутарскім. Яны мелі сваю зямлю і яе самі апрацоўвалі, плацілі вялікі падатак дзяржаве, але нешта стараліся прыхаваць і для сябе і для сяльчан: што прадавалі ўпотайку, а што давалі ў пазыку, а што мянялі на нейкія рэчы, а што і так перападала, карацей, хутарская гаспадарка была адзінай крыніцай выжывання, дзе можна было набыць трохі зярна, проса ці бульбы. А зараз разгарэлася актыўная кампанія супраць хутароў – зямлю адбіраюць, а гаспадароў зганяюць у вёскі. Даходзіць нават да таго, што разбураюць альбо падпальваюць хаты на хутарах, людзі ў зямлянках жывуць, бо будаваць ім новыя хаты ў вёсцы калгасы не абавязаны, добра, калі яшчэ лесу выдзяляць таннейшага на новую пабудову, але не кожная сям'я мае магчымасці такога будаўніцтва. Шмат хто, маладзейшыя, ходзяць на той бок мяжы – там што сваякі дадуць, што прыкупяць, так і выжываюць, праўда рызыка вялікая, калі зловяць... А яшчэ вялікае абурэнне выклікалі паборы ў войска: у верасні забралі амаль што ўсіх працаздольных мужчынаў, і аніводзін не трапіў на службу ў Беларусі – усе апынуліся на Фінскай вайне альбо на Далёкім Усходзе...

Такая гісторыя, пра жыццё ў Савецкай Беларусі, выглядала вельмі невясёлай.

– Дык, можа, так толькі на Лагойшчыне? – засумняваўся Антось. – Можа, дзе ёсьць так, як газэты пішуць?

– Хутчэй за ўсё ёсьць толькі горш, – запярэчыў Янук. – Ты помніш, недзе ў пачатку трыццатых да Дабрынскіх нейкі фамільярд прыязджаў, аднекуль з Магілёўшчыны, сваякоў шукаў... Помніш?

– Ну, чаму ж не?

– А помніш, што ён казаў пра галадамор у Саветах – цэлыя вёскі ад голаду выміраюць, а ён хацеў бы сям'ю неяк ўратаваць!

– Помню, тады ж Сьцяпан ўсім даводзіў, што ён правакатар, што гэта ўсё спецыяльна гаворыць, за грошы...

– А чалавек зь сям'ёй нелегальна перайшоў мяжу, так проста, ні з таго ні зь сяго, не пайшоў бы ён на такую рызыку, – даводзіў Янук. – А цяпер уяві - раптам адкрылі мяжу для ўсіх, і што?..

– І што? – не зусім разумеў Антось.

– А тое, што ўся гэтая галодная арава з савецкага раю папрэ сюды, і ўшчэнт усё апустошыць: і крамы, і амбары, і агароды...

– Дык выходзіць што?.. Мяжа будзе да таго часу, пакуль у нас будзе трохі лепш?

– Датуль, пакуль не пазьнікаюць польскія тавары ў крамах... Але чакаць, мусіць, засталося нядоўга...

Яшчэ доўга яны сядзелі і гаварылі. Антук расказваў, як не па-шэнціла яму пры вяртанні назад. Таксама ўсё рабіў правільна: і нейтральную паласу прайшоў з махоркай, і шчыліну знайшоў у дроце, і пралез, каб не дзынкнула, а пасля, быццам бы тут яго і чакалі. Вэрхал падняў нейкі заблукалы, шалёны, альбо спецыяльна вывучаны сабака. Антук, як мог адбіваўся ад яго, пакуль не падляцелі людзі з дапамогаю: закрычалі, адагналі сабаку, стукнулі па галаве, і ўсё... А пасля завялі куды трэба, білі добра, – усё дапытваліся: «Признавайся, сволачь, какая твоя истинная цель незаконного пересечения государственной границы?». Яны думалі, што ён хацеў перайсці на той бок. А довады Антука наконт таго, што ён заблудзіўся, што ён не ведаў пра мяжу, што прайшло каля чатырох месяцаў, як нас уз'ядналі, і мы жывём у адной краіне БССР, для памежнікаў былі пустым лямантам. Суткі пратрымалі ў нейкім склепе, а пасля перавялі ў Мінск. Прыпісалі яму незаконнае перасячэнне мяжы з мэтай дыверсійна-тэрарыстычнай акцыі (спроба забойства Цанавы), шпіёнства на карысць буржуазнай Польшчы, плюс – адсутнасць дакументаў, – справа даходзіла да расстрэлу. Мала яго ратавала польская даведка пра вызваленне з Лукішак – «энкэвэдэшнік» і гэтую даведку імкнуўся «прышыць» да справы, маўляў, ведае ён гэтыя шпіёнскія штучкі палякаў, – самі вярбуюць і даюць такія даведкі для прыкрыцця... мы праверым. А неяк аднойчы ўсіх «перабежчыкаў» і іншых «ворагаў народу» (каля двухсот чалавек) сталі загружаць у машыны. Куды іх везлі – ніхто не ведаў. Меркаваць пра канцовы прыпынак можна было толькі па тым, што адну калону суправаджалі ажно дзве машыны

ўзброеных людзей (казалі, што гэта расстрэльная каманда), а другую – толькі канваіры. Антук быў у другой калоне. Іх прывезлі на нейкую глухую станцыю і загналі ў «цялятнікі». Куды, як і што да чаго – усё было ў вялікім сакрэце. Ноч прасядзелі ў «цялятніку», а назаўтра зайшлі людзі ў форме НКВД і зачыталі прысуды: каму далі восем, каму – дзесяць, каму – пятнаццаць, каму дваццаць, каму дваццаць пяць. Антук атрымаў «чырвонец». Адно яго цешыла, што савецкія грамацеі пераклалі яго прозвішча з польскай даведкі не як Дайновіч, а як Дойневіч. Вось хай і шукаюць яны цяпер таго Дойневіча, а ён, Дайновіч, тут не пры чым. У вагоне Антук быў адным з ініцыятараў уцёкаў, балазе досвед у яго ў гэтай справе быў вялікі. Амаль да самай Воршы шчапалі дошку ў падлозе вагона. А пасля, дзе на прыпынках, дзе пры павольным руху цягніка лягалі на шпалы. Праўда, жадаючых было няшмат.

Паўторнае «перасячэнне» мяжы для Антука было больш паспяховым.

## *15. Ачмурэньне (з нататніка заходніка)*

*30 кастрычніка Народны сход прыняў дэкларацыю пра канфіскацыю зямлі і маёмасьці з усімі пабудовамі, інвентаром і жыўнасьцю польскіх асаднікаў, буйных памешчыкаў і манастыроў. Масавае тыповае рабаваньне, якое назіралася на «вызваленых» землях узаконілі, яно набыло прававы статус у якасьці барацьбы з «ворагамі народу». А што будуць рабіць з «вызваленымі» ад усёй маёмасьці і сродкаў на існаваньне людзьмі, цяжка сказаць, але здагадацца можна - хутчэй за ўсё распачнецца чарговая масавая дэпартацыя людзей на малаабжытыя землі Сібіры і Далёкага Усходу.*

*5 сьнежня быў праведзены новы адміністрацыйны падзел на вобласьці, раёны і сельсаветы: былі створаны мясцовыя, раённыя, і абласныя выканкамы. Новыя пасады займалі, у асноўным, прыезджыя. Перадача ўлады ад часовых камітэтаў і камплектацыя штатаў адбывалася на працягу сьнежня і студзеня наступнага года.*

*У савецкіх газэтах шмат пісалі пра будаўніцтва сацыялізму і імклівы рост дабрабыту насельніцтва ў Заходняй Савецкай Беларусі. Створаныя на мясцох саветы вельмі часта зьбіралі людзей на розныя сходкі, і старшыні займаліся звычайнай агітацыяй, прапагандуючы савецкі ўклад жыцьця, калектывізацыю і ідэялёгію.*

*Людзей чамусьці напачатку мала радавалі савецкія перамены. Зь нейкай падазронасьцю яны ўспрымалі савецкую*

*статыстыку пра той дабрабыт, навабудоўлі, фабрыкі і заводы. Многія сяляне абыякава рэагавалі нават на тое, што тэрыторыя Беларусі павялічылася ў два разы, і беларусаў стала ўдвая больш – ажно 10 мільёнаў. Здавалася, якраз наадварот: беларусаў станавілася ўсё меней і меней. Начальства, відавочна, ня проста ігнаравала тутэйшую гаворку – беларускую мову, а старалася падкрэсьліць недарэчнасьць такой мовы; выганялі з сваіх кабінетаў тых сялянаў, якія свае праблемы выкладалі на сваёй мове, маўляў, ідзіце і навучыцеся спачатку гаварыць правільна, тады і прыходзьце. І людзі вучыліся – у іх не было іншага выхаду. А зь цягам часу людзей агарнуў нейкі дзіўны энтузіязм паслухмянасьці – усё часьцей і часьцей можна было заўважыць, як той ці іншы селянін, зьняўшы шапку перад начальствам, ківаў галавой у знак згоды; а пасьля гутаркі яшчэ доўга не асьмельваўся надзець шапку на галаву. Такая паслухмянасьць прытупляла ў людзей чалавечнасьць і адвечныя патрэбы. Усіх захапіла нейкая млявасьць і абыякавасьць да жыцьця: ім рабілася ўсё роўна, альбо, нават добра. Людзі перасталі думаць і гаварыць пра нешта высокае і ўзьнёслае; пры сустрэчах абумоўліваліся двума-трыма сказамі пра надвор'е, неўрадлівую бульбу і пра заўтрашні дождж. Быў адзін час, калі найбольш папулярнымі пытаньнямі пры сустрэчах былі: «А што сам сёньня сьнедаў?.. А што вы рыхтавалі на палудзень?.. А што будзе на стале на вячэру?..». І гэта людзей хвалявала значна болей, чым уся сусьветная сацыялістычная рэвалюцыя з сваімі камінтэрнамі і капіталізмамі. Але й тут не было шчырасьці ў адказах, бо, зь цягам часу, той, хто смачна і добра еў, мог быць западозраны ва ўкрыцьці лішкаў дабра ад савецкай улады і ўзяты ў распрацоўку. І тым ня меней зь нейкім бяздумным захапленьнем глядзелі людзі на ўсё, што рабілася навокал, захапляла нават тое, што немагчыма было растлумачыць і зразумець, дзе цалкам адсутнічала логіка і здаровы сялянскі розум, як да прыкладу, кінуць усё: сям'ю, зямлю, гаспадарку і паехаць па крыклівому закліку партыі на якую-небудзь камсамольскую будоўлю, дзе вельмі весела, рамантычна і шчасьлівым савецкім людзям шмат даюць савецкіх грошаў. Быццам нейкае ачмурэньне найшло на людзей, быццам нехта, таямнічы і невядомы, напусьціў нейкага пылу людзям у вочы, і шмат хто зь іх пачынаў адчуваць сябе і сапраўды шчасьлівым.*

# 16. Упаўнаважаныя ад народу

Пасля гэтых усіх выбараў і адбораў, падзелаў і перадзелаў папаўзлі вёскай новыя чуткі пра тое, што сельсаветчыкі, актывісты-камунары і нейкія ўпаўнаважаныя з гораду вось-вось будуць праводзіць перапіс насельніцтва і маёмасці, будуць мераць зямлю і пісаць: у каго колькі кароў, цялят, свіней, курэй і г. д. А пасля за ўсё гэта трэба будзе плаціць непамерна вялікі падатак – кожны месяц за кожны пункт спісу, а хто не выплаціць, дык ад таго адбяруць гаспадарку, зямлю і аддадуць «малаімушчым» альбо забяруць у камуну, а гаспадароў такіх будуць высылаць у Сібір. Альбо, як выхад, прапаноўваўся камунарскі варыянт: са сваёй зямлёй, з каровай, з канём, з цялятамі, з курамі і свіннямі дружна, усёй сям'ёй уступаеш у калгас, і... не плаціш аніякага падатку, і не едзеш да белых мядзведзяў.

І тады ўжо некаторыя, хітрэйшыя, стараліся нейкім чынам збыць жывёлу, прадаць, зрабіць абмен на рэчы ці адзенне альбо рэзалі ці забівалі на мяса – хоць усё ж нейкая карысць была.

Але перш, чым з'явіліся сапраўдныя прадстаўнікі ўлады, некаторыя хаты наведалі «упаўнаважаныя ад народу», менавіта так яны сябе называлі. Ідэя «упаўнаважаных» належала вядомым жулікам і прайдзісветам Мечыку і Славіку. Тады, калі расцягвалі панскае дабро ў час захопу сядзібы пана Карчэўскага, іх не было (недзе пілі гарэлку), а з'явіліся яны трохі пазней, калі ў пакоях засталіся адны кнігі, абразы, ды карціны. Вось тады аматары мастацтва і ўзялі некалькі карцін (каб загнаць каму за пляшку) і некалькі кніг, сярод якіх адна была гаспадарчая кніга з прозвішчамі і нейкімі лічбамі аб выплатах, арэндах, падатках, а другая – вялікая і тоўстая кніга ў чырвоным пераплёце з выбітымі пазалочанымі літарамі на вокладцы. Праўда, літары тыя, якія складалі слова «Biblija», прыйшлося здзёрці, бо маглі скампраметаваць. Дык вось жа, з гэтымі кнігамі, з землямерам, альбо, як яго называлі ў ваколіцы – «казлом», і пайшлі хлопцы рабіць перапіс. Кнігі і «казёл» стваралі ўражанне і надавалі аўтарытэту перапісчыкам. Для самавітасці бралі з сабою Пуценьку і чырвонаармейца з «трохлінейкай». У далёкія хутары хадзіў з імі нават камісар Трэпелеў. Заходзілі ў падворак альбо ў хату, разгортвалі тоўстую чырвоную кнігу і, паводле «апошняй пастановы ЦК Саўнаркома БССР і дырэктівы № 1 лічна таварыша Сталіна...» і гаспадарчых папер, аргументавалі перапіс гаспадаркі. Падзеля гэтага ім трэба абмераць зямлю, зайсці

ў хлеў і перапісаць усю скацінку, бо за ўсё, а з кожнай галавы ўдвая, трэба будзе плаціць вялікі падатак маладой дзяржаве, бо ворагі не дрэмлюць і трэба дапамагчы галадаючым у Паволжы. Калі ж хто з гаспадароў сумняваўся ў сапраўднасці «упаўнаважаных» і гнаў іх вон, пры тым абражаючы рознымі нецэнзурнымі словамі, Пуценька пагрозліва крычаў у адказ:

– За аскарбленьне савецкай уласьці будзеце атвечаць перад народным судом!

А хлопцы тым часам з усёй сур'ёзнасцю даставалі з-за пазухі невялікае чырвонае палотнішча (Пуценька ахвяраваў стужку паркалю ад наўлечкі) і зацягвалі:

– Весь мір насілья мы разрушім до аснавання, а затем. Мы наш, мы новый мір построім, хто был нічем, тот станет всем!.

І сцяг, і песня – усё гэта рабіла цуда большае, чым мог зрабіць вядомы знахар і чараўнік з ваколіцы Чубік.

– Ат! – махаў рукой гаспадар. – Пішыце, пішыце... Ідзіце ў поле, у хлеў, у сад... Пішыце, каб вам па спіне так бізунамі пісалі!..

– Можна было б і не хадзіць у поле альбо ў хлеў... можна было б паразумецца... і на слова паверыць добрым людзям, – далікатна заўважаў нехта з «упаўнаважаных», і добрыя людзі пачыналі кумекаць.

– Яно дык гэтак. Чым ісьці ў поле такой макрэчай альбо лезьці ў хлеў гаўно таптаць, ці не лепш было б зайсьці ў хату напачатку! – прапаноўваў раптам кемлівы гаспадар іншым тонам.

– Яно, дык ведама, у хату зайсьці было б нядрэнна, пагрэцца... А гэта і пасьля ўсё можна будзе абгаварыць, – згаджаліся «упаўнаважаныя» і важна ішлі ў хату. А там гаспадыня накрывала стол з такім спрытам, што цяжка было ўгледзець, адкуль што бярэцца на стале. Гэтак жа неўпрыкметку з шырокай далоні гаспадара, як з шуфля, на стол выслізвала пляшка гарэлкі. Перш, чым выпіць, упаўнаважаныя казалі, што яны пры «службовых абавязацельствах», але хіба што трошкі, кропельку і не болей, каб толькі ўважыць гаспадароў, і што не пашкодзіць рабіць «гасударсьцвенную справу». Праўда, кропелька адмервалася двухсотграмовым медным кубачкам часоў мікалаеўскай вайны, але гэтага чамусьці ніхто не заўважаў. А там ужо, у працэсе далейшай выпіўкі (барышу), «упаўнаважаныя» абяцалі напісаць у сваіх паперах, што ў такога і такога гаспадара ўзяць няма чаго, каб дапамагчы галодным Паволжжа: жывёла звялася (што здохла, што ваўкі загрызлі, што людзі пакралі), а зямля неўрадлівая, а самі гаспадары нямоглыя, ледзь ногі цягаюць... Карацей – тут не

браць, тут даваць трэба самім гаспадарам, каб не памерлі з голаду, а яны, упаўнаважаныя, прапануюць савецкай уладзе разглядзець пытанне на чарговым пленуме, як дапамагчы бедным... і называлася прозвішча гаспадара.

Як гэта не дзіўна, але людзі хацелі верыць абяцанкам «упаўнаважаных» і спадзяваліся, што можа і сапраўды савецкая ўлада ім нешта дасць.

Можа і не верылі, але ўсёроўна частавалі і паілі хлопцаў добра, каб хаця ж пасля не было крыўды. Такім чынам хлопцы абыходзілі 3-4 гаспадаркі за дзень. З апошняй хаты звычайна выходзілі з песнямі, альбо іх выносілі моўчкі. І так некалькі дзён запар. У апошнія дні такой бурнай сваёй камунарскай дзейнасці хлопцы не прытрымліваліся ўжо аніякай дыпламатыі. Заходзілі на падворак і адразу ставілі пытанне рубам:

– Ну, што, будзеш барыш ставіць, ці забяром карову з канём, зямлю абрэжам, штрафу выпішам, морду наб'ём, у турму пасадзім, у Сібір зашлём, падпалім, застрэлім, павесім?!.

І людзі частавалі ўпаўнаважанных да выносу цела, бо, вядома, народ наш вельмі гасцінны і вынослівы.

Былі ў іх планы абысці не толькі ўсе хутары, але зайсці і ў суседнія вёскі, у Ермакі і Мікулеўшчыну, але тут зацікавіліся імі ў Мястэчку, у былой воласці, дзе быў нядаўна створаны камітэт народнай міліцыі. Пра гэта паспеў папярэдзіць хлопцаў Трэпелеў, і сам ён адмовіўся ад такіх паходаў у суседнія вёскі.

А ў хуткім часе сталі хадзіць па хатах сапраўдныя, афіцыйныя ўпаўнаважаныя, якія, дарэчы, нічым не адрозніваліся ад сваіх незаконных папярэднікаў: гэтак жа заходзілі ў хату, гэтак жа гаварылі, гэтак жа выходзілі...

Былі сярод афіцыйных упаўнаважаных і Пуценька з Трэпелевым.

Неўзабаве прыйшлося пазнаёміцца з упаўнаважанымі і Антосю.

Неяк ужо пасля Грамніцаў, у першай палове дня, забіў Жулік (так звалі сабаку) ў ланцуг, ды так, што, здавалася, калі б сарваўся – разарваў бы кожнага, хто толькі асмеліўся ступіць на падворак. Дарэчы, Жулік належаў да тых сабакаў, якія не любяць брахаць на людзей, а тут – на табе, аж заходзіцца. Праўда, дзіўны быў гэты сабака, калі-некалі ён брахаў, але брахаў толькі на людзей у форме: паліцэйскіх і вайскоўцаў. Антось зірнуў у вакно: так, на падворку стаяла новая ўлада, ажно некалькі чалавек: Сцяпан, Казакевіч і двое невядомых у форме. Адзін незнаёмы быў у скураной куртцы, партупеі, з

планшэтам і кабурой для рэвальвера – камісар, ды і толькі; другі быў у салдацкім шынялі і фуражцы, і таксама з планшэтам – у іх бок рваў ланцуг Жулік. У гэтай кампаніі быў яшчэ і Пуценька.

У хаце тады былі толькі меншыя дзеці, гулялі на падлозе, і Ганька сядзела за калаўротам. Антось накінуў бурку на плечы і выйшаў на ганак.

– Паводле апошняй пастановы ЦК Саўнаркома БССР… – распачаў было гаварыць камісар.

– Можа, у хату зойдзем? – перабіў яго чамусьці Пуценька.

– Можна і ў хату, – пагадзіўся камісар.

– Як хочаце, – абыякава прагаварыў Антось, але яго ніхто не слухаў.

Зайшлі ў хату і прыселі каля стала. Той, што быў у шынялі, сеў у цэнтры.

– Ну што, будзеш наліваць, ці забяром карову, каня, – пачаў было Пуценька, але Сцяпан яго безцырымона перабіў:

– Дарэчы, Антось, пазнаёмся, можа ты й ня ведаеш, гэта – камісар Трэпелеў, упаўнаважаны з вобласьці і наш начальнік, – знаёміў Сцяпан. – А гэты – з раёну, таксама ўпаўнаважаны. Астатніх упаўнаважаных ты ведаеш.

– Мне ўсёроўна!.. Ганька, ты, можа, што-колечы да стала прыбяры, – прапанаваў Антось жонцы.

– Ня трэба! Мы не з галоднай хаты! – спыніў яго Сцяпан. – Мы толькі што ад Амэрыканца, Яна Сакалоўскага… А сёньня нам трэба прайсьці ўвесь ваш куст, хат дваццаць зьбярэцца… Вечарам… Можа…

– Калі што, дык ты нам будзеш павінен! – не то жартам, не то ўсур'ёз заўважыў Казакевіч. – А зараз зоймемся пытаньнямі…

– Ну, калі так, дык у мяне ёсьць шмат пытаньняў, – і Антось звярнуўся да камісара:

– Таварыш начальнік, я хацеў бы спытацца…

– Зьдесь пытаньні будзем задаваць мы! – як адрэзаў камісар.

– Усе пытаньні пасьля, як усё перапішам, і калі будзе час, – удакладніў Сцяпан.

Той, што ў шынялі, дастаў з планшэты паперы:

– Ну, так шо, будім шкработь попіру? – загаварыў ён з нейкім украінска-расейскім акцэнтам.

І пачалося апытваньне, якое больш нагадвала допыт: прозвішча, імя, імя бацькі, жонкі, дзяцей, сваякоў, сваякоў у Польшчы, у Амерыцы, у Нямеччыне, Фінляндыі і Японіі… А

пасля пайшоў пералік усяго таго, што можа быць у добрага гаспадара ў хаце, у хляве, у куратніку, паветцы, каморы, адрыне, склепе, у садзе, на агародзе, на полі і г.д.

Пытанні часцей задаваў камісар Трэпелеў, а Сцяпан і Казакевіч толькі перапытвалі тады, калі трэба было нешта ўдакладніць. На большасць пытанняў, якія задавалі Антосю, спяшаўся адказаць сусед Пуценька, пры тым стараўся зрабіць падрабязны каментар:

– Так, яго жонка, запісвайце, таварышы, Ганна Аляксандраўна з Качаноўскіх, адзначце ў дужках, што зь сям'і кулака: у яе бацькі сорак дзесяцін. Запісалі? Сорак дзесяцін зямлі, арфа і свая малатарня... Так, далей, што далей? Дзеці – усіх дванаццаць было... Гэта ж колькі трэба было мець дабра, каб накарміць такую араву? Задумайцеся, таварышы!.. – шматзначна намякаў Пуценька.

– Я й сам ведаю, колькі ў мяне дзяцей! – незадаволена перабіў Антось Пуценьку. – А на дабро маё ты рот не разявай!

– Без цябе разьбяромся! – адрэзаў Пуценька.

– Нешта апошнімі часамі ты зрабіўся надта гаваркім, суседзе... Не к дабру гэта... Што трэба – я сам скажу! – Антось павярнуўся да камісара. – Пытайцеся!..

– Ён нагаворыць, таварыш камісар... Я ведаю! – іранізаваў Пуценька.

– Тваё дзела – гаў, ды ў будку! –абурыўся Антось.

– Пусть говоріт! – заўважыў камісар. – Ітак, деті?..

Дзяцей пералічвала Ганька, бо Антось мог заблытацца ў датах і гадах іх народзін, але, калі ўзнікла пытанне наконт нацыянальнасці, зноў голас браў Пуценька:

– Паляк ён, я ведаю, да касьцёла ходзіць... І дзеці, і жонка такія веруючыя, і Бронька, родны брат яго – усе палякі, я бачыў!

– Усё ты ведаеш, усё ты бачыш! – Антось нядобра глянуў на Пуценьку.

– А пры палякях ты як запісваўся? – спытаўся Сцяпан, хоць добра ведаў, да якой народнасці ён быў запісаны.

Было гэта нядаўна: мо і дзесяці гадоў не прайшло. За гэтым жа сталом польскі ўраднік строга пытаўся:

– Назвіско?.. Народовосьць?..

Антось тады адказаў, што тутэйшы, бо найболей нейтральнае было вызначэнне. Так некалі, за царом, адказваў і Антосеў бацька і тлумачыў Антосю, што, калі скажаш, што ты паляк, дык не патрапіш расейскаму чыноўніку і папу; калі скажаш, што рускі – не патрапіш ксяндзу, пану і шляхце; калі

скажаш, што беларус – дык анікому не патрапіш: ані расейскаму чыноўніку і папу, ані ксяндзу, пану і шляхце...

– Кеды пан ходзіць, до косьцёла чы до цэркви? – удакладняў ураднік.

– У касьцёл…

– То ж пан польскай вяры і естэм поляк! – адзначыў ураднік.

– Які ж я поляк? – засумняваўся Антось. – У нас пан Дабрыньскі і то не поляк, дык гэта ж – пан, а я, які ж я пан?!. Вось, каб я меў столькі зямлі і дабра, як маюць у нас палякі-асаднікі, тады, можа, я і быў бы палякам, а так – беларусіны мы, бедны народ.

Антось да гэтага дня не ведаў бы, што тады запісаў той пісарчук, калі б не Бронька, родны брат. Бронька, перш, чым запісаць народнасць, спытаўся наконт Антося. І, калі ўраднік сказаў, што Антось «естэм осел – беларусін», тады Бронька задумаўся. А Франя, яго жонка, сказала, каб запісвалі тутэйшымі, альбо «як хочаце». Як хацелі, так і запісалі. І толькі Марыля, родная сястра, запісалася тутэйшай.

Тады, дарэчы, Сцяпан усхваляў такі ўчынак Антося…

А як лепш зараз запісацца?.. Можа, прыйдзецца, як гаворыць цесць Качанюк, уцякаць у Польшчу, а тут – беларусін... Хто такі... асадзі назад, як той казаў… А яшчэ ходзяць нейкія чуткі пра тое, што ўсіх палякаў будуць вывозіць у дзікую тайгу і казахстанскія стэпы...

– Дык вось жа – дакуманты, там запісана, хто я! – Антось дастаў з-за абраза на куце закручаныя ў хустачку нейкія паперы і падаў пісару.

– Так і запішам, – сказаў той, глянуўшы ў паперы, і пяро зноў зарыпела.

– Далій підэмо в хлів, пойдёт жівносць, – абвясціў пісар.

– Конь, карова, бычок-перазімак і цялё... павінна быць, – пералічваў Пуценька.

– Няма ані бычка, ані цяляці, – удакладніў Антось. – Бычка я прадаў, а цялё здохла...

– Як гэта – здохла? – не зразумеў Пуценька.

– А вось так: заходжу ў хлеў, а яно ляжыць і ня дыхае... Я да дохтара, а ён і кажа: спачуваю, памярло ваша цялятка, – растлумачыў Антось.

На самай справе, зарэзаў Антось бычка тыдні два якія таму назад, бо хто ж прадае вясной скацінку, хаця ніхто і ня

рэжа на лета, але ж сітуацыя была безвыходная. Затое дзеці, хоць раз у жыцці, мяса паелі ўволю. Калі яшчэ такое будзе?.. А цялё ён прыхаваў у гумне: зрабіў загарадку і абклаў з усіх бакоў сенам, калі не замычыць, як прыйдуць глядзець, дык так, можа, і застанецца – малое яшчэ цялё, каб рэзаць, а можа ўдасца пратрымаць хоць да лета, а там як Бог дасць...

– Дзьве сьвіньні, парасят малых, можа, з дзясятак, – працягваў Пуценька.

– Адна сьвіньня, – удакладніў Антось.

– А тыя дзе? – усхапіўся Пуценька.

– Здохлі!

– Як гэта – здохлі? – на гэты раз перапытаў Казакевіч.

– Так, як і цялё.... Заходжу ў хлеў, а яны ляжаць у гулце і ня дыхаюць...

– Дзе ляжаць? – перапытаў камісар.

– У гулце, гэта па-літоўску – ложак, месца такое для адпачынку, – растлумачыў Антось.

– Дальше! – загадаў камісар Трэпелеў.

– Дзве авечкі, баран...

– Адна авечка і ягнятка, – перапыніў Пуценьку Антось.

– А дзе ж тыя падзяваліся? Здохлі?! – паддзеў з'едліва Пуценька.

– Здохлі, – спакойна адказаў Антось.

На самай справе, зарэзаў Антось авечку і барана.

– З гэтым таварышам трэба будзе разабрацца, – падняў галаву ад папер пісар. – Што там яшчэ?

– Разьбяромся! – заверыў Пуценька. – Дваццаць пяць курэй...

– Дзесяць толькі, і два пеўні, – удакладніў Антось.

– А астатнія? Здохлі? – зноў паддзеў Пуценька.

– Чаму здохлі? Не!..

– А дзе?

– Шашок задзёр! Убіўся ў куратнік і палову – амаль што сама лепшых нясушак... толькі пярына за хлевам... калі не верыце, пайшлі, пакажу...

У гаспадарцы было сямнаццаць курэй і два пеўні, але, калі яны ня вераць, – думаў Антось, – хай ідуць у куратнік і лічаць тых курэй.

– А другіе віды птіцы? – спытаўся Трэпелеў.

– У садзе – вераб'і, вароны, вясной шпакі прылятаюць і другія віды, але колькі іх, я не падлічваў... Пуценька павінен ведаць...

– Я не про это: гусь, качка, індык...

– Здохлі! – тут ужо па інэрцыі прагаварыў Антось, бо гэтых птушак у гаспадарцы не трымалі. Але якая розніца, ці яны здохлі, ці іх ніколі не было, галоўнае, што іх няма.

– Шо ета в тэбе всі піздыхало? – зацікавіўся нават пісар з украінскім акцэнтам.

– А лепей хай піздохне, чым Пуценьку аддаваць! – заявіў Антось.

– Ты ў мяне сам скора да...да... п-п-п…

– Ну, хопіць ужо! – перабіў іх Сцяпан.

– Патрэбна мне тваё дабро! Я й ў Амэрыканца магу ўзяць... А вось таварышам з гораду, – Пуценька кіўнуў на таварышаў.

– Эта к дзелу не адносіцца, ібо к дзелу не прышыеш! – перабіў камісар і кіўнуў пісару. – Дальше!

– Далій пійдут збудові, – абвясціў пісар.

– Так, запісвайце: хата новая, вялікая, на 14 чалавек, з падлогай, кухня, камора, сені, ганак... Запісалі? – стараўся Пуценька. – Далей: хлеў на дзьве палавіны, з шасьцю загарадкамі, з куратнікам, адрына пад сена, паветка пад дровы, склеп, студня... здаецца... усё...

– Пра ўборную ты чамусьці забыўся сказаць, – нагадаў Антось.

– Гэта к дзелу не прышыеш! – паўтарыў Пуценька і гэтак жа, як камісар, кіўнуў пісару. – Дальше!

Далей пайшла зямля. Вось тут Пуценька зноў праявіў сябе як выдатны знаток зямельнай справы. Ён ведаў, колькі ў Антося зямлі і ведаў, дзе суглінак, а дзе адзін пясочак, а дзе – кол загані, булкі вырастуць. А яшчэ ён добра ведаў, дзе і што ляжыць у хаце, і дзе і што стаіць у хляве, ведаў і колькі пудоў зярна засталося ў арудзе, і колькі можа быць бульбы ў склепе. Не забыўся ён сказаць і пра сабаку, які брэша толькі на савецкую ўладу і на яго, Пуценьку; сказаў і пра ката, які слаба ловіць мышэй. Пасля Пуценька пералічыў інвентар: плуг, барана, колы, жорны, сячкарня, рыдлёўка, вілы, граблі, гачкі, косы, сякеры і гэтак далей.

Антось толькі дзівіўся такой асвядомленасці Пуценькі. Прынамсі, тут трохі і сам быў вінаваты Антось – колькі разоў Пуценька прыходзіў пазычыць ці плужок, ці барану, ці нават сякеру. Антось тады заводзіў яго ў паветку, дзе знаходзіўся ўвесь гэты інвентар і прапаноўваў Пуценьку лепшае, што ў яго было. І хто б мог падумаць, што ў гэтага боўдзілы была такая назіральнасць і моцная памяць. Тыя моманты, якія Антось аспрэчваў, пісар адзначаў пытальнікам супраць запісу. Відаць, што яшчэ будуць разбірацца.

Калі ж усё было перапісана і ўлада збіралася адыходзіць, Антось раптам заявіў, што для рэестрыку не хапае яшчэ адной скацінкі.

– Так, так, – прысеў да стала пісар. – Якій?

– Пуценькі, што па суседству, – спакойна прагаварыў Антось.

– Шо за Путінькі, ешчё одін пёсік? – перапытаўся пісар. Адкуль жа было ведаць пісару, як тут, у вёсцы, каго абзываюць.

Камісар Трэпелеў насцярожыўся, а Пуценька зрабіў выгляд, што яго гэта не датычыць.

– Ага, ага, пёсік, маленькі такі сабачка, які заўсёды шчанюк – брэша шмат! – вельмі сур'ёзна падтрымаў пісара Антось.

– Таварышы, ня варта зьвяртаць увагу на гэта, – прамовіў Сцяпан, давячыся смехам, і больш сур'ёзна звярнуўся да Антося: – А ты, калі што ўтаіў, дык будзеш пасьля мецьма клопаты з новай уладай, так што глядзі...

– Гляджу, гляджу, – запэўніў Антось і запытаўся:

– Дык як наконт цюціка – паскудны надта, можа прыстрэліць?

Але на гэтае пытанне Антосю ніхто не адказаў, толькі камісар Трэпелеў заместа развітальных прамоваў сурёзна папярэдзіў:

– Знаю я Пуценьку, и только не нада яго блытаць зь тютенькам... А вот ты шо б заўтра был на собрании. Не придёшь – и я на тебе Тютень… цьфу ты… Путеньку і наскую!

– Прыйду. Дзе ж дзенешся?..

– А ты за скацінку, скацінкай адплоціш, – працадзіў скрозь зубы Пуценька, выходзячы з хаты.

– Толькі што ты будзеш рабіць з той скацінкай, гаспадар?!. – ухмыльнуўся Антось.

Усе ж добра ведалі, што ў Пуценькі, апрача ката і некалькі курэй, болей аніякай гаспадаркі не было. Ды што гаспадаркі, уборнай нават не было сваёй, лёталі ў кусты альбо, як прыцямнее, за гумно. А ў вёсцы як? Добрага гаспадара ацэньваюць паводле таго, які ў яго плот і якая ўборная. А тут – ані аднаго, ані другога...

– У цябе каты з голаду дохнуць...Гаспадар! А яшчэ – савецкую ўладу ён прадстаўляе! – дабавіў Антось для пераканаўчасці.

– Вы, хозяін, тут на ўладу рот не раскрывайте, – заўважыў камісар.

– Таварыш, я не супраць улады, бо ўсякая ўлада ад Бога...

– Бога нету! – перабіў яго таварыш Трэпелеў.

– Ну, калі Бога няма, – Антось задумаўся, – дык якая тады ўлада?

– Улада што нада! – пераканаўча сказаў Сцяпан. – А ты меней гавары, бо дагаворышся.

– Я толькі хацеў сказаць, што калі Бога няма, дык навошта тады дражніць гусей? Ці праўда? – спытаўся Антось.

– Есть только одна правда – ленинская! – адказаў камісар.

– А шо, у вас гусі е? – перапытаў пісарчук.

– Не, гусей няма! – удакладніў Антось. – Але я не пра гэта... Я хацеў бы спытацца, а ці праўда, што кажуць, быццам савецкая ўлада будзе ўстанаўліваць кожнаму норму: колькі трэба будзе есьці, колькі піць, колькі працаваць, спаць, стаяць, сядзець і гэтак далей... Ці праўда?

– Темной народ – всё перавернет! – камісар пакачаў галавой. – Товарышч Сьцяпан, паясьніце несазнацельнаму таварышчу, што такое Савецкая ўлада.

– Савецкая ўлада гэта калектывізацыя плюс электрафікацыя ўсёй страны! – заместа Сцяпана адрапартаваў Пуценька.

– Правільна! – важна адзначыў Кацалапаў.

– Савецкая ўлада мае клопат пра здароўе кожнага, а гэта азначае, што аб’ядацца і распівацца кожнаму яна не дасьць, – тлумачыў Сцяпан. – А наконт астатняга – будзе маральны кодэкс, якім і будуць рэгулявацца адносіны ў грамадзтве...

– Я яму пасьля скажу, колькі трэба будзе працаваць і сядзець! – ні з таго ні з сяго заявіў Пуценька і гучна зарагатаў, задаволены сваім жартам.

– Яшчэ адно пытаньне, – Антось не звяртаў увагі на Пуценьку. – А ці трэба будзе мець пры новай уладзе каля кожнай хаты сваё адхожае месца?..

– А пры чом тут адхожэ місцэ? – паціснуў плячамі пісар. – Анікуда аніхто не будзе відходыт... Колхозы будуць...

– А пры том, – стаў тлумачыць Антось, – што ваш сельсавецкі работнік у начальнікі выбіўся, але ня мае сваёй уборнай і лётае пад маё гумно... Непарадак гэта, і некультурна...

– Так это же пустяк, – адказаў камісар.

– Так, так. Пуценька – паўнейшы пусьцяк, – падхапіў быў Антось. – Знайшоў месца... Дзеці ходзяць... Жанчыны...

– Не панімаю, в чом дзела? – Кацалапаў, здаецца, сапраўды не разумеў, у чым справа.

– Ён мае на ўвазе такое месца, куды людзі ходзяць... Куды ходзяць з патрэбы... Гэта будзе – па нуждзе, во! – растлумачыў Казакевіч.

– Дык я же і говарю, что это пустяк. Пусть переставіт гумно своё на другое место, подальше, чтоб не ўспел добежать...

– Вы гэта сурёзна? – Антось здзіўлена глядзеў на камісара.

– Вполне, мы не любім шуткаваць, а таварышу Пуценьку мы паставім на від! – паабяцаў камісар.

– Во-во! Зрабіце хоць гэта. Пастаўце на від і дайце яму добра па тым відзе!

З усёй гэтай кампаніі толькі адзін Сцяпан ціхенька, у кулачок, пасмейваўся, астатнія былі сур'ёзнымі, як і належыць быць уладзе. Пуценька рабіў выгляд, што да гэтага ён не мае аніякіх адносін, быццам бы той Пуценька, пра якога тут ідзе гаворка – гэта не той Пуценька, які тут ёсць. Толькі пры адыходзе Пуценька, відаць, спецыяльна затрымаўся, каб выходзіць апошнім, ён злосна прагнюсавіў:

– Я табе ўстрою, сусед, і цюцьку, і адхожае месца... доўга будзеш адходзіць...

– Глядзі, каб сам не адышоў, – спакойна прагаварыў Антось і зачыніў за Пуценькам дзверы.

А Ганька хуценька ўзяла ў рукі венік і стала замятаць за імі сляды і прыгаворваць: «А каб вас немач, каб вас».

А недзе праз тыдзень на Антосевым падворку зноў з'явіліся мясцовыя камунары і з імі Пуценька. Як пасля стала вядомым, камунараў тых сам Пуценька і прывёў. Гутарка была вельмі канкрэтнай: камунары, для «развіцця савецкай сельскай гаспадаркі і заснавання калгасу», запатрабавалі частку лепшай зямлі на Бутрымаўшчыне, карову, каня і воз.

– І пасьля, як ты нам гэта ўсё дасі, мы будзем цябе лічыць сваім, – прапанаваў такі варыянт Казакевіч. – І, пакуль што, чапаць ня будзем.

– Так проста, як вы кажаце, пытаньні не вырашаюцца. – Антось на момант задумаўся, а пасля спытаўся:

– Скажыце, калі ласка, колькі трэба мець, паводле законаў вашай улады, на аднаго чалавека таго нажытку: да прыкладу, колькі зямлі можна трымаць?..колькі жывёлы?... колькі курэй на аднаго чалавека?, колькі яблынь у садзе, сьліваў колькі?..

Камунары маўчалі.

– Ёсьць у вас такі рэестрык, дзе напісана, прыкладна, так: сям'я з трох чалавек мае права трымаць адну карову, парасё, тры курыцы, пятуха і гэтак далей?

– У нас усё ёсьць! – важна заявіў Пятро. – У сельсавеце.

– Ну, калі ў вас там усё ёсьць, дык чаго вы тады па хатах ходзіце, чаго вы ходзіце і жабруеце ў людзей? Бярыце там!

– Ты нам тут ня вумнічай! – заявіў Калістрат. – Цесьць твой занадта разумным быў...

– А пры чым тут цесьць, і што значыць – быў? – насцярожыўся Антось.

– Цесьць тут ні пры чым, – перавёў гутарку Казакевіч. – Дык як наконт каровы, зямлі і каня: сам аддасі, ці раскулачваць будзем?

– Хлопцы, зразумейце, што ў мяне карова – для дзяцей, зямля – для каровы, а конь з коламі, каб апрацоўваць тую зямлю, якая – для каровы, а карова – для дзяцей, а дзеці – гэта наша будучыня і будучыня савецкай улады, калі хочаце ведаць...

Камунары нічога не хацелі ведаць. І на такі мудрагелісты паварот справы не ведалі, што адказаць.

А Антось працягваў далей:

– Калі вы супраць будучыні савецкай улады, тады забірайце ўсё: зямлю, карову, каня, хату – усё забірайце, а я таварышу Сталіну ліст напішу... Хай прыедзе сам, паглядзіць, разьбярэцца...

– Ага, чакай, прыедзе... Таварышу Сталіну няма чаго болей рабіць, як толькі да цябе езьдзіць! – рассмяяўся Пуценька.

– Ну, калі ня сам таварыш Сталін, дык прыедзе нехта іншы...

– Які дурань падзеля цябе паедзе? – заявіў Калістрат.

– Ну, зь першага, ня дурань, а нехта з кіраўніцтва Цэнтральнага камітэту камуністычнай парты Леніна-Сталіна і савецкага правіцельства, – пераканаўча разважаў Антось. – Можа Варашылаў, можа Берыя… Прыедзе на машыне... у мундзіры... сінім галіфэ... партупеі... з рэвольверам і разьбярэцца, хто тут дурань, а хто не...

– Пайшлі адсюль! – раптам з нейкай злосцю прапанаваў Казакевіч сваім калегам.

– Мы этаво дзела так проста не пакінем! – папалохаў Пуценька адыходзячы. – Будзем з табой у другім месцы разьбірацца!

– І ў другім, і ў трэцім месцы я буду казаць адно і тое, што чулі тут, – запэўніў Антось і камунары пайшлі ні з чым.

Антось тады застаўся вельмі задаволеным сваёй кемлівасцю і некалькі разоў пераказваў тую гутарку Ганьцы, як ён выправіў камунараў. Не ведаў тады Антось і нават не здагадваўся пра далёкія і вераломныя планы тых камунараў і, у прыватнасці, планаў Пуценькі, якія ён выношваў у сваёй, здавалася, узбаламучанай галаве.

А праз колькі дзён тыя ж камунары з аператыўным упаўнаважаным Трэпелевым зноў з'явіліся на падворку. На гэты

раз рэй вёў Калістрат, бесцырымонны, рэзкі чалавек, які арганічна ненавідзеў усякага, хто быў багацейшым за яго.

– Значыць так, Антось, – важна і рэзка пачаў ён. – Тым разам нам не ўдалося дамовіцца з табой, і мы вымушаны прыйсці зноў. Дык вось, у той раз ты згадваў пра Сталіна...

– Ну, згадваў, – насцярожыўся Антось.

– Казаў, што ліст напішаш?

– Ну, казаў...

– Дык вось, прыйшла разнарадка з верху, магчыма, ад самога Сталіна, у сельсавет, камісар пацьвердзіць...

– Так, так, есть бамага, – пацвердзіў аператыўны Трэпелеў.

– Якая яшчэ бамага? – недаверліва спытаўся Антось.

– А бамага пра тое, што твайго парсючка трэба здаць у падарунак таварышу Сталіну ад беларускага народу! – урачыста закончыў Калістрат.

– А чаму майго парсючка, а не, скажам, некага іншага? –зацікавіўся Антось.

– Каго, напрыклад?

– Сам ведаеш. Перапісвалі ж нядаўна...

– Перапісвалі, а толку... А твой парсючок надта спадабаўся таварышу Сталіну, гладкі такі, жвавы. Таварыш Сталін будзе вельмі рады...

– А пакажы паперу!

– Ты што, ня верыш!? Мне ня верыш? Савецкай уласьці ня верыш! Таварышу Сталіну ня верыш! – аж захадзіў падворкам Калістрат.

– Ты, можа, яшчэ таварышу Сталіну сьвінчо пашкадуеш? – дацінаў Пуценька. – Тады ўжо мы будзем пісаць усім калектывам...

– Ты ж ведаеш, Пуценька, у мяне дзяцей няма чым карміць...

– Не прыбядняйся! Мы табе грошы дадзім, лапшы дзецям накупляеш у краме.

– Якой лапшы, Пуценька?…

– Нашай, савецкай лапшы! – удакладніў той.

– Можа яшчэ падкажаш, у якой краме? – іранічна спытаўся Антось, але тут Пуценька не стаў даводзіць, у якой такой краме можна было купіць тую самую лапшу – апошнім часам лапша стала дэфіцытам.

І палезлі актывістыя ўсім кагалам у хлеў ламаць зага-радкі. І нават Пуценька, хоць і быў ужо начальнікам, але з вя-лікім задавальненнем трымаў таго парсючка за хвост, пакуль астатнія,

пад прарэзлівы піск, парсючку звязвалі ногі. Ваяваць з ім Антось не стаў – не было сэнсу.

– А грошы за парсючка на лапшу? – нагадаў ён, калі парсючок быў укладзены ў камунарскі вазок.

– Грошы будуць, толькі пазней, праз кантору, – паабяцаў упаўнаважаны Трэпелеў. – Сам ведаеш, пакуль да Масквы, пакуль тое-сёе, пакуль пералічаць... перашлюць...

А наступныя два дні ўсё начальства ў акрузе хадзіла на добрым падпітку. Пецька, старэйшы сын Антося, даведаўся ў чым справа: аказалася, што адзначалі дзень народзін камісара Кацалапава.

– І што, сама цікавае, – казаў Пецька. – Ці не наш там парсючок засьвяціўся на сьвежаніну, бо надта ж быў падобным, як калолі.

Наш, ці не наш – тут ужо не даведаешся – у Сталіна не спытаешся і нікому не паскардзішся. Зразумела, што і грошаў тых на лапшу Антось не дачакаўся.

Новая ўлада прыўнесла і новыя парадкі. Звычайна працоўны дзень у камунараў і тых, хто працаваў у іх, распачынаўся доўгім перакурам (пагаворвалі, што замест перакураў будуць рабіць палітінфармацыі). Пасля прыходзіў нехта з начальства і таксама закурваў, але гэта ўжо быў наступны этап працы: нешта кшталту планёркі. Пасля гэтага адны яшчэ гадзіну соўгаліся, як мухі пад мухаморам, камунарскім падворкам, другія памалу разыходзіліся на свае працоўныя месцы, і ўжо там закурвалі зноў. Пасля недзе каля гадзіны калупаліся на сваім працоўным месцы, а пасля праца спынялася паводле нейкай важкай нагоды: альбо нешта ламалася, альбо праз некага нешта не падвезлі, не забралі, не дадалі, не атрымалі...

– Я не магу глядзець, як яны працуюць! – абураўся Ян Сакалоўскі (Амерыканец). – Гэта ж натуральны зьдзек над працай! Гэта зьдзек над зямлёй, над скацінай, зьдзек над усімі намі! Амэрыканца на іх трэба з палкай! Так анічога путнага ў іх не атрымаецца... Марнатраўцы!

Пасля гэтыя словы Амерыканцу нагадалі ў якасці абвінаваўчага факту.

Шмат з тых, хто быў з радасцю і з ахвотаю падаўся ў камуну, задумаліся, а некаторыя нават перасталі хадзіць на такую працу.

## 17. Першая партыя ворагаў народу

Пры новай уладзе ўсякія чуткі сталі апярэджваць рэальныя падзеі з невялікім перапынкам у часе. Калі сёння можна было пачуць нешта такое, чаго ўчора не ведаў, дык ужо заўтра можна было назіраць альбо адчуваць на сваім карку ажыццяўленне ўчарашняй чуткі. Нешта падобнае было з перапісам маёмасці і яе нацыяналізацыяй, якая праводзілася амаль што ўслед за перапісам: сёння перапісалі, а заўтра сталі забіраць на «карысць трудзяшчыхся» тое, што лічылася лішнім у «нетрудзяшчыхся». Пры гэтым пытанне ставілася такім чынам: калі не хочаш быць раскулачаным і калі не хочаш стаць ворагам новай улады, тады ідзі ў камуну, вядзі з сабою цялятка, кароўку, каня, аддай лепшы надзел сваёй зямлі – усё, што маеш, аддай і выжывай, як хочаш. Прыватная ўласнасць не проста стала мелкабуржуазным элементам, яна стала элементам варожым, адным з асноўных крытэрыяў, паводле якога вызначаліся і аргументаваліся раскулачванні, канфіскацыі, высяленні, арышты і прысуды.

І калі папаўзлі чарговыя, найболей таямнічыя і ўстрашальныя, чуткі пра тое, што ў савецкай улады з'явілася вельмі шмат ворагаў, людзі спалохаліся не на жарты. Напачатку ворагамі нумар адзін былі абʼяўленыя польскія асаднікі – паны, якія ў 20-х гадах атрымалі тут зямлю і маёнткі; закладвалі тут, «на крэсах», эканамічныя і культурныя асновы польскай дзяржаўнасці.

Пад другім нумарам ворагаў народу ішлі мясцовыя паны, але для Саветаў вялікай розніцы між асаднікамі і мясцовымі панамі не было: гаспадаркі як адных, так і другіх падлягалі поўнай канфіскацыі, а людзі – на высяленне. Некаторыя з сем'ямі ўмудрыліся ўцячы яшчэ перад прыходам саветаў (Расальскія, Лакуціеўскія, Ластоўскія, Казлоўскія, Дамбоўскія), некаторых мясцовыя камунары абабралі самі, не чакаючы адпаведнай пастановы, некаторых забралі ў кастрычніку (Дабрынскага, Дэмскага, Кісялеўскага). Звычайна напачатку арыштоўвалі гаспадароў, абвінавачвалі, выносілі свой прысуд і садзілі ў турму да вырашэння канчатковага прысуду асобай нарадай пры НКВД СССР. Чаканне такога прысуду магло расцягнуцца на некалькі месяцаў.

Тады вельмі часта можна было пачуць, як Пуценька хваліўся, што пад мудрым кіраўніцтвам партыі Леніна-Сталіна ўдалося арыштаваць і асудзіць партыю польскіх паноў і партыю памешчыкаў і буржуяў.

Дарэчы, зараз усё было падзелена на партыі. Само слова «партыя» стала найбольш хадавым словам. Праўда, атаясамлівацца гэтае слова стала з двума паняткамі: партыя працоўных і сялянаў – гэта значыць Усесаюзная Камуністычная партыя бальшавікоў і партыя ворагаў народу. Калі з першымі тут усё зразумела, а менавіта: тут павінна быць толькі адна партыя, дык другі панятак стаў набываць сэнс паводле масавай камплектацыі: калі збіраецца адпаведная колькасць ворагаў народу, тады гэтая колькасць аб'яўляецца партыяй, і такую партыю накіроўваюць па этапу.

Дзявятага лютага, вечарам, увесь актыў камітэту беднаты сабраўся ў былым доме пана Карчэўскага (сельсавеце). У каго з сялянаў-камунараў былі коні, тыя пад'ехалі на павозках. Тут жа прысутнічалі байцы Чырвонай гвардыі і народнай міліцыі. Усе чакалі Кабяка, Кацалапава, Сцяпана і Трэпелева, якія ў гэты час знаходзіліся ў Мястэчку на нейкім тайным зборышчы. Было ўжо далёка за поўнач, але аніхто не разыходзіўся – не было загаду. І толькі недзе каля гадзіны ночы прыехала з мястэчка начальства ў суправаджэнні аператыўнай групы «энкэвэдэшнікаў». Нарада была кароткай: усе прысутныя, разам з сілавымі структурамі, былі падзелены на чатыры групы, і кожная група атрымала сваё канкрэтнае заданне. У тры гадзіны начную цішыню ў Багданоўцы, Мазалях, Ракуцеве, Мікулеўшчыне, Парлоўцы, Людвінова і ў іншых вёсках разарвалі жаночыя і дзіцячыя крыкі – пачаліся масавыя арышты ворагаў народу і «чээсэўцаў» – членаў сям'і раней арыштаваных ворагаў. Арыштоўвалі ўсіх астатніх без разбору: і малых, і вялікіх, і старых. Напачатку чырвонаармейцы акружалі дом, а пасьля «энкэвэдэшнікі» ламаліся ў дзверы... Пасля прад'яўлення пракурорскай даведкі на арышт, ахвярам давалі 20 – 30 хвілін на зборы, і да працы прыступалі тройкі па ўліку маёмасці. Арыштаваных, нягледзячы на 30-ці градусны мароз, садзілі на павозкі і пад канвоем адпраўлялі ў Смаргоні на зборны пункт, дзе фармаваўся спецыяльны цягнік. Гвалт тады і шум стаяў ледзь не ў кожнай вёсцы і на хутарох, дзе былі сядзібы кандыдатаў на высяленне. З Багданоўкі і Парлоўкі вывезлі жанчын Дабрынскіх, з Ракуцева – пані Дэмскую з дочкамі, з Мікулеўшчыны – Селятыцкую з гадавалым дзіцём, з Людвінова – пані Кісялеўскую з двума непаўналетнімі дзяцьмі. Тады мала хто сумняваўся з вяскоўцаў у тым, што спецыяльна, на пагібель, у такі мароз адпраўляюць у дарогу дзяцей – пяць гадзін на кані да Смаргоняў і там невядома як будзе цёпла ў «цялятніку» – для дзяцей было неспадзяванай дарогай на той свет.

Людзі, калі даведаліся пра такую эвакуацыю, спачувалі асуджаным і нават абураліся, але далей абурэння справа не даходзіла, маўляў, відаць, вінаватыя... хай Бог сцеражэ, абы не мяне.

Зразумела, што маёмасць і зямля арыштаваных і высланых сталі дзяржаўнай маёмасцю – вельмі добры падмурак для арганізацыі калгасу. Там толькі адзін інвентар чаго быў варты: малатарні, вазы, плугі, бароны... А калі дадаць сюды памяшканні і жывёлу... Дарэчы, жывёлу, разам з пошарам, пакуль што раздалі шматдзетным сем'ям і бедным, і тыя былі вельмі задаволеныя «ворагамі народу» і савецкай уладай.

Так атрымалася, ажно не верылася, што ў наваколлі ў адзін момант не стала аніводнага пана. Людзі разбіралі і расцягвалі панскае дабро: некаму кола спатрэбілася, іншаму – дошкі, камусьці панская брама спадабалася, а там, глядзіш, і дзверы з гумна знялі, і шыбы павымалі з вокнаў.

Разам з панамі ворагамі былі аб'яўлены ўсе тыя, хто быў прыезджым у міжваенны перыяд з цэнтральнай Польшчы: польскія служачыя, войты, афіцэры Войска Польскага, ляснічыя, чыноўнікі, паліцыянты, паштальёны, настаўнікі – кантынгент гэты не заўсёды мог знайсці агульную мову з мясцовым насельніцтвам, да таго ж новае начальства – тыя, хто прыехаў зараз з Савецкага Саюзу – называлі іх каланізатарамі і падбадзёрвалі новымі калоніямі ў Сібіры. Гэты польскі кантынгент таксама разам з сем'ямі вывезлі ў невядомасць.

Была яшчэ адна вельмі цікавая катэгорыя «ворагаў», якіх вызначалі паводле спісаў польскай тайнай паліцыі. Гэтыя ворагі не паспелі яшчэ нашкодзіць новым уладам, але былі ўжо абвінавачаны за супрацоўніцтва з польскай дэфензівай у 1920 – 30-я гады. Што гэта было за супрацоўніцтва – іншае пытанне, але вядома, што сярод беларускіх дзеячаў шмат хто тады быў вымушаны падпісаць такі «кантракт» з польскай паліцыяй, каб не быць застрэленым і не трапіць у польскі астрог у Картуз-Бярозе. Якім чынам такія спісы трапілі ў НКВД – застаецца загадкай. Амаль што ў кожнай вёсцы быў нехта арыштаваны і засуджаны паводле гэтых спісаў. Пры тым абвінаваўчае абгрунтаванне было вельмі кароткім, да прыкладу: *«Маркевич Роман Андреевич изобличается справкой 1-го спецотделения УНКВД Вилейской волости, взятой с оригинального архива Вилейской уездной полиции, где Маркевич Р.А. значится как конфидент полиции... Обвиняется в том, что будучи агентом тайной полиции польского государства, проводил активную борьбу против революционного движения трудящихся, т.е. в преступлениях, предусмотренных ст.75 УК БССР»*[1].

[1] Выкарыстаны дакументы Занальнага дзяржаўнага архіва г. Маладзечна: ф..Р-60.

За сувязі з польскай паліцыяй быў арыштаваны і ляснік Антон Гоман з Мазалёў (узялі яго ў снежні 1939 г.). Якія там былі сувязі з паліцыяй, пра гэтае ніхто не ведаў, а тое, што яго, як чалавека пісьменнага, запрасілі новыя ўлады ўзначаліць ляснііцтва пры сельсавеце, ведалі ўсе. Быць лесніком у гэты час было не проста – панскі лес, некалі забаронены, стаў народным, і кожны, хто меў дачыненні да народу (а мелі ўсе), лічылі, што маюць права на нейкае палена з гэтага лесу. Вось толькі прынцыповасць Гомана была нейкай незразумелай народу.

У віну Гоману ставілі яго працу падсолтусам да прыходу Чырвонай Арміі і быццам бы ён выдаў польскай паліцыі Карповіча, Саўрыновіча і Страха Уладзіміра, якія былі абвінавачаны ў камуністычнай дзейнасці. Страха польскія ўлады прысудзілі да расстрэлу. Вінаватым быў Гоман і ў тым, што *«всемерно укреплял белопольское фашистское государство, активно боролся с революционным движением на территории Западной Белоруссии... Виновным себя признал полностью, изобличается показаниями свидетелей Савриновича, Стриго, Карповича»*[1].

Відаць, не ўсё так проста было ў справе Гомана. Сонька, яго жонка, пасля арышту мужа стала шукаць праўду і даводзіць, што яе муж ані ў чым не вінаваты: ні перад людзьмі, ні перад савецкай уладай. Напісала яна ліст начальніку аператыўнай групы НКВД Ашмянскага раёна, што, маўляў, не таго чалавека вы арыштавалі, але адказу не дачакалася. Пасля даслала ліст на імя абласнога пракурора, і таксама безвынікова. Урэшце наважылася Сонька напісаць самому Сталіну. Людзі казалі, што, відаць, ад гора, здурнела баба – хоча з самім таварышам Сталінам ліставанне наладзіць. Але Сонька ўжо анікога не слухала, узяла ліст паперы з вучнёўскага сшытка і стала пісаць:

*«К Отцу и Учителю трудящихся всего мира*
*Великому тов. Сталину*
*ад Гомон Софии Гаврииловны*

**ЗАЯВЛЕНИЕ**

*«В то время когда Советская Россия освободила бедны трудящийся народ западной Беларуси од помещиков и капиталистов граждане деревни Ракутево и деревни Ручеи избрали моего мужа Гомона Антона Ивановича лесником над былым помешчьим лесом. Проходя часто по лесу и зарослям он часто находил логово, где лежали недопалки од папирос и даже натыкался на незнакомых лиц, о чём за всяким разом заявлял в временной комитет дер. Ракутево.*

[1] Выкарыстаны дакументы Занальнага дзяржаўнага архіва г. Маладзечна: ф..Р-60.

*Помещиков защитники Карпович Павел со своей женой Верой Карпович из дер. Ручеи Раковского с/совета, Совринович Константин со своим сыном Евстафием Совриновичем и Сидорович Иван из дер. Мозалей того же с/совета, написали фальшивое заявление Властям Советского Союза о том, что мой муж был солтысом и лесником при польской власти и через него пострадало много людей. Власти арестовали моего мужа, а меня с малолетними детьми выселили. При сем прошу допросить население, каковы были при польской власти Карпович Павел, Сидорович Иван и Совринович Константин со своим сыном Евстафием Совриновичем. Карпович Павел был помешчьим сторожом, через которого помещик хотел пострелять граждан деревни Ракутево Стригу Юльяна и Гомона Антона. Совринович Константин со своим сыном Евстафием являлись явные сии защитники помещиков и польского правительства. От их доносов в полицию и помещикам пострадали граждане деревни Мозали Совринович Николай, Сидорович Александр, Сидорович Михаил, Гомон Василий и Чесновска Евгения. До того Совринович Константин со своим сыном не являлись бедняками, имели 15 гектаров земли: до них на дачу приезжали даже судья заграничных дел, которые вместе с местными помещиками и служащими всяких правлений проводили гулянки у Совриновичей и его приятелей. Сидорович Иван сын члена громады был в партии коло молодёжи, являлся хулителем Советского Союза, Красной Армии и Её правителей и так сама не являлся бедняком, имел около 12 гектаров земли, что прошу допросить гражданок, которые слышали его хулительные слова Сидорович Нину и Стриго Анисью из деревни Ручеи и граждан дер Криулянки Раковского с/совета Гордевича Евстафия и Грудина Юльяна. В дальнейшем доношу, что мой муж являлся бедняком, происходил из батраков, был угнетаемым от помещиков, так как помешчья земля находилась на полметра од построек моего мужа и окружала из двух сторон, так что даже приходилось навязывать курицу. Ненависть к помещикам и польскому праву возростало с каждым днём, из-за чего он открыто почти наговаривал крестьян против помещиков, дожидаясь освобождения Советским Союзом, что и прошу допросить граждан деревни Мозали Совриновича Николая, Пинкевича Осипа, Гомона Василия, Сидоровича Александра, Савицкого Димитрия; граждан из деревни Раковцы Ярошка Осипа, Гринкевича Юльяна, Гринкевича Ивана, Сидоровича Василия, Латыша Антона и прочих местного населения, а таксама евреев местечко Крево Сморгонского района. В виду сего обращаюсь с просьбой до-*

*просить выменённых свидетелей и освободить моего мужа. В чём и подписалась Гомон София»*[1].

Заместа адказу ад вялікага Сталіна, прышло кароценькае паведамленне з абласной пракуратуры: *«На ваше заявление сообщаем, что дело вашего мужа Гомона Антона Ивановича следствием скончено и направлено по подсудности на рассмотрение Особого Совещания при НКВД СССР. Прокурор по спецделам Вилейской облпрокуратуры Ерёмин»*[2].

Казалі людзі, што гэтае «асобае савешчанне» менш за «чацвярынку» (25 годзікаў) нікому не дае, што ад гэтай маскальскай нормы (у царскай Расеі на 25 гадоў забіралі ў «маскалі» – салдаты) можа ўратаваць хіба што толькі «вышка» (вышэйшая мера пакарання) – расстрэл.

Сонька суцяшала сябе тым, што мала чаго могуць нагаварыць людзі, а вось дойдзе яе ліст да Сталіна, і ён разбярэцца... Але адказу ад «Отца и Учителя трудящихся всего мира» Сонька так і не дачакалася. 10 лютага арыштавалі і Соньку з малалетнімі дзяцьмі, як членаў сям'і ворага народу, і адправілі разам з іншымі ворагамі і здраднікамі на далёкі ўсход сонца.

– У Алжыр[3] паехала наша Сонька,–задумліва неяк гаварыў камісар Трэпелеў. – Там шмат такіх, як яна.

А на месца лесніка быў пастаўлены свой чалавек, які разумеў, што шкадаваць былога панскага лесу не варта. Людзі тады атрымалі вольніцу на дрэва. Дрэвам сталі гандляваць усе, нават камітэтчыкі і старшыня сельсавета. Разліковай адзінкай часцей былі гарэлка «Маскоўская» і самагонка.

Прынамсі, так было не толькі ў адным нейкім сальсавеце, так было паўсюдна.

Услед за такімі тайнымі супрацоўнікамі (канфідэнтамі), ворагамі народу былі аб'яўлены сябры розных польскіх культурных, палітычных, вайсковых суполак, згуртаванняў, партыяў і таварыстваў. Мала таго, што «добрыя людзі« рабілі «добрыя» манеры і падказвалі «энкэвэдыстам», каго трэба ў першую чаргу арыштаваць, дык не лепшую паслугу зрабілі самі сабе палякі, «падарыўшы» Саветам свае паліцэйскія архівы. Паводле тых архіваў лёгка прасочвалася, хто і кім быў пры Польшчы. Менавіта на гэтыя архівы спасылаліся, як на першакрыніцу, энкэвэдысты ў сваіх абвінавачваннях, да прыкладу: *«Романович Пётр Иванович, по сохранившимся былым польским архивом, является членом партии «Озон»*; іншых абвінавачвалі ў тым,

[1] Выкарыстаны дакументы Занальнага дзяржаўнага архіва г. Маладзечна: ф..Р-60.
[2] Выкарыстаны дакументы Занальнага дзяржаўнага архіва г. Маладзечна: ф..Р-60.
[3] АЛЖИР – Акмолински лагерь жён изменников Родины.

што *«были членами партий не социалистической ориентации»*, *«являлись добровольцеми банды Домбровского, активно боролись против частей РККА»*, альбо былі *«участниками других польских повстанческих контрреволюционных шпионско-диверсионных групп»*, альбо належалі да *«польской федэрацыі ваенных рэзервістаў»*[1]. У супрацоўніцтве з паліцыяй было вельмі шмат абвінавачаных членаў Польскай сацыялістычнай партыі (ППС) – усе яны сталі «ворагамі народу», бо *«занимались предательской (провокаторской) деятельностью»*.

А тут усё часцей і часцей сталі гаварыць пра тое, што Саветы хочуць выселіць усіх палякаў, у тым ліку, і крэсовых. У спісы палякаў, быццам, аўтаматычна былі ўнесеныя ўсе каталікі. Некаторыя «энкэвэдысты» канфіскоўвалі ў ксяндзоў касцельныя спісы парафіян і паводле іх бралі такіх «палякаў» у распрацоўку.

У некаторых сельсаветах сяляне (пераважна каталікі) нясмела заяўлялі пра страту ўсіх сваіх дакументаў (страціліся, згарэлі, прапалі немаведама дзе) і прасілі выдачу новых, пры гэтым настойліва паўтаралі («каб хаця ж толькі так запісалі»), што паводле нацыянальнасці яны з'яўляюцца беларусамі. Гэтае іх мала ратавала, але трэба прызнаць, што савецкія аператыўнікі і чыноўнікі паблажліва ставіліся да такіх беларусаў, для якіх беларускасць была пустым гукам.

Зразумела, што працэс пошукаў ворагаў народу не спыніўся на першых высяленцах – сталі паўсюль гаварыць пра розных агентаў і шпіёнаў сусветнага імперыялізму і буржуазіі, якія толькі і мараць пра тое, як знішчыць маладую савецкую дзяржаву работнікаў і сялянаў.

Даходзілі да людзей некаторыя звесткі пра ворагаў і што рабілі з імі ў Саветах у 30-я гады, калі ворагам мог стаць кожны, хто з нейкай нагоды не патрафіў, альбо не дагадзіў мясцоваму актыву савецкай улады. І, не без падстаў: найболей дасведчаныя, гаварылі, што шматгадовы досвед барацьбы з ворагамі ў Савецкай Беларусі будзе з поспехам выкарыстаны і ў Беларусі Заходняй.

Ці не для выкарыстання гэтага досведу ў Багданоўку зачасцілі тры невядомыя асобы ў афіцэрскай вайсковай форме. Адзін з іх быў з маёрскімі пятліцамі, перад ім нават таварыш Кацалапаў выцягваўся. Нейкім чынам прасачылася чутка, што гэтая няпростая асоба з'яўляецца прадстаўніком ваеннага трыбуналу – высочвае шпіёнаў розных ваенных замежных выве-

[1] Паводле матэрыялаў Занальнага дзяржаўнага архіва г. Маладзечна: ф..Р-60.

дак. Два другія – капітан і лейтэнат НКВД. Шмат хто бачыў іх пры папярэдніх арыштах і высяленнях. Відаць, з прапановы гэтых асобаў (болей правільным было б – асабістаў) актывістыя сталі збіраць людзей на чарговы сход. Калі ўлічыць, што на двары быў не травень месяц, а сярэдзіна лютага, народ вырашылі сабраць у гумне Дабрынскага, балазе гумно тое напалову пуставала. Туды занеслі стол для прэзідыума, некалькі лаваў і крэслы. А прысесці ў гумне можна было яшчэ і на не дамалочаныя з восені снапы, і на тарпу сена, і на салому. На дзіва, людзей прыйшло багата, амаль што ўсе месцы, у тым ліку і на саломе, былі занятыя. Людзі на сход пры Саветах сталі хадзіць, як на спектаклю, – прыходзілі нават з малымі дзяцьмі, а большыя дзеці самі пралазілі і стараліся заняць месца бліжэй да «сцэны» – тады ўсім было цікава.

Сход вёў Кацалапаў. Напачатку абралі прэзідыум, у які ўвайшлі таварышы Кацалапаў, маёр у форме, Калман з мястэчка і Сцяпан. Пасля Кацалапаў даў слова Сцяпану:

– Сёньня мы сабраліся, каб абмеркаваць і афіцыйна зацьвердзіць нашу камуну, – пачаў Сцяпан неяк прыглушана і баязліва, гаварыў і пры гэтым раз-пораз паглядваў на маёра. – У выніку арышту і высылкі асаднікаў і іншых ворагаў народу, нам па праву дасталася добраўгледжаная зямля, малатарні, касілкі і іншы сельскагаспадарчы інвентар, а таксама памяшканьні і жывёла. Усё гэта мы справядліва падзялілі паміж беднякамі і малазямельнымі, але, трэба заўважыць, што ня ўсе будуць здольнымі апрацаваць зямлю – не хапае коней, плугоў, баронаў, а галоўнае – працавітых рук і досьведу, а нам, кроў з носу, трэба будзе вясной правесьці сяўбу. Зрабіць гэта мы можам толькі разам, і зрабіць талакой – гэта значыць, камунай. Камуна ў нас фактычна дзейнічае, але без статуту, плянаў, праграмных дакументаў, справаздачаў, і нават назвы сваёй ня мае. Прапаную зацьвердзіць статут, – вось ён, – Сцяпан падняў і паказаў вучнёўскі сшытак. – А таксама зацьвердзіць гадавы і паквартальныя пляны разьвіцьця сельскай гаспадаркі камуны на 1940 год, – вось тут пляны, – Сцяпан зноў падняў і паказаў той жа сшытак. – Зацьвярджаем?!

– Зацьвярджаем! – пацвердзілі камунары.

– Хто супраць?

Супраць анікога не было.

– Значыць, аднагалосна, – падвёў высновы Сцяпан. – А цяпер прапаную назваць нашу камуну імем Вялікага Сталіна. Хто супраць гэтага імя?

У памяшканні настала мёртвая цішыня.

– Значыць, супраць няма, – адзначыў Сцяпан.

– Можна мне колькі слоў? – да Сцяпана звярнуўся Кацалапаў.

– А як жа, вядома, – замітусіўся Сцяпан. – Слова мае ўпаўнаважаны раённага камітэту Камуністычнай партыі бальшавікоў па арганізацыі сацыялістычнага будаўніцтва на сяле таварыш Кацалапаў! – абвясціў Сцяпан.

– Дзякую! Па-першае, мне хацелася б вас павіншаваць ад імя райкама і абкама Камуністычнай партыі Беларусі з арганізацыяй першай камуны ў вашай мясцовасьці, а падругое, выказаць з гэтай нагоды свае думкі, – Кацалапаў перавёў дых, дастаў з кішэні скамечаны ліст паперы і далей стаў чытаць, заглядваючы ў тую паперу:

– Безумоўна, ніхто так не заслугоўвае ўшанаваньня і народнай любові, як Вялікі Сталін, але ёсьць меркаваньне абмежаваць назвы камунаў і калгасаў, прысьвечаных вялікаму важдзю пралетарыяту. Таму што атрымліваецца так: у адным раёне створаны камуны імя Вялікага Сталіна № 1, імя Вялікага Сталіна № 2, імя Вялікага Сталіна № 3 і гэтак далей. Імя Вялікага Сталіна могуць атрымаць толькі перадавыя камуны і калгасы – гэтае сьвятое для нас імя трэба яшчэ заслужыць, за гэтае імя трэба яшчэ пазмагацца. Ёсьць меркаваньне назваць камуну імем Вечаслава Міхайлавіча Молатава.

– Я думаю, што іншых меркаваньняў быць ня можа! – адзначыў Сцяпан і пацвердзіў: – Так і зробім!

– Можа, лепш – імем Лазара Майсеевіча Кагановіча? – прапанаваў Калман з Мястэчка.

– У нас гэта працэндура народная. Можа, у каго яшчэ ёсьць прапановы? – звярнуўся да камунараў Кацалапаў.

– А, можа, лепш назваць імем Аляксандра Неўскага? – раптам прапанаваў Пуценька. – Пры тым заўважце, таварышы, што я ня супраць Молатава і Кагановіча!

У памяшканні прайшоўся лёгкі шэпт.

– А хто такі гэткі Неўскі? – спытаўся Восіпчык Стрыга, малады камсамолец-падпольшчык.

– Вялікі рускі пісьменнік і рэвалюцыянер, дзекабрысты і дэмакрат, – з відам вялікага знатака заявіў Грышка Картановіч.

– Ты што, грамацей, ня ведаеш, хто такі Неўскі? – зняважыў яго Пуценька.

– Пусць этот товарішч скажет, кто такой Невскій, – Кацалапаў кіўнуў пальцам убок Пуценькі.

– Неўскі – гэта паплечнік Вялікага Сталіна, член Цэнтральнага Камітэту ВКП (б)! – упэўнена прадэманстраваў свае веды Пуценька.

– Ну, не совсем так, однако, это наш человек... Это великий русский полководец, который разгромил католические полчишчи немецких крестоносцев на Ладоге, – удакладніў Кацалапаў. – Невский так и сказал: «Тот, кто придёт к нам с крестом, тот от него и погибнет»... Стыдна, товарищи комсомольцы и коммунисты, не знать такие вещи! Кстати, а кандидатура подходзящея...

– А, можа, лепш назваць камуну імем Францыска Скарыны, ці імем Кастуся Каліноўскага? – прапанаваў Віктось Саковіч.

– Я не знаю таких полководцев и деятелей! – катэгарычна заявіў Кацалапаў. – Боюсь, что райком партии не утвердит коммуну под этими названиями.

– Таварышы камунары, ёсьць прапанова назваць камуну імем Аляксандра Неўскага, – падвёў высновы Сцяпан. – Можа ў каго ёсьць іншыя пытаньні на гэты конт?

Першым ускочыў Пуценька:

– А давайце напішам пісьмо Вялікаму Сталіну ад беларускага народу!

– Таварыш Пуценька, пісьмо ўжо напісана і адаслана, – заверыў яго Сцяпан. – Выпадкова я прыхапіў яго з сабою, калі хочаце, таварыш Пуценька, магу зачытаць.

– Давай, чытай! – захацеў Пуценька.

Сцяпан сапраўды дастаў невялічкую брашурку і стаў чытаць:

*«Дарагі Іосіф Вісарыёнавіч.*
*З пад пушчаў Палесся, з-пад Нёмана, Сожа,*
*З-пад Пцічы, Дняпра і Заходняй Дзвіны,*
*З-пад стыку са светам чужым і варожым*
*Прыйшлі мы, Савецкай краіны сыны...».*

Сцяпан чытаў нудным, манатонным голасам. Людзі напачатку слухалі напружана, але чым далей, увага паступова слабела. Першымі не вытрымалі дзеці – меншыя пачалі хныкаць, а большыя ўчынілі нейкую незразумелую валтузню між сабою.

***«...Вырастае сіла гневу над сусветам – І прыйшоў Кастрычнік, і прыйшлі Саветы...»*** – чытаў Сцяпан.

Жанчыны пачалі супакойваць дзяцей, і шум ад гэтага толькі пабольшаў. Пасля нешта жыва, смалячы самакруткі, пачалі абмяркоўваць мужчыны і прыціхлі толькі тады, калі Сцяпан павысіў голас да магчымага, каб перакрычаць гоман у гумне:

*«...І ўцякала зграя паноў да Варшавы,*
*У нас збаляваўшы свой банкет крывавы».*
*І ўздыхнуў свабодна край наш яснай доляй,*
*Подлым акупантам не вярнуцца болей!»...*

Сцяпан спыніўся, каб перавесці дух, а камунары запляскалі гучна ў далоні.

– Гэта яшчэ ня ўсё, – заўважыў Сцяпан. Зрабіў некалькі глыткоў вады са шклянкі і стаў чытаць далей.

Але слухаў яго хіба што адзін Пуценька, Кацалапаў і той не вытрымаў і задрамаў, а камунары паступова далучыліся да агульнага гоману. Некаторыя сталі выходзіць, у першую чаргу жанчыны з малымі дзяцьмі, а пасля выходзіць сталі і іншыя.

Голас Сцяпана зноў загучаў, калі ён дайшоў да радкоў:

*Табе – наша радасць, любоў і адданасць,*
*Табе пяе славу сусветная шыр.*
*Вядзі нас, любімы, табой мы з'яднаны,*
*Ты наша жыццё – дарагі правадыр.*

*Ураду вялікай Краіны Саветаў*
*І партыі, даўшай нам шчасце і мір,*
*За гонар, за веліч людскога расцвету*
*Падзяку прымі – дарагі правадыр...*

Калі быў дачытаны апошні радок, Сцяпан перавёў дух і іншым тонам паведаміў:

– Пісьмо падпісала два мільёны працоўных Савецкай Беларусі. Дзякую за ўвагу! – Сцяпан глынуў вады і прысеў.

Слабыя воплескі камунараў разбудзілі Кацалапава, але ён вельмі хутка зразумеў, што адбываецца, падняўся з свайго места і таксама запляскаў у далоні:

– Ад ліца Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі большое вам, товарышч, чалавечае спасібо, – абвясціў Кацалапаў.

– Няма за што, – сціпла адказаў Сцяпан.

– А й сапраўды, няма за што, – данеслася рэпліка з боку мужчынаў, і пачуўся смех.

Маёр строга паглядзеў у той бок:

– Можа ў вас будуць вапросы? – спытаўся ён, і смех заціх.

– У мяне будуць, – ускочыў Пуценька. – Два мільёны падпісалася, а чаму мне ніхто не сказаў, я хачу падпісацца! – праявіў жаданне Пуценька.

– Вельмі добра, падпісацца ніколі ня позна, – паабяцаў яму Кацалапаў. – А цяпер давайце па сушчаству.

Складвалася ўражанне, што сход зацягвалі спецыяльна. Задаваць жа пытанні наконт ворагаў народу ніхто не наважыўся. Урэшце Сцяпан падняўся і заявіў «па сушчаству»:

– А цяпер сама цікавае, – у гумне трохі стала цішэй. – У сувязі з пасьпяховым будаўніцтвам савецкага ладу, у сувязі з ростам нашых дасягненьняў, з'явілася вельмі шмат зайздросьнікаў, нядобразычліўцаў, непрыхільнікаў, шкоднікаў, кулакоў і ворагаў савецкай улады. У першую чаргу, гэта розныя буржуйскія найміты, шпікі і агенты амэрыканскага і сусьветнага імпэрыялізьму, якія, як тыя блохі ці прусакі, могуць завесьціся ўсюды: у гарадох, у вёсцы, у войску, дзяржаўных установах, школах, канторах... Менавіта яны вінаватыя ў тым, калі нешта ў нас ладзіцца ня так, як мы хочам і плянуем: не выкананьне плянаў паставак дзяржаве зярна, мяса, малака, неўраджай, зрывы пасяўных і ўборачных кампаній, раскраданьне сацыялістычнай маёмасьці, спекуляцыя, агітацыя супраць камунаў і калгасаў і шмат іншай шкоды – усё гэта праца рук ворагаў нашых. Каб ня быць шматслоўным, я прывяду вам некалькі фактаў: вось вам газэта «Известия», – Сцяпан паказаў газету, – падае цікавую інфармацыю пра дзясяткі ворагаў народу, трацкістаў і агентаў, якія займалі высокія пасты ў савецкіх ўстановах партыі, у войску, у народнай гаспадарцы, адукацыі, культуры, медыцыны і іншых сфэрах нашага жыцьця... Дый што тут казаць, ворагамі народу аказаліся такія вядомыя беларускія дзеячы, як Антон Луцкевіч, Вечаслаў Багдановіч, Станкевічы з Арлянятаў (ксёндз Адам, Янка-Спадар і Стась), Ян Пазьняк, Аляксандр Уласаў, Макар Краўцоў... Помніце, некалі сьпявалі «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» – не туды хацеў ён выйсьці, гэты Макар, а зараз, будзе цялят пасьвіць там, дзе трэба. Ворагам аказалася і наша зямлячка – паэтка зь Вілейкі – Натальля Арсеньнева... Вось я тут чытаў ліст Вялікаму Сталіну ад беларускага народу, і што?.. Зыходзячы з таго, як вы слухалі, у мяне склалася меркаваньне, што й ў нас ёсьць такія нядобрыя людзі... У кожнай хаце можа прытаіцца такі шпік ці агент і прыкідвацца сябрам камунарам, альбо сябрам клясу працоўных і сялян, а не, дык і актывістам савецкай улады... А чым болей людзей у якой-небудзь установе, альбо канторы, альбо ў хаце, – даводзіў Сьцяпан, – тым болей там можа быць ворагаў, бо, паводле неафіцыйнай статыстыкі, на кожныя дзесяць-пятнаццаць чалавек абавязкова прыпадае адзін-два ворагі, а калі яшчэ ўлічваць кулакоў і падкулачнікаў, дык і таго больш! Як бачым, статыстыка гэтая несуцяшаль-

ная… Калі хто ведае такіх альбо заўважаў за імі незразумелыя, шкодныя камуне альбо партыі дзеі, калі ласка, зьвяртайцеся да мяне, да таварыша Кацалапава і Трэпелева і будзем разам выяўляць нашых ворагаў… Горш будзе таму, калі хто ведаў, ды не сказаў пра ворага, не прасігналіў у час кампетэнтным органам і тым самым стаў саўдзельнікам у злачынствах супраць савецкай улады, партыі Леніна – Сталіна і савецкага народу… Майце на ўвазе…

– Ды няма ў нас аніякіх ворагаў, апрача тых, каго ўжо пасадзілі! – з нейкім абурэннем выкрыкнуў Карповіч. – У нас зараз засталіся толькі сацыялістыя, камуністыя і беднякі…

– А вот это, товарищ, непростительное политическое заблуждение и политическая близорукость, – загаварыў раптам маёр – адзін з прыезджых камісараў у форме. – Передо мной местный товарищ очень верно осветил основные задачи врагов народа, за исключением одного момента… Я постараюсь учесть этот пробел.

Маёр дастаў з партфеля зялёную папку, разгарнуў яе і стаў з задавальненнем чытаць : «Так, секретарь ЦК КП(б)Б товарищ Пономарёв в заявлении *«О провокациях и провалах Коммунистической партии Польши»* отметил следующее: *«При создании КПЗБ в неё вошли целиком Белорусская Революционная Организация (БРО). В этой организации было немало белорусских националистов, а среди них агентов ПОВ (Польская организация войскова). Они занимали также руководящее положение в белорусской рабоче-крестьянской «Громаде», насчитывающей 100 000 человек (...). Руководители соймовой фракции «Громады» и «Змаганье» после разгрома были арестованы (для зашифровки) польской дефензивой, а затем были обменены и разоблачены в СССР как шпионы и агенты Пилсудского...»*[1].

На гэтым маёр спыніўся і шматзначна заўважыў :

– Если кто-то думает, что это цинично по отношению к братьям по оружию, тот глубоко ошибается политически, потому что это наша, как сказал наш дорогой и великий товарищ Сталин, Советская, Коммунистическая – это всё с большой буквы – Партийная Бдительность и Совесть!..

Першым ускочыў Кацалапаў і вельмі дробненька запляскаў у далоні. За ім ускочылі Пуценька, Трэпелеў, Сцяпан і астатнія.

Пасля авацый таварыш маёр прадоўжыў:

– Если хотите, я приведу ещё примеры… Так: „*Имеются факты антисоветского воспитания детей со стороны отдельных учителей, например, учитель Макевич, деревня Пол-*

[1] Цыт. паводле: Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. – Ф.4. – Спр.1744.

*берег, пел с учениками „От веку мы спали», учитель Батура, деревня Плисса, диктовал ученикам: «Наше войско польское, идёт войско польское, каждый войску рад», учитель Ярославский, м-ко Любча, называл учеников „сволочи», выражался словами „молчать жиды» и заставлял снимать галстуки пионерам, когда они не могли отвечать ему на вопросы...»*[1]. Или, вот ещё: *„Учитель д. Рожки, Свислочского р-на Ржевский 7 декабря 1940 г. в беседе с нашим источником заявил: «Нам предложено разработать с учениками письмо от имени белорусского народа тов. Сталину, и вот, когда читаешь строки, где сказано, что белорусы при бывшем польском правительстве жили под ярмом панов, в нищете и голоде, а сейчас, при Советской власти, народ живёт весело и счастливо, то эти слова у ребят вызывают смех, так как они знают, что раньше при польском правительстве они жили радостно и хорошо, а сейчас при Советах – в нищете и голоде, так как сейчас ничего нет, и поэтому я не могу рассказывать ребятам о Советах такого, совести не хватает. Ржевский взят в разработку по д/формуляру...»*[2], но это к делу не относится...

Прамоўца гэты гаварыў яшчэ доўга. Прыводзіў прыклады антысавецкіх выказванняў папоў, ксяндзоў і настаўнікаў. Відаць, быў ён «спецыялістам» па настаўніках. Так, недзе там настаўнікі замест прадмета «Гісторыя СССР» выкладаюць гісторыю Польшчы, іншыя выклад прадметаў вядуць на польскай мове, а некаторыя прыводзяць дзецям такія прыклады, якія сваім зместам супярэчаць курсу партыі Леніна-Сталіна. Да прыкладу, настаўнік літаратуры ў м. Гародзькі дыктаваў дзецям: «Касцёл у Лоску – прыклад узорнага культавага драўлянага дойлідства» – а гэта нішто іншае, як прапаганда каталіцтва. Альбо настаўнік матэматыкі ў Мястэчку задаў дзецям такую задачу: «На адным участку прагаласавалі 65 адсоткаў выбаршчыкаў, на другім – 80, а на трэцім – 95. Вылічыць сярэдняе арыфметычнае колькасці выбаршчыкаў». Вядома, што ўдзел у выбарах прынялі 99 адсоткаў выбаршчыкаў. Адкуль настаўнік узяў такія ўчасткі, на якіх галасавала ўсяго толькі 65 адсоткаў? Што гэта – свядомае прыніжэнне і фальсіфікацыя вынікаў савецкіх выбараў? – даводзіў маёр і з нейкай урачыстасцю падкрэсліваў, што ўсе такія настаўнікі і ім падобныя «взяты в агентурную разработку».

Гаварыў прамоўца і пра тое, што партыяй Леніна-Сталіна распрацавана спецыяльная стратэгія па «очищению от враж-

---

[1] З справаздачнага даклада сакратара Любчанскага райкама КП(б)Б за перыяд 23.01 па 6.04.1940 г. // Гродзенскі архіў грамадскіх арганізацый вобласці. – Ф. 2195. – В. 15. – Спр.1.
[2] Гродзенскі архіў грамадскіх арганізацый вобласці. – Ф. 6195. - В. 1. – Спр. 92.

дебных элементов» і для выяўлення ворагаў народу ў краіне створаны спецыяльныя органы, што гэта першачарговая задача, якая знаходзіцца пад асабістым кантролем таварыша Сталіна, і што «сёння да вас прыехалі з цэнтру кампетэнтныя спецыялістыя, упаўнаважаныя, якім партыя даверыла такую вялікую місію, і якія, на высокім прафесійным узроўні, разам з нашай гвардзейскай народнай міліцыяй, адловяць усіх ворагаў народу і жыць стане весела, радасна і шчасліва. У завяршэнні свайго выступу прамоўца адрэкамендаваў для адпаведнай працы на мясцох старшага аператыўнага ўпаўнаважанага раённага аддзела міліцыі НКВД капітана Трэпелева і яго памагатага лейтэнанта Феськова.

На гэтым сход закончыўся.

Людзі моўчкі разыходзіліся, падазрона паглядаючы адзін на аднаго, і не было відаць на іх засяроджаных тварах весялосці і радасці.

Антось быў на гэтым сходзе і добра зразумеў, што, здаецца, надыходзяць такія часы, пры якіх вельмі лёгка можна стаць ворагам народу. Ворагам можа быць твой сусед, сваяк, кум, брат і заадно ворагам можаш стаць і ты толькі за тое, што не «прасігналіў» у час тым, каму трэба было «прасігналіць». А што, калі раптам стукне ў галаву таму ж Пуценьку ці Касалапаву пашукаць гэтых абавязковых агентаў-ворагаў і кулакоў у яго сям'і? У хаце – 12 чалавек, паводле той статыстыцы, павінен быць і вораг?!. Тады што?..

А назаўтра, пасля таго сходу, стала вядомым, што ў мястэчку, дзякуючы пільнасці аператыўнай групы, арыштавалі і адправілі ў раён для народнага «разбірацельства» і прысуду некалькі падазроных у шпіёнстве асобаў. Сярод іх адным з першых «ворагаў» быў аб'яўлены Толя Страшкевіч, той, які ў час сустрэчы Чырвонай Арміі хадзіў падвыпіўшы з партрэтам Сталіна і спяваў «Ад веку мы спалі...», і паваліўся з тым партрэтам. Пра яго так гаварылі: «Усё ж такі даспяваўся, хлапец». А праз колькі дзён сталі гаварыць, што дадуць таму Толіку «чырвонец» савецкай турмы з высылкай некуды ў Сібір «за іздзевацельствы над партрэтам аднаго з рукавадзіцелей Камуністычнай партыі».

Але знянацку, ні з таго ні з сяго, узяць і арыштаваць цяжка было нават савецкай уладзе – нейкая павінна была быць усё ж такі зачэпка. І найболей папулярнай зачэпкай стала прыватная гаспадарка, наяўнасць некалькіх гектараў зямлі і выкарыстанне наёмнай працы. Зразумела, той, хто меў прыстойную гаспадарку, валодаў ня менш 10-цю гектарамі зямлі і ў

гарачую пару арганізоўваў талаку, меў усе шанцы стаць «ворагам народу».

Пасля арышту Дабрынскіх у Багданоўцы, савецкая ўлада пераехала ў іх дом. Дом з цэнтральным уваходам быў раздзелены на дзве палавіны: у адной размясціўся сельсавет, у другой – камуна і спецыялістыя. Аддзельныя кабінеты мелі Кабяк – старшыня сельсавета, Кацалапаў – сакратар пярвічнай ячэкі КП(б)Б і Трэпелеў – старшы аператыўны ўпаўнаважаны. Сцяпан, пакуль што, кіраваў камунай, але хадзілі такія чуткі, што пры арганізацыі калгасу ён старшынём не будзе. Казакевіч загадваў камбедам і быў брыгадзірам. Апрача іх, штат улады павялічыўся за кошт новых упаўнаважаных: аднаго па асобых справах, другога – па культуры, трэцяга – па падатках, чацвёртага – па страхоўцы.

Пуценька ў гэты час раптоўна некуды знік, а пасля аб'явіўся ў сельскім савеце з паперамі, якія пацвярджалі яго новы чын – малодшага аператыўнага ўпаўнаважанага, альбо, як ён сябе называў – «упаўнамочанага», і патрабаваў, каб толькі так да яго звярталіся астатнія.

– З вамі разгаварываець аператыўны ўпаўнамочаны савецкай власці! – важна падкрэсліваў ён і паказваў сваю паперу. Праўда, дзе і хто яго «упаўнамочыў», было невядома.

Што гэта такое, «упаўнамочаны» – для людзей было цёмным лесам. Раней было ўсё прасцей: пан, войт, аканом, солтыс, стараста... А тут столькі начальнікаў развялося, і пад такімі назовамі хітрымі, што і не выгаварыш нашча і не запомніш.

– Мне да гэтага... як яго? Да поўна намочанага... ці як яго... упаў намочаны... ці ўпаў наважаны, – часта можна было пачуць у былых панскіх калідорах. І не зразумець было адразу люду, чаму ён «упаў намочаны», ці «ўпаў наважаны».

Спачатку ніхто не ведаў, чым займаўся Пуценька. Сунуў нос ён у кожную дзюрку і насіўся з нейкімі паперамі. А вось калі сталі шукаць ворагаў народу, арыштоўваць і раскулачваць, праявілася сапраўдная роля Пуценькі. У яго была найбольш поўная і канкрэтная інфармацыя на кожнага «ворага народу», на кожнага кандыдата ў Сібір. А яшчэ камісар гаварыў, што «у Пуценькі на врагов народа очэнь тонка развіта революціонная, красная інтуіцыя». Што гэта такое – у вёсцы разумелі па-свойму: маўляў, інтуіцыя ў Пуценькі – гэта тое, што нюх у сабакі. Незразумелым было толькі, чаму яна «красная»?

Знёсся Пуценька з Мокшам. Мокша быў старшынём сельсавета ў Мястэчку, а пасля, казаў Пуценька, пайшоў у раён на вялікае падвышэнне. Пуценька тады казаў, што «Мокша – гэта такая глыба, у якой вялікія перспектывы ў савецкай

уласьці». Бачыў тую «глыбу» Антось некалькі разоў на падворку ў Пуценькі, відаць, прыязджала «глыба» гарэлку хлябаць, бо ўсякі раз выходзілі з хаты на добрым падпітку. Іншы раз і чуваць было, пра што гаварылі між сабою сябры:

– Ты, Вася, пачакай трохі, – гаварыў Мокша. – Вось мяне павінны скора падвысіць да вобласьці, як мінімум, альбо ў Мінск, ці нават у Маскву, як максімум... Я вазьму цябе з сабою... Будзеш маім намесьнікам, як мінімум!

– А як максімум? – цікавіўся Пуценька.

– А як максімум?.. Ну ты і Пуценька! – смяяўся Мокша. – Як максімум?.. Зраблю цябе намеснікам Сталіна! Згодзен?..

– Мне бы сакратаром дзе пайсці, сакратаром абкама партыі, да прыкладу, мог бы дзе быць... Саюз жа вялікі...

– Ну ты і Пуценька, ну ты і Вася! – смяяўся Мокша.

«Далёка так могуць пайсці Мокшы і Васі, – думаў тады Антось і пачынаў сур'ёзна сумнявацца ў аб'ектыўнасці савецкай улады. – Бо як можа арганізаваць тую ж камуну ці калгас чалавек, які не здольны арганізаваць і весці сваю гаспадарку. Але, калі такія пуценькі патрэбныя савецкай уладзе, дык што ж тады гэта за ўлада такая? Хаця хто ведае гэтых пуценькаў і гэтую ўладу?..

Дарэчы, ці не з ініцыятывы таго ж Мокшы для Пуценькі пачаў стварацца ў Дойневічах чырвоны атрад народнай міліцыі для барацьбы з ворагамі народу і савецкай улады. Падобны атрад, толькі атрад Чырвонай гвардыі, быў створаны ў Мястэчку і Ракавічах. Дарэчы, у Мястэчку размясціўся атрад «энкэвэдэшнікаў» і, як толькі яны з'яўляліся ў вёсцы, людзі ўжо ведалі, што зноў некага арыштуюць і павязуць.

У Пуценькі атрад народнай міліцыі пакуль што ўваходзілі толькі тры новаспечаныя байцы-міліцыянеры ад народу – Шчасны (камсамолец з Мястэчка), Мечык і Славік. Яны падпарадкоўваліся Пуценьку, а Пуценька – камісару Трэпелеву. Хадзілі яны ўвесь час на падпітку следам альбо за Пуценькам, альбо за камісарам. Людзі глядзелі на гэтых байцоў як на пустое месца. Іншым разам нават у хату не пускалі, а не, дык і проста гналі з падворка.

– Вось, таварыша камісара і гэтага, як яго, хер зь ім, намочанага (на Пуценьку), прашу ў хату! – гаварыў часам гасцінны гаспадар. – А вы (на Мечыка і Славіка) пайшлі вон адсюль!

Пуценька ў такіх выпадках звычайна сунуў паперку пад нос гаспадару:

– На, глядзі, чытай, хто я такі, тут усё напісана, глядзі, глядзі!

А Мечык і Славік бокам стараліся прасунуцца ў дзверы.

– Вон, я сказаў! – крычаў на іх гаспадар. – Марш у будку!

І тады камісару Трэпелеву альбо Пуценьку прыходзілася заступацца за хлопцаў:

– Гэта – з намі! Савецкая ўлада перавыхоўвае іх. Яны наша ахова. Яны будуць ворагаў народу лавіць...

– Во-во! Іх на каго хочаш нацкаваць можна! – згаджаўся гаспадар і толькі тады з вялікай неахвотай прапускаў у хату.

Неяк пры сустрэчы з імі Янук Дайновіч сказаў:

– Ну, што, ханыгі, легалізавалі сваю дзейнасьць «упаўнаважаных»... Мелі рацыю...

А вось, калі Мечык і Славім набылі недзе нешта падобнае на форму: міліцэйскія фуражкі, штаны з чырвонымі палосамі, пінжакі і, што сама галоўнае, партупеі з кабурой для рэвальвера (хадзілі такія чуткі, што недзе сапраўдных міліцыянераў абабралі, а можа і прыбілі) – вось тады яны і самі пачалі гыркаць на людзей і, калі што, хапацца за кабуру. Праўда, у кабуры той, казалі, ляжаў кусок хлеба альбо салёны агурок, бо нават новая ўлада баялася, пакуль што, даверыць зброю такім работнікам.

Неўзабаве Шчасны, як і Трэпелеў, стаў аператыўным упаўнаважаным Смаргонскага РОМа (раённага аддзела міліцыі) па Ракавецкаму сельсавету. Праўда, у адрозненні ад Трэпелева, займаўся ён болей дробязнымі, бытавымі і гаспадарчымі справамі, але, калі трэба было, прыцягваўся Трэпелевым да болей сур’ёзных аперацыяў, да прыкладу, для затрымкі заўзятых ворагаў савецкай улады і бандытаў.

Камісар Трэпелеў, у сваю чаргу, аператыўна вышукваў ворагаў народу: нехта ім быў узяты ў распрацоўку, нехта знаходзіўся ў «яжовых рукавіцах» Трэпелева, альбо пад хатнім арыштам, некаму камісар адкрыта пагражаў арыштам і высылкай у Сібір. Казалі, што ад Трэпелева ўсе «трапечаць». Такім чынам, колькасць «ворагаў народу» у вёсках стала паступова павялічвацца, і вялікая заслуга ў гэтым належала новаму камісару, аператыўнаму ўпаўнаважанаму па асоба важных справах, альбо, як ён яшчэ сябе называў, – «старший упалнамоченный, опер-чекист, товарищ капитан Трепелев», альбо, як празвалі яго ў народзе – Цэрбер.

Смешнай выглядала сцэнка, калі заходзіла нейкая бабулька ў кантору і гаварыла:

– Паночкі, а не падкажыце, хто тут з вас вельмі намочаны, альбо ўпаў наважаны, ну гэты, як яго, Цэрбер?..

Праўда, у канторы ніхто не смяяўся.

## 18. Павуціньне (з нататніка заходніка)

*Паводле загаду абкамаў КП(б)Б вайсковымі палітаддзеламі рэгулярна стала праводзіцца палітвыведка (политическая разведка). Вынікі палітвышуку ўключалі нацыянальны і класавы склад насельніцтва, сацыяльнае становішча, прыналежнасьць да рэлігійных культаў і контррэвалюцыйных арганізацыяў. Актыўны ўдзел у вышукваньні ненадзейнага элементу бралі РОМы (раённыя аддзелы міліцыі), органы НКВД, байцы Чырвонай Арміі і Гвардыі, а таксама старшыні сельсаветаў, райвыканкамаў, аблвыканкамаў і сакратары партыйных арганізацыяў. Паралельна падазроныя асобы строга адсочваліся з боку раённай і абласной пракуратуры пад выглядам «наблюдательного производства». Так, сьпісы асобаў такога «производства» абласной пракуратуры даходзілі да некалькіх тысячаў чалавек у год. У гэтыя сьпісы траплялі ня толькі падазроныя «в измене Родины, ...в шпионаже, в диверсии, в вредительстве, ...в участии в контрреволюционно-повстанческих организациях, ...в вооружённой борьбе с ССР, але і «обвиняемые в антисоветской агитации и выступлениях, направленных против колхозного строя; абвінавачаныя «в жестокой эксплуатации трудящихся, ...в создании панического настроения среди населения... за отказ от советского гражданства и стремление к выезду за границу...». Цікавай можа быць фармулёўка «наблюдательное производство на лиц, обвиняемых за политические преступления с нераскрытым составом преступления»[1]. І тут ужо не важна – раскрытым было злачынства ці не – галоўнае, што быў сігнал, паводле якога чалавек узяты ў «распрацоўку», за ім наладжваецца слежка «наблюдательное производство», і справа рана ці позна будзе даведзенай да свайго лагічнага завяршэння – рашэнне асобай нарады (Особым Совещании при НКВД СССР).*

*Увогуле, усё насельніцтва было ахопленым, як нябачным павуціньнем, шырокай сеткай савецкай агентуры па збору аператыўнай кампраметуючай інфармацыі. Іншы раз, пры сустрэчах з знаёмымі альбо сваякамі, нават і найменшай падазронасьці не ўзьнікала, што гэта можа быць «асьведаміцель», які можа падаць на цябе цікавую інфармацыю для савецкай статыстыкі і далейшай аператыўнай распрацоўкі і «наблюдательного производства».*

[1] Паводле матэрыялаў Занальнага дзяржаўнага архіва г. Маладзечна: ф..Р-60.

# 19. Культурная рэвалюцыя

Неяк аднаго разу гаварыў Кацалапаў на чарговай сходцы актывістаў пра абавязковую патрэбу культурнай рэвалюцыі, пра тое, што культура пры Саветах павінна быць нацыянальнай па форме і сацыялістычнай па змесце; і што будзе такая культура падымацца на вельмі высокі сацыялістычны ўзровень.

«У першую чаргу, – гаварыў Кацалапаў, – культура павінна адлюстроўваць народны, класавы, пралетарска-рабоча-сялянскі светапагляд і адпавядаць ленінска-сталінскім прынцыпам і ідэалогіі. Калі прызнаецца вартай толькі культура працоўных і сялянаў, дык культура розных буржуяў, памешчыкаў, паноў і ворагаў народу з'яўляецца антыкультурай і чуждай пралетарска-савецкаму духу: такая культура ёсць культурай буржуазнага гніення і разлажэння, і такая культура можа быць знішчана ўвогуле, як элемент буржуазнай заразы і вялікай маральнай і матэрыяльнай шкоды для савецкага чалавека...».

Не лёгка было адразу асэнсаваць без нагляднай агітацыі ўсе гэтыя ленінска-сталінскія прынцыпы, каб зразумець, што такое савецкая культура. Але наглядная агітацыя з'явілася адразу ж з прыходам саветаў, а менавіта: услед за чырвонаармейцамі наляцела цэлая зграя нейкіх падазроных культурных і некультурных людзей у цывільным, вельмі даходных і пранырлівых, якія шнырылі, як галодныя сабакі, завуголлямі па былых бібліятэках, музеях, панскіх сядзібах і былых культурных установах у пошуках і мэтах знішчэння той культурнай буржуазнай заразы, шкоднай для савецкага чалавека. А пасля гэтыя праныры падганялі грузавыя машыны, куды загружалася старасвецкая «панская» мэбля, каштоўны посуд, рэдкія экзэмпляры кніг, абразы і іншыя ўнікальныя прадметы побыту і рэчы «ворагаў народу». Не адразу стала вядомым, што такую «культурную рэвалюцыю» праводзілі нейкія эмісары Маскоўскіх, Ленінградскіх і іншых расейскіх музеяў, якіх спецыяльна прыслалі сюды ў пошуках каштоўных і рарытэтных экспанатаў.[1]

[1] *У Менску фармаваліся цэлыя саставы вагонаў такіх экспанатаў з далейшай «эвакуацыяй» на ўсход. Так, два вагоны старажытных кніг, рукапісаў і царкоўнага начыння было вывезена толькі з Пінскай царкоўнай семінарыі. Куды зніклі дзясяткі тысяч рэдкіх кніг і рукапісаў з бібліятэк Радзівілаў, Сапегаў, бібліятэкі Храптовіча ў Шчорсах?!. Куды падзяваліся карцінныя галярэі з замкаў і палацаў? Бязлітасна былі разрабаваныя палац Радзівілаў у Нясвіжы і замак у Міры, сотні палацава-паркавых комплексаў былых магнатаў і шляхты. У Мірскім замку былі вынесены нават дзверы з каробкамі і вокны з рамамі, узарвана падлога і разабрана ўся кафля. У разрабаваным Гальшанскім замку актыўна праводзілася праца па вывазу маёлікавых пліт і цэглы. Паўсюль у заходняй Беларусі знішчалася культура і цывілізацыя. У тыя дні менскія кірмашы былі перапоўнены рознымі патрэбнымі і рэдкімі рэчамі. «Вызваліцелі» прадавалі ўсё, ад чаго толькі што «вызвалілі» народ*

«Савецкая культура павінна тварыцца рукамі саміх працоўных і сялянаў, – гаварыў Кацалапаў, – Мы знішчым старую культуру, каб на яе разваліна пабудаваць нашу, савецкую культуру, культуру новага чалавека, новай эпохі, новага часу… Вось, што такое культурная рэвалюцыя!..».

І хаця была гэтая прамова трохі каламутнай (зноў жа, патрэбна была наглядная агітацыя), але можна было здагадацца, што не абыдзецца гэта культурная рэвалюцыя, як і ўсякая рэвалюцыя, без забаронаў, без гвалту і без рэпрэсій.

Але напачатку вырашана было ў якасці такой нагляднай агітацыі скарыстаць руплівасць Сцяпана – яго зноў накіравалі на нейкія культурныя курсы, а гэта магло сведчыць толькі пра два моманты: першы - значыць выбары яшчэ не закончыліся і другі – пачынаецца культурная рэвалюцыя ў мясцовасці. Усе казалі, што Сцяпан і так залез высока, а зараз пойдзе ўгару, як цеста на дражджах. Але пасля заканчэння курсаў Сцяпан стаў «хатнікам» – гэта значыць загадчыкам хаты-чытальні, альбо бібліятэкі, якая была адкрыта ў Мазалях у хаце арыштаванага Гомана. Туды было завезена некалькі дзясяткаў кніжак, часопісаў і газетаў. Сцяпан казаў, што ён і надалей застаецца арганізатарам і кіраўнікам камуны, але ў камунараў зімою працы, як такой, вельмі мала. Зараз, зімой, галоўнае – гэта арганізацыя ўлады, кадравыя пытанні і культурная рэвалюцыя. Націск Сцяпан рабіў на культурнай рэвалюцыі, маўляў, а каму яшчэ рабіць такую рэвалюцыю, як не яму – прафесійнаму рэвалюцыянеру па жыцці. Праўда, на пытанне, а што такое культурная рэвалюцыя, Сцяпан доўга гаварыў пра тое, што ў нас усё павінна выглядаць адпаведна нацыянальным формам, а змесціва павінна быць сацыялістычным, але, што гэта такое, відаць, і сам не ведаў. А хата-чытальня, альбо бібліятэка, гэта так, яго пакуль што грамадскі абавязак па сумяшчэнні як дэпутата Ракавіцкага сельскага савета. Бо вось-вось павінны падаслаць спецыялістаў: і культработніка, і агітатара, і палітінфарматара, і бясплатнага доктара, і настаўніка, і ветэрынара, і агранома, і іншых спецыялістаў сельскай гаспадаркі і тады культурная рэвалюцыя будзе завершана цалкам. А першыя цаглінкі культурнай рэвалюцыі, адпаведна форме і змесціву, даручана залажыць яму, Сцяпану.

Зразумела, што хата гэта не зусім была прыдатнай для бібліятэкі: і стаяла яна неяк на водшыбе ад вёскі, і хадзіць ад

---

*заходняй Беларусі. Ці падлічыць калі хто-небудзь тыя матэрыяльныя страты ў сферы беларускай культуры ў выніку такога «вызвалення» цяжка сказаць. Адно толькі можна смела меркаваць, што сума гэта недзе вагаецца каля двух мільярдаў амерыканскіх даляраў, калі не больш.* З нататніка заходніка.

цэнтру (цэнтрам заставалася Багданоўка) было палова вярсты, але лепшых (пустых) хат у акрузе пакуль што не было. Лепшыя хаты, якія часова пуставалі ў выніку гвалтоўнага высялення гаспадароў як ворагаў народу, былі «забраніраваныя» для спецыялістаў з усходу.

Першае, што было зроблена Сцяпанам у чытальні – гэта на куце, дзе звычайна вісяць абразы, быў размешчаны партрэт Сталіна, а побач, на відным месце, на спецыяльнай паліцы ляжала кніга «Краткий курс истории ВКП (б)».

Каля парога чытальні, з рэкамендацыі Кацалапавага, Сцяпан павесіў скрыню з надпісам «Ваша пытанне Вялікаму таварышу І. В. Сталіну», але на працягу двух тыдняў ніхто так і не асмеліўся задаць пытанне самому Сталіну, і Сцяпан, зноў жа параіўшыся з Кацалапавым, змяніў надпіс на: «Ваша пытанне органам Савецкай улады». Але і пасля гэтага дапытлівых сярод вяскоўцаў да органаў доўга не было. Пасля, праўда, пытанні пасыпаліся... І яшчэ якія пытанні, кшталту, «Што такое Савецкая власць?», «Чаму ворагі Савецкага Саюза не дрэмлюць?», «Чаму камуніст – гучыць горда?» Сцяпан не адразу зразумеў, што такія няпростыя пытанні мала хвалявалі сялян, а калі прыгледзеўся да пісаніны, дык убачыў, што былі яны напісаныя адной рукою – і рука гэта была не абы каго, а самога Кацалапавага. На такія пытанні Кацалапаў сам і адказваў.

А калі Сцяпан яшчэ раз звярнуўся да людзей з просьбай падумаць над пытаннямі да органаў савецкай улады і яе дзейных членаў, Клімовіч вельмі гучна спытаўся: «А што ты маеш на ўвазе пад органамі і членамі?«. Рэакцыя ў чытальні была неадназначная: нехта засмяяўся, нехта, наадварот, насцярожыўся і прыціх, нехта пачаў даводзіць суседу нешта сваё пра органы і члены.

– Калі гэта орган, дык трэба назваць, які орган, а калі гэта нейкі член, дык які член? – не супакойваўся Клімовіч.

– Там, у іх, усе члены, – удакладніў Карповіч.

– А мяне цікавіць, якія? – цікавіўся настырны Клімовіч. – А то разьвялося тут розных членаў і начальнікаў, што й ня ведаеш, каго куды паслаць!

– Анікуды анікога пасылаць ня трэба, – знайшоў тады што сказаць Сцяпан. – А пытаньне тваё правакацыйнае і не тактоўнае, але калі ты так хочаш ведаць, дык я табе скажу... Улада ў нас адна, і яе прадстаўляюць такія людзі, як таварышы Кабяк, камісар Кацалапаў, Андраловіч і капітан Трэпелеў... Калі вам патрэбны канкрэтныя прозьвішчы, я іх напішу!

І сапраўды назаўтра на скрыні ўжо было напісана: «Ваша пытанне прадстаўнікам Савецкай улады на мясцох». І пытанні

пасыпаліся ў скрыню, а на бліжэйшым сходзе Сцяпан уласнаручна даставаў тыя пытанні і – на адны сам адказваў, а на іншыя – даваў слова Кацалапаву ці старшыні сельсавету Кабяку. Пытанні былі сама розныя, і не толькі пра зямлю і гаспадарку, да прыкладу: *«Чаму ў вас людзі дрэнна адзяваюцца?», Якая розніца між купцом і спекулянтам?», «Якая розніца між кулаком і працоўным селянінам?», Чаму ў нас эканамічныя праблемы?, «Ці не чакае нас голад?», «Чаму ў капіталістаў: ў Францыі, Англіі і Зша ёсць кампартыі, калі там, як вы кажаце, няма свабоды?», «Чаму дакладчыкі трымаюць рукі ў кішэнях?», «Чаму салдаты Чырвонай Арміі ходзяць галоднымі і пабіраюцца па хатах?», «Чаму вы нас абманываеце, у вас Армія разутая і раздзетая?», «Чаму ў крамах дарагія прадукты і няма прамтавараў?»*[1].

Шмат было пытанняў пра арганізацыю калгасу, пра структуры савецкай улады і канстытуцыю, пра адукацыю і культуру, да прыкладу: *«Ці можна будзе набываць пры саветах зямлю, і колькі?», «Ці можна будзе зямлю перадаваць па спадчыне?», «Ці можна будзе трымаць свойскую жывёлу, і колькі?»*. Была падазронасць у людзей, што шмат якія пытанні, асабліва такія, як *«Раскажыце нам пра камсамол»* альбо *«Раскажыце нам пра таварыша Сталіна»* сам сабе Сцяпан і задаваў. Бывала і такое, што на гэтых сустрэчах некага прарывала, і тады пытанні былі вуснымі і нечаканымі, да прыкладу*: «Чаму падаткі пры паляках былі амаль ў два разы меншыя?»*.

Калі на такіх імпрэзах прысутнічаў капітан Трэпелеў, дык ён звычайна ўскакваў і сурова папярэджваў:

– Тот, кто задаёт няправільныя пытаньні, тот будет атвечать на іх белым мядзведзям!..

А, напрыканцы дэманстрацыі такой дэмакратыі, не забываўся Сцяпан сказаць, што не ўсе пытанні могуць быць тут агучаны – ёсць пытанні, якія носяць яўны правакацыйны характар, і гэта яго насцярожвае. А пасля імпрэзы вяскоўцы, амаль што ў адкрытую, выказвалі сваё абурэнне, маўляў, чаму не было агучана пытанне *«Хто прасіў Чырвоную Армію прыходзіць на нашу тэрыторыю?»*, альбо, *«Ці праўда, што сабачая матка нараджае такіх, як Цэрбер і Пуценька?»*.

Тым не меней першыя дні працы гэтай хаты былі сапраўды плённымі: збіралася ў асноўным моладзь, рабілі вечарынкі, на якіх спявалі беларускія песні, чыталі вершы беларускіх

---

1 Выкарыстаны матэрыялы артыкула: Сяргей Токць. Арганізацыя савецкай уладай агітацыйна-прапагандысцкай работы ў Беластоцкай вобласці ў 1939 – 1841 гг. // Biaioruskie Zeszyty Historyczne,. Biaiystok, 2000, № 13.

паэтаў, ставілі драматычныя пастаноўкі. Усе жадаючыя маглі азнаёміцца з апошнімі навінамі культурнага і палітычнага жыцця паводле беларускамоўных газетаў і часопісаў. Можна было ўзяць нейкую кніжку з сабою і пачытаць дома. Але, пасля некалькіх грунтоўных праверак з райкама партыі і выклікаў Сцяпана «туды, куды трэба», сцэнары такіх вечарынак былі кардынальна змененыя: напачатку абавязковай стала лекцыя. Лекцыі былі рознай тэматыкі, у асноўным пра шчаслівае жыццё ў Савецкай Беларусі і Расеі, пра эпахальныя дасягненні савецкага народу пад мудрым кіраўніцтвам вялікага Сталіна і ВКП (б) ў будаўніцтве сацыялізму ў СССР і ў Эўропе, антырэлігійная тэматыка і крытыка царкоўнікаў, папоў і клерыкалаў («Пасха і яе рэакцыйная роля», «Рэлігія – вораг здароўя савецкіх працоўных» і іншыя), аб сусветным імперыялізме як апошняй стадыі загніваючай Амерыкі і Заходняй Еўропы.

Вострай, відаць, стаяла праблема з прафесійнымі лектарамі: некалькі разоў прыязджалі спецыялістыя з райкама – тады звычайна іх лекцыі суправаджаліся канцэртамі прыезджай агітбрыгады. Калі на такія вечарынкі райкам не мог выдзеліць лектара, тады гэты прагал часткова запаўняўся намаганнямі Сцяпана, які стараўся прыцягнуць да такой працы мясцовы актыў і мясцовую агітбрыгаду. Так, лекцыя на тэму «Ворагі і шкоднікі савецкага народу» была прачытанай Кацалапавым. Сам Сцяпан некалькі разоў чытаў лекцыі на тэмы: «Сталінская Канстытуцыя – самая чалавечная Канстытуцыя ў свеце» і «Правы жанчын у Савецкім Саюзе». А яшчэ Сцяпан любіў пагаварыць з людзьмі пра ідэалогію і дэмакратыю ў Савецкім Саюзе і бязлітасна паліваў брудам амерыканцаў. А пасля дакладваў камісару Кацалапаву, што прапагандыскалектарская праца на такую і такую тэму праведзена на высокім прафесійным узроўні.

Змяніліся істотна і канцэртныя праграмы: напачатку абавязковымі нумарамі рэпертуару былі песні і вершы пра вялікага і мудрага Сталіна, пасля пра ленінска-сталінскую Камуністычную партыю і яе выключную ролю ў Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі і савецкім будаўніцтве, пасля нумары (песні і вершы) пра Леніна і герояў Грамадзянскай вайны (Чапаева, Шчорса, Будзённага), а таксама патрыятычныя нумары пра любоў да Расеі і Масквы. І нарэшце, недзе напрыканцы праграмы, выпускалі бабулек у андараках і мужчынаў у драпаных лапцях з беларускімі народнымі песнямі і танцамі. Успрымаліся яны ў такой «хформе» несур'ёзна, са смехам (у вёсках лапці насілі толькі ў XIX стагоддзі), хаця і спявала на-

родная капэла тыя песні, без якіх не абыходзілася аніводнае свята ў вёсцы. Разам з тым савецкая ўлада забараніла Батлейку і спяваць беларускія песні: «Ад веку мы спалі», «Люблю свой край, старонку гэту...» і іншыя. Нельга было танцаваць танго і факстрот. Было забаронена адзначаць дзень закаханых – дзень Валянціна, а таксама ўсякія гулянні на Масленіцу, заместа яе былі прапанаваны ўрачыстыя «провады зімы с лыжным забегам». Пачыналіся такія праводзіны зімы ў пачатку вялікага посту, таму і не дзіўна, што на тыя праводзіны прыходзілі толькі актывістыя і камсамольцы. Увогуле на дні каталіцкага ці праваслаўнага посту маглі прыпасці значныя святы савецкай улады: Дзень Чырвонай Арміі, Міжнародны жаночы дзень, дзень народзін У. І. Леніна, дзень народзін Гітлера, 1-га Мая. А што сама галоўнае, дык гэта тое, што ў разгар посту абавязковымі сталі конкурсы мастацкай самадзейнасці. Кожны калгас, ці ўстанова павінны былі мець свой такі калектыў і прымаць удзел у раённых і абласных конкурсах. Адным словам, і сапраўды весела і радасна стала жыць ў дні вялікага посту.

Частымі сталі выпады, калі лекцыі і канцэрты прарываліся альбо адмяняліся рознымі фінансавымі органамі з райвыканкаму, з райсавету, з маслапрому, з сельпо, з дзяржстраху, з падатковай інспекцыі, з розных пралетарскіх фондаў і кантралюючых органаў, якія налятапі зграяй, раскладвалі свае паперы і пачыналі зверацць выкананне нормы натуральнага сельгаспадатку (пастаўкі мяса, масла, малака і курынага памёту), грашовага падатку і падатку на пабудовы, аплаты зямельнай рэнты, патрабавалі абавязковай аплаты страхоўкі і культзбору, грашовых складак у міжнародныя фонды Чырвонага Крыжа і Міру, на карысць галадаючых, і абавязковага набыцця кожнаму пралетарскай латарэі. Усе гэтыя паборы ў іх называліся так: «выполнение плана мобилизации средств с населения». А той, хто вельмі моцна абураўся такой «мабілізацыяй сродкаў», трапляў у «чорныя спісы» іншых органаў, і следакі за імі наладжвалі «наблюдательное производство». Такіх, праўда, было няшмат. У дзвярах тады звычайна выстрайваліся прадстаўнікі народнай міліцыі, якія вярталі на месца кожнага жадаючага «па нуждзе» у гэты момант пакінуць памяшканне хаты-чытальні.

Такі савецкі прапагандысцкі падыход астудзіў жаданні ў многіх вяскоўцаў прысутнічаць на гэтых вячорках. Бальшыня, зноў жа моладзь, старалася прыйсці на вячоркі тады, калі афіцыйная частка заканчвалася і пачыналіся танцы, а старэйшыя увогуле перасталі хадзіць на такія культурныя імпрэзы.

Разам з тым паралельныя альтэрнатыўныя вячоркі ладзіла моладзь, якая трымалася некалькі адасоблена ад моладзі камунарскай. Вечарынкі рабілі ў болей-меней прасторнай хаце, наймалі музыку і запрашалі моладзь з іншых вёсак. На такіх запрошаных вячорках часта ўзнікалі канфлікты і бойкі з тымі, хто быў не запрошаны, а прыходзіў.

Шматлікія імпрэзы праходзілі ў хаце-чытальні. І, як бы там не было, а Мазалі зноў сталі культурным цэнтрам наваколля (у 1930-ыя гады тут быў арганізаваны гурток Беларускага інстытуту гаспадаркі і культуры, які ладзіў беларускія вечарыны).

У лютым 1940 г. стварыўся гурток у вывучэнні асноваў марксіска-ленінскай тэорыі і гісторыі ВКП(б). Сельсавецкая сакратарка з агентам (новая пасада ў сельсавеце) хадзілі хатамі і запісвалі ўсіх «жадаючых». «Жадаючых» было амаль што 100 адсоткаў ад пражываючых у вёсцы дарослага насельніцтва. Капітан Цэрбер з Пуценькам паралельна праводзілі агітацыю: казалі, што той, хто не хоча вывучаць марксізму-ленінізму і гісторыю партыі, можа трапіць у новую партыю па вывучэнні і распрацоўцы лясных масіваў Сібіры і казахстанскіх стэпаў. Праўда, на заняткі, якія праводзілі камісар Кацалапаў і Калман, прыходзіла толькі некалькі чалавек, у асноўным начальства, моладзь і мужчыны. Ува ўсіх была адна прычына: няма часу. Жаночая частка насельніцтва ў гэтыя часы сядзела за калаўротамі і кроснамі, а мужчыны дапазна прападалі ў лесе на нарыхтоўцы дрэва. Дарэчы, для вывучэння гэтага «Кароткага курса...» былі прысвечаныя спецыяльныя дні. І колькі разоў бывала так, што тут вельмі нейкая пільная праца здарылася, а трэба кідаць яе і бегчы на тыя «курсы», ад якіх ніхто не бачыў ніякага толку.

Неяк павінен быў прыехаць правяраючы з раёну, паглядзець, як «трудзяшчыеся масы» аваладваюць марсіска-ленінскай тэорыяй. Лёталі тады ўсе сельсаветчыкі хатамі і ўгаворамі з абяцанкамі прасілі падысці для масавасці ў сельсавет, дзе будуць праводзіцца заняткі па вывучэнні гісторыі партыі. Тады шмат хто паслухаўся і хадзіў. Былі два начальнікі з раёну, сядзелі ў прэзідыуме. Камісар Кацалапаў дэманстраваў кнігу І. В. Сталіна «Краткий курс истории ВКП(б)» і даводзіў, што гэтая кніжка павінна быць на стале ў кожнага камуністага, у кожнага сапраўднага ленінца-сталінца, і ведаць яе павінен кожны савецкі чалавек назубок – наколькі праўдзіва ў ёй адлюстраваныя падзеі нашай гісторыі і цярністыя шляхі барацьбы з вонкавымі і знешнімі ворагамі. Пасля, пад дыктоўку Кацалапава, канспектавалі даклад Маленкова і «Апрельские тезисы».

І тут пажылыя слухачы курсаў раптам пачалі скардзіцца, маўляў, кепскія з іх вучні – аніяк не лезуць у галаву ім гэтыя «тэзісы», бо думаецца пра тое, як зярно кінуць у глебу, альбо ці хопіць пошару кароўцы да першай травіцы, альбо ці будзе чым бульён заскварыць заўтра, хоць дзеткам пасёрбаць, і гэтак далей... А Пашкоўскі з Дзёснаў адкрыта сказаў:

– Пан начальнік, не круцяцца ў мяне шарыкі ў галаве на гэтыя марксізмы – у мяне карова на цяленні – трэба глядзець, а тут загналі сюды, ці можна, я дахаты пайду? У мяне жывот баліць...

І тады вусаты правяраючы з прыезджых зрабіў выступ, прыкладна, такога зместу: «*... Мы имеем ряд случаев, когда коммунисты, не изучая историю партии, не усвоив истории борьбы нашей партии со всякого рода врагами, сживаются или не могут понять всяких махинаций и уловак классового врага. Это нужно особенно помнить здесь, в западных областях, где нас окружает всякого рода враждебная свора, всякие отморозки, типа «ходэков», «спадароў» и недобитых панов и подпанков, которые всякими путями стараются опутать наших работников»*[1].

Пачуўшы такі выступ, мужчыны заціхлі. І Пашкоўскі заціх, забыўся і пра карову на цяленні, і пра жывот свой, і пра шарыкі – сядзеў моўчкі да апошняга слова і апошнім выйшаў.

На адным з такіх заняткаў Калман зачытаў зварот раённага камітэту камуністычнай партыі бальшавікоў пра новае свята: *«Аб святкаванні 22-й гадавіны РСЧА і ВМФ (Рабоча-сялянскай Чырвонай Арміі і Ваенна-марскога Флоту)». Прадугледжвалася «правесці [свята] як масавую палітычную кампанію. Праводзіць пад лозунгам асвятлення вялікай ролі Леніна і Сталіна як натхняльнікаў перамог Чырвонай Арміі на ўсіх франтах грамадзянскай вайны і ў справе будаўніцтва Узброеных Сіл СССР, далейшага ўмацавання РСЧА і ВМФ, тлумачэння міжнароднага становішча. Расказаць шырокім масам працоўных аб героях грамадзянскай вайны і Героях Савецкага Саюза, аб гераічных подзвігах Чырвонай Арміі ў раёнах возера Хасан і Халхін Гол, пры вызваленні Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны ад белапольскіх буржуяў, паноў і капіталістаў»*[2].

Падобная рэкамендацыя зачытвалася і перад святкаваннем 8 Сакавіка, толькі з той розніцай, што асвятляцца павінна была вялікая роля Надзеі Крупскай, Розы Люксембург і Клары

1 Паводле матэрыялаў Занальнага дзяржаўнага архіва г. Маладзечна: ф..Р-60
2 Паводле кнігі: Памяць. Воранаўскі раён. – Мінск: «Бел. Энцыклап.», 2004.

Цэткін як натхняльніцаў да вялікіх перамог Леніна, Сталіна і байцоў Чырвонай Арміі, у тым ліку і ў гістарычным вызваленчым паходзе ад польскага гнёту.

Змянілася сітуацыя і ў школцы, што відаць было па дзецях. У іх мове з'явілася шмат расейскіх слоў, часта можна было пачуць з іх вуснаў прозвішчы, імёны партыйных савецкіх дзеячаў, расейскіх і савецкіх пісьменнікаў, герояў-рэвалюцыянераў. Калі раней заняткі распачыналіся малітвамі, дык цяпер – песнямі. Дзеці і настаўнікі спявалі «Інтэрнацыянал». У кожным класе былі развешаныя партрэты Леніна і Сталіна, былі яны амаль што ў кожнай кнізе, і дзеці малодшых класаў шчыра ўспрымалі гэтыя выявы заместа абразоў.

Не дзіўна, што неяк дзесяцігадавалы Чэсік Антосеў прыйшоў са школы і адмовіўся крысціцца перад ядой.

– Пакрысьціся, пакуль яшчэ бацька не бачыў, – папярэдзіла яго старэйшая сястра Стася.

– Мой бацька – Сталін! – заявіў малы, і ўсе прыціхлі.
– Ага! Спалохаліся! – абрадаваўся Чэсік і заявіў больш катэгарычна:

– Бога няма!

У хаце павісла паўза. Першай апомнілася Стася:

– Ты што такое гаворыш, Чэсік? Пабойся Бога...

– Я сказаў, што Бога няма! – зноў заявіў малы.

– Добра. А калі так, дык хто тады ёсьць? – спыталася маці.

– Ёсьць бацька Сталін, які ўсё можа... Ён нават цукеркі можа даць дзецям, толькі яго папрасіць трэба.

Разбіралася з ім пасля Ганька, і цяжка было паверыць у тое, што яна яго здолее пераканаць у адваротным.

А наконт цукерак тых была такая гісторыя. Новая настаўніца, якая прыехала аднекуль з Віцебшчыны, любіла праводзіць антырэлігійную адукацыю сярод дзяцей.

– Ну, дзеткі, – казала настаўніца, – папрасіце цукерак у свайго бога, ці дасьць ён вам хоць адну цукерачку...

І дзеці пачыналі маліцца і прасіць: «Ойча наш, каторы ёсьць у небе... дай нам цукерачку, Божа...». Зразумела, што цукеркі не падалі аднекуль з неба, і тады радасная настаўніца казала: «А цяпер давайце папросім цукерак у таварыша Сталіна!». Дзеці накіроўвалі свае чыстыя вочы на прартрэт Сталіна і хорам за настаўніцай паўтаралі: «Дарагі наш таварыш Сталін, мы рабяты-акцябраты любім Вас, як бацьку роднага, за шчасьлівае наша дзяцінства ў Савецкай шчасьлівай краіне. Мы

не галодныя, але хочам салодкіх цукерак. Будзем удзячнымі вялікаму таварышу Сталіну за нашае салодкае жыцьцё!». Пасля гэтых словаў, як не дзіўна, на стале настаўніцы з'яўляўся газетны кулёк з цукеркамі «падушачкамі», якім настаўніца частавала кожнага вучня.

А Яська неяк прыйшоў са школкі і катэгарычна заявіў:

– Усё, болей у гэтую школу я не пайду!

– Чаму? – спыталася Ганька.

– Там абзываюцца...

– Дык анічога страшнага, усіх абзываюць, ведама, дзеці...

Тут Антось зноў насцярожыўся – сёння ўсе гэтыя абзывалкі і мянушкі часта бываюць не столькі абразлівымі, колькі з палітычнай падкладкай. Дзеці вельмі часта дражняць адзін аднаго палітычнымі ярлыкамі сваіх бацькоў. У мястэчку бацьку арыштавалі як трацкіста, і прыстала да сына, школьніка, мянушка Трацкіст. А колькі зараз сярод дзяцей «Кулакоў» і «Падкулачнікаў», розных «Куркулёў», «Агентаў», «Шпікоў»...

– Абзываюцца ня дзеці, а настаўніца! – удакладніў Ясік.

– Настаўніца? – здзівілася Ганька.

– Ага! – пацвердзіў малы. – Яна на мяне кажа: «Ва-а-а-ня...».

І тут малы так скрывіўся, што нават Антось адчуў усю крыўду ад такой абразы. Стрымліваючы сябе ад смеху, Антось супакоіў малога, маўляў, гэта яшчэ не горшы варыянт, крыўдна будзе, калі назавуць Казлом якім-небудзь ці, як некаторых, Баранамі. І малы тады супакоіўся і з радасцю стаў пералічваць абразлівыя мянушкі сваіх равеснікаў.

Трывожыў Антося той факт, што дзеці ўсё часцей і часцей сталі агрызацца на заўвагі старэйшых, сталі рабіцца непаслухмянымі, нейкімі цяжка кіруемымі. Антось, праўда, такую моду не стаў заводзіць у хаце – раз сказаў, а замест другога разу – пайшла гуляць дзяга.

Неяк раз, за свавольства, лупцануў ён злёгку сама меншага – Юзіка. Той не плакаў, толькі адляцеў трохі ўбок і праз слёзы пракрычаў:

– І ніякі ты ня татка!

– А хто? – насцярожыўся Антось. Можа, што дзеці гавораць у школцы, можа, дзе што падслухалі ад дарослых... Тут можна было чакаць усяго...

– Дык хто я, калі ня татка? – далікатна паўтарыў пытанне Антось.

– Папка ты! – выкрыкнуў малы са злосцю так, быццам асмеліўся на вялікую абразу.

А аднаго разу прыйшлося Антосю зноў узяцца за дзяжку і добра адлупцаваць сваіх падшыванцаў-школьнікаў. Ясь з Чэсікам прыйшлі са школы і нeяк варожа сталі паглядаць ўбок Антося. Тады Антось зразумеў, што тут нешта не так і падгаварыў свайго старэйшага Пецьку даведацца, з якой такой нагоды яны касавурацца на бацьку. Аказалася, што ў школцы павесілі партрэт хлопчыка, «прадсядацеля» піянерскага атрада, бацька якога быў ворагам народу. Настаўніца ім расказвала, што хлопчык гэты быў сапраўдным піянерам-сталінцам, ён стаў сачыць за тым, як яго бацька з іншымі кулакамі шкодзілі арганізацыі калгасу – заганялі каровы ў дрыгву, дзе каровы гінулі. А хлопчык, як сапраўдны ленінец, высачыў і далажыў камуністам аб варожай дзейнасці свайго бацькі. Бацьку арыштавалі, а хлопчыка кулакі забілі – так ворагі савецкай краіны адпомсцілі хлопчыку. Звалі хлопчыка Паўлікам, і яму было столькі ж гадзікаў, колькі і ім. Для ўсіх нас, – казала настаўніца, – Паўлік павінен стаць яскравым прыкладам сумленнасці, смеласці і гераізму.

Антось тады толькі і сказаў малым, што каб Паўлік той не сунуў нос куды дзецям сунуць не трэба, дык і сёння жыў бы, а сам задумаўся. Вось так хлопчык, які падвёў свайго бацьку пад расстрэльную «стаццю» стаў героем і прыкладам для выхавання і будзе ўвекавечаны ў гэтым грамадстве, а пра 25 вучняў Ашмянскай гімназіі, якія аказалі гераічны супраціў бальшавікам разам з дарослымі і былі расстраляныя, ніхто не згадае і ніхто іх героямі не зробіць…

А сувязь з Антосем, малыя бачылі ў тым, як бацька ўсім даводзіў, што зярна ў гаспадарцы – ані каліва, а сам, тым часам, прыхаваў два мяшкі жыта ў склепе пад бульбай. Яны бачылі і прыйшлі да высновы, што бацька наш «нячэсны», абманшчык і вораг народу...

Пасля з гэтымі маладымі «паўлікамі» мелі выхаваўчыя гутаркі Ганька і старэйшыя дзяўчаты, праўда, біблейскія аргументы наконт таго, што «трэба шанаваць бацькоў сваіх», здаецца, мала падзейнічалі на іх, бо падшыванцы ў адказ зарупіліся стаць піянерамі, такімі, відаць, як гэты Паўлік... І тады Антось узяўся за дзяжку – гэта, відаць, быў больш пераканаўчы працэс выхавання, бо гутаркі наконт «нячэснага» бацькі і піянерства болей у хаце аніколі не ўзнікалі.

Праўда, пасля гэтых школьных выхаваўчых выпадкаў, вырашыў Антось не пускаць дзяцей у такую бясплатную шко-

лу, у якой вучаць дзяцей чорт ведама чаму. І пры паляках было: «Хто ты естам – поляк малы...», але ж не даходзіла да таго, што Бога няма... І што талковае можа вырасці з дзіцяці, якога такія настаўнікі вучаць адносіцца да бацькоў з недаверам і непавагай.

...А жыта тое ў склепе Антосю прыйшлося перахаваць у іншае месца.

Нельга было не заўважыць і яшчэ адзін момант, які рабіў свае ўплывы на выхаваўчыя працэсы дзяцей, – момант прышлай разбэшчанай пралетарска-люмпенскай атмасферы. Відаць, школьная навука мала займала памяць і цікавасць дзяцей і яны хапалі на ляту ўсялякую пахабшчыну, лаянку, нецэнзурныя анекдоты і розныя выразы, якімі можна было сёння «узбагаціць» свае веды, пакруціўшыся каля старэйшых школьнікаў, чырвонаармейцаў і іншых прыезджых «спецыялістаў». Праўда, і раней не прыходзілася чуць Антосю, каб дзеці дэкламавалі адзін аднаму праграмныя вершы, але раней не гаварылі і розную пахабшчыну, а тут неяк выпадкова пачуў Антось ад сваіх падшыванцаў кшталту: «У Камяніцы на гарыцы, прасіў заяц у лісіцы, а лісіца не давала, дзюрку лапай прыкрывала...». Але, калі такую тэматыку яшчэ можна было растлумачыць дзіцяча-хлапечай цікавасцю (падобныя творы згадваў Антось і са свайго дзяцінства), дык як зразумець і растлумачыць, навошта і каму было патрэбна ўкладваць у вушы дзецям такія лічылкі, як: «Вышел лётчик из тумана, вынул ножик из кармана, буду резать, буду бить, с кем останешся дружить», альбо творы, кшталту: «Когда я был мальчишкой, носил я брюки клёш...», асабліва радкі «Я мать свою зарезал, отца свойго убил, сёстрёнку-гимназистку в уборной утопил...», цяжка было сказаць. Так на змену любімага дзіцячага верша Янкі Купалы «Мой мілы, таварыш, мой лётчык...» – прыйшоў «...лётчик из тумана, вынул ножик из кармана...».

Тады цэлы вечар Антось з Ганькай праводзілі выхаваўчую працу з дзяцьмі, каб «не забівалі» яны свае дзіцячыя галовы ўсякай гадасцю і пошасцю. З часам дзеці, падалося, сталі нешта разумець і больш крытычна ўспрымалі рэчаіснасць і ўсялякую навіну, асабліва, калі знасілася адзенне і абутак, а порткі і боты прыходзілася насіць па чарзе.

А купіць новыя не было за што і не было дзе.

Моладзь, як і раней, ладзіла вячоркі, толькі іх цяпер імкнуліся скарыстаць камсамольцы для сваёй агітацыі. Пастаяннымі сталі камунарскія вечарыны, на якіх танцы перарываліся нумарамі мастацкай самадзейнасці і іншы раз

лекцыямі пра міжнароднае становішча. А нумары тыя (песні, вершы, аповяды) былі прасякнутыя савецкай ідэалогіяй.

У Мястэчку ў нядзелю сталі круціць кіно. Месцам пад кінаклуб была абрана былая плябанія. Прыязджалі з раёну кінамеханікі, якія наладжвалі кінаўстаноўку, завешвалі вокны посцілкамі і заводзілі на вуліцы «дзвіжок», які лапатаў іншы раз так, што глушыў галасы, якія гучалі з экрана (белай прасціны). Нягледзячы на тое, што кіно круцілі акурат у той час, калі праходзілі набажэнствы ў храмах, жадаючых глянуць хоць адным вокам на гэтае дзіва было вельмі шмат, асабліва дзяцей і моладзі. Зразумела, што большасць фільмаў было пра Леніна і рэвалюцыю («Ленин в Октябре», «Ленин в 1918 г.», «Человек с ружьём», «Чапаев», «Мы с Кронштадта» і іншыя), але паказвалі і гістарычныя: «Александр Невский», «Пётр Первый». Пра што не паказвалі б, а глянуць было цікава. Усе былі вельмі ўражанымі, маўляў, па сценах коні лётаюць, людзі ходзяць і страляюць, машыны ездзяць... Цікава. Толькі вось старыя людзі крысціліся і ўцякалі ад такога дзіва, маўляў, жывыя чэрці носяцца па сценах.

Праўда, і тут, перад кінасеансам, напачатку быў даклад. І часта рабілі так: таго, хто не прыходзіў на даклад – не пускалі і ў кіно.

Савецкае кіно было яскравым узорам савецкай культуры – сацыялістычнай па змесце і нацыянальнай па форме. І пра гэта ўвесь час гаварыў дакладчык. Але жыццё паказвала зусім іншыя прыклады культуры, з іншымі формамі і зместамі, і яны, чамусьці, не супадалі з тымі, пра што гаварылася і паказвалася ў кіно. У жыцці неяк усё выглядала не так, у сапраўднасці было ўсё больш празаічна, больш драматычна і трагічна. Але што яднала савецкае кіно з савецкай рэчаіснасцю, дык гэта ненатуральнасць, неякая штучнасць, прытворнасць – усё рабілася як у нейкім непрафесійным тэатры, з надуманымі і штучнымі дэкарацыямі з вельмі прымітыўнай пастаноўкай і няздольнымі акцёрамі... Толькі ў кіно гэта выглядала больш-менш прыгожа, а ў жыцці – страшна.

Неяк на дзвярах хаты-чытальні і «Главного сельского управленія Советской Народной Власті» размясцілі абвестку вялікімі літарамі на мятровых папяровых шпалерах пра КАНЦЭРТ КАБэРДэКа. І не кожны мог зразумець і прачытаць ніжэй мелкімі літарамі што гэта КАБэРДэКа – «Камсамольская агід-брыгада раённага дому культуры». А прачытаўшы, хацелася даведацца, што гэта за «агід-брыгада» і чаму «агід?». Сцяпан толькі казаў, што, каб гэта ўсё зразумець, трэба быць са-

мому на канцэрце. І не зразумела было: жартаваў ён, ці казаў праўду.

А на канцэрт той прыйшло трохі народу, зразумела, што больш было моладзі і дзяцей. У праграме, як заўсёды: даклад, літмантаж, песні і вершы пра партыю, Леніна, Сталіна, была нават адна смешная (смяяліся толькі дзеці) сцэнка пра тоўстага буржуя. Але найбольш было песняў: спявалі пра Маскву маю, Кахоўку, Арлёнка і матроса Жалезняка. Пасля гэтых песняў стаў нешта выкрыкваць з месца мясцовы музыка Санька. Урэшце вядучы звярнуў на яго ўвагу пытаннем:

– А ці ня хоча таварыш паскакаць па сцэне?

– Ня хоча! – катэгарычна заявіў Санька. – А вось вы скажыце лепш, чаму ў вас усе песні на адну мелодыю, а кампазітары розныя?

– Не зразумеў, што вы маеце на ўвазе…

– Песьні пра Кахоўку, Арлёнка і матроса Жалезьняка[1] на мелодыю адной любімай песьні Давіда Рабіновіча зь Мястэчка – толькі ён яе на жыдоўскай мове сьпявае, – удакладніў Санька і сеў на сваё месца.

– Таварыш, відна, ня мае музычнай адукацыі і музыкальнага слуху, – стаў выкручвацца з няёмкай сітуацыі вядучы і гэтым толькі расмяшыў прысутных.

Казаць пра тое, што Санька не мае слуху, было вялікім глупствам – чалавек, які з дзяцінства граў і грае на ўсіх інструментах, якія толькі трапляюць яму ў рукі, і іграе так, што зайздросцяць прафесійныя музыкі.

Вядучага абсвісталі і ён вымушаны быў хавацца недзе за занавескамі і да канца канцэрту не высоўваўся адтуль. Дарэчы, і акцёры не паказалі пераканаўчага высокага сацыялістычнага ўзроўню – у вёсках былі такія спявачкі, якія паасобку перакрычалі б усю іх капэлу разам узятую, а Санька лёгка перайграў бы адзін увесь іх квартэт.

На гэтым канцэрце шмат прысутнічала незнаёмых новых упаўнаважаных. Сядзелі яны ў першым радзе і важна зрэдку пляскалі ў далоні. Пасля адзін з іх падняўся на сцэну і стаў гаварыць доўга і нудна пра нейкі «всевобуч». Напачатку думалі, што гэта нейкі чалавек з такім прозвішчам, да якога трэба будзе хадзіць кожны вечар і сядзець да ночы чорт ведама чаго. І калі ўпаўнаважаны прапанаваў запісвацца да гэтага «всевобуча», дык ніхто нават не пашавяліўся. На такі нечаканы паварот справы ўпаўнаважаны вытрымаў паўзу і сумна прамовіў:

[1] Песні «Партизан Железняк» – музыка М. Блантера, словы М. Галоднага, 1935; «Песня о Каховке» – музыка І. Дунаеўскага, словы М. Святлова, 1936; «Орленок» – музыка В. Белага ( сапр. - Давід Вейс), словы Я. Шведава, 1936.

– Ну што ж, прыйдзецца застаўляць…

І тады на дапамогу ўпаўнаважанаму прыйшоў Сцяпан і стаў тлумачыць пра гэтага «всевобуча» трохі прасцей:

– Мы закручваем такую новую праграму для боўдзілаў, якіх не навучылі палякі чытаць, пісаць і рахаваць.

– Э-э-э! Калі не навучылі палякі, дык наўрад ці навучаць Саветы. – выказаў сумненні Болюсь Бутка.

– Гэтыя навучаць, – упэўнена заявіў Сцяпан. – Пры Саветах кожны павінен быць «граматным» настолькі, каб кухарка, ці калгасны конюх маглі кіраваць дзяржавай.

– А чаму калгасны конюх, а не камунарскі? – здзівіўся Болюсь Бутка, які апошнім часам працаваў конюхам у камуне.

– А таму, што замест камунаў будуць калгасы, і ты будзеш калгасным конюхам, – паабяцаў Сцяпан.

– І я буду кіраваць дзяржавай?

– Будзеш! – заверыў Сцяпан.

– А кухарка?

– Знойдзем табе кухарку…

– Калі гэта будзе, – задумліва прагаварыў Болюсь.

– Будзе! – упэўнена пераконваў Сцяпан.

Канцэрт завяршыўся песняй «Широка страна моя родная»; песню дружна падхапілі ўпаўнаважаныя і некаторыя мясцовыя актывісты. Смешна было глядзець збоку, як шырока адкрывалі свой рот у такт песні Казакевіч, Пуценька і Сцяпан, не ведаючы яе слоў. Над гэтым відовішчам весела пацяшаўся Янук Дайновіч.

– Ты глядзі, глядзі, як яны бязмозгла зяпу адкрываюць! – гаварыў ён і штырхаў Антося пад бок.

Выгляд у спевакоў і сапраўды быў такім, што, здавался, яны не толькі слоў не ведаюць, але і не разумеюць сэнсу гэтых слоў. Праўда, сэнс той было зразумець няпроста. Антось, слухаючы, іншы раз задумваўся над гэтымі словамі. Чаму «человек проходит, как хозяин», а не працуе як сапраўдны гаспадар?.. І што будзе, калі кожны пачне прахаджвацца як гаспадар – хто тады працаваць будзе?.. Як у камуне той. Альбо, як можна было зразумець сэнс « Каховка, Каховка – родная винтовка… Горячая пуля, лети!» – гэта ж якім трэба быць чалавекам з нейкай псіхалогіяй забойцы-маньяка, для якога вінтоўка і сапраўды можа стаць роднай з адпаведным задавальняючым пасылам гарачай кулі! Ці разумеюць усе гэтыя пісакі такіх песняў і іх выканаўцы, што праз такія «сэнсы» ідзе нейкая адурманванне сілай зброі, абясцэнванне чалавечага жыцця і ўслаўленне той нікчэмнасці, якая з той жа самай




«роднай» вінтоўкі, і таго «чалавека з ружжом» з вялікай асалодай дашлюць гарачую кулю кожнаму, хто будзе інакш разумець савецкія песні…

А неўзабаве абавязалі прыйсці кожнага, хто заместа свайго роспісу ў дакументах ставіў крыжыкі, да таго «всевобуча» – такіх набралася недзе каля двух дзясяткаў. Праўда, чамусьці заместа вучобы сталі чытаць непісьмовым людзям лекцыі пра міжнароднае становішча і ролю партыі Леніна-Сталіна. Ці была якая карысць ад гэтых лекцыяў, цяжка сказаць. Тут як для каго: для адных гэта быў пусты занятак, бо галаву даймалі зусім іншыя праблемы, а для тых, хто з захапленнем глядзеў у рот савецкаму лектару і шчыра верыў у кожнае слоўца, якое з лёгкасцю, як з пушчалкі, вылятала адтуль – такія заняткі былі ў радасць. Пуценька, да прыкладу, хоць і ўмеў паставіць свой аўтограф там, дзе трэба (і дзе не трэба), і газету нават мог прачытаць, а на лекцыі хадзіў рэгулярна, сядаў у першым радзе, задаваў пытанні і нават нешта канспектаваў. А пасля сталі на гэтыя лекцыі заганяць, як і раней, усіх: і пісьменных і непісьменных.

– Вучыцца трэба! – казаў Пуценька. – Бо так можна ўсё жыццё пражыць і дурнем памерці...

Але бальшыня ўсё ж такі лічыла, што вялікай радасці ў тым, якім паміраць, не было, і на такія лекцыя старалася не паказваць носу.

Не хадзіў на гэтыя лекцыі і Антось, хоць быў ужо не раз спазнаўшы на сябе тую Пуценькавую навуку.

Аднаго разу Пуценька, ідучы за гумно, як ён казаў «па фізіёлягічнай патрэбе», спыніўся і раптам спытаўся ў Антося:

– А ці ведаеш ты, халоп, што такое жыцьцё?

Тады гэтае «ты» і гэтае «халоп» вельмі моцна рэзанулі па слуху, але Антось ужо стаў звыкацца з такой пераменай Пуценькі, відаць, навука тая пайшла яму на карысць.

– А халеры яго ведае, што гэта такое... Вось жывеш, і добра...

– Пачакай трохі, я зараз буду ісьці назад і растлумачу хвілясофію жыцьця...

Антося гэтая «хвілясофія» не надта цікавіла, але Пуценьку выслухаць варта было, хаця бы ў мерах тактычных.

Пуценька за гумном сядзеў доўга. Але і Антось на сваім падворку не заставаўся без працы – на ганку стругаў тапарышча.

Пуценька падышоў да Антося, зашпіліваючы на хаду дзяжку.

– Дык слухай, цемната несусьветная: жыцьцё – гэта спосаб існаваньня бялковых целаў. Во!.. Па Марксу з Энгельсам сказана! – выдаў Пуценька.

– Целаў кажаш? – перапытаў Антось.

– Целаў! – пацвердзіў Пуценька.

– Гэта значыць, калі маё цела існуе, значыць я жыву? – удакладніў Антось.

– Ну, не зусім дакладна – тут спосабы патрэбныя, але ў прынцыпе так, – пагадзіўся Пуценька. – Вось ты, якім спосабам карачкаешся?

– Я?.. Ну, прама сказаць... А ты?..

– Я шмат ведаю, але не для цемнаты, – важна падкрэсліў Пуценька.

– Ой, сьвятло, ведаю я твае спосабы існаваньня за маім гумном...

– А што зробіш, такі закон…

– Няма такога закону, каб гумны чужыя абсіраць! – Антось пачынаў злавацца.

– Якая некультуршчына! – пакрыўдзіўся Пуценька. – Гэта закон есьцественных надабнасьцяў, бязь іх нельга... А наконт закону абсіраньня... Няма, дык будзе! – паабяцаў Пуценька і шпарка пакрочыў да сваёй хаты.

## 20. Справа Пятровіча і выбары ў Вярхоўныя Саветы

А неўзабаве сталі гаварыць пра новыя выбары, маўляў, вельмі шмат панаехала начальства з усходу і не кожнаму хапае месца ў кабінетах. Болюсь так казаў:

– Гэтага начальства зараз развялося як вераб'ёў на току. І глядзі, што робіцца: аніводны прыехаўшы ня ўзяў лапату ў рукі, а ўсё стараюцца з партфелямі шпацыраваць!.. Ня будзе толку!...

На гэты раз выбары былі прызначаныя ў Вярхоўныя Саветы БССР і СССР на 24 сакавіка.

Як усякія выбары, так і гэтыя распачыналіся з вылучэння кандыдатаў.

На чарговым сходзе, якім камандаваў на гэты раз старшыня сельсавета таварыш Кабяк, з гэтай нагоды на парадак дня было вынесена адно пытанне:

– Аб вылучэньні кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР таварыша Калінкіна – першага сакратара Вілейскага абкама партыі і таварыша Дордзіка – першага сакратара Смаргонскага райкама партыі кандыдатам у Вярхоўны Савет БССР...

Побач з таварышам Кабяком за сталом сядзелі Кацалапаў, Трэпелеў і Сцяпан.

– А можна пытаньне? – нешта было незразумела Міколу Рындзевічу, селяніну з суседняй вёскі Быкі.

– Калі ласка! – дазволіў старшыня сельсавета.

– А можна прапанаваць яшчэ адну кандыдатуру?

– А што вы маеце супраць гэтых кандыдатаў? – насцярожыўся Кацалапаў.

– Я супраць іх анічога ня маю, але разам зь імі павінен быць і наш чалавек, зь сялянаў, з барацьбітоў за працоўны народ, за нацыянальнае вызваленьне, за нас, за нашу культуру, – даводзіў Рындзевіч.

– Дык вось, нашы кандыдаты, і таварыш Калінкін, і таварыш Саламон Абрамавіч Дордзік якраз такімі і зьяўляюцца, – стараўся пераканаць Кацалапаў.

– Можа, яны такімі і ёсьціка, але мы іх ня ведаем, яны ж не тутэйшыя – даводзіў сваё Мікола Рыньдзевіч.

– А вы, канкрэтна, можаце прапанаваць нейкія кандыдатуры? – зацікавіўся Кабяк.

– Магу! Такімі кандыдатурамі могуць быць і Сьцяпан Андраловіч, і Янук Дайновіч, і Міхась Сідаровіч – усё яны

прайшлі шляхам беларускай Грамады, КПЗБ і польскія турмы за беларускасьць і прыхільнасьць да сацыялізму... А мы нешта ня чулі, каб таварышы Калінкін і Дордзік у польскай турме сядзелі…

– Так, народ мае права вылучаць сваіх кандыдатаў, але пытаньне гэтае вырашаецца лепшымі прадстаўнікамі ад народу – камуністамі і мясцовымі саветамі…

Людзі зашумелі і пачалі нешта абмяркоўваць між сабою.

– Ёсьць яшчэ пытаньні? – крычаў Кабяк, але яго, здавалася, ніхто не слухаў.

– Ёсьць! – з першых шэрагаў прысутных падняўся Мікола Рындзевіч, выйшаў і заняў месца за трыбунай.

Людзі, як па камандзе, заціхлі.

Рындзевіч разгарнуў аркуш паперы і стаў чытаць:

**«Пратакол:**

*Мы, падпісаўшыся ніжэй, сяляне, рабочыя і батракі на агульным перадвыбарчым сходзе пастанавілі:*

*Вылучыць кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР для тайнага галасавання па выбарчай акрузе № 415 Пятровіча Мацьвея Сямёнавіча, 1894 года народзінаў, беларуса, селяніна, бедняка, земляроба з вёскі Быкі, Палачанскай воласьці, Маладзечанскага раёна, былога сябра падпольнай камуністычнай партыі Заходняй Беларусі і Польшчы.*

*Таварыш Пятровіч Мацьвей Сямёнавіч вядомы ўсім ідэйны бальшавіцкі рэвалюцыянер, камуніст, усей душой аддадзены партыі Леніна-Сталіна. Дваццаць гадоў падпольна і адкрыта сьмела змагаўся за Савецую Ўладу ў былой Польшчы; на кожным кроку і на кожным месьце – усюды праводзіў агітацыю за Савецкую Ўладу і Савецкі Саюз, хто толькі ня чуў яго рэвалюцыйных гарачых прамоваў пра панска-фашысцкую Польшчу. Ненавідзелі фашысты і іх прыхвасьні Пятровіча: два разы высылалі яго ў высылку ў канцэнтрацыйны лягер у Пазнані, а ў апошні час на катаргу ў Картуз-Бярозу, дзе панскія каты назаўсёды зрабілі Пятровіча калекам. Пятровіч сьмела змагаўся з панскай акупацыйнай уладай за штодзённыя патрэбы рабочых і сялян, супраць каланізацыі і белага тэрору, рэпрэсіяў, зьдзеку, гвалту і рабства. Паны і агенты дэфензівы 4 разы арганізоўвалі замахі на жыцьцё Пятровіча.*

*У 1932 годзе ўпраўляючы пана Свектарыскага вахмістар дэфензывы Ян Бурчык з рэвальвера прастрэліў таварыша Пятровіча – куля ўвайшла ў плячо, а выйшла пад барадой*

*каля горла, – а пасьля зьявіўся на пастарунок паліцыі і сказаў: «Забілі круля беларускіх камуністаў»!.*

*А колькі Пятровіч адпакутваў за Савецкую Ўладу ў дэфензывах і турмах. Ні польскія суды, ні белы тэрор не напалохалі Пятровіча спыніць сваю рэвалюцыйную працу. У 1928 годзе, пасьля разгрому Пятровічам усіх антысавецкіх, дэфензыўна-паланафільскіх Паўлюкевічавых арганізацыяў і, пасьля, як скінулі таварыша Пятровіча з пасады войта Палачанскай воласці, паны-акупанты пазбавілі таварыша Пятровіча ўсіх палітычных правоў і пасадзілі пад хатні арышт і нагляд паліцыі. Таварыш Пятровіч ня меў права без дазволу паліцыі выйсьці з сваей вёскі Быкі, але нягледзячы на рэпрэсіі і тэрор, не змаглі зламаць яго бальшавіцкай ідэі, і ён пайшоў на катаргу ў Картуз-Бярозу, дзе надламалі здароўе таварышу Пятровічу. Таварыш Пятровіч і да сягоньняшняга дня аддадзены вялікай справе партыі Леніна-Сталіна.*

*Адначасова пастанаўляем: прасіць таварыша Пятровіча Мацьвея Сямёнавіча даць сваю згоду балатавацца ў дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР.*

*Дня 22 лютага, 1940 года. 77 (семдзесят сем) подпісаў.*
*Старшыня сходу: Мікола Рыньдзевіч, 37 гадоў;*
*Сакратар сходу: А. Плеская;*
*Сябры сходу: Лука Плескаў, Васіль Рыньдзевіч»*[1].

Рындзевіч скончыў чытаць.

– Дык, вы што, самі сход правялі? – здзівіўся Кабяк.

– Адзін экзэмпляр пратаколу перадаём у сельсавет для рэгістрацыі нашага кандыдата, – Рындзевіч паклаў на стол перад Кабяком пратакол, – другі экзэмпляр дасылаем у абласную выбарчую камісію... Просім вас, таварыш Пятровіч...

Таварыш Пятровіч падняўся з свайго месца:

– Так, я даў згоду на просьбы сваіх землякоў балатавацца ў дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР, што пацвярджаецца адпаведнай заявай, чытаю:

*«У Вілейскую акружную выбарчую камісію № 422 па выбарах у Вярхоўны Савет СССР і БССР горада Вілейка*

**Заява.**

*Я, падпісаўшыся ніжэй, Мацьвей Сямёнавіч Пятровіч, народжаны 10 кастрычніка 1894 года, беларус, селянін, бядняк, земляроб, пражываю ў вёсцы Быкі, былы палітвязень, камуніст былой падпольнай кампартыі Заходняй Беларусі і Польшчы, верны і аддадзены партыі Леніна-Сталіна. На пад-*

[1] Выкарыстаны дакументы Занальнага дзяржаўнага архіва г. Маладзечна: ф..Р-60.

*ставе просьбы ўсіх сялян і працоўных, даю сваю згоду на вылучэнне маёй кандыдатуры ў дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР для тайнага галасаваньня па Выбарчай Акрузе № 415. Што і падпісваю сваім уласнаручным подпісам.*

*Былы палітзьняволены Мацьвей Сямёнавіч Пятровіч.*

*23 лютага 1940 г.»*[1].

Як толькі Пятровіч скончыў чытаць сваю заяву, людзі адразу зашумелі, пачуліся выкрыкі, кшталту, «маладзец, Пятровіч», «так і трэба» і іншыя. Паўлюк Карповіч паставіў пытанне на галасаванне, зразумела, за Пятровіча, але тут усіх перакрычаў Кацалапаў:

– Вы што, мне хаціце перадвыбарны сход сарваць?!. Ды вы ведаеце, што вам за гэта будзе?!. І ты, Пятровіч, ты заяву не ў дэпутаты напісаў, не... Ты супраць лініі партыі пайшоў!.. Ты заяву ў турму напісаў!..

– У Канстытуцыі таварыша Сталіна што запісана? Што кожны грамадзянін мае права абіраць і быць абраным у мясцовыя і рэспубліканскія саветы народных дэпутатаў! – гучна заявіў Пятровіч. – І ты тут, таварыш сакратар, мяне ня страш – мяне ўжо страшылі ня раз.

– Мала, відаць, страшылі! – кінуў рэпліку Трэпелеў.

– Я думаю, што нашы кампетэнтныя органы разьбяруцца з такім самавылучэньнем у найвышэйшы орган улады! – Кацалапаў глянуў на Трэпелева. – Бо што ж гэта будзе, калі кожны сьмерд захоча дэпутатам стаць?

– Ну так! – падтрымаў сакратара Кабяк. – Усякі палітзьняволены павінен у турме сядзець, а не ў дэпутаты лезьці! Мы ня можам нават паставіць такую кандыдатуру на галасаваньне...

– Дык і ня трэба ставіць – мы ўжо прагаласавалі! – заўважыў Рындзевіч, але старшыня сельсавета не пачуў гэтай заўвагі і працягваў далей:

– У сувязі з гэтым ёсьць прапанова прагаласаваць аднагалосна за тых кандыдатаў, якія маюць правераную і ўстойлівую рэпутацыю ў народзе: першага сакратара абкама камуністычнай партыі і першага сакратара райкама партыі – прозьвішчы іх я ўжо называў...

Людзі зноў зашумелі, на гэты раз болей абурана, некаторыя памалу накіраваліся да выхаду, Рындзевіч галосна заявіў:

– Гэта ваша такая дэмакратыя!

---

1 Выкарыстаны дакументы Занальнага дзяржаўнага архіва г. Маладзечна: ф..Р-60.

Вельмі падазрона і насцярожана на гэтае абурэнне і выкрыкі рэагаваў Трэпелеў. Кацалапаў нешта яму тлумачыў, і той у знак згоды ківаў галавой.

Адзіны з прэзідыума, хто на працягу ўсяго сходу не прамовіў аніводнага слова, быў Сцяпан. Усе ведалі, што Сцяпан з Пятровічам былі вельмі блізкімі сябрамі і аднадумцамі, разам праходзілі школы кэпэзэбоўцаў – польскія пастарункі, Лукішкі і Картуз-Бярозу.

– А сейчас слова с осуждением поступка Петровича имеет соратник самовыдвиженца товарищ Степан! Прошу! – Кацалапаў зрабіў рух рукой убок Сцяпана.

Людзі прыціхлі.

– Я слова не прасіў, – пачаў быў Сцяпан. – Ну, калі так, дык што я скажу... Нядобра, не харашо зрабіў таварыш Пятровіч, – Сцяпан гаварыў, апусціўшы вочы. – Сваім вылучэньнем прадэманстраваў Пятровіч недавер да партыі Леніна-Сталіна, да лепшых прадстаўнікоў гэтай партыі, да нас недавер... Не падумаў Пятровіч і над тым, што будзе, калі кожны з нас захоча стаць дэпутатам, хто будзе тады араць і сеяць, касіць і жаць? Адным словам, не харашо гэта ўсё, не харашо!..

– Я думаю, што пытаньняў болей няма, – зноў слова ўзяў Кацалапаў. –А калі так, у сьпіс кандыдатаў уключаем нашых таварышаў сакратароў Калінкіна і Дордзіка. Хто «за», хто «супраць», хто «устрымаўся»? Аднагалосна. На гэтым сход лічыцца закрытым. Усе могуць быць вольнымі, пакуль што... Актыў прашу застацца.

– Можа, мне застацца? – пацікавіўся на ўсялякі выпадак Пятровіч.

– Партыя не бачыць у гэтым вялікай патрэбы, – растлумачыў Кацалапаў. – Ідзі дахаты і чакай з мора пагоды, калі што, за табой прыйдуць, – ня то жартам, ня то усур'ёз гаварыў Кацалапаў.

Калі ўсе выйшлі, зноў загаварыў Кацалапаў:

– На паседжаньне актыву выносяцца два пытаньні: «Аб арганізацыі перадвыбарнай кампаніі» і «Аб развіцьці спорту ў Ракавецкім сельсавеце». Адказны, паводле гэтых пытаньняў, упаўнаважаны таварыш Сьцяпан Андраловіч, і пытаньне «Аб арганізацыі калгасу» – адказны Казакевіч. Слова мае Сьцяпан Андраловіч, калі ласка.

Сцяпан зноў падняўся, на гэты раз загаварыў болей жвава:

– У нас ёсьць досьвед перадвыбарнай кампаніі. На сёньняшні дзень пры сельсавеце створана група агітатараў і прапагандыстаў, якія пераканаўча давядуць кожнаму, за каго

трэба галасаваць і чаму. Што да спорту, дык вось, складаю гадавы плян мерапрыемстваў па разьвіцьці лыжнага спорту ў сельсавеце – ня ведаю, што прыдумаць на лета…

– Дык жа летам сьнегу няма! – здзівіўся Пуценька.

– А каго гэта цікавіць...

– А ў сельсавеце хіба лыжы ёсьць? – пацікавіўся сам старшыня сельсавета.

– Няма!.. Але сказалі, галоўнае, каб плян быў...

– У нас, увогуле, добрыя лыжы былі толькі ў Дабрынскага, – падказаў Пуценька. – Праўда, яшчэ ёсьць самаробныя, паляўнічыя ў некаторых, але хто на іх стане?

– Стануць, калі партыя загадае! – заверыў сакратар Кацалапаў. – Што там яшчэ ў цябе, Сьцяпан?

– Вось яшчэ, спусьцілі зьверху калгасныя нормы ГТО... Кожны павінен здаць: скачкі, бег, гранату, стрэльбы.

– Што, стрэльбы таксама трэба здаваць? – перапытаў Саўрыновіч.

– Трэба...

– Стрэльбы тут шмат у каго ёсьць, паляўнічыя, толькі не здадуць... Я ведаю...А з гранатамі яшчэ цяжэй, – заўважыў Саўрыновіч.

– Я, калі трэба, стрэльбу дастану, – заявіў Пуценька. – А вось, дзе гэтае гэтэво ўзяць, каб яго здаць?

– Гэтэво – гэта трэба на лыжах катацца, – растлумачыў Сцяпан.

– Або, – здзівіўся Пуценька.

– То гэтэво, то гэпэво... Панавыдумлялі, – нечакана для ўсіх абурыўся Калістрат. – Тут людзям есьці няма чаго, а яны будуць на лыжах катацца! – Калістрат дэманстратыўна выйшаў.

– Надо будет переизбрать актив, – заўважыў пасля выхаду Калістрата Кацалапаў. – Ввести новых товарищей, молодых специалистов...

– Ну, ведама, – падтрымаў Пуценька.

– Што там есчо, Сьцяпан?

– Нам на курсах гаварылі, што абавязковай павінна быць арганізацыя лыжных прабегаў, у гэтай сувязі прапануецца арганізаваць у сельсавеце перадвыбарны пралетарскі лыжны прабег пад дэвізам «Ударым лыжамі па сьнезе, як па ворагах народу!». Лыжы, я думаю, знойдуцца...

Пасля яшчэ доўга актыў абмяркоўваў пытанне, а дзе, усё ж такі, ўзяць тыя лыжы?

Наконт калгасу шмат не гаварылі – зышліся на тым, што першая бальшавіцкая вясна і так будзе вельмі багатай і буйнай

на падзеі і, на сёння, на першым плане стаіць передвыбарная праца і выбары. Пасля трэба будзе не калгасы ствараць, а адсвяткаваць угодкі з дня народзін таварыша Леніна, а паралельна правесці арганізавана сяўбу – трэба засеяць былыя панскія палеткі. А яшчэ не трэба забывацца, што не ўсіх кулакоў і ворагаў народу арыштавалі і вывезлі... І толькі пасля, калі ў вёсцы не застанецца аніводнага шкодніка сацыялістычнага будаўніцтва, толькі тады можна будзе ставіць пытанне наконт калгасу.




А неўзабаве і сапраўды быў арганізаваны лыжны культ-паход маршрутам Ракавічы – Мястэчка пад дэвізам «Айда на пралетарскую лыжню». Лыжнікі, амаль што ўсе на самаробных лыжах, – Кацалапаў меў рацыю, калі казаў пра загад партыі, – узброіўшыся палкамі і транспарантам «Галасуем за камуністаў», рушылі ўбок Клышкаў. Актывісты спыняліся ў такіх вёсках, як Клышкі, Трацякі, Вавукі. Для гэта падбіралася больш-менш прасторная хата, у якой збіралі людзей і чыталі даклад пра курс камуністычнай партыі Леніна-Сталіна, загніваючы імперыялізм і нейкія Магніткі, Кузбасы і Днепрагэсы. Затым даводзілі сутнасць перадвыбарчай кампаніі і светлай савецкай будучыні, паказвалі нават здымак таго кандыдата, за якога будзе галасаваць кожны, хто жадае гэтай будучыні. Пасля лыжнікі давалі канцэрт мастацкай самадзейнасці. Было весела.

* * *

Пятровіча і Рындзевіча арыштавалі 27 лютага. Для іх арышт быў вялікай нечаканасцю. Тое, што не дапусцяць у кандыдаты, Пятровіч зразумеў на сходзе, але, думаў ён, што гэта перашкода мясцовага значэння: а там, у раёне і вобласці, яго, актыўнага змагара за савецкую ўладу з 1919 года, не могуць не падтрымаць. Але, як аказалася на самай справе, там замест таго, каб уважыць заслугі перад Саветамі і падтрымаць старога бальшавіка, яго і прызналі «ворагам народу». Дарэчы, санкцыю на арышт выдаў пракурор раёну.

У турме, пакуль ішло дазнанне, Пятровіч патрабаваў, каб яму паказалі, якія артыкулы сталінскай канстытуцыі, выбарчага права, крымінальнага і працэсуальнага кодэксаў ён парушыў, але ўсякі раз на яго патрабаванні слядак біў яго кулаком у твар і за кожным ударам прыгаворваў:

– Вот тебе артікул № 1, вот тебе артікул № 2, вот тебе артікул № 3...

У выніку такіх допытаў следчым органам стала вядома, што *«Петрович Матвей Семёнович – бывший член Белорусской национальной партии, военный чиновник царской армии, состоял в легальной контрреволюционной партии «Вызволенне» (партия эта крестьянская типа эсеровской) с 1922 года по 1927 год. Одновременно в 1926 г. вступил в «Громаду» состоял до 1927 года, до разгрома. В 1927 году вступил в антикоммунистическую партию «Белорусская национальная рада» где и состоял до 6 января 1928 года»*[1].

Невядома, з якой нагоды слядак не згадаў у пратаколе допыту такія факты, як прыналежнасьць Пятровіча да КПЗБ і яго зняволенне ў польскіх турмах за камуністычную дзейнасць? Невядома чаму замест КПЗБ была прыцягнута ў якасці абвінавачвання нейкая «антикоммунистическая партия «Белорусская национальная рада», пра якую ніхто ніколі нічога не чуў?..

Адпаведныя паказанні былі дадзеныя і Рындзевічам Міколам:

*«Познакомился с Петровичем в 1937 г. Часто ходил к нему, где обсуждали политические темы. 22 февраля 1940 года в дом гражданина Бажко Михаила пришёл Петрович, который начал агитировать крестьян, чтобы подписались за него для того, чтобы его Петровича выбрали депутатом в Верховный Совет БССР. После этого поручил мне, чтобы бумагу с подписями отвёз в Вилейку в избирательный участок. Мне также было поручено собирать подписи по деревням и это я пооделовал. После чего отвёз бумагу в Вилейку. Рындевич (подпис)»*[2].

Старшы памочнік пракурора раёна, начальнік следчага аддзела Сізаў свайму абласному начальству справу Пятровіча падаў у такім выглядзе:

*«Обстоятельства дела: 22 февраля 1940 года, в доме гражданина Бажко Михаила обманным путём были собраны граждане деревни, где была выставлена кандидатура в депу-*

---

1 Выкарыстаны дакументы Занальнага дзяржаўнага архіва г. Маладзечна: ф..Р-60.
2 Выкарыстаны дакументы Занальнага дзяржаўнага архіва г. Маладзечна: ф..Р-60.

*таты Верховного Совета БССР некого проходимца Петровича. На этом собрании были оформлены протокол собрания и заявления самого Петровича, который даёт согласия баллотироваться. По делу арестованы два человека: Петрович и Рындевич – предсобрания»[1].*

Відаць, такіх фактаў і довадаў складу злачынства Пятровіча і Рындзевіча было недастаткова, каб гэтай справе надаць сур'ёзную палітычную вагу і даць пераканаўчы ўрок тым, хто не ведае свайго месца і прызначэння ў сістэме наменклатуры савецкай улады. І таму пракурор вобласці аператыўна дасылае начальніку Вілейскага Аблупраўлення НКВД тав. Сакалову і пракурору раёна цыдулу, прыкладна, аднаго і таго ж зместу:

*«Секретно.*

*В проиводстве Начальника Р/О НКВД с 27 февраля 1940 года имеется дело по выставлению ложной кандидатуры в депутаты ВС БССР. По данному делу арестованы 27 февраля Петрович и Рындевич. После их допроса 29/2-1940 года никаких следственных действий не производилось.*

*Означенное дело имеет большое политическое значение, расследование коего необходимо произвести в кратчайший срок.*

*С получением сего установите тщательный надзор за расследованием этого дела и обеспечить окончанием до 20 марта 1940 г.*

*По окончании расследования результаты сообщить в Облпрокуратуру.*

*Прокурор области Котик. 16. 03. 1940»*[2]

Выбары ў Вярхоўныя Саветы адбыліся 24 сакавіка 1940 г..

Савецкія газеты ўзахлёб пісалі, што *«избирательная компания в ВС СССР и БССР проходила в условиях ожесточённой классовой борьбы... Выборы явились крупнейшей политической демонстрацией любви трудящихся масс Западной Белоруссии к советской власти, партии и великому Сталину».*

Выбары адбыліся без удзелу ў іх Пятровіча і Рындзевіча. Кандыдат у дэпутаты і яго давераная асоба сядзелі ў гэты час у турме і чакалі рашэння асобай нарады пры НКВД СССР.

Болюсь, камунарскі конюх, казаў:

– А што зробіш?.. У кожнага свае выбары...

– Ня маеш ты рацыі, Болюсь! – усклікнуў Дайновіч. – У кожнага не стала сваіх выбараў, як не стала іх у Пятровіча і

---

[1] Выкарыстаны дакументы Занальнага дзяржаўнага архіва г. Маладзечна: ф..Р-60

[2] Выкарыстаны дакументы Занальнага дзяржаўнага архіва г. Маладзечна: ф..Р-60.

Рындзевіча! І не таму, што няма выбару і выбіраць няма каго, а таму, што права быць абраным стала правам абраных. А тут не толькі абраных, тут пакліканых няшмат!

На што Болюсь шматзначна паківаў галавой і сказаў:

– Ну-ну... Я ж і кажу, у кожнага свае выбары...

## 21. Другая партыя «ворагаў народу»

Неяк, як ужо добра звечарэла, да Антося зайшоў швагер Ясь, малодшы з Качанюкоў і сказаў, што тата паслаў яго за Антосем, нешта хоча сказаць. Тады яны і паехалі ўдваіх на кані.

Цесць быў невясёлым. Гаварыў пра тое, што было на слыху ў кожнага: не сёння-заўтра будуць раскулачваць іх, праводзіць арышты, могуць абвясціць яго, Саковіча, Страчынскага, яшчэ каго-небудзь ворагамі народу – альбо пасадзяць у турму, альбо выселяць у Сібір:

– Не хацелася б пакідаць гэтым галадранцам сваёй гаспадаркі, бо ўсё ж расьцягнуць так, як у Дабрынскіх і Лакуціеўскага расьцягнулі... Дык забірай, што можаш забраць, – цесьць гаварыў скрозь сьлёзы. – А што не забярэш, прыйдзецца прыхаваць, а што і так кіну...

– Тата, які ж вы кулак? Які з вас вораг народу? – засумняваўся Антось. – Каму вы патрэбныя?...

– Рабі, што кажу! – прыкрыкнуў цесць. – Забірай люстэрка, жалезны ложак, плужок, кросны, крэслы... Калі не табе, дык унукам спатрэбіцца... Малатарні толькі не бяры – за гэта пасадзяць!.. Абсурдацыя нейкая...

– А калі ўсё будзе добра?

– Тады назад адвязеш.

– А калі й мяне пасьля за гэтае самае люстэрка, плужок ці крэслы... туды ж?.

– У цябе дзяцей шмат... Наўрад ці захоча хто зь дзяцьмі цягацца, – разважаў цесць. – Бяры, ня бойся! Толькі пра гэта ня трэба кожнаму хваліцца, а то прыйдуць і забяруць разам з табою!

Цесць быў схільны да таго, каб у хаце засталіся толькі адны голыя вуглы, чым вельмі здзівіў Антося такой шчодрасцю, але Антось адпіраўся тым, што, маўляў, у хаце не будзе месца дзе што паставіць. Увогуле, цесць у вёсцы меў нядобрую славу вялікага жмінды. А ў вёсцы як? – наклікаць крыўду на сябе ці злосць было вельмі проста, да прыкладу, калі каму што мог пазычыць, а не пазычыў – гэтага было дастаткова, каб




сапсаваць адносіны. Пазычыць што колечы ў Качанюка было вялікай праблемай. Аднаго разу ў хату зайшоў быў Батракоў хлапец з просьбай пазычыць абазьмен. Антось тады быў сведкам такога дыялогу:

– А на што табе абазьмен? – спытаўся цесць.

– Матка хоча воўну ўзважыць, – адказваў хлапец.

– А дзе яна ўзяла гэтую воўну? – цікавіўся цесць.

– Кісьліха прынесла...

– А чаму яна прынесла?

– Ну, так, захацела і прынесла...

– А чаму яна мне не прынесла?

– Дык гэта вы, дзядзька, у яе самі запытайцеся...

– Та-а-ак... А на што вам воўна? – працягваў допыт цесць.

– Матка хоча парабіць шкарпэткі і можа, калі хопіць воўны, швэдру зьвязаць...

– А каму швэдру зьвязаць?

– Мне!

– А на што табе швэдра?

– Насіць зімой, каб цёпла было!

– Та-а-ак... Дык што табе трэба?

– Абазьмен...

– А чаму ў вас абазьмена няма? – распытваў далей цесць.

– Ну, няма... Бо мы бедныя...

– І я не багаты, але ў мяне ёсьць абазьмен, а ў вас няма... Чаму?

– Дык у вас і зямлі болей, і гаспадарка большая...

– Дык жа абазьмены ў зямлі не растуць, але ў мяне абазьмен ёсьць, а ў вас няма... Чаму?

– Бо тата не купіў...

– А чаму тата не купіў?

– Бо ня меў грошы...

– А чаму ня меў грошы?

– Я ж казаў, бо мы бедныя...

– Бе-е-е-дныя, – парадражніваў хлапца цесць. – А таму, што тата твой валацуга і гультай, рабіць ня хоча...

– Ну, гэтага я ня ведаю...

– Ня ведаеш, я ведаю! А чаму я павінен пазычаць вам абазьмен? – зноў пытаўся цесць.

– Ну, можа, пры суседству таму што?..

– А мне карысьці ад такога суседства...

– Дык, што – не пазычыце? – здаецца, хлапец быў ужо падрыхтаваным да таго, каб пачуць ад цесця адмову. У такіх выпадках ён звычайна гаварыў так: «А абазьменам па срацы ты ня хочаш?», але на гэты раз цесць загадаў дзецям, каб вынеслі з каморы абазьмен.

– І глядзі толькі, скажы матцы, як узважыць воўну – бягом назад з абазьменам! – строга папярэджваў Качанюк.

У вёсцы, дарэчы, ведалі, калі не аднясеш пазычаную рэч Качаноўскаму ў той час, калі ён сказаў, дык другі раз ён не толькі на парог – на падворак не пусціць.

– Я мігам! – паабяцаў хлапец і спрытна з абазьменам шмыгануў у дзверы.

– Другі раз як прамануць нешта пазычаць, дык жа адбою няма, – скардзіўся цесць Антосю. – Будуць хадзіць да таго часу, пакуль нешта возьмуць і не аднясуць. А тады ўжо дзьвярэй самі не адчыняюць.

Дык што ўжо гаварыць пра чужых, неяк Антосю, зяцю, Качанюк воза не даў. Тады ў Антося парваліся былі атосы ў колах, а хацелася як мага хутчэй звазіць сена. Таксама, як малога якога, распытваў, пасля круціў, вярцеў, пакуль не сказаў, што яму воз самому патрэбны.

... І вось зараз – бяры што хочаш.

Антось тады не з вялікай радасці перавёз ад цесця болей меней каштоўныя рэчы. А шафу, крэслы, і ложкі, якія заставаліся ў хаце, цесць пазначыў, на ўсякі выпадак, зубілам.

Стараўся перавозіць так, каб асабліва не кідацца ў вочы, але дзе ты ў вёсцы схаваешся. А ноччу займацца такой перавозкай было яшчэ больш небяспечна. Ноччу маглі б спаткаюць актывісты і застрэліць. А так паціху, што зранку, што пад вечар, прыкрываў нешта сенам, нешта саломай, подсцілкамі і перавёз, што хацеў. Праўда, некалькі разоў цікавым асобам прыходзілася адказваць не зусім ветліва:

– А каму якое дзела, што вязу?

А вось сусед Адоль Канопка з разуменнем аднёсся да такіх паездак:

– Правільна робіш, бо ўсероўна ж прападзе, – сказаў ён і нават дапамагаў тое-сёе парадкаваць.

– А ты думаеш, што Качанюка пасадзяць? – няўпэўнена спытаўся Антось, быццам гэта залежала ад Адоля.

– А ты яшчэ сумняваешся? – здзівіўся той. – Глядзі яшчэ, каб нас з табой не пасадзілі!

– А нас за што? – тут ужо здзівіўся Антось.

– Цябе – за тое, што ты прысвоіў дабро «ворага народу», якое павінна належаць народу, а мяне – за саўдзельніцтва...

Зразумела, што гэта было ўспрынятым як жарт, але нейкі неспакойны жарт.

А вось, калі Марта, зараза, усё ж такі, згледзела, як Антось перавозіў кросны, тут жа прыляцела на падворак і заявіла:

– Дарма вы гэта ўсё возіце, дзядзька Антось... Не нажывецеся дабром ворагаў...

– Якіх ворагаў, Марта? – Антось прыкінуўся недасведчаным. – Што ты такое кажаш, Марта? Купіў я гэта...

– А тое й кажу... Вы што, ня ведаеце? – на гэты раз здзівілася Марта.

– Не...

– У гэтую нядзелю, Пуценька казаў, плянуецца нейкая акцыя па раскулачваньні і арышту ворагаў народу. Пуценька сьпісы іх паказваў, дык у сьпісе тым Качанюк стаіць першым нумарам, вось як!

– За што ж такая чэсьць выпала Качанюкам – быць першымі? – абыякава спытаўся Антось.

– А вы пра гэта ў Сьцяпана спытайцеся. Мой казаў, што сьпісы тыя Сьцяпан складаў, – Марта хітра засьмяялася. – А Ганька ў хаце?

– У хаце... А чаго ты хацела?

Марта, як і Пуценька, ніколі так проста ў хату не заходзіла.

– Можа, жменьку якую солі пазычыце... Пуценька казаў, што ў мястэчку ўчора ў краме ўсю соль разабралі...

– Дрэнь справы, калі соль разьбіраюць – чакай галаду, – заўважыў Антось.

– Не, Пуценька казаў, што ў гэтым вінаватыя жыдылавачнікі і кулакі, яны дамовіліся між сабою і прыхавалі соль, каб пасьля цану падняць, але савецкая ўлада разьбярэцца ў гэтым, казаў Пуценька, і ўсіх накорміць.

– Накорміць, накорміць! А як жа! – згадзіўся Антось і пайшоў да возу.

Марта пабегла ў хату.

Калі ж Антось заносіў у паветку стацвіну ад кроснаў, Марта выходзіла з хаты з газетным кулёчкам:

– А можа, і добра, што прывезьлі, – прагаварыла яна, гледзячы на бакавіну ад кроснаў. – Калі што якое, дык нам застанецца...

– Чаму гэта вам? – абурыўся Антось.

– Я проста так сказала... Вы ня думайце... Але, як кажа Пуценька, дабро ворагаў народу павінна належыць трудавому народу і савецкай уласьці... А мой Пуценька як раз і ёсьць такім!

Антось тады не ведаў, што зрабіць у гэтай сітуацыі: ці рассмяяцца над пачутым, ці прагнаць Марту з падворка так, каб больш не заходзіла. Але тады ён толькі стрымана азерыўся:

– Ідзі адсюль... Нашла мне ворагаў і трудавы народ...

Марта пайшла, а Антось імгненна развярнуў каня і недзе пра хвілін дзесяць быў ужо ў цесця.

Качанюк не надта здзівіўся пачутаму.

– Кажаш, у гэтую нядзелю, – задумліва прагаварыў ён.

– У гэтую, казала...

– Сёньня, дарэчы, зь Сьцяпанам сутыкнуўся... Такое ўражаньне, што спецыяльна мяне высочваў... Кажа, што мяне ня проста раскулачваць будуць, адбяруць усё і вышлюць... Кажа, мы цябе судзіць будзем, паказальны працэс зробім... Прыедуць таварышы з раёну, з вобласьці, хай паглядзяць... Во, гад...

– Даліся вы ў знакі гэтаму Сьцяпану...

– Тут ня толькі я, бацькі нашы і дзяды неяк дзіўна жылі між сабою... Так, мірным часам усё быццам добра й да ладу ішло, а як толькі нейкая палітычная віхура ў краю, тады распачынаюць рабіць нейкія гадасьці адзін аднаму, каб як мага найболей насаліць, верх узяць адзін над адным, ці што... Адкуль гэта?..

Антось, будучы пры сваяцтву, ведаў трохі пра іх складаныя адносіны. У мірны час нават у госці адзін да аднаго хадзілі, дзяцей сваіх не супраць былі пажаніць, але, як толькі ў краі з'яўляўся нехта чужы са сваімі законамі і патрабаваннямі, адразу ж узнікалі нейкія прэтэнзіі і крыўды адзін да аднаго. І так магло быць не толькі між цесцем і Сцяпанам, не толькі між суседзямі. Так магло б скласціся між сваякамі і нават роднымі братамі.

Людзі рабіліся злымі і стараліся паскардзіцца гэтым чужым і прышлым на свайго суседа, вяскоўца, сваяка ці брата, заручыцца іх падтрымкай, каб нагадаць пра старыя і прытоеныя крыўды і адпомсціць. Казалі, што не без дапамогі Качанюка Сцяпан пабываў на Лукішках. Але ведалі ў вёсцы і другую гісторыю: пра тое, як нехта з Сцяпанавай радні падказаў царскім жандармам месца, дзе хаваўся ў 60-я гады бацька Качанюкоў пасля паўстання 1863 года. Цесцю тады было каля дзесяці гадоў, як не стала бацькі.

І вельмі часта ў часы гэтых палітычных завірухаў людзі чамусьці заставаліся на розных пазіцыях: ці ўладу не падзеляць між сабою, ці веру, ці зямлю.

– Няма ў нашага народу адзінства, – быццам сам сабе гаварыў цесць. – Падзялілі народ на багатых і бедных, на паноў і мужыкоў, на «рускіх» і «польскіх», на сваіх і чужых, а калі няма адзінства поглядаў – няма і адзінства мэты. І тады кожны, у залежнасці ад той ці іншай палітычнай моцы, цягне на сябе і для сябе, цягне ад такога ж, якім толькі што быў сам.

Цесць сам адказваў на свае пытанні, праўда, Антось шмат што яшчэ мог бы дадаць да яго разваг, але гэтага зараз рабіць не стаў. Адно было зразумела Антосю, што ў гэтым народным супрацьстаянні не апошнюю ролю адыгрываў фактар веры: католікі і праваслаўныя («палякі» і «рускія») часта, падбухтораныя сваімі святарамі (палякамі і расейцамі), заўсёды знаходзілі нейкія зачэпкі, крыўды і прэтэнзіі адзін да аднаго. Былі спрыяльныя абставіны ў католіка Качанюка за Польшчай, і тады праваслаўны Сцяпан яшчэ больш бяднеў. Калі сітуацыя змянілася на карысць Сцяпана, узніклі праблемы ў Качанюка.

А яшчэ ніколі не трэба забывацца пра чалавечую зайздрасць, прагнасць і хцівасць – усяго хапае ў гэтым жыцці, аднаго толькі мала – дабрыні і пачцівасці.

– Паказальны працэс ён мне ўстроіць, – абураўся цесць. – Помсьціць...

– Дык, можа, гэта і лепш – сваю невінаватасьць можна будзе даказаць, – разважыў Антось.

– Я ім такое пакажу і дакажу, што яны самі рады ня будуць! – узрушана заявіў цесць, а пасля, падумаўшы, дадаў: – Каму тут што дакажаш! Пасьля такіх працэсаў альбо расстрэльваюць, альбо даюць дваццаць пяць гадоў турмы.

– За што страляць? – здзівіўся Антось. – А можа, яшчэ ўсё адвернецца? Можа,у іх хопіць розуму?

– Можа... Я разумею, што Сьцяпану патрэбна гаспадарка, зямля, хата, інвентар... Хай давіцца! Але яму раскулачыць мяне – мала... Ён хоча зрабіць мяне ворагам савецкай улады, па ўсёй строгасьці і адказнасьці.

– Дык можа дзе схавацца, перасядзець?

– Куды мне, старому, хавацца, на магільніку хіба што...

– Я ворагаў разумею так: гэта нейкія бандыты, якія на кожным кроку робяць усякія гадасьці савецкай уладзе: палохаюць народ, разганяюць камуны, нішчаць народнае дабро, зрываюць культурныя імпрэзы, страляюць актывістаў і г.д. – Антось гаварыў усхвалявана. – А які ж вы вораг? У нас такіх, калі паглядзець, – дык і няма!..

– Можа й няма, але будуць... Увогуле, баюся я, каб яны не ўзяліся за кожнага падазронага, – цесць выводзіў невясёлыя высновы. – Мне бацька расказваў, што рабілася пасьля паўстання Каліноўскага: вёскамі высялялі ў расейскія губерні, усю маёмасьць і нажытак забіралі чыноўнікі, а хаты палілі, каб не было куды вярнуцца...

Чуў пра гэта Антось. Дзед расказваў пра тое паўстанне і не такія рэчы.

– Дык тое ж царызм, Мураўёў-вешальнік, жандармы...

– А ты думаеш, гэтыя лепшыя?! Тады Сьцяпанаў дзед у актывістах хадзіў, а гэты – зараз. Што царызм, што Саветы... Што Мураўёў, што Сталін – для нас адна халера!.. Мяркуючы з таго, што рабілася ў Савецкай Беларусі, дык гэтыя яшчэ й горшыя...

Колькі ўжо было гаворана пра гэта, але ад цесця такія меркаванні Антось чуў упершыню. Цесць ніколі не выказваў сваіх палітычных поглядаў, але паводле таго, як ён скептычна і іранічна адносіўся да дзейнасці тых, хто займаўся нейкай палітыкай, можна было думаць, што ў яго выпрацаваўся прафесійны палітычны нейтралітэт. У такім духу былі выхаваныя і яго дзеці, колькі ён не агітаваў сваіх швагроў да беларускасці, а Страчынскі (іх сусед) да польскасці, – яны ані ў якую, маўляў, мы тутэйшыя, мы – краёўцы і ўсё тут.

Пасля той гутаркі стала неяк неспакойна на душы. Цесць яшчэ прапанаваў Антосю забраць і дзе-небудзь прыхаваць вы-

язны вазок, пра якi ён толькi марыў раней, i жарэбчыка. Але не радавалi Антося, анi вазок Качанюкоў, анi плужок, анi жарэбчык...

– З другога боку, калi паглядзець, – гаварыў цесць, – я ж ня пан якi i не паляк. Ну, трохi багацейшы, чым iншыя, але, калi што, – бярыце гэтае багацьце, толькi не чапайце... Дык можа, i чапаць ня будуць, калi так скажу... Можа i абыдзецца?.. Як ты думаеш?

– Дык я ж i казаў, якi ж вы вораг? – абнадзейваў цесця Антось, хоць i сам мала верыў у тое, што абыдзецца.

Сапраўды, на што яны спадзявалiся абодва – цяжка было сказаць.

* * *

У красавiку павiнен быць вялiкi, як казаў камiсар Трэпелеў, шухер – святкаванне 70-годдзя з дня народзiнаў Ленiна i чарговай гадавiны Гiтлера. Сяляне не зусiм уяўлялi, што павiнна быць на гэтым «шухеры», але ўжо былi перакананымi ў тым, што радасць павiнна быць вялiкай. У школцы i ў бiблiятэцы праводзiлiся падрыхтоўчыя мерапрыемствы з гэтай нагоды: школьнiкi i камсамольцы развучвалi песнi пра любых «важдзей», вучылi на памяць вершы i рэвалюцыйныя маналогi.

На апошнiм пасяджэннi райкама партыi шмат гаварылася i пра надыход вясеннiх рэлiгiйных святаў: 21 красавiка ў католiкаў Вялiкдзень, а ў праваслаўных – Вербная. У мястэчках, дзе ёсць царква i касцёл, будзе сапраўднае паломнiцтва. Высновы – паломнiцтва быць не павiнна, асаблiва напярэдаднi святкавання ўгодкаў Уладзiмiра Iльiча Ленiна. Было вырашана, што для гэтага трэба зрабiць: 1) актывiзаваць лекцыйную антырэлiгiйную дзейнасць (тэматыка лекцый прыкладаецца); 2) узмацнiць антырэлiгiйную прапагаду нагляднай агiтацыяй i культурна-масавай работай; 3) зацiкавiць i прыцягнуць моладзь да ўдзелу ў розных культурных i забаўляльных iмпрэзах; 4) правесцi наступныя iмпрэзы: конкурсы i канцэрты мастацкай самадзейнасцi, свята першай баразны, свята песнi i вольнай працы; 5) наладзiць дэманстрацыю фiльмаў; 6) абавязаць актыў (мясцовыя саветы, парткамы, культурна-масавы сектар) да арганiзацыi i выканання вышэйзгаданых рэкамендацый.

Праўда, 20 красавiка – дзень народзiн Гiтлера – прайшло незаўважаным. Сцяпан хоць i развесiў абвестку пра лекцыю аб мiжнародным значэннi пад назовам: «Вялiкая Дружба-Freudschaft (пра Сталiна i Гiтлера)» i вялiкi плакат з надпiсам

«Мы говорим Сталин, подразумеваем – Гитлер, мы говорим Гитлер, подразумеваем – Сталин!», але, апрача актыву, болей ніхто не прыйшоў. Кацалапаў нават зрабіў Сцяпану вымову, маўляў, калі ж столькі прыйдзе і 22 красавіка, дык Сцяпан можа ўзначаліць чарговую партыю ў Сібір, усьлед за тымі, каго ён туды ўжо адправіў.

21 красавіка нелегальна быў абвешчаны як дзень барацьбы з рэлігіяй.

Ужо з самай раніцы ў Багданоўцы гучалі галасы, граў гармонік: павінен быў адбыцца канцэрт, кіно і танцы.

Але людзі ў гэты дзень звычайна зранку ішлі хто да царквы, хто да касцёлу, якія знаходзіліся ў Мястэчку. Людзі дабіраліся хто як: у каго быў яшчэ свой конь на руках, дык той сваім вазком стараўся з сям'ёй трапіць, нехта на ровары (але такіх было мала), але ў асноўным, ішлі пяшком, пры тым пяшком ішлі і малыя і старыя. Прыкладна выходзілі ў адзін час і тады гасцінец да мястэчка ажываў людскімі галасамі. Дарога не сказаць, каб вялікая – нейкіх пяць вёрст у адзін бок, але туды-сюды, пастаяць у царкве, і адчувалася стамлёнасць. А тут раптам нехта разнёс чутку, што Кацалапаў паабяцаў на гэтую нядзельку арганізаваць падвоз людзей у Мястэчка машынай, маўляў, усё павінна быць па-боску, і савецкая ўлада таксама.

І сапраўды, у нядзельку на гасцінцы, за вёскай, стаяла грузавая машына, у якую залазілі веруючыя, як у нару, і не верылі, што такое магчыма ўвогуле. Кіроўца, незнаёмы чалавек, негаваркі і падазроны, толькі неяк нядобра ўсміхаўся і казаў, што на ўсё воля Божая. Чалавек дваццаць living рознага веку, размясцілася на саломе ў кузаве. Пры тым людзі самі скамандавалі, калі ехаць, бо ведалі, хто ходзіць, а хто – не. І паехалі. Асабліва радаваліся дзеці, дый дарослыя радаваліся, бо большасць ехала на машыне першы раз... і апошні. У Мястэчку машына, чамусьці не спынілася ані каля касцёла, ані каля царквы і пакацілася далей, нягледзячы на лямант у кузаве. Кацілася машына яшчэ з вёрст дзесяць і спынілася акурат у Наваспаску, каля разбуранай у гады Мікалаеўскай вайны былой ўніяцкай царквы. Спынілася каля групы чырвонаармейцаў, якія грозна закамандавалі ўсім вылазіць з машыны і ісці пад разваліны былога храма. Пад алтарнай сцяною храма капітан дазволіў вернікам памаліцца, як ён сказаў «последний раз перед смертью», пры гэтым яшчэ здзекліва папярэдзіў, што неўзабаве ўсе іхнія храмы будуць такімі «развалюхамі», як гэты. Пакуль людзі галасілі і маліліся, салдаты з капітанам хутка паселі ў машыну і паехалі.

Толькі позна вечарам вярнуліся багамольцы-пілігрымы дахаты. І то не ўсе. Старых і малых прыйшлося пасля сустракаць і давозіць канём.

А машыну тую (ці падобную) людзі не раз бачылі ў Мястэчку. Ветлівы кіроўца ўсякі раз запрашаў «пракаціцца з вецярком» тых, хто ішоў на набажэнствы. А дзецям, якія на яго просьбу, казалі, што Бога няма, дазваляў нават пасядзець у кабінцы і пакруціць руль. І знаходзіліся жадаючыя «пракаціцца», асабліва сярод моладзі. Толькі людзі з Дойневічаў і Ракавічаў шугаліся ў бок з адгаворкай: «Пракаціліся ўжо...».

Весела было і ў панядзелак 22-га красавіка – у адных першы дзень велікоднага тыдня, у другіх – дзень народзін Леніна, але святкавалі ўсе разам. Сялян сабралі ў прасторнай хаце былога лясніка Гомана. Санька Стрыга з Харлаўшчыны іграў на скрыпцы, а каля яго ног стаяў гармонік. На сцяне вісеў плакат: «Мы говорим Сталин, подразумеваем – Ленин, мы говорим Ленин, подразумеваем – Сталин!». Пасля былі два даклады: адзін пра Леніна (чытаў Кацалапаў), а другі пра Сталіна (чытаў Сцяпан), вельмі доўгія даклады пра тое, як яны ашчаслівілі народы былой царскай Расеі: ад дзіцячых гадоў Уладзіка і Юзіка, праз палымяныя гады рэвалюцый, войнаў і барацьбы з ворагамі народу – да сённяшніх дзён. Пасля прымалі школьнікаў у акцябраты і піянеры, а моладзь – у камсамол. Асобным стаяла пытанне: «Аб аднаўленні былых членаў КПЗБ тав. П. А. Кабяка, тав. С. П. Андраловіча і тав. І. В. Сідаровіча ў КПБ (б)». Пытанне гэтае паставіў на парадак дня адзін з дакладчыкаў, інструктар райкама партыі з цікавым прозвішчам Інтэ. Кожнаму з былых сяброў КПЗБ далі слова. Гаварылі яны не шмат, і біяграфіі іх былі падобнымі адна на адну: кожны з іх прымаў удзел у рэвалюцыйнай віхуры і грамадзянскай вайне, а пры паляках змагаўся з паланізацыяй, быў у «Грамадзе», пасля ў КПЗБ, пасля у КПЗ (камера папярэдняга заключэння) і прайшоў польскія турмы. З радасцю і надзеяй сустракалі яны рускія танкі і зараз працуюць на карысць партыі Леніна-Сталіна і сусветнай рэвалюцыі. Колькі нейтральных слоў пра кожнага сказаў таварыш Кацалапаў як сакратар партячэйкі калгасу і сельсавету, дарэчы, адзіны на гэты момант камуністы ў ячэйцы (Цэрбер і два чырвонаармейцы з усходу хадзілі ў кандыдатах), маўляў, ведае іх мала, але хлопцы стараюцца, асабліва таварыш Кабяк. Інструктар з раёну, таварыш Інтэ, у завяршэнні працэсу вынес кожнаму прэтэндэнту ў члены камуністычнай партыі аднолькавы прысуд: у партыі аднавіць іх нельга, таму што гэта зусім іншая партыя... Прыняць іх у якасці кандыдатаў таксама нель-

га, таму што няма кворуму... Іх нават нельга рэкамендаваць райкаму партыі ў якасці кандыдатаў, таму што не прайшлі спецыяльную праверку...

– А вообще-то, – разгаварыўся раённы інструктар КПБ (б). – Есть у нас специальное постановление... В связи с тем, что в Центральный Комитет КПБ (б) и на другие ответственные государственные должности проникло очень много выходцев с Западной Белорусии, возникает большое подозрение по поводу такой концентрации в БССР этих лиц… Потому что это создаёт всегда благоприятную обстановку для действий фашистской польской разведки...1 Многие из них, как вы знаете, Адамович, Баліцкій, Валкович, Стакун, Шарангович и прочие арестованы, допрошены и расстреляны... Однако есть и такие западники, которые замаскированные и ждут своёй учести...У нас есть специальное постановление о том, чтоб не засорять нашу партию Ленина – Сталина всякими там выходцами с северо-западного края… А тот факт, что вот эти товарищи, – інструктар Интэ паказаў рукой на збянтэжаных прэтэндэнтаў у партыю, – желают вступить в коммунистическую партию большевиков – это очень и очень хорошо и партийные органы будут всегда во внимании их иметь...

Пасля быў канцэрт і танцы.

На танцах, што адразу кідалася ў вочы, было вельмі шмат нецвярозых дзяцюкоў, у асноўным, гэта былі малазнаёмыя: чырвонаармейцы ў цывільным і прыезджая моладзь. Паводзілі яны сябе неяк груба і некультурна: шумелі, крычалі і мацюкаліся. Раней за такія паводзіны на танцах самі ж мясцовыя хлопцы вельмі хутка каго-небудзь ды супакоілі б, а зараз на гэтае дзікунства і пахабшчыну ніхто не звяртаў увагу.

Праўда, хапала п’яных і сярод свайго люду. І на завяршэнне свята ўсё закончылася бойкай, але хто з кім біўся - цяжка было сказаць.

Пакуль Санька выцілінкаваў на гармоніку полькі ды кракавякі, воддаль вясёлай калгаснай хаты прапаўзла, злосна пырхаючы, крытая, чорная машына. Відаць, карныя савецкія органы, у сувязі з днём народзін таварышаў Леніна і Гітлера, выкрылі недзе чарговых «ворагаў народу».

У гэты ж дзень, толькі недзе пад вечар, на Антосевым падворку з’явілася Марта.

– Вы ня ведаеце, дзядзька, якое сёньня будзе надвор’е? – спыталася яна.

[1] Выкарыстаны матэрыялы Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь. – Ф..4. – В. .21.

– Ведаю, сёньня пахмурна, і калючы вецер з усходу! – адказаў Антось, балазе большая палова дня прайшла і відаць было, якое надвор'е.

– А заўтра? – зноў спыталася Марта.

– А заўтра можа быць яшчэ горшае... Марта, а чаго ты хочаш? – Тут адразу ж было зразумелым, што не падзеля надвор'я яна прыйшла.

– А Ганька ў хаце?

– У хаце...

– Скажы ёй, што сёньня яе бацькоў будуць раскулачваць... Пуценька ўжо паляцеў...

– А чаму ж сёньня, зьбіраліся ў нядзелю? – спытаўся Антось, быццам гэта было вельмі важным.

– Пуценька казаў, што Сьцяпан абвясьціў Качанюка ворагам народу нумар адзін, і, відаць, ня сталі цягнуць з такімі ворагамі... А яшчэ нейкая дырэктыва прыйшла, – Марта задумалася. – Здаецца, аб паскарэньні працэсу ліквідацыі кулацтва як клясу, здаецца так... А сёньня ж такі дзень – дзень Леніна-Сталіна-Гітлера... Такога не было, каб прайшла нейкая савецкая імпрэза і анікога не арыштавалі. Калі што, дзядзька, я вам анічога такога не гаварыла!..

Марта пайшла, а Антось хуценька заляцеў у хату, папярэдзіў Ганьку і нацянькі, праз Бутрымаўшчыну, паспешліва накіраваўся ў бок Старых Ракавічаў. Відаць, Сцяпан не стаў чакаць нядзелі: альбо яму не цярпелася самому, альбо запатрабавала начальства з той дырэктывай.

На цесцевым падворку было чалавек дзесяць, у асноўным, мужчыны. Апрача мясцовых актывістаў і суседзяў, былі два міліцыянеры ў форме, два салдаты з вінтоўкамі, камісар Кацалапаў і капітан Трэпелеў з партупеяй. Увогуле, уражанне было такое, што быццам людзі прыйшлі на паховіны, нават між сабою гаварылі прыглушана. Хіба што толькі Калістрат з Пятром Андраловічам тапталі падворак задаволеныя і пацiралі рукі. Убачыўшы Антося, Калістрат закрычаў:

– А ты чаго прыпёрся? Бараніць, можа, будзеш?

Антось змаўчаў.

– Падавіўся Качанюк сваім дабром, падавішся і ты! – не ўнімаўся Калістрат.

Антось не звяртаў увагі. Ён хацеў прайсці ў хату, але тут жа дарогу яму перагарадзіў міліцыянер:

– Не паложана!

– Хай ідзе! – крычаў Калістрат. – Можа і яго там заадно афармяць!

У гэты час на ганку паказаўся Пуценька:

– О-о-о! Сусед, можа што ўзяць прыйшоў... Зяць любя ўзяць! – Пуценька задаволены сваім жартам засмяяўся.

– Што вам цесьць зрабіў ня так? – Антось стараўся быць спакойным.

– Нам – анічога! А вось савецкай уласьці – зрабіў! – гаварыў Пуценька і складвалася ўражанне, што ён і сам не ведае, што гаворыць. – Так, ня так – гэта філясофскае пытаньне... Вось будзе паказальны працэс, прыходзь – там усё пачуеш.

– Ты, Пуценька, клёкі свае бязмозглыя раскінь і падумай: што мог такога зрабіць савецкай уладзе стары чалавек, якому амаль што 75 гадоў? – зноў запытаўся Антось.

– Ты мне тут, сусед, галавы не дуры... Там зараз перапісваюць маёмасьць, і ты ведаеш, шмат што прапала ў твайго цесьця... Вазок такі быў, выязны, хацеў я яго прыбраць да рук – няма! Барана, плужок нямецкі – такі добры плужок, неяк ты раз браў у цесьця, я бачыў – няма! Можа, твой цесьць дзе прыхаваў? Можа, ты ведаеш дзе?

– Не, ня ведаю!..

– Дык жа спаліць трэба было ўсё гэта кулацкае і буржуйскае дабро! – крычаў Калістрат. – Я казаў Сьцяпану!

– Нам зараз араць трэба, сеяць, а такі нямецкі плужок – цаны ж яму не было – прапаў! – працягваў Пуценька, хітра прыглядаючыся да Антося.

– Прапаў, дык шукай! Што ты ад мяне хочаш? – абурыўся Антось. – А вам жа плужок патрэбен савецкі, а не буржуйскі... Буржуйскім плужком камунарскае поле араць – ня гожа гэта.

Пуценька нешта хацеў сказаць у адказ, але Антось яму не даў:

– А ты, Пуценька, хваліш нямецкі плужок, а яшчэ раней неяк хваліў амэрыканскія буцы... Пуценька! – Антось павысіў голас, каб усе чулі і ўрачыста заявіў. – А ці не з'яўляешся ты, Пуценька, якім-небудзь амэрыканскім шпіком?

Нехта на падворку рагатнуў. Пуценька ад пачутага хвіліну стаяў і толькі лыпаў вачыма.

– А калі мы гэты плужок знойдзем у цябе, дзядзька, тады што?! – апомніўся Пуценька.

– А тады анічога! – не разгубіўся Антось. – Я такі плужок, анакдай, у Рабіновіча купіў!

– Так, хопіць з плужкамі разьбірацца! – перакрычаў іх Пятро, які толькі што выйшаў з хаты. – Ты, Пуценька, вазьмі міліцыянераў і да Страчынскага, бягом! А ты, Антось, ідзі да хаты, цесьцю тут свайму не дапаможаш...

– Ну, а там што? – спытаўся Калістрат у Пятра і кіўнуў на дзверы.

– Там ужо ўсё. Зараз будуць выносіць... э-э-э, выводзіць, – адказаў Пятро і пайшоў у хату.

Неўзабаве сапраўды сталі выводзіць сям'ю Качаноўскіх. Першым ішоў Ясь.

– Во! – лікаваў Калістрат. – Качанёнак папаўся!

«Адкуль тут Ясь узяўся? – здзівіўся Антось. – Ён жа ўсе гэтыя дні ў кустах сядзеў»...

За Ясем ішоў стары Качаноўскі: выйшаў на ганак, паглядзеў на людзей, апусціў галаву і пайшоў следам за сынам. Што ўразіла людзей, дык гэта тое, што рукі ў Яся і ў старога бацькі былі звязаныя ззаду валаводам. За імі выйшлі Антаніна з дачкой Манькай з нейкімі клункамі ў руках, але Пуценька падскочыў, вырваў клункі і кінуў назад у хату. Дачка Манька ў дзяцінстве перанесла ангельку, мела праблемы з хрыбетніцай і хадзіла прыгнуўшыся. У вёсцы такое калецтва не прыхаваеш ад людскога вока і да Манькі прыстала мянушка Качанянка. Зразумела, замуж яна не выйшла, хаця браты не аднойчы яе вывозілі на кірмаш, маўляў, пільнаваць воз, пакуль яны там будуць займацца гандлем. І яна, добра і модна апрануўшыся, сядзела на тым возе, як на выданні, побач стаяла карзіна, з якой выглядалі ладныя кускі хлеба, сланіны, каўбасаў і паляндвіцы, маўляў, каб бачылі, што з багатай сям'і дзеўка, і галадаць не прыйдзецца. І быццам нават знаходзіліся ласыя на тыя каўбасы, але Манька мала таго што была з норавам, якому не кожны мог бы патрапіць, дык жа яшчэ і шляхецкі гонар мела – не хацела яна, відаць, прызнаваць тых ласуноў, так і засталася ў дзеўках. Неяк аднаго разу Антось з старэйшым сваім хлапцом Пецькам былі ў Качанюка, калі хлопцы з Манькай прыехалі з кірмашу. Швагры расказвалі пра тое, які быў гандаль, што прадалі, і паказвалі, што купілі. Пецька круціўся тут жа каля воза і раптам спытаўся: «Цётачка, а на вас, што, так і не знайшоўся купец?». Тая замахнулася на яго пугай, але падшыванец адбегся ўбок і, усё роўна, як дарослы, разважыў: «Мусіць, цётка хацела за пана, а пан ня ўзяў...».

І вось гэта згорбленая на палову, у гадах ужо жанчына, якой нават хадзіць цяжка, а не тое, каб шкодзіць камуне, стала ворагам савецкай улады. Жанчыны ішлі, падтрымліваючы адна другую, як дачцэ, так і старой маці хадзіць было нялёгка, асабліва зыходзіць з ганка. Жанчыны часта ўсхліпвалі і выціралі слёзы.

– О! Качанянкі выпаўзлі, – зларадмічаў Калістрат.

Апошнімі ў гэтай працэсіі з хаты выходзілі ўпаўнаважаны з партупеяй, Казакевіч, Восіпчык і Сцяпан з Пятром.

– Махровы кулак і вораг савецкага народу Аляксандра Качаноўскі арыштаваны, – гучна і нейк урачыста аб'явсціў з ганку Сцяпан прысутным на падворку. – І будзе дастаўлены, разам з членамі сваёй сям'і, для паказальнага судовага працэсу ў раённы аддзел народнага пралетарскага суду.

– Што зь імі цацкацца! – Калістрат выхапіў у салдата вінтоўку і бразнуў затворам.

Антось яшчэ перад гэтым прыкмеціў на дрывотніку ў калодцы сякеру, яшчэ адно імгненне і паляцела б тая сякера ў Калістрата, а там – будзь, што будзе.

– Адставіць! – паспеў скамандаваць упаўнаважаны. – Савецкая власть не займаецца самасудам і разбоем. Мы будзем судзіць ворагаў самым справядлівым савецкім судом.

– Куды будзе дастаўлены? – перапытаў цесць.

– Куды трэба, туды і дастаўлены! – коратка адказаў Пятро.

– Калі вам патрэбна хата – забірайце, мы будзем жыць у лазьні, у куратніку... Куды нас, старых, дастаўляць, га? – цесць гаварыў упэўнена і рашуча.

– Забірайце ўсё: зямлю, хату, гаспадарку, толькі дайце спакойна памерці тут, людзі! – загаласіла цешча.

– Хто ж дасьць? – рытарычна адказаў Сцяпан.

– Людзі ж самі просяць! – Калістрат зноў вырваўся наперад. – Дайце мне якую стрэльбу!

– Сьцяпан, а ты, гэта, не задавішся з сваёй камунай? – стары Качаноўскі гаварыў, не звяртаючы ўвагі на Калістрата. – Нельга так з старымі людзьмі, нельга!

Але Сцяпан нікога ўжо не слухаў. Ён нешта гаварыў упаўнаважанаму, пры тым, як заўважыў Антось, стараўся не сустракацца поглядам з ім. Але Антось нейк знайшоў зручны момант і гучна спытаўся:

– Сьцяпан! Дык усё ж такі, за што арыштавалі?

– Як, за што? – здзівіўся той. – Я ўжо казаў!

– Што ты казаў?

– За злачынствы супраць савецкай улады! Ні за што савецкая ўлада не карае!

– Якія... злачынствы? – зноў спытаўся Антось. Спытаўся з вялікім сумнівам ва ўсім, што тут чуў і бачыў.

– Ды пайшоў ты! – адмахнуўся ад яго Сцяпан.

– Людзі, можа хто з вас чуў пра злачынствы Качаноўскіх супроць савецкай улады? – Антось гаварыў смела і гучна. – Можа, яны дзе забілі каго? Можа, дзе спалілі, патравілі і стапталі камунарскае дабро? Можа, у бандзе якой былі?..

Сцяпан падскочыў да Антося, вочы яго блішчалі ад злосці:

– Ты што! Мерапрыемства хочаш сарваць?!. Ты, можа, захацеў разам зь ім?!. За што, пытаешся?!. А натуральная гаспадарка, трыццаць дзесяцін зямлі, малатарня, арфа?! – крычаў Сцяпан і махаў кулакамі перад Антосем. – Сыны ў войску польскім!.. Што табе яшчэ трэба?!

– Анічога! – расчараваўся Антось у сваіх сумнівах. – Аніколі ня думаў, што гаспадарка, зямля і малатарня – гэта злачынствы супраць савецкай улады, а сыны – дык ты зладзі іх і пасадзі, а пры чым тут старыя бацькі?

– А эксплюатацыя наёмнай працы!..

– Якая эксплюатацыя, Сьцяпан, пабойся Бога?

– Я сам працаваў у маладосьці!

– Дык гэта ж за царом было, Сьцяпан!

– Антось, супакойся, – на гэты раз загаварыў Ясь Качанюкоў. Быў ён сам вельмі спакойным і ўвесь гэты працэс маўчаў, а тут раптам. – Не зрывай мерапрыемства, Антось, цябе ж людзі просяць...

На падворку зноў нехта рагатнуў.

– Табе ж, Антось, пасьля яны не даруюць гэтага, – скончыў сваю думку Ясь.

Даруюць ці не даруюць – пра гэта Антось не думаў. Ён ведаў толькі адно: тое, што тут зараз робіцца на падворку, робіцца не так, не справядліва і не па-людску...

Тут неўзабаве з'явіўся Пуценька з сваёй камандай.

– Так, Сьцяпан, дакладваю: У Страчынскіх пуста, а Саковічы – толькі старыя... Там я пакінуў чалавека, каб і гэтыя не паўцяклі... Будзем браць?

– Будзем! – рашуча пацвердзіў Сцяпан і кіўнуў на Качаноўскіх. – А гэтых, пакуль прыйдзе машына, у лазьні зачыні. Пайшлі.

На гэтым і закончыўся працэс. Людзі сталі разыходзіцца. Антось разам з «арыштаванымі» прайшоўся да лазні. Лазня стаяла ў ста метрах ад сядзібы, і ўсю гэтую дарогу цесьць як толькі мог, кляў Сцяпана, камунараў і Саветаў:

– А каб ім бельмачы павылазілі, паскудства нягоднае, каб ім мову заняло, а каб на іх немач, як на іх здыхаты няма, як яны ўбачылі дабро маё, а каб ім гэтае дабро колам праз горла выперла, а каб ім кішкі закруціла, як яны круцяць маё жыцьцё, а каб ім гэтай зямелькай на труну пасыпалі, як гэтая зямелька ім далася... А каб іх так трасца кідала, як яны нас параскідвалі... А каб яны да нядзелькі не дажылі, як не далі мне дажыць...

Антосю рабілася страшна чуць гэтыя праклёны, а цесць усё даваў і даваў: «А каб... А каб... А каб...».

На вуліцы было даволі зімна. Цесць з жанчынамі пайшлі ў лазню, а Антось з Ясем прыселі каля лазні на лавачцы. Батракоў старэйшы хлапец, якога Пуценька прызначыў у якасці вартавога, стаяў воддаль і смактаў самакрутку.

– Ты бачыш, колькі яны сабе ворагаў нажываюць, – спакойна прагаварыў Ясь. – А толку ня будзе...

– У некаторых людзей ёсьць нейкая патэнцыяльная нянавісьць да другіх, да тых, хто нейкімі якасьцямі пераўзыходзяць іх, – падтрымаў спакойны тон гутаркі Антось, хаця зрабіць гэта яму было нялёгка. – Але такія дзеяньні да дабра не даводзяць...

– А, можа, гэта прыродная патрэба – рабіць зло? – перабіў Антося Ясь. – Нейкі ген зла, які пры спрыяльных умовах разьвіваецца і кіруе чалавекам. Вось зараз для яго насталі зручныя ўмовы.

– Такіх Бог карае, – Антось кіўнуў галавой у бок лазні. – Вось пачуе Бог праклёны бацькі і пакарае.

Ясь уважліва паглядзеў на Антося і амаль што шэптам прагаварыў:

– Час неспакойны... У скляпку, у страсе, справа ад дзьвярэй – карабін... Перахавай дзе... Можа спатрэбіцца...

Антось тады яшчэ хацеў перапытаць, маўляў, каму спатрэбіцца, бо ён чалавек не вайсковы і страляць анікога не збіраецца, але толькі сказаў, што паглядзіць, бо да лазні, праз поле на кані вярхом, ляцеў Восіпчык.

– Хачу вас абрадаваць – чорны варанок пад'ехаў, але ўвяз у балоце! Антось, запрагай каня, кінь пару клумкаў і вязі сваіх старых да грэблі. Я буду суправаджаць!

– Табе трэба – ты й вязі! – адгукнуўся Антось.

Пасля, праўда, Антось дапамог укласці ў воз, а пасля і загрузіць у машыну некалькі мяшкоў і клумкаў (ня больш аднаго мяшка і торбы на чалавека – нормы ўстанаўліваў Пуценька), і неўзабаве новая партыя арыштаваных і раскулачаных, а гэта старыя Качаноўскія з дочкай пры калецтве і старыя Саковічы, былі адпраўленыя ў невядомасць. Тады яшчэ Пуценька суцешыў прысутных:

– Бяз іх спакайней будзе!

Да хаты Антось ішоў злы і абураны такімі падзеямі на Качанюковым падворку. Дарогаю яго дагнаў Ян Сакалоўскі. Прысутнічаў ён на раскулачванні Саковічаў і, павод-

ле яго расказу, ён гэтак жа, як і Антось, выступіў у абарону старых Саковічаў, але, зразумела, да яго голасу ніхто не прыслухаўся.

– Ты глядзі, што атрымліваецца, – абураўся Сакалоўскі. – Мы, праваслаўныя, цярпелі пры паляках, таму што не былі палякамі, як твой Качанюк, да прыкладу. Саветы абяцалі, што болей тут Польшчы ня будзе, а значыць, новая дзяржава будзе для нас, для беларусаў, рускіх і праваслаўных...

– Качанюк ня быў палякам, ён быў католікам...

– Усе роўна! Качанюка раскулачылі і правільна зрабілі. А вось за што Саковічаў, рускіх беларусаў, вывезьлі?

– На добрую галаву, дык анікога ня трэба было чапаць – усе яны былі беларусамі...

– Ты, Антось, мяне з сабой не раўнуй – ты паляк, а я рускі... Ты да касьцёлу, да Польшчы цягнуўся, а я – да царквы, да бацюшкі, да Расеі матушкі...

– Ян, ты ж ужо ў веку чалавек, увесь сьвет аб'ездзіў, а разважаеш, як малое дзіцё – гэтыя Саветы не прызнаюць, ані твайго бацюшкі, ані тваёй матушкі... У Вільні ўсіх беларусаў-«кэпэзэбоўцаў» арыштавалі. Яны змагаліся за іх ідэалы, а іх, як ворагаў...І да нас можа дайсьці чарга...

– А мяне за што? Я з мазаля свайго дабро нажываў. Я ім сам магу паказаць, як трэба жыць і працаваць!

Ведаў Антось, што Сакалоўскі гаспадаром быў адмысловым. Недзе ў 20-х гадах ездзіў у Амерыку, зарабіў там грошы (казаў, што ў дзве змены працаваў), вярнуўся на радзіму (тады яшчэ ў Польшчу) і ў пана Дабрынскага прыкупіў ладны кавалак зямлі і каля дзесяці гектараў лесу. Лес той адразу пусціў у абарот: што сабе на хату і пабудовы, а што і на продаж. Абзавёўся гаспадаркай: купіў каня, карову, неабходны інвентар, збрую і чым любіў пахваліцца – дык гэта амерыканскім тарантасам, кшталту, брычкі на рысорах – такой нават не было ў тутэйшых паноў. Выязджаў Амерыканец (так яго празвалі ў вёсцы) на ёй у нядзелю ў Мястэчка ў царкву. Калі і падвозіў каго, дык толькі «рускіх» у царкву. Але калі нават і не было вялікай патрэбы куды-небудзь ехаць, дык запражэ іншы раз каня ў пазалочаную збрую і праедзецца на сваім «тарантасе» вёскай, пакруціцца ў Багданоўцы, каго-небудзь пакатае, – чым не пан. Сакалоўскі быў добрым гаспадаром – нічога не скажаш – у яго была ўзорная гаспадарка і было чаму павучыцца.

– Качанюк таксама быў добрым гаспадаром, – заўважыў Антось.

– Ну, што ты раўнуеш мяне з Качанюком – яны пры шляхце былі, мелі нейкія запасы, хадзілі нос задраўшы! А я

быў бядняк зь беднякоў. I ўсё сам, вось гэтымі рукамі, вось гэтай галавой... Ты разумееш? Я ня вораг савецкай уладзе!

– А хто вораг? – Антосю чамусьці падумалася, што гутарка губляе ўсякі сэнс, што даводзіць некаму...

Каля Янавых кустоў яны спыніліся на хвілінку.

– Можа, глянеш? – Ян кіўнуў галавой на сваю гаспадарку.

– Хіба што іншым разам... Сёньня дзень такі, прабач, трэба дахаты...

Антось тады адмовіўся, бо і сапраўды не было калі разглядваць чужую гаспадарку, асабліва калі свая чакала дагляду і працы. Прынамсі, Антось добра ведаў, чым займаўся Амерыканец, і там было што паглядзець, але сёння было не да гэтага.

Апрача Качаноўскіх у той дзень арыштавалі ў Няроўцы Саковічаў: старога Ігнальку з Анэлінай (жонкай) і іх сына Вальдэмара Саковіча – бацьку Віктося Саковіча. Вальдэмар быў старэйшым сынам, з прыходам Саветаў ён аддзяліўся ад бацькавай гаспадаркі і стаў жыць у былой лазні, перабудаваўшы яе пад жылое памяшканне. Думаў, што так можна будзе ўратавацца, калі прыйдуць браць бацькоў як кулакоў і ворагаў савецкай улады. Жыў ён асобна сваёй сям'ёй, палітыкай асабліва не займаўся, і цяжка было сказаць, дзе і каму ён перайшоў дарогу. У раскулачванні Саковічаў вельмі шчыраваў Мішка Шахно (Булёнчык). Пеўнем ён хадзіў па хаце і падворку старога Ігнालькі, зларадднічаў, абражаў і стараўся пры нагодзе ўдарыць старога чалавека рукой ці нагой, каб той так зарыўся тварам у балота, як некалі ён пры сустрэчы савецкіх танкаў.

У тыя дні яшчэ былі раскулачанымі і арыштаванымі сем'і ў Мазалях, Ракуцеве, Мікулеўшчыне, Крыўску; такі ж лёс напаткаў многіх у мястэчку і ў яго ваколіцах. Здавалася, што прайшлася нейкая д'ябальская хваля, якая сваёй сілай вымывала людзей з вёскі, з-пад родных стрэх і кідала няведама куды. Што болей за ўсё збівала людзей з панталыку, дык гэта невядомасць: за што раскулачваюць, арыштоўваюць і вывозяць; за якія такія злачынствы так жорстка караюць людзей. Не адзін Антось ставіў падобныя пытанні перад начальствам, толькі пераканаўчага адказу на іх ніхто не чуў. Мясцовыя ўлады адно толькі даводзілі, што гэта не іх кампетэнцыя, што гэтым займаюцца спецыяльныя органы, што вельмі хутка ўсё ўсім стане вядома. Так, Кацалапаў гаварыў пра цяжкую аператыўную следчую працу над кожным арыштаваным (каб усё было справядліва), а пасля, калі будзе даказана віна арыштаванага, будуць праведзены паказальныя судовыя працэсы,

каб кожны жадаючы мог пераканацца ў тым, што савецкая ўлада анізашто не карае.

Куды болей выніковай была праца «троек», якія былі створаны на аператыўных участках (у народзе іх празвалі оперчысткамі). У адным сельскім савеце магло быць некалькі «троек». У іх склад уваходзілі прадстаўнікі саветаў, чырвонаармейцы, партыйна-камсамольскі актыў, прадстаўнікі міліцыі і пракуратуры. Мясцовымі актывістамі складаліся спісы ўсіх, хто падлягаў высяленню, арышту і суду; апісвалася іх маёмасць. Некалькі такіх троек былі створаны ў Дойневічах і Ракавічах. Зразумела, што ў іх уваходзілі Сцяпан, Кацалапаў, Кабяк, Пуценька і іншыя. Агульнае камандаванне над імі праводзіў опер-чыкіст Трэпелеў.

Людзей ахапіла нейкая істэрыя падазронасці і недаверу. Складвалася ўражанне, што быццам усё наваколле было нашпігавана рознымі ворагамі і шкоднікамі. Цяжка было паверыць у тое, што вяскоўцы, сяляне, якія жылі тут спрадвеку, былі яшчэ і трацкістымі, правымі, нацыянал-фашыстамі, эсэрамі, бундаўцамі, меньшавікамі, палякамі, сіяністамі, апартуністамі, царкоўнікамі, сектантамі, клерыкаламі і звычайнымі кулакамі; і што ўсе яны былі на службе розных (польскіх, нямецкіх, англійскіх, японскіх і іншых выведак).

З другога боку, такая падазронасць да ўсіх давала магчымасці лёгка расправіцца з не ўгоднымі асобамі не толькі савецкай уладзе, але і не ўгодных пры суседстве, альбо адпомсціць за ранейшыя крыўды. Падзел сярод сялян на тых, каго любіць савецкая ўлада і на тых, каго яна ненавідзіць, стаў вельмі кантрастным. Найболей савецкай уладзе падабаліся тыя, хто ішоў да яе з даносамі на свайго суседа альбо аднавяскоўца. Такія, як не дзіўна, хадзілі ў «любімчыках» новай улады.

Сітуацыя ў адносінах да «ворагаў народу» абвастрылася яшчэ болей пасля забойства невядомымі асобамі аператыўнага ўпаўнаважанага НКВД лейтэнанта Феськова, памочніка камісара Трэпелева. Абстралялі іх на хутарах у Драздзішках, дзе, паводле інфармацыі Трэпелева, хаваліся нейкія бандыты. Бандытамі сталі называць усіх, хто знаходзіўся ў лесе і стараўся нашкодзіць савецкай уладзе. Трэпелеў тады з сваім атрадам (Пуценька, Мечык, Славік, Шчасны, Феськоў і два чырвонаармейцы) вырашылі «прачасаць» далёкія хутары – «правесці нацыяналізацыю маёмасці» і, калі будзе нагода, арыштаваць кулакоў і падкулачнікаў. Калі ж пачуліся першыя стрэлы з лесу і кулі заціўкалі над галавой, атрад Трэпеле-

ва тут жа, без каманды, пайшоў у рассыпную і даўся наўцёкі. Першым уцякаў камандзір атраду Трэпелеў, балазе ў яго конь быў лепшы. А калі кулі заціхлі, спыніліся байцы і агледзеліся – няма Феськова. Атрымалася, як у песні: «Отряд не заметил потери бойца...». Вырашана было адправіць Шчаснага ў Мястэчка за дапамогай (там дыслакаваліся атрады НКВД і чырвонай гвардыі), а самім пашукаць Феськова і, як казаў Трэпелеў, «преследовать врага и уничтожить в его логове». Феськова знайшлі раненым пад кустом. У страшных пакутах ён корчыўся ад болю. Куля, відаць, трапіла ў жывот. Камісар Трэпелеў саскочыў з каня, падышоў да Феськова і стаў распытваць, у які бок паўцякалі бандыты, але Феськоў, здаецца, не разумеў, пра што ідзе гутарка. Камісар нязграбна залез у сядло, закамандаваў «за мной», і байцы паскакалі.

«Бандыты», у сваю чаргу, не сталі чакаць чырвонаармейцаў-гвардзейцаў, зніклі так, што і след іх прастыў. Праўда, што гэта былі за «бандыты» так ніхто і не даведаўся.

Вярнуліся тады чыкісты ў вёску з мёртвым Феськовым. Мясцовая фельчарка агледзела Феськова і сказала, што рана была не смяротнай – ад страты крыві памёр баец. А яго таварышы пакляліся на паховінах адпомсціць забойцам, з віны якіх перастала біцца сэрца палымянага патрыёта і змагара за савецкую ўладу.

Яшчэ адно жахлівае забойства адбылося ў Ракуцева. Забілі ўсю сям'ю Стрыгаў – Анішчыкаў. Пасля таго як арыштавалі пані Дэмскую з дочкамі, у адной палове панскага дому была арганізавана камуна, у другой – жылі галоўныя камунары – сям'я Стрыгаў. Ноччу невядомыя вывелі ўсіх (шэсць чалавек, сярод якіх былі і дзеці), на падворак і застрэлілі. Сваякоў у Ракуцеве і навакольных вёсках у Анішчыкаў не было, а таму ўзнікла праблема з іх пахаваннем. Справу гэтую на сябе павінен быў узяць камунарскі актыў у Ракуцеве, але такім актывам і былі Анішчыкі. У сувязі з гэтым, пахавальным працэсам кіраваў Сцяпан. Дзень паховінаў быў абвешчаны траўрным днём у акрузе. Праўда, галашэнняў не было, таму што ўся сям'я загінула і не было каму аплакваць. На паховінах Сцяпан сказаў колькі слоў, гаварыў узрушана, з рэвалюцыйна-трагічным запалам, маўляў, яны першымі палі ахвярамі за нашу савецкую ўладу, за вялікую справу працоўных і сялян усяго свету, за кожнага, хто марыць пра шчаслівае жыццё, хто не хоча гнуць карак на паноў і эксплуататараў працоўнага народу... У памяць пра загінуўшых, чырвонаармейцы зрабілі тры стрэлы з вінтовак. Пахавалі іх урачыста, як герояў, на старым, радавым магільніку паноў Карчэўскіх у Багданоўцы. Мясцо-

вы актыў абавязаў дырэктара школы і школьнікаў даглядаць за іх магіламі.

Зямля і маёмасць «арыштаваных» і «высяленцаў» тут жа далучалася да камунарскай арцелі. Дамы іх выкарыстоўвалі ў якасці камунарскай канторы альбо пад жыллё актыву: прыезджых спецыялістаў, арганізатараў і старшынь арцеляў. Толькі ў былых сядзібах Лакуціеўскага ў Ходзьках і Дабрынскай у Парлоўцы ніхто не хацеў жыць – далёка ад вёскі і лес навокал. Пасля трагічнага выпадку з забойствам Анішчыкаў, у дамах, дзе жылі спецыялісты расквартаравалі па некалькі чырвонаармейцаў.

Хату Качанюкоў меркавалі перадаць шматдзетнай і беднай сям'і Аляксандра Садоўскага. Той нават, пры сустрэчы з Антосем, прасіў прабачэння, на што Антось адказаў:

– А я тут пры чым? Ты лепей падумай, што будзеш рабіць, калі яны вярнуцца?..

– Ты думаеш, ён вернецца? Пуценька казаў, што адтуль, як з таго свету, ніхто не вяртаецца!

– Шмат ведае твой Пуценька... Хаця ўсё можа быць... У яго ж інтуіцыя...

Але дарэмна спадзяваўся Садоўскі – у хаце Качанюкоў стаў жыць аператыўнік Трэпелеў, альбо, як яго празвалі ў народзе – Цэрбер.

У красавіку была адпраўлена ў Сібір другая партыя «ворагаў народу» і адразу ж пасля гэтага сталі набіраць чарговую партыю. Вялікая заслуга ў гэтым была не толькі мясцовага актыву, але і прыезджых: кацалапавых, мокшаў, і асабліва цэрбераў.

## 22. Упаўнаважаны камісар Трэпелеў (Цэрбер)

Старшы ўпаўнаважаны ў асабліва важных справах, оперчэкіст, таварыш капітан Трэпелеў быў сапраўдным Цэрберам. Хадзілі чуткі, што опер гэты вучыўся некалі ў праваслаўнай духоўнай семінарыі, і там захапіўся крамольнымі, крымінальнымі і незразумелымі ідэямі. Сядзеў у царскіх турмах за розныя зладзействы, разбоі і забойствы, а пасля стаў марксістам і рэвалюцыянерам; быў асабіста знаёмы з Дзяржынскім і ў свой час узначальваў недзе на Смаленшчыне раённы камітэт ЧК, а пасля, быццам, спіўся. Так гэта было, ці не – ніхто не ведаў, але чуткам хацелася верыць, хоць бы таму,

што ад яго ўвесь час несла брагай. Калі яшчэ з раніцы ён мог сказаць колькі слоў болей-меней прыстойных і паразважаць на тэмы сусветнай сацыялістычнай рэвалюцыі і яго вялікай ролі ў гэтым, дык ужо пасля палудня толькі мацюкаўся і галёкаў на ўсіх і навокал. З ім немагчыма было размаўляць – ён стараўся збіць кожнага з панталыку сваім здзеклівым перадражніваннем мовы: «куды-ы?», «чаг-го-о?», «адку-уль?», а яшчэ – ён аніколі нікога не слухаў і толькі ўсё крычаў, пагражаў і мацюкаўся. Пры тым, найболей разборлівымі і зразумелымі былі аглашэнні кшталту:

– Азваздам вам царствіе небесное, уроды!.. Земное царствіе воздам вам... Весь мір голодных і рабов!..

Увогуле, дагадзіць былому клерыку і вуркагану было вельмі цяжка.

– Што за натура такая? – скардзіліся не раз вяскоўцы Сцяпану. – Ты яму так – ён табе гэтак, ты яму гэтак – ён табе гэнак, ты яму гэнак – ён табе так! Альбо як пачне гаварыць іншы раз, дык брыдка слухаць!

Гутарка яго і паводзіны і сапраўды іншы раз былі нейкімі нялюдскімі: з пахабнымі жартамі і прычэпкамі лез да жанчын і ўсё хваліўся, што ў яго, недзе ў Расеі, цэлы гарэм такіх «мокрашчолак». Іншы раз любіў пахваліцца сваім рэвалюцыйным геройствам, маўляў, каб не ён, дык Дзянікіна і Калчака не разбілі б... А яшчэ чамусьці як пра вялікую заслугу, гаварыў пра тое, колькі ён можа выпіць гарэлкі – цыстэрну... І з кім толькі ён не піў: з усесаюзным старастам Калініным піў, з Максімам Горкім – вялікім пралетарскім пісьменнікам – піў, з Будзённым і яго конніцай таксама піў, піў з Варашылавам, Лабачэўскім і з Ламаносавым... А колькі ён выкрыў, пасадзіў і пастраляў ворагаў народу, дык ужо і сам з ліку збіўся – недзе каля пяці тысяч. Дарэчы, калі ж гутарка заходзіла пра ворагаў народу, на камісара находзіў нейкі шал. Ён бачыў ворага ў кожным, і гатовы быў тут жа застрэліць яго. З гэтай нагоды ён чапляўся да кожнага, каго толькі сустракаў на сваёй дарозе, пагражаў пісталетам і катаргай у Сібіры і ўсё хваліўся. Ці не з гэтай нагоды яго ў вёсцы перакрысцілі насвой лад – Цэрбер.

Сцяпан і сам іншым разам крывіўся ад пахабнасці Цэрбера, але ані яму, ані вяскоўцам нічога канкрэтнага сказаць не мог.

– Што зробіш... – толькі ківаў галавой Сцяпан. – Нэрвы... Нялёгка праводзіць лінію партыі.

Можа такога спецыяльна даслалі толькі сюды, – думалі вяскоўцы, – альбо можа такі да іх выпадкова трапіў, ажно не.

Не лепшымі былі арганізатары новай улады і ў суседніх вёсках. Прынамсі, не прыходзілася чуць добрага слова пра іх, адно толькі: алкагольцы, злодзеі, пустазвоны, прыдуркі, для якіх не было большай радасці, як чыніць каму гадасці.

Не лепшыя прыязджалі з таго боку і пры царскай Расіі. Відаць, такая ўжо была ў іх традыцыя: туды – у глыбінку Расеі, у Сібір – талковых гаспадароў, работнікаў – гонар і цвет нацыі, адтуль сюды – розных кручковых, кацалапавых, цэрбераў.

Зразумелая рэч, не маглі такія дзеячы выклікаць сімпатыі ў народу; вельмі хутка яны скампраметавалі савецкую ўладу, і настроі многіх сялян пачалі рэзка мяняцца з прасавецкіх на антысавецкія.

– А каб мы ведалі такое шчасьце, дык ня кветкамі, а кулькамі сустрэлі б іх! – прыкладна такія словы можна было пачуць у вёсцы ўсё часцей і часцей.

Расчараваўся ў такіх Саветах нават Мішка Шахно (Булёнчык), які некалі цалаваў борт савецкай палутаркі. І тыя, хто калісьці цалаваў савецкія танкі і машыны, сталі праклінаць актывістаў і савецкую ўладу гэтак жа, як праклціналі іх і арыштаваныя «ворагі народу». Разачараванні людзей у новай уладзе выклікалі настальгічныя матывы «пры паляках было лепш» і высновы, кшталту: «Нас дваццаць гадоў апалячвалі палякі – не апалячылі, а прыйшлі саветы і апалячылі за два гады».

А камісары, розныя цэрберы ды пуценькі, тым часам, не спалі. Нядобразычлівыя адносіны і праклёны на свой адрас разглядаліся імі як варожыя адносіны да савецкай улады. І такія настроі людзей у хуткім часе сталі трактавацца як настроі «ворагаў народу» і «ворагаў савецкай улады».

Янук Дайновіч даводзіў:

– Дык гэта ж так робіцца спецыяльна, спецыяльна правакуюць народ, каб знайсьці зачэпку і яго зьнішчыць! Гэта ж – маскальская палітыка!

– Хто яго ведае? Яны й без зачэпкі могуць зьнішчыць, – разважаў Антось. – Але калі так пойдзе далей, дык спадзявацца на нейкі шанцунак, відаць, ня прыйдзецца... Ня будзе тут жыцьця, ня будзе...

– А яго даўно ўжо няма... А мы ўсё шчымімся, усё штырхаемся, усё хочам узьбіцца на нейкае жыцьцё, усё шукаем шанцунак, а не атрымліваецца, – Янук дэманстратыўна развёў рукі ў бакі.

Цяжка было згадзіцца з такімі высновамі, але жыццё застаўляла.

І вось неяк, тымі днямі, Пуценька з гэтым операм Цэрберам з'явіліся на Антосевым падворку. Пуценька замест прывітання адразу стаў з'едліва падкалупваць:

– Ну, што, куркуль! Насушыў сухароў? Хутка, ужо хутка паедзеш да цесьця... Зь цешчай убачышся... Гы-гы-гы!.. – і па-дзелавому. – Нам трэба зайсьці ў хату!

Пуценька накіраваўся да дзвярэй.

– Ідзі, калі табе трэба, хоць цябе ніхто й не запрашае!– буркнуў у адказ Антось і пайшоў следам за ім, а опер-чыкіст Цэрбер за Антосем.

– У такой хаце павінен жыць рукавадзіцель савецкай власьці на мясцох альбо ўпаўнамочаны опер-таварыш, – першае, што прагаварыў Пуценька, ходзячы па новай падлозе. – А не кулацка-панскія прыхвасьцені! Ці так, таварыш камісар?!

– Так, известное дело, мать их за ногу кулакоў этих и падкулачников, ядрона вошь! –падтрымаў яго Цэрбер!

Антось хацеў прамаўчаць, бо бачыў, што ўлада была на добрым падпітку, але цярпець такое нахабства ў сваёй хаце таксама не было як:

– А што, можа ты, Пуценька, хату гэту рабіў?.. Можа, ты лес купляў, бярвеньні цягаў, драку высякаў, доскі габляваў? – спакойна гаварыў Антось.

– У мяне не было такіх магчымасьцей, я быў пад панскім гнётам, прыгняталі мяне, сядзелі на маім карку, застаўлялі рабіць непатрэбнае мне...

– Хто сядзеў?! На якім карку?! Работнік! – абурыўся Антось.

– Маўчы, падкулацкая твая морда! – смела агрызнуўся Пуценька.

– Пуценька, які я табе прыхвасьцень, якая морда? Ты што, забыўся, як прасіўся: «дзядзька Антось, дайце трохі хлеба, бо есьці няма чаго... дзядзька Антось, дайце трохі бульбы!..». Ня помніш?.. Кожны год, зімой, вясной?.. Я, можа, гэты кусок хлеба ў дзіцяці адбіраў, але даваў! Як ня даць – сусед жа. А трэба было з хаты гнаць брыдоту такую!..

– Яшчэ няведама, хто каго з хаты пагоніць! – заявіў Пуценька. – Ці так, таварыш камісар?

– Известное дело! О! Аз воздадим каждому!.. Ты знаешь, что мне говорил товарищ Державинский?

– Не – е...

– Товарищь Державинский, когда направлял меня сюда говорил: «Серго, смотри, большое дело тебе поручено: проводить в жизнь идеи великой социалистической мировой революции – с Польшчи начинаем осуществлять эти идеи, с Польшчи!».

– Во как! Понял! – спытаўся Пуценька ў Антося. – А ты – брыдота... Некрасіва гаворыш! Сам брыдота!

– Всех их надо отсель гнать, садить, стрелять... мать их! – працягваў Цэрбер...

– Што вам трэба? – Антось паставіў пытанне рубам.

– Ты нам напачатку налі... Мне і таварышу – па кілішку, а пасьля мы паглядзім, – заявіў Пуценька.

Ганька не аднойчы казала Антосю, што, можа, варта было б запрасіць Цэрбера гэтага з Пуценькам у хату, пачаставаць добра, можа, і палепшылі б, можа, і не так чапляліся, але ўсё неяк не выпадала, а тут, здаецца, сам выпадак прыйшоў у хату, але сёння на іх глядзець не хацелася, не тое, каб яшчэ частаваць.

– Няма ў мяне гарэлкі, – Антось адкрыў перад імі дзверы. – Проша пана!

– Ты, відаць, не зразумеў, хто мы такія? – нагадаў пра сябе Пуценька. – А гэтага таварыша ты, відаць, яшчэ ня ведаеш?

– Чаму, ведаю: ты Пуценька, а гэта – таварыш Трапач, ці Трапачоў…

– Няправільна! – Пуценька памахаў пальцам. – Я аператыўны ўпаўнамочаны, а ён – найбольшы ўпаўнамочаны па асабліва важных справах, таварыш Трэпалёў, а не Трапачоў.

– А мне ўсёроўна...

– Налівай!

– Няма чаго!

– Ну, што ж, запомнім такі прыём, – працадзіў Пуценька праз зубы. – Пайшлі, камісар.

Але ў гэты момант пачаў біць насценны гадзіннік. У гэтага гадзінніка была свая гісторыя. Бацька незадоўга перад сваёй смерццю у Мікалаеўскую вайну, прынёс яго ад немцаў – абмяняў на добры кавал сланіны. Але пасля прыйшлося яго прадаць, каб сабраць грошы на каня. Прадаў тады бацька гадзіннік Качаноўскаму з Ракавічаў. Тады ж ніхто не гадаў, што Качанюк стане сватам. А калі цесця вывозілі бальшавікі, Антось перавёз гадзіннік у сваю хату.

– Слухай, таварыш камісар, табе ён нічога не нагадвае? – страпянуўся Пуценька ўжо на самым парозе.

– Как же! Бой кремлёвскіх курантов!

– Вось бы яго нам ды ў сельсавет, га?! – загарэўся ідэяй Пуценька. – Дзядзька Антось, зрабі падарунак савецкай уладзе! Усё даруем... Навошта ён табе?!

Такі гадзіннік у хаце – патрэбная рэч. Чалавек да яго прывыкае, як да жывой істоты. Гадзіннік біў кожную гадзіну,

адпаведна часу, прыемным і меладычным боем. Да таго ж і памятка пра бацьку, і пра цесця.

– Кіньма пустыя размовы! – катэгарычна заявіў Антось. – Выходзьце!

– Ты глядзі, які ён сьмелы, ай-я-я-я! – зноў пачаў крыўляцца Пуценька. – Ня хочаш аддаваць дабром, дык мы другім разам прыйдзем і канфіскуем твой гадзіннік, як праяву мелкай буржуазіі. Ці так, таварыш камісар?

– Запроста! Известное дело, каждому по заслугам… Есчо и пасадим!

– Во! Чуў?! А дзе ты бачыў у сялянскай хаце такія гадзіннікі? Чакай, чакай… Ці не Качанюкоў гэта гадзіннік?.. Нешта раней я яго ў цябе ня бачыў… Ага! – узрадаваўся Пуценька. – Прысабечыў гадзіннік ворага народу! Так, так, а што, калі мы ў цябе і плужок нямецкі знойдзем Качанюкоў? Тады што?

– Тады – Сібір… В лучшем случаи – расстрел! – падказаў Цэрбер.

– Во, чуў? А таварыш законы ведае! Так што, налівай, альбо падумай.

– Я лепш падумаю, абавязкова падумаю, – заўпэўніў Антось.

– То-та ж…

Яны ўжо сабраліся выходзіць, але на парозе Пуценька раптам спыніўся і запытаўся:

– І есчо: а ці ведаеш ты, што твой сябрук і аднадумец з'яўляецца прытаіўшымся ворагам народу?

– Няма ў мяне такіх сяброў!

– А Янук, што, ня сябра?!

– Хто, Дайновіч? Ха-ха! Ён такі ж вораг, як я негра!

– Ах, вось яно што! Таварыш камісар, – звярнуўся Пуценька да Цэрбера. – Вы понялі, што ён сказаў?

– А чё тут понимать-то? Очень даже кстати. Негр – он что в Африке, что здесь – негр. Так, как он, вкалывает – вкалывают только негры. Эй, ты, чорнамазый, где чаша сия с водкой для барина!!. Водку давай, хамло!

– А каб ты апрогся, чамярыцы бы табе, ды й той няма, – спакойна прагаварыў Антось.

– Мы не пыль на ветру, а соль земли! – амаль што крычаў Цэрбер. – Ты понял это, негра?!

– Понял, понял…

– Ты – негра, сагласен с этим? – Трэпелеў-Цэрбер уставіўся сваімі п'янымі і чырвонымі вачамі на Антося, быццам толькі цяпер яго ўбачыў.

– З чым? – не зразумеў Антось.

– З тым, што ты працуеш, як негра! – растлумачыў Пуценька. – Цябе толькі савецкая ўлада можа вызваліць ад гэтага рабства!

– О! Это можна к дзелу прышыць, – загарэўся раптам Цэрбер. – Пуценька, даставай бумаги, надо писаць...

Пуценька мітуслíва дастаў паперы.

– Так, – Цэрбер на хвіліну задумаўся, – Запишам так: Антоний... как его... Своим недвухсмысленным высказыванием о том, что Дойнович такой же враг, как он негр, подтвердил причастность Дойновича к вражескому Советской стране лагеру, ибо изрёкший оное имярек действительно является негром, ибо пашет, как негр, с чем согласен и подтверждает вышеизложенное своею собственноручной подписью. Ну, как?

– Класна! Я бы в жізьні так не прыдумаў бы! Шыбка граматны вы чалавек, таварыш камісар! – Пуценька з павагай паглядзеў на Цэрбера.

– Опыт, батенька, не прап'ёш! Велик человек в делах своих! – з гонарам за сябе пацвердзіў сваю «граматнасць» Цэрбер. – Бывала, и не такое приходилось сочинять в качестве приговора. Главное, чтоб было всё логично и гладко, как у писателя Горкага…

– У мяне калі-некалі таксама складна атрымліваецца! – пахваліўся Пуценька. – Дам калі-небудзь пачытаць.

– Мы когда-небудзь проведзём и здесь литературный процес, – паабяцаў Цэрбер. – А счас этот негрытос пусть падписывает бумагу!

– На, падпішы! – Пуценька сунуў Антосю ліст паперы.

– Што? – не зусім зразумеў той.

– Табе якая розніца! Вось тут! – Пуценька тыцкнуў пальцам. – Што ты негра, а сябрук твой – вораг! Сам жа казаў.

– Нічога я ня буду падпісваць! – упіраўся Антось.

– Падпісвай! Ня то горш будзе! – насядаў Пуценька. – К дзелу прыш'ём!

– Прышывай хоць да сракі!

– Таварыш опер-чыкіст, кліент выражоўваецца!

– Не хорошо это, не хорошо! Не по-ленински это. Мерзопакостник он богомерзкий. Ну, не хотит, как хотит! Отметь там, что от подписи отказался, сквернословил и хамил, вступал в пререкания с представителями советской власти... За базар не отвечает. Что там есшчё... В общем, здесь надо подумать... Допишиш сам...

– Дапішу, дапішу...

– А не кажется ли вам, товарищ Путеньков, – працягваў Цэрбер, – что здесь орудует целая контрреволюционная организация, членом которой является и этот негр! Кстати, в По-

ставском районе действует уполномоченным мой друг, и он раскрутил контрреволюционную националистическую польскую партию «Озон» – 14 человек... Молодец – говорят, всех под вышку подвёл. И знаешь, как его фамилия? Москвичёв![1] Наш человек!

– Вось бы нам так раскруціцца! – усклікнуў Пуценька. – Па ордэну атрымалі б…

– Не мечтать надо, товарищ, а надо материалы готовить, связи устанавливать, ибо враги народов не дремлют...

– Якія матэрыялы, таварыш камісар, няма праблемы! – падхапіў Пуценька. – Я, во, толькі клікну і два подпісы пасуседству, а свой трэці пастаўлю... Ён мне так ужо надаеў тут пад бокам, прасьвету ж ад яго няма... так надаеў...

– Известное дело, если надоел, что ж терпеть, – згадзіўся Цэрбер. – Ибо всякое терпение приводит к распятию...

– Ізвестнае дзела, ізвестнае дзела! – перадражніў Антось. – Шляюцца, як два лабідуды, толькі ад працы адбіваюць!

– Во, чуў, таварыш камісар, як савецкую ўладу абзывае – лабідуда!

– А эта чё такое?

– А хрэн яго ведае, але, відаць, нешта нядобрае… Трэба запісаць! Пуценька шкрабануў нешта ў сваіх паперах і раптам ажывіўся: – О! Дык гэта – расстрэльная стацьця!

– Усё, мне трэба ісьці араць! – Антось накіраваўся да дзвярэй.

– Чево, чево?! Орать? На кого ты будешь орать?! – ускіпеў Цэрбер. – Здесь я буду орать! Запомни это, раб божий и человечий! Раз и навсегда запомни!

– Так, так, дзядзько Антось, яны будуць араць, а ты будзеш пахаць, пахаць і есчо раз пахаць!

– Мы будем на тебя орать, и мы будем на тебе пахать! Вот так оно то правильней будет, по-советски! – удакладніў Цэрбер. – Ибо сказано, в труде своём обретёшь истину...

Антось агрызацца не стаў – не было сэнсу. Толькі і сказаў:

– Галёкаць вы можаце, заместа таго, каб справай заняцца...

– І справамі зоймемся, не хвалюйся! – паабяцаў Пуценька. – Мы завядзём, закруцім такія справы, што ого-го!.. Праўда, таварыш камісар?

– Вот именно! – падхапіў Цэрбер. – Вы тут, все, в землю вросли, как черви в ней колупаетесь, а что толку? Мы же, я и

[1] Паводле дакументаў Занальнага архіву ў г. Маладзечана і сапраўды быў такі аператыўнік НКУС.

вот, товарищ Путенька, нация более культурная... Мы, как те евреи: они либо торгуют, либо песни поют и шутят, но в навозе ковыряться не станут. А ў вас нету своей культуры... Вы – отсталая нация! Вы немножко недоразвитые!... Вам лишь бы детей клепать... Мы завоевали вас так, что вы даже и не заметили! Вы – наши рабы! Мы, что хотим, то с вами и делаем!.. Знай это, мать тваю так и разэтак!..

– Вы мне тут, таварыш опер, маскалёў ня гніце – абразы на куце, – абурыўся Антось.

– Чего не гнуть? – не зразумеў Цэрбер.

– Таго самага... Не мацюкайся тут, прашу! – Антось зноў паказаў спачатку на кут, а пасля на дзверы.

– Это ты мне?! На мой родной матерный язык так?! – Цэрбер нервова стаў адшпіляць кабуру з рэвальверам.

– Таварыш аператыўны ўпаўнамочаны, пачакайце, прыстрэліць яго мы заўсёды пасьпеем, – умяшаўся Пуценька.

– А чего ждать: днём раньше, днём позже...

– Я думаю, што трэба трохі пачакаць, каб выглядала ўсё законна...

– Да я здесь закон!..

– Я панімаю, товарышч Трэпелеў, – Пуценька гаварыў асцярожна, баяўся, відаць, выклікаць абурэнне старшага опера сваім заступніцтвам. – Шмат будзе непатрэбнага шуму: прыйшлі, застрэлілі чалавека, а доказы дзе?

– Доказы? – здзівіўся Цэрбер. – Якія доказы?!. Да я нутром в натуре чувствую врага народа!

– Чувстваваць – гэта адно, але гэтага мала, – разважыў Пуценька.

– Ты, Путенька, никогда не будешь хорошим следователем! – абурыўся Цербер.

– А гэта чаму?

– Как-то наш главный прокурор, товарищ Вышинский на совещании поговаривал: «Следователю нужно обладать не только техническими знаниями своей узкой специальности, но и нужно поднять свою культурную подготовку настолько, чтобы он мог на три мили видеть насквозь землю. Вот тогда только он будет настоящим следователем»! А ты под носам ничего не видишь! – і Цэрбер спрытна нацягнуў картуз Пуценьку на самы нос.

– А я между протчым на беларуска-расейскай мяжы нарадзіўся! – з ноткамі крыўды заявіў Пуценька. – У мяне бацька быў рускім камандзірам.

– У армии Деникина? – перапытаў Цэрбер.

– У конніцы ў Будзённага! – важна абвясціў Пуценька.

– Якога Будзённага? – абурыўся Антось. – Бацька твой як драпануў з Мікалаеўскай вайны, дык да гэтага часу ніхто ня ведае, дзе ён дзеўся, можа, з немцамі падаўся...

– Вось тады і драпануў ён да Будзённага...Так што, сусед, не забывайся! – працягваў Пуценька. – А тое, што ты мне некалі даваў тое-сёе, як кажаш, дык паспрабаваў бы ня даць – даўно ўсё попелам пайшло б. Вось так!.. Так што, давай, налі нам па сто грамаў, і мы пойдзем, каб прыйсьці заўтра!

– Ідзіце, ідзіце! – Антоськіваў на дзверы і гаварыў спакойным тонам, хоць у нутры ўсё клекатала.– Ані вадзіцца, ані піць з вамі я ня буду!

– Мы то пойдзем, Антось! – Пуценька паківаў пальцам. – Але мы запомнім, што ў гэтай хаце нас не паважаюць!

– Ты знаешь, что мне товарищ Сталин по этому поводу поговаривал? – успомніў нешта опер-чыкіст.

– Не...

– Товарищ Сталин, когда направлял меня сюда, говорил: «Серго, смотри, к человеку надо подходить не с позиции его гениальности, таленовитости, образованности, а с позиции – насколько его можно использовать в нашем деле».

– Толкам сказана...

– Так ведь Сталин... Так вот, этот элемент, – Цэрбер паказаў рукой у бок Антося, – в нашем деле, мне кажется, использовать не удастся, нет прока от него.

– Чево нет? – перапытаў Пуценька.

– Прока!

– О-о-о! Дрэнь справа... І гарэлкі не дае, скаціна... І проку няма... Так чо дзелаць? А можа, усё ж такі лепш яго прыстрэліць? – цяжка было разабрацца, ці гэта Пуценька так пажартаваў, ці гаварыў сур’ёзна.

– Да! Товарищ Сталин говорил, что таких надо в расход пускать...

– Правільно гаварыл... Вось толькі каб ня дзеці...

– Им же хуже будет! Что они, не понимают, или дураки?! – дзівіўся камісар. – Я белофинов бил, белополяков бил и белорусов бил и буду бить!

– Правільна! – падтрымаў Пуценька. – Трэба біць да таго часу, пакуль ня势 станучь рускімі.

– А счас насчет законнасти... Счас мы посмотрим, как мы тебя будзем оформлять, – Цэрбер разгарнуў свае паперы і стаў зачытвать. – Участник антисоветской диверсионно-террористической организации...

– Ня пойдзе, які зь яго дыверсант, – засумняваўся Пуценька.

– Член антиреволюционной организации...

– Які зь яго член, – зноў засумняваўся Пуценька.

– Может, как бывший жандарм, охранник, белогвардеец, офицер, чиновник, помещик, торговец, фабрикант?..

– Не, які зь яго тарговец, фабрыкант – мордай ня выйшаў, – зноў засумняваўся Пуценька.

– Проститутки, занимающееся незаконно...

– Не-не!

– Социально опасный элемент...

– Вось гэта – можа быць...

– Так, отметим. Дальше: антисоветская агитация...

– Таксама можа быць…

– Так. Шпионаж в пользу Польши...

– Пойдзе! У яго швагер у Польшчу ўцёк!

– Так. Контрреволюционная деятельность...

– Таксама пойдзе...

– Так. Оскорбление советской власти при исполнении...

– Во-во! Гэта – нармальна...

– Распространение контрреволюционных и провакационных слухов...

– Распраcтраняў, дакажам! А яшчэ цесьць яго высланы як вораг народу, – падказваў Пуценька і хваліўся: – Я зь Сьцяпанам афармляў.

– Так, член семьи врага народа, отметим, – Цэрбер на самай справе нешта адзначаў у сваіх паперах.

– А яшчэ – заўсёды можна выкарыстаць дзяжурныя стацьці: шпіянаж на карысьць амэрыканскай, ангельскай, нямецкай, японскай і іншых разьведак! Праўда, таварыш Трэпелеў?

– О, мы яго заделаем китайским шпионам! – усклікнуў Цэрбер.

– Чаму кітайскім? – спытаўся Пуценька.

– У его же детей, как у китайца...

– О, класна!

– И, что само главное, – працягваў Цэрбер, – допишим: «особа не гарантирующая коммунистического воспитания».

– Можа, ужо хопіць стацьцей! – прапанаваў Пуценька. – Ты бачыў, за што мы можам цябе арыштаваць, пасадзіць, выслаць і нават застрэліць?! А тут і на вышку запраста можа пацягнуць!

– Гэта яшчэ даказаць трэба! – абурыўся Антось.

– Даказаць?! – зноў здзівіўся Цэрбер. – Ты где проживал с 1921 по 1939?

– Тут…

– На территории, временно оккупированной буржуазной панской Польшей, так?

– Ну, пад Польшчай.

– Так только за это тебя уже надо садить: за то, что дышал этим буржуазным панским воздухам. А за то, что ты платил налоги полякам, тем самым укреплял вражеское Советскому Союзу Польское буржуазное государство, тебя ўже надо расстреливать за это! Понял?!

– А што тут панімаць, тут усе жылі, дык усіх садзіць і страляць будзеце? – Антось ужо анічому не здзіўляўся.

– Трэба будзе – будзем усіх садзіць і страляць! – заверыў Пуценька. – І лёгка дакажам. Так што ты падумай, аратар…

– Я думаю, што стрелять не надо, много чести для таких, – гаварыў Цэрбер, і было відаць, што ён трохі працверазеў. – Таких надо использовать по полной программе…

– Гэта як? – зацікавіўся Пуценька.

– А вот так! Какой из тебя, Пуценька, толк на лесоповале…

– Не-не, аніякага! – згадзіўся Пуценька.

– Вот именно. Ты же тольки мешать будешь, тебя же первой ёлкой-палкой завалят зэки… А этот, – Цэрбер ткнуў пальцам убок Антося, – несколько гектаров лесу в Сибири повалит, раскорчует, чернозёму навозит, рожь или бульбу посадит и на этом не успокоится – згорбатится и дальше будет корчевать, покудова кулаком не станет… А потом придёт такой Путенька, или такой я, и раскулачат эту сволачь кулацкую с конфискацией… На таких, как он, Россея-матушка держится.

– Разумна, нічога ня скажаш, а я абавязкова прыйду і раскулачу, – пацвердзіў Пуценька.

– Вот такая, смерд, перспектива ў тебя трудолюбивая, – Цэрбер гаварыў сур’ёзна. – Пайшли, Путенька!

– Цябе можна ўратаваць толькі чыстасярдэчнае прызнанне ў асоба буйных памерах, вось так! – даў параду Пуценька. – Пайшлі, таварыш камісар…

Цэрбер, выходзячы з хаты, паказаў Антосю кулак і прагаварыў:

– Смотри, китайский шпион, вот здесь ты ў меня!

Антось тады не надаваў нейкага сур’ёзнага знаку іхняму прыходу і той гутарцы. Ат, ведама, п’яныя былі і хацелі яшчэ дабавіць, вось і страшылі і гаварылі абы што. Але, пасля той сустрэчы, з'явілася нейкае незразумелае пачуццё трывогі, якое стала пастаянна данімаць Антося. Шмат што проста не ўкладвалася ў галаву: падкулацкі прыхвасцень, хата,

гадзіннік, зямля, Дайновіч- «вораг народу» і рабства, пра якое сцвярджаў Цэрбер. Адно было зразумелым, што можа так стацца, што страціш усё адразу: хату, зямлю, гаспадарку і апынешся ў Сібіры, так, як гэта сталася з цесцем, і так, як гэта было некалі з яго дзедам. Дзед тады, за ўдзел у паўстанні 1863 года, быў высланы за Байкал, а як вярнуўся – ўсё пачынаў з нуля, але што ўжо было пачынаць у такіх гадах. Бацька змог узбіцца толькі на пяць дзесяцін, а тут войны, рэвалюцыі, і ўсё паляцела. І Антосю, як і дзеду, як і бацьку, усё прыйшлося пачынаць з нічога. Хто ведае, можа, ён падзеля тых дзесяцін і ажаніўся. Восем дзесяцін на чатырнаццаць душ – і гэтага можа не быць. Але, як бы не было, дзецям нічым не дапаможаш, відаць, і дзеці гэтак жа, як і ён, будуць таксама пачынаць з нуля... І канца гэтаму не відаць... Чаму так, а не інакш?.. Адкуль гэтае ліха бярэцца?.. Сапраўды, нейкае рабства... Ці гэта такі ўжо кон?..

Антось тады тэрмінова сустрэўся з Дайновічам, і ўдвух яны вырашылі перагаварыць са Сцяпанам. Цікава, што наконт усяго гэтага сказаў бы ён? Усё ж такі свой чалавек, а не тое, што гэты Цэрбер. Праўда, і Сцяпан нешта апошнімі часамі зрабіўся такім заядлым камунарам і камуністам, што цяжка пазнаць у ім таго свайго Сцяпана, відаць, улада падзейнічала на чалавека. А можа, ён свядома прасякнуўся гэтымі ідэямі? Вельмі падобна. Пасля арышту Качанюка, адносіны між Антосем і Сцяпанам сталі яшчэ больш напружанымі. Аднаго разу зайшоў быў Сцяпан на падворак, дык Ганька падняла гвалт на ўсю вуліцу і выперла за браму. Дасталося тады трохі і Антосю, маўляў, Сцяпан яе бацькоў у Сібір адправіў, а ён з ім шэпчыцца, як з хаўруснікам якім. Выглядала, сапраўды, не надта прыгожа. Пасля гэтага некалькі разоў Антось, калі бачыў Сцяпана здалёку, збочваў куды з дарогі – абы не сустракацца. Не карцела тады Антосю да сустрэчы.

Не карцела і зараз, але Дайновіч вельмі хацеў перагаварыць з Сцяпанам, бо яму было пра што пагаварыць.

Сцяпан уважліва выслухаў Антося, на ўздзіў, доўга нешта думаў, пасля ўсяго толькі і сказаў:

– Мала што яны маглі нагаварыць, будучы п’янымі, ты толькі слухай іх!

А наконт Дайновіча, як ворага народу, Сцяпан сказаў, што першы раз чуе такое, а пасля дадаў:

– Хаця, ведаеш, усё можа быць: у камуну ты, Янук, не прыйшоў, да нас ставішся крытычна, дапамагаць ня хочаш, Пуценьку за начальства ня лічыш – вось ён і рые пад цябе...

Тады Антось не ўтрымаўся і сказаў тое, што хвалявала яго даўно:

– А хіба ня ты сьпісы на арышт падсоўваеш Цэрберу?

– Я складаў сьпісы асаднікаў і варожых савецкай уладзе элементаў... Іх жа я і раскулачваў, – спакойна гаварыў Сцяпан. – Апошнія арышты праводзяцца без майго ўдзелу, балазе спецыялістаў зараз хапае...

– Гэтыя спецыялістыя могуць капануць пад каго хочаш, – адзначыў Дайновіч.

– Могуць, – пацвердзіў Сцяпан.

Яны ўжо збіраліся адыходзіць, як Сцяпан нечакана звярнуўся да Антося:

– Пуценька казаў, што ты Качанюкова дабро перавёз і недзе схаваў.

– Дык хай твой Пуценька спачатку знойдзе гэтае дабро, а пасьля гаворыць! – абурыўся Антось.

– Ты лепей адвязі ўсё ў камуну сам... Мы зробім выгляд, што нічога такога не было, – параіў Сцяпан.

– Што адвозіць? Крэсла магу адно прывезьці...

– Прывозь, – кіўнуў галавой Сцяпан.

Вось гэтае Сцяпанава «прывозь» яшчэ больш абурыла Антося.

– Люстэрка, барану і кросны таксама прывозіць?

– Прывозіць...

– Патрэбна камуне люстэрка? – Антось завёўся. – Любавацца сабой будзеш днямі ў люстэрка?! Дарэчы, люстэрка гэтае цесьць сваім унучкам у падарунак даў – дзеўкі ўжо... Што, падарункі таксама адбіраеш? – Антось гаварыў з запалам. – Кросны, калі хочаш, прывязу. Патрэбны камуне кросны? Ткаць будзеце слуцкія паясы і вешаць на іх беларускіх нацыяналістаў...

– Супакойся, Антось, – сам Сцяпан быў вельмі спакойным. – У камуне зараз такі час, што ўсё патрэбна!

– А камуне тваёй усё мала: хату забралі, зямлю забралі, коней, кароў, авечкі, сьвіней Качанюковых – усё забралі, і ўсё мала і мала! – абураўся Антось.

– У Качанюка павінна было застацца каля дваццаці пудоў жыта, дзе яно? – голас Сцяпана рабіўся жалезным і патрабавальным.

– Пуценька казаў?

– Пуценька!

– Дык ты Пуценьку пацалуй у ср...! – Антось рэзка развярнуўся. – Пайшлі, Янук, пагаварылі!

– Дык жыта дзе? – пракрычаў ім услед Сцяпан.

– А ты ў Качанюка запытайся! Можа, ён з сабою дзе ўзяў, багажом адправіў, – адказаў Антось.

– Мы разьбяромся! – пракрычаў услед Сцяпан, але на гэтую пагрозу Антось не адказаў.

Тое, што яны будуць разбірацца, не выклікала аніякіх сумненняў, толькі вось, які будзе вынік з гэтых разборак? Наконт Качанюковых дваццаці пудоў жыта Антось упершыню пачуў ад Сцяпана. Калі і былі гэтыя пуды, дык, відаць, закапаў іх недзе Качанюк на ўсякі выпадак сам, – на яго гэта было вельмі падобным.

Па вялікім рахунку, – разважалі хлопцы пасля той сустрэчы, – гутаркі з Сцяпанам не атрымалася. Адчувалася, што Сцяпан свядома хацеў абвастрыць сітуацыю з імі, давесці іх адносіны да крайнасці, маўляў, калі што якое, самі вінаватыя – не хацелі яго слухаць, а ён, Сцяпан, тут ні пры чым. З другога боку няўжо Сцяпан так і не зразумеў нічога? Ці і тут нешта не так? Ці Сцяпан не хоча звязвацца з гэтым апаратыўнікам, ці баіцца гэтага апаратыўніка? Увогуле складвалася такое ўражанне, што яны тут усе баяцца адзін аднаго. Колькі ўжо гаварылі Сцяпану, каб супакоіў Пуценьку, маўляў, кампраметуе савецкую ўладу, і што?! І нічога! А колькі было нараканняў на Цэрбера? І што? Анічога не змянілася. Меў нейкую незразумелую ўладу тут над усімі гэты опер Цэрбер, у тым ліку і над Сцяпанам, хоць маральная перавага Сцяпана была відавочнай, але гэтыя якасці ў новай сітуацыі не былі вырашальнымі. Праўда, апошнім часам адчувалася і нейкая няшчырасць з боку Сцяпана. Можа, гэта толькі здавалася хлопцам? Можа – хто ведае?.. Адно было зразумела, што ўлада людзей ламае вельмі моцна на свой капыл.

* * *

Янука Дайновіча арыштавалі на трэці дзень пасля яго гутаркі са Сцяпанам. Падзея гэта ўразіла не толькі Антося, але і ўсіх аднавяскоўцаў. А яго ж за што? – паціскалі плячамі людзі і не разумелі, у чым тут справа, – ён жа, можна сказаць, быў найбяднейшым у вёсцы. Палякі судзілі яго за палітыку, маўляў, займаўся антыпольскай дзейнасцю, праводзіў агітацыю ў далучэнні «крэсув всходніх» да Савецкай Беларусі, і далі сем гадоў турмы, дык гэта ж палякі, а тут, на табе, прыйшлі Саветы («крэсы» далучылі да Савецкай Беларусі) і далі дзесяць гадоў, і таксама за палітычную дзейнасць, хаця ў вёсцы добра ведалі, што вялікай палітыкай Дайновіч не займаўся. А тут,

як атрымалася: толькі што выйшаў з адной турмы, не паспеў нацешыцца воляй, а яго – у другую. І што ж гэта за дзейнасць такая, за якую садзяць у турмы пры ўсякай уладзе, якой бы ўлада не была?!.

Хадзілі такія чуткі, што Мокша на Янука навёў Цэрбера, а таму абы садзіць.

З Мокшам гэтым Янук счапіўся на другі ці трэці дзень пасля вызвольнага паходу Чырвонай арміі на захад. Тады, у мястэчку, Янук быццам абразіў Мокшу тым, што сказаў яму ў вочы, які ён «беларус».

Таму ніхто і не здзівіўся, што пры арышце Янука Дайновіча прысутнічаў сам упаўнаважаны раёну па нейкіх там справах – таварыш Мокша. І калі Цэрбер з Пуценькам рабілі вобыск у хаце, Мокша быў, кшталту, «панятым». «Каб усё было па-справядлівасці», – казаў тады ўпаўнаважаны з раёну.

Не апошнюю ролю ў арышце Дайновіча адыгрываў Пуценька.

У Янука тады знайшлі некалькі кніг і газетаў, якія былі залічаныя да контррэвалюцыйнай літаратуры, на падставе чаго і арыштавалі Янука.

Ведаў Антось, ды і не толькі Антось, усе ў вёсцы ведалі пра тую літаратуру: газеты тыя і кніжкі былі беларускамоўныя і іх Янук з вялікім задавальненнем даваў чытаць кожнаму, хто толькі прасіў. Але каб за гэта – дзесяць гадоў?... Такога яшчэ не было. Некаторую яснасць унёс Сцяпан:

– А хто казаў: «Каму нары, каму нары?..»– той іх і атрымаў... А ўвогуле, Антось, з такімі пытаньнямі ты да мяне ня лезь – не мая гэта кампетэнцыя... Ідзі да камісара, хай ён табе талкуе!..

Антось яшчэ раз хацеў сказаць наконт спісаў, паводле якіх арыштоўваюць людзей – гавораць, што тыя спісы, усё ж такі праходзяць праз Сцяпанавыя рукі, але прамаўчаў і, можа, правільна зрабіў. Здаецца, яму стала даходзіць, што ў тыя спісы вельмі лёгка трапіць самому.

Да камісара, вядома, Антось не пайшоў – не бачыў сэнсу. Можна было б падысці да старога Хамінскага ў Вавукі, сын яго у вялікіх начальніках ходзіць у раёне, сустрэцца з сынам, пагаварыць. Але, з другога боку, што гэта дасць, – цяжка сказаць, хутчэй – анічога, а вось бяду на сябе наклікаць можна было вельмі лёгка.

А сітуацыю наконт Янука, дый не толькі наконт яго, болей-меней праясніў Міхалка, сакратар суседняга сельсавета.

## 23. «Вызваліцелі» (з нататніка заходніка)

*Амаль што ўсе прыезджыя «вызваліцелі» вылучаліся нейкай абмежаванасьцю мысьленьня. Гаварылі бы газэту чыталі, толькі ў гэтай газэце гучалі адны савецкія лозунгі і штампы пра савецкую ўладу, электрафікацыю, савецкага чалавека, які гучыць горда, альбо »як гаварыў таварыш Маркс ці таварыш Ленін», ці «як сказаў вялікі (дарагі, мудры, любімы) таварыш Сталін»... Складвалася ўражаньне, што ў гэтых людзей адсутнічае ня толькі індывідуальнасьць, але й сваё мысьленьне, сваё разуменьне сутнасьці таго, што адбываецца навокал... Пры тым, ім не хацелася быць лепшымі – ім гэта было не да патрэбы: ім хацелася быць важнымі і гаспадарлівымі. Яны на кожным кроку падкрэсьлівалі сваю выключнасьць, якой не было на самай справе і гэта толькі сьмяшыла людзей.*

*Ім усё не падабалася нашае: мова, звычаі, сьвяты, стравы, адзеньне і нават прылады працы.*

*Той, хто ўмеў чытаць з мясцовых і мог калі-небудзь аргументавана запярэчыць на дурное патрабаваньне новага начальства, тут жа быў абражаны як «вораг народу» з дапаўненьнямі кшталту«гнілы інтэлігент, распусьціла тут вас польская фашыстоўская дзермакратыя».*

*Відавочнымі былі варожыя адносіны савецкай улады да царквы і касьцёла. Сьвятароў сталі рабіць аб'ектамі розных насьмешак і падкавыркаў. Папулярнымі сталі анекдоты пра дурнога папа, альбо папа-п'яніцу і ксяндза бабніка. Тых, хто хадзіў на службы, камсамольцы і партыйцы высьлежвалі, а пасьля разьбіралі на сваіх сходках. На сьмех сталі падымаць і тых, хто здымаў шапку перад сьвятаром альбо крысьціўся перад прыдарожным крыжам. Зь вялікай падазронасьцю глядзела новая ўлада і на тых, хто рэгулярна, у нядзельку, бываў на службах. І хаця ўсё гэта, пакуль што, тлумачылася перажыткамі мінулага, людзкой цемнатой і забабонамі, але відавочным было, што вернікі становіліся непатрэбнымі і чужымі новай уладзе. У хуткім часе яны былі пазбаўленыя магчымасьцей вучыцца, прэстыжнага працаўладкавання і кар'ёрнага росту.*

*У савецкіх крамах не заўсёды можна было купіць камсу, затое танная гарэлка ніколі не заканчвалася. Дзівілі прыезджыя мясцовы люд і тым, што пілі не кілішкамі, як гэта было прынятым у Заходняй Беларусі, а шклянкамі, і ня толькі ў сьвяточны дзень, а калі выпадае, а выпадала чамусьці на кожны дзень; пры гэтым смалілі махорку і бязбожна мацюкаліся і шумелі.*

*На зьмену беларускім абуральным словам, кшталту «не дуры галавы», «каб цябе халера», прыйшлі брыдкія, прыніжаючыя*

*жанчыну і абражальныя чалавечы гонар словы і выразы з нецэнзурнай рускай лексікі, пасыланьнямі на «х» і «п», і гэтыя словы былі найбольш ужывальнымі ў іх гаворцы. Агідна было глядзець і слухаць, як гэтыя словы і мацюкі падхоплівалі мясцовыя камсамольцы, актывісты і моладзь. Пайшла нават нейкая дурная мода на гэтыя словы – іх сталі ўжываць усюды. На вячорках сталі зухам хадзіць п'яныя ад самагону хлопцы і сыпалі налева і направа адборным матам – і гэта рабілася нармальным, рабілася праявай даросласьці, самастойнасьці і ўсёдазволенасьці. З захапленьнем на такіх глядзелі мясцовыя падлеткі.*

*За прыезджымі з усходу можна было наглядаць адну цікавую асаблівасьць – яны зь нейкай баязьлівай пасьпешлівасьцю стараліся ўва ўсім дагадзіць свайму вышэйшаму начальству, і такога ж угодніцтва з усёй суровасьцю патрабавалі ад сваіх падначаленых і ад усіх астатніх. Такім чынам фармаваўся нейкі новы фізіёлягічны від чалавека з вельмі гнуткай і пружыністай шкілетна-пазваночнай сыстэмай, здольнай да прагінаньня. Праўда, «прагінаньне» тут было не зусім такое, як некалі ў Залатой Ардзе перад татара-манголамі, – калі добрую паўвярсту трэба было прайсьці на каленках, перш чым трапіць да вялікага хана, а пасьля доўга біцца галавой аб падлогу ў паклонах перад ім, каб атрымаць той самы ярлык на княжаньне ў Ноўгарадзе (Аляксандра Неўскі), ці ў Масковіі (Іван Каліта).*

*І гэтыя стваралі падобную сытуацыю, у якой трэба было «прагінацца» у пакорлівай паслухмяннасьці, прыслужваць ва ўсім і выказваць усенародную любоў і пашану. Толькі ў такім разе ты мог бы стаць набліжаным да агульнага «карыта камунізму» і разьвязваць свае кар'ерныя і жыцьцёвыя пытаньні зь меншым супрацівам, чым ненабліжаныя.*

*А яшчэ ў гутарцы гэтых «вызваліцеляў», у іх павадках, дзеяньнях – ва ўсім адчувалася нейкая штучнасьць і ненармальнасьць. Магчыма, гэта былі звычайныя зомбі, кшталту янычараў, а магчыма, гэта былі псіхічна хворыя людзі, даведзеныя да такой паталогіі страхам і сваім фанатызмам. Павадкі гэтых людзей нагадвалі нечым павадкі наглядчыкаў у турмах: такая ж пыхлівасьць, фанабэрыстасьць, празьмерная самаўпэўненасьць і зьневажаньне ўсяго, што існавала навокал... А калі што – тут жа ў ход ішлі пагрозы, кулакі і зброя.*

*Складвалася ўражаньне, што ў гэтых прыезджых людзей нічога не было ўзьнёслага, узвышанага, сьвятога. Гэта былі людзі з аўтаматычным затворам ППШ і аптычным прыцэлам на іншых.*

*Увогуле, увесь край стаў нагадваць адну вялікую турэмную зону, толькі ў якасьці вязьняў тут выступала мясцовае*

*насельніцтва – ўсе тыя, хто не належаў да Саветаў, да новай улады... Прафэсыйнымі наглядчыкамі сталі ня толькі прыезджыя цэрберы і кацалапавы, але й свае пуценькі, міхалачкі, страхі, шчасныя і няшчасныя.*

*Самае ганебнае ў гэтай сытуацыі было тое, што гэтыя людзі зь вельмі нізкім маральным, культурным і адукацыйным узроўнем становіліся сацыяльнай элітай грамадзтва – яны задавалі тон, яны былі ня толькі заканадаўцамі пры ўладзе і завадатарамі пераўтварэньняў на шляху да сацыялізму, яны прыўносілі ў край сваё разуменьне рэчаіснасьці і сьвету, свой стыль, метады і моду.*

*Традыцыйныя беларускія каштоўнасьці, якія ста-годдзямі бытавалі і былі асновамі чалавечнасьці і маралі, сталі аб'ектамі насьмешак гэтых новых людзей. Убачылі, як нейкая бабулька перакрысьцілася перад прыдарожным крыжам – тут жа камсамольцы крыж той сьпілавалі, а бабульку адправілі ў раён на «выхаваньне». Альбо ў мястэчку зайшоў чалавек у сельсавет, а там у гэты час начальства закусвала, і сказаў чалавек па звычцы «дай Божа смаку». Яму далі такога «смаку», што каля тыдня адлежваўся дома. Цяпер чалавек гэты, калі заходзіць куды і бачыць, што нехта п'е гарбату, адразу ў дзьверы і ходу. На манеру мужчынаў здымаць пры сустрэчы адзін перад адным шапкі, старшыня сельсавета сказаў адназначна: «Яшчэ раз убачу – галаву здыму», маўляў, не шапку трэба здымаць, а трэба гаварыць «здравствуйте, товарішч!».*

*Розьніца між нашым людам і гэтымі вызваліцелямі, нават між праваслаўнымі беларусамі і праваслаўнымі расейскімі атэістамі, была настолькі вялікай і істотнай, што гаварыць пра нейкую ўсходнеславянскую адзіную калыску народаў, славянскае адзінства і братэрства, гледзячы на гэтых «старэйшых братоў», было б сьмешным і недарэчным.*

## 24. Міхалка

З Міхалкам Антось сустрэўся выпадкова. Антось тады вяртаўся з кірмашу, а дарогаю, вярхом на кані на выездзе з Мястэчка, яго нагнаў Міхалка. Яго ўсе так звалі з самага маленства – Міхалка. І зараз, хоць гэта быў ужо дарослы мужчына, але ніхто яго інакш і не называў. Міхалка быў першым камсамольцам і арганізатарам камуны на зямлі Ахматовічаў – гэта такія вёскі, як Асманоўка, Біцяняты, Бяргалішкі, Гяйлешы, Ардашы. А пры стварэнні сельскага савета ў Вярэбушках, Міхалка стаў першым яго старшынём, а пасля, як прыехаў новы старшыня Самакоў, быў яго памочнікам і сакратаром

сельсавета. І што было трохі дзіўным, дык гэта тое, што ён застаўся на пасадзе сакратара і пасля таго, як панаехала сюды розных спецыялістаў па савецкаму будаўніцтву з усходняй Беларусі і Расеі.

Пра гэтага Міхалку гаварылі шмат і добрага, і кепскага. Калі для Цэрбера і яму падобных усе тутэйшыя былі ворагамі, якіх ён ненавідзеў арганічна, дык Міхалка жадаў дабра свайму народу. Толькі гэтае дабро ён бачыў у Саветах, у камуне, у калгасе... І вельмі шкадаваў, што астатнія, малапісьменныя і цёмныя яго землякі, гэтага не разумеюць, за што і прыходзіцца іх ушчуваць, настаўляць, выхоўваць. Яшчэ Міхалка, у адрозненне ад Цэрбера, мог заступіцца за свайго чалавека і паспрыяць яму. Казалі, што напярэдадні прыходу Саветаў, Міхалка абышоў усе суседнія вёскі (Бяргалішкі, Гяйлешы, Вішнёўку, Курманіху, Вурляняты, Чатыркі), перагаварыў амаль што з кожным чалавекам, угаворваў на выпадак прыходу Саветаў, не працівіцца новай уладзе, бо будзе горш. А пасля прыходу Саветаў, Міхалка яшчэ раз перагаварыў з кожным, як ён казаў, «дабром і ласкай прашу ў камуну», але людзі туды чамусьці не спяшаліся. Да пары да часу меў цярпенне Міхалка, а пасля з'явіўся нейяк у кабінеце першага сакратара райкама партыі і запатрабаваў:

– Мне патрэбен рэвальвер сыстэмы «Наган» альбо парабелум!

– Навошта? – здзівіўся той.

– Рэвальвер патрэбен мне як старшыні сельсавета і як прадстаўніку савецкай улады на мясцох для арганізацыі камуны і калгасу!

– Але ж часы ваеннага камунізму прайшлі, таварыш!

– Во! Правільна... Там, у Расеі, – прайшлі, а тут распачынаем. Нам, бальшавікам, трэба давесьці да сьвядомасьці кожнага, што савецкая ўлада можа ўсё: раскулачыць, арыштаваць, адабраць, выселіць, заставіць, угаварыць, пасадзіць, спаліць, застрэліць... І нас тады, дарэчы, як і Чубіка, будуць баяцца, а значыцца, і паважаць...

Чубік – гэта мясцовы знахар-чараўнік, які і сапраўды меў вялікі аўтарытэт у наваколлі.

– Але што ты будзеш рабіць зь пісталетам? – пацікавіўся сакратар.

– Тэрор! Нам патрэбен тэрор! Калі ня будзе тэрору, нас ніхто ня будзе баяцца... А калі так, дык хто ж тады пойдзе ў тую камуну альбо ў калгас той?..

– Гм... Ну, ведаеш, у мяне тут не арсенал, – гэта раз, а з-другога, зьвярніся да начальніка раённай міліцыі, ён па гэтай частцы, як ён скажа...

– Ён ня супраць...

– Тады хай ён табе і выдасьць рэвольвер, калі свайго ня маеш, і дзейнічай...

Неўзабаве Міхалка стаў насіцца на белым кані сельсавецкімі дарогамі і бездарожжам з чорным рэвальверам сістэмы «Наган». Такім чынам вельмі хутка была арганізавана камуна. Руплівасць Міхалкі была заўважанай у раёне, і начальнік міліцыі зрабіў яго сваім намеснікам. Міхалка стаў гойсаць на белым кані па ўсім раёне. Бывала, цэлымі днямі, а не, дык і тыднямі, прападаў на «баявом пасту»: лавіў Міхалка і выкрываў жулікаў, контру, бандытаў і розных ворагаў народу. Лавілі і Міхалку, але яму ўсякі раз удавалася выкарабкацца з невялікімі стратамі: сама большае – тыдзень-другі прыходзілася паваляцца ў раённай бальніцы ад бандыцкіх куляў, а пасля – зноў на белага каня, з пісталетам, з новым энтузіязмам і помстай кідаўся Міхалка ў каламутны вір барацьбы за савецкую уладу, якой ён шчыра верыў, быў упэўненым і аддадзеным ёй, як сам казаў, «да мазга касцей».

Пакуль Міхалка наводзіў новы савецкі парадак, дома заставалася маладая жонка Зося з малымі дзяцьмі. Дзеці бачылі бацьку вельмі рэдка. Заляціць бацька на якую-небудзь хвіліну-другую і толькі напалохае дзяцей сваімі «разбірацельствамі»:

– Зося, курва, імем рэвалюцыі, прызнавайся, каму давала?! – і ў столь з рэвольвера «бах» ды «бах», толькі шчэпкі ляцяць на падлогу.

Вось так пастраляе, пастраляе і зноў знікне на некалькі дзён альбо тыдняў. Нядобрыя людзі ківалі Зосі, што, маўляў, твой Міхалка недзе ў бабы нейкай рэвалюцыю робіць, але Зося верыла Міхалку гэтак жа, як Міхалка верыў савецкай уладзе, і не звяртала ўвагі на ўсякія плёткі.

Праўда, калі Міхалка працаваў у раённай міліцыі, распалася яго камуна ў роднай вёсцы, а выканаўца абавязкаў старшыні камуны не прасыхаў ад гарэлікі, як не прасыхалі і яго памагатыя. Карацей, з адыходам Міхалкі, адышла і савецкая ўлада «на мясцох». А калі ў раён наехала вельмі шмат спецыялістаў з чырвонымі пятліцамі, адпала вялікая патрэба ў Міхалку, і ён вярнуўся ў родную вёску з нейкімі высокімі паўнамоцтвамі – вяртаць савецкую ўладу. Вярнуўся, зразумела, на белым кані, з рэвальверам сістэмы «Наган».

Казалі, Міхалка мог сам каго хочаш арыштаваць альбо даць нейкую паперу з сельсавецкай пячаткай. Тады Міхалка адсылаў чалавека з той паперай у Ашмяну, гаварыў, што там

разбяруцца і адпусцяць. І той, як дурань, ехаў... А як паедзе, так і з'едзе. І дзень няма чалавека, і другі... і месяц, і год. Чакаюць дома: сям'я, бацькі, дзеці, жонка... і не дачакаюцца. І ніхто не ведаў, нават Міхалка, куды дзеўся той чалавек. Магчыма, Міхалка і ведаў, але не казаў. Вось так Міхалка шмат каго адправіў у невядомасць.

Антось з Міхалкам не былі блізкімі сябрамі, так, знаёмыя, вось колькі разоў бачыліся да прыходу бальшавікоў на беларускіх вечарынках, якія ладзілі вурляняцкія і біцяняцкія хлопцы ў Дойневічах і Ракавічах, яшчэ на фэстах бачыліся, каля царквы і касцёла, на кірмашы дзе – вось і ўсё знаёмства.

Адразу пасля вітанняў, гойсаючы вярхом на кані, Міхалка пахваліўся:

– Відзіш, Антось, які мой конь, рэвалюцыйны, цаны няма... Стаеньнік! Тпр-пру-пру! Колькі разоў ён мяне выносіў з поля-бою, колькі разоў жыцьцё ратаваў!

– Добры конь, і цягне дужа, – згадаў Антось радок уголас, але далей не стаў цытаваць.

Стаеннік пад Міхалкам і сапраўды быў добры, хвіліны не мог пастаяць спакойна на месцы, бразгаў цуглямі і некуды рваўся, здавалася, толькі адпусці вобрадь, так і панясе ў далячынь. Толькі недзе бачыў Антось гэтага каня, бачыў ён не толькі яго, але і збрую на ім, так, пазалочаная збруя на белым жарэбчыку, бачыў ён гэта ўсё недзе, толькі дзе?..

Міхалка паглядзеў зверху коса на Антося і таксама замоўк. Так, моўчкі яны сунуліся гасцінцам у гару.

«А ці не пана Ахматовіча з Бяргалішак гэты белы стаеньнік?» – бліснула здагадка, і Антось успомніў, як некалькі гадоў таму пан Ахматовіч падвозіў яго ў Вільню. Антось тады ішоў пяшком, вёрст сорак прайшоў, і толькі пад Каменным Логам нагнаў яго стары Ахматовіч і прапанаваў месца ў брычцы. Антось тады разам і здзівіўся і спалохаўся, некалькі хвілін аднекваўся, маўляў, куды мне, паночак, з вамі, але, калі рамізнік Ахматовічаў прыкрыкнуў: «Залазь хутчэй!», тут жа і залез. І ехалі яны тады на такім жа белым жарэбчыку. І што тады яшчэ здзівіла Антося, дык гэта пазалочаная вобраць з келзамі...

Такая ж вобраць была і на белым рэвалюцыйным кані Міхалкі.

Больш вярсты ехалі ў няспешцы: Антось – у возе, побач конна гарцаваў Міхалка. Гаварылі пра пустое: пра надвор'е, пра гандаль на кірмашы, дарэчы, Міхалка выказаў думку, што

кірмашы рана ці позна савецкая ўлада пазачыняе, бо гэта мелкабуржуазныя выхадкі нэпманаў.

Гутарка не надта каб клеілася, і колькі хвілін ехалі моўчкі.

Калі ж падняліся на Татарскія горы, з якіх адкрывалася шырокая панарама прыгожага краявіду, Антось прагаварыў абы не маўчаць:

– Такую прыгажосьць можна ўбачыць яшчэ хіба што ў Вільні.

– Шмат ёсьць прыгожых мясьцін у нас, толькі цешыцца зь іх няма калі, – падтрымаў гутарку Міхалка. – У нас ёсьць Абайдзішча, калі й быў на зямлі рай, дык, пэўна, у Абайдзішчы.

Антось ведаў гэтае Абайдзішча – неяк ездзіў ён у вёску Сібірок за чарэшнямі, хацеў развесці ў сваім садку, і заместа таго, каб аб'ехаць на Біцяняты, паехаў ён праз гэтае Абайдзішча, якое і сапраўды не абыйсці было і не аб'ехаць, асабліва вясной.

– Сам з справай якой у нашу старонку, ці як? – пацікавіўся на ўсякі выпадак Антось.

– Ведама, што па справах... Зараз усе з справамі носяцца, – адказаў Міхалка і дапоўніў:

– Трэба ўбачыцца з Кабяком, ці зь Сьцяпанам, ці з Цэрберам... Абмазгаваць адну паперку трэба з сэсіі чарговага пленума Цэнтральнага камітэту Вялікай Камуністычнай партыі бальшавікоў, скарот – ВКПБ.

– Ого! – здзівіўся Антось. – Такія словы ведаеш...

– А як жа, інакш нельга! Тут мазгі патрэбны!

– З Цэрберам ты абмазгуеш...

Міхалка зноў, з вяршыні свайго коннага становішча, скасавурыў вочы на Антося.

– А зь кім мне мазгаваць, можа з табой? – з нейкім выклікам заявіў Міхалка.

– Не-не, ты што? Пленумы я не абмазгоўваю, не спецыялісты я ў пленумах, – паспешліва заверыў Антось і дадаў:

– Тут іншыя мазгі патрэбны.

– Вось, вось... мазгі... Прыходзіцца мець справу з усімі, хто з мазгамі і хто без мазгоў, бо для нас, бальшавікоў, галоўнае – еднасьць і агульнасьць барацьбы «за савецкае дзела», – заўважыў Міхалка.

– Ну, калі такое дзела... – прагаварыў Антось і замоўк.

Прынамсі, Антосю і не было пра што гаварыць з Міхалкам, асабліва цяпер, у такі час, калі кожнае слова можа

стаць тваім апошнім словам. Цяпер і людзі змяніліся, зразумела, што ў не лепшы бок, а такія людзі, як Міхалка, тым болей сталі небяспечнымі ў такіх гутарках.

Міхалка таксама маўчаў. Адчувалася, што нешта карцела яму альбо спытацца, альбо папрасіць, але нешта ён усё марудзіў. Так моўчкі зноўку праехалі колькі хвілін. А разгаварыліся тады, калі Міхалка раптам паставіў пытанне рубам:

– Антось, хацеў бы спытацца ў цябе, што думаюць людзі наконт камуны і калгасу ў Дойневічах і Ракавічах, і што думаеш рабіць ты: уступаць, ці не?

– Правакацыйныя пытаньні задаеш, Міхалка... Вось ты сам у людзей і запытайся. А наконт мяне, дык мне трэба дзяцей карміць, а не камуну! – коратка адказаў Антось і зноў замоўк.

– Дык жа ў калгасе іх будзе лягчэй пракарміць, як ты не разумееш? – загарэўся Міхалка. – Дзеці падрастуць – цэлая брыгада ў калгасе застанецца, а бацька – брыгадзір... Чым не перспэктыва?!

– А вось я не бачу яе, як ты кажаш, перспэктывы гэтай, калі ўбачу – магчыма, буду рабіць нейкія захады, а пакуль што, прабачце, не туды раба...

– Цёмны народ, сьляпы народ... Калі ён ужо ўбачыць?.. – стаў абурацца Міхалка, а пасля коратка дадаў: – І ты такі самы...

– Які ёсьць!.. А ты мне, Міхалка, лепей скажы, як шмат там засталося ў вас яшчэ ворагаў, бо куды ня кінься – адны ворагі савецкай улады?.. Ад раніцы быў яшчэ ня вораг, а пасьля палудня стаў махровым контррэвалюцыянерам, альбо амэрыканскім шпіёнам, альбо заклятым апартуністым ці кулаком... А да вечару, дык чорт ведама, кім можна стаць... Папам рымскім можна стаць...

– Чалавеча, хай цябе не хвалююць ворагі савецкай улады: савецкая ўлада – гэта, знача, я й сотні такіх яе сыноў, як я, – разьбярэцца зь усімі па справядлівасьці, – запэўніў Міхалка.

– Разьбярэцца... ага пачакай! Сямідзесяцігадовых дзядоў залічыла ў ворагі твая ўлада і – этапам у Сібір – паміраць! Хоць бы было за што! Разабралася!

– Усё правільна! Тыя старыя, якія выхаваныя пры расейскім імперыялізьме, сёньня могуць быць толькі вялікай перашкодай на шляху будаўніцтва камунізму, на шляху выхаваньня чалавека камунізму! Тут, трэба сказаць, савецкая ўлада анічога новага не прыдумала... Некалі Майсей, перш

чым трапіць на зямлю абяцаную, вадзіў свой народ пустынямі, бо чакаў пакуль згіне апошні стары, які помніў егіпецкае рабства… Тое ж робіць і савецкая ўлада. Толькі нам няма калі вадзіць і чакаць… Мы высылаем і будзем высылаць, а калі трэба – будзем страляць, усіх, хто помніць і хоча вярнуць царскае альбо польска-буржуазнае мінулае…

Тут Антось для сябе адзначыў, што ў ідэйным плане Міхалка быў вельмі моцным.

– Дык жа такіх, хто помніць мінулае, можа быць большыня! –здзівіўся Антось.

– Ну й што! Некалі Ленін, ведаеш, як казаў?

– Ведаю, як казаў Сталін...

– Ну, як?

– Што ў расход трэба пускаць тых, з каго няма карысьці...

– Правільна! А Ленін казаў, што падзеля рэвалюцыі можам пастраляць дзесяткі тысяч!

– Дык гэта ж ужо на генацыд падобна...

– Слухай, Антось, і ты слоўцы такія ведаеш, генацыд... Відаць, нахапаўся ад Станкевічаў. Дык вось, аніякі гэта не генацыд – застануцца маладыя, дужыя, сьмелыя, якія будуць здольныя горы перавярнуць падзеля сусьветнай вялікай сацыялістычнай рэвалюцыі. А нам гэты старэчы маразм пра быццам бы ідэальнае і маральнае мінулае, да смэркаў. Мы будзем тварыць сваю культуру.

– Якую культуру?

– Новую, высокую, пралетарскую культуру!

– На белым кані і з рэвальверам?..

– А ты ведаеш, і не бяз гэтага, бо супраціў будзе...

– З старымі бабамі і дзядамі будзеце ваяваць?

– А што ты, Антось, пра гэтых пердуноў клапоціся? Ты лепей падумай, як самому ня стаць ворагам.

– Я вашай уладзе анічога благога не раблю...

– А ўладзе нашай гэтага мала – для яе трэба нешта рабіць!

– Што рабіць?

– Добрае!..Савецкай уладзе трэба дапамагаць у бязьлітаснай барацьбе за сьвятыя ідэалы!..

– За якія ідэалы? – перапытаў Антось.

– Я ж сказаў: за сьвятыя! – як адрэзаў Міхалка.

– Та-а-а-к, – шматзначна працягнуў Антось і падумаў чамусьці пра тое, што Міхалка не чуе яго і гаварыць з ім на такія тэмы няма сэнсу

– Сьвятыя дык сьвятыя. Амінь! – і Антось вельмі сур'ёзна перакрысьціўся.

– Ты гэта – зь зьдзекам, ці як? – натапырыўся Міхалка.

– Ведама, ці як! Што я – сам сабе вораг, ці што? – Антось стараўся быць сур'ёзным:

– Ды я за сьвятыя ідэалы, каму хочаш, горла сам перагрызу...

– Ты, глядзі, Антось... Язык у цябе што памяло... Ня любіць такіх савецкая ўлада...

– А каго яна любіць?.. Хаця я здагадваюся – Зінку! Каля яе, курвы, круціцца і Кацалапаў і Цэрбер, а яны й ёсьць савецкая ўлада...

– Антось, не валяй дурня! Я ў цябе спытаўся наконт камуны і калгасаў...

– Міхалка, а што я магу табе сказаць? – Антось стаў больш сур'ёзным. – Калі я скажу, што ўсе вяскоўцы, і я разам зь імі, надта любім камуну і калгасы і бязь іх жыць ня можам, дык ты ж не паверыш, а сказаць, што мне гэтыя вашыя бальшавіцкія заскокі што сярпом па адным месцы, дык жа пачнеш капаць, як пад ворага...

– Не зьбіраюся я пад цябе капаць…

– Хто зараз у гэтае паверыць?..

– Вось, каб такія талковыя гаспадары, як ты, прыйшлі ў камуну, а пасьля ў калгас, ты ведаеш, якія былі б моцныя нашы гаспадаркі?!.

– А вам хіба такія гаспадары патрэбныя? Вы такіх гаспадароў у Сібір вывозіце? Як Качанюка, Саковіча, Дайновіча! Засталіся Пуценькі... Хто будзе працаваць на гэтай зямлі?

– Ня блытай, Антось, гаспадароў з ворагамі народу...

– Якія ворагі? Міхалка? Апомніся! Янук Дайновіч – вораг?!

– Вораг! – упэўнена прагаварыў Міхалка. – Твой Янук належаў да беларускай хадэцыі, а пасьля да Беларускай нацыяналістычнай арганізацыі, як і Станкевічы, дарэчы…

Антось прыпомніў, як неяк зайшла гутарка пра беларускія арганізацыі, і Янук настойліва раіў Антосю не зьвязвацца зь імі, маўляў, у цябе дома свая арганізацыя...

– А чаму нельга браць удзел у беларускіх арганізацыях? У польскіх – можна, у расейскіх – можна, а ў беларускіх – не?! Чаму? – спытаўся Антось.

– Чаму, чаму? Ты пра гэта лепш запытайся ў таварыша Сталіна, – насьмешліва прагаварыў Міхалка і дадаў:

– У мяне ёсьць тайны загад на адстрэл Станкевічаў з Вурлянатаў, толькі вось злавіць не магу... Так што – Дайновічу яшчэ пашэнціла... Толькі ты, Антось, – маўчок, зубы на кручок.

Такое гаварыў той Міхалка, які ў 20-ых гадах з гуртком БІГіК (Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры) прыязджаў з тымі Станкевічамі ў Дойневічы і ў Ракавічы, ладзілі беларускія вечарыны, спявалі народныя песні, ставілі «Паўлінку» Купалы. Тады такое сяброўства было... а зараз – «загад на адстрэл», як на ваўкоў якіх...

Антосю такі расклад аніяк не ўкладваўся ў галаве. З аднаго боку, не магло быць сумневу ў тым, што Міхалка мог бы лёгка правесці «адстрэл» усіх беларускіх нацыяналістаў, якіх у акрузе было нямала і якіх ён добра ведаў, але, з другога, чамусьці рабіць гэта Міхалка не спяшаўся. Яшчэ, што вартае можна было аддаць Міхалку – ён не стаў крыўляцца расейшчынай, як гэта сталі рабіць яго некаторыя таварышы па барацьбе, – ён заўсёды гаварыў цудоўнай беларускай мовай.

– Антось, ты думаеш, што так гэта ўсё проста, – гаварыў Міхалка. – Пайшоў і пастраляў... Мне гэтых Станкевічаў шкода, талковыя хлопцы, не раўня пуценькам і цэрберам, а вось не разумеюць моманту і ня хочуць разумець... Анакдай заляцеў я ў Вурляняты, зайшоў у адну хату, другую – усе ж свае людзі, мяне добра ведаюць, пры паляках шмат зь кім у адной партыі быў, кажу, ня трэба працівіцца савецкай уладзе, бо яна непераможная, а яны мне ў адказ «рабак бальшавіцкі, бзьдзюль савецкі, маскалям прадаўся»... толькі ты, Антось, – маўчок... І такое кажуць старыя людзі, бацькі Янкі, Стася, сваякі ксяндза Адама... А зараз там Стась Язэпчыкаў з дзядзькам сваім Спадаром філялёгіі баламуцяць народ. А ў мяне рука не падымаецца страляць у іх...

– Нешта я ў толк не вазьму, – перабіў Міхалку Антось. – Кажуць, што ты сам напрасіўся пастраляць людзей, прапанаваў тэрор, а зараз кажаш: свае людзі...

– Не падкалупвай, Антось... Страляць трэба было ў палякаў, паноў, розных пшызьдзецкіх, сьвентахоўскіх, лакуціеўскіх... А тут – ня ўсё так проста... З Стасем Язэпчыкавым разам у школку хадзілі, пасьля сябравалі доўгі час, на вечарынах сустракаліся, я да яго ў Вільню езьдзіў, калі ён студэнтам быў, таксама хацеў студэнтам стаць, а пасьля ён, Балван гэты, нос задзёр, палез за сваім дзядзькам Янкам Антосевым... ты знаеш яго... у палітыку...

– Не... адкуль?..

– Дык вось, палез у палітыку, казалі, зьнюхаўся з пілсудчыкамі, стаў выступаць супроць Саветаў, супроць Сталіна ў Вільні цэлыя маніфестацыі рабіў... Я ж стаў першым камсамольцам-падпольшчыкам... Дарэчы, Янка Станкеўчык стварыў Партыю беларускіх нацыяналістаў... Да той партыі належаў Янук Дайновіч і яго брат. Каго мог яшчэ спадарфілёляг зацягнуць у нацыяналістычны буч у вас, у нас – я ня ведаю, а ведаць трэба. Загадана зьнішчыць гэтую нацыяналбуржуазную партыю як вельмі небясьпечную і шкодную савецкай уладзе, і якая не адпавядае нацыянальнай палітыцы камуністычнай партыі Леніна-Сталіна. А партыі, ведаеш, зьнішчаюцца праз ліквідацыю носьбітаў партыйнай ідэалёгіі, гэта значыць, яе сяброў... А дзе ж ты ўсіх сяброў паловіш... Злавіць бы лідэра... А тут палякі актывізаваліся, у мяне ўжо пару разоў бабахнулі, балазе конь дабры – удалося ўцячы. І заместа таго, каб арганізавана выступіць супроць палякаў, я павінен лавіць і страляць сваіх сяброў дзяцінства... А упаўнаважаны оперучастка Хамінскі, супакою не дае... Так і кажа: «У цябе там адных хадэкаў чалавек дваццаць... Ня справішся – адловім і прыстрэлім цябе»...

– Гэта які Хамінскі, з Вавукаў?

– Ага, з Вавукаў, тутэйшы!

– А адкуль ён мог даведацца пра хадэкаў?

– Дык жа працуем паводле сьпісаў польскай дыфензывы... Тыя ж шпіцы, якія раней даносілі палякам, зараз нам даносяць... Толькі ты, Антось, – маўчок, зубы на кручок... Ты знаеш, у тых сьпісах і я значыўся як «беларускі хадэк, сімпатызуючы камуністым»... Адкуль яны ўсё ведалі? Добра, што ў час я ўсё зразумеў і перайшоў у другі лягер, а не, дык быў бы зусім у іншым лягеры... А зараз, праўда, круціцца прыходзіцца... Усе свае людзі... Я пераконваю іх угаворамі, а яны «рабак бальшавіцкі»...

Антось ведаў, што, калі хочаш патрафіць Міхалку і каб было ўсё добра, трэба толькі ківаць галавой пры гутарцы з ім і ні ў якім разе не супярэчыць. Але на гэты раз Антось не вытрымаў нараканняў Міхалкі на свой незайздросны лёс змагара за савецкую ўладу і бесцырымонна абарваў маналог:

– Ня трэба было лезьці!

– А хто ведаў, што трэба было, што ня трэба! Ты стараешся, – хлопцы мне гаварылі, – анікуды ня лезьці, а ты думаеш, цябе гэта ўратуе? Прыйдзе час, і мы спытаемся ў кожнага, што ты рабіў падзеля перамогі савецкай улады? Што ты будзеш тады гаварыць, Антось? А суд будзе, вось убачыш... Вялікі суд будзе...

– І што, і на судзе тым апраўдаюць таго, хто падзеля савецкай улады забіваў людзей, братоў сваіх, бацькоў, дзяцей, сваякоў...

– Апраўдаюць!.. А калі яны былі заклятымі ворагамі народу, ворагамі сусветнай працоўна-сялянскай сацыялістычнай рэвалюцыі?!. Ты, што, Антось? Дык жа цябе застрэляць толькі за тое, што ты быў зь імі знаёмы, альбо пры сваяцтве быў, а калі будзеш зь імі цацкацца, дык жа ўвесь род зьнішчаць... Тут трэба выбіраць, а выбару няма... Ты слухаў калі казаньні ў касьцеле ксяндза Адама?.. Ісус неяк сказаў сваім вучням, што дзеля яго яны павінны кінуць сваіх бацькоў і родных... Я лічу, што сапраўдныя камуністыя гэтак жа павінны зрабіць дзеля савецкай улады. У іх ня можа быць асабістага жыцьця, як, дарэчы, у ксяндзоў, яны павінны жыць падзеля вялікай ідэі й ахвяраваць сябе ёй...

– Якой ідэі?

– Я ж сказаў, вялікай!

– А-а-а...Падзеля гэтай вялікай ідэі можна забіваць, высылаць у Сібір, арыштоўваць і садзіць у турму невінаватых, як Дайновіча, да прыкладу, дый ня толькі яго аднаго...

– А тут, ведаеш, кожнаму не дагодзіш, як ні старайся. Хрыстос і той нават расьпяцьцем сваім шмат каму не дагадзіў! А калі такая справа, дык тут трэба, як трахтарам, гнуць сваю баразну і не зьвяртаць аніякай увагі на тых, каму гэтая баразна не даспадобы.

– А, ну, трахтарам, чаму ж не... Трахтарам – гэта добра...

– Антось, што ты валёнкам прыкідваешся? Выстаўляешся тут маралістым... Я табе тлумачу, што тут анічога ня зробіш – вялікія справы патрабуюць вялікіх ахвяраў... Хрыстос як толькі нарадзіўся – усіх немаўляткаў парэзалі, а пасьля колькі было ахвяраў... вінаватых, невінаватых... хто разьбіраўся...

– Ты, Міхалка, гаворыш, усёроўна, як ксёндз... Хрыста ўспамінаеш... Глядзі, каб цябе твае таварышы ў барацьбе за тую вялікую ідэю не расьпялі дзе-небудзь самі.

– Вось, ты зноўку за сваё... А я ж ня толькі пра сябе думаю... Толькі ты, Антось, – маўчок, зубы на кручок... А так я кажу таму, каб такія асталопы, як ты, зразумелі, што камуністычная ідэя, якую праводзім мы, такая ж вялікая і сьвятая, як і хрысьціянская. І тут ахвяры непазьбежныя... вінаватыя, невінаватыя – Бог сам разьбярэцца... Шчасьлівым будзе той, хто ўцалее ў гэтым адборы. У Бога як: шмат пакліканых, ды мала абраных... Так і ў нас!

– Які ў вас Бог?.. У вас – ня Бог, а бажок...

– Хто б ён ня быў, але сіла за ім. А гэтых папоў і ксяндзоў я бы й сам да сьценкі паставіў... толькі перашкаджаюць! Ня проста перашкаджаюць, а жыць мяшаюць!

– Што ў вас ва ўсіх за манера: ледзь што – да сьценкі!. Я й сам не сьвяты... Іншы раз Богу молішся, а ў галаве фіёлкі з бабамі голымі круцяцца... А пасьля ня ведаеш, што на споведзі казаць, але каб да сьценкі... Ды й пры чым тут яны?

– Пры ўсім! Кожны пры нечым! – голас Міхалкі нервова набіраў абароты. – Дайновіча пасадзілі – і правільна зрабілі – не бывае дыму без агню, а савецкая ўлада не памыляецца! І яшчэ не аднаго Дайновіча пасадзяць і да сьценкі паставяць... І я табе нават сказаў бы каго, але баюся... Ня наш ты чалавек…

– Няма чаго мяне асьцерагацца, Міхалка. Жыву я даўно тваім прынцыпам: «маўчок – зубы на зашчэпку!»…

– На кручок, я казаў! А ты запомні: савецкая ўлада, калі й дае нейкі шанцунак, дык толькі адзін – быць зь ёю! Так, як усе людзі грэшныя перад Богам, так усе вінаватыя перад савецкай уладай!..

– На сьвятой Русі зьявілася сьвятая ўлада...

– Так! Сьвятая! А ты ведаеш, што такое ўлада?! Улада – гэта ўсё: дастатак, грошы, яда, багацьце, будучыня твая і тваіх дзяцей!..

– Кожны прагне гэтага?..

– А кожнаму не хапае багацьце, яды і дастатку... І Бог ня кожнага зрабіў шчасьлівым... А тут яшчэ воля, павага і страх перад табою, як перад Богам, – што болей трэба чалавеку для шчасьця?.. Анічога!.. І з тым, хто з намі, і хто нам дапамагае, мы дзелімся гэтым шчасьцем!

– Ведама, шчасьце… А як жа тады сьвятыя ідэалы?

– А гэта й ёсьць сьвятыя ідэалы! Калі ты пры такой уладзе, хто табе будзе мяшаць праводзіць іх у жыцьцё?!.

– Што праводзіць?

– Што хочаш!..

– Тут ёсьць над чым падумаць, таварыш Міхалка...

– Падумай, падумай, пра сябе падумай, пра сям’ю... І запомні: ня можа быць сяброўства з тымі, хто не з намі, ня можа быць! Запомні!

– Вы, Міхалка, сваёй дарогаю, а я сваёю...

– Няма ў цябе сваёй дарогі – у нас адна дарога! Як у песьні: «Другога нет у нас путі...»...

– В руках у нас вінтовка, – чуў я гэтую песьню…

– Дык вось, калі я цябе сёньня не пераканаю, дык ты заўтра сканаеш! – амаль што крычаў Міхалка й рукі яго нервова мацалі кабуру з рэвальверам. – Бо ад перакону мы ідзём да

прынукі, а прынука ў нас, сам ведаеш, якая, – адтуль ня толькі што здаровым, жывым адтуль выйсці – мізэрныя шанцы!.. Дык вось, на тое ў нас і вінтоўка у руках, каб ты не пайшоў іншай дарогай!

Антось ужо і сам быў не рады, што зачапіў Міхалку, думаў зараз, як адчапіцца. Працягваць гутарку з ім далей не мела сэнсу, яшчэ чаго добрага хопіцца за рэвальвер, заставалася адно – слухаць яго пераконы і ківаць галавой. Але Міхалка на гэты раз быў нешматслоўным:

– Я ўсё сказаў! Надаела мне цацкацца з вамі... Бывай! – кінуў ён на развітанне і абцасам нямецкіх ботаў ерзануў белага каня Ахматовіча пад бакаціну, і той заржаў, стаў на дыбкі і шпарка паскакаў галопам уперад.

## 25. Сыстэма (з нататніка заходніка)

*Хапала розных недарэчнасьцей з уладамі і іх прадстаўнікамі і пры паляках, але тады чалавеку разьбітному можна было спаслацца на закон альбо артыкул Польскай канстытуцыі і гэтага, калі толькі ён меў рацыю, было дастатковым для таго, каб ад яго адчапіліся. Пры паляках ня трэба было заводзіць нейкія знаёмствы, альбо блат – новае слова з лексікона прыехаўшых спецыялістаў і тутэйшыя людзі доўга не маглі зразумець, што яно азначае. Пры Саветах усё стала наадварот: калі ў цябе няма гэтага «блату», дык жыцьцю твайму не пазайздросьціш – што-небудзь купіць, дастаць, прабіць без гэтага «блату» было немагчыма. А не давядзі, Божа, спаслацца на закон ці сталінскую канстытуцыю ў пошуках праўды, – абкладуць з усіх бакоў, абкладуць цябе і ўсю радню так, што й не прадыхнеш і, што самае крыўднае, ня будзе каму паскардзіцца, а чым болей будзеш скардзіцца і шукаць сваю праўду, тым болей будзеш нажываць сабе і сваякам ворагаў і далёка ня сьветлую будучыню. Такая антыгуманная сыстэма страшная тым, што, калі ты не зьяўляешся чалавекам гэтай сыстэмы, дык ты ўвогуле не зьяўляешся чалавекам. І людзі сыстэмы да цябе адкрыта праяўляюць свае, адпаведна сыстэме, сыстэмныя адносіны, бо за імі стаіць сыстэма, а за табой – аніхто. Людзі сыстэмы, узьляцеўшы на грэбень улады, сьлепнуць ад гэтай улады, бо нішто так не туманіць мазгі, як воля і ўлада над іншымі (што хачу, тое й зраблю) і менавіта тады найбольш нізкія і заганныя праяўленьні чалавечай сутнасьці становяцца нормай і законнасьцю. Менавіта на гэтых праяўленьнях грунтуюцца асновы такой улады, якой не патрэбны ані хрысьціянскія ідэі чалавекалюбства, ані высока-*

*маральныя ідэі агульначалавечага суіснаваньня. Такая ўлада супрацьстаўляе сябе ўсяму сьвету, ставячы за мэту – заваяваць гэты сьвет методай праяўленьня сваёй заганнай сутнасьці. Такая падмена духоўных і прыродна-натуральных каштоўнасьцей пераўтварае людзей у жывёл: адны становяцца драпежнікамі, другія – авечкамі. І толькі наіўны цешыць сябе тым, што воля яго і ўлада пры такой сыстэме, як і воля Бога, зьяўляецца вечнай. Ня ведае прырода такога, каб драпежнікі ўвесь час ладзілі між сабою: зьеўшы авечак, яны паядаюць адзін аднаго. І той, хто здолеў прыбраць усю ўладу да сваіх кіпцюроў, трымаецца на ўсенародным траўленьні і цкаваньні, на ўсеагульным страху быць зьедзеным, калі ня сёньня, дык заўтра, калі ня першым, дык другім. Утрымацца пры такой сыстэме немагчыма, тым болей, што перыядычна тусуецца наменклятурная калода, перыядычна праходзяць «чысткі» у шэрагах адзінай і кіруючай партыі і абавязкова павінны быць знойдзеныя і пакараныя ва ўсім вінаватыя. Колькі такіх драпежнікаў, колькі такіх чырвоных катаў, у якіх рукі ў нявіннай чалавечай крыві, пайшлі ўсьлед за сваімі ахвярамі пад чарговым сталінскім клікам: «За парушэньні сацыялістычнай законнасьці».*

*А на самай справе законнасьці той там і зблізу не было аніякай.*

## 26. Калгас

Зямлю, гаспадарку, хатнюю жывёлу і ўвесь набытак «ворагаў народу» новая ўлада напачатку (на зіму) падзяліла між сябрамі сялянскага камітэту, альбо камітэту беднаты (камбеду). А пры арыштах усё новых і новых ворагаў народу, пры іх раскулачванні і канфіскацыі, усе рэчы, посуд, хатняя мэбля, адзенне знікалі неяк бесслядоўна, а камуне заставаліся забудовы, зямля, сельскагаспадарчы інвентар і хатняя жывёла. Праўда, інвентар той (плугі, бароны, вазы, конская збруя) таксама некуды неўпрыкметку знікаў (хадзілі такія чуткі, што хамуты тыя і некаторыя рэчы, якія былі канфіскаваныя уладай, можна было купіць на барахолцы ў Вільні і Менску).

З панскай зямлёй і з зямлёй ворагаў народу вясною трэба было нешта абавязкова рабіць. Сцяпан выказаў у сельсавеце вельмі цікавую думку наконт таго, што калі гэтую зямлю раздаць малазямельным і бедным сем'ям, што і меркавалася было зрабіць, дык ніхто не дасць гарантыі, што зямлю гэтую яны здолеюць апрацаваць. Шмат у каго няма семяннога фонду, і палеткі застануцца не засеянымі. А калі ж ім раздаць зерне ворагаў народу, дык ён, Сцяпан, добра ведаючы нату-

ру сваіх людзей, няўпэўнены ў тым, што дабро тое будзе выкарыстана па прызначэнні – нешта пасадзяць, а болей прыхаваюць, пакінуць сабе і з'ядуць. Трэба зараз альбо камунамі парадкаваць зямлю, альбо на базе іх ствараць калгас, урэшце, розніца між імі на гэтым этапе неістотная, галоўнае – вясною арганізаваць людзей і вывесці ў поле, на сяўбу. На сёння амаль што ў кожнай былой панскай сядзібе была арганізавана свая камунарская арцель: у Багданоўцы, Няроўцы, Парлоўцы, Ракуцеве, Крыўлянцы, Вавуках – гэта добра, што ёсць людзі, якія бяруць арганізацыю камунаў у свае рукі, але павінна быць адна арганізацыя, даводзіў Сцяпан. Камуны нашы слабенькія і могуць распасціся пры малейшым ціску ворагаў народу, так, як гэта было ў Людвінова і Ходзьках – бандыты нейкія так запалохалі камунараў, што тыя ўсё кінулі: і жывёлу, і панскае дабро, і плугі з баронамі – так уцякалі. І зараз няма жадаючых апрацоўваць у Ходзьках палеткі Лакуціеўскага. Усім камунарам зараз патрэбна адна стратэгія: узаемападтрымка і дапамога, што магчыма толькі пры арганізацыі калгасу...

Прыкладна такую прамову трымаў Сцяпан перад актывам і сельсаветам.

Найболей моцнай гаспадаркай была камуна, арганізаваная Сцяпанам у Няроўцы на землях пані Дабрынскай, Саковіча і Страчынскага, бо рабілася тут ўсё пад строгім яго кантролем. Болей-меней выглядала камуна пад кіраўніцтвам Казакевіча ў Багданоўцы. Багданоўка рабілася цэнтрам – адсюль былі найболей спрыяльныя дарогі да Мястэчка, добрыя панскія склады, свірны, гумны, канюшня і панскія пакоі для працы і адпачынку. А таму і не дзіўна, што тут знайшлі сабе добрае месца для пражывання таварышы ўпаўнаважаныя і атрад чырвонаармейцаў. Тут жа быў і сельсавет.

Калгас, альбо нешта падобнае калгасу, пачаў арганізоўвацца ў першую бальшавіцкую вясну 1940 года. Кіруючую ролю ў ім узяў на сябе Кацалапаў, які, будучы ўпаўнаважаным у арганізацыі мясцовых камітэтаў камуністычнай партыі, набыў новую функцыю ўпаўнаважанага ў арганізацыі сельскіх калектыўных гаспадарак. Ён не спяшаўся называць сябе старшынём калгасу, казаў, што гэтая пасада для спецыялістага, а не для яго, чалавека рабочага і гарадскога. Але, калі ўлічваць тое, што пры Польшчы на старшыняў калгасу не вучылі, дык і не мог таварыш Кацалапаў убачыць такіх спецыялістаў вакол сябе. Агульнае практычнае кіраўніцтва – што сеяць, дзе сеяць, як сеяць – спрабаваў узяць на сябе Сцяпан, але Ракуцеўскія камунары катэгарычна заявілі, што Сцяпана

ніхто не ўпаўнаважваў камандаваць імі. Старшыню калгаса, відаць, Кацалапаў чакаў з усходу, але той недзе затрымаўся. Вырашана было калгас утварыць і назваць імем «Васямнаццатага верасня»– дзень вызвалення вёскі Ракавічы ад «польскага гнёту» – і старшынём прызначыць Косцю Казакевіча. Чаму Казакевіча – цяжка сказаць, магчыма, ён больш падабаўся Кацалапаву. Камуны аўтаматычна набывалі статут брыгады: брыгада № 1 – Няроўка, брыгада № 2 – Дойневічы, брыгада № 3 – Ракуцева, брыгада № 4 – Крыўлянка і гэтак далей. Кіраўнікі камунаў і старшыні камбедаў былі прызначаны ў якасці брыгадзіраў. Так Сцяпан стаў брыгадзірам Няроўскай брыгады калгасу. Цэнтар брыгады быў размешчаны ў былых памяшканнях Саковіча і Страчынскага.

«Камбрыгам», як ён сябе называў, у Дойневічах стаў і Пуценька. Цэнтрам брыгады былі былыя канюшні, свіран і кароўнік пана Дабрынскага на Бутрымаўшчыне (у трохстах метрах ад Багданоўкі). Пуценька казаў, што ён і надалей будзе ўваходзіць ва ўсякія «тройкі» і пастараецца застацца аператыўнікам ці іх супрацоўнікам, але трэба глядзець уперад, бо калі ворагаў не стане, знайсці добрую пасаду будзе вельмі цяжка, а зараз, калі востра стаіць праблема арганізацыі калгасу, дык каму арганізоўваць калгас, як не Пуценьку, чалавеку вопытнаму і дасведчанаму ў гэтых складаных пытаннях з практыкі арганізацыі калгасаў у Магілёўшчыне.

Цэнтрам калгасу, як і сельсавету, заставалася Багданоўка – дом пана Дабрынскага. Праўда, Багданоўку афіцыйна далучылі да Ракавічаў і новыя ўтварэнні былі не Багданоўскія, а Ракавіцкія. Багданоўка, як назва, засталася толькі ў вуснай гутарковай мове вяскоўцаў.

У калгас прымалі ўсіх. Калі жадаючых не было, дык іх рабілі такімі. Звычайна ў хату да гаспадара заходзілі Сцяпан з Казакевічам ці Пуценька з Цэрберам і ставілі пытанне такім чынам: альбо заўтра ўся сям’я дружна становіцца калгаснікамі, альбо заўтра ўсе будуць абвешчаны ворагамі народу, а гаспадарка іх будзе канфіскавана на карысць калгаснага будаўніцтва... Калі малазямельным і бедным сялянам траціць не было чаго, і яны асабліва не вагаліся з выбарам, дык серадням было над чым задумацца. Праўда, выбару ў іх, практычна, не было. Але былі і такія сяляне, якія з шчырым жаданнем ішлі ў калгас. Да прыкладу, актыўным калгаснікам стаў Раман Любрык, той Любрык, які некалі прадаваў «авечкі» Рабіновічу і краў грошы ў пана Дабрынскага. З'явіўся ён нечаканна для ўсіх і шмат нават каго напалохаў сваім аб’яўленнем. У сельсавеце паказваў

нават нейкую паперку пра тое, што ён пацярпеў ад польскага буржуазнага рэжыму ў польскіх турмах як змагар за савецкія ідэалы, чым вельмі пацешыў Сцяпана.

– Надаела мне ўжо бадзяцца ў свеце, – казаў пастарэлы Любрык. – А тут мне – вялікае поле дзейнасьці... Можа, дзе пры калгасе вартаўніком ўдасца прыстроіцца, ці касірам пайсьці...

Сцяпан пасля гэтых словаў доўга смяяўся.

Зразумела, што ўзяць у калгас тыповага жуліка, Сцяпан не мог, але тут раптам за Любрыка заступіліся Філя Храпавіцкі з Мястэчка, якога ўсе ведалі як аўтарытэтнага крымінальніка і капітан Трэпелеў (Цэрбер).

– Сьцяпан, мы ж з табой парыліся на адных нарах, – казаў Філя, – Па старой дружбе, прыстрой дзе чалавека…

Так, неяк сядзелі яны адзін час разам на Лукішках, толькі з той розніцай, што Сцяпан праходзіў як палітычны вязень, а Філя (мянушка Храпа) як крымінальнік-рэцэдывіст. Але сябрамі яны ніколі не былі.

Невядома чым Храпа купіў Цэрбера, але і той стаў ціснуць на Сцяпана, маўляў, спецыялісты патрэбны калгасу.

–Так, патрэбны, – пагаджаўся Сцяпан, – але ж не такія спецыялісты, як Любрык…

Ну, а калі сам Кацалапаў сказаў, што Любрыку трэба даць працу ў калгасе, тады Сцяпану і Казакевічу нічога не заставалася, як толькі добра падумаць, у якую такую калгасную дзюрку засунуць Любрыка, каб як надалей ад таго, што ў калгасе не так ляжыць. Калі ўлічыць, што ў калгасе ўсё ляжала не так, дык знайсці такую дзюрку было складана. Але знайшлі – прапанавалі Любрыку пакуль што збіраць і вывозіць камяні з поля, якое раней належала Дабрынскім, а зараз гэтыя гоні сталі калгаснымі палямі.

Раман, хоць і зморшчыўся ад такой прапановы, маўляў, такое поле дзейнасці і такія каменьчыкі не паводле яго спецыялізацыі, але, падумаўшы, даў згоду.

Яшчэ была адна пацешная навіна ў калгаснікаў, а менавіта: у калгас нарэшце быў прыняты Мікіта Міган. Дарэчы, вельмі рэдкі, на тыя часы выпадак, калі чалавеку актывістыя адмаўлялі ўва ўсім: напачатку не прымалі Мікіту ў камуну, а пасля гэтак жа ігнаравалі яго памкненні стаць калгаснікам. І што толькі Мікіта не рабіў: прасіўся, скардзіўся і нават не адну пляшку самагонкі прыйшлося яму выпіць з Пуценькам, Сцяпанам і Цэрберам, якія толькі шмат абяцалі, а ў камуну ўсёроўна не бралі. Быццам нейкае пракляцце было на чалавеку.

Да таго ж меў ён яшчэ нейкую незразумелую звычку: хадзіць зігзагамі і палахліва азірацца па баках. Вось так, казалі, неяк адвячоркам ён ішоў вуліцай і кінуўся зігзагам спачатку на Маню Адолеву, дзяўчыну ў гадох, трохі нязграбную і не вельмі прываблівую, а пасля гэтак жа палахліва зігзагнуў у адваротны бок. Маня так была спалохалася гэтага зігзагу, што прыйшлося бацьку ісці да знахара Чубіка і замаўляць ваду. Спалохаўся тады і сам Мікіта, бо Адоль, неяк пры выпадковай сустрэчы, пагражаў яму, што калі Маню ад перэпалахаў перакосіць ці, не раўнуючы, спарыжуе, дык тады Мікіта сам будзе яе даглядаць, але, праўда, абышлося ўсё добра – Маню не перакасіла і не спарыжавала. А Мікіта, пасля гэтага, стаў болей уважліва прыглядацца да Мані і неўзабаве зігзагнуў да Мані ў сваты. І Маня пасля нядоўгіх роздумаў зразумела, што зігзаг той Мікітаў быў з волі Божай.

Так што яго зігзагі – гэта не простыя былі кіданні ў бакі. Дарэчы, праз гэтыя зігзагі празвалі Мікіту Зігзагам, але ён не крыўдзіўся за такую мянушку, а калі хто так яго абзываў, ён з усмешкай дабаўляў «зігзаг шанцунку».

Вось толькі невядома чаму, зігзагі ў бок камуны давалі адсечку.

Можа, уся прычына была ў тым, што Мікіту яшчэ празывалі і Апосталам. На Апостала, зразумела, ён быў мала падобны: высокі, хударлявы, трохі прыгорбленыя шырокія плечы і доўгія, як у прафесійнага і прыроджанага злодзея, рукі.

Зразумела, што Апосталам быў бы Мікіта кепскім, калі б толькі выпала такое шчасце. Быў неяк Мікіта кінуўся ў веру. Рэгулярна, кожную нядзельку і ў вялікія святы, ён запрагаў сваю дохленькую кабылку і разам з сваёй Маняй, такой жа страшненькай, як кабылка, трохі прыадзеўшыся ў што лепшае, яны важна бралі кірунак, як ён казаў, да Бога. Але празвалі яго Апосталам не праз гэта памкненне, бо ў вёсцы амаль што ўсе ездзілі ў нядзелю да Божага храма, але ж нікога так не празывалі. Атрымаў ён такую высокую мянушку, дзякуючы аднаму выпадку. Недзе ў пачатку 20-х гадах у Барунах ладзілі вялікі фэст з нагоды каранацыі абраза Барунскай Божай Маці. Каранавалі тады абраз Багародзіцы на Валадарку польскага народу і кароны Польскай Рэчы Паспалітай. Мясцовы пробашч тады загадзя, за колькі месяцаў, нагадваў аб вялікім свяце, на якое прыедуць апосталы польскай веры, апостальскія нунцыі, візітатары і кардыналы не толькі з Вільні і Варшавы, але нават і з Апостальскай Сталіцы, з Рыму. Зра-

зумела, што кожны сапраўдны вернік прагнуў хаця б адным вокам зірнуць на тых прадстаўнікоў каталіцкай веры, якія з'яўляюцца паслядоўнікамі Хрыста і яго Апосталаў, ды і самі, з сутнасці, з’яўляюцца Апосталамі. Таму і не дзіўна, што цёплым жнівеньскім днём, у дзень каранацыі, усё мястэчка было абкладзена вазамі. Старыя людзі казалі, што, колькі помняць сябе, столькі людзей у Барунах аніколі не бачылі. У час урачыстага набажэнства большая палова людзей тапталіся на бабінцы, і нават на дарозе каля касцёла. Мікіта ж здолеў неяк прасунуцца да касцёла і пры ўваходзе прыпаў да распяцця сваімі тоўстымі і тлустымі лупамі, перахрысціўся і кінуўся на каленні, як грэшнік сама першы, і пацеры згаварыў – усё як мае быць. А пасля, штурхаючыся, падаўся прама да амбона, спыніўся насупраць яго і, зыркаючы ў бакі, стаў слухаць казанне. Казанне было на польскай мове. Нейкі ксёндз доўга і нудна гаварыў не столькі пра Багародзіцу, колькі пра Рэч Паспалітую і што галоўны абавязак кожнага католіка і кожнага Апостала перад Богам – гэта аддаць усе свае сілы, намаганні і сродкі на аднаўленне польскай дзяржаўнасці. Менавіта так зразумеў Мікіта казанне, не будучы вялікім спецыялістам у польскай мове і ў апостальскіх дзеях. Мікіта агледзеўся навокал і ўзрадаваўся – побач з ім стаяла Марыська, суседка, а воддаль – яе маці, а ззаду – сусед Лявон.

– Марыська, – прабубнеў Мікіта, – Нешта я ня бачу гэтых, як іх... прыезджых...

– Каго, дзядзька?

– Ну, гэтых, як іх... павінны былі прыехаць з Варшавы і яшчэ знекуль... асталопаў...

– Дзядзька Мікіта, можа, апосталаў? – перапытала дзяўчо.

– Ага-ага, во, іх, – заківаў Мікіта, але было ўжо позна. На Мікіту зашыпелі з усіх бакоў, а Лявон, які чуў усю гэтую гутарку, не вытрымаў і зарагатаў. Смех у касцёле – праява нявыхаванасці і дурноты. Тут жа каля іх апынуўся нейкі клерык далікатна сцвярджаючы: «Прошэ выйсць, прошэ выйсць!» Мікіту і Лявону анічога не заставалася, як толькі паслухацца клерыка. Трэба было перажыць такі сорам і ганьбу: праз увесь касцёл яны ішлі, апусціўшы галаву, а людзі навокал услед кідалі ім нешта кшталту: «дэманаў, дэманаў злавілі».

Пасля гэтага выпадку Мікіта на нейкі час перастаў хадзіць у касцёл. Баяўся, што пробашч прылюдна пачне ганьбіць і пагоніць з касцёла, але неяк сустрэўся ён лоб у лоб з тым пробашчам, і пробашч, быццам і нічога такога не было, сам

прапанаваў падысці да споведзі і ўзяць камунію. Адно толькі цікавіла пробашча: каго меў Мікіта на ўвазе пад асталопамі?

Розгалас пра гэты выпадак быў вялікі. Людзі заўсёды любілі пацешыцца з асталопаў, якія мецілі ў апосталы. Ад таго часу за Мікітам так і замацавалася мянушка: Апостал. Цяжка сказаць, чаму менавіта Апостал, а не Асталоп, відаць, так было больш пацешней, асабліва, калі супастаўляць сапраўднага Апостала і Мікіту. Праўда, Мікіта не крыўдзіўся і на такі зварот да сябе, – а хто ж будзе крыўдаваць на Апостала.

Праўда, калі прыйшлі саветы, Мікіта напачатку зігзагнуў у бок палякаў і аднёсся да саветаў вельмі крытычна. І толькі, калі пачалі арганізоўваць камуну, Мікіту, як не дзіўна, зігзагам кінула да камунараў, але тыя з вялікім недаверам аднесліся да Апостала, а Сцяпан, кіраўнік камуны, так і сказаў, узрадаваўшыся:

– Толькі ў маёй камуне Апосталаў і не хапае!..

– А што, ў тваёй камуне павінны быць толькі бараны? – нявінна запытаўся Мікіта, чым вельмі і вельмі пакрыўдзіў Сцяпана, бо да Сцяпана і яго роду прычапілася была чамусьці такая мянушка – Бараны.

Адмовіў Сцяпан Мікіту ў яго жаданні будаваць новае шчаслівае жыццё ў камуне, і Мікіта зразумеў, што з яго няправільнымі мянушкамі нялёгка будзе ў гэтым жыцці пры новай уладзе, але ён не траціў надзеі быць шчаслівым. Параіўся Мікіта з камісарам Кацалапавым наконт камуны, і той яму растлумачыў, што зігзагі можна зразумець як перагібы, а апосталы – гэта цемрашалы: адно і другое «чуждае» савецкай уладзе... І даў яму Кацалапаў слушную параду: маўляў, табе перш-наперш трэба змяніць мянушку альбо псеўданіму ўзяць якую-небудзь пралетарскую, каб гучала, а пасля ўжо думаць наконт камуны.

– Ты сам падумай, Мікіта, – гаварыў Кацалапаў, – а раптам даведаецца таварыш Сталін, што ў нас у камуне ёсць Апосталы – усіх жа на крыж пасадзяць! Дарэчы, і Ленін, і Сталін – гэта псеўданімы...

Пераканаўчыя прыклады прыводзіў камісар.

А Мікіта тады быў вельмі здзіўлены тым, што Ленін і Сталін – гэта не сапраўдныя іх імёны...

– Як жа так, – гаварыў ён расчаравана кожнаму пры сустрэчы. – А я так верыў Леніну і Сталіну, а гэта толькі псеўданімы…

– А чаго ты хочаш, – супакойваў яго Давід Рабіновіч з Мястэчка. – Джугашвілі перакладаецца як сын яўрэя… ты хочаш, каб Сталін так сябе называў?…

І ў Мікіты зноў вочы рабіліся з добры кіслы яблык ад такога дзіва.

Пакуль арганізоўваўся калгас, думаў Мікіта наконт сваёй псеўданімы, каб з новым рэвалюцыйна-пралетарскім абліччам з'явіцца ў тым калгасе. Што сам думаў, што раіўся з людзьмі, бо зразумеў Мікіта, што толькі людзі могуць прычапіць якуюнебудзь мянушку.

– Вось як ты думаеш? – пытаўся ён неяк у Антося. – Як можна мяне яшчэ назваць так, каб не называць майго імя і прозьвішча?

– Ну, Апостал, Зігзаг, што ты яшчэ хочаш? – не зразумеў просьбы Антось.

– Гэтыя мянушкі ня ў лік... Інакш неяк трэба, каб папралетарску...

У Антося былі свае меркаванні на гэты конт, але, за лепшае, ён вырашыў прамаўчаць.

– Ведаеш, Мікіта, тут цяжка сказаць, – Антось задумаўся. –Ну, назаві сябе Лапіндракус Лапіндрус...

– А што гэта такое?

– А я й сам ня ведаю... першае, што прыйшло ў галаву...

– Можа з латыні які-небудзь свінтус-грандыёзіс?.. Хадзі тады Свінтусам... Лапіндракус... Ня пойдзе! – Мікіта без сумневу адхіліў мянушку. – Нешта трэба прыдумаць больш вартаснае, гучнае...

– Каб прыдумаць што-колечы вартаснае, трэба добра падумаць, падсказаў Антось.

– А што тут прыдумаеш? Дадуць людзі якую-небудзь некультурную мянушку, і хадзі тады, як той Баран, а ён жа яшчэ актывісты, камуністы і начальнік...

– Ты што, нядобра хадзіць з такой мянушкай начальніку! – падтрымаў Антось Мікіту. – Не мянушка патрэбна чалавеку, а добрая псеўданіма.

– Дык вось і я пра што! І Кацалапаў кажа, прыдумай сабе псеўданіму якую-небудзь і прыходзь у камуну...

– Псеўданіма – гэта добра… Калі будзе гучная псеўданіма, тады можаш нават паэтам стаць!

– Ты глядзі!

– А як жа! Купала, Колас, Гарун, Сваяк – усе напачатку псеўданімы выдумлялі, а пасля ўжо рабіліся Купаламі, Коласамі, Гарунамі…

– І Ленінамі рабіліся і Сталінамі, – праявіў сваю асвядомленасць Мікіта.

– Во! А я пра што?..

– Дык што ж такое вартае прыдумаць?..

– Тут адразу ня скажаш… Лепшыя ўжо павыбіралі… А тут яшчэ трэба, каб і людзі цябе празвалі такім псеўданімам… Няправільнае слова не прыклеіцца…

– А якое прыклеіцца?

– Вось, да прыкладу, Маркоўскага з Балобанаў называюць Беларусам, а чаму?

– Ну, чаму? – ажывіўся Мікіта.

– А таму, што гаварыў кожнаму сустрэчнаму, што ён – беларус, што мы – беларусы... Так і празвалі. Альбо во, Грудзіну з Крыўлянкі абзываюць Богам Японскім, а чаму?

– Чаму?

– А таму, што там, дзе нармальны чалавек мацюком загне, ён гнуў «бога японскага!»... Вось так і стаў Богам Японскім...

– Так, так... пачынаю кумекаць! – абрадаваўся Мікіта. – Трэба ўзяць якое слова за звычку...Толькі якое такое слова ўзяць, каб слова гучала, каб рыфма сьпявала...

– Падумай, можа парайся яшчэ зь кім, з жонкай, да прыкладу...

– З жонкай?! – здзівіўся Мікіта.

– А што?

– З жонкай, – Мікіта задумаўся. – Ёсьць у яе адно слоўца, якім яна мяне іншы раз, што сярпом рэжа, але крый Божа, каб хто пачуў…

– Што за слоўца, калі не сакрэт? – спытаўся Антось.

– Толькі ты, Антось, каб нікому…

– Ведама, не…

– У яе нават не адно, а два: то Зігзагам мяне абзаве, то Ёлупнем!

– Ну вось, нармальныя словы, падыходзячыя...

– Што значыць, падыходзячыя? – насцярожыўся Мікіта.

– У тым сэнсе, што падыходзяць да кожнага мужчыны, хто з нас не зігзашыць убок: ці ў панскі агарод, ці да бабы чужой, – выкруціўся Антось. – А Ёлупень – так кожная жонка мужа свайго абзывае... Ты калі-небудзь чуў, каб яны Анёламі сваіх мужыкоў называлі?..

– Не...

– Вось і я пра што... А ты, можа, калі трэба абурыцца, ці матам сказануць, ці мала што... Ты, можа, тады гавары якое слоўца, – даў параду Антось...

– Якое?

– Ну, любое, да прыкладу, «...О, карла маркса!».

– А не пасадзяць? – зноў насцярожыўся Мікіта.

– Пасадзяць!.. За Карла могуць пасадзіць!

– Вось бачыш, няпроста гэта ўсё, – Мікіта задумаўся.

– Згодзен, няпроста... А калі казаць: «О, розалюксембург»...

– Ну й што?.. так і абзавуць – Розай...

– Розай не абзавуць, таму, што ты – мужчына, – стаў сур'ёзна тлумачыць Антось. – А вось мянушка Люксембург можа прычапіцца, а гэта ўсёроўна, што Тызенгаўзэн, Шпіцберген, ды мала што... А гучыць як! Гэта ж табе – не Баран. А Роза Люксембург на слуху ў кожнага – у Менску нават вуліца ёсьць такая...

– Трэба падумаць...

– Падумай, абавязкова падумай...

А вечарам таго дня на падворку Мікіты стаяў гучны лямант. Лямантавала Маня:

– Я табе дам, ёлупень, Розу! Ты ў мяне такую Люксембург атрымаеш! Відзіш ты яго, Зігзаг прыдуркаваты, да Розы яго зігзагнула!...

– Што ты, Маня, на каго ты тут так даешся? – пацікавілася суседка Фэля.

– Ды на свайго Апостала... Прыйшоў і кажа на мяне: Роза Люксембург... Да Розы, відаць, у мястэчка зьлётаў...

У мястэчку і сапраўды жыла Роза – самотная жыдоўка ў гадах, без мужа, без дзяцей, і жонкі часта абвінавачвалі сваіх мужыкоў і Розу ў сумесным распустве.

Яшчэ некалькі разоў спрабаваў Мікіта на людзях загнуць «розайлюксембург» заместа мацюка, але людзі неяк здзіўлена паглядалі на Мікіту і пыталіся:

– Апостал, а хто такая Роза Люксембург?

Апостал толькі рукой махаў: «Ат, розалюксембург» і зігзашыў некуды ўбок.

Аднойчы сустрэліся дарогай Мікіта і Сцяпан. Мікіта тады першым закрычаў:

– Здароў, Баран, розалюксембург! Бярэш мяне ў сваю камуну ці не, розалюксембург?!

– Сам ты скаціна! А вось за Розу Люксембург можаш паплаціцца!

Так што мянушка «Люксембург» да Мікіты не прычапілася.

А калі арганізаваўся калгас, Сцяпан сам выклікаў Мікіту ў «праўленне» і прапанаваў яму стаць шчаслівым калгаснікам,

праўда, толькі пры дзвюх ўмовах: ён аніколі не будзе абзываць яго, Сцяпана, Бараном, а ў калгас прывядзе каня, карову і Розу Люксембург – так сталі абзываць яго Маню.

Выканаў Мікіта ўмовы і стаў калгаснікам. Што да мянушкі, дык у калгасе перастаў ён быць Апосталам – не абзывалі яго болей калгаснікі і не калгаснікі такім, хоць і клерыкальным, але прыгожым, словам. Усё болей і болей Мікіту прыходзілася чуць, што за вочы, а што, ават, і ў вочы, абражальнае і нядобразычлівае слова ў свой адрас – «Асталоп».

Неяк, пры чарговай сустрэчы з Антосем, Мікіта скардзіўся:

– Хацеў каня ўзяць свайго ў калгасе, бульбу абагнаць, – а Баран гэты, ня даў... Кажа, конь патрэбен на калгасным полі камяні цягаць... А Любрык яго надарве, загубіць каня, альбо збудзе цыганам... Такі конь, такі конь... Асталоп я, асталоп! Відаць, ужо й памру Асталопам!

*      *      *

У калгас сталі хадзіць не на працу, а на работу. Пры тым самі калгаснікі казалі так: «Працуеш, працуеш, а толку ад той работы...». Відаць, слова праца патрабавала больш канкрэтнай аддачы, выніку і сэнсу. А работа (вядома, што ў калгасе) стала нейкай бясконцай, марнай і бессэнсоўнай для тых, хто працаваў.

А савецкая ўлада патроху набірала моцы. Праўда, моц гэтая была нейкая ненатуральная, бо ўсё трымалася на страху. Людзі былі запалоханыя ва ўсім: хадзілі панурымі і азіраючыся. Нават доўгімі зімнімі вечарамі баяліся выходзіць з хаты, а тым болей збірацца ў некага вечарам, альбо хадзіць «на бадзякі», як некалі, альбо ездзіць у госці, сустракацца з сваякамі, сябрамі, знаёмымі. Увогуле, зараз насталі такія часы, што лепей ні з кім не сустракацца, бо ўсякія сустрэчы (а тым болей, дамоўленыя заранёў) маглі быць растлумачанымі як форма арганізаванай барацьбы супраць савецкай улады, нават тады, калі ты сустракаешся на кірмашы падзеля таго, каб прадаць ці купіць парасё. Былі такія выпадкі, калі парасё тое канфіскоўвалася як «вяшчэственнае даказацельство» тайнай змовы з мэтай звяржэння савецкай улады на месце.

З горам папалам, як казаў Пуценька, калгаснікі правялі сяўбу. Праўда, не ўсё так было складна, як пасля рапартавалі ў раён, завышаючы аб'ёмы ворыва і гоняў апрацаванай зямлі. Праводзіць сяўбу на былых панскіх палетках Лакуціеўскага ў Ходзьках і пані Дабрынскай у Парлоўцы прыходзілася з

вінтоўкамі за плячыма. Некалькі разоў чуліся стрэлы з лесу па аратых, але ўсякі раз, пакуль каня выпражаш з плуга, лясныя «стралкі» бесслядоўна знікалі недзе ў лесе. На гэтых землях было вырашана стварыць спецыяльную ахову пад агульным камандаваннем Цэрбера. Чалавек пяць – шэсць, іншы раз на змену, спецыяльна дзяжурылі са зброяй каля лесу.

Неяк, у самы разгар сяўбы, узнікла спрэчнае пытанне ў калгаснікаў прама на полі: «А хто нам і як будзе плаціць за працу?». Сцяпан стараўся пераканаць іх працаднямі, што такое пытанне не да месца, што напачатку трэба пасеяць, а пасля гаварыць, але сейбіты ўпёрліся і казалі, што не будуць сеяць, пакуль ім не паабяцаюць прыстойную плату за гэта. Цэрбер спрабаваў застрашыць сялян сабатажам і зрывам мерапрыемстваў савецкай улады, махаў рэвальверам, але, калі ўбачыў, што некалькі дулаў з яго аховы паглядае ў яго бок, супакоіўся. Прыйшлося Сцяпану тэрмінова ляцець да начальства: Кабяка і Кацалапавага. Тыя неўзабаве пад’ехалі ў панскім вазку Дабрынскага. Сейбіты перад начальствам паставілі канкрэтнае пытанне:

– Калі ў вас грошы ёсьць – мы будзем працаваць, калі не – мы ідзём дахаты!

І між сялянамі і прадстаўнікамі ўлады адбыўся, прыкладна, такі дыялог. Напачатку Кацалапаў стаў тлумачыць:

– Таварышы, вядзецца строгі ўлік выхаду кожнага на працу, – і Сцяпан для пераканаўчасці паказаў спецыяльны сшытак з палачкамі насупраць прозвішчаў. – Паводле вашых выхадаў запісваецца і даецца вам працадзень...

– Ты нас працаднямі не кармі!…

– А пасьля, паводле працаднёў, вы будзеце ўзнагароджаны пахвальнымі граматамі і падзякамі ад старшыні сельсавету і райкама партыі... А той, хто найболей будзе хадзіць у калгас, той можа атрымаць нават ордэн ці мядаль...

– Мядаль свой павесь бабе пад спадніцу!..

– У пана ўсё было проста: вясеннія працы – за грошы, а ўвосень – ад зробленага...

– Дык гэта ж была эксплюатацыя!..

– А задарма працаваць – гэта не эксплюатацыя?..

– Ну, чаму задарма – за палачкі!

– А пакажыце, дзе вашы грошы?

– У нас няма грошаў – мы не паны!

– А чаму тады раз’язджаеце ў панскай брычцы?

– Дык жа трэба на нечым езьдзіць...

– Далі зямлю сялянам, а яны і пацешыцца не пасьпелі, як забралі пад калгас!..

– Калгас – гэта народная форма ўлады, – стаў тлумачць Кабяк. – Калі сажнём і абмалоцім сваё жыта, мы будзем мець права рабіць зь ім, што захочам: добрую долю атрымае кожны, хто хадзіў на працу, а частку мы прададзім дзяржаве за грошы, і гэтыя грошы будуць вашымі, вы, што захочаце на іх, тое й купіце... Захочаце купіць трактар – купляйце...

– А калі я захачу купіць сваёй бабе новую спадніцу? – пацікавіўся Мікіта Міган.

– Хоць зь дзесятак спадніцаў!... Захочаце купіць аэраплян – калі ласка! – абяцаў Кабяк.

– А на хрэна нам аэраплян? – не зразумеў Калістрат.

– Вось і я так думаю, а давайце лепш наб'ём морду Калістрату! – раптам прапанаваў Грышка Картановіч.

– А калі я не захачу купляць сваёй бабе спадніцу, дык тады што? – зноў пацікавіўся Мікіта.

– Тады ты можаш купіць спадніцу маёй бабе, – прапанаваў Юза Будкевіч.

– Тады твае грошы пойдуць на чужыя спадніцы! – удакладніў Калістрат.

– Калі так, дык я тады каля тых спадніцаў сьмела магу пазігзашыць? – найшоў што сказаць Мікіта і такі дасціп удаўся.

Вось гэтымі бабскімі спадніцамі збілі напружванне, важнасць і сур'ёзнасць гутаркі. Грышка Картановіч пасля таго, як мужыкі вычарпалі тэму спадніцы, нясмела прапанаваў:

– Ну, што, мужыкі, пойдзем на спадніцы зарабляць...

І сяляне, у знак згоды, моўчкі заківалі галавой і пайшлі да сваіх коней. Але тут раптам, з боку лесу, прагучалі запар некалькі стрэлаў. Сяляне кінуліся ў барозны, на хаду здымаючы зброю, у каго яна была. Цэрбер першым ускочыў на каня і ўзяў кірунак на лес, за ім яшчэ некалькі чалавек паскакала следам. У лесе прагучала яшчэ некалькі стрэлаў. Праз хвілін дзесяць хлопцы вярнуліся, як і заўсёды, ні з чым.

– Як скрозь зямлю! – абурaўся Цэрбер.

Астатнія хлопцы з пагоні маўчалі. Нікому не хацелася гаварыць пра тое, што ніхто не асмеліўся сунуцца трохі далей у лес.

– Я думаю, што мы дамовіліся, – вярнуўся да хвалюючай тэмы Кацалапаў.

– А я думаю, што наша гутарка яшчэ не закончылася – вельмі сур'ёзна заявіў Калістрат.

– Што ты яшчэ хочаш, Калістрат!? – з нейкім адчаем выкрыкнуў Сцяпан.

– Да восені дажыць яшчэ трэба... пад абстрэламі... Увосень мы будзем купляць спадніцы, самалёты і што захочам, а як нам да восені ногі не працягнуць з голаду?

– Ага, чым зараз сем'і карміць?

– За працадні не пракорміш?

– У пана можна было і ў пазыку ўзяць, а пасьля вярнуць, ці адпрацаваць...

– Наконт гэтага, абяцаю вам, мы будзем ставіць пытаньне на чарговым пленуме райкама партыі, – зноў абяцаў Кабяк. – Я думаю, што нейкі аванс мы здолеем вам прапанаваць. А зараз, вы самі разумееце, паміраць збіраешся, а жыта сей. Трэба сеяць, хлопцы!..

На гэтым гутарка падыходзіла да свайго лагічнага завяршэння. Сяляне заківалі галовамі ў знак згоды, маўляў, трэба – дык трэба, што зробіш... Там паглядзім...

## 27. Кастрацыя

Вялікая праблема ўзнікла ў камунараў-калгаснікаў і з жывёлай, асабліва з конямі – іх катастрафічна не хапала. Коней ворагаў народу было няшмат, ды і з тых лепшых забралі чырвонаармейцы ў час вызвольнага паходу, а коні, якія засталіся, пачалі нешта худзець, хварэць і здыхаць. Шмат у каго, хто стаў калгаснікам, коні раптам прапалі, і яны прыйшлі ў калгас без каня. У некаторых былі валы, але валоў тых людзі перад тым, як уступіць у калгас, зарэзалі на мяса. У іншых калгаснікаў коней увогуле не было. А тут вясна – вось-вось трэба будзе выходзіць у поле, а няма як, хоць ты людзей упрагай у плуг. Дарэчы, наконт людзей і плуга агаварыўся Сцяпан, на што Цэрбер толькі ўсклікнуў: «Кстаті, очень прекрасная ідея!».

З пытаннем наконт коней Сцяпан аб'ехаў суседнія сельсаветы, быў у раёне, ды толькі ўсё без толку – коней не было. Праўда, у раёне паабяцалі трактар пасля першага мая, акурат недзе на Юр'еў дзень, але для сяўбы гэты дзень быў познім. Грады толькі рабіць, але іх і рыдлёўкай можна ўскапаць. А тут кожны разумеў, што рыдлёўкай сацыялізму не пабудуеш.

Праўда, у панскай канюшні Дабрынскага стаяў малады пародзісты жарабец, неаб'езджаны і нявылажаны, – пан Сева спецыяльна трымаў яго для асемянення. І называў яго пан вельмі прыгожым словам – Данжуан. Болюсь Бутка казаў, што, як назавеш жарабца, дык тое і мець будзеш... А коні ў Дабрынскага былі такія, што шкода было іх у воз ці ў плуг запрагаць – выязднныя, ды і толькі. Калгасны актыў, і асабліва

Казакевіч, настойліва давалі парады Сцяпану, што трэба нешта рабіць з гэтым жарабцом, маўляў, кастрыраваць трэба, абсадзіць, аб'ездзіць і – у воз яго, у плуг!.. Хай падымае калгасныя гоні, панскі выкармыш!

Сцяпан на такія прапановы толькі агрызаўся:

– А калгаснае конскае пагалоўе вы самі будзеце пакрываць!..

Сцяпана можна было зразумець. У калгасе, калі толькі думаць пра перспектыву, павінен быць свой пародзісты жарабец. Але думаць пра перспектыву ніхто не ўмеў, і што трэба было рабіць ў такой сітуацыі – таксама ніхто толкам не ведаў…

Сцяпан, на ўсякі выпадак, замкнуў жарабца на вялікі важкі замок у панскай стайні, а ключы трымаў пры сябе.

Праўда, Цэрбер нешта гаварыў Сцяпану пра нейкіх коней пад Радашковічамі, маўляў, чырвонаармейцы адбілі іх ад польскай памежнай стражы. Быў такі момант, калі нават не ведалі, што з гэтым конскім табуном рабіць... Частку адправілі ў Расію, а частку на мясакамбінаты, ці застаўся хоць адзін конь – невядома.

Трэба было пад'ехаць туды і глянуць...

А Кацалапаў гаварыў пра нейкі конезавод каля Мінска, маўляў, там можна дамовіцца наконт пары буланых і гнядых. Але ці толькі чуткі гэта былі, ці праўда, ані Цэрбер, ані Кацалапаў і самі толкам не ведалі.

Ва ўсякім разе, чуткі варта было б праверыць, і Сцяпан, узброіўшыся рознымі паперамі, просьбамі, рашэннямі і гарантыямі ад райвыканкама, райкама, сельсавета, калгаснага праўлення (так была перакладзена «управа»), апошнімі пастановамі ЦК і пленумаў партыі, адным гожым днём паехаў шукаць конскі табун і той конезавод.

А на трэці дзень яго пошукаў, для ўсеагульнай радасці калгаснікаў, на калгасным (былым панскім) двары стаяла пара вараных. Сцяпан хадзіў каля іх і хваліўся, што аднаго ўзяў у Радашковічах (вось гэтага, ці гэтага – блытаўся), а другога – на нейкай «усесаюзнай стайні» (вось гэтага, ці наадварот). Вакол вараных сабраўся натоўп мужчынаў, чалавек пятнаццаць. Глядзелі, шчупалі, хадзілі каля коней, як цыганы на кірмашы і, збольшага, нічога не мелі супраць выбару Сцяпана – коні як коні, праўда, спрэчкі выклікала парода.

– Гэта – будзёнаўцы, я ведаю – даводзіў Косця Карповіч, – Іх сам Будзённы вывеў!..

– Які Будзённы? Гэта тыповая каўказская ездавая парода! – пярэчыў Аляксандра Саўрыновіч.

– Гэта коні Пражавальскага! – пераконваў Юза Будкевіч.

Кропку ў дыскусіі паставіў Цэрбер, які падышоў разам з Пуценькам да людской грамады.

– Беларуская упряжная породистая група! – гучна абвясціў ён. – На им далеко не заедеш, але затое спакойны, неприхотливы, минимальность затрат и, главное, – тягловая сила... Наши придумали...

– О! – зазначыў Пуценька. – Усё, што хочаш, пацягне...

– Да, кстати, наши эксперемент делали, – працягваў Цэрбер, – камней наложили на воз – и палками, палками... На калени стал, но вытянул!..

– Як вы, таварышч, сказалі – беларуская парода? – перапытаўся Пуценька.

– Беларуская упряжная породистая група! – удакладніў Цэрбер.

– А давайце мы гэтага каня назавём «Беларусам»! – прапанаваў Пуценька.

– Очень даже падходящея имя, – падтрымаў Цэрбер.

– Што каня, вось каб так трактар назваць! – выказаў здагадку Болюсь Бутка.

Астатнім, у тым ліку і Сцяпану, было ўсёроўна, як называць каня. Так у наваколлі з'явіліся два «Беларусы»: адзін Беларус – «беларускі ўпражны народзісты» конь, а другі – Маркоўскі з Балобанаў.

Але нешта на трэці дзень у каня Беларуса памутнелі вочы і ён стаў пускаць сліну.

Кожны ведаў, што трэба нейкім чынам ратаваць каня, але як? Кінуліся да дахторкі-ветэрынаркі – камсамолкі і маладой спецыялісткі, але з ёй усё стала зразумелым пасля таго, як яна прапанавала каню разрэзаць хвост і змазаць тарпатынай.

Цэрбер ужо стаў шкадаваць, што не варта было называць Беларусам, маўляў, хваравіты народ і здохлы, відаць, акалее і гэты. Трэба было назваць Неграм – была б, можа, нейкая перспектыва.

А Болюсь Бутка, які быў прызначаны калгасным конюхам, шматзначна кіўнуў галавой і сказаў:

– Як назавеш каня, так і араць будзеш...

Але Болюся ніхто, відаць, не зразумеў.

Сцяпан хадзіў каля каня надзьмуўшыся, вельмі заклапочаны і часта часаў патыліцу.

– Што рабіць, што чыніць? – бубніў ён сабе пад нос.

– Што рабіць, што рабіць – п…ць ды лавіць! – з парадай адгукнуўся Болюсь.

– Гэта табе, Сьцяпан, у Вашмяну трэба пад’ехаць, да хераматкі схадзіць! – прапанаваў раптам Карповіч. – Тая ўсё, што хочаш, раскажа... З рукі чытае, як грошы бярэ... Што было й што будзе скажа...

– Да якой яшчэ маткі?

– Мне што сказала... Талковы ты, кажа, Карповіч, чалавек, і розум маеш, толькі не багаты... Ну, як у ваду глядзела... На Гальшанскай вуліцы жыве хераматка тая...

– Ані да якай маткі я не паеду!

– Дык так і будзеш хадзіць, як сьляпы, і пытацца, «што рабіць, што чыніць?».

– Можна падумаць, што твая хераматка вочы расплюшчыць... Я і безь яе ведаю, што я талковы і не багаты.

– Што не багаты – можа, яно й так, а наконт толку – спрэчнае пытаньне, – засумняваўся Карповіч. – У цябе, на такой пасадзе, галава павінна быць міністэрская, а ня конская... Ідзі да хераматкі! Альбо хаця каня завядзі! – настойліва раіў Карповіч.

– Во-во! З канём дык гэта другая справа...Хераматка тая на капыты як гляне, дык адразу й скажа, што з канём рабіць! – падтрымаў Болюсь.

Зразумела, што анікуды Сцяпан з «Беларусам» не хадзіў.

А тут зноўку ўзнікла пытанне наконт кастрацыі панскага Данжуана.

На праўленні калгасу сталі патрабавць ад Сцяпана, каб аддаў ключы ад стайні жарабца, але той усё аднекваўся і адцягваў на апасля, маўляў, можа, яшчэ Беларус ачуняе і ўсё будзе добра...

Можа, усё было б і добра, калі б не прыехала начальства з раёну. Гаварылі, што дайшлі да раёну нездаровыя чуткі пра «вредітельство і сабатаж» мерапрыемстваў савецкай улады ў калгасе імя ««Васямнаццатага верасня». З такой нагоды тэрмінова былі скліканы: праўленне калгасу, сесія сельскага савету дэпутатаў «трудзяшчыхся», партыйны сход, сход камсамольскай арганізацыі, прафсаюзны сход і сход актыву – усё гэта праходзіла ў адным памяшканні і ў адзін час.

На парадку дня стаяла адно пытанне: «Аб шкодніцтве».

Напачатку вусаты старшы аператыўны ўпаўнаважаны з раёну, таварыш маёр, зачытаў дакументы «Об усилении борьбы...» і прывёў шматлікія факты «по раскрытию саботажа, вредительской деятельности и срыву мероприятий советской власти по району». Гаварыў ён спакойна і разважліва. Адчувалася, што за вусатым стаіць вельмі вялікая сіла.

Дарэчы, з прыходам Саветаў, распачалася нейкая незразумелая мода на вусы. Вусы сталі гадаваць усе: ад малога да старога. Калі гэта былі Цэрбер ці Кацалапаў, дык можна было зразумець, але адрошчаваць вусы сталі ўжо і Пуценька са Сцяпанам. А сярод раённага начальства можна было ўбачыць нават вусатых жанчынаў.

Дык вось, вусаты опер, калі гаварыў нешта цікавае, любіў пальцамі падкручваць свае вусы. І на гэты раз ён падкруціў свой вус і даў слова «по лошадінному вопросу прадсядацелю колхоза».

Казакевіч, як старшыня калгасу, далажыў сітуацыю, якая склалася ў калгасе ў сувязі з упартасцю некаторых членаў калгасу наконт кастрацыі панскага жарабца, пры гэтым гаварыць ён стараўся вельмі «граматна» і пераканаўча:

– Дык вось, атрымліваецца, што нашы некаторыя члены праўлення калгасу шкадуюць буржуазна-памешчыцкую прыналежнасць іншых членаў на шкоду сацыялістычнага будаўніцтва, бо гэтыя члены ў той сітуацыі, якая склалася ў дадзены момант абсалютна не патрэбныя калгасу! – даводзіў Казакевіч.

А Пуценька, пасля каротка ўступу, паставіў пытанне такім чынам:

– Палітыку таварыша Сьцяпана супраць кастрацыі трэба разглядаць як палітыку шкодніцтва ў правядзенні вясеннепалавых работаў! Прапаную: асудзіць Сьцяпана і правесьці кастрацыю!

Сітуацыю «па лашадзіннаму вапросу», з пазіцыі партактыву, асвяціў таварыш Кацалапаў:

– Хто мог бы падумаць, што будзе так, а не інакш, – гаварыў Кацалапаў. – Мы маем справу ня проста з нейкім шкодніцтвам і абразаньнем, мы маем справу з траянскім канём – вось у чым небясьпека...

Прапанову Пуценькі падтрымаў і старшыня савету народных дэпутатаў таварыш Кабяк, пры гэтым ён чамусьці сказаў, што быў конік, ды з'езьдзіўся, толькі незразумела было, якога коніка ён меў на ўвазе. А Казакевіч стаў удакладняць: маўляў, конік яшчэ не з'езьдзіўся, яго толькі трэба вылажыць, гэта значыць, кастрыраваць.

Як праўленне калгасу, так і савет народных дэпутатаў і партактыў аднагалосна падтрымалі прапанову Пуценькі. Падтрымалі без іншых прапаноў і пярэчанняў, хіба што толькі з адной агаворкай: замест вясенне-палавых работаў, былі прапанаваны вясенне-палявыя работы.

Сцяпан, калі зразумеў, што хмары збіраюцца не толькі над панскім жарабцом, але і над ім, тут жа даў згоду на лягчэнне Данжуана. Болей таго, Сцяпан загаварыў з нейкім хваляваннем, узнёсла і з рэвалюцыйным запалам:

– А калі наш вялікі сход, праўленьне калгасу, савет народных дэпутатаў і партактыў паставілі пад сумніў каго – яго, Сьцяпана Андраловіча, абвінавачваючы ў шкодніцтве калгасу, дык тады, хай вялікі сход пryме рашэньне і на маю, Сьцяпанаву, кастрацыю! – Сцяпан выцер слязу і выклажыў, прама на стол прызідыума, ключы ад стайні жарабца. – Падзеля роднага калгасу, падзеля партыі Леніна-Сталіна я гатовы на такі ахвярны крок!..

– Добра, мы падумаем над гэтай прапановай, – сур'ёзна заявіў вусаты таварыш, аператыўна-упаўнаважаны. – А зараз, прымем рашэньне аднагалосна пра неабходнасьць правядзеньня кастрацыі... Хто зоймецца гэтай справай?.. Я думаю, што ў гэтай вясёлай справе мы прымем удзел усе– і ён вельмі ўважліва паглядзеў на кожнага прысутнага.

– Як ты, Сьцяпан, глядзіш на гэтую справу? – спытаўся Кацалапаў у Сцяпана.

– Я ўжо сказаў, што па загаду партыі гатовы адрэзаць яйцы ня толькі жарабцу, але й сабе, і Пуценьку, і ўсім, хто толькі пажадае! – праявіў баявую гатоўнасць Сцяпан.

– Каб хер адрэзаць, тут спецыялісты патрэбныя, херург, – заўважыў Пуценька.

– Калі, што, я магу пабыць херургам, – прапанаваў свае паслугі таварыш маёр. – Ніхто не супраць?

Супраць нікога не было. Людзі неяк насцярожана замоўклі і з цікавасцю пазіралі, што будзе далей.

– Ну, вось і добра! Жадаючых, я думаю, будзе няшмат, – вусаты таварыш маёр гаварыў усё гэта вельмі сур'ёзна. – Нам трэба зьняць са Сьцяпана Андраловіча ўсякую падазронасьць у яго шкодніцтве і прыступіць да кастрацыі... Хто за гэта – прашу галасаваць!..

Прагаласавалі аднагалосна.

– Ну, вось і добра! – самазадаволена адзначыў вусаты маёр. – А цяпер прыступаем да кастрацыі. Дайце мне ножык... Пачнём з Пуценькі...

– Таварыш Пуценька, вы як член падыходзьце да херурга! – вельмі сур'ёзна абвясціў працэдуру Цэрбер і дадаў, – Я, калі што, магу патрымаць...

Пуценьку ў гэты момант, як вялікім скразняком, здзьмула з памяшкання. І толькі, калі за ім з бразгатам зачыніліся

дзверы, таварыш маёр стрымана засмяяўся, пакруціў вусы і сказаў:

– Шутка, таварышчы!

Пасля гэтага ўжо сталі смяяцца ўсе, але мацней за ўсіх смяяўся нейкім нервовым смехам Сцяпан.

Неўзабаве быў выкліканы з мястэчка ветэрынар, як казалі, спецыялісты па кастрацыі – херург.

Вылажыць жарабца маглі б і самі мужыкі, але да яго, як да дзікага драпежніка, падыходзіць было небяспечна, і смельчакоў не было. З другога ж боку, кожны разумеў, а раптам што не так: пойдзе крывацёк які, ці нарываць пачне рана і жарабец праз дзень-другі адкіне свае падковы і акалее, тады ж бяды не абярэшся, тады ж, і як шкодніка, і як ворага, і «за порчу гасударсьвеннага імушчаства» застрэліць могуць. Хай ужо лепей хто іншы рызыкуе...

Спецыялісты з мястэчка, невысокага росту, чарнявы, падобны на татарына, уважліва агледзеў жарабца і сказаў:

– Шкода глуміцца над такой пародай, але калі выйсьця няма, будзем аперыраваць... Для гэтага мне патрэбны вяроўкі, дзьве жэрдкі і пяць здаровых мужыкоў, каб зрабіць павал жарабца і трымаць яго ў час экзэкуцыі.

Людзей сабралася нашмат болей, чым пяць мужчынаў. Нават жанчыны некаторыя падышлі – усім было цікава.

– Аперацыя кастрацыя – гэта вялікая справа, – з відам знатака гаварыў спецыялісты, аглядаючы натоўп. – Тут ня проста нешта выразаецца і выкідваецца, як непатрэбнае, тут ліквідуецца асноўны прыродны інстынкт. Прырода, якая ня здольная на размнажэньне, – ня здольная і на творчае жыцьцё: толькі на цяглавую працу. Кастрыраваныя істоты робяцца абмежаванымі ў сваёй актыўнасьці і дзейнасьці, іх болей анічога не цікавіць – толькі корм...

Кастрыраваць вырашылі ў стайні – там было за што прывязаць вяроўкі і ўшчыміць жэрдкі.

Памагатых было болей, чым трэба. Данжуан, калі ўбачыў столькі народу, адчуў небяспеку і стаў кідацца ўбакі, раздзьмухаць храпы, біць капытамі зямлю і ламаць загарадкі...

– Ого, кастрацыя! – працягваў спецыялісты. – Некастрыраваная прырода – гэта ж такая сіла, такая моц: загарадкі ламаюць, ланцугі рвуць і путы, як той пралетарыят, і нічым не стрымаеш, а як вылажыш – адразу ўсё мяняецца...

Урэшце, хлопцам удалося паваліць на бок Данжуана, заціснуць жэрдкамі за шыю, прывязаць ногі да стоек, а

некалькі чалавек для ўпэўненасці ўселіся на жарабца зверху, і таму заставалася толькі люта і з нянавісцю храпці, пырхаць белым шумам.

– Чаму шмат хто з манахаў кастрыраваўся? – працягваў спецыялісты, раскладаючы з невялічкага чамаданчыка свой няхітры інструмент для аперацыі, – А дзе ж ты будзеш маліцца, калі прырода прэ, глушыць усялякую думку пра Бога... А кастрыруецца і робіцца такім ужо паслушнікам, сьвятым робіцца! Ого, кастрацыя!..

– Будзеш маім асістэнтам, – прапанаваў спецыялісты Болюсю Бутку і палез у загарадку. – Будзеш падаваць мне ўсё, што скажу.

Пасля спецыялісты няспешна зрабіў скальпелем надрэз, а пасля Болюсь ледзь паспяваў падаваць то нажніцы, то скальпель, то ёд, то бінты...

– Ого, кастрацыя!.. Так і людзі... У маладосьці мы з такім імпэтам носімся, а пад старасьць, калі ўжо і кастрацыя не патрэбная, толькі бы паесьці што было і каб ніхто не чапаў, – вярнуўся да тэмы спецыялісты. – А чаму? А таму, што адпала галоўнае хаценьне, прыроднае...

– Што, ужо ўсё? – спытаўся Бутка.

– Не, але перакурыць можна, – дазволіў спецыялісты і прадоўжыў. – Ого, кастрацыя!.. Калі б, да прыкладу, Чынгісхана ў свой час кастрыравалі, дык, ты думаеш, ён заваяваў бы палову сьвету?!. Альбо, кастрыраваны, Напалеон палез бы на Расею?!. Ні за што! То-та ж!..

– А калі б, да прыкладу, Леніна чыкнулі... Дык што, і рэвалюцыі не было б? – спытаўся Болюсь Бутка.

– І рэвалюцыі не было б, і не было б гэтых марксызмаў, ленінізмаў, трацкізмаў, сталінізмаў...

– Анічога не было б, калі б усе хадзілі кастрыраванымі, – дапоўніў карціну Карповіч, седзячы на Данжуане, і ўсе рассмяяліся.

Тут спецыялісты раптам замоўк і стаў азірацца навокал.

– Ня ведаю пра Леніна і рэвалюцыю, – прадоўжыў ён трохі іншым тонам, – І я анічога такога не гаварыў, а вось вусатага, Гітлера, калі зараз ня чыкнуць сярпом па яйцах – будзе бяда!

– Да Гітлера далёка, а вось тут шмат каму з сваіх не мяшала б правесьці аперацыю,– задумённа прагаварыў Саўрыновіч. – Можа, хоць трошкі паспакайнела б.

– Ты, глядзі, каб цябе хутчэй не аперыравалі аператыўнікі,– абарваў усякія спадзяванні Саўрыновіча Болюсь Бутка.

– Во-во! – кіўнуў галавой спецыялісты і стаў аглядаць раны Данжуана.

Пасля гэтага ён сказаў памагатым:

– Усё, можаце паціху разьвязваць і выпускаць на волю свайго мерына, – а сам павярнуўся да людзей, якія стаялі воддаль і прадоўжыў тэму. – Ого, кастрацыя! Так бык становіцца валом, баран – волухам. а пародзісты жарабец звычайнай цяглавой конскай сілай… І аніякай агрэсіі, і аніякая самка ня зб'е іх з дарогі сваёй ідэяй, і ўсе робяцца спакойнымі, паслухмянымі, працавітымі і ціхімі, ... Скажаш «но» – ён пойдзе, скажаш «тпр-р» – ён стане... Такія нашмат болей патрэбныя ў гаспадарцы, і калгасу болей карысьці ад іх... Ого, кастрацыя!..

– А поп у мястэчку казаў, што шчасьлівыя ціхія, бо яны атрымаюць у спадчыну зямлю! – заявіла раптам, ні з таго ні з сяго, Выруся, жонка Кастуся Будкевіча. – Ці праўда гэта?

– Ад каго атрымаюць? – не зразумеў спецыялісты.

– Я ня ведаю...дык, а ці атрымаюць? –дапытвалася Выруся і пільна глядзела на свайго мужа, які ў гэты час усё яшчэ сядзеў на шыі Данжуана.

Усе чамусьці таксама паглядзелі на Кастуся, а спецыялісты нават залязгаў нажніцамі перад яго жыватом. Кастусь заёрзаўся на шыі і пад гучны рогат закрычаў на жонку:

– Дахаты ідзі, чаго ты тут круцішся! Я табе дам ціхага! Віж ты, чаго захацела!.. Зямлі ёй мала!..

Мужыкі яшчэ трохі пасмяяліся, развязалі і адпусцілі Данжуана і разышліся хто куды: хто на працу, а хто дахаты.

А яшчэ праз колькі дзён можна было ўбачыць, як аб'язджалі Данжуана у возе па Ракавічах і Мазалях. Люба было глянуць, як ішоў мерын. Пасля можна было ўбачыць Данжуана на калгасным полі на вывазе камянёў і гною. Пасля цягалі на Данжуане дрэва з лесу на будаўніцтва новай канторы... Пасля Болюсь Бутка неяк казаў, што хутка і Данжуан стане звычайным дахадзягам.

Дарэчы, у калгасе засталося не болей двух параў добрых коней, а астатнія альбо паздыхалі, альбо былі такія нядойшлыя, што выкарыстаць іх у працы было немагчыма, як той Беларус, які ўпаў у нейкую незразумелую хваробу на выжыванне. Да таго ж не толькі з аднымі конямі была праблема ў калгаснікаў. Хварэлі і іншыя людскія жывёлы, якія сталі калгаснымі, – аніяк не хацелі прыжывацца да новых гаспадароў: зачыналі худзець, хварэць і дохнуць. І ніхто не ведаў, з якой такой нагоды адбываецца масавы паморак свойскай жывёлы ў калгаснікаў? І зямля тая чамусьці ў камунараў

радзіць не хацела, што можна было ўбачыць на пустых прагалах поля, на якім камунары сеялі жыта. І ніхто не мог даць слушнай парады альбо адказу на пытанне, чаму так не шэнціць ім з гаспадаркай, і асабліва з жывёлагадоўляй?

## 28. Вайдэлак

Неяк аднаго разу прыхварэла карова і ў Антося: не есць, не жвакуе і, як той конь Беларус, толькі сліну пускае з пысы ды рыкае. А добрая карова ў гаспадарцы, што свой маслазавод: тут табе і сыр, і масла, і тварог, і, зразумела, свежае малачко, і вяршочак. Больш за ўсё Антось любіў вяршок, але пры такой сям'і, ён нават і не помніць, калі смятану тую смакаваў апошні раз. Калі ў хаце, як у дзіцячым інтэрнаце, такія ласункі знікаюць бесслядоўна. Ого, карова! У Янука Дайновіча нават верш ёсць пра карову:

*Быў гаспадар – мужык талковы:*
*ня жонку ён глядзеў – карову.*
*Лічыў карову ён асновай,*
*бо не загінеш за каровай.*

*Рагулі хлебца для прыпраўкі,*
*і бочку брагі ў дабаўку.*
*Рагулю й вецер не прадзьме,*
*якой тут быць яшчэ бядзе.*

*Ды толькі нешта адзін раз*
*з Рагуляй раптам кепска стала:*
*ня п'е, ня есьць, мычыць пад час,*
*і малако зусім прапала...*

Усё так, як ў Антося з сваёю Рагуляй. Тут альбо не тую травінку скацінка хапанула, альбо, можа, хто ўрок, можа, нешта недагледзеў і сам Антось, як гаспадар талковы...

Толькі яго «аснова», як у вершы, перастала даваць малако, а калі нейкі літар нацэдзіць Ганька ў дайніцу, дык не ведаеш, што з гэтым малаком рабіць: былі такія выпадкі, калі людзі-вяскоўцы ўжывалі такое малако, а пасля хварэлі разам з той каровай. Не было сэнсу і рэзаць яе, бо ялавічына магла бы быць такой жа заразнай, як і малако. Трэба было неяк лячыць, але дзе? Кароўскі лекар, што зараз быў у мястэчку, камунарскіх кароў не вылечыў, – стане ён лячыць яго карову... Трэба ехаць да знахара, але да якога? Ганька ўсе вушы прагудзела, маўляў, да Далмана трэба, да Далмана... Ганька, да-

рэчы, і сама спрабавала лячыць карову, але гэта, відаць, быў не той выпадак. Яна, хоць медычных акадэміяў не заканчвала, але дзяцей заўсёды падымала з прастуды рознымі зёлкамі. Ганька, відаць, ведала толк у Далмане, толькі вось – далёка той Далман, пакуль дацягнешся з каровай да таго Лебедзева разбітай каляёй і назад, дык і ноч агорне. Ды і ехаць блізкі свет цяперашнім часам – вялікая рызыка. Можаш назад і без каровы, і без каня прыехаць, а можаш нават і сам не вярнуцца. Відаць, да Чубіка трэба ехаць… Толькі, дзе гэты Чубік зараз – таксама невядома. Добра, калі ў Лоску, але чуў нешта Антось, што хаваўся ён ад Саветаў у брата свайго ў Лаўскім Бродзе. Але нават калі і ў Лаўскі Брод трэба будзе заехаць, дык гэта нашмат бліжэй, чым да Лебедзева.

Ганька была супраць Чубіка, маўляў, чараўнік, не трэба з ім звязвацца, але, што яго чары для скацінкі, – гэта ж не чалавек, дый горш ужо скацінцы не зробіш. Тут ужо нельга было не згадзіцца з самім Чубікам, які заўсёды гаварыў: «Калі ўжо надта прыпірае, тады ўсе едуць да Чубіка». Тут, відаць, выбару няма.

Антось, пасля такіх разваг, назаўтра зранку накінуў карове на рогі валавод, прывязаў яе да воза і пакіраваў свайго коніка на Мазалі, у Лоска, да Чубіка, балазе было недалёка – вёрст дзесяць.

Мазалі – цікавае месца: хутарская сістэма, раскінутыя хаты на пагорках, з невялікімі зямельнымі надзеламі. Зямля тут неўрадлівая – каменні і пясок – людзі бедныя. Такая зямля мала цікавіла новую ўладу, да таго ж добрая палова камунараў і калгаснікаў якраз і складалася з гэтых бедных людзей з Мазалёў – людзі хацелі верыць новай уладзе і стараліся заслужыць яе давер сваімі мазалямі.

І трэба ж было так: у саміх Мазалях лоб у лоб сутыкнуўся Антось з прадстаўнікамі новай улады. Ехалі яны ў возе ўчатырох: галоўныя арганізатары калгасу Казакевіч і Сцяпан, Калістрат з Ручаёў і новая асоба ва ўпраўленні – землеўпарадчык. Апошні трымаў на каленях «казлы» (землямер), відаць, зямлю дзялілі ў Мазалях.

А дарога тут была адна, і калі ехаў хто ў бок Лоска з каровай, дык адразу было зразумелым, што не да касцёлу чалавек едзе.

І меў тады Антось з прадстаўнікамі ўлады не зусім прыемную гутарку.

– Тпру-у-у! – затрымаў Сцяпан каня. – Не кірмашны дзень, Антось, не кірмашны…

– А што зробіш…

– Не туды Раба, Антось, не туды! – Сцяпан, відаць, зразумеў, у чым справа.

Антось змаўчаў, а што было гаварыць.

– Што за прымхі, Антось?! Што за забабоны?! Ты ж дарослы чалавек, а не баба якая! – абураўся Сцяпан. – У камуну нашу, у калгас, ты сваю Рабу не прывёў і сам не прыйшоў, ня верыш, значыць, мне ня верыш, Сталіну ня верыш?! Сталінскай канстытуцыі ня верыш!!!

– Дык жа канстытуцыяй, нават сталінскай, карову ня вылечыш, – слаба апраўдваўся Антось, але Сцяпан яго не слухаў:

– А ты да Вайдэлка гэтага, да цемрашала Рабу цягнеш, яму верыш, ён для цябе большы аўтарытэт! – даваўся Сцяпан. – Вайдэлка твайго ня сёньня, заўтра арыштуюць і застрэляць, бо колькі можна людзей баламуціць... І зараз да яго толькі такія дурні, як ты, і езьдзяць...

– Каб жа зусім не дапамагаў, дык ня езьдзілі б, – слаба ўпіраўся Антось. – А так, што рабіць, чакаць, пакуль здохне скацінка, як у вашым калгасе дохне?.. Хоць нейкі шанцунак, можа...

– Калі гэта – яшчур, дык Рабе тваёй аніякі Чубік не дапаможа, – умяшаўся ў гутарку Казакевіч.

– А калі – не?.. Скацінка, як і чалавек, пакуль жыве – спадзяецца...

– Спадзяецца... Ну, цемната! – Сцяпан і ўсе астатнія засмяяліся. – Ну, з'ездзі, калі так хочаш... Але давай дамовімся так, калі ачуняе карова – прывядзеш яе ў наш калгасны статак! – прапанаваў раптам Сцяпан.

– Каб у вашым статку здохла?!

– Антось, ну што ты за чалавек, як ты не разумееш, што ўсе там будзем рана ці позна!

– Усе будзем у адным статку здыхаць з каровамі? – неяк само вырвалася ў Антося!

– Цьфу ты! – Сцяпан махнуў рукой.

– Здохнуць ты можаш і зараз, – умяшаўся ў гутарку Каліўстрат.

Сцяпан строга палядзеў на Калістрата і звярнуўся зноў да Антося:

– А карову, калі ты сам не прывядзеш, дык мы ж можам забраць яе самі...

– А малако маім дзецям будзе твая Камуналка, прабач, Сьцяпаніха даваць?..

– Ну ты, Антось, дагаворышся некалі...

Астатнія камунары толькі зрэдку пасмейваліся, зразумела, што над Антосем, і ківалі галавой у знак згоды са Сцяпанам.

– З табой гаварыць, Антось, што ваду таўчы ў ступе. – Сцяпан трохі прызадумаўся. – А ведаеш што, падзеля сьмеху, даведайся ў Чубіка наконт падзеньня калгаснай жывёлы, – не то жартам, не то сур'ёзна прагаварыў Сцяпан. – Цікава, што гэты шарлатан скажа?

Астатнія жыва заківала галовамі.

– Ну, чаму, спытацца можна, – няўпэўнена адказаў Антось. А толькі, ці стане ён слухаць?..

– Ты запытайся, грунт дзела...

– Ну, пастараюся...

На гэтым яны раз'ехаліся: кожны – у свой бок.

Антосю, пасля такой гутаркі, расхацелася весці Рабу да Чубіка, бо, можа, яно і лепей было, каб яна здохла. Будзе гэтая карова, як бяльмо на воку, – насядуць актывісты і не злезуць да таго часу, пакуль не адбяруць скацінку. Ці не лепей вярнуцца дахаты і зарэзаць карову?.. А пасля што? Як быць пасля без малака?... Дый што ўжо зварочваць, калі выехаў...

І Антось тузануў лейцы, падганяючы каня наперад.

Антось не надта любіў ездзіць да Чубіка, але, калі б хто спытаўся, чаму, дык наўрад ці адказаў бы што колечы вартае. Чубік палохаў яго сваёй гутаркай, паводзінамі, нават рухі яго былі нейкія нязграбныя, а позірк увогуле нечалавечы. Ён быў поўнай супрацьлегласцю святарам: наколькі другія святары, не кожны, праўда, але бальшыня з іх, былі натурамі далікатнымі, чулымі, тонкімі, адукаванымі, нагэтулькі Чубік быў рэзкім, грубым і часам нават жорсткім. Але, што трэба было аддаць вартае Чубіку, дык ён, здавалася, быў бясхітрасным чалавекам і мог сказаць свайму субяседніку ўсё, што пра яго думаў, нават, калі апошняму гэта было не да спадобы.

Чубік быў вядомай асобай, меў рацыю, калі гаварыў, што яго паважаюць болей, чым савецкую ўладу. Праўда, гэтак жа, відаць, і баяліся што яго, што тую ўладу. Нездарма сакратар суседняга сельсавету Міхалка арыентаваўся на аўтарытэт Чубіка. Пра Чубіка і яго чараўніцтва расказвалі вельмі шмат рознага. Разабрацца тут, дзе праўда, а дзе людская выдумка, было немагчыма. Чубік рознымі замовамі, зёлкамі, вадой, попелам, соллю і чорт ведама чым яшчэ лячыў людзей і жывёлу, мог прадказаць лёс і будучыню, папярэдзіць некага ад бяды, зрабіць слушную заўвагу, даць параду і гэтак далей. Чубік, здавалася, усё ведаў: дзе што творыцца, робіцца, адбываецца. Але

далёка не кожнаму ён мог прапанаваць свае паслугі, не кожнага ён мог вылечыць, не кожнаму дапамагчы. Бывала, прыедзе чалавек здалёку з сваёй бядой, а Чубік перад самым носам зачыніць дзверы. І колькі ўжо не драгай клямкай – дзверы не адчыняцца. А іншым разам выйдзе Чубік да прыезджага і так яго затурыць, што бедалага абавязкова зблудзіць, пакуль дарогу дахаты знойдзе. Альбо, бывае, выйдзе на ганак і, не падыходзячы да воза і не вітаючыся з прыезджым, пракрычыць:

– Едзь хутчэй да хаты, абармот, яшчэ можа паспееш, толькі зрабі так, як я табе скажу… і паздаравее твая худобіна.

– Дый я не наконт худобіны… жонка ў мяне…

– А я пра што! – і Чубік пачынаў злавацца. – Едзь дахаты хутчэй, цюпала!..

З нейкім недаверам і грэбнасцю ён адносіўся да жанчынаў. Ужо лепш было ім не ехаць да яго. Бывала, прыедзе другая і рот не паспее адкрыць, а Чубік адразу:

– Чаго прыпёрлася, баба дурная!?

У яго разумных бабаў не было ўвогуле. І ён ніколі не чакаў адказу, бо ўжо ведаў, якая такая-сякая нагода прыгнала кабету да яго:

– У касьцёле, нябось, аж пад ксяндза лезеш, так молішся, так молішся, а як болька на срацы выскачыла, дык да Чубіка прэш… Вось ксёндз твой хай і лечыць тваю больку! – і завернецца і пойдзе. Адны тлумачылі гэта тым, што, маўляў, Чубік не хоча дапамагаць такім хворым, якія анічога яму не прывозяць у якасці аплаты за лячэнне альбо прывозяць нешта непатрэбнае. І шмат было такіх выпадкаў, калі Чубік возьме дый выкажа:

– І што ты мне падсоўваеш яйкі тухлыя! – для пераканання возьме першае трапіўшае пад рукі яйко і разаб'е, і яно абавязкова будзе тухлым. – Нябось, дванаццаць яечкаў, якія сёньня твой боўдзіла сабраў зранку, для папа прыхавала, га? А што, калі я твайму боўдзілу раскажу пра паповыя заляцаньні, га? Тады што?…

І бедная жанчына чырванела, рукамі махала і, як мага хутчэй, уцякала ад Чубіка і болей ўжо не прыязджала.

Другія даводзілі, што ёсць нейкія іншыя меркі, вядомыя толькі аднаму Чубіку, паводле якіх ён лечыць альбо не лечыць людзей.

Пра яго хадзілі розныя чуткі, адны казалі, што ў яго ёсць нейкая тоўстая кніжка ў чорнай вокладцы, у якой усё напісана і пра ўсіх напісана, і з якой ён вычытвае ўсе рэцэп-

ты. Другія сцвярджалі, што ён вядзьмак, чарадзей, і людзі расказвалі цікавы выпадак пра сустрэчу двух такіх чарадзеяў. Аднойчы Марцінкевіч, з Мікулеўшчыны, араў поле, чамусьці апаясаўшыся нежывой гадзюкай паверх світкі, і раз-пораз паглядваў на дарогу, быццам чакаў некага. Калі на дарозе з'явіўся Чубік, Марцінкевіч вельмі гучна зарагатаў. «Га-га-га!» – пранеслася над полем і адгукнулася рэхам ў лесе. Чубік спыніўся і спакойна паглядаў на Марцінкевіча, як той падыходзіў усё бліжэй і бліжэй. І раптам Марцінкевіч закруціўся на месцы, зрываючы з сябе гадзюку, але тая ўсё мацней і болей сціскала яго ў поясе, а пасля нейкая сіла кінула яго на зямлю, і Марцінкевіч закрычаў: «Усё-усё-усё!.. Адпусці... Ты мацнейшы!»

Яшчэ людзі гаварылі пра Чубіка, што быццам на гарышчы яго дома жыве самы што не ёсць звычайны чорны чорт, які яго і інфармуе з той ці іншай нагоды... Іншыя даводзілі, – што ён сам і ёсць той самы пераапрануты чорт.

Халера яго ведае, як там было на самай справе, а розныя гэтыя чуткі, можа, тыя бабы з болькамі і распускалі.

Няпроста было трапіць да Чубіка і лячыцца ў яго. Каб дарма не ездзіць, лепей было ехаць праз знаёмых, альбо з чыёй парады. Маўляў, так і так, параіў да вас звярнуцца такі і такі паважаны чалавек... Вось ён і гасцінцы перадаў... Хоць і крывіўся іншым разам Чубік на гасцінцы, відаць, што не кожны прыезджы быў ад таго паважанага, але ці гасцінцы, ці паважаны, ці нешта іншае, вядомае толькі Чубіку, рабілі сваю справу, і тады Чубік стараўся дапамагчы.

На ўсё жыццё запомніўся Антосю выпадак, калі ён упершыню звярнуўся да Чубіка. Нагодай для гэтага быў недарэчны выпадак з Ганькай. Так, аднойчы Антось з Ганькай ехалі возам з мястэчка, а тут раптам ім насустрач нейкі незнаёмы чарнявы чалавек з нейкай жанчынай – таксама на возе і ў парцы коней. Як толькі вазы зраўняліся, той весела прагаварыў:

– Чалавек, давай мяняцца кабетамі!

– Пацалуй у ср..! – толькі і адказаў Антось.

– Глядзі, чалавек, каб сам не цалаваў! – пракрычаў чарнявы і імгненна знік у краявідах.

А як прыехалі дахаты, Ганьцы раптоўна зрабілася нядобра: разбалелася галава, цягнула на ваніты, кідала ў гарачку. Наступнага дня Ганька ўвогуле не падымалася з ложка, а на трэці дзень счарнела і пачала рыхтавацца да смерці: слабым голасам казала Антосю і дзецям, як і што рабіць з яе паховінамі і як ім жыць далей. Што толькі тады не рабіў Антось: і малако кіпяціў з мёдам, і

зёлкі нейкія парыў, і тэрпатынай націраў – анічога не дапамагала. Болей таго, ён конна злётаў да Далмана, той даў нейкіх лекаў, але і яны былі, не раўнуючы, што мёртваму прыпаркі.

Вось тады Антось, упершыню, кінуўся да Чубіка. Расказаў яму ўсё, як было.

Чубік маўчаў.

– Што, вашамосьць, можна зрабіць, парадзіць? – нясмела спытаўся Антось.

Чубік маўчаў і думаў пра нешта сваё.

– Вашамосьць? – зноў нясмела звярнуўся Антось. – Што можна...

– Як ты сказаў? – ажывіўся Чубік і пальцам адтапырыў вуха.

– Вашамосьць... А што?.. – насцярожыўся Антось і засумняваўся сам ў «вашамосьці». Прызнацца, дык ён і не думаў пра тое, як будзе звяртацца да Чубіка, не гэтым была галава забітая, але ж і не хацелася пры сустрэчы з Чубікам здацца такім некультурным мужыком.

– Як? – Чубік стаяў з адтапыраным вухам.

– Вашамосьць...

Чубік скрывіўся.

– Васпане! – паправіўся Антось.

Але Чубік скрывіўся яшчэ болей.

– Можа, ваша благародзьдзе? – нясмела гадаў Антось.

– Сьвінні ў агародзе! – гаркнуў Чубік і зарагатаў.

Антось не адразу зразумеў, пра якіх свіней гаварыў Чубік, і пакуль ён рагатаў, Антось яшчэ падумаў, што трэба было сказаць проста «дзядзька» і усё. Праўда, назваць яго дзядзькам – язык не паварочваўся. Чубік, калі і быў старэйшы за Антося, дык, можа, на гадоў якіх дзесяць, не больш. Ва ўсякім разе, выглядаў ён прыкладна так.

– Абзывай мяне альбо дражні, як хочаш, а сама лепш, проста: Чубік. Зразумеў? Чубік і ўсё! – на дапамогу ў такой сітуацыі прыйшоў сам Чубік.

– А вы, Чубік...

– І ня выкай мне! Я тут табе ня бацюшка які і не чыноўнік царскі!

– Але ж, пэўна, пан спадар мае прозьвішча, імя і імя па бацюшку? – нясмела ўсумніўся Антось у прапанове Чубіка.

– А па матушцы ты яшчэ ня хочаш, га? Ня хочаш, каб я цябе па матушцы сустрэў і адправіў, га?

«Дрэнь справы, – падумаў тады яшчэ Антось. – Чаго добрага, возьме й скажа: ...Маць тваю, едзь дахаты, дурань! І адправіць ні з чым. Зь іншымі былі ўжо такія выпадкі».

– Дык жа па матушцы – гэта ж будзе ўжо не па-нашаму, не па- тутэйшаму... Па-маскальску будзе, – асмеліўся запярэчыць Антось, нягледзячы ані на што.

Чубік зноў зарагатаў.

Антось тады яшчэ адзначыў сам сабе, што гэта добры знак, калі чалавек смяецца. А калі смяецца такі чалавек, як Чубік, дык гэта, трэба думаць, што пашэнціла.

Антосю тады пашэнціла. Чубік яшчэ раз перапытаў у яго пра таго сустрэчнага чарнявага, і, здавалася, ён ім зацікавіўся болей, чым Ганькай і яе хваробай.

– Неданосак! – ціха гаварыў Чубік, відаць, сам сабе. – Зрабіць дык здолеў, а адрабляць хто будзе?!. Чубік?..

Чубік тады даў Антосю звычайную бутэльку з вадой, сказаў, каб вадой гэтай хворая апырскала сваё цела і твар, а заўтра каб ён прывёз Ганьку да яго. Усё было зроблена, як сказаў Чубік. Назаўтра Чубік прама на возе агледзеў Ганьку і абурыўся на Антося:

– Чаму адразу ня ёхаў, на што спадзяваўся, хваробу толькі ўдражнілі сваімі зёлкамі!

– Дык жа...

– Што твой Далман, не па яго гэта часьці!

Антось тады здзівіўся: адкуль ён ведае пра Далмана – ані Ганька, ані ён пра гэта не гаварылі.

Пасля Чубік хадзіў нечага ў хату, пасля нешта шаптаў над Ганькай, вадзіў рукамі, мазаў нейкімі зёлкамі скроні, абліваў вадой, пасля сказаў Антосю прывезці другі раз Ганьку праз дзень да яго ў Лоска. А на трэці раз Чубік прыехаў сам. Тады Антось якраз збіраўся ў полі бульбу ганяць – прыйшлося адкласці. І сустрэў ён тады Чубіка на падворку, і, пасля кароткіх вітанняў, Чубік папрасіў Антося ў хату не заходзіць, маўляў, каб не мяшаў яму, – што вельмі здзівіла Антося, і нават насцярожыла. Яшчэ болей Антось быў здзіўленым, калі праз нейкіх хвілін пяць Чубік выйшаў з хаты, а за ім выйшла Ганька: і жаднага следу хваробы на ёй як і не было.

«Ну вось, і дзякуй Богу, ачуняла», – падумаў тады Антось. Пасля ўжо разам з Ганькай яны ўручылі Чубіку «гасцінец у дарогу»: літровы слоік мёду, кавалак сланіны і дзве каўбасы.

– Яшчэ раз дзякую! – сказала Ганька і шпарка пайшла ў хату.

Антось праводзіў Чубіка да варотаў.

– Ну, калі што – ведаеш, дзе жыву, – прагаварыў Чубік.

– Ну, калі што, ведама...

І, ужо седзячы ў сваім вазку, Чубік раптам кінуў:

– У цябе дзіцё памрэ ў гэтым годзе...

– Як памрэ? – не зразумеў Антось.

– Ад няшчаснага выпадку, – і лупцануў каня пугай. – Но, пайшоў!

Антось тады на момант здранцвеў, а калі стаў адходзіць, хацелася кінуцца наўздагон Чубіку і запытацца, якое дзіцё – у яго іх дванаццаць. Але вазок з Чубікам выязджаў ужо на гасцінец і там неўзабаве весела забарабаніў брукам. І толькі тут Антось быццам бы ўпершыню заўважыў, што ў яго пад рукамі ўвесь гэты час круціўся і круціцца Вацік. Малы нешта пытаўся ў бацькі, але Антось яго не чуў. У Антося гучалі ў вушах, адбіваліся рэхам недзе ў сэрцы, душы, вантробах словы Чубіка, і быццам бы застыў прад вачамі момант: Чубік глядзіць на Вацікa і гаворыць пра дзіцё, якое памрэ.

Антось тады яшчэ нейкі момант пахадзіў з Вацікам па садку, думаючы над тым, што рабіць, і калі, збольшага, супакоіўся, зайшоў у хату і расказаў пра прароцтвы Чубіка Ганьцы. Ганька, рэч вядомая, залямантавала і загаласіла. Антось ужо і не рады быў таму, што расказаў Ганьцы. Можа, і лепей было б, каб яна нічога не ведала: памрэ дык памрэ... Але рабіць яму, Антосю, усёроўна зараз, сёння, заўтра нешта трэба абавязкова, толькі што?.. Развязка прыйшла сама сабой, больш дакладней, яе падказаў сам Вацік:

«Я хачу на печ», – папрасіўся ён, і Ганька з ім палезла на печ. У наступную хвіліну Антось ужо быў у паветцы і выбіраў больш менш добрыя дошкі, і неўзабаве печ аказалася адгароджанай разам з Вацікам. «Год будзеш сядзець тут, – тлумачыў Антось Вацiку, – калі жыць хочаш... Хіба што землятрус які...». У той год Вацiку трэба было ісці ў школку, якая школка... Часам Вацік на той печы крычаў і галасіў – так хацелася малому палётаць у садзе, на вуліцы, пакоўзацца на санках, пагуляць з дзяцьмі, але Антось быў непахісным у сваім рашэнні. Амаль што цэлую зіму малы прасядзеў на печы. На двор Антось малога не выпускаў. Так і прайшоў год.

У той дзень, калі трэба было злазіць, сам Антось здымаў Вацікa з печы. Колькі радасці, колькі эмоцый было ў малога. Здымаў Антось асцярожна, і зняў, і паставіў на падлогу, і Вацік зрабіў нават крок наперад, і тут раптам, ні з таго ні з сяго, як быццам нехта з неймавернай сілай штурхануў малога, і Вацік паляцеў старчма і ўдарыўся віском аб вугал печы... Цяжка было гадаць, з якой такой нагоды не ўтрымаўся малы на нагах: ці галава закруцілася, ці ногі аслаблі, але ўдар быў для дзіцяці смяротным – прароцтвы Чубіка здзейсніліся.

А калі Ваціка пахавалі, Ганька расказала яшчэ адну неймаверную гісторыю. Тады, як прыязджаў Чубік, калі яна хварэла, ёй ці не здалося, ці прыснілася, – бо ўсё было, як у нейкім тумане, – адно здарэнне, якое зараз не выходзіць ў яе з галавы. Тады, калі Антось выйшаў з хаты, Чубік ў яе запытаўся:

– Чуў я, сама прыктыкуешся, людзей лечыш...

– Ат, якое там лячэньне, – слабым голам адказала Ганька.

– Ну, чаму? Ангельку, гішпанку, халярынку, падучку лечыш...

– Так і лячу, што малітвамі, што зёлкамі... юдрыцай, да прыкладу... Ад бабунькі гэта ўсё…

– А хочаш – навучу: будзеш дапамагаць людзям так, як я?!

– Дапамагаць? Чаму ж не!..

– Тады слухай і рабі так, як я скажу: адкрый рот!..

– Я хачу ведаць: навошта?

– Я запушчу ў нутро, такую маленькую істоту...

– Якую істоту?

– Маленькую, яна ўскочыць туды і там схаваецца.

– Дзе схаваецца?

– Там, у сярэдзіне... Яна там знойдзе месца…

– Ці ня чорт гэта?..

– Разяў рот, ты ж ня ведаеш, ад чаго адмаўляешся!..

– Не хачу!.. Душу прадаць! – катэгарычна заявіла Ганька.

– Дык жа можаш і не ачуняць, баба дурная...

– Хай лепш памру, але душа застанецца чыстай...

– Ну, глядзі сама... Дзяцей у цябе шмат... Пасьля каб не шкадавала і не раскайвалася...

– Як Бог дасьць, – і Ганька стала гаварыць пацеры.

– Ну-ну! – толькі і сказаў тады Чубік і выйшаў з хаты.

Тады і яна паднялася з ложка, адчула нейкую лёгкасць і, як ні ў чым не бывала, выйшла на двор услед за Чубікам.

Але з таго часу Ганьку ніколі не пакідаў сумнеў у тым, ці было гэта на самай справе, ці гэта быў толькі нейкі дзіўны сон. І Чубік, можа, анічога ёй такога і не прапаноўваў на самай справе.

Але вось гэты выпадак з Ваціка́м? Ёсць тут нейкая сувязь з Чубікам, ці не? Ці гэта якраз той няшчасны выпадак, ад якога Чубік проста хацеў папярэдзіць, ці гэта яго помста?..

Антосю тады было над чым падумаць.

І варта, можа, было б спытацца ў Чубіка наконт Ваціка і Ганькі калі пры нагодзе, але нагоды, як такой, не выпадала. А яно, можа, і лепей, што так атрымлівалася. Бо нагоды гэтыя былі невясёлыя, як нейкае насланнё.

Ажно неяк у Гародзьках, на кірмашы, сустрэў Антось Чубіка. Чубік асаблівай ветлівасці да людзей не праяўляў і тут ён здалёку кіўнуў галавой Антосю і пайшоў гандлёвымі радамі. Антось дагнаў Чубіка.

– Чаго хацеў? – спытаўся Чубік.

– А не дае мне супакою адно пытаньне, – і выклаў Антось свае сумненні наконт смерці сына.

– А што ты хочаш ад мяне? Пры паганстве адно дзіцё з трох спецыяльна ахвяравалі Богу! – сказаў, як адрэзаў, Чубік.

– Навошта?

– Каб астатнім двум бог шэньціў!

– Дык то ж пры паганстве...

– А Авель таксама адзін з трох сыноў стаў ахвярай...

– Дык гэта ж Авель...

– А Аўрам біблейскі – адзінага сына не пашкадаваў? А Ёва ўвогуле адзін застаўся на кучы гною... дагніваць.

– Чубік! Але пры чым тут я!? – Антось ледзь не крычаў.

– Ты? А ў цябе ажно дванаццаць...

І пайшоў Чубік, шыбка пайшоў. Антось не стаў тады яго даганяць. Трохі супакоіўся і, падумаўшы, прыйшоў да высновы, што і тут Чубік недзе меў рацыю. А калі так глянуць, дык жа ў іх, у вёсцы, амаль што ў кожнай хаце пабывала падобная бяда: як паміралі дзеці раней, так паміраюць і зараз, а колькі загінула, падарвалася на нямецкіх і рускіх снарадах у гады вайны і пасля... Так, шкода, але тут анічога не зробіш... Пра жывых трэба болей думаць...

Але лягчэй ад гэтага не рабілася.

А праз некаторы час Антосю і Ганьцы прыйшлося перажыць яшчэ адно гора: нарадзілася дзяўчынка і праз два гадзікі памерла. Тады склалася такое ўражанне, што ісці да Чубіка не было аніякай патрэбы. Вазілі да нейкай шаптухі ў мястэчка...

А, можа, варта было і тады падысці да Чубіка?..

* * *

Добра, калі Чубік сёння будзе дома і пойдзе Антосю насустрач. І, калі будзе ў добрым настроі і разгаворыцца, тады можна будзе спытацца ў яго і наконт калгаснай жывёлы, і наконт Ганькі і увогуле наконт усяго таго, што зараз робіцца ў свеце. Асвядомленасць Чубіка іншым разам проста дзівіла. Здавалася, што Чубік ведаў усё: усё, што было, што ёсць і што будзе. Праўда, не заўсёды можна было разгаварыцца з ім, але, калі разгаворышся, дык ужо і наслухаешся. Але, галоўнае, каб ён

быў дома. Тое, што Чубік хаваецца ад савецкай улады – гэта зразумелая рэч. Не любіць новая ўлада такіх чубікаў, праўда, а каго яна любіць? Не любіць яна, відаць, і Антося, і кожнага больш-менш прыстойнага гаспадара. Але калі ад гаспадара савецкая ўлада мела нажытак, дык ад Чубіка – анічога, апрача непатрэбных клопатаў ад яго непаслухмянасці, вальнадумства і чараўніцтва.

Неяк Пуценька з опер-чыкістам Цэрберм, будучы на добрым падпітку, надумалі забіць Чубіка, «заваліць шамана», як яны казалі. Ідэя належала Пуценьку. На гэтай аперацыі, як казаў Пуценька, можна было зарабіць славу, павагу і аўтарытэт у вачах актыву Камуністычнай партыі бальшавікоў. І Мокша не аднойчы даваў парады, маўляў, «табе трэба зрабіць нейкую гучную справу, каб тваё імя прагучала, каб да Мінску дайшло, да Масквы, да Сталіна…» А тут, чым не гучная справа! Каго? Самога Чубіка завалілі! Чубіка, якога ведае добрая палова свету. Ого! І хто заваліў – Пуценька! Вось, што значыць Пуценька плюс савецкая улада!..

Праўда, была ў Пуценькі і асабістая крыўда на Чубіка, толькі вось не было нагоды нагадаць яму пра гэта. Неяк аднойчы, пару гадоў таму назад, вяртаючыся з кірмашу (Марта хацела курыцу-квактуху купіць), тая ж Марта ўгаварыла Пуценьку заехацца да Чубіка, маўляў, Пуценька, апошнім часам, нешта ўлёг у гарэлку, у гаспадарцы толку аніякага, і як мужчына стаў нікудышнім… А калі так будзе і надалей, дык яна выганіць яго з хаты, бо навошта ёй такі недарэка. Пуценька нешта прабубніў ёй у адказ, але гэта не мяняла намеру Марты. Марта сама тузанула ляйчыну куды трэба і неўзабаве яны апынуліся каля плоту, за якім стаяў сам Чубік.

– Здароў, Чубік! – прывіталася Марта. – Чалавеку майму клёкі заходзяць…Відаць, злыя людзі ўраклі… Можа, глянеш?..

– Ну, калі клёкі, глянуць можна…

Пуценька тады сядзеў на возе і чуў усю гэтую гаворку. Прынамсі, яго мала цікавіла, што пра яго гаварыла Марта і што будзе гаварыць пра яго Чубік. Пуценька трохі ведаў рэцэптуру Чубіка: дасць нейкай вадкасці Марце і тая будзе падліваць гэтую гадасць у страву альбо гарэлку, каб збрыдзіў гарэлку. Але Чубік анічога такога не казаў Марце і аніякага бурдылёчка з гадасцямі ёй не прапаноўваў. Чубік сам падышоў да воза, уважліва паглядзеў на Пуценьку і ўсклікнуў:

– О! Пуценька!

– Ну, я… ну, дык што? – ніякавата заёрзаўся Пуценька на возе.

– Віжу, віжу... Галава з заскокамі! – абвясціў раптам ні з таго ні з сяго Чубік.

Вось за гэтыя «заскокі» Пуценька тады моцна пакрыўдзіўся на Чубіка.

– З заскокамі, з заскокамі! – пацвердзіла Марта, хоць у яе ніхто не пытаўся.

– Пастукай сабе па галаве, – раптам прапанаваў Чубік Пуценьку.

– Як?

– Кулаком зьлёгку пастукай...

– Можа, ад стуку заскокі з галавы выскачаць? – з надзеяй спыталася Марта.

– Не. Каб заскокі выскачылі, трэба добра стукнуць па галаве, даўбешкай трэба пастукаць, – абарваў усе яе спадзяванні Чубік.

– Ёсьць недзе ў хаце даўбешка, – успомніла Марта.

Вось гэтую даўбешку Пуценька таксама ніколі не даруе Чубіку. Колькі пасля ён меў болю і страху ад гэтай даўбешкі.

– Ну, пастукаў... ну й што? – з нейкай іроніяй і выклікам Пуценька глянуў на Чубіка.

– Яшчэ раз пастукай! – наказаў Чубік.

Пуценька пастукаў яшчэ раз.

– Чуеш? – Чубік прыклаў далонь да вуха.

– Што?

– Чуеш, які бо-о-ом пайшоў вёскай...

Пуценька, а з ім і Марта ўважліва прыслухаліся.

– Во, бом, як ад бочкі пустой, – Чубік гаварыў усё гэта сур'ёзна, але нягледзячы на тую сур'ёзнасць, балюча рэзанулі Пуценьку тыя словы Чубіка.

– Ты што, зьдзекваешся? – з непрыхаванай злосцю паглядзеў Пуценька на Чубіка.

– Якое ж, зьдзекваешся? – яшчэ больш сур'ёзна адказаў Чубік. – Галава малая, з заскокамі, пустая, а ты гаворыш «клёкі заходзяць»... Якія клёкі?

Марта не ведала, што ёй рабіць: ці смяяцца, ці захоўваць сур'ёзнасць разам з Чубікам, ці абурацца разам з Пуценькам, бо гэта ж, і сапраўды, не лячэнне, а здзекі нейкія.

– Дык ты, Чубік, чалавеку майму будзеш мазгі правіць, ці будзеш бомы слухаць? – спыталася яна.

– Каб мазгі лячыць, трэба іх мець...

– У скацінкі і той мазгі нейкія ёсьць, а тут – чалавек! – заявіла Марта.

– Такія мазгі, як у скацінкі, ёсьць і ў тваго Пуценькі, але яны не паддаюцца лячэньню... Гэта ўжо надоўга, калі не назаўсёды...

– Дык мне, што, так і жыць усё жыцьцё з прыдуркам? – Марта насцярожылася.

– А тут, як хочаш – можаш жыць, а можаш і ня жыць...

Марта нейкую хвіліну пастаяла і абурана загаварыла:

– І гэта ўсё, што ты, Чубік, мне хочаш сказаць?... Але й сапраўды зьдзек нейкі. Ня трэба сьмяяцца над хворым чалавекам, – распачала яна звычайны пры такой сітуацыі бабскі лямант. – А я ж, дурная, думала, што Чубік – гэта ўсё, а Чубік, – казалі ж мне бабы крэўскія, – гаўно! – скончыла яна і спрытна палезла на воз:

– На самай справе, праўду казалі! – вяршыла яна з возу.

– Гаўно, гаўно! – гучна пацвердзіў і Пуценька, так, каб чуў Чубік.

І на гэтым іх вазок пакаціўся прэч.

Чубік, вядома, усё чуў і толькі рагатаў ім услед.

А пасля, што было з Пуценькам, ведае хіба што толькі Антось. Ці не тады, пад вечар, зайшоў Пуценька на падворак нешта сказаць, але не паспеў, толькі бокам, бокам хуценька кінуўся да ўборнай – сваёй уборнай у Пуценькі ж не было, а да гумна, відаць, Пуценька не пасьпяваў дацягнуць. А праз нейкую хвіліну там трэснула дошка, пачулася абураная лаянка і неўзабаве вылез адтуль Пуценька, амаль што да пояса запэцканы ў нечыстотах. Тады, праўда, Антось не ведаў, у чым справа.

Выпадак адпомсціць Чубіку ў Пуценькі падвярнуўся сам сабой.

Неяк яны сядзелі ўдвух, Пуценька з Цэрберм, і пілі брагу ў хаце ў Пуценькі. Брага не ішла, і яны яе амаль што сіламоц залівалі ў горла, а пасля гучна чмыхалі і смаркаліся. Гутарка таксама не клеілася, толькі чэкіст Цэрбер чамусьці звярнуў увагу на даўбешку і запытаўся:

– А чё эта за дубінка такая?

– Ат, – адмахнуўся Пуценька. – Даўбешка.

– А для чего она?

– Ат, ані для чога, – з неахвотай прагаварыў Пуценька і злосна шпурнуў даўбешку пад парог.

Але ў гэты самы час на парозе вырасла постаць Марты:

– Ты што, галава з заскокамі, даўбешку шпурляеш! – зашумела яна, нягледзячы на начальства. – Даўно не атрымліваў па заскоках?!

І тады Пуценька раптам ускочыў з-за стала і важна прагаварыў:

– А колькі ўжо можна?!

У яго голасе адчувалася такая рашучасць, што нават Марта не адважылася замахнуцца на яго даўбешкай.

– Колькі можна?! – яшчэ раз паўтарыў Пуценька і стаў расказваць оперу пра тое, як Чубік абманам і хлуснёй нажываецца на бедным працоўным і сялянскім класе трудзяшчыхся.

– Трэба яго ліквідаваць неяк, як варожы элемент, – на гэтым Пуценька скончыў свой аповед.

– Так в чом дзела? – ускочыў опер-чыкіст Цэрбер. – Надо заваліць шамана!

Гэты опер таксама, відаць, меў свае інтарэсы ў тым, каб нейкім чынам перавесціся хоць бы ў раён.

Тады яны ўзялі з сабой яшчэ трэцяга – тоўстага памочніка опер-чыкіста па асоба важных справах. Гэтага памочніка прыслалі нядаўна, ён, калі і дапамагаў у чым, дык хіба што за сталом. Дарэчы, еў ён і піў – нямерана. Колькі мог сядзець за сталом, столькі мог чвакаць і хлябаць усё, што было на стале. Цэрбер яго звычайна не браў на справы, бо можна было застацца галодным. А вось да Чубіка можна было і ўзяць, наўрад ці Чубік будзе частаваць іх.

Пуценька, дарэчы, прыхапіў з сабой на ўсякі выпадак даўбешку, і яны паехалі.

Тады яны ўтраіх непрыкметна пад'ехалі конна да хлява Чубіка, прывязалі коней да плота. Памочніка вырашылі пакінуць на падворку, маўляў, хай глядзіць за коньмі, а заадно праверыць, што робіцца ў хлеве і ў паветцы, а самі нечакана ўварваліся ў хату.

– Чубік, іменем савецкай уласьці, выхадзі! – закрычаў камісар і замахаў рэвальверам.

У адказ – нямая цішыня.

– Чубік, скаціна, вылазь і давай опіум для народу? – закрычаў і Пуценька і замахаў даўбешкай.

Але і на гэты раз ніхто ім не адказаў.

– Кто-то предупредил, – зазначыў Цэрбер і падазрона паглядзеў на Пуценьку.

– Ты што, начальнік... Я ж яго сам вось гэтымі рукамі гатовы прыдушыць, – Пуценька паказаў рукі і перавёў позірк у кут, дзе ў звычайных сялянскіх хатах віселі абразы, але ў хаце Чубіка на куце віселі нейкія пажоўклыя і незразумелыя выявы ў драўляных самаробных рамках. Камісар зразумеў калегу і тут жа сарваў адну з іх. Што гэта была за карціна, ані Пуценька, ані Цэрбер так і не разабраліся.

– Мазьня, гроша ломанага ніхто не даст! – зрабіў заключэнне Цэрбер і са злосцю кінуў выяву на падлогу. Пасля рашуча заявіў:

– Трэба зрабіць вобыск.

Пуценька стаў увішна круціцца па хаце: зазірнуў пад ложкі, у шафу, на печ – нідзе нікога не было.

– Зра, відаць, стараешся! – чамусьці злосна прабурчаў Цэрбер і стаў правяраць посуд і каструлі на кухні. Відаць, такая была ўжо прафесійная звычка ў камісара.

– Табе ня ўдасца схавацца ад савецкай улады, цемрашал! – крычаў Пуценька. – Савецкая ўлада не пацерпіць такі опіум!

Але раптам нехта добрай аплявухай заехаў Пуценьку пад вока – ажно трэск пайшоў па хаце, і Пуценька пакаціўся пад парог. На шум выскачыў з пісталетам здзіўлены Цэрбер:

– Ты чо тут качаешся?

– А-а-а...а ты што?

– Я ничево не нашёл...

– А ня ты мне зараз, во... пад вока?

– Ты што, каб я дружбану пад вока... падлай буду...

Пуценька моўчкі падняўся і палахліва стаў азірацца.

– Так, значыт, этот урод гдзе-та тут? – насцярожыўся Цэрбер, выцягваючы пісталет перад сабою. – Если што – адразу валить его залпам.

Але раптам і ён, гэтак жа, як толькі што Пуценька, з адпаведным трэскам і шумам загрымеў пад парог.

– Ты это чо, зёма? – ускочыў Цэрбер і кінуўся да Пуценькі, яму, відаць, здалося, што гэта Пуценька правёў такі ўдалы аперкот левай, але той стаяў, збялеўшы, стаяў як укопаны на тым жа самым месцы.

– Таварыш камісар, – ледзь чутна прагаварыў ён, – трэба ўцякаць... нячыстая тут... – і Пуценька з размаху шпургануў даўбавешку ў кут, дзе віселі нейкія незразумелыя выявы, а сам памаленьку накіраваўся ў сені.

– Ты чё-о? Какая ёсчё-о нечыстая? – не даў веры Цэрбер, але на ўсякі выпадак пасунуўся за Пуценькам.

У сенях нехта моцна штырхануў Пуценьку ў плячо, а пасля ўдарыў пад азадак так, што ён вылецеў на ганак і пакаціўся з яго клубам. У гэты ж момант на гарышчы пачуўся нейкі пісклявы смех і рогат. Цэрбер, калі ўбачыў, што робіцца з Пуценькам, выстраліў некалькі разоў уверх з пісталета, а пасля энергічна стаў махаць кулакамі вакол сябе, але і гэта яго не ўратавала: нехта ўдарыў опера па галаве і Цэрбер атарапеў на

момант, а пасля атрымаў і ён такі ж удар пад азадак і паляцеў услед за Пуценькам. Уся гэта працэдура суправаджалася дзікім рогатам на гарышчы. А на падворку з хлева выходзіў тоўсты парсюк, мірна і спакойна рохкаючы, чымсьці вельмі і вельмі падобны на памочніка Цэрбера па асоба важных справах. Паглядзелі тады Цэрбер і Пуценька адзін на аднаго, быццам толькі цяпер убачыліся, і опер скамандаваў:

– В ногі... По коням! – і яны кінуліся абодва да коней, але коней каля хлева як і не было.

– Что за чертовшчіна?! – абурыўся Цэрбер не на жарты. – Я этот дом счас по кочкам разнесу!..

Але тут зноў пачуўся рэзкі хлапок, і Цэрбер покатам пайшоў пад плот.

– Уцякайма! – пракрычаў Пуценька і даўся з усіх ног пад рэчку, але яго з нейкім злосным шыпеннем дагнала і збіла з ног знаёмая ўжо даўбавешка. Праўда, ён вельмі хуценька ўскочыў і без аглядкі даў зноў драпака. За ім пабег Цэрбер, а за Цэрберам, павізгваючы і рохкаючы, бег тоўсты парсюк. А ўслед ім нёсся нейкі нечалавечы незразумелы рогат, ці, можа, гэты рогат стаяў ужо ў іх у вушах, і круцілася над іхнімі галовамі ці то нейкая пташка, ці ўсё ж тая самая даўбавешка, – цяжка было разабрацца…

Пра гэты паход Пуценькі і Цэрбера да Чубіка расказала Ганьцы Марта, пры тым папярэдзіла, што, сцеражы Божа, каб хаця ж нідзе анікому ані слова, бо Пуценька прыбіць можа і яе, і Ганьку. Бо, калі што якое, такую гучную справу людзі могуць пусціць на пасмешышча, і савецкай уладзе будзе вялікая ганьба ад гэтага, і яна такога не даруе.

Антось трохі ведаў Чубіка і не надта, каб гэтаму здзівіўся. Не сумняваўся ён у магчымасцях Чубіка. Яму прыходзілася не раз сутыкацца з ім, каб пераканацца ў тым, што Чубік нейкай сілай і сапраўды валодаў. Чуў недзе Антось, што чараўнікі звычайна пыл пускаюць у вочы, альбо так заварожваюць чалавека, што ён анічога не бачыць і нічога не помніць. Да такога зачараванага можна лёгка падыйсці і даць яму выспятка пад азадак альбо кулаком у твар. Праўда, з памочнікам тым па асоба важных справах не ўсё было зразумелым, бо пасля гэтага яго ніхто ніколі нідзе болей не бачыў. Цэрбер Сцяпану неяк гаварыў, што яго, быццам, адклікалі ў вобласць, але як было на самай справе, аніхто не ведаў, праўда, мог ведаць пра гэта хіба што Чубік.

Антось даўно ўжо не быў у Чубіка. А неяк, нядаўна, Антося нават папярэджвалі, каб прыехаў ратаваць Чубіка, бо яго

будуць арыштоўваць бальшавікі, але тады нешта не выпала Антосю паехаць, хоць і варта было.

Антось убачыў Чубіка здалёку, ён нерухома стаяў на падворку, а на вуліцы нейкая даволі маладая і сімпатычная жанчына махала рукамі ў яго бок і лямантавала на чым свет стаіць. Відаць, нечым Чубік не дагадзіў малодцы, – падумаў Антось, а калі пад'ехаў бліжэй, дык той лямант стаў больш-менш разборлівым:

– Паскуда, вядзьмак, чорт рагаты, Вайдэлак пракляты…

На гэты лямант Чубік рэагаваў вельмі спакойна: калі ў жанчыны скончыліся ўсе «камплiманты», ён прагаварыў:

– Ідзі дахаты, баба дурная, ідзі й не грашы, бо калі я скажу «баба праклятая», дык ты ж такой і застанешся…

Такія ўгаворы, відаць, слаба падзейнічалі на жанчыну, але яна ўсё ж такі пайшла ад хаты прэч, нешта прыгаворваючы сабе пад нос.

Чубік на Антосеў «Добры дзень» кіўнуў галавой і, паказваючы рукой ўслед жанчыне, прагаварыў:

– Другі раз да мяне прыходзіць, прыходзіць цяжарнай – справу гэтую любіць, а дзяцей ня хоча гадаваць. А Чубік ва ўсім вінаваты, толькі таму, што ён ня хоча патураць ейнай натуры. І так ужо быў узяўшы грэх на душу… з пятлі вынімаў, спароны рабіў, а тут зноў прыпёрлася…

– Ах, вось яно што, – здзівіўся Антось.

– Чуў, як казала: «вядзьмак», «чорт», а быць ведзьмаком думаеш лёгка? – Чубік зарагатаў.

– Гэтага я ня ведаю…

– А што ты ведаеш?

– Я шмат чаго ня ведаю і ведаць не хачу, бо ад шматведаньня ноччу брыкаешся і яда ў рот ня лезе, – выдаў Антось першае, што прыйшло ў галаву.

Чубік зноў зарагатаў, а пасля болей сур'ёзна прагаварыў:

– Пазнаньне памнажае смутак і боль, бо пазнаеш усю марнасьць сьвету – з Эклезіяста.

– А чаму пазнаеш марнасьць, а ня радасьць тварэньня?

– Марнасьці болей… Вазьмі ты, да прыкладу, чалавека…

– Мяне не бяры, – паспеў уставіць Антось, і Чубік зноў зарагатаў.

Антось, пры сустрэчах з Чубікам, заўважыў адну акалічнасць: Чубік любіў дасціпнасць і гумар, і да людзей з такімі якасцямі адносіўся паблажліва.

– А давай лепей возьмем маю карову! – працягваў Антось. Гэта была смелая прапанова з яго боку. Зразумела, калі

б Чубік не рагатаў перад гэтым, Антось нізашто не адважыўся б сказаць такое.

Чубік зноў зарагатаў і сказаў:

– Маеш рацыю, Антось, які сэнс кідаць пёрлы…

– А я пра што, – дапоўніў Антось, і яны абодва рассмяяліся.

Пасля Антось на нейкі момант задумаўся і раптам ажывіўся:

– Слухай, тут баба нейкая дурная дражніла цябе словам такім – Вайдэлак, так? Чаму такім словам?

Ведаў Антось, што Вайдэлкамі дражнілі не толькі Чубіка, але і яго сястру, якая жыла на другім канцы вёскі і брата, які жыў у Лаўскім Бродзе. Старэйшыя людзі казалі, што і ў іх бацькоў таксама была такая мянушка – Вайдэлкі ды Вайдэлкі. Але чаму менавіта Вайдэлкі, на гэтае пытанне ніхто адказаць не мог? Праўда, гэта мала каго хвалявала, хаця людзі звычайна выпадковымі мянушкамі нікога і нічога не называлі.

– Антось, я ж у цябе не пытаюся, чаму цябе дражняць Мультанам…

– А адкуль ты ведаеш?

– Я ўсё ведаю, і таму мне сумна жыць у гэтым сьвеце, і не цікава, – Чубік на нейкі момант замоўк, а пасля прагаварыў:

– Вайдэлкі – гэта народны скарот ад слова вайдэлоты. Далёкі мой прашчур быў вайдэлотам, жрацом Пяруна.

– А-а-а, дык у вас гэта радавое, – зразумеў Антось. – Паводле дынастыі, пераемнасьці традыцый…

– Шмат слоў гаворыш, Антось, – перабіў яго Чубік. – Пайшлі лепей у хату, раскажу, як прыходзіла новая ўлада мяне арыштоўваць.

– Я чуў ужо пра гэта, – асцярожна заўважыў Антось.

– Пра гэта ты яшчэ ня чуў, – спакойна прагаварыў Чубік і накіраваўся да дзвярэй.

– А карова? – спахапіўся Антось.

– Вядзі яе, калі хочаш, у хату, – Чубік зноў зарагатаў. – Каля сябе пасадзіш… Хай паслухае…

Антось махнуў рукой на карову і прыспешыў следам за Чубікам.

Не кожнага Чубік запрашае ў хату, такой павагай з яго боку можна было толькі ганарыцца. У хаце яны ўселіся за дубовы стол, і Чубік працягваў тэму:

– Прыходзілі другі раз. Чалавек пяць у хату зайшло, і на вуліцы некалькі чалавек засталося… І Пуценька з Цэрберм на вуліцы… у сёдлах так і сядзяць конна, трымаюцца моцна за

вобраць, азіраюцца палахліва – ня любіць начальства хадзіць пяшком – у хату не пайшлі... чаго яны баяліся?... У хаце ўсё перавярнулі, усе закуточкі вылізалі, чаго яны шукалі?.. А ў мяне ані аловачка, а ні паперачкі, куска хлеба і таго не было... А яны адно толькі: дзе тваё золата, дзе тваё золата? Дзе твая кніга, чорная кніга?! Якое золата? – у мяне есьці няма чаго?! Якая кніга, кажу, я чытаць ня ўмею, век у хаце ў мяне кніг не было. Што за блюзьнерства, кажу? Д'ябла вы ў мяне знойдзеце, кажу, але ж яны ў гэта ня вераць... Парыліся ў шуфлядах, у куфэрку, абнюхалі прыпечкі, аруд, палазілі па гарышчы і кажуць: зьбірайся! Куды? А там паглядзім! А на якой такой падставе, кажу, з якой такой нагоды, паводле якога такога артыкулу? У мяне ж, сам ведаеш, ані зямлі, ані гаспадаркі, жыву з таго, што людзі добрыя дадуць. У гэтым сэнсе, я ім так і даводжу, я самы што ня ёсьць сапраўдны пралетарый... Яны, маўляў, пракурор разьбярэцца... Дык вы, кажу я, як гэта мяне судзіць будзеце, за што судзіць будзеце, бо супраць савецкай улады я не выступаў: аніводнага факціка, аргумэнціка; судзіць як злодзея, дык ніхто ж не паверыць; судзіць як бязбожніка, дык вы ж самі ня верыце; як чараўніка, дык гэта ж паляваньне на ведзьмаў, чым вы тады адрозьніваецеся ад інквізыцыі альбо парадкаў царскай Расеі; судзіць мяне, як ворага народу, паглядзіце, вунь, у вакно... А на падворку народу сабралася, стаяць, насупіўшыся, бо кожнаму я дабро нейкае зрабіў альбо паабяцаў зрабіць, дык які ж я ім вораг. І што цікава, ажно з суседніх вёсак прыехалі – з Гародзькаў, Забрэзьзя, Лістападаў, Ластаянцаў, Крыўску, Валожына, – хто наказаў ім – невядома! Тутэйшае начальства яны ня ведаюць, Пуценьку з Цэрберм сьцягнулі з коней, маўляў, ня будзеце чапаць Чубіка, ня будзем чапаць іх, але нюхаўкі расквасілі абодвум – ня шэньціць нешта хлопцам гэтым... Хату акружылі, маўляў, здавайцеся... Дык вось табе і савецкая ўлада – бальшавікі, адным словам... Ня ведаюць, што рабіць далей... Недарэчная сытуацыя... А ты чаго тады не прыехаў? Ты ж ведаў!

– Я... Я ўжо ня помню, – ніякавата паёрзаўся Антось на крэсле. – Была ж нейкая нагода.

– Нагода, каб не рабіць, у гультая заўсёды знойдзецца. Хай сабе... Ведаю твае беды, але надта не журыся, асьцерагайся, ня лезь абы куды, паціхоньку так – краем, полем, берагам... У лес ня суньця... Хутка мы будзем жыць у розных краінах, але залежаць будзем ад адных і тых жа людзей... Парадокс нейкі! Вось так!

– Гэта як?

– Пажывём, убачым... Дык, вось, слухай далей. Сытуацыя такая – ня ведаюць бальшавікі, што далей рабіць, ня ведаюць, як выйсьці прыгожа з такой сытуацыі. Яны ж заўсёды так: уляпаюцца ў што-небудзь, а пасьля шашкі аголяць і давай імі махаць налева і направа па людзкіх галовах невінаватых... А тут так ня зробіш... Добрая сотня нашых людзей на вуліцы – хату акружылі, Пуценьку з Цэрберм зноў пабілі трохі, падзеля прафілактыкі, не шанцуе нешта ім. Ну, тады я й кажу: хлопцы, калі ня хочаце траціць свайго аўтарытэту, ідзіце і скажыце народу, што прыязджалі да мяне з прапановай, каб я больш не займаўся гэтым... слова ў іх такое ёсьць доўгае... цемрашальствам... Калі хочаце, сам выйду і скажу і папрашу, каб адпусьцілі чэкіста вашага і Пуценьку. Адзін зь іх кажа: ты яшчэ скажы народу, што савецкую ўладу любіць трэба, бо яна можа ўсім даць... Тут ён задумаўся, што можа даць савецкая ўлада. Агітатара хацелі зь мяне зрабіць... Я яму коратка так і кажу, што савецкая ўлада – гэта табе не прасталытка якая!.. Калі хочаш, сам так ідзі й кажы, а я нагаворваць на ўладу ня буду. Пакруцілі яны носам, рабіць няма чаго. Выйшаў я й сказаў тое, што зьбіраўся сказаць, і на гэтым разьвязалі праблему...

– Цяпер ня лезуць?

– Пакуль што не чапаюць, хоць баюся я іх... Так, падзеля ліку. Мне ўжо баяцца няма чаго, я зрабіў свой выбар і ведаю, што з гэтага выйдзе... Ну, а калі хто ў цябе запытае наконт мяне – ты анічога ня ведаеш. Маўляў, прапаў недзе Чубік...

– Чаму прапаў?

– Зараз такія часы настануць, што лепш за ўсё перасядзець дзе-колечы пад зямлёй... У пекле ня так страшна будзе, як тут на зямлі...

– Ат, як будзе, так будзе, неяк пратрымаемся, – прагаварыў Антось і асцярожна нагадаў Сцяпанаву просьбу. Расказаў Чубіку, што ў камунараў дохнуць авечкі, каровы, коні, расказаў, што і поле ў іх не родзіць, і што не шэнціць ім неяк з гаспадаркай, а пасля, гэтак жа асцярожна, запытаўся, у чым тут можа быць сакрэт.

– А табе якая справа да гэтага? – не зусім ласкава адгукнуўся Чубік. – Выконваеш паслугу бязбожніка гэтага, камунара?.. Га?! – і Антось зразумеў, што аднеквацца няма аніякага сэнсу.

– Дык...

– Індык! І гэты мяне хоча арыштаваць, хе-хе... – працягваў Чубік. –Даўно б арыштаваў, ды ня ведае, якую зачэпку знайсьці: я ж не багаты і не сьвятар, і супраць улады

анічога не кажу, і людзям я патрэбы больш раблю, чым тая ўлада... А браць мяне неяк трэба, бо цемрашал я! Яшчэ няведама, хто большы цемрашал!

Тое, што Сцяпан з сваімі ідэямі можа быць цемрашалам, Антося вельмі здзівіла.

– Скажы, Антось, свайму камунару, хай не ламае галавы сваёй над пустым заняткам, – працягваў Чубік. – Не разумею толькі я, навошта чалавеку лішняя дзюрка ў галаве?..

Што за «дзюрка», Антось зразумеў значна пазней, а наконт камунарскай жывёлы Чубік альбо не ведаў, альбо не хацеў гаварыць праўды, але і не маўчаў:

– Жывёла ў іх дохне... Хутка ўсё паздыхае: і авечкі, і сьвіньні, і каровы, і людзі... Нядоўга чакаць... Ня будзе карысным майму арганізму малако ад чужой каровы, якую я біў палкаю, як ня будзе карысным мяса ад той сьвінні, якую я забраў гвалтам і закалоў... А поле... Што ты хочаш ад зямлі, выклятай людзьмі і Богам...

Нешта пра карову і свінню Чубік гаварыў абы што, бо ані малака, ані свініны ў камунараў не было, праўда, хіба што, меў рацыю наконт кляцьбы. Тут бяз дай сур'ёзнай прычыны толькі і чуеш: а каб цябе... а каб ты, а каб вас...А калі ёсць малейшая нагода, дык ажно вёска разлягаецца ад гэтага «каб...». Антось сам чуў, як кляў камунараў яго цесьць Качаноўскі перад адпраўкай у Сібір – страшна рабілася. Дый кляў гэтых камунараў не толькі адзін цесьць.

Бабы неяк гаварылі ў вёсцы, што старая Саковічыха перш, чым сесці на воз перад сваёй адпраўкай у Сібір, аголеным азадкам абвяла ўсе пакоі ў хаце і надворныя забудовы. Хто б не жыў у такой хаце – жыццё не складзецца, людзі будуць хварэць, дабра не нажывеш, ніхто не прыжывецца ў такой хаце, а ў хлеве нічога не завядзецца – усё будзе гінуць, здыхаць, марнець, высыхаць.

Тут, калі ўсяму гэтаму верыць, дык і не дзіва, што не ладзіцца гаспадарка ў камунараў.

– А яшчэ, не сакрэт, няма ў іх талковага гаспадара, – прагаварыў Антось, – Усе носяцца з нейкімі дурнымі ідэямі, а зямлі і скаціне старанны дагляд патрэбны, а не ідэі.

– Жорсткія ў іх ідэі, бо жорсткаму сьвету патрэбныя жорсткія людзі, – Чубік гаварыў быццам сам сабе. – Але гэтую жорсткасьць самі людзі ствараюць сабе на загубу...

– Я не ствараю, – падаў голас Антось хутчэй падзеля таго, каб даць зразумець, што такія тэмы яго мала займаюць і што, нарэшце, яму трэба дахаты, а там вельмі і вельмі шмат работы.

– Ты?! – усклікнуў Чубік. – Вось такія як ты, ягняты невінаватыя, якраз і ствараюць!

Чубік умеў нечакана павярнуць справу, альбо перавярнуць яе з ног на галаву.

– Пры чым тут я? Не разумею...

– Вось цябе ў дзяцінстве біў бацька?

– Біў!

– А ты зараз сваіх дзяцей б'еш?

– Лупцую часам, дык жа ўсе лупцуюць!.. Інакш нельга!

– Вось, вось... усе... А як тады наконт міласьці, любові, слова боскага?... Чаму не ўгаворамі, просьбамі, ласкамі, а адразу за дзягу і ўсіх па-парадку! Так?!

– Ну, так... Але ж трэба іншы раз і пакараць неразумнае дзіцё, каб абы чаго не рабіла, бо што зь яго вырасьце...

– Вось-вось, пакараць. Я ведаю выпадкі, калі бацькі, так выхоўваючы, калечылі і забівалі сваіх дзяцей...

– Б'еш жа шкадуючы, з любоўю...

– Толькі дзіцё гэтага не разумее! А тут анічога бесьслядоўна не праходзіць. Дзеці растуць такімі ж агрэсыўнымі, жорсткімі, злымі... І гэта патрэба часу. Ты думаеш, адбылася б рэвалюцыя ў Расеі, калі б давялі да кожнага зь дзяцінства, што трэба любіць бліжняга, што трэба быць карысным, што трэба рабіць добрае...

– Але гэта ўжо царкоўныя справы...

– І ня толькі! Гэта – справы кожнага! Ты ж глядзі, што робіцца: каб нейкую зрабіць гадасьць другому, аніякай навукі ня трэба. Другога падшыванца трэба застаўляць, каб навучыць арыфметыцы, кемлівасьці ці вывучыць які вершык, але з якой хуткасьцю ён запамінае пахабны верш і якім робіцца кемлівым пры зьдзяйсьненьні таго ж пахабства – у гэтым ня трэба навукі... Гэта, відаць, у прыродзе чалавечай закладзена, і так – ад пакаленьня да пакаленьня... І так зьяўляецца новая генерацыя – пакаленьне, якому напляваць на ўсё сьвятое, чыстае, добрае...

– Але ж другі і ў паскудных умовах вырастае нармальным чалавекам, – запярэчыў Антось.

– Рэдкі выпадак. Што сям'я, што школа, што царква, касьцёл – усё выхоўвае і ўсе даводзяць да чалавека патрэбу высокага, сьветлага, добрага, а чалавек гэта не ўспрымае, ня хоча ён гэтага, ня хоча!..

– Бо слаба даводзяць – кожны пра сябе думае!..

– А як ты давядзеш, калі волі няма... Яго волі! – Чубік паказаў пальцам у неба. – Няма Яго валадарства тут, няма! Ты

ж молішся як, «... хай прыйдзе валадарства Тваё, хай будзе воля Твая як на небе, так і на зямлі...» Хай «прыйдзе», хай «будзе», заўваж! Бо няма гэтага тут, на зямлі, няма! А сьвята месца пустым не бывае... гэтак жа, як пустое сьвятым. Зямля ня церпіць пустаты... А, значыць, тут валадарыць нехта іншы...

– Ты хочаш сказаць, што тут няма Бога?! – Антось тут жа перакрысьціўся.

– Бог – там, у небе!

– А тут?

– А тут ёсьць тое, што ёсьць! Сьвет ляжыць у зле...

– Чорт?! У імя Айца, і Сына, і Сьвятога Духа! – Антось зноў перакрысьціўся.

– Называй гэта, як хочаш. На гэтай зямлі добра жывуць і добра ратуюцца толькі не хрысьціянскія праведнікі і не рабы Божыя.

– Слугі д’ябла?! Чуў я пра гэта...

– Называй, як хочаш, але, калі хочаш нешта мець і жыць добра, трэба служыць і жыць паводле іх законаў, бо іх улада. Трэба адкінуць усю гэтую царкоўную авечую мараль, якая служыць ня Богу, а кесару і прыстасавацца... Заўваж, у рэвалюцыю, у вайну найболей загінула вось такіх маралістаў, якія спадзяваліся на Бога. А ўратаваліся і выжылі тыя, каму, што ўкрасьці, што забіць, як два пальцы памачыць... Яны сёньня падняліся высака...

– Як дасьць Бог, так і будзе....

– Во-во! Што за народ?! Бог даў рэвалюцыю? Бог даў войны, кроў, холад, голад, гібель людзей? Бог даў? Той, хто стварыў чалавека, той, хто зьяўляецца абсалютам Дабра, Любові, Справядлівасьці, той зьнішчае сваё стварэньне, як бацькі зьнішчаюць сваіх дзяцей, той нясе людзям сьмерць?! Ты гэта хочаш сказаць?

– Дык на ўсё ж воля Божая...

– Дык жа няма Яго волі тут, няма! Глядзі, Ленін, Сталін, Гітлер... У кожнага рукі ў крыві... Ты думаеш, што Бог ім даў такую волю? Каб жа так?!

– У кожнага свая воля...

– Дурань! Якая воля? Я, Чубік, якога ведаюць у Вільні, Менску, Варшаве, і то ня маю сваёй волі! Я жыву не з сваёй волі!

– А зь якой, калі не з сваёй?

– Зь якой? З волі таго, каго ўсе баяцца!

– Баяцца і Бога, і Д’ябла... Каго тут яшчэ баяцца...

– Гэта табе папы з ксяндзамі ўцямілі, што Бога трэба баяцца, каб ты іх баяўся, а Бога любіць трэба, толькі пра гэтую любоў менш за ўсё ў нас гавораць.

– Можа, і гавораць, але ты надта там разьбярэшся, кожны з свайго гарышча. Папы ў царскай Расіі ня столькі пра Бога казалі, колькі пра цара-бацюшку, а ксяндзы – усё пра Польшчу ды пра Польшчу. Калі й скажаць што, дык надта ты іх зразумееш, з мовамі іхнімі.

– Вось так і атрымліваецца, што Біблію чытаеце, у царкву там ці ў касьцёл ходзіце, спавядаецеся, а ўсё заканчваецца чым?

– Чым заканчваецца?

– У кустах з Ганькай, па дарозе з таго самага касьцёла, прама на возе ўсё і заканчваецца,…

– Адкуль ты ведаеш? – спалохаўся Антось. – Падгледзіў?..

– Бо дома дзеці мяшаюць... Яшчэ няведама, зь якой большай нагоды ты ў касьцёл той ходзіш?!.

– Дык жа сказана наконт размнажэньня – гэта не такі ўжо і вялікі грэх, – слаба апраўдваўся Антось.

– Ты ж глядзі, што атрымліваецца, – працягваў Чубік. – Чым менш у чалавека сьвятасьці ў душы, тым болей у яго шанцаў вельмі добра ўладкавацца і прыстасавацца ў гэтым жыцьці. І, наадварот, іншага хоць сьвятым абвяшчай, наколькі ён верыць у Бога, у людзей, наколькі ён сумленны, праўдзівы, крыштальна чысты, талковы, але ён не жыве з гэтага: у яго ані прыбытковай працы – раней такія пану былі патрэбныя, а зараз, пры новай сыстэме, хто ж будзе зь ім працаваць – зь ім жа ані абмануць, ані ўкрасьці, а жыць сумленна немагчыма... Ані прыстойнага жытла, і перспэктываў аніякіх: ён пакутуе, а не жыве. І, як ня дзіўна, усе хрысьціянскія маралісты лічаць гэта нармальным, маўляў, так і трэба. Праз пакуты ачышчаецца чалавек... Бог карае таго, каго любіць... І нікога не цікавіць, што ў гэтага няшчаснага можа быць сям’я, дзеці. І, праз свайго сьвятога бацьку, дзеці пакутуюць разам зь ім. Яны з зайздрасьцю глядзяць на сваіх аднагодкаў, у якіх бацькі жулікі, вялікія начальнікі, людзі нялюдзкай сыстэмы, альбо звычайныя зладзеі і забойцы, але яны забясьпечваюць сваіх дзяцей усім неабходным, і тыя ганарацца імі. А вось дзеці сьвятога бацькі наўрад ці пойдуць за бацькам, наўрад ці абяруць яго шлях, той шлях, які прывёў іх да жабрацтва. Раней пайшлі б, бо бацька быў усім... Законам!.. Як сказаў бацька, так і будзя... Як ксёндз Гадлеўскі маліўся ў Жойдзішках: «У імя Бацькі,

Сына і Сьвятога Духа». А цяпер што?.. Бацька не ўказ… Цяпер гэтым словам сталі называць абы каго… Цяпер дзеці ўжо ня будуць кленчыць перад тымі абразамі, перад якімі гнуўся бацька, бо гэтыя абразы, на іх думку, не ашчасьлівілі бацьку і не ашчасьліваць іх. І воля бацькі, гэтак жа, як і воля яго Бога, для іх становіцца марным лямантам. Дзеці будуць шукаць іншыя прыклады для ўзору, іншыя выбіраць шляхі… Дзеці з галавой кінуцца за тым, хто ім паабяцае рай не на небе, а на зямлі, бо яны ўсумніліся ў такім Божым Царстве… Усумніліся праз верніка… праз сьвятога…

Чубік спыніўся на хвілінку, каб перавесьці дух, і Антось гэты момант скарыстаў:

– Калі сьвяты бацька не давядзе сваіх дзяцей да толку, дык што ўжо казаць пра іншых, – Антось на хвіліну задумаўся. – А яшчэ й няведама, як дзеці будуць жыць, няведама, які шанцунак выпадзе ім, як лёс складзецца… Можа, і бацька тут той не пры чым?..

– А пасьля мы ў скрусе ківаем галавой… – працягваў Чубік. – А-я-я, а чаму людзі сталі такімі прагнымі, такімі злымі, такімі зайздроснымі? А-я-я, а чаму рэвалюцыя, войны, брат на брата пайшоў?.. А пасьля мы гаворым, што кожнае наступнае пакаленьне горшае за папярэдняе… Што, можа ня так?

– Так!

– А яно вымушана быць горшым… Парадокс нейкі, і парадокс у тым, што, чым болей чалавек цягнецца да духоўнага, тым болей ён губляе ў пляне матэрыяльным, і наадварот. Ня можа сьвяты быць багатым. Ня можа!

– Можа, – нясьмела запярэчыў Антось, але Чубік яго не слухаў.

– Пра якую сёньня можна гаварыць духоўнасьць, – працягваў Чубік, – калі людзі адвярнуліся ад яе, калі падзеля яе трэба абавязкова нечым ахвяраваць, а ня хочацца. Духоўнасьць сёньня нікога не цікавіць – да ўлады прыходзяць матэрыялістыя… Галоўны герой якіх – чалавек са стрэльбай у руках… Ты ведаеш, хто такія матэрыялістыя?

– Ведаю – бязбожнікі… Але чалавек заўсёды зь нечым быў: з палкай, зь сякерай, зь мячом…

– Дык вось, гэтыя бязбожнікі ў адзін момант з'ядуць і вып'юць усё, што ты пасееш і пасадзіш, а ім будзе ўсё мала і мала – і ты будзеш ва ўсім вінаваты.

– Чаму я? – насцярожыўся Антось.

– Таму што ты будзеш сеяць і жаць, а яны будуць камандаваць і есьці…– Чубік рэзка замоўк.

Усё, што нагаварыў яму Чубік, успрымалася з нейкімі цьмянымі ўяўленнямі. Такое іншы раз бывае пры вельмі шчырай размове з адукаваным чалавекам за добрай чаркай: калі сутнасць адчуваеш душой і разумееш нават, а растлумачыць яе немагчыма...

Сапраўды, парадокса нейкая.

Пасля невялікай паўзы Антось запытаўся:

– А што ты скажаш наконт любові да бліжняга? – і з цікавасцю стаў глядзець на Чубіка.

– А любіць ня трэба: ані бліжняга, ані далёкага, бо нішто так не прысьпешвае сьмерць людзкую, як такая любоў, – нечаканна заявіў Чубік.

– Ты гэта пра што? – не ўцяміў Антось з першага разу.

– Любоў – гэта ня толькі канцэнтрацыя нэрваў, любоў – гэта гарэньне... А ўсякае гарэньне – хуткаплыннае!

– А ці ня блытаеш ты хрысьціянскую любоў з юрлівасьцю? – асцярожна спытаўся Антось, але Чубік, відаць, прапусціў гэтае пытанне каля вушэй.

– Як бацькі любяць сваіх дзяцей, ты ведаеш, – працягваў Чубік, – але ніколі дзеці не зраўняюцца сваімі пачуцьцямі да бацькоў з пачуцьцямі бацькоў да іх... Раней вялікі гонар быў і пашана тым, хто глядзеў сваіх бацькоў да сьмерці. А зараз дарослым дзецям старыя бацькі становяцца цяжарам, замінкай, «перажыткам мінулага». Нішто так ня будзе прысьпешваць іх смерць, як такая «любоў» дзяцей.

– Пра якіх ты гаворыш дзяцей, Чубік? Я ня ведаю такіх дзяцей!

– А я ведаю – пра дзяцей пустадомкаў! Тых дзяцей, якія будуць кіраваць сьветам... Яны будуць для сябе жыць, а не для бліжняга... Сама вялікая любоў – гэта быць карысным бліжняму... Калі ты нікому не патрэбны – значыць, Бог цябе ня любіць... не дае Ён табе магчымасьці тварыць дабро бліжнім...

У замыславатых высновах Чубіка адчувалася нейкая нацяжка, супярэчнасць нават у поглядах, але Антось не ведаў, што сказаць – у штодзённасці не задумваешся над такімі пытаннямі.

– Ёсьць шмат што казаць – няма каму слухаць, – зноў, быццам сам сабе, прагаварыў Чубік. – І кожны захоча выгаварыцца, а гаварыць ня будзе чаго... А каму будзе што сказаць – таму рот заткнуць... Сёньня рана такія пытаньні ставіць, а заўтра будзе позна...

Тут Чубік зноў замоўк, сумна гледзячы ў вакно.

– О-о-о, прарочыш! – усклікнуў Антось. – Я й сам ня раз думаў пра нешта падобнае... Прарокам у нас стаць можна вельмі лёгка – толькі трэба гаварыць, што будзе яшчэ горш, што рот заткнуць, што есьці ня будзе чаго, страляць будуць, забіваць, паліць, усё зьнявечаць, і канца гэтаму не відаць да канца сьвету, які вось-вось павінен адбыцца... У нашай гісторыі такія прароцтвы збываюцца пастаяна.

– Маеш рацыю! – Чубік уважліва паглядзеў на Антося. – Толькі слухай далей: пустадомкі прыйдуць у хату і кожная трэцяя хата апусьцее... Боўдзілы і прыдуркі руляваць будуць... І будзе разьня, кроў, голад... Толькі сьляпы, глухі, нямы будзе мець нейкі мізэрны шанцунак на ўратаваньне... Шчасьлівым будзе той, хто добра схаваецца... Толькі схавацца ня будзе дзе – зямлю апустошаць, балоты высушаць, лес высякуць... Палігон будзе болей патрэбны, чым чалавек... І чалавек будзе ня той: штучныя пачуцьці, розум, мянтальнасьць... і пустэча ў вачах...

Пасля такіх прароцтваў лягчэй не становілася. Зразумела, што ўсё аджывае свой век, але,з другога ж боку, глядзі ты, – думаў Антось, – як усё ж такі лёгка стаць пракам у сваёй Айчыне.

– Ты мне лепей вось што скажы, Чубік, а ці дачакаемся мы той шчасьлівай хвілінкі, каб пацешыцца з гэтага жыцьця?.. Тут жывеш адной надзеяй, што, можа, дзеці дачакаюцца… Але ці не на такую будучыню спадзяваўся дзед... пасьля бацька...

– Тут, і сапраўды, ня трэба быць вялікім прарокам – такое ў нас жыцьцё, – Чубік зноў замаўчаў.

Маўчаў нейкі момант і Антось. Не ўсё ён, відаць, зразумеў з гэтае гутаркі, але і тое, што пачуў, яго вельмі і вельмі ўразіла.

– Ты, Чубік, гаворыш, як ксёндз які, – парушыў маўчанне Антось, – альбо як антыхрыст нейкі... А прасьцей трэба трошкі, прасьцей, каб да мазгоў дайшло, да душы прылягло...

– Да душы, кажаш... Да якой душы? – страпянуўся Чубік.

– Да нашай, да сялянскай, да мужыцкай, да якой жа яшчэ, – удакладніў Антось.

– Янук Дайновіч мне неяк усё пра беларускую душу даводзіў, – згадаў чамусьці Чубік.

– І да беларускай таксама…

– Да беларускай?.. Зарасла гэтая душа, як той курган векавечны, дзікім дзірваном...

– Дык, калі трэба – лес карчуюць, а тут – усяго дзірван нейкі...

– Дык жа, калі трэба. А каму гэта трэба? Га? – Чубік зноў ажывіўся. – Пуценьку можа трэба? Цэрберу, Мокшу, Кацалапаву, Сьцяпану?..

– Каго ты бярэш... Ёсьць жа й такія, каму трэба... Станкевічы, да прыкладу, з Вурлянятаў...

– Адныя Станкевічы з Дайновічам дзірван не падымуць і Беларусі ня зробяць, а гэтых – улада! А дзе падзеліся астатнія: альбо на сухоты западуць і памруць, альбо дапамогуць ім памерці тыя, каму гэта ня трэба... А насельніцтву – абы бруха было чым набіць... А душа, пра якую ты кажаш, ня кожнаму даецца... І будзе яна, як метка для прыцэлу. І кожны прышлы будзе цябе зьнішчаць як фізічна, так і духоўна... І найбольшая крыўда будзе ад таго, што свае зьявяцца пустадомкі і нікчэмнасьці, якія будуць зьдзекавацца над гэтай душой болей за іншых... Іх будзе час...

– А хіба тут калі быў іншы час?

– Вось бачыш, разумееш трохі... Іншы быў, але такога не было...

– Не разумею, Чубік, я аднаго: калі душу даў Бог, як можна яе зьнішчыць? Каму трэба зьнішчаць тое, што даў Бог?

– Я табе казаў ужо пра сілу...

– Дык жа няможа быць іншай сілы мацнейшай за Бога!

– Але яны так ня думаць... Для іх няма Бога! А што ты ведаеш пра філясофію гістарычнага падману?.. Калі душу нельга зьнішчыць, дык яе можна падмяніць. І ты ўжо будзеш звацца не ліцьвінам, а беларусам, а пасьля, як трэба будзе, назавешся рускім, ці палякам. І пытаньняў такіх ты задаваць ня будзеш... І, калі трэба, будзеш гаварыць так, як трэба, як казаў «слухам пану», так скажаш і «слушаюсь товарішч», і скажаш «здравствуйте», і скажаш «пожалуста»... Бо калі так не загаворыш, дык і мецьма нічога ня будзеш, і сканаеш заўчасна...

– А шанцунак? Павінен жа быць нейкі шанцунак! Ня можа быць без шанцу!

– Шанцунак? – здзівіўся Чубік.

– Шанцунак, шанцунак! Бог заўсёды дае шанцунак!

– «Душу расьпялі беларуса...», – напіша паэт... А шанцунак?... Можа, і дае Бог шанцунак, але яго яшчэ трэба знайсьці і скарыстаць...

– Вось і я пра што...

– А яшчэ нехта, больш моцны, гэты шанцунак забірае...

– Падманам?!. Хто забірае?

– Усё, едзь дахаты! – раптам абарваў Чубік.

– Трэба ехаць, – згадзіўся Антось і вылез з-за стала. Але, як толькі выйшлі з хаты, Антось не вытрымаў і спытаўся:

– Дык, усё ж такі, што ты скажаш наконт шанцу?

– Едзь дахаты, я табе ўжо сказаў!

– Я тут прыехаў... Я тут прывёз... – Антось толькі цяпер успомніў пра торбачку з гасцінцам.

– Добра, дзякую, пакінь...

– А я ж сам з такой нагоды... Там карова, прывязаная да воза... Можа, ужо акалела дзе...

– Яшчэ не акалела, але можа акалець! – супакоіў Чубік. – А што з каровай?

– Ня есьць, не жвакуе, не мычыць, ня целіцца...

– Даўно?

– Ды ўжо тыдзень які...

– Кажаш, тыдзень... Якраз пост пачаўся, зараз шмат хто адмаўляецца ад яды...

– Але ж – карова?..

– Ну й што!

– Дык жа да канца посту ня вытрымае...

– Відаць, так Богу ўгодна...

– Дык мне яе, што? Можа, да споведзі звадзіць?

– Ты лепей да быка яе звадзіў бы!

– Вадзіў...

– Мала вадзіў! Пайшлі, лепш глянем.

– Пайшлі.

Выходзячы з падворка на вуліцу, Чубік раптам спакойна прагаварыў:

– Іду неяк, гляджу, стаіць з крыжам...

Тут Чубік зрабіў доўгую паўзу, быццам, думаючы, казаць далей ці не казаць.

– Хто стаіць? – не вытрымаў Антось.

– Хрыстос стаіць...

– Хто? Хто?

– Ты што, глухі?.. – Чубік развярнуўся да Антося. – Ісус Хрыстос, сын Божы і чалавечы, які быў расьпяты на крыжы пры Понці Пілаце, стаіць з крыжам каля дарогі...

– Каля якой дарогі?..

– Што вядзе ў Гародзькі... Табе дарога патрэбна?

– Не-а-а...

– Дык вось, пытаюся ў Хрыста: «Чаго ты тут з крыжам гэтым цягаешся, ходзіш туды-сюды?.. Расьпялі цябе, замучылі на гэтым крыжы, а ты цягаеш яго паўсюль...».

– У імя Айца, Сына і Сьвятога Духа, – на ўсякі выпадак уголас перакрысціўся Антось, а сам падумаў: «Казалі ж людзі,

што з галавой у Чубіка ня ўсё ў парадку... відаць загаварыўся ўжо... уцякаць трэба...».

– Ну, ну... Людзі шмат што гавораць... А ад мяне не ўцячэш, – развееў усякія сумненні Чубік. – Але слухай далей. Ён і кажа...

– Хто кажа?

– Хрыстос кажа: «Дык мяне ж ніхто ўжо без крыжа не пазнае...».

– Без крыжа як ты пазнаеш – цяжка пазнаць, – пагадзіўся Антось.

– Ото, дурань, – даволі ціха прагаварыў Чубік.

– Хто? – не зразумеў Антось.

– Ну, не Хрыстос жа!

– А-а-а!

– Дык вось, – працягваў Чубік. – А я яму й кажу, што, маўляў, цябе хутка і з крыжам гэтым ня будуць пазнаваць... А Ён...

Чубік раптам замоўк. У Чубіка была такая завада: спыніцца на сама цікавым і замаўчыць.

– Ну, а Ён што?.. – не цярпелася даведацца Антосю.

– Хто, ён?

– Хрыстос...

– Які Хрыстос?

– Ну той, што з крыжам...

– Зь якім крыжам?..

– Ну, зь вялікім... драўляным... жыватворчым...

– Ты чаго прыехаў?! Табе што, крыж патрэбны?

– А-а-а... Не... Але ж...

– Бэ-э-э! – перадражніў Чубік і спрытна захадзіў каля каровы. Памацаў адзін бок, другі, пашчупаў вымя, разявіў пысак і зазірнуў у рот. Пасля пайшоў і прынёс нейкі бурдылёк з лекамі, загадаў Антосю трымаць карову за рогі і заліў ёй гэтае змесціва ў рот. Пасля прагаварыў:

– Усё будзе добра!

– Гэта Ён так сказаў?

– Гэта я так сказаў.

– А Ён?

– Хто? – Чубік агледзеўся вакол сябе, быццам некага шукаў і спытаўся:

– Ты пра што?

– Я пра Яго...

– А я пра карову.

– А-а-а... Можа, рабіць што трэба?

– Зь кім?

– З каровай...

– Анічога! Гэта якраз той выпадак, калі трэба не рабіць, а адрабляць!

– Можа, лепш зарэзаць?

– Каго?

– Карову...

– А маслазавод?.. Дзе будзеш браць малачко, вяршок, сьмятану для дзяцей?

– Дык, выходзіць, дарма ехаў толькі...

– Не, не дарма!.. Скажы бабе сваёй, хай нальe малако на патэльню і на жару даводзіць да кіпеню. Калі ў гэты час нехта прыйдзе ў хату нешта пазычаць – гані яго чым далей ад хаты – гэта тое зайздроснае вока, што падрабіла вашай карове.

– А з малаком што рабіць?

– Выльеш на крыжавыя дарогі...

– Можа, лепш сьвінням?

– Усё! Едзь дахаты! Глядзі, толькі краем, полем, берагам, як я казаў...

– Добра...

– Лепей – добра схавайся!

– Каб быць шчасьлівым?

– Каб выжыць!

– Схаваюся...

Антось не спяшаўся адыходзіць, і гэта Чубік заўважыў.

– Што яшчэ?

– А Ён, усё ж такі, а Ён што сказаў?..

– Едзь дахаты!..

Антось пакруціўся каля воза, адвязаў лейцы ад плота, а пасля падышоў да Чубіка і прагаварыў:

– Над Ім таксама зьдзекваліся і расьпялі Яго, але ж Ён уваскрос!

Чубік маўчаў і глядзеў на Антося, быццам убачыў яго ўпершыню.

– Вось гэтага я не магу ўзяць у толк... Можа, ня тымі моргамі мераем гоні? – зноў спытаўся Антось.

Чубік моўчкі развярнуўся і пайшоў дахаты.

– Вось так – гаварыць ня хочаш, бо ня маеш што сказаць, – услед яму прагаварыў Антось.

Антось зразумеў, што ад Чубіка зараз нічога не даб’ешся – трэба ехаць. Ён няспешліва залез на воз і ўсеўся.

– Ну, дык, дзякуй вялікі, Чубік, і бывай здаровы, – крыкнуў Антось на развітанне ўжо з воза і таргануў лейцы.

Трошкі ад'ехаўшы ад хаты, ён азірнуўся – Чубік стаяў каля варотаў і глядзеў яму ўслед.

– Чубік! – пракрычаў раптам Антось. – Як убачыш Яго, скажы, ці ня лепей зараз Яму з палкай хадзіць, так больш шанцаў!…

А сам сабе падумаў: «А што тая палка, калі зараз стрэльбы ў моду пайшлі, амаль што кожны з абрэзам ходзіць…».

І тут альбо пачулася Антосю, альбо здалося, бо голас Чубіка быў нейкім ненатуральным:

– Аніякага шанцунку...

Антось хацеў яшчэ ўдакладніць, маўляў, у каго няма аніякага шанцунку, але тут вазок выехаў на стары брук, і колы загрукаталі так, што крычаць ужо не было сэнсу.

Што да шанцу, – думаў пасля Антось, – дык кожны яго разумее з свайго гледзішча, з свайго ўяўлення магчымасці шанцу: хто не страціў веры ў свой шанцунак, у таго і болей шанцаў...

Не хочацца верыць у тое, што ў Чубіка няма шанцаў... Відаць, не хоча Чубік скарыстаць свой шанцунак – вось дзе магчымая разгадка яго песімізмы... Толькі вось пытанне, чаму не хоча?.. Няўжо тыя прароцтвы, пра якія ён казаў, не даюць яму шанцаў? А яму, Антосю, парада добра схавацца – хіба гэта не шанцунак? А яго Хрыстос з крыжам, як зразумець гэта? Ведае нешта Чубік такое, пра што гаварыць не хоча. А можа, і гаварыць пра гэтае пакуль што нельга? Відаць, у гэтых вайдэлотаў свае законы, свой нейкі сэнс, які мы ўжо даўно страцілі, а новага так і не зразумелі?..

Тут шмат пытанняў.

Антось тады быў перакананы толькі ў адным меркаванні: што трэба будзе калі выбраць вольную хвіліну і падскочыць яшчэ раз да Чубіка.

## 29. «У кожнага свая вышка…»

А праз колькі дзён знайшлі нежывога Юрася Левановіча. Жыў ён у Ручаях з жонкай, дзяцей не было, меў каля гектара зямлі і невялічкую гаспадарку – з гэтага і жыў, вось абы не памерці з голаду. На калектыўную працу ён не хадзіў і ўвогуле стараўся не паказвацца на людзях. Вёў ён такі непрыкметны лад жыцця, што пра яго, як беднага селяніна, нават не ўспомнілі актывісты з камбеду, калі дзялілі панскае дабро Дабрынскага і Дэмскага. Не ўваходзіў ён ані ў якія камітэты, не хадзіў на сходкі і іншыя імпрэзы новай улады; складвалася ўражанне, што ён не заўважае гэтай улады.

Калі хто пытаўся ў Левановіча, чаму ён не ідзе ў камуну, не ўступае ў калгас, ён адказваў кожнаму коратка:

– А каму якая справа?

І сапраўды, якая каму справа…

Толькі Сцяпан на такі яго выпад меў свой адказ:

– Мне да ўсяго сягоньня справа!…

І гэтае ягонае «да ўсяго» палохала людзей.

І Левановіч не раз задумваўся над тым, а ці пакінуць яго ў спакою і надалей, а ці дадуць яму жыць так, як ён жыве і як хоча жыць? А можа за лепшае ісці і здавацца гэтым калгаснікам? Тым болей, што сам ён некалі змагаўся за гэтую рэвалюцыю, і быў засуджаны белагвардзейскім афіцэрам да смяротнага пакарання за «измену Родине», і быў цяжка ранены, і адпакутаваў сваё пасля ў польскіх пастарунках і турмах, таксама за «здраду Ойчызьне»... А сёння, можа, гэта і ёсць тая Айчына, за якую ніхто не стане расстрэльваць і садзіць у турму?.. Ці ўсё ж такі, за лепшае, нікуды не рупіцца, жыць так, як ёсць, быццам цябе і няма і ўсё, што навокал робіцца, цябе не датычыць...

Калі неяк Антось спаткаў яго ў мястэчку, дык вельмі здзівіўся ад сустрэчы. Юрась некалі дапамагаў Антосю бярвенні цягаць з рускіх бліндажоў на пабудову хаты, і з таго часу між імі былі добрыя адносіны. Але, нягледзячы на гэта, разгаварыцца з Левановічам Антосю не ўдалося – не гаваркім быў Левановіч: нешта буркнуў у адказ на прывітанне Антося і пайшоў сваёй дарогай. Што ж, відаць, такі характар быў у чалавека.

І вось, на табе – няма чалавека.

А хто можа даць гарантыю, што калі ты іншы раз нікога не чапаеш і нікуды не лезеш, дык і да цябе ніхто не будзе чапляцца і лезці?.. Хто можа ведаць і падказаць, што маральныя ўстаноўкі, прыдуманыя чалавекам, ігнаруюцца законамі фізічнага выжывання таго ж самага чалавека?.. Што ёсць яшчэ нешта, чаго мы не ведаем, але ад чаго вельмі і вельмі залежым?..

Знайшлі Левановіча за гумном з разбітай галавой. На тэму гэтага забойства нават Пуценька маўчаў, адно казаў, што следакі з раёну разглядаюць тры версіі: самагубства, альбо звычайная «бытавуха» – замешанасць жонкі ў яго забойстве, ці ў гэтым дапамаглі суседзі. Следакі болей схіляюцца да самагубства, маўляў, яны гаварылі, што зараз у кожным раёне здараецца некалькі падобных выпадкаў штомесяц. Так, да прыкладу, у Ашмянскім раёне ў в. Валодзькаўшчына забіты стрэлам з рэвальвера грамадзянін Чаплінскі Браніслаў. Следакамі ўстаноўлены

акт самагубства і крымінальную справу спынілі. Альбо выпадак ў Мядзельскім раёне: Макевіча Мікалая выклікалі ў сельсавет, куды ён і пайшоў. А назаўтра знайшлі яго павешаным у лесе на дзяжцы. У выніку следчай працы ўстаноўлена, што Макевіч М. М. *«решил покончить жизнь самоубийством через повешиванье, причина смерти не установлена, из показаний свидетелей видно, что он сильно боялся органов НКВД и поэтому решил задавиться... Уголовное дело прекращено...»*[1]. Альбо ў Смаргонскім раёне ў в. Вішнёўка: два суседы пабіліся між сабою і адзін вырашыў спаліць пабудовы другога, а заадно і самога суседа.

Можа, яно і так было, як даводзіла міліцыя. Толькі вось у Валодзькаўшчыне і Муравана-Ашмянцы добра ведалі братоў Чаплінскіх як сяброў Беларускай хрысціянскай дэмакратычнай партыі і змагароў за беларускасць. Даліся ў знакі браты тамашнім палякам. Не аднойчы ў іх бываў сам лідар беларускага руху святар Адам Станкевіч. І пад вялікім пытальнікам застаецца ў людской свядомасці факт таго, хто зрабіў той самы стрэл з рэвальвера?..

Што да Левановіча, дык самагубства аніяк не ўкладвалася ў сітуацыю: чалавек напачатку аглушыў сябе палкай, а пасля так хацеў памерці, што нанёс сам сабе па галаве некалькі ўдараў камянём. Цяжка было ўявіць, як Леваўновіч біўся патыліцай аб тыя камяні.

Пад вялікім сумнівам была і версія наконт жонкі Левановіча. З першага, дзяліць ім не было чаго, з другога, наўрад ці набожная, у гадах ужо жанчына адважылася б на забойства мужа толькі дзеля таго, каб застацца ўвогуле адной? Дарэчы, яна першай і знайшла мужа з разбітай галавой, тут жа загаласіла і страціла прытомнасць.

Вёска Ручаі не мела адной суцэльнай вуліцы – хаты былі раскінутыя на адлегласці дзвесце-трыста, а не дык і болей метраў адна ад другой. Нейкі крык выпадкова пачула Часноўская, бліжэйшая суседка – хадзіла за хлеў да ветру. Пра крык яна сказала свайму мужу, Язэпу, і яны (з імі яшчэ пацягнулася малалетняя дачка) прывялі ў прытомнасць Левановічыху, а пасля дапамаглі перанесці ў хату абкрываўленага і нежывога Левановіча. Дарэчы, Часноўскія, гаварыў Пуценька, таксама у ліку падазроных – разглядваецца версія спробы згвалтавання Левановічам дачкі Часноўскага. Усе тры версіі былі нерэальнымі і абсурднымі – гэта разумелі ўсе, хто ведаў Левановіча і «падазроных».

Складвалася ўражанне, што міліцыя і савецкія караючыя структуры імкнуцца як хутчэй знайсці вінаватых, «закрыть дело» і атрымаць прэміі, альбо некаму вельмі трэба было, каб ў

[1] Выкарыстаны дакументы Занальнага дзяржаўнага архіва г. Маладзечна: ф..Р-60.

гэтым забойстве былі абвінавачаныя зусім не вінаватыя людзі, можа быць, з той нагоды, каб чым далей адцягнуць увагу і падазронасць ад сапраўднага забойцы.

Людзі гаварылі, што за некалькі дзён да забойства бачылі Левановіча на Крыжовых Дарогах – ішоў у мястэчка. Пасля стала вядомым, што хадзіў Левановіч у раён, дзе яго старэйшы брат займаў нейкую высокую пасаду. Так атрымалася, што рэвалюцыя і грамадзянская вайна параскідала братоў па свеце і сустрэцца яны змаглі толькі ў версні 1939 г., калі брат Юрася апынуўся на радзіме з першым эшалонам савецкіх спецыялістаў. З якімі мэтамі ён хадзіў да брата – цяжка было сказаць. Можа, так, проста, пабачыцца, а можа, з нейкімі крыўдамі і скаргамі на новую мясцовую ўладу, хаця, здаецца, тут не было на што яму наракаць, – ён сам нікуды не высоўваўся і не лез, і яго ніхто не чапаў, – і такі спосаб існавання задавальняў яго цалкам. А можа, хадзіў да свайго брата з нейкай нагодай, парадай, хадзіў, можа. каб спраўдзіць свае адвечныя пытанні і наважыцца на рашучы крок. Яшчэ, казалі, што Левановіч цікавіўся, колькі можна пры Саветах трымаць вуллёў з пчоламі і ці трэба пералічваць пчол ў вуллях? Хто ведае, можа, і гэтыя пытанні заставілі яго пайсці на сустрэчу з братам. Ва ўсякім разе, следакоў павінна была зацікавіць іх сустрэча.

На трэці дзень пасля забойства Левановіча арыштавалі яго брата ў раёне – аказаўся замаскаваным ворагам савецкай улады. Болей таго, следакам быццам бы ўдалося даказаць, што братамі Левановічамі была створана нейкая канспіратыўная контррэвалюцыйная арганізацыя, якая ставіла мэту звярнуць савецкую уладу. Што быццам бы брат Левановічаў даў дазнанні, і паводле іх у арганізацыі было дванаццаць чалавек, якія і вялі падрыхтоўку да «антыправіцельственнага перавароту». Па гэтай справе міліцыя стала цягаць суседзяў, усіх знаёмых і сваякоў. Перад усімі ставілі адныя і тыя ж пытанні: калі апошні раз сустракаліся з Левановічамі?.. Пра што гаварылі?.. З кім яшчэ сустракаўся Юрась Левановіч?

А раскрыў гэты «антысавецкі загавар» старшы аператыўны ўпаўнаважаны раёну лейтэнант НКВД нехта тав. Сухарукаў, які з'явіўся ў раёне з першым эшалонам савецкае наменклатуры.

Не трэба быць вялікім следаком у гэтай справе, каб бачыць, што «антысавецкі загавар» Левановічаў – гэта вышыванка белымі ніткамі. Паралельна афіцыйнай версіі гэтай справы выцінался іншая версія, народная, паводле чуткаў, здагадкаў і некаторых фактаў, якія чамусьці не зацікавілі следакоў. Так, да

прыкладу, брат Левановіча на допытах расказваў, што, калі ў час іхняй сустрэчы з Юрасём у кабінет зайшоў таварыш Сухарукаў, Юрась збялеў. І таварыш Сухарукаў павёў сябе вельмі дзіўна: тут жа хуценька развярнуўся і пайшоў да дзвярэй. Ён ледзь паспеў яму сказаць: «Таварыш Сухарукаў, я да вас зайду трохі пазьней». А Юрась некалькі разоў паўтарыў «ня можа быць, ня можа быць...» і гэтак жа хуценька прыспешыў дахаты. Ужо на парозе брат запытаўся, як ён называў гэтага, уваходзячага, і што ў яго за пасада, а пачуўшы адказ, зноў гаварыў «ня можа быць, ня можа быць...». Старэйшаму Левановічу здалося, што яны пазналі адзін аднаго. Пасля ён шмат думаў над гэтым выпадкам. І згадаўся адзін эпізод, які вельмі і вельмі даўно расказваў яму сам Юрась. У гады грамадзянскай вайны трапілі яны у палон да нейкіх бандытаў. Атрадам якіх камандаваў нехта капітан Чэпелеў. Яны яго празвалі Чапялой. Тры дні катаваў іх Чапяла за «измену Родине», а над сама маладым, Васем Сухарукавым, здзекваўся так, што ў іх валасы становіліся дыбам; не вытрымаў такіх катаванняў Вася і памёр. А пасля Чапяла ўласнаручна застрэліў кожнага – усіх пяць чалавек: ставіў на калені, адыходзіўся і страляў, як у мішэні. А калі бандыты з'ехалі, людзі іх хавалі ў адной магіле. І ў час тады Юрась прастагнаў, бо быў бы закапаным жывым. Кулька, дасланая Юрасю, прайшлася ў сантыметры ад сэрца. Тры месяцы адыходзіў Юрась, пакуль добра ачуняў. Спадзяваўся ўпотайкі, што, можа, ужо болей не прыйдзецца ваяваць, што, можа, вайна скончыцца за гэты час, але не тое было: пасля шпіталю апынуўся Юрась на польска-савецкім фронце. Аднойчы, калі яны стаялі на нейкай станцыі пад Воршай, камандзір загадаў яму прывесці ў штаб перабежчыкаў. Пайшоў Юрась за імі і быў вельмі здзіўлены, калі сярод іх убачыў Чапялу. Той, вядома, ня кінуўся ў абдымкі пры такой сустрэчы – ударыў яго кулаком у грудзі, як раз у тое месца, куды некалі дасылаў кульку, і Юрась загрымеў патыліцай па шпалах і рэйках. Толькі падаючы Юрась паспеў стрэльнуць – гэта яго і ўратавала. Салдаты пачулі стрэл і прыйшлі на дапамогу. Праўда, Чапялу тады ўдалося ўцячы.

Зразумела, што гэтыя аповяды пра Чапялу ніхто не будзе правяраць, і яны не могуць быць фактамі, нават для падазронасці, а не тое, каб узбуджаць нейкую справу. Тым болей, што справу гэтую вядзе сам таварыш Сухарукаў і ўсе гэтыя падзеі дваццацігадовай даўнасці праходзяць як «клеветнические измышления» і яшчэ болей абцяжарваюць становішча Левановічаў.

Старшы оперупаўнаважаны таварыш Сухарукаў не адмаўляе свайго з’яўлення ў кабінеце Левановіча, бо менавіта

ў гэты момант, калі ён зайшоў, адзін Левановіч перадаваў другому нейкія паперы, што і стала нагодай для падазронасці і далейшага высвятлення абставінаў. З тлумачальнай запіскі таварыша Васіля Сухарукава выходзіла, што ён, «согласно служебным обязанностям, зайдя в кабинет заместителя председателя райпотребсоюза товарища Леоновича, увидел незнакомую и подозрительную особь, сидевшую за столом с антисоветским выражением на лице, а выражало то лицо, чем садятся на крыльцо... Такого издевательства стерпеть я не смог...». І тады ён, таварыш Сукарукаў, хуценька выйшаў з кабінету Левановіча толькі таму, што надумаў устанавіць слежку і затрымаць Левановічаў.

У кожнага свая праўда.

Часноўскі, сусед, напачатку гаварыў пра тое, што ў дзень забойства ён зранку бачыў оперупаўнаважанага Цэрбера ў Ручаях, а Цэрбер, у сваю чаргу, даводзіць, што з'явіўся ён у вёсцы толькі пад вечар, калі яму далажылі пра забойства Левановіча. Праўда, пасля таго як нехта вельмі моцна пабіў Часноўскага, ён даў дазнанні, што «ў той дзень быў вельмі моцна п'яным і нічога не відзіў, а калі нешта і відзіў, дык нічога не помніць».

Чамусьці пад увагу не былі ўзятыя заслугі Левановічаў перад савецкай уладай: калі Юрась толькі ваяваў, дык яго стрыечнік браў Зімні і ўстанаўліваў савецкую ўладу на Віцебшчыне і Смаленшчыне, быў старшынём калгаса і сакратаром райкама партыі.

Заключным акордам у гэтай гісторыі сталі ўяўленні людзей пра вышыню: той, хто за польскім часам быў на «вышыні», пры Саветах апусціўся да ўзроўню «ворага народу» і, адпаведна, турмы. Той, хто раней быў нічым, той пры Саветах альбо стаў усім, альбо стаў падымацца па службовых сходках уверх. Праўда, пад'ём гэты быў вельмі крутым і слізкім, і чым вышэй, тым небяспечней, але, збольшага, ад такога наменклатурнага альпініста анічога не залежала, пра што яскрава гаварыў выпадак з Левановічамі. Так і атрымалася, што былы раённы савецкі начальнік Левановіч вымушаны ў Ашмянскай турме чакаць прысуду Вэшэйшага Суда, з усімі абвінавачваннямі і верагоднасцю да вышэйшай меры пакарання, а капітан Сухарукаў, казалі, пайшоў на павышэнне з пераводам на новую пасаду ў вобласць.

Болюсь Бутка, з гэтай нагоды, выказаў вельмі слушную думку: «У кожнага свая вышка...».

## 30. Падаткі

Яшчэ адзін падарунак ад савецкай улады «трудзяшчымся і сялянам» быў даведзены з вясны 1940 года – гэта жорсткая прадразвёрстка. У некаторых вёсках яе называлі падаткам, альбо паборам, альбо «кантынгентам», але, як бы яе ні называлі – час паказаў, што сутнасць яе была адной: аддай дзяржаве тое, што з зямлі падняў, што з дрэва зняў, што ў пчолы узяў...

Плацілі падатак і пры Польшчы, але тыя паборы не выклікалі столькі абурэння, колькі гэтыя. І зноў, як некалі перад Мікалаеўскай вайной, сталі хадзіць камісіі і даводзіць да кожнай хаты, колькі і чаго павінен быў здаць гаспадар дзяржаве. Даваўся тэрмін на «дабравольнае вяртанне дзяржаве нарабаванага народнага дабра» – абсалютна незразумелы сялянам набор славаў: чаму народнага, чаму нарабаванага, калі яны самі на сваёй зямлі сваё пасадзілі і сваё спажываюць... А пасля тыя ж «члены» камісіі ездзілі дварамі і «выбівалі» дабро паводле сваіх спісаў і падлікаў у тых, хто дабравольна яго не вярнуў. Разлічыцца з дзяржавай было няпроста. Іншым прыходзілася аддаваць большую палову збожжа, а што заставалася – пакідалі на сяўбу, але ніхто не даваў гарантыі, што вясной не прыйдуць і не выграбуць апошняе каліва з аруда, што, дарэчы, і рабілася. У такіх членаў камісіі, як Цэрбер, Кацалапаў, Пуценька склалася ўражанне, што тут не толькі кулакі і падкулачнікі, але ўсе з'яўляюцца жулікамі і хлусамі, якія толькі і думаюць пра тое, як абмануць савецкую дзяржаву. Сцяпан казаў, што трэба ведаць і разумець натуру нашага селяніна: колькі з яго ні бяры, нават па мінімуму, ён усё роўна будзе крычаць, што забіраюць апошняе. Дарэчы, Сцяпан, можа, з той нагоды, што ведаў тую натуру, стаў галоўным (упаўнаважаным) зборшчыкам натуральнага падатку з людзей.

Зразумела, што ў падатковых камісіях было сваё начальства і да кожнай гаспадаркі стараліся падыходзіць індывідуальна: у залежнасці ад ступені сваяцтва да начальства, знаёмстваў, сяброўства і звычайнага падхалімажу, што вельмі падабалася начальству. Так і атрымлівалася, што ў адной хаце вымяталі ўсё пад чыстую, у другой – напалову, а ў трэцяй – так, дзеля ліку, альбо адразу рабілі адзнаку, што ўсё здадзена.

Такая падатковая палітыка моцна ўдарылі па тых, хто не ўступаў у калгас. А калі яшчэ чалавека нельга было ўлічыць у антысавецкай дзейнасці, тады яго спецыяльна абкладвалі непамерным падаткам. Маеш карову – здай столькі малака, каб

засталося хіба што кату на раз хлебануць, а яшчэ трэба здаць і масла, і сыр; маеш авечку – здай столькі і столькі воўны; маеш курыцу – здай яйкі, а сабе поклад можаш пакінуць, і гэтак далей. І так атрымлівалася, што каровы столькі малака не давалі, а на авечках не магло вырасці столькі воўны і куры не маглі знесці столькі яйкаў, колькі ўсяго гэтага трэба было аддаць сама магутнай дзяржаве ў свеце. А яшчэ трэба было плаціць за зямлю, за каня, за тую карову, за курыцу, за яблыню, за сліву – за ўсё трэба было плаціць. Здавалася, што ў гаспадарцы завёўся нейкі пражорца-цмок, якога, як не кармі, а яму ўсё давай і давай.

Мясцовыя актывісты і сельсаветчыкі пільна адсочвалі кожны крок падаткаплацельшчыка. Калі бачылі, што чалавек можа звесці канцы з канцамі, тут жа ішоў сігнал куды трэба, і праз пару дзён даводзіўся іншы, павялічаны падатак і гаспадару нічога не заставалася, як толькі збываць сваю гаспадарку, каб уплаціць у час, альбо лезці ў пятлю, альбо быць абвінавачаным у палітычным і эканамічным сабатажы савецкай улады – гэта значыць, стаць злосным неплацельшчыкам і ворагам народу і быць выселеным у Сібір разам з сям’ёй. У калідоры сельсавета вісеў страшны плакат: нейкі хамаваты дзядзька, хаваў у кулаку грошы і крычаў : «Не дам!», а на заднім плане быў намаляваны профіль чалавека ў форме НКВД і знізу быў акуратны надпіс: «Нявыплата падаткаў своечасова з'яўляецца вялікім парушэннем Сталінскай Канстытуцыі і дзяржаўным злачынствам!»

Што бывае за такія злачынствы, людзі ўжо добра ведалі.

А падаткі раслі да таго моманту, пакуль сям’я не рабіліся «ворагамі народу».

Непамерна вялікім падаткам прыціснулі ксяндза і папа ў Мястэчку. Хадзілі святары хатамі не толькі па калядзе, але і на Сёмуху і пасля Сёмухі абы сабраць хоць якую лішку і разлічыцца з уладай, але, відаць, з гэтага анічога не атрымалася, і напачатку зачынілі касцёл, а пасля і царкву, а святароў, як злосных неплацельшчыкаў і цемрашалаў, арыштавалі.

Пытанні наконт падаткаў падымаліся не аднойчы на калгасных сходках, альбо пасля культурных імпрэзаў ці пры сустрэчах з раённым начальствам, але такія сустрэчы суцяшэння сялянам не прыносілі.

У верасні 1940 г. святкавалі ў калгасе першыя дажынкі. Свята ладзілі на падворку Дабрынскага. Для гэтага пашырылі

дошкамі цэнтральны ганак дому і – атрымалася добрая сцэна. Калі на сцэну было каму падняцца і сесці ў «прэзідыум» за чырвоны стол, дык гледачоў, апрача дзетвары, прыйшлося зганяць гвалтам. Па звычцы людзі ў нядзельку накіраваліся ў Мястэчка, але Пуценька з Цэрберам на гасцінцы заварочвалі іх назад, маўляў, «для масавасці правядзення мерапрыемстваў савецкай улады». Людзі пляваліся, але ім нічога не заставалася, як толькі вяртацца і ствараць масавасць.

Пасля таго як калгаснікі атрымалі сімвалічны разлік за месяц на працадні (збожжа – каля 2,7 кіляў, фуражных кармоў – 5 кіляў, грашыма – 56 кап.), некаторыя калгаснікі перасталі хадзіць на калгасную працу ўвогуле, а шмат хто прынцыпова перастаў наведваць усякія мерапрыемствы савецкай улады.

Напярэдадні Цэрбер, Пуценька і Сцяпан ставілі канкрэтнае пытанне перад сялянамі: альбо прыйдзеце на наша свята і будзеце радавацца з намі, альбо паедзеце сеяць рэпу ў Сібір.

Прыйшлося людзям ісці і радавацца, хоць радавацца, па вялікім рахунку, не было з чаго, бо не было гэтага вялікага рахунку. Ураджайнасць у калгасе была вельмі нізкай: збожжа – у сярэднім 11 ц. з 1 га., бульбы – 200 ц., аўса – 1 ц. з 1 га., ячменю – 4 ц., яравой пшаніцы – 3,7 ц.

Прыкладна, такія паказчыкі былі і ў іншых калгасах.

На свята з раёну прыехала ажно пяць чалавек начальства – адно другога большае – усе пад капялюшамі, у доўгіх паліто і з папкамі пад пахамі. Адзін з іх чытаў даклад на тэму: «Сацыялістычная ўласнасць – аснова Савецкага ладу». Пасля дакладу пайшла цырымонія ўручэння пахвальных граматаў і падзякаў лепшым калгаснікам, сярод якіх апынуліся Сцяпан, Цэрбер, Кабяк, Зінка і адзін таварыш з раёну.

Вось тут таксама незразумела было, пры чым тут Цэрбер, Кабяк і таварыш з раёну, невядома што яны тут дажыналі, але узнагародзілі і іх граматамі і каштоўнымі падарункамі. Цэрберу і Кабяку па наручнаму гадзінніку, а раённаму ўручылі вялікі і тоўсты партфель.

Сцяпан і Зінка таксама атрымалі граматы і па партрэту І. В. Сталіна.

Але галоўным героем дажынкаў нечаканна стаў Сцяпан.

Як казаў старшыня сельсавета, Сцяпану ўдалося ў сваёй брыгадзе арганізаваць, працу па-камуністычнаму. Не толькі ў калгасе імя «18 верасня», але і ў раёне Сцяпанава брыгада займала пачэснае першае месца ў сацыялістычным спаборніцтве. Сцяпан болей, чым іншыя, у час пасеяў зерне і бульбы і ў час

сабраў, захаваў, нягледзячы на мор, большую колькасць буйнарагатай жывёлы і іншых парнакапытных, і брыгада Сцяпана пабіла ўсякія рэкорды ў зборы натуральнага падатку з сялянаў-аднаасобнікаў. Сцяпана хваліў і Кацалапаў і нават таварыш з раёну, хвалілі як здольнага арганізатара і кіраўніка, ставілі ў прыклад іншым. Рукапляскі ў гонар Сцяпана гучалі амаль што на працягу ўсёй імпрэзы дажынак.

Самі ж сяляне і аднавяскоўцы такой вялікай радасці з начальствам, з нагоды пераможцаў у сацыялістычным спаборніцтве, не раздзялялі – усе ведалі і добра помнілі, як Сцяпан выганяў людзей на працу пад дулам рэвальвера, як апустошваў людскія амбары, збіраючы падаткі і павялічваючы насенны фонд калгасу, як урэзаў сялянам зярно за працадні, і шмат чаго яшчэ можна было нагадаць, але тым не меней, Сцяпан быў героем.

Неяк Болюсь Бутка прагаварыў:

– Няма горшага за чорта, як той чорт з свае кагорты...

І хаця Болюсь не вымаўляў імя, але няцяжка было зразумець, каго ён меў на ўвазе.

Тым часам свята працягвалася. Пасля пачаўся канцэрт мастацкай самадзейнасці. Вядучая з раённага дому культуры гаварыла доўгі і нудны верш пра рэвалюцыю, Леніна і камуністычную партыю. Пасля спявалі капэлы нейкія рэвалюцыйныя і савецка-вайсковыя гімны і маршы. Трохі павесялела, калі на сцэну выйшаў гарманісты Санька і «разануў» беларускую польку. На падворку бабы нават закруціліся ў танцы. Пасля некалькі песняў «Ой, сівы конь бяжыць» і «Гоп, мае грэчанікі» – праспявалі мясцовыя жанчыны. Калі ж даспявалі «Гоп, мае грэчанікі», перад сцэнай раптам апынуўся Васіль Далькевіч і з крыкам «Гоп-гоп!» пайшоў у скокі. Калі ж Санька стаў яму трохі падыгрываць, Далькевіч вельмі гучна заспяваў:

*Гоп мае грэчанікі,*
*Пайшлі жыды ў начальнікі,*
*Беларусы – у калхоз,*
*А палякі – на вывоз!*
*Гоп! Гоп!*

Зрабіць яшчэ адно калена ў танцы Далькевічу ўжо не далі. Да яго хуценька падскочылі Пуценька і Трэпелеў і сілай адцягнулі ў бок.

Выхадка Далькевіча збіла ўсякі імпэт свята і весялосці. Вядучая зрабіла спробу прачытаць верш «на нашым полі, полі калгасным, дзянькі праходзяць весела, ясна...», але людзі

паднялі нейкі такі незразумелы шум, што голасу вядучай ніхто не чуў. Абсвісталі чамусьці на гэты раз і Саньку, калі ён выйшаў з гармонікам і заіграў «Яблачка».

І тады на сцэну падняўся герой дня – Сцяпан і шум прыціх. Сцяпан сказаў, што ён не спявань выйшаў, а толькі нагадаць, што можа быць за зрыў такога мерапрыемства. Пасля гэтага стала зразумелым, што людзі хацелі б «у адкрытую» пагаварыць з раённым начальствам. Дарма нешта хацеў сказаць старшыня сельсавета Кабяк, маўляў, сёння ў нас свята і начальства на свята прыехала, а не адказваць на вашыя дурацкія пытанні, – але яго ніхто не слухаў. Пасля невялікай паўзы, на трыбуну падняўся адзін з начальнікаў і зноў стаў гаварыць пра эпахальныя пераўтварэнні народнай сацыялістычнай гаспадаркі, але тут нехта свіснуў і, улавіўшы паўзу, загучаў прарэзлівы жаночы голас:

– Што гэта за нормы падатку на малако – 140 літраў у месяц ад каровы! – крычала Бронюсева Франя. – Калі карова дае каля 10 літраў малака ў дзень, дык амаль што палову трэба аддаць дзяржаве. Ані масла, ані сьмятанкі, ані сыру дзеці ўжо не пакаштуюць...

А тут і астатнія жвава загаварылі і пачалі скардзіцца на нарыхтоўшчыка раймаслапрома, які ўстанаўлівае такія цвёрдыя нормы. А калі які літар не дадасі, дык нарыхтоўшчык абзывае людзей «ворагамі народу» і страшыць высылкай у Сібір.

Пытанняў было шмат, але, у асноўным, усе яны датычылі падаткаў, скаргаў на падатковыя камісіі і просьбаў разабрацца. Раённы начальнік паабяцаў абавязкова разабрацца і прапанаваў слова начальніку падатковай камісіі. Той, калі выйшаў за трыбуну, разгарнуў свае паперы:

– Вы самі віноўны ў тым, што не можаце разлічыцца з дзяржавай, – упэўнена пачаў начальнік. – Я вам прывяду цікавыя факты, вось, так, *«за невыполнение зернопоставок государству за август и сентябрь месяцы, привлечено к уголовной ответственности по району четыре человека и один за укрытие объектов обложения в виде провокации дачи взятки. Вот к примеру: Курчевский Виктор Доминикович был привлечён по статье 94, ч. 2 Уголовного Кодекса, который имел 62 га. земли; всего зернопоставок ему было начислено 87, 89 центнера. План августа – 17, 58 центнера – выполнил только на 9 центнеров. 12 сентября нарсудом Сморгонского района был осуждён на два года лишения свободы. Осуждён также Махнач Карл Осипович...»*. Или вот по вашей местности: *«За-*

*вадский Станислав имел 48 га. земли, обсеменил только половину – от остальной земли отказался, а государственные поставки доведены за 48 га.»*. Что делаем с таким несознательным товарищем-уклонистом: либо он выполняет наши требования, либо он будет привлечён к судебной ответственности как саботажник за срыв мероприятий по развитию сельского хозяйства на селе... Так, что ёщё: по невыполнению трудовой и гужповинности по лесозаготовкам и вывозу леса за каждый квартал привлекаецца от 80 до 100 человек лишения свободы сроком от одного до пяти лет...»[1]. Ещё вопросы есть?

На гэты раз пытанняў болей не было, толькі Болюсь Бутка прагаварыў напаўголаса, але так, што пачулі нават у прэзідыуме:

– Хоць дай каня, хоць дай вала – адна хвала…

Праблема была яшчэ і ў тым, каб падатак здаць строга ў вызначаны час. Калі на ўсе сто адсоткаў не атрымлівалася разлічыцца з дзяржавай у час – узнікалі непрыемнасці з падатковай інспекцыяй, і на наступны месяц падатак павялічваўся. Нешта падобнае адбылося летам, калі на ліпень давялі да кожнага нормы здачы зярна, а жыта яшчэ толькі каласавалася. А ў жніўні трэба было здаць дзяржаве не толькі жыта за два месяцы, але ўжо і бульбу. Каб разлічыцца з дзяржавай, недаспелае і мокрае жыта сушылі ў хаце на печы. А бульбу ў гэтым рэгіёне пачыналі капаць амаль што на месяц пазней, чым на Гомельшчыне ці Берасцейшчыне, у другой палове верасня – пачатку кастрычніка. А там ужо трэба было падбіраць буракі, капусту, лён: і калі хто садзіў гэтыя культуры, дык таксама трэба было так разлічыць час, каб не было прэтэнзіяў з боку ўлады. А гэта ўдавалася не кожнаму. А яшчэ свае карэктывы ўносіла надвор'е.

Праблемы з падаткамі ўзнікалі і ў Антося. З васьмі дзесяцін зямлі, якія былі ў яго, на падатак была зроблена невялікая скідка, з разлікам на старэйшых дзяцей, малалетніх чамусьці не залічылі. Сцяпан казаў, што, маўляў, колькі там малыя дзеці з'ядуць, і раўняць іх з дарослымі было б несправядліва.

У Антосевай гаспадарцы з травеня запрагаліся ў працу ўсе, хто мог нешта рабіць: нехта пасвіў гусей, нехта свіней, нехта каровы; пасля сенакос і сенаванне, жыта, бульба... Увесь цяжар такой працы ляжаў на Антосю, Ганьцы і на старэйшых

[1] Факты прыводзяцца паводле матэрыялаў Занальнага дзяржаўнага архіва г. Маладзечна: ф..Р-60.

дочках – Стэфцы і Стасі. Спаць лягалі пасля таго, як сонца недзе за Шымакамі закоціцца ў Белягі. Але, як толькі чырвонаружовае святло перакідвалася з Шымакоў на Багданоўку, нягледзячы на тое, што гудзелі рукі і ногі, дранцвелі жылы і ламала косці, падымаліся зноў да працы.

Антось стараўся плаціць падаткі спраўна, хоць і абходзілася гэта для яго і дзяцей недасыпаннем, недаяданнем і цяжкай фізічнай стомленасцю. Заўпарціўся Антось наконт падатку толькі тады, калі Сцяпан заявіў, што трэба плаціць падатак на кожны вулей, незалежна ад таго, ёсць там пчолы, ці іх там няма, бо сёння можа іх не быць, а заўтра можа прыляцець цэлы рой. Антось шукаў у гэтым нейкую логіку, даводзіў, як можна здзіраць грошы за тое, чаго няма, але ўся іх гутарка скончылася тым, што Сцяпан паабяцаў Антосю ўстроіць такую «логіку», пры якой яму, Антосю, прыйдзецца плаціць за кожную пчалу асобна. А на Антосева пытанне «Хто іх будзе лічыць?», Сцяпан на поўным сур'ёзе адказаў, што, калі трэба будзе – пералічым… Калі напачатку Антось успрыняў гэтую пагрозу як эмацыйны жарт, дык пасля, падумаўшы, прыйшоў да высновы, што і сапраўды, як бы гэта не выглядала смешна і недарэчна, а яны могуць пералічыць…

Вось чаму з нейкай няўпэўненасцю і страхам сяляне напачатку чакалі вясну, маўляў, а ці дадуць пасеяць?.. А калі дадуць пасеяць, дык тут жа ўзнікала іншае пытанне: а ці дадуць магчымасці зжаць?.. Бо могуць на якім-небудзь сваім сходзе «пастанавіць решеніем пленума» і забраць засеянае поле пад калгас... А калі і сажнеш, дык ці дадуць магчымасці змалаціць, а калі змалоціш, дык, а ці не прыйдуць і не адбяруць гатовае?..

А тут нейкая незразумелая сітуацыя запанавала ў савецкіх крамах. Напачатку на польскія прадукты і тавары, якія заставаліся на складах, цэны былі паніжанымі і іх вельмі хутка людзі разабралі. Тады шмат хто цешыўся прыходу Саветаў. А пасля настаў такі момант, калі старыя тавары былі прададзеныя, новых не падвозілі і насталі перабоі з хлебам, крупамі, соллю і іншымі прадуктамі.

Увосень многія бацькі не пусцілі дзяцей у школку толькі з адной нагоды: дзецям не было чаго абуць – абутку не было ў савецкіх крамах: ні дарослага, ні дзіцячага. Шмат хто пачаў згадваць даўнейшы промысел абутку – пляценне лапцяў, хаця пры Польшчы лапці насілі толькі жабракі і старцы. Пуценька, з сваім гектарам чартапалоху, і то лапці не насіў у буржуазнай Польшчы, а што ўжо казаць пра іншых.

І неяк у адзін момант людзі абадралі кару з прыдарожных вербаў і лозаў, а таксама ў гаі. З іх звычайна рабілі лапці. І неяк нязвыкла і прыкра было глядзець на абадраныя, голыя дрэвы (усёроўна як на голае цела) і думаць пра тое, што вясной не распусцяць болей яны сваіх жоўтых «коцікаў» і зялёных лісточкаў.

Прынамсі, такім жа «абадраным» стаў кожны: і той, хто ўступіў у калгас, і той, хто хацеў пражыць без калгасу.

Узімку 1940/41 гадоў стварылася сітуацыя, калі людзі за хлебам выстойвалі доўгія чэргі, наколькі хапала цярпення. У той дзень, калі маніліся падвезці хлеб з Ашмяны, людзі займалі чаргу ад трох-чатырох гадзінаў раніцы, а не – дык і звечара. Часта сталі здарацца выпадкі, калі пры з'яўленні хлеба, пачыналі біць вокны ў крамах, ламаць дзверы і прылаўкі, каб ухапіць які-небудзь бохан. З гэтых чэргаў шмат каго выносілі пасля пакалечаным.

У Мястэчку адкрылі спецыяльную краму для прыезджых з усходу. Абслугоўвалі іх тут рознымі таварамі і прадуктамі без чэргаў і без абмежаванняў, што давала ім магчымасці ледзь не кожны дзень адсылаць пасылкі з дабром да сябе на Радзіму. Нешта падобнае было і ў іншых мястэчках і вёсках: адкрывалі альбо крамы, альбо аддзелы пры крамах. У самім раёне наехаўшае начальства брала прадукты і тавары на складзе райсаюза[1]. З гэтай нагоды паступілі скаргі ад мясцовай савецкай наменклатуры і служачых. Нават Пуценька абураўся: «Як так! Я, можа, за савецкую ўласьць кроў праліваў і зараз рызыкую кожны дзень – і мне аніякіх прывілеяў! А нехта прыехаў, сеў на гатовае і ў краме бярэ што хоча і колькі хоча!». Падобныя нядобразычлівыя сігналы паступалі і з іншых местаў.

Крамы, быццам бы, прыкрылі, але прыезджых, да прыкладу, камісара Кацалапавага і Цэрбера, як не бачылі ў мясцовых крамах ніколі дагэтуль, так не бачылі і пасля: як ездзілі некуды атаварвацца раней, так і ездзяць.

І калі неяк у мястачковую прадуктовую лаўку завезлі камсу, дык жадаючых набыць марапрадукт назбіралася не толькі з усяго мястэчка, але і з усяго наваколля. Трэба адзначыць, што камса вялікім попытам за польскім часам не карысталася – другая справа селядзец. А тут, калі напачатку прадавалі камсу без абмежаванняў, дык пасля прыйшлося ўстанавіць ліміт, каб усім хапіла: спачатку палову кілі ў рукі, а пасьля па 200 грамаў. Шмат хто адхапіўшы сваіх 200 грамаў, тут жа з'ядаў бяз хлеба і бульбы і, з новай сілай, кідаўся да

[1] Інфармацыя паводле дакументаў Занальнага дзяржаўнага архіва г. Маладзечна: ф..Р-60.

прылаўка за дабаўкай. Каля самой лаўкі гудзеў натоўп, чуліся мужчынскія і жаночыя крыкі, мацюкі, праклёны і галашэнні. Людзі лезлі праз галовы, таптал і адзін аднаго, – людзі давіліся за камсой.

А пасля, праз нейкі хуткі час, усе крамы, як прамтаварныя, так і прадуктовыя, апусцелі. Праўда, быў толькі адзіны прадукт, які аніколі не зводзіўся ў савецкіх крамах – гэта гарэлка; была яна трохі горшай якасці, чым польская, але затое нашмат таннейшая. Але, нават нягледзячы на цану, крамную гарэлку бралі рэдка, – стараліся выціснуць сваю, – так было нашмат эканомней.

Нельга сказаць, каб улады нічога не рабілі, каб выправіць такое становішча. Партыйныя і савецкія органы Беларусі даводзілі, што яны ўсё зрабілі для таго, каб быў дабрабыт і рай у савецкім грамадзтве, і спасылаліся на пастанову ЦК ВКП(б) і СНК СССР ад 9.7.1939 г. «Аб мерапрыемствах па развіцці грамадскай жывёлагадоўлі ў калгасах». Пры гэтым ставіліся канкрэтныя задачы: павялічыць колькасць ферм, паляпшаць пародзістасць жывёлы, павышаць яе прадукцыйнасць, умацоўваць кармавую базу.

Далей – болей: пленум ЦК КП(б)Б у снежні 1940 г. ў сваіх рашэннях абавязаў нізавыя партарганізацыі стварыць у кожным калгасе жывёлагадоўчыя фермы.

На пачатку 1941 г. ва ўсіх калгасах партыйныя арганізацыі праводзілі сходы, на якіх прымаліся абавязацельствы ствараць фермы буйной рагатай жывёлы, свінаводчыя, авечкагадоўлі і птушкагадоўлі. Як сведчаць дакументы тых гадоў, *«колхозники колхозов имени Ворошилова и имени Сталина решили организовать по 4 фермы (крупного рогатого скота, свиноводческую, овцеводческую, птицеводческую), а в колхозе имени Молотова – 3 (крупного рогатого скота, свиноводческую, овцеводческую). Колхозники всех колхозов взяли на себя обязательства вывести поголовье скота на весну выше средней упитанности и сохранить 100 процентов молодняка приплода, а по удою молока получить в 1941 г. 1900 литров на каждую фуражную корову»*[1].

У калгасе імя «18 верасня» пачатак савецкай жывёлагадоўлі быў закладзены панскімі свіннямі і каровамі выселеных і рэпрэсаваных ворагаў народу. Апрача гэтага, на чарговым сваім сходзе калгаснікі пастанавілі пабудаваць свінарнік на дзвесце галоў, каб закідаць пасля ўсе крамы,

[1] Дакумент цытуецца паводле: Памяць: гіст. – дакум. хроніка Воранаўскага раёна: Рэд. кал. Г.П.Пашкоў (гал.рэд) і інш.; Маст. Э.Э. Жакевіч. – Мн.: БелЭн, 2004.

райкамы і абкамы свінінай. Месца для савецкіх свіней у калгасе выбралі ідэальнае – у Няроўцы: між гораў, у вытоках крыніц, на беразе жывапіснага возера і пры хваёвым лесе. Дарэчы, з гэтых крыніц і возера выцякала рачулка, у якой вадзіліся ракі і пстронг... А на паплавох, пры рачулцы, кожнае лета праходзілі вугры. У такім жывапісным месцы варта было б санаторыі ды курорты будаваць, але свінні тады былі нашмат важней.

Тым не меней, ужо вясной, калі апошняе каліва дабра было пакладзеным у зямлю з надзеяй на будучы ўраджай, а ў крамах, як і ў свірнах, было пуста, у вёску ўсё часцей і часцей стаў заглядаць голад.

Капалі леташнія карэнні лапухоў, дзьмухаўца, аера – дзёрлі іх на тарцы, а пасля перамолвалі на жорнах, і з іх рабілі прысмакі – ляпёшкі, якія хутка прыядаліся, былі горкімі і нясмачнымі і ступарам калелі ў горле. Збіралі пабегі маладой крапівы і лебяды і варылі пахлёбку.

У мясцовым вадаёме і на рачулцы дзень і ноч сядзелі аматары ласункаў рачной рыбкі і ракаў, і неўзабавае ў водах засталіся адны крутагалоўкі і жабы, але жабы і слімакі на сенажацях хутка сталі знікаць, калі стала вядомым, што яны – нацыянальная кухня французаў, і таму амаль што ўсе раптам захацелі стаць французамі.

Людзям, галоўнае, каб як было дацягнуць да першай ягадкі, а там стала б лягчэй, там да глухой восені можна будзе пражыць за кошт прыроды. Што добра было пры Саветах, дык гэта тое, што лес, гай і сенажаць сталі, у пэўным сэнсе слова, народнымі. Ніхто не забараняў хадзіць на рэчку і ў лес і жывіцца іх дарамі. І не трэба было хадзіць некуды далёка – каля лесу, у хмызняку, на крушнях, межах заўсёды было вельмі шмат ягадаў, грыбоў, гарэхаў. Што варылі, а што сушылі на зіму...

А неўзабаве сталі гаварыць пра тое, што знайшлі тых вінаватых, з чыёй віны апусцелі крамы, не завозіліся тавары, раскрадалася і глумілася калгаснае і народнае дабро. У раёне арыштавалі шэсць настаўнікаў за тое, што на пяць хвілінаў спазніліся на працу, выкрылі групу з пяці чалавек беларускіх нацыяналістаў і арыштавалі аднаго жыда-трацкіста – усе былі абвінавачаны ў шкодніцтве.

## 31. Выбары ў мясцовыя Саветы

Чарговым народным гуляннем былі выбары ў мясцовыя, раённыя і абласныя саветы працоўных і сялянаў, якія былі прызначаныя на кастрычнік 1940 года.

З шумам прайшла кампанія па вылучэнні кандыдатаў. З шумам таму, што шмат у якіх месцах, сяляне праявілі не толькі актыўнасць, але і ініцыятыву. Рэхам даходзілі да Дойневічаў і Ракавічаў чуткі пра тое, што там, недзе, сяляне не захацелі абіраць у мясцовыя дэпутаты незнаёмага ім чалавека, прапанавалі і абаранілі сваю кандыдатуру.

Народу на агульным сходзе з нагоды вылучэння кандыдатаў было няшмат. Характэрным было тое, што прыйшлі амаль што ўсе сяляне, у тым ліку і тыя, каго адносілі да сераднякоў і больш заможных гаспадароў.

На сходзе прысутнічала мясцовае начальства, нейкі важны вайсковец у форме і чырвонаармейцы. Што рабілі тут салдаты невядома.

Сход адкрыў Сцяпан і даў слова камісару Кацалапаву. Той акрэсліў чарговыя задачы ВКП (б), звярнуў увагу на важнасць арганізацыі выбарнай улады на мясцох, маўляў, савецкая ўлада самая што ні ёсць дэмакратычная ўлада ў свеце: як хоча народ, хай так і будзе, а пасля зачытаў спіс кандыдатаў, якія рэкамендуюцца абласнымі і раённымі органамі партыі, а таксама выканаўчымі камітэтамі працоўных і сялянаў. Сцяпан тут жа прапанаваў прагаласаваць аднагалосна за гэты спіс, але сяляне зашумелі і пачуліся незадаволеныя выкрыкі. Калі шум трохі заціх, стала зразумелым, што сяляне хочуць вылучыць сваіх кандыдатаў і з месца выкрыквалі прозвішчы такіх сур'ёзных гаспадароў, як Сакалоўскі, Саўрыновіч, Сідаровіч, Пашкоўскі і іншыя...

Сцяпан у час гэтых вылучэнняў нешта ўсё нашэптваў Кацалапаву на вуха, – той уважліва слухаў і нешта пазначаў у сваім нататніку.

Пасля слова ўзяў Ян Сакалоўскі:

– Мясцовыя саветы, – гаварыў Ян, – гэта нешта кшталту муніцыпалітэту ў амэрыканцаў... альбо Магдэбурскае права ў ВКЛ... Гэта – мясцовае самакіраваньне, эканамічная і гаспадарская дзейнасьць, разьмеркаваньне даходаў і выдаткаў, сацыяльнае забеспячэньне і дапамога...

Яна Сакалоўскага, паслухаць было цікава.

– Ад людзей, якія ўвойдуць у склад саветаў, будзе залежаць наша далейшае жыцьцё, наш дабрабыт і наша культура... У першую чаргу, там павінны быць людзі пісьменныя

і разважлівыя, людзі зь вялікім досьведам гаспадарскай дзейнасьці і руплівасьці...

– Я зразумеў, да чаго ты хіліш! – Сцяпан бесцырымонна перапыніў Яна Сакалоўскага. – Ты хочаш, каб такія кулакі, як Саковіч, Качанюк, Страчынскі альбо ты сам сталі сельскімі саветамі... Хочаце ўладу захапіць у свае рукі... Ня выйдзет, таварыш Амэрыканец!..

– Да-да! Ня выйдет! – Сцяпана падтрымаў Кацалапаў. – Гэта трэба разглядаць як правакацыю!

Тут ён дастаў цыдулку, разгарнуў і стаў чытаць: *«В местечке Слободка, Браславского района, проводилось общее собрание граждан по выдвижению депутатов в обласные и районные советы. Присутствовало 133 человека. В райсовет был рекомендован председатель Слободского сельсовета товарищ Далецкий, а со стороны присутствующих была выдвинута вторая кандидатура. Якобы за второго кандидата голосования не было, а за Далецкого, из присутствующих 133 человек, проголосовало только 23...».*

Сярод прысутных прайшло ажыўленне, а нехта нават запляскаў у далоні.

– Зря радуетесь, – заўважыў Кацалапаў. – Слушайте дальше: *«В райсовет пришло личное сообщение от председателя Ахремовского сельсовета Лейше о том, что выдвинутый кандидат в депутаты райсовета некто Петкун в 1920/21 гг. служил в бывшей польской полиции, в 1927 г. работал лесником и жестоко обращался с крестьянами, потом проживал в Вильно и состоял в коммунистической организации и якобы предал своего родственника, который был в этой организации и который бесследно исчез»*[1]. Вот так. Или вот ещё случай: *«В деревне Поповцы, Куренецкого района, по инициативе бывшего жандарма Соболевского Владимира Иосифовича и местных кулаков Петровского, Коханского, Гончарика было сорвано собрание крестьян без разрешения на это сельсовета. Этим собранием руководил бывший жандарм Соболевский, на котором выдвинули в депутаты трудящихся в сельсовет из числа зажиточных крестьян Горбача Феликса Адамовича, имеющего 15 га земли и Билдюча Никодима Васильевича, имеющего 13 га земли. В результате чего, при проведении выборного собрания избирательной комиссии и сельсоветом, рекомендованные кандидаты не прошли, а были выбраны те кандидаты, которые были выдвинуты ранейшим собранием, возглавляемым бывшим жандармом Соболевским...»*[2]. Я вам, как член

[1] Выкарыстаны дакументы Занальнага дзяржаўнага архіва г. Маладзечна: ф..Р-60.
[2] Выкарыстаны дакументы Занальнага дзяржаўнага архіва г. Маладзечна: ф..Р-60.

районной избирательной комиссии могу доложить, что подобных случаев по области очень много. В связи с этим, нас очень строго предупреждали, что выборы в западных областях будут проходить в более сложной обстановке... Счас зачытаю: *«Необходимо помнить, что в этих областях ещё живут остатки враждебных классов, которые с помощью своих агентов – пэпэзсовцев, белорусских буржуазных националистов, бундовцев и других будут делать попытки помешать успешному проведению выборов, и там, где это будет возможно, враги народа будут выставлять своих кандидатов...»*[1]. Вот так!..

Кацалапаў згарнуў сваю паперу:

– Несколько слов от себя лічно...

І надалей Кацалапаў гаварыў пра ворагаў савецкай улады, якія стараюцца правесці сваіх кандыдатаў на розныя важныя пасты і пасады сацыялістычнага будаўніцтва, каб пасля знутры разваліць першую у свеце сацыялістычную краіну працоўных і сялянаў... У сувязі з гэтым, камсамольцы і камуністыя павінны быць вельмі пільнымі да кожнага кандыдата і, больш таго, не давяраць абы каму, і асабліва «заходнікам», нават былым «кэпэзэбоўцам» ЦК партыі бальшавікоў не раіць даручаць важныя дзяржаўныя справы... Толькі пасля грунтоўнай праверкі адпаведнымі органамі...

– Кстати, для убедительности, – працягваў Кацалапаў, – приведу вам одну цитату нашего секретаря ЦК КП(б)Б: *«С приходом Красной Армии в Вильно в сентябре 1939 г., как будто Луцкевич, главарь белорусских контрреволюционеров в Западной Белорусии, осмелился выступить с приветственной речью. Гражданин Луцкевич будет и в дальнейшем, несмотря на компрометацию себя в глазах масс, продолжать свою антисоветскую и национал-фашистскую работу»*[2]... І не только один Луцкевич будет стоять на таких позициях... И вот в такой сложной ситуации мы праводим наши выборы, – працягваў Кацалапаў. – А вас, товарищ Американец, я понял... Мы есчо с вами разберёмся... Как и почему вы стали Американцем? Разберёмся!.. И не только с вами... Со всеми, кто будет игнорировать предложения Советской власти и предлагать врагов народа в избирательный кодекс! Вот так! – Кацалапаў гучна кінуў свой блакнот на стол і грозна спытаўся ў Сцяпана:

– Што далей па рэгламенту?

– Зацьвярджэньне сьпісу кандыдатаў...

– Зацьвярджаем!

---

[1] Выкарыстаны дакументы Занальнага дзяржаўнага архіва г. Маладзечна: ф..Р-60.

[2] Цыт. паводле:Янка Трацяк. Рэлігийная і нацыянальная палітыка КП(б)Б у Заходняй Беларусі // BiaioruskieZeszytyHistoryczne,. Biaiystok, 2000, № 13.

– А-а-а агучыць трэба...

– Агучвай!

Агучвала спіс Ганна Валюк. Яна спачатку зачытала, што ўсе сяляне вёсак Бяляніцы, Дойневічы, Ракавічы, Мазалі і іншых адзінагалосна прапанавалі на сходзе ў якасці кандыдатаў наступных таварышаў і яна зачытала тыя ж прозвішчы, якія ўжо згадваў Кацалапаў, а менавіта: Гурын, Кабяк, Калман, Кацалапаў, Трэпелеў, Пуценька, Сцяпан, Зінка, пасля пайшлі чатыры невядомыя прозвішчы і спіс завяршыўся прозвішчам Філі Храпавіцкага. Сцяпан толькі ўдакладніў пасады згаданых кандыдатаў: сярод іх былі старшыня райсавета, начальнікі раённых і абласных аддзелаў пракуратуры, начальнік райаддзела НКВД і начальнікі іншых наменклатурных установаў, камандзір чырвонаармейскага атраду і два чырвонаармейцы. Сцяпан адзначыў, што ў кожнага з іх стаж на кіруючай і партыйнай рабоце не менш дзесяці гадоў, а то і больш. Пра Філю Храпавіцкага Сцяпан толькі сказаў, што чалавек выпакутаваў прыход савецкай улады ў расейскіх і польскіх турмах агульным стажам у дваццаць пяць гадоў.

Тое, што Філя (мясцовая і турэмная мянушка Храпа) з турмаў не вылазіў, ведалі ўсе, але толькі ніяк не маглі зразумець іншае, як можна даверыць уладу тыповаму бандыту, які сядзеў у турме за здзек і гвалт над жанчынай, за разбой і рабункі, за махлярства і жульніцтва і, нарэшце, за забойства чалавека?..

Праўда, задаць такія пытанні ніхто не асмеліўся. Пасля выступу Кацалапава, нядобрага погляду вайскоўца і насцярожаных чырвонаармейцаў атмасфера была настолькі напружанай і прыгнятальнай, што той польскі прыгнёт, ад якога толькі што вызвалілі, пачаў здавацца некаторым вялікай вольнасцю. А можа яшчэ пытанні не задавалі і таму, што ведалі загадзя на іх адказы. Але паводле таго, як пры прозвішчу Філі Храпавіцкага прайшоўся нейкі незразумелы шум сярод прысутных, Кацалапаў, відаць, вырашыў удакладніць пазіцыю ўлады, каб не было пасля непатрэбнай гаворкі.

– Мы вельмі дасканала вывучалі гэтую праблему з пазіцыі класавай барацьбы і прыйшлі да высновы, што такія людзі, як Піліп Іванавіч Храпавіцкі савецкай уладзе патрэбныя, – тлумачыў Кацалапаў. – Чаму? А таму, што яны даказалі сваю нянавісць да ворагаў савецкай улады: згвалціў папову дочку – дык гэта ж папову, а не селяніна і рабочага; браў у тых, у каго было што ўзяць – гэта значыць у памешчыкаў, а не ў бедных... У вас ён што-небудзь краў?.. Не!.. Вось бачыце! Забіў не-

знарок панскага ляснічага, падумаеш, – усе гэтыя варожыя класавыя элементы чуждыя савецкай уладзе, якая змагалася і будзе змагацца з папоўшчынай, з рознымі памешчыкамі, эксплуатататарамі і прыслужнікамі буржуазна-панскага прыгнёту. А што не плаціў падаткі – тым самым падрываў эканоміку фашыстоўскай Польшчы… Нам бы паболей такіх людзей!

Пасля такога маналога людзі не ведалі, што рабіць: ці смяяцца, ці плакаць, ці як мага хутчэй уцякаць адсюль.

– Мы думалі, што ён бандыт, а ён аказваецца – герой, – разважліва і сур'ёзна прагаварыў Болюсь Бутка.

– Так, што ўсе таварышы ў кандзідаты паважаныя і аўтарытэтныя. – заверыў Сцяпан. – Можа, хто хоча для пратаколу пару словаў сказаць, альбо, можа, у каго ёсьць прапановы?..

Але прапановаў ужо не было.

– Тады гэты сьпіс ставім на галасаваньне, – працягваў Сцяпан. – Хто супраць гэтых асобаў?

Людзі, неяк палахліва азіраючыся адзін на аднаго, не варухнулі ані рукой, ані нагой.

– Значыць, супраць анікога няма. Значыць, аднагалосна «за»! – важна адзначыў Сцяпан! – Дазвольце на гэтым закрыць сход…. Усе могуць быць вольнымі, пакуль што… Актыў прашу застацца…

У час выбарчай кампаніі аддзелы прапаганды сталі актыўна праводзіць агітацыю за кандыдатаў. Кандыдатаў было роўна столькі, колькі трэба было быць у саветах: адзін на адно месца… У такіх выбарах, як абураліся многія, не было з каго выбіраць. Тым не менш, агітацыя праводзілася з рэвалюцыйным запалам.

Для агітатараў і прапагандыстаў, у мэтах павышэння культурнага і прафесійнага ўзроўню, арганізоўвалася спецыяльная вучоба. Іх выклікалі ў раён на семінары і курсы, чыталі лекцыі, давалі літаратуру.

Сцяпан стаў вельмі актыўным агітатарам і прапагандыстам. Яго напачатку накіравалі на 10-дзённыя курсы, а пасля – на месячныя курсы, і пасля іх ён яшчэ некалькі дзён некуды ездзіў павышаць свой «свядомы камуністычны ўзровень».

А напярэдадні выбараў вёску абляцела новая чутка, што будуць раскулачваць Амерыканца. Чутка дайшла і да Яна Сакалоўскага, на што ён спакойна заявіў, маўляў, раскулачваць не арыштоўваць. І неяк ужо пад вечар над хутарам Сакалоўскага раптам пачуўся невыносны гвалт: жаночы ля-

мант, крыкі, візгат свіней і сабачы брэх. Сцэнар быў адзін і той жа: мясцовыя актывісты пад кіраўніцтвам Сцяпана і Пуценькі займаліся «раскулачваннем», а прыезджыя людзі ў форме – арыштам «ворага народу». І неўзабаве з хаты вывелі сям'ю Сакалоўскага з гаспадаром, а з хлева – усю жывёлу.

Народнаму здзіўленню і нейкай прыкрай збянтэжанасці ад гэтага працэсу не было канца – у галаве аніяк не тасаваліся між сабою такія паняткі, як Ян Сакалоўскі – гаспадар, на якога павінны былі раўняцца арганізатары калгасу і ён – махровы кулак і вораг народу. Сітуацыя з ім і сапраўды была няпростая: з аднаго боку, ён, будучы праваслаўным, у панскай Польшчы не адчуваў сябе зацюканым, а наадварот, стаў багацець дзякуючы сваёй руплівасці, кемлівасці, гаспадарлівасці і арганізацыйным здольнасцям; з другога боку – адна дачка была замужам за панам Дабрынскім – ворагам народу, другая – за Міколам Казакевічам, які прыходзіўся родным братам Косцю Казакевічу – сённяшняму актывісту.

Пасля таго, як Ян Сакалоўскі вярнуўся з заробку ў Амерыцы, купіў каля дзесяці гектараў зямлі і столькі ж гектараў лесу ў пана Дабрынскага. У яго неўзабаве з'явілася на падворку конная малатарня і касілка, а ў хаце – кросны. Што ён быў добра зрабіўшы, дык гэта замест бульбы пасеяў некалькі гектараў лёну, а пасля нанімаў людзей рваць, мяць, трапаць, а зімою прасці кужаль і ткаць палатно, дываны і ручнікі. Апрача гэтага, развёў ён нейкіх танкарунных авечак, што таксама ў перспектыве абяцала апраўдаць сябе і даць немалы даход. У наступныя гады ён планаваў яшчэ больш пасеяць лёну, удвоіць статак авечак, развесці козаў і купіць невялічкі трактар. Трактар такі ён бачыў у Амерыцы ў аднаго фермера. На гэты трактар можна было прычапіць плуг, барану, прычэп, касілку, граблі... што хочаш. Даведаўся ён, што такі трактар ёсць у Варшаве, і гэтай зімою меркаваў пад'ехаць за ім...

І вось Ян Сакалоўскі раптам стаў кулаком і ворагам народу.

Ворагам можна было стаць нават ў дзень выбараў. Недзе ўжо па палудні, у Дойневічы заехала чорная крытая машына з салдатамі. Машына гэтая прыязджала і раней: першы раз, калі яна прыехала, людзі добра запамяталі – тады забралі Дабрынскага ў Багданоўцы і іншых паноў у наваколлі. Пасля, казалі, неяк ноччу бачылі, як такая машына прасунулася Крыжавымі Дарогамі на Ермакі – тады ў Ракуцеве, Мікулеўшчыне і Крыўску бесслядоўна прапала некалькі чалавек. Людзі ўжо ведалі, што машына гэта належыць савецкім операм – Ашмянскаму НКВД, і стараліся як мага далей быць ад гэтай машыны. На гэты раз «чорны варанок» спыніўся ў

Дойневічах, каля хаты Міхася Сідаровіча. Антосю Андраловічу з свайго садка добра было відаць, як з машыны рупліва выскачылі некалькі салдатаў з вінтоўкамі і акружылі хату. Два чалавекі, напалову ў вайсковай і цывільнай вопратцы, зайшлі ў хату, а праз хвілін пяць выйшлі, праўда; наперадзе ішоў сын Міхася – Валодзя, з звязанымі ззаду рукамі, за ім – оперы, а пасля – Міхась, за ім, галосячы, ішла маці. Апошнім выходзіў з хаты Кастусь Будкевіч – сусед. На падворку Будкевіч нешта стаў даводзіць оперу, але той доўга не слухаў – даў загад салдатам і тыя ўмомант скруцілі Будкевічу рукі і кінулі ў кузаў машыны. Туды ж, у кузаў, адправілі Валодзю, а пасля залезлі і самі. За што ўзялі Валодзю, цяжка было сказаць. Малады хлапец – нядаўна дваццаць стукнула – быў мабілізаваны ў Войска Польскае, але дзе служыў і ваяваў было невядома, хадзілі чуткі, што з войска таго ён уцёк, калі пачалася вайна. Не будуць жа Саветы судзіць за дэзерцірства з Войска Польскага, а дзе і як здолеў Валодзя нашкодзіць новай уладзе – было невядомым. А яшчэ больш было незразумелым, за што скруцілі рукі і кінулі ў варонок Кастуся Будкевіча.

Далей машына пасунулася ў Багданоўку, дзе оперы, відаць, хацелі пацікавіцца, як ідуць выбары. У сувязі з гэтай машынай, хутка праляцела чутка пра тое, што тых, хто не быў на галасаванні і не выканаў «свой долг перад ацечаствам» будуць арыштоўваць і адвозіць у Ашмянскі астрог. І, як у пацвярджэнне гэтай чуткі, і сапраўды сталі ездзіць Сцяпан і дзве асобы ў форме на легкавой машыне да тых, хто на галасаванні не быў: старых і нямоглых людзей гвалтам садзілі ў машыну і прывозілі на ўчастак. А тым, хто не быў, а мог быць, казалі прамым тэкстам, што калі сёння не прагаласуеш у Багданоўцы, дык заўтра будзеш галасаваць у Сібіры. Праўда, машына тая праехалася толькі па Ракавічах і загразла на Крыжавых Дарогах. Пад самы вечар да тых, хто не быў на выбарах, сталі пад'язджаць на конях у вазках актывістыя з скрыняй, абвалочанай чырвоным паркалем. Сярод мясцовых актывістаў былі два чалавекі ў форме, відаць, энкэвэдысты. Прыходзілі, давалі невялічкі аркуш паперы, на якой было напісана нейкае прозвішча і казалі: калі не хочаш непрыемнасцей, кідай у дзюрачку, што ў скрыні. Зразумела, што аніхто тых непрыемнасцей не хацеў, і некаторыя кідалі ў тую дзюрку не толькі паперку з прозвішчам, але і якую-небудзь манету з сярпастамалаткастым гербам. Стараліся кінуць манету з выявай каваля і надпісам «Один полтиник», бо адзін рубель было за шмат. І думалі пры гэтым, што свой абавязак перад нейкім «ацечаствам» выканалі спаўна.

Зразумела, што ўсіх абралі аднагалосна, пры ўдзеле ста адсоткаў выбаршчыкаў.

У мясцовыя, раённыя, гарадскія і абласныя дэпутаты выбіралі 27 кастрычніка. Выбіралі ўсіх, хто праходзіў па рэкамендаванаму спісу Кацалапава, праўда, у мясцовыя дэпутаты трапіла і Ганна Валюк. На выбарчым участку прысутнічала начальства і чырвонаармейцы з вінтоўкамі і людзі ў форме. Выбаршчыкам актывістыя канкрэтна паказвалі, дзе і што трэба зрабіць, каб прагаласаваць за «савецкую ўладу». Некаторыя былі расчараваныя тым, што яны цягнуліся некалькі кіламетраў да гэтых выбараў толькі дзеля таго, каб узяць са стала нейкую паперыну і кінуць яе ў нейкую скрыню – дык гэта ж і без іх маглі зрабіць.

Неўзабаве пасля выбараў сталі гаварыць пра паказальныя судовыя працэсы. Беспадстаўныя арышты нарадзілі розныя нядобрыя чуткі наконт савецкай улады, і людзі пачалі сумнявацца ў аб’ектыўнасці і правільнасці такіх арыштаў. А тут яшчэ адпусцілі Кастуся Будкевіча; прыйшоў ён з Ашмянскай турмы добра пабіты, але радасны. Хваліўся тым, што там, у Ашмяне, разабраліся па-справядлівасці з ім і адпусцілі ў выніку «адсутнасці складу злачынства ў яго дзеяннях». Праўда, там, у Ашмяне, казаў Будкевіч, такіх невіноўных, як ён, вельмі шмат.

Магчыма, усё гэта падштурхнула адпаведныя органы і сельсаветчыкаў да арганізацыі паказальнага працэсу над ворагамі народу, маўляў, хай народ сам паглядзіць і пераканаецца, што савецкая ўлада не памыляецца. Пра гэтыя паказальныя працэсы гаварылі даўно, і Сцяпан абяцаў устроіць такі працэс над Качанюкамі, але нехта, відаць, у раёне не падтрымаў Сцяпанаву ідэю. Маўляў, Качанюк сам працаваў у судзе, добра ведае працэдуру, і так можа стацца, што не яго будуць разбіраць на тым працэсе, а ён будзе судзіць такіх суддзяў. Увогуле, у раёне далі параду ўстрымацца ад адкрытых працэсаў над людзьмі дасведчанымі ў жыцці і мудрасці, маўляў, яшчэ нагавораць чаго добрага непатрэбнага і пасеюць розныя сумневы.

На паказальным судовым працэсе вырашылі разглядзець справу і асудзіць як ворагаў народу Яна Сакалоўскага і Вальдэмара Саковіча. Падзеля гэтага з раёну прыехалі сапраўдны суддзя і пракурор, адвакатам быў прызначаны камісар Кацалапаў, а ў таварыскую калегію ўвайшлі сельсаветчыкі, камунары, камсамольцы (хто не ўвайшоў, той выступаў у якасці сведкі) – такім чынам быў створаны народны таварыскі суд.

На пачатку пасяджэння камісар Кацалапаў (адвакат) доўга гаварыў пра справядлівыя працэсы савецкай судовай сістэмы і ў якасці жывога прыкладу усім паказваў Кастуся Будкевіча. Пасля прыступілі да звычайнай судовай працэдуры, якая закончылася тым, што пракурор абвінаваціў Яна Сакалоўскага ў перайманні чужога, капіталістычнага ладу гаспадаркі і жыцця, эксплуатацыі наёмнай працы, крытычным стаўленні да сацыялістычнага будаўніцтва, адсутнасці веры ў камунізм, адсутнасці жадання дапамагаць камунарам, антысаветызме і шкодніцтве, пра што яскрава сведчылі неаднаразовыя выказванні падсуднага, бо падсудны з'яўляецца амерыканскім шпіёнам, тым болей, што за амерыканскія грошы набыў зямлю, гаспадарку і ўсё астатняе. Сведкі пацвердзілі абвінаваўчы акт, а адвакат выступаць адмовіўся. Сам Амерыканец не быў вялікім прамоўцам – у сваім апошнім слове сказаў толькі, што ён ніколі і нікому не жадаў зла, нават камунарам, што ў яго была мара арганізаваць узорную гаспадарку (такія гаспадаркі ён бачыў у Амерыцы), такія гаспадаркі маглі б пракарміць нават такую дзяржаву як СССР. А на пытанне суддзі, «чаму ён не ўвайшоў у камуну, не стаў калгаснікам», адказаў, відаць, тое, што думаў:

– А з кім там працаваць?.. Там жа адны невукі, лябіхі й жулікі...

Пасля гэтага суддзя вынес прысуд:

– 10 лет лишения свободы с принудительным привлечением на работы и поражением в правах! Всё!..

Пасля паўзы суддзя дадаў:

– Прыгавор ня можа быть обжалованы в вышестояшчых судовых инстанциях, а осуждённого взять пад стражу в зале суда, – і тут жа перайшоў да новай справы:

– Слушается дзела очередногa врага народа Саковіча Вальдемара Ігнатавіча...

З гэтым Саковічам выйшла такая гісторыя. Пасля арышту яго бацькі, перад ім былі пастаўлены канкрэтныя ўмовы: усё, што ад бацькі перайшло па гаспадарцы ў яго рукі – перадаць у калгас і самому стаць калгаснікам. Малодшыя сыны Саковіча здолелі ўцячы ад затрымання, а Вальдэмар уцякаць не збіраўся. Вальдэмар быў у свой час захоплены беларускім нацыянальным адраджэннем, сябраваў з Сцяпанам і Януком Дайновічам, а калі палякі сталі праследаваць за беларускасць, стаў арыентавацца на Савецкую Беларусь і спачуваць савецкай уладзе. З прытоенай радасцю сустракаў ён прыход Саветаў, хаця пры арганізацыі камуны не спяшаўся запісвацца ў яе




шэрагі – бацька быў катэгарычна супраць. Праўда, гаварылі, што ён, яшчэ да арышту бацькі, хацеў уступіць у камуну, і яму быццам бы было даручана сабраць дадатковы «кантынгент», г.зн., звыш даведзенай да кожнага двара нормы здачы зярна, малака, мяса і курынага памёту. Абышоў ён некалькі двароў – людзі ў адзін голас: маўляў, план быў вялікі, анічога такога зараз няма, самім не хапае, калі што будзе – самі ж і прынясём. Не стаў Вальдэмар лазіць у людскія амбары, каморы, куратнікі – няма, дык няма і ішоў у другую хату. Нічога ён не сабраў і даручэння камунараў не выканаў. Прыйшлося гэтай справай пасля займацца Пуценьку і самому Сцяпану (відаць, справы ў камунараў былі не на вышыні, калі само начальства памёт збірала), у выніку чаго былі сабраныя такія-сякія запасы зерне, прадуктаў і памёту. А Вальдэмару, вядома, такой прамашкі ўлада дараваць не магла. Пасля арышту бацькі, узяліся і за яго. Кампетэнтныя органы зрабіліператрус у яго гаспадарцы – і шмат якія бацькавыя прадметы і рэчы (павозка, плуг, барана, механічныя граблі, сякеры) былі канфіскаваныя як рэчы «ворага народу», прысвоеныя Вальдэмарам незаконным шляхам. Так і ён стаў ворагам народу, нягледзячы на тое, што і сам быў не супраць Саветаў, і што сын Віктось быў актывістам. І вось трапіў Вальдэмар на паказальны суд. Абвінавачвалі яго і як

сына «потенциального кулака и отъявленного врага народа», і як «вредителя и саботажника мероприятий советской власти», і як «английского шпиона, стремившегося внедриться в ряды активистов и строителей коммунизма и вести подрыв снутри», і «как преступника, который позарился на народное добро», і як «человека неблагонадёжного для светлого будущего, а потому срочно нуждающегося в изоляции»... Вальдэмар спакойна, нават з нейкай усмешкай, выслухаў гэты лямант і папрасіў слова. Суддзя глянуў на камісара Кацалапава:

– А пусть гаварит, ему же сказать нечаво!

Вальдэмар падняўся з свайго месца, выйшаў на цэнтар – высокі, шыракаплечы, лабасты; вочы сінія, спакойныя, задумлівыя, разважлівыя; рысы твару адкрытыя, правільныя, прыемныя, высакародныя... Пэўна, адразу, амаль што ў кожнага, свідранула думка: такія людзі не могуць быць ворагамі народу? Такія людзі могуць быць носьбітамі антрапалагічнага віду нацыі... Янук Дайновіч казаў, што Вальдэмара трэба на карэце вазіць і паказваць свету, хто такія беларусы.

– Вось вы тут адзін да аднаго «таварыш, таварыш...», яно дык і правільна – народны таварыскі суд, суд, які й павінен судзіць па-таварыску, – распачаў сваё «апошняе слова» Вальдэмар. – Але, скажыце, якім для вас таварышам зьяўляецца Амэрыканец – Ян Сакалоўскі, якога вы толькі што засудзілі па-таварыску, альбо якім таварышам для вас зьяўляюся я... Я хацеў стаць таварышам, але не пасьпеў, яно, можа, так і лепей. А калі я не зьяўляюся для вас таварышам, дык якое вы маеце права судзіць мяне як таварыша?..

– Асуждзёны, давайце па сушчаству! – перабіў яго суддзя.

– Можна зрабіць перапынак, – прапанаваў камісар, але тут ускочыў адзін з засядацеляў:

– Так мы вас судзім народным судом не як таварыша – мы вас судзім як ворага народу, і ў нас ёсць на гэта права!

– Правільна! – пацвердзіў суддзя. – Як ворага народу!

– Тады й суд павінен быць варожым, а не таварыскім... Але Бог зь ім! Вы сказалі: «як ворага народу», так, добра, давайце разьбяромся, што такое вораг?! – не разгубіўся Вальдэмар. – Вось раней былі контррэвалюцыянеры, там усё было зразумела: былі рэвалюцыянеры, якія рабілі рэвалюцыю, і былі тыя, якія яе не хацелі і супрацівіліся гэтай жа рэвалюцыі – вось яны і былі ворагамі народу. А тут – які я вораг народу... Хіба я калі быў супраць рэвалюцыі!?.. Ці быў, скажам, супраць народу?! Давайце зьбяром усю вёску, зьбяром мястэчка – там мяне добра ведаюць, давайце зьбяром народ і спытаемся, ці быў

я калі ім ворагам?.. Ці зрабіў я ім нешта такое варожае... Ці, можа, нехта думае, што гэта ўжо не народ... Польскія ўраднікі часта называлі яго быдлам, а калі й цяпер нічога не зьмянілася, дык якому народу я вораг? Я прайшоў дзьве вайны, там усё зразумела: ёсьць вораг, які прыходзіць на тваю зямлю, каб яе зваяваць, а цябе самога, тваіх блізкіх зрабіць рабамі. І супраць гэтага ворага трэба змагацца... Я жыву і працую на сваёй зямлі, я жыву сярод свайго народу, я нікому ніколі й нічога не зрабіў дрэннага. Я мог бы стаць ім ворагам, калі б забраў апошняе каліва зярна, якое людзі, можа, пакідалі на насенне, але я сьвядома гэтага не рабіў... Ім трэба сеяць, каб жыць... Інакш яны ня выжывуць... Можа, ніхто тут з прысутных так не дбаў пра народ, як гэта рабіў я... Дык які ж тады я яму вораг?.. Якому народу я вораг?.. Пакажыце мне той народ!.. Давайце зробім сапраўдны народны суд, запросім сюды народ, і як ён прагаласуе, хай так і будзе!.. Альбо...

Але тут ускочыў суддзя і перакрычаў Вальдэмара:

– За антысавецкія измышления и контррэвалюционную агитацыю осуждённый лишается последнего слова! Всё! Суд удаляется на совешчание!

Атрымаў Вальдэмар Саковіч такі ж тэрмін, як і Ян Сакалоўскі: 10 гадоў «исправительно-трудового лагеря» з адпаведнымі дапаўненнямі.

Дарэчы, Віктось Саковіч, сын Вальдэмара, недзе знік і на працэсе свайго бацькі не прысутнічаў.

У далейшым ад такіх паказальных працэсаў, якія не апраўдалі сябе, улады адмовіліся.

## 32. Трэцяя партыя «ворагаў народу»

Арыштавалі і вывезлі яшчэ некалькі сем'яў у Ракавічах і Дойневічах. Так, раскулачылі, асудзілі «тройкай» і вывезлі Японца з сям'ёй («з японцамі»), казалі, што яго нават судзілі як японскага шпіка. Гэтак жа асудзілі і Волюся Барана (Байрана), толькі ў якасці шпіка ангельскай выведкі.

– Баран я... Не Байран, а – Баран! – даводзіў Волюсь «энкэвэдыстам».

– А ў гэтым аніхто не сумняваецца, – згаджаліся тыя.

У ваколіцах як кулакоў арыштавалі і вывезлі Завадскіх (Крыўск), Мураванскіх (Вярэбушкі). Слова «кулак» рабілася страшным словам.

У Ашмянскую турму, «пад следства», пасадзілі Васіля Далькевіча, а там яму згадалі «Гоп мае, грэчанікі...». Сля-

дак усё дапытваўся канкрэтыкі, а менавіта: хто пайшоў у начальнікі, хто пайшоў (і хто не пайшоў) у «калхоз» і хто быў на вываз?..

Здавалася, а можа так было і на самай справе, што людзей арыштоўвалі проста так. Ужо ніхто не задаваў пытанні кшталту «за што?», бо не было сэнсу задаваць такія пытанні, на якія быў адзін адказ: «а ні за што Савецкая ўлада не карае!».

Часам зачэпкі і нагоды для абвінавачвання былі настолькі нечаканымі, што рабілася страшна ад разумення таго, што не сёння, дык заўтра абавязкова прыйдуць за табою.

Да вёскі дайшлі чуткі, што ў Ашмяне арыштавалі Мончыка.

Антось ведаў гэтага Мончыка – сам ён быў з Пятруляў, але вельмі часта прыязджаў да сваякоў у Ручаі напачатку 20-х гадоў. Адзін час заляцаўся да Марылі, роднай сястры Антося. Нават сватаўся, але нешта там у іх не зладзілася. Марыля казала, што здаўся ёй гэты Мончык нейкім занадта фанабэрыстым, ведама, ахвіцэр. Пазней, недзе ў 30-х, сустрэўся Антось з ім выпадкова ў Ашмяне; прывіталіся, пагаварылі. Мончык тады ўжо сям'ёй абзавёўся, хату купіў недалёка ад цэнтру, гаспадаром стаў. Тады думаў Антось, што, можа, і дарма Марыля не пайшла за яго, хто ведае...

Ажно вось яно што, арыштавалі Мончыка...

Мончыка абвінавацілі ў тым, што *«во время империалистической войны служил офицером бывшей царской армии в чине подпоручика. В 1919 г. вступил добровольцем в белопольскую армию, в которой в чине подпоручика и с 1921 г. в чине поручика служил до 1928 г., принимал участие в вооружённой борьбе против Советской власти, за что польским правительством был награждён медалью. В 1928 г. ушёл з запас и до распада польского правительства получал пенсию 118 злотых в месяц»*[1]...

118 злотых у месяц...

Антось задумаўся. У той час, калі сяляне ў пана заралялі адзін злоты ў дзень... І калі за 400 – 500 злотых можна было купіць 1 гектар добрай зямлі, колькі ж тады было зайздроснікаў у гэтага Мончыка?!.

Другая справа, што анічога добрага не будзе, калі Саветы сталі арыштоўваць пенсіянераў: былых царскіх і польскіх чыноўнікаў і афіцэраў. І, відаць, не адзін Мончык быў асуджаны паводле такіх абвінавачванняў.

---

[1] Дакументы цытуецца паводле: Владимир Адамушко, Наталья Иванова. Людские судьбы в письмах // Крыжовы шлях: дапаможнік для вывучаючых гісторыю Беларусі. – Мінск: «Згода», 1993.

Прыходзілі неяк «энкэвэдысты» і да Болюся Буткі, таксама ўдзельніка Імперыялістычнай вайны і ваяку царскай арміі. Цікавіліся, што ён вырабляў на фронце, якія займаў чыны і пасады? Болюсь тады паставіў канкрэтнае пытанне перад такімі следапытамі:

– А што, скажыце, зараз будуць арыштоўваць усіх тых, хто некалі ваяваў супроць немца, ці што?..

Болюсь, як ён казаў, «адбрахаўся» тым, што не дабравольна пайшоў ён на той «мікалаеўскі» фронт, а паводле прызыву, і афіцэрам ён не быў, і царскіх генералаў не слухаў, а ў 17-м годзе ўцёк ён у Петраград, каб там разам з таварышам Леніным і з таварышам Сталіным рабіць вельмі вялікую кастрычніцкую рэвалюцыю... І зрабіў....

Вось за тое, што ён рабіў рэвалюцыю, яго энкэвэдысты Цэрбер нават пахваліў і сказаў на развітанне, што ён абавязкова праверыць факты і яшчэ разбярэцца з Болюсем.

Увогуле гэты Цэрбер вырашыў «разабрацца» з кожным. Цяжка было знайсці такога чалавека ў вёсцы, на якога ў Цэрбера не было б аніякай зачэпкі. Неяк на Бронюся, роднага брата Антося, Цэрбер накінуўся з абвінавачваннем у тым, што ў таго антысавецкі колер вачэй і ён падазрона глядзіць на мерапрыемствы савецкай улады.

Яшчэ на некалькі асобаў Цэрберам было заведзена «дзело, которое находилось в стадии следствия» з нагоды бунту на Сёмуху (Троіцу).

У гэты святочны дзень новыя ўлады вырашылі загнаць людзей на поле падбіраць камені. Людзі сталі абурацца і катэгарычна заяўляць:

– Толькі яшчэ гэтага нам не хапала, каб на Троіцу полем лазіць з каменнямі... Дзе гэта было такое... Ня пойдзем мы...

Больш за ўсіх тады лютаваў камісар, таварыш опер-чэкіст Трэпелеў:

– Какая ёшчё тройца, я тебе счас азвоздам такую тройку, что всю жизню будешь камни таскать!

І на тых, хто не выйшаў тады на работу, опер-чэкіст стаў «шыць дзело» – «арганізацыя сабатажу супраць мерапрыемстваў савецкай улады».

Амаль што ў кожную нядзелю калгаснікі выходзілі на працу, а ўлады стараліся загнаць астатніх. Цэрбер толькі хадзіў і папярэджваў:

– Всех тех, кто не желает памочь советской власти и гаварыт, каб у васкрасення не работать, ажыдает северная дарога до белых медведей.

Такія абяцанкі былі не без падстаўнымі. Здавалася, што для ўладаў сама галоўнае – гэта застрашыць народ, бо, калі народ будзе баяцца, тады ён будзе такім жа пакорлівым, якім і павінен быць. І не выпадкова, можа, тое, што першым старшынём Мялэйкаўскага сельсавету быў Антон Страх, а Вярэбушскага – Уладзімір Страх – свае людзі, у сэнсе, з тутэйшых. Пасля, калі ў Вярэбушскі сельсавет старшынём прыслалі ўсходніка Сімакова, Уладзімір Страх стаў аператыўным упаўнаважаным НКВД. Ён вельмі часта любіў падкрэсліваць, што кожнаму прозвішчу даецца шанцунак для рэалізацыі свайго прызначэння паводле сэнсу: а зараз настаў яго час, час страху. Сваёй дзейнасцю ўпаўнаважаным НКВД Страх цалкам адпавядаў свайму прозвішчу.

Але, апрача страху, былі і іншыя метады апрацоўкі, прамыванне мазгоў і звычайнага абалваньвання насельніцтва.

Так, на дзень святых апосталаў Пятра і Паўла ў барунскім касцёле кожны год адбываўся вялікі фэст. За польскім часам тут збіралася амаль што ўсё каталіцкае духавенства з Віленскага архібіскупства. На фэсце стараліся быць усе католікі ў акрузе да дваццаці вёрст. У гэты дзень народу ў Барунах было болей, чым у павятовай Ашмяне ў базарны дзень. Амаль што ўсё мястэчка было застаўленае людскімі павозкамі.

Збіраліся людзі ехаць на фэст і ў гэтым годзе, але новыя ўлады абвясцілі на дзень святых апосталаў Пятра і Паўла ў мястэчку фестываль рэвалюцыйнай песні. На фестывалі павінны прысутнічаць усе «сознательные» савецкія грамадзяне – яны павінны ведаць на памяць песні пра рэвалюцыю і абавязкова любімыя песьні «важдзей» сусветнага пралетарыяту «Варшавянку» і «Суліко». Цэрбер казаў, што той, хто не будзе ведаць «Суліко», таму ён будзе рабіць уласнаручна «суліко» сам. Праўда, што гэта такое, ніхто толкам не ведаў, а Цэрбер толькі абяцаў:

– Вот тагда и узнаеш!.

Болюсь гэтае цэрберавае «суліко» растлумачыў так:

– Суліко – гэта, прыкладна, тое самае, што дзёрці зубы абцугамі праз адно месца.

Праз якое месца – здагадаліся самі, але тут узнікла яшчэ адно недарэчнае пытанне: а пры чым тут такое «суліко» да рэвалюцыйных песняў?

– Пры чым, пры чым! – Болюсь пачынаў раздражняцца. – А пры тым, што такой методай рабілі рэвалюцыю... пад любімыя песні «важдзей»!

Смела было сказана – мужчыны толькі галовамі пакачалі, падумалі і прыйшлі да высновы, што, нават калі так было і на




самай справе, дык песні гэтыя, мусіць, трэба ісці і спяваць, каб пасля не плакаць.

Камісар Кацалапаў, Сцяпан і сельсавецкае «радзіво» – Зінчка стараліся кожнаму давесці ў вушы, што, каму не выпадае быць на фэсце, той павінен быць на калгаснай працы: на полі ці на двары; каму ж не выпадае быць там і там з нейкай сур'ёзнай нагоды, той павінен папярэдзіць начальства, атрымаць «дабро» і сядзець дома на печы.

А на фэсце рэвалюцыйнай песні і сапраўды было мужчын нашмат болей, чым жанчынаў. Відаць, мужчыны ўсур'ёз прынялі тое «суліко». Праўда, не ўсе спявалі – шмат хто толькі рот раскрываў і Пуценька ледзь не да кожнага падыходзіў, прынюхваўся і прыслухоўваўся, а пасля інфармаваў камісара Кацалапава, маўляў, ад таго і таго нясе брагай, а той і той заместа спеваў толькі мычыць, а Кастусь Карповіч з Мазалёў спяваў не «гдзе жа ты маё Суліко», а «Пуценька казёл» і пасылаў яго, Пуценьку, у адно, не рэвалюцыйнае, месца. У завяршэнні свайго дакладу, Пуценька прапанаваў прыняць адпаведныя меры і пакараць Карповіча за такое «багахульства», але камісар Кацалапаў раптам, на вялікі ўздзіў Пуценькі, стаў хваліць прысутных:

– Маладца, – казаў ён, – што прыйшлі, прынялі, хто як мог, удзел... Стварылі масавасьць, а для нас сама галоўнае – гэта прысутнасьць.

– Так, так, сёньня героямі ходзяць ня тыя, хто рабіў рэвалюцыю, а хто на ёй прысутнічаў, – неяк іранічна пацвердзіў Сцяпан.

На што Кацалапаў далікатна адказаў:

– Вельмі спрэчная ваша рэпліка, таварыш Дзядзько Сьцяпан... Былі памылкі ў тых, хто яе рабіў, але не памыляецца толькі той, хто ўжо сядзіць у турме.

Згадка пра турму адбіла ў Сцяпана ўсялякую ахвоту працягваць дыскусію.

– А вось таварышу Зіне, за актыўны ўдзел у фестывалі рэвалюцыйнай песьні, ад імя камуністычнай партыі Леніна-Сталіна і ўсяго рабоча-сялянскага класу аб'яўляю наша вялікае камуністычнае спасіба і падзяку! – урачыста абвясціў камісар Кацалапаў.

Пасля вельмі ўважліва паглядзеў на Зінку, хапіў яе сваімі ўчэпістымі лапамі за стан і заспяваў:

*«Ах Дуся, Дуся, Дуся,*
*Паедзем у Дусельдорф...».*

* * *

А праз колькі дзён Цэрбер і Пуценька зайшлі да Болюся – пыталіся ўсё, каб ён расказаў ім, якой жа такой методай рабілася рэвалюцыя. Але Болюся не так проста было ўзяць – гадзіну ён талкаваў операм пра вайсковы рэвалюцыйны камітэт, сябрам якога ён быццам бы быў, пасля перайшоў да браневіка, на якім выступаў Ленін з тэзамі, а калі пачаў гаварыць пра стрэлы «Аўроры», Цэрбер не вытрымаў:

– Ты нам пра «Суліко» раскажы!

Болюсь вельмі здзівіўся, ён так і казаў:

– А хто ж гэта ведае? У песьні так і сьпяваецца: «Гдэ жэ ты маё Суліко?..» Нават сам таварыш Сталін ня ведае ...А гэта ж – яго любімая песьня... І мая, дарэчы... Я магілу мілой іскал, – заспяваў Болюсь хрыплым і гугнявым голасам, – но найти не легко.

Цэрбер загнуў такога маскаля, як толькі ён умеў: і ў душу, і ў маці, і чорт ведама куды. А Болюсь нявіннымі вачамі паглядаў на іх і быццам бы не разумеў, у чым справа.

Тыя толькі плюнулі і пайшлі.

* * *

«Ворагам народу» можна было стаць вельмі лёгка і нечакана для сябе і навакольных.

Так, Вінцу Трацінскаму з Клышкаў далі дзесяць гадоў лагераў толькі за тое, што не вытрымала яго гаспадарская сялянская натура, каб не зрабіць заўвагі калгаснікам, якія вазілі ў скрынях сырое збожжа (справа была ў час жніва):

– Што ж вы робіце, байструкі? Зярно трэба спачатку прасушыць і толькі тады ссыпаць у кучу, а так згарыць дабро і стане непрыгодным...

Вельмі хутка быў складзены пратакол аб затрыманні «ворага народу во времена проведения борьбы за уроджай». На пытанне Вінцука «за што?» опер-чэкіст Цэрбер зачытаў: «Своими недвухсмысленными антисоветскими измышлениями подрывал основы сельскохозяйственного строительства на селе. По отношению к колхозному хозяйству является недоброжелателем и вредителем, а Советскую власть считает незаконнорождённой...».

– Я думаю, што этова достаточно, – заявіў Трэпелеў. – А то чево хорошего есчо расстраляють.

А зерне тое і сапраўды «згарэла» у кучы і сапсавалася. Але за гэта так нікога і не пакаралі.

«Ворагам» можна было стаць нават і тады, калі ты быў не супраць савецкай улады, калгаснага будаўніцтва, лініі партыі Леніна – Сталіна.

Так, Янук Міган падаўся ў камуну, а пасля ў калгас і стаў пасвіць калгасны статак жывёлы. І неяк у злосці закрычаў на калгасную кароўку:

– Ах, ты, б...! Куды пайшла!

...І загрымеў малады калгасны пастух на дзесяць годзікаў у Сібір з фармулёвачкай «за оскорбления личности осуществления советской власти в сельской местности и в животноводстве».

За польскім часам, калі ўлады арыштоўвалі каго-небудзь, – гэта была цэлая сенсацыя. Вёска збіралася, цэлыя мітынгі праводзіліся ў абарону свайго чалавека, а зараз, пры Саветах, чалавека забралі, і не дай Бог, каб хто прысутнічаў пры гэтым, альбо абураўся – тут жа, заадно, маглі б забраць і яго, а назаўтра – усю сям'ю.

## 33. «Ворагі народу»
(з нататніка заходніка)

*Недарэчным было б ставіць пытаньне, хто быў абвешчаны «ворагам народу № 1», альбо «ворагам народу № 2». У сьпісы «ворагаў народу»ў першую чаргу траплялі тыя, хто мог аказаць супраціў савецкай уладзе і мог быць арганізатарам ваеннага, ідэалягічнага і эканамічнага супраціву. Вядома, што на ваенным узроўні Войска Польскае істотнага супраціву Чырвонай арміі не праявіла – Саветы яго раззброілі і расфармавалі, а афіцэры былі зьліквідаваныя.*

*Эканамічныя дыверсіі, шантаж і «падрыў» маглі ўчыніць тыя, каму належала ўласнасьць, маёмасьць і зямля – гэта матэрыяльны фундамент ня толькі эканомікі ўсякай дзяржавы, але й усякай рэвалюцыі. Фундамент гэты ў першую чаргу бальшавікі падверглі жорсткай рэквізіцыі і нацыяналізацыі. Вось чаму, паводле Сталіна, «рэпрэсіі ў галіне сацыялістычнага будаўніцтва зьяўляюцца неабходным элементам эканомікі».*

*Калі ж гутарка ідзе пра масавыя дэпартацыі насельніцтва на ўсход, дык варта мець на ўвазе, што большыня дэпартаваных былі аграрыямі: гаспадарамі і земляробамі. Іх гаспадаркі сталі эканамічным фундаментам калгасаў і савецкай улады, а працавітасьць іх і досьвед земляробства спатрэбіўся ў Сібіры і Казахстане, там, дзе ўсякі фундамент трэба было закладваць з нуля. Колькі было рэпрэсаваных за гэты час - цяжка сказаць. Можна толькі прыкладна ўявіць сабе, што рэпрэсаваных на усход было ня менш, ад колькасьці прыезджых з усходу савецкіх спецыялістаў, а гэтых, паводле бальшавіцкіх прапагандыстаў, павінна было быць каля паўтары мільёны чалавек.*

*Паралельна з польскім элементам, савецкімі карнымі органамі праводзілася вельмі старанная «зачыстка» беларускага элемента. Пад гэтую «зачыстку», у першую чаргу, трапілі тыя беларусы, якія былі на ўліку польскай дэфензывы – у дакументах і паперах польскіх сілавых структураў ім было адведзена куды большае месца, чым палякам. Праўда, палякі іх буржуазнымі не называлі, а вось у савецкай рэпрэсійнай дакументацыі яны праходзяць амаль што ўсе як «беларускія буржуазныя нацыяналістыя», хаця буржуазія тая, калі і была дзе, дык ня болей за адну адсотку.*

*Застаецца загадкай стагоддзя, чаму так баяліся палякі гэтых беларускіх нацыяналістаў, а пасьля іх так спалохаліся*

*Саветы? (Загадка не таму, што яе немагчыма разгадаць, а таму, што адгадка анікому не патрэбная).*

*У пляне ідэалягічным найбольшая небясьпека для Саветаў зыходзіла ад беларускіх нацыяналістаў – яны ўяўлялі сабой ідэйных носьбітаў тытульнай нацыі, былі духам і душой народу, і яны былі народам; бяз іх народ ня мае права называцца народам, а тым болей нацыяй, бяз іх народ становіцца насельніцтвам, «этнаграфічным матэрыялам», бязьлікай народнай масай. Тое, што Саветы былі зацікаўленыя ў такой масе, было відавочным на прыкладзе Ўсходняй Беларусі.*

*Другая справа ў пляне ліквідацыі носьбітаў патэнцыяльнай ідэалягічнай і палітычнай небясьпекі. Здавалася б, якую пагрозу ўяўляла для савецкай дзяржавы «кучка беларускіх буржуазных нацыяналістаў» у Заходняй Беларусі? Тым ня менш, бальшыня зь іх трапіла пад арышты і расстрэлы ў першыя дні прыходу Саветаў у 1939 годзе: у другую чаргу стралялі польскіх афіцэраў у Катыні (сакавік – красавік 1940 г.).*

*Вядома, што ў Вільні Саветы з сваім прыходам спачатку пайшлі на цеснае супрацоўніцтва з беларускім асяродкам. Такія беларускія дзеячы як А. Луцкевіч, Ф. Грышкевіч пісалі ў савецкіх газэтах, як яны радасна ўспрымаюць уз'яднаньне беларускага народу ў адзінай савецкай дзяржаве. Бальшавікі нават дапамаглі даверлівым беларусам у Вільні арганізаваць свой сход, куды прыйшоў ня толькі беларускі актыў, але і найбольш сьвядомыя і актыўным беларускія дзеячы на чале з А. Луцкевічам. Але пасьля такога беларускага сходу ўсе прысутныя былі арыштаваныя, у тым ліку А. Луцкевіч, Ф. Грышкевіч, В. Багдановіч, А. Станкевіч, І. Пазняк і інш. Уся інфармацыя пра іх была строга сакрэтнай і толькі можна было здагадвацца, які лёс іх чакаў. Праўда, па Вільні хадзілі слухі пра расстрэл А. Луцкевіча і самагубства Ф. Грышкевіча ў час допытаў.*

*Кожны з беларусаў, хто меў нейкае, нават малейшае дачыненне да польскіх дзяржаўных структураў альбо да беларускіх нацыяналістычных арганізацыяў, трапляў у распрацоўку НКВД і станавіўся «изменником Родины». Той, хто пры паляках займаў нейкую пасаду альбо спраўна выплочваў падаткі, той «экономически укреплял польское государство и его буржуазное реакционное правительство». Савецкай уладзе не былі патрэбнымі нават такія «аддадзеныя партыі Леніна-Сталіна» шчырыя яе прыхільнікі, якімі паказалі сябе Мацьвей Пятровіч і Сьцяпан Андраловіч, толькі з адной нагоды, што яны былі яшчэ шчырымі беларусамі.*

*Беларусамі можна было быць, але толькі савецкімі беларусамі і, лепей, рускамоўнымі. У пашане былі тыя «беларусы», якія ганьбілі родную мову, казалі, што на ёй анічога вартага сказаць нельга ў параўнаньні з расейскай мовай, і даводзілі, што нас, беларусаў, прыдумалі палякі, каб усадзіць клін між Польшчай і Расеяй... Такіх «беларусаў» НКВД калі і чапала, дык толькі ў мэтах прафілактыкі.*

*Нельга не ўлічваць і яшчэ адзін момант. Саветы ніколі не даруюць «заходнікам» толькі таго факту, што яны жылі на тэрыторыі «временно оккупированной Польшей», што яны дыхалі адным паветрам, прасякнутым буржуазна-капіталістычнымі адносінамі, з праклятымі капіталістамі і прыгнятальнікамі працоўных усяго сьвету, што жылі адным духам з вольналюбівымі каштоўнасьцямі заходнеэўрапейскай цывілізацыі, што яны, паводле сваёй мянтальнасьці, былі і застаюцца эўрапейскім народам – а гэтага ўжо дастаткова для таго, каб «заходнікі» сталі патэнцыяльнымі кандыдатамі прымусовага высяленьня ў неабжытыя раёны Сібіры, Казахстану, на Салавецкія Астравы... А калі яшчэ ўлічыць той факт, што ў рукі НКВД трапілі дакументы польскай тайнай паліцыі, у якіх амаль на кожнага была кампраметуючая дакументацыя, дык становіцца зразумелым, што шанцаў у гэтага народу не было.*

*А калі так, дык можна зразумець і той выбар, які стаў перад гэтым народам: калі для Саветаў яны зьяўляюцца ворагамі, дык надзею на паратунак трэба шукаць у Польшчы: у польскіх арганізацыях (культурных, вайсковых, краёвых), у польскім касьцёле... А за Польшчай стаяла Англія, Амэрыка, Францыя... Такі выбар даваў хоць маленькае спадзяваньне на тое, што за цябе, калі што, будзе каму заступіцца. Такім беларусам не было іншага выйсьця, як толькі павялічваць шэрагі Польскай краёвай вайсковай арганізацыі, альбо іншых польскіх арганізацый.*

*Толькі вось, адкрытыми застаюцца шэраг пытаньняў, а менавіта: якім чынам трапілі тыя дакументы ў рукі Саветаў?.. Як трапілі?.. Чаму трапілі?.. Можа, пра тыя дакументы дэфензыва проста забылася?.. А можа хто зарабіць хацеў з мясцовых актывістаў?.. А можа гэта прадуманая і сплanaваная стратэгія той жа дэфензывы?.. Па Вільні хадзілі чуткі пра тое, што, быццам, Гітлер падзяліўся з Сталіным аператыўнымі сакрэтнымі дакументамі 2-га аддзела Галоўнага штаба (разведка і контрразведка) Польшчы, якія дасталіся ў Варшаве абверу, як усёроўна ў спадчыну, у выніку злачыннай халатнасьці польскіх спецслужбаў.*

*Так гэта ці не – невядома, але тут ёсьць над чым падумаць. Толькі адказ знайсьці на гэтыя пытаньні будзе няпроста.*

*Ворагамі беларускага народу былі і ёсьць усякія носьбіты імперскай і шавіністычнай палітыкі, адкуль бы такая палітыка не зыходзіла. Але, калі польскія дзяржаўныя ідэолягі шмат што перанялі ў дачыненьні да беларусаў з методаў расейска-царскай нацыянальнай палітыкі (абмежаваньні, ціск і падаўленьне нацыянальных і духоўных памкненьняў іншых народаў), дык Саветы вынішчаюць народ і духоўна, і фізічна: вынішчаюць як клясавага ворага, як народ і як нацыю. За дваццаць гадоў польскай буржуазна-фашыстоўскай улады не было арыштавана, рэпрэсавана, выслана і дзесятай долі ад тых, каго рэпрэсавалі саветы за два гады сваёй улады.*

*Усе тры адзначаныя катэгорыі ворагаў народу для Саветаў былі і застаюцца ворагамі № 1. Пры такой сытуацыі шанцы застацца паўнавартасным народам у беларусаў застаюцца мізэрнымі.*

*Так беларускі Ўсход можа загубіць беларускі Захад.*

## 34. Аб вывучэнні партыйнымі і савецкімі работнікамі беларускай мовы...

За прыезджымі спецыялістамі з усходу назіралася яшчэ адна цікавая асаблівасць – іх мова. Ізноў, як некалі за царом, ува ўсіх установах загучала расейская мова, што было трохі дзікаватым, бо за дваццаць гадоў польскасці людзі адвыклі ад расейшчыны. Цяпер у гэтых установах мова людзей стала ўяўляць сабой маларазборлівы слэнг з набору беларускіх, польскіх і рускіх словаў. Так, як раней трэба было да начальства звяртацца «па-польску», зараз – «па-руску», а наведвальнік жыве мовай беларускай. Вельмі моднай стала рабіцца моўная трасянка, якая падкрэслівала, што моўная праблема не з'яўляецца прынцыповай праблемай для гаворачага на трасянцы і ён, калі трэба, можа з лёгкасцю перайсці на якую хочаш мову. Але ўсе гэтыя моўныя пытанні ў параўнанні з тым што рабілася навокал (раскулачванні, высяленні, арышты, дэпартацыі, забойствы) не былі настолькі важнымі, каб узнікла вострая патрэба ў іх развязванні. Праблема была ў тым, што з цягам часу новым уладам стала зразумелым, што тутэйшыя людзі не разумеюць іх, не разумеюць у прамым сэнсе, не разумеюць, што яны гавораць, што яны хочуць сказаць, што яны хочуць ад гэтых людзей... Нават мясцовыя актывісты, якія сталі пры саветах і транслятарамі і рупарамі новых ідэй, самі

шмат чаго не разумелі і не заўсёды перадавалі гэтыя ідэі так, як трэба было. З другога боку за год савецкай улады амаль што не стала тых людзей, якіх нешта цікавіла больш, чым толькі зямля, якія і пытанні маглі задаць вострыя, і пашукаць нейкай справядлівасці, і паставіць пытанне наконт мовы. Менш стала і тых, хто трымаўся сваёй моўнай традыцыі, пазбягаючы ўсякіх трасянак.

На парадак чарговага (восеньскага) паседжання актыву былі вынесены два пытанні: аб святкаванні чарговай гадавіны Вялікай сацыялістычнай кастрычніцкай рэвалюцыі і абмеркаванне пастановы ЦК ВКП (б) і ЦК КПБ «Аб вывучэнні партыйнымі і савецкімі работнікамі БССР беларускай мовы».

У сувязі з такімі пытаннямі, якія мелі асаблівую важнасць і незалежалі ад народнага меркавання, сход было вырашана не праводзіць. Увогуле, недзе з вясны сталі практыкавацца новыя формы працы: замест агульнага сходу сталі праводзіць паседжанні актыву. Актывістыя казалі, што так яно нашмат лепей – і шуму меней, і карысці болей. Праўда, старшыня сельсавета Кабяк быў супраць такіх формаў, маўляў, «нас могуць дакараць у адсутнасці дэмакратыі», і ён прапанаваў праводзіць адкрытыя паседжанні актыву. Калі людзі не прыходзілі самі, дык ён папярэджваў некаторых спецыяльна і запрашаў. Так што, амаль на кожным паседжанні актыву прысутнічалі даярка, пастух, конюх і кухарка. На гэты раз, апрача іх, прыйшло яшчэ некалькі чалавек па асабістым запрашэнні Сцяпана, маўляў, калі што, каб падтрымалі яго.

Дык вось, першае пытанне на паседжанні было разгледжана вельмі хутка: трэба будзе сфармаваць калону, падключыць камсамол і школьнікаў, забяспечыць калону транспарантамі, чырвонымі сцягамі і абавязковымі партрэтамі Леніна, Сталіна і Калініна. Зразумела, што павінны быць: адпаведная культурная праграма, забяспечанасць гарэлкі ў мясцовай краме і ўзмоцнены нарад міліцыі. Абралі камітэт па арганізацыі святочных імпрэзаў, прызначылі ўпаўнаважаных і адказных і закрылі пытанне.

На другое пытанне ўступнае слова было дадзена Сцяпану:

– Шаноўныя таварышы, вяскоўцы, жанчыны і мужчыны, – гучна і ўрачыста пачаў Сцяпан, як усёроўна на сходзе. – Мы ня можам не нарадавацца апошнімі падзеямі, сьведкамі якіх мы зьяўляемся сёньня...

Але тут раптам дзверы з шумам адчыніліся і на парозе з'явіўся Цэрбер пры ўсім парадзе: партупея, кабура і мундзір.

Правай рукой ён злёгку ківаў на чырвоныя нашыўкі маёра. Усе міжволі звярнулі на яго ўвагу.

– Ну, как я, как, как? – не столькі спытаўся, колькі падкрэсліў самазадаволены Цэрбер.

– Ну ты й как, – не падумаўшы сказаў Сцяпан, і памяшканне ажывілася гучным смехам. – Што перабіваеш?!

Не смяяліся толькі двое: наваяўлены маёр і Сцяпан – адзін не мог зразумець прычыну смеху, другі таму, што ўсё добра зразумеў.

– Цішэ таварышы, цішэ! – успакойваў прысутных Кацалапаў. Нічога тут сьмешного нету. Поздравляю вас, товарішч майор, с очередным прісвоеніем заслуженного званія!.. Это очень хорошо, еслі каждый із нас станет майором...

– Как это, как? – жыва пацікавіўся Пуценька.

Ад такога пытання смех стаў яшчэ болей гучным.

Маёру Цэрберу, відаць, стала нешта даходзіць – з твару зышла самазадаволенасць і пыха, і бровы яго пагрозліва насунуліся на пераносіцу.

– Сам ты как! – гаркнуў маёр на Пуценьку так, што той ад страху палез пад лаўку.

– Цішэ, таварышы, цішэ! – зноў загаварыў Кацалапаў. – Не надо коверкать велікій рускій язык, не надо... А вы, таварыш Сьцяпан, вельмі добра пачалі, працягвайце ў такім духу...

– А вось скончыць можаце кепска, – дапоўніў старшыня сельсавету Кабяк.

– Дык вось, мы ня можам не нарадавацца апошнімі падзеямі, сьведкамі якіх мы зьяўляемся сёньня, – працягваў Сцяпан, але без таго ўжо імпэту.

Тут некаторыя прысутныя зноў ажывіліся, але на гэты раз Кацалапаў памахаў у іх бок кулаком.

– ... Вось нядаўна ў Беларускім дзяржаўным выдавецтве выйшла цікавая кніжка пад назовам «Год пад сцягам Саветаў», – Сцяпан паказаў кнігу, – кніга пра нашае новае шчасьлівае жыццё, пра новы быт, новую культуру і пра новыя перспектыўныя этапы перамогі Савецкай улады. Этапы гэтыя можна пералічыць: вызваленьне з-пад польскага рабства, Народны Сход, выбары ў Вярхоўны Савет БССР і СССР, 70 – годдзе зь дня народзін У. І. Леніна, стварэньне камунаў і калгасаў, а наперадзе – гадавіна, я не пабаюся сказаць гэтае слова, – гадавіна Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. Але гэта пасьля, а зараз я хацеў бы зьвярнуць вашу ўвагу на той факт,

што Цэнтральны Камітэт Усесаюзнай Камуністычнай Партыі бальшавікоў, пад мудрым кіраўніцтвам Вялікага Сталіна, не забываецца пра нас, аб чым сьведчыць пастанова ЦК ВКП (б) **«Аб вывучэнні партыйнымі і савецкімі работнікамі, якія працуюць у саюзных ці аўтаномных рэспубліках, мовы адпаведнай саюзнай ці аўтаномнай рэспублікі»**. Адпаведную пастанову ад 16 кастрычніка 1940 г. прыняў ЦК Камуністычнай партыі Беларусі. Зачытваю: *«Аб вывучэнні партыйнымі і савецкімі работнікамі БССР беларускай мовы»*. І далей: *«Прызнаць няправільным, што многія кіруючыя партыйныя і савецкія работнікі, што працуюць у Беларусі, ня ведаюць і не вывучаюць беларускую мову... Абавязаць абкамы, гаркамы і райкамы КП(б)Б распрацаваць мерапрыемствы па аказанні індывідуальнай дапамогі таварышам у вывучэнні беларускай мовы шляхам арганізацыі кансультацый у школах, сярэдніх і вышэйшых навучальных установах, завочнага навучання»*... Ну, як?

– Маладца! – пракрычаў Пуценька.

– У сувязі з гэтым, у нас будзе створаны гурток вывучэньня матчынай мовы. Заняткі, з наступнага панядзелка, будзе праводзіць выдатны спецыялісты – настаўнік беларускай мовы і літаратуры Местачковай сярэдняй школы, таварыш Махуноў Васіль Сямёнавіч. Прашу запісвацца ў гурток...

Сцяпан яшчэ нешта хацеў дадаць, але яго, адштурхнуўшы рукой, бесцырымонна перабіў Цэрбер:

– Ты чё здесь вякал про матччіну мову?.. Язык моей матери – это мой язык... И я не обязаны изучать... вашу мать! Это во-первых! Во-вторых, как ты сказал, «гадавіна рэвалюцыі» – не хорошо сказал... Или вот ещё «народный сход», что это за сход – так и несёт сходняком каким-то! Вы на что намекаете, товарищ Степан? Я давно вам это хотел предупредить! Так вскоре некоторые будут провозглашать свою «гадавину» на сходняке в определённом месте!..

Сцяпан тады набраўся смеласці і нясмела сказаў:

– Вы меня не страшце, таварыш маёр...

– Действительно, таварышч маёр, – заступіўся за Сцяпана Кацалапаў, – не надо передёргивать факты, не надо! А наконт мовы, калі гэта рашэньне ЦК, нам трэба добра падумаць, але ўжо сёньня зразумела, што мову трэба рэфармаваць і многія словы нам трэба будзе замяніць рэвалюцыйным, сацыялістычным зьместам. Праўду я кажу, таварышч Сьцяпан?

– Ну, ведама, таварыш Кацалапаў! – з нейкай лёгкасцю пагадзіўся Сцяпан.

– Ах, так! – Цэрбер, відаць, раскудахтаўся не на жарты. – Про какой вы, товарищ комиссар, говорите змест?! Я вам счас продеманстрирую этот змест! – тут Цэрбер дастаў лісток з вучнёўскага сшытка, разгарнуў і стаў чытаць:

*Як да нас прыйшлі саветы,*
*кожны стаў хадзіць разьдзетым,*
*хадзіць голым і галодным,*
*пры саветах стала модна.*

*А калі ты знакаміты,*
*пры саветах будзеш бітым.*
*А калі яшчэ й багаты,*
*забяруць зямлю і хату.*

*Нешта думалі палякі –*
*бальшавізм ім быў да ср...*
*Пры саветах цяжка польцы –*
*згвалтавалі камсамольцы.*

*Пры саветах беларусы,*
*цягнуць лямку пад прымусам.*
*Што пажнеш, тое пасееш, –*
*накарміць трэба Расею.*

*Подпіс: Янка Трэці.*

– Вот такой литературный шедевр можна написать только на этом языке! – Цэрбер махаў паперай у паветры. – Кто написал? Кто расклеил на деревьях и даже на сельсовете эту клевету? Я найду не толькі этого «Трэцяга» – я найду и первого, и второга, а четвёртому не бывать!.. Я всеравно узнаю, и вы меня попомните!..

– Давайце ня будзем тут зараз устраіваць літаратурныя разборкі, – прапанаваў старшыня сельсавета Кабяк. – А аўтарства трэба абавязкова ўстанавіць... Не падзеля таго, каб пакараць паэта, а пахваліць за мастацкую крытыку... Што ж, мы не сьвятыя, можа і памыляемся дзе, але мыляецца і аўтар, калі ўсё малюе ў такіх чорных фарбах, да прыкладу, я анідзе ня бычыў, каб у нас хадзілі людзі разьдзетымі, мы ж усе добра ведаем, што хадзіць голым непрыгожа... Нічога такога я ня чуў, каб дзе нашы камсамольцы гвалтавалі полек – усё гэта выдумкі, а калі і адбываецца што дзе, дык ўсё па згодзе. Я думаю, што калі аўтар чэсны паэт, бо ёсьць і нячэсныя, ён сам прызнаецца, і мы, толькі на яго карысьць, падскажым, якой павінна быць наша крытыка і якой павінна быць наша

літаратура, і хай піша сабе, як Янка Купала альбо Максім Горкі.

Такая прапанова прысутнымі была ўспрынята моўчкі. Аўтара, відаць, сярод іх не было, толькі Пуценька падняўся і гучна звярнуўся да Цэрбера з цікавым пытаннем:

– Таварыш упаўнаважаны, а ці можна перапісаць гэты шэдэўр?

– Які шэдэўр? – на адразу зразумеў Цэрбер.

– Ну, там дзе «Як да нас прыйшлі Саветы...»

– А тебе зачам?

– Ну, хай будзе, мала што... Калі што, у якасьці ўлікі можна будзе скарыстаць...

– Што-то я тебя не понимаю, Пуценька... Переписвай, но если я где-нибудь услышу про камсомольцев і польку, то смотри ў меня! Достану из-под земли и по примеру полькі ты у меня ответишь!..

На гэтым паседжанне актыву было завершаным, праўда, Цэрбер загадаў, каб ніхто не расходзіўся ў сувязі з экспертызай почарку. Людзі, за выключэннем Кабяка і Кацалапавага, падыходзілі да Цэрбера і нешта пісалі на чыстым лісце. Цэрбер уважліва глядзеў на пісанку і казаў: «свабоден». Доўга, вельмі доўга Цэрбер звяраў почырк Сцяпана, а пасля незадаволена буркнуў: «Ідзі».

Пасля яшчэ некалькі дзён Цэрбер з Пуценькам хадзілі хатамі і звяралі почыркі. Шмат тады хто трапіў у кола падазроных, але аўтарства ўстанавіць не ўдалося.

А гурток у вывучэнні беларускай мовы і сапраўды быў створаны, і нават былі праведзены некалькі заняткаў, на якіх прысутнічалі Кацалапаў, Пуценька, Сцяпан (па доўгу службы) і адзін раз на заняткі заглянуў п’яны Цэрбер: крыўляўся ён і перадражніваў настаўніка, махаў пісталетам і пагражаў:

– Я вам, мать вашу, аз воздам мову!

На гэтыя выхадкі Цэрбера ані Сцяпан, ані Кацалапаў аніяк не рэагавалі – сядзелі і ціхенька пасмейваліся. А калі настаўнік зрабіў заўвагу Цэрберу, маўляў, перашкаджаеце, таварыш маёр, Цэрбер разышоўся.

– Ах ты, лапотник! – ускочыў Цэрбер. – Если есчо раз приедешь со своими «заняткамі», так я, камисар, маёр Народного комиссариата внуренних дел, пристрелю тебя, как паршивую собаку!

Вяскоўцы на такія заняткі тым больш не хадзілі: папершае, казалі яны, мы не накіруючых пасадах, а па-другое –

хай навучацца напачатку гаварыць на нашай мове Кацалапаў і Цэрбер так, як мы гаворым, а пасля паглядзім. А пасля на гэтыя заняткі перасталі хадзіць і Пуценька, і Кацалапаў. Перастаў прыязджаць з мястэчка і беларусавед.

Неяк Сцяпан на сходзе актыву паставіў быў пытанне наконт таго, што ніхто не хоча вучыць сваёй мовы, хаця дзеля гэтага мясцовым начальствам усё было зроблена, на што маёр Цэрбер холадна заўважыў:

– И мне, и вам будет достаточно моего родного материнского!.. А так, как ты разговариваешь на белорусской мове, могут разговаривать только враги народу, всякие бэнээровцы и отморозки!

Сцяпан тады некалькі хвілін стаяў здранцвеўшы.

На гэтым закончылася акцыя ЦК ВКП (б) у вывучэнні мовы народу.

А ўся дакументацыя розных абласных аддзелаў, камітэтаў і інспекцый як дагэтуль, так і пасля вялася выключна на расейскай мове.

## 35. Беларуская мова
## (з нататніка заходніка)

*Пры раённых аддзелах народнай адукацыі, культуры, сацыяльнага забесьпячэньня і іншых дзяржаўных установах былі ўведзеныя новыя пасады для ўпаўнаважаных – пасады палітычных інспектараў. Імі звычайна прызначаліся прыезджыя з ўсходу асобы, альбо чырвонаармейцы, удзельнікі вызваленчага паходу. Абавязковым патрабаваньнем для інспектараў было кандыдацтва альбо сяброўства ў камуністычнай партыі. Зразумела, што асноўнымі задачамі палітычных інспектараў былі наступныя: павышэньне кіруючай ролі камуністычнай партыі і савецкай улады ў асяродку падначаленых аддзелам установах; праверка і падборка надзейных, палітычна вытрыманых і аддадзеных камуністычнай ідэалёгіі і партыі Леніна-Сталіна кадраў; арганізацыя навучальнага і выхаваўчага працэсу ў духу камуністычнай ідэалёгіі; кантроль і выяўленьне палітычных, нацыянальных, рэлігійных і іншых, варожых савецкай уладзе, настрояў сярод супрацоўнікаў, кліентаў, школьнікаў і іх бацькоў.*

*Разьмежаваць функцыі загадчыка аддзела, сакратара парткама, палітычнага інсьпектара і загадчыка кадраў раённых аддзелаў было вельмі складана – усе яны рабілі адну і тую ж справу, часта з супярэчнасьцямі адзін аднаму, але аніводзен дакумент у сфэры аддзела ня меў моцы бяз подпісу каго-не-*

*будзь зь іх. Зразумела, што асобы, якія траплялі на гэтыя пасады, беларускай мовы не разумелі і разумець не хацелі.*

*Так, у абавязкі палітычнага іньспектара раённага аддзела адукацыі ўваходзіла яшчэ і арганізацыя навучальнага працэсу паводле нацыянальнай прыналежнасьці школьнікаў: для палякаў арганізоўваць польскія школкі, для жыдоў – жыдоўскія, а для беларусаў – беларускія. А ў сувязі з патрабаваньнямі аб беларускай мове, раённыя аддзелы адукацыі атрымалі адпаведныя ўстаноўкі на адкрыцьцё беларускіх школаў. Школы сапраўды сталі адкрывацца, хутчэй не адкрывацца, а пераводзіцца паводле назвы ў беларускія, а сам зьмест і працэс навучаньня яшчэ болей русіфікаваўся, бо на месца ўчарашніх польскіх настаўнікаў прыехалі настаўнікі з савецкага ўсходу, і шмат хто зь іх беларускай мовы ўвогуле ніколі ня чуў. Паводле статыстыкі, беларускіх школак стала большасьць, але толькі адзінкі зь іх прытрымліваліся беларускамоўнага прынцыпу, і то нядоўга: мянялі дырэктара (звычайна абвінавачвалі ў нацыяналізьме) і школка, «по многочисленных прошениях трудящихся» станавілася рускай. У шэрагу раёнаў назіралася такая асаблівасьць: было вырашана польскую школу рэарганізаваць у беларускую, але мясцовыя палякі катэгарычна выступілі супраць з адпаведнымі заявамі пакінуць ім сваю школу. У большыні выпадкаў такія заявы пакідалі без разгляду, і тады палякі пішуць іншую заяву і зьбіраюць подпісы на адкрыцьцё для іх і ўсіх астатніх рускай школы – рэзананс ад такіх заяваў быў вельмі вялікім, ініцыятывы такіх палякаў віталіся на сама высокіх узроўнях. Зразумела, што руская школа тут жа і адкрывалася. У 1940-1941 гг. школы рэарганізоўвалі ў рускія паводле толькі адной нагоды: прысланыя з савецкага ўсходу спецыялістыя (настаўнікі і выхавацелі) «являются русскими и белорусского языка не знают». У гэтай сувязі не браліся пад увагу ані жаданьні і просьбы вучняў і іх бацькоў, ані колькасны нацыянальны склад вучняў. Так, у Мястэчку былі дзьве школы: жыдоўская і польская. Калі жыдоў было палову насельніцтва, дык палякаў – адсоткаў пяць, ня болей, астатнія былі беларусы. З прыходам Саветаў у школу прыйшлі два вучні паводле нацыянальнасьці – рускія (дзеці старшыні сельсавета і сакратара партарганізацыі), і школа стала рускамоўнай паводле зьместу выкладаньня прадметаў, хаця называлася беларускай.*

*Можа, дзе там, у Савецкай Беларусі, савецкая наменклятура і рабіла спробы беларусізацыі, толькі ня тут, у Беларусі Заходняй. Мова падзяліла насельніцтва краю на дзьве групы:*

*ворагаў народу – тых, хто размаўляў на беларускай і польскай мовах, і савецкую наменклятуру – тых, хто прасьледаваў, арыштоўваў, судзіў, высяляў і рэпрэсаваў «ворагаў народу» – яны размаўлялі на мове расейскай. Мова стала крытэрыем улікі прыналежнасьці да стану ворагаў. У новага начальства найменшага даверу не было да тых, хто размаўляў не на мове Леніна і Сталіна – толькі падазронасьць і варожасьць. Яны на кожным кроку даводзілі, што «я русский выучил б только за то, что им разговаривал Ленин». І калі ты ня вывучыў «рускі» да гэтага часу, значыць табе ўсё роўна, што гаварыў той самы Ленін. А калі так, дык ты ж, выходзіць, клясавы вораг. Але нават калі ты й вывучыў рускі, дык яшчэ невядома, зь якімі намерамі ты гэта зрабіў – ты павінен даказаць сваю прыхільнасьць, гэта значыць, высочваць і даносіць адпаведным органам пра тых, каму не падабаецца мова Леніна-Сталіна, мова блёку камуністаў і мова Пушкіна... Ты яшчэ павінен змагацца зь імі сам усякімі сродкамі і метадамі і, калі трэба, быць гатовым да фізічнага мардаваньня такіх ворагаў.*

*Ніколі не было такой палітыкі, пры якой так мэтанакіравана і плянава праводзілася б праца фізічнага зьнішчэньня носьбітаў тытульнай нацыі, носьбітаў культуры і самабытнасьці.*

*У Вурлянятах чырвонаармейцы забілі двух хлопчыкаў. Нешта спыталіся ў хлопчыкаў, тыя адказалі. «Вызваліцелям» мова здалася незразумелай, а значыць – ворагі. А ў Вурлянятах усе выключна размаўлялі толькі на беларускай мове. Нават за польскім часам войт і іншыя польскія ўрадаўцы, калі трэба было нешта давесьці народу, пераходзілі на мову беларускую, бо польскую мову ў Вурлянятах з прынцыпу не ўспрымалі.*

*Ніхто да гэтага часу так не зьдзекваўся над мовай народу, так не прыніжаў яе і не кампраметаваў у вачах насельніцтва, як тыя, хто прыехаў сюды з усходу. І тут ужо абсалютна не істотна было, адкуль яны прыехалі: ці з Гомельшчыны і Магілёўшчыны, ці аднекуль з глыбінкі Расеі.*

*Такія словы, як поп, ксёндз, сьвятар, інтэлігент, дзева, сьвяты, спадар, шаноўнае спадарства з вуснаў прыезджых загучалі з адмоўным, абражальным адценкам. Нічога добрага не чакала таго, каму прыезджыя адрасавалі гэтыя словы.*

*Прыкра было глядзець і слухаць, як некаторыя выхадцы з Заходняй Беларусі, якія толькі што ўчора «пшэкалі» налева і направа перад панамі і польскімі чыноўнікамі, сёньня з такой жа лёгкасьцю сталі гаварыць «па-руску», і новым уладам гэта вельмі спадабалася. А калі нехта зь іх трапляў бліжэй да са-*

*вецкага карыта і атрымліваў нейкую пасаду пры новай уладзе, тут жа, раптоўна стараўся зрабіцца расейскамоўным. Да якой жа ступені трэба было не паважаць сябе і свайго народу і быць такой нікчэмнасьцю, каб так крыўляцца і апускацца да ўзроўню такога падхалімажу, ліслівасьці, угодніцтва і популізму (попу лізаць),– каб толькі патрапіць, каб толькі спадабацца новаму начальству, каб толькі мець сваю ўласную выгоду. Але гэта быў іх час: час хітрых і несумленных, час пустазвонаў і папулістаў.*

*Таго, хто не ламаўся і гаварыў па-ранейшаму па-беларуску, а гэта былі, збольшага, сябры Таварыства беларускай школы, былыя «грамадоўцы» і «хадэкі», і ўвогуле людзі, якія разумелі і мелі сваю пазыцыю – усіх іх сталі кляйміць нацыяналістамі, рупарамі нацдэмаўшчыны і ворагамі народу. Так, прынамсі, інтэлігентныя, творчыя і талковыя людзі – інтэлект і носьбіты нацыі – сталі Саветам непатрэбнымі і былі адкінутыя на маргінэз культурна-грамадзкага жыцьця, а пасьля – у Сібір.*

*Вось такім чынам учарашнія чырвонаармейцы – салдаты і сяржанты, а таксама былыя расейскія і польскія вязьні-крымінальнікі – сёньня сталі рознымі ўпаўнаважанымі, «энкэвэдэшнікамі» і палітычнымі інспектарамі і яны вырашалі лёс і будучыню беларускай мовы, культуры і беларускага народу.*

## 36. Вясна 1941-га года

Антось той вясной шмат перадумаў. А калі сеяць, дык колькі сеяць, бо колькі ты ні пасееш, табе пакінуць (добра, калі яшчэ пакінуць) роўна столькі, каб ты з сям'ёй не памёр з голаду. А пасля сяўбы можа распачацца чарговая акцыя шукання «ворагаў народу». А трапіць у іх спісы можна вельмі лёгка. Пасееш болей, альбо болей сажнеш – і можаш стаць ворагам.

Другім, праўда, падабалася такое жыццё. Мядзведскі Міцька з Клышкаў казаў, што і сапраўды жыць стала весялей: кожны дзень нешта новае: ці раптам кулак новы аб'явіцца, ці нейкі новы шпік японскай выведкі, ці «вораг народу», ці на сход ідзеш, як на спектаклю, ці начальства пацешыць сваімі імпрэзамі. Не, гэта не тое, што раней было – цэлы дзень гнеш спіну на паншчыне, і аніякай радасці табе... А тут: адны плачуць, другія скачаць, трэція сёння цешацца з адных і другіх, а заўтра самі плачуць... Весела...

Антось не бачыў тут весялосці. Сёння было добра толькі таму, хто не думаў пра дзень заўтрашні. Пражыў дзень, і радуй-

ся, і цешся таму, што пражыў... Можа, так яно і лягчэй было б. Можа людзі адумысля прывучаюць сябе да гэтага, хаця, хто яго ведае. Спілавалі ў Мазалях па загадзе Кабяка старасвецкія дубы і высеклі гай пры сенажаці між Дойневічамі і Мазалямі. Адны казалі, што ў наваколлі пасвятлела, другія – апусцела. Так і савецкая ўлада: адным прынесла свет, другім – пустэчу. Адным было весела, другім –страшна.

Парадаксальная атрымлівалася сітуацыя.

Дарэчы, што датычыць прасвятлення: загаварылі пра матэрыяльную дапамогу для малазабяспечаных і шматдзетных сем'яў, маўляў, у каго шэсць (у рэдкім выпадку пяць) і болей дзяцей, тыя сем'і атрымаюць ад савецкай улады «пасобія» – грашовую дапамогу. Такая дапамога можа быць разавай і штомесячнай, у залежнасці ад матэрыяльнага становішча сям'і. І дапамогу сапраўды шмат хто атрымаў у вёсцы, нават брат Антося – Бронюсь выбіў для сваёй Франі штомесячную пенсію за шматдзетнасць – шэсць дзяцей. У Антося ж было дзяцей у два разы болей, але яму ніхто з начальства ні слова пра гэта. Параіўся ён з Ганькай і вырашыў схадзіць у раён наконт дапамогі, як падказалі людзі, у райсабес трэба... А тут якраз і спадарожнік знайшоўся – Прохар Сымановіч з Дзёснаў – была ў яго свая патрэба схадзіць і пашукаць праўды ў тым раёне наконт сына.

Сын Прохара вучыўся ў Маладэчана ў рамесленнай навучэльні, прыехаў зімой на вакацыі і застаўся дома, маўляў, не падабаецца яму горад і гэтае рамесніцтва, лепей ён будзе сена касіць і зямлю араць, чым каля станкоў стаяць у вечным грукаце. А праз два тыдні прыйшла папера, каб сын тэрмінова прыехаў у школу. Паехаў сын у Маладэчана, а там арыштавалі і пасадзілі. За што пасадзілі? Вось на гэтае пытанне думаў Сымановіч атрымаць адказ у раёне.

Назаўта Антось запрог у вазок свайго Каштана, падышоў Прохар і яны паціху пакаціліся ўбок Бяляніцы.

У раёне мужчыны зайшлі ў «дом правіцельства», знайшлі патрэбныя ім кабінеты і занялі чаргу: аднаму да палітычнага інспектара аддзела адукацыі, а другому да ўпаўнаважанага па пытаннях сацыяльнага забеспячэння.

Першай дайшла чарга да Сымановіча, ён зайшоў у кабінет, але праз хвіліну выскачыў, спалохаўшыся, і стаў прасіць Антося, каб і ён зайшоў з ім разам у якасці сведкі.

Вялікай патрэбы ў такім сведку Антось не бачыў, яго здзівіла іншае – страх Прохара перад начальствам. У кабінет яны зайшлі ўдвух, і Сымановіч стаў блытана тлумачыць прычыну прыходу. Начальнік строга паглядзеў на яго і сказаў:

– Нічога зрабіць ужо немагчыма, таму што ёсьць адпаведная інструкцыя і загад, хвілінку... вось*: «Указ Президиума Верховного Совета Союза ССР «Об ответственности учащихся ремесленных ж/д училищ и школ ФЗО за нарушение дисциплины и за самовольный уход из училищ (школы)... Такие лица подвергаются по приговору суда заключению в трудовые колонии сроком до одного года».*

*Председатель Президиума Верховного Совета Союза ССР М. Калинин*

*Секретарь Президиума Верховного Совета Союза ССР А. Горкин*

*Москва, Кремль, 28 декабря 1940 г.».*

А вось яшчэ адна, навейшая: *«Возбуждение уголовных дел за самовольный уход учащихся со школы ФЗО (...). На основании приказа Народного Комиссара Юстиции СССР и приказа Прокурора Союза ССР за № 2/5-3 от 4-го января 1941г. и разъяснения Наркома Юстиции Союза ССР от 24-го января1941 г.»*[1].

– Тут справа такая – працягваў палітычны інспектар – мы ўвосень мабілізавалі ў школы ФЗО (лясныя і транспартныя) і рамесьніцкія вучылішчы ў Маладэчана, Княгініна, Уша і Опса ўсю моладзь, а яна ня хоча вучыцца. Вось, каб арганізаваць навучальны працэс, і прыйшлося прыбягаць да такіх мераў. Нічога страшнага, пасядзяць год-другі і яшчэ як ім захочацца павучыцца трохі...

– А вы, таварыш, з якім пытаньнем? – звярнуўся палітычны інспектар да Антося. – Што таксама дзеці вучыцца ня хочуць?..

– Не-не... У мяне... Я за кампанію, – і Антось хуценька выйшаў з кабінета.

А было жаданне ў Антося вывучыць сваіх дзяцей, аддаць на вучобу ў горад, каб выйшла што-колечы талковае і патрэбнае, але, калі так у іх пастаўлены навучальны працэс, дык тут трэба добра падумаць з гэтай навукай...

Адказ палітычнага інспектара не задаволіў Сымановіча, і ён вырашыў ехаць у Вілейку, да абласнога пракурора, хоць і сам сумняваўся ў станоўчым развязванні гэтага пытання, маўляў, калі яго сына пасадзіў сам Калінін, дык наўрад ці апраўдае пракурор вобласці.

Неўзабаве падышла чарга і да Антося, і ён трапіў да патрэбнага яму начальніка.

– Таварыш начальнік, я прыйшоў запытацца, – пачаў быў Антось.

[1] Выкарыстаны дакументы Занальнага дзяржаўнага архіва г. Маладзечна: ф..Р-60.

– Пытайся! – дазволіў начальнік, не адрываючы вачэй ад нейкай паперы.

– Кажуць, выйшаў загад аб прызначэньні шматдзетным маткам грашовай дапамогі...

– Так, хто кажа? – начальнік падняў вочы на Антося.

– Людзі...

– Людзі? Людзі шмат што гавораць, слухай толькі іх...

– Дык што, няма загаду?

– Ёсьць! Таму што савецкая власьць – сама гуманная власьць у сьвеце... Дзе ён... ага: «В соответствии со статьёй 10 постановления ЦИК и СНК СССР...», ну й што?.. Ты ж ня матка...

– Я бацька...

– Бацька ў нас адзін...

– Мой бацька загінуў...

– Ты, відаць, палітычны байструк! – удакладніў начальнік.– Бацька ў нас адзін – таварыш Сталін!

– Я таксама – бацька... У мяне дванаццаць дзяцей, трое памярло, – гнуў сваё Антось.

– Ты не бацька – ты дурань... Скажы сваёй шматдзетнай, хай бярэ даведку ў сельсавеце і прыязджае да нас, будзем разьбірацца.

– Дзякую, начальнік, можна ісьці?

– Ідзі. Толькі не забывайся пра атца нашага роднага...

Тады Антось з кабінета выйшаў абнадзеяны і задаволены, нягледзячы нават на тое, што яго там абазвалі дурнем.

А назаўтра пайшоў Антось у свой сельсавет.

Сельсавет зараз знаходзіўся ў адной палове дому Дабрынскага, у другой, паводле шыльды, было «Праўленне калгасу імя 18 верасня».

Пад сельсавет былі адведзены два пакоі: у адным засядаў старшыня з сакратаркай, а ў другім – спецыялістыя. Спецыялістаў было ажно пяць чалавек, што яны рабілі – невядома. Сярод іх Антось пазнаў хіба што Пуценьку, Цэрбера і Сцяпана, астатнія два былі прыезджымі. На Антося аніхто ўвагі не звярнуў, быццам нейкі невідучы прывід зайшоў, і зразумела, ніхто не адказаў яму на яго «добры дзень».

Дзверы з аднаго пакоя ў другі былі расчыненымі, і ўсё, што гаварылася ў кабінеце старшыні, было добра чуваць у кабінеце спецыялістаў.

– Что эта за імена, – абуралася сакратарка сельсавета. – Я здесь выпісала: Болюсь, Бронюсь, Валерусь, Валюсь, Ваця, Вінцусь, Віктось, Волюсь, Генюсь, Зыгмусь, Зэнусь, Ігнусь, Ірусь, Манюсь, Пятрусь, Ромусь, Стась, Чэсь, Юлесь, Ясь?! Это же, чёрт ведае что – язык сломаеш!

– Надо будет в дакументах записвать правильна: Болюсь и Бронюсь – это Борисы, эти все Валюси и Волюси – Валентины, Винцуки и Виктоси – Викторы, Генюсь, Зыгмусь і Зэнусь – это, надо полагать, – Евгении, а Стась и Чэсь – Славы, ну и так далее, по созвучию, – даваў слушныя парады старшыня сельсавета Кабяк.

– А з женскими как? Агата, Аксіньня, Алімпа, Аніся, Аньця, Волька, Выруся, Вэліна, Ганька, Гэлюня, Рада, Стэфка...

– Ну как? Так же: Аксинья – Оксана, Аньця, Аніся и Ганька – Анна, Выруся – Вера, Гэлюня – Елена, Стэфка – Стэла і гэтак далей.

– Или вот ещё: Ян, Янка, Янак, Янук, Януля, Януш, Ясь?.. С этими что делать?..

– Что делать? Что делать? – ня вытрымаў Цэрбер. – Известное дело – в Сибирь их всех надо! Чтоб стали все, как один, Иванами, родства не помнящими!

– Ну, за што так адразу й у Сібір? – засумняваўся Сцяпан.

– Да если б знали за что, так сразу и расстреляли б! Меньше хлопотов, – шумеў Цэрбер.

– А землю кто пахать будет, товарищ уполномоченный маёр?! – спытаўся старшыня.

– Землю вот он и будет пахать! – Цэрбер кіўнуў галавой на Антося.

– Вялікі дзякуй! – Антось у адказ таксама кіўнуў галавой.

– О, народ! Больше ста лет цар их душил – всеравно остались Болюсі, Волюсі, Вітусі, Зэнусі, Янусі! – абураўся Цэрбер. – Только Сибирь их исправит – один выход! А тебе чего? – тут ён, быццам бы толькі цяпер, заўважыўАнтося. – Пахать иди, Зэнусь!

– Я ня Зэнусь, я тут з іншай нагоды, – і Антось пачаў было расказваць, чаго ён сюды прыйшоў, але Цэрбер тут жа паказаў яму на дзверы старшыні сельсавета.

Антось пастукаўся ў прыадчыненыя дзверы (так некалі рабілі, калі была пільная патрэба зайсці ў пакой да пана, а тут і дзверы тыя самыя, толькі што пан другі). Пачуўшы «дада», зайшоў. Таварыш Кабяк, старшыня сельсавета, яшчэ раз выслухаў Антося, пасля спытаўся, а ці ў калгасе ён, а пасля клікнуў Сцяпана. Сцяпан катэгарычна быў супраць такой даведкі:

– Дзе вы такое бачылі, каб савецкая ўлада дапамагала дзецям ворагаў народу?!.

– Дзеці тут якраз і не пры чым, – стараўся пераканаць Антось.

– Як не пры чым? Ганька, твая шматдзетная, – дачка ворага народу, чэс, член сям'і!

– У яе свая сям'я...

– Ну й што? Ты, Антось, сам гэтых дзяцей накляпаў і сам як-небудзь разьбірайся, пры чым тут савецкая ўлада, – даводзіў Сцяпан.

– А пры тым, што яна гуманная і дае дапамогу...

– Вось наконт дапамогі: ты ж, Антось, у калгас не прыйшоў, каб дзяржаве дапамагчы, ты ж нічога дзяржаве ня даў, а ў цябе і конь, і колы, і карова, і шмат чаго карыснага маецца для калгасу, але ж ты нічога ня даў... А вось узяць ад дзяржавы – ты тут як тут.

Антось не зусім зразумеў, чаго так упёрся Сцяпан – не з сваёй жа кішэні ён будзе плаціць гэтую дапамогу.

– Мы даём дапамогу толькі тым, хто на савецкай і партыйнай дзейнасьці, а вы нават не ў калгасе, – дапаўняў Сцяпана старшыня.

– Я ж не для сябе, для жонкі!

– А яна ў цябе хто, актывістка, камсамолка, спартсмэнка?

– Яна ў мяне нарадзіла дванаццаць дзяцей!..

– Ого! Яна ў цябе камунарка, даярка, калгасьніца? – дапытваўся старшыня.

– Не, ня можа яна хадзіць у калгас, бо дзіця малое на руках.

– Дык яна, а ты чаму ўпёрся супроць калгасу? – з другога боку насядаў Сцяпан.

– Упёрся таму, што мне дзяцей трэба карміць, а не вас! – з нейкай злосцю заявіў Антось і дадаў:

– Пры буржуазнай Польшчы на дзяцей плацілі рэгулярна, а тут пры гуманнай савецкай уладзе дзеці для бараноў – нішто!

– Ты! – Сцяпан ускіпеў. – Афармім зараз, калі хочаш! Трэпелеў, ідзі сюды!

– Супакойцеся! – прыкрыкнуў на іх старшыня. – Тут трэба разабрацца. Вы, таварыш, калі дзяцей сваіх нараджалі? За польскім часам?

– Ну, так...

– Вось бачыце, тут такая зачэпка: вы дзяцей кляпалі, як кажа Сьцяпан, не для савецкай улады, бо яе тады тут не было; дзяцей вы рабілі для буржуазнай Польшчы, і гэтым самым умацоўвалі Польшчу дэмаграфічна. А прыйдзі мы рата-

ваць вас ад палякаў трохі пазьней, дык вашыя дзеці ваявалі бы супраць нас...

– Дарэчы, так, як яго швагры, – удакладніў Сцяпан.

– Калі б яшчэ ты прыхінуўся да калгасу, палюбіў бы савецкую ўладу, дык куды б ня шло, нешта прыдумалі б, а так?.. – старшыня развёў рукамі.

– Дык ён жа і дзяцей у антысавецкім духу выхоўвае! – пракрычаў з суседняга пакоя Пуценька.

– Вось таксама сігнал не на тваю карысьць, – адзначыў старшыня, – Трэба будзе камісію стварыць, паглядзець, што там у вас за выхаваньне такое. Можа дзяцей лепш у савецкі інтэрнат аформіць...

Антось ужо быў і не рады, што прыйшоў сюды, але сам вінаваты – не трэба было слухаць Ганькі, хай ішла б і сама разбіралася.

І Антось тады выйшаў з сельсавета ні з чым.

А дарагою дахаты схамянуўся раптам ад нечаканай думкі: «Як гэта я нічога ня даў дзяржаве? А падаткі?!. Чаму ён павінен штомесяц даваць дзяржаве ў якасці падаткаў усё, што яна патрабуе, калі яна нічога не дае яму? Нейкая аднабаковая атрымліваецца любоў… А падатак у некалькі разоў большы, чым іхняе «пасобія».

*   *   *

Аднаго разу прыляцеў Пецька, увесь засопшыся, і прама ад парога затарабаніў:

– Тата, давай, хутчэй! Трэба карову рэзаць альбо хаваць недзе ў кустох!

Антося не трэба было шмат угаворваць. Яны абодва хуценька ўскочылі ў воз, балазе конь стаяў запрэжаны пад клёнам, і шпарка паехалі ў бок балота.

Гэтая карова не давала супакою ані зімою, ані летам. Справа ў тым, што паводле няпісаных законаў савецкай улады можна было трымаць адну карову ў гаспадарцы. Толькі адной каровы на 12 ядакоў у хаце і натуральны падатак малаком не хапала. Так і атрымлівалася, што адну карову ён трымаў для дзяржавы, а другую – для сям'і. Дык вось, гэтую другую карову і трэба было хаваць ад калгаснікаў і сельсаветчыкаў альбо рэзаць на мяса, бо калі яе знойдуць – выпішуць штрафу, абкладуць двайным падаткам, карову забяруць у калгас, а пасля ўсяго гэтага могуць канфіскаваць усю гаспадарку.

Зіму неяк уся скацінка перазімавала ў хлеве, а з вясны, калі зноў пайшлі вёскамі атрады перапісчыкаў, – трэба было

абавязкова нешта рабіць. Тут яшчэ шмат што залежала ад самога перапісчыка. Некалькі разоў удавалася Антосю проста адкупіцца: каму дастаткова было гарэлкі, каму слоік мёду, каму кавалак сланіны. Людзі разумелі, што на такую сямейку адной каровы малавата. Але гэтай вясной ані гарэлкі, ані мёду, ані сланіны ў запасах не засталося. Так разам з каровай Антось хаваў ад улады і парасё. Даглядалі гэтую падпольную жыўнасць Антосевы дзяўчаты і хлопцы.

Антось тады з сваім старэйшым хлапцом Пецькам перавялі карову, цялё і парасё за рэчку, бліжэй да лесу. Але пакідаць тут адных дзяўчат было небяспечна – мала хто зараз шляецца лесам. Дамовіліся, што днём будзе сцерагчы Пецька разам з дзяўчатамі ці малодшымі хлапцамі, а ў ноч будзе хадзіць сам Антось. Зразумела, што ўсё гэта павінна было заставацца ў сакрэце.

А вяртаючыся дахаты, убачыў Антось каля Глінішча некалькі вершнікаў на конях. Хавацца не было ніякага сэнсу, тым болей, што і яны заўважылі і накіраваліся галопам да Антося.

– Ну што, куркуль! Пасьпеў схаваць свае цяляты і каровы? – з наскоку зазвягаў Пуценька. – Думаеш я ня ведаю?!

– Якія каровы? Якія цяляты? Пра што ты?.. Чалавеча?

– За ўкрывацельства ад савецкай улады цябе ж ня проста так вывезуць, цябе ж прыстрэляць! Савецкая ўлада ня любіць з такімі цырымоніцца! Я цебе не пагражаю, я цебе папярэджваю! – звягаў Пуценька.

– Я не разумею, пра што ты кажаш?..

– Думаеш савецкую ўладу абмануць?.. Цесьць твой хацеў абмануць!.. Карочэ: чыстасярдэчнае прызнаньне на маё імя і імя па бацьку табе аблегчыць тваё віну!

– А па маці ты яшчэ ня хочаш!..

– Вядзі паказвай, сволач кулацкая, дзе карову паставіў! Лепш будзе!

– Няма мне чаго табе паказваць...

– Ты думаеш, я сьляпы такі, ня бачу, як твае дзеўкі з дайніцаю ў кусты лётаюць?

– Мала чаго лётаюць, ведама, дзеўкі!..

– Ну, глядзі, сусед! – ашчэрыўся Пуценька. – Ты яшчэ папросішся! Мы па сьлядох знойдзем тваю скацінку! Паехалі!

– Ну, ну! Па сьлядох ты майстра шукаць! У цябе ж гэта, як яго? – рэвалюцыйны нюх!

Не знайшоў тады Пуценька тую жывёлу, а калі б і знайшоў, дык яму трэба было б яшчэ давесці, што гэта ёсць тая Антосева жывёла, якая не ўлічана пры перапісу.

Увогуле, з гэтай жывёлай адна бяда. Лепей было б яе звесці, пакінуць адну карову, як гэта зрабілі многія ў вёсцы, але ж адной каровай дзяцей не пракорміш і з дзяржавай не разлічыся. Але і хавацца з ёю ў кустах таксама не выхад. Зараз у лясах рознага люду развялося, як ваўкоў галодных. Нядаўна ў Пашкоўскіх авечку ўзялі, у Скапца – парсюка, у таго – курыцу, у каго – сланіну, муку, бульбу – усё бяруць... З другога ж боку – калгас... У іх таксама адно: давай, давай, давай. Аніякай пачцівасці да людзей, аніякага спачування, разумення: давай і ўсё тут... Усім есці хочацца... Усіх Антось не пракорміць.

Антось добра разумеў адно: усе гэтыя захады з боку Пуценькі рабіліся дзеля адной мэты: знайсці як мага больш улікаў, каб арышт Антосеў выглядаў больш-менш законным. Магчыма, дзеці з'яўляюцца стрымліваючым момантам, і ім не хапае сур'ёзнай зачэпкі, каб паставіць апошнюю кропку. Значыць, яны не пакінуць яго ў супакоі, не пакінуць. Калі яны вывозяць у Сібір – край свету – старых людзей (Качанюкоў, Саковічаў), дык ім нічога не варта вывезці туды і дзяцей. Калі яны арыштавалі Янука Дайновіча за беларускасць, бо не можа тут быць іншай зачэпкі, дык гэтак жа могуць арыштаваць і яго. А тут, калі не стала цесця і Янука, і параіцца няма з кім. Вяскоўцы на гэтыя тэмы стараюцца не гаварыць, маўляў, навошта клікаць бяду, як будзе, так будзе. Заўважыў Антось, што людзі сталі больш скрытнымі (можа, толькі з ім?), а некаторыя перасталі нават заўважаць Антося. Вось толькі актывістыя сталі больш насцярожана глядзець у яго бок... Можа яму ўсё гэта здавалася, можа і спадумлівасць якая, а можа і не... Але, на ўсякі выпадак, загадаў ён Ганьцы, каб сушыла сухары.

Тады, у кустах, з Пецькам зарэзалі яны тую лішнюю кароўку.

Пецька, сямнаццi няма, але разбітны хлапец, дастаў нейкія сакрэтныя бальшавіцкія паперы, на падставе якіх вызначаліся ворагі народу. Дык вось, паводле тых папер, калі іх нажытак разам з зямлёй раздзяліць на колькасць душ у сям'і, дык іх сям'я атрымлівалася такой жа беднай, як і большыня сем'яў у вёсцы. Нават гаспадарка Сцяпана і то выглядала прыстойней. Арыштам і высяленню падлягалі тыя, хто меў 10 і болей гектараў зямлі, механізаваны сельскагаспадарчы інвентар і статак жывёлы. Анічога такога ў Антося не было, апрача васьмі дзесяцін зямлі. Так што баяцца тут Сцяпана, Пуценькі ці Цэрбера не варта. Ну, хата ў яго трохі лепшая, чым у іншых, але гэта не можа быць нагодай для арышту. Малатарняй карысталіся цесцевай, але пры чым тут малатарня? Сваякоў у буржуазнай Польшчы ў Антося няма. Браты Ганькі

невядома дзе, але дзе яны не былі б, ён іх туды не высылаў; цесць з цешчай у высылцы, – але за іх ані Антось, ані Ганька не нясуць аніякай адказнасці – зямлю і малатарню цесцю Антось не купляў. Так, што яшчэ? – наёмная праца: ніхто ў яго чужы не працаваў, значыць, эксплуатацыі няма, удзелу ў партыях і іншых антысавецкіх арганізацыях не прымаў, літаратуру антысавецкага характару не выпісваў, не чытаў і не распаўсюджваў... Што яшчэ можа быць? Усё, аніякай зачэпкі! А тое, што ён падлеткам прынёс у хату беларускую газету, Пуценька не можа ведаць. Так, як не ведае, што Антось у свой час (у маладосці) быў знаёмы з вурляняцкімі Станкевічамі і з ксяндзом Лісоўскім (за яго родным братам была замужам родная сястра Антося). Даваў той ксёндз чытаць неяк і газеты, і кнігі на зразумелай мове. Пасля Ганька, праўда, спаліла тую літаратуру. Маўляў, нейкі польскі ксёндз з Вільні казаў у Барунах, што кулька ў лоб кожнаму, хто будзе чытаць беларускія ксёнжкі. А слова ксяндза тут шмат што значыць. А можа і праўду казаў той ксёндз з Вільні – напачатку сем годзікаў ад палякаў, а пасля дзясятачку ад саветаў Януку Дайновічу за тыя беларускія ксёнжачкі... А яшчэ могуць і кульку – як адны могуць, так і другія.

Але ж пра гэтыя кніжкі ніхто не ведае, ды і калі гэта было. У Антося літаратуры такой няма. Так што баяцца яму няма чаго – няма зачэпкі.

Але аднойчы Марта прыбегла позна вечарам, узрушаная, і пад вялікім сакрэтам сказала Ганьцы, што на днях, альбо ў гэтую, ці ў наступную суботку (Пуценька п‘яны прагаварыўся), вас будуць арыштоўваць і вывозіць. Марта спачувала і як магла суцяшала Ганьку. Старалася давесці, што яе муж з заскокамі, можа так пажартаваў, можа ўсё абыдзецца і будзе добра, што яна будзе і сама ўгаворваць яго, каб не чапаў іх, бо гэта не чалавечна, не па-людску і не па-суседску.

Такую ж інфармацыю неўзабаве пацвердзіў і Пецька – сын, і, ўрэшце, Казакевіч, неяк пры выпадковай сустрэчы сказаў:

– Дрэнь вашыя паперы, дзядзька Антось, будзьце асьцярожнымі!

– А што можа быць?

– Усё можа быць, усё й вельмі хутка!

І больш ані слова, сказаў і пайшоў не развітваючыся.

Антось зразумеў, што можа быць вельмі хутка. У гэтай Айчыне лёгка стаць прарокам...

Ганька тады пачала ўпакоўваць клумкі і плакала разам з дзяцьмі над гэтымі клумкамі. Антось жа не ведаў, што рабіць у

тыя дні. Трэба было і пчолы паглядзець пасля зімы, і дрывотнік упарадкаваць, і загарадкі перабіць – усё валілася з рук пры адной толькі думцы: для каго?.. Каму гэта ўсё спатрэбіцца?.. Паміраць збіраешся, а жыта сей... Для каго сеяць? Для тых, хто яго бяз дай прычыны абвяшчае ворагам і выганяе не толькі з хаты, але і з зямлі, з яго зямлі! Для тых, хто выганяе дзяцей на блуканне, жабрацтва і рабства? Для тых ён павінен сеяць?.. «Любіце ворагаў вашых...». Іх не любіць трэба, іх трэба нішчыць так, як вынішчаецца зараза, альбо так любіць, каб яны ад гэтай любові здыхалі самі!..

Антось тады заходзіў у гумно, зачыняў шчыльна за сабою дзверы і даставаў з схованкі стрэльбу: швагер, Ясь Качанюкоў, пакінуў яму на ўсякі выпадак. Праўда, ён называў гэта „карабінам« і казаў, што сам страляць навучышся, калі прыпрэ... Але для Антося, чалавека не вайсковага, аніякай розніцы не было ў тым, карабін гэта ці стрэльба. Антось, калі ездзіў у лес за галлём, нават пальнуў пару разоў уверх – і ўся навука.

«Вось дзе недарэчнасьць сьвету, – дзівіўся тады Антось, – выходзіць, каб нарадзіць чалавека – гэта недасканалае тварэньне Божае – выгадаваць, выхаваць і навучыць яго – трэба шмат укласьці намаганьняў і патраціцца. А вось каб забіць чалавека, аніякай навукі ня трэба – на курок націснуў і ўсё».

Дык яно можа так цяпер і зрабіць: стрэліць у Пуценьку (які ён чалавек?) і забіць некалькі аператыўнікаў (хіба ж яны нармальныя людзі?)... Хіба ж гэты опер Цэрбер – чалавек. Гэта ж звер, самы што не ёсць д'ябла ў чалавечым абліччы... Такога прыкончыць, дык людзі толькі дзякуй сказалі б... Але што будзе пасля?.. Прыйдуць другія і застрэляць цябе. А дзяцей, жонку вышлюць чорт ведама куды. Хіба ж ім без яго будзе лягчэй?

І Антось хаваў стрэльбу.

Падпаліць хату? Лепш анікому, чым гэтай брыдоце, Пуценьку!

А калі разбяруцца там, у раёне, што ён не вінаваты, што ён аніякі не кулак і не прыхвасцень, што ён з бедных сялянаў, што ў яго дзевяць дзяцей, якіх трэба карміць, што ён не павінен адказваць за бацькоў сваёй жонкі?! А можа там разбяруцца, і ўсё будзе добра, і адпусцяць?.. Павінна ж быць недзе нейкая справядлівасць...

Але ж і цесць так думаў, маўляў, што яны яму тут зробяць, бо супраць Саветаў не выступаў і не заклікаў да гэтага... Зямлю і хату аддаваў, казаў, хай бяруць, у куратніку будзем жыць... Яны хочуць, каб мы ўсе ў куратніках жылі... І спадзяваўся на нешта... На што спадзяваўся цесць?..

«Усё можа быць вельмі хутка», а калі надыдзе гэтае «хутка»?

Згадвалі з Ганькай, у які дзень вывозілі Качанюкоў, Саковічаў, Страчынскіх, Дайновічаў – выпадала альбо субота, альбо нядзеля.

– На іх жа і нядзелькі няма! – прыгаворвала і плакала Ганька.

З вялікім напружаннем і страхам чакалі кожнай суботы і кожнай нядзелі. Так было і ў гэту суботу. Але на раніцы Пецька раптам абвясціў, што ані сёння, ані заўтра ніхто іх нікуды не павязе. Сказаў і замоўк. І колькі ні дапытваліся Ганька з Антосем – ані слова. І толькі пасля палудня Пецька сказаў бацьку, што ў сельсавеце прапалі паперкі на іх арышт, а яны, бальшавікі, без патрэбнай паперы баяцца пальцам шавяльнуць...

Тут таксама было над чым падумаць: можа, тыя паперы загубіліся сярод іншых папер і заўтра знойдуцца... Але ж, калі б тыя паперы прапалі выпадкова, дык ці даведаўся б пра іх Пецька? А яшчэ, нехта, відаць, папярэдзіў Пецьку і наконт жывёлы, бо адкуль Пецька даведаўся пра планы Пуценькі. Дарэчы, і вясной Пецька прапанаваў адвесці жывёлу, і толькі адвялі, як Пуценька ў хлеў прыляцеў. Так і з гэтымі паперамі.

Але калі меч занесены над галавой, дык ён рана ці позна апусціцца. Калі не вывезлі ў адну нядзелю, дык у другую вывязуць абавязкова: у гэтым ужо ніхто не сумняваўся.

І так амаль што ўсю вясну: бяссонныя і неспакойныя ночы з пятніцы на суботу і з суботы на нядзелю. Ганька звычайна малілася і плакала. Не спалі і старэйшыя дзеці: дарослыя дочкі плакалі разам з маці, а хлопцы панура маўчалі і толькі пад самую раніцу пачыналі драмаць. Антось амаль што цэлыя ночы праводзіў на падворку: альбо хадзіў каля хлева і паветкі, альбо хадзіў па садку, альбо сядзеў на калодзе на дрывотніку – і ўсё думаў і думаў. Згадвалася пражытае жыццё... Бацька... Антось заўважыў, калі яму прыходзілася стаяць перад нейкім жыццёва важным выбарам, тады заўсёды ўспамінаўся бацька. Бацька быў строгім, кемлівым і дасціпным у жыцці. Успомнілася, як бацька частаваў сланінай рускіх салдатаў у Мікалаеўскую вайну, а яны сланіны той, відаць, ані разу не елі, і бацька даводзіў на поўным сур'ёзе, што гэты далікатэс расце на агародзе... Альбо, як капалі з бацькам яму, у якой хавалася ўся сям'я ад бомбаў і снарадаў... Альбо, як яны з Бронькам бегалі глядзець нямецкі падбіты аэраплан у Дзёснах, а тут пачаўся гарматны абстрэл рускіх пазіцый; як яны тады ўцалелі – дзіва і толькі... А бомба ад той вайны і сёння тар-

чыць хвастом уверх на Антосевым падворку як кайзераўскі падарунак. Хацеў неяк бацька з дзедам адцягнуць яе куды далей, але так і засталося... На гэтым падворку прайшло Антосева дзяцінства і юнацтва. А пасля – рэвалюцыі і зноў войны. Тады ўжо не было ані дзеда, ані бацькі – ён быў старэйшы ў сям'і і быў за гаспадара. А пасля тут з'явілася Ганька. За Ганулю сваю прыйшлося трохі «паваяваць» з Качанюком – заместа Ганулі хацеў Качанюк падсунуць яму Маньку-Качанянку, якая была пры калецтве, маўляў, і зямлю даваў, і карову, і каня, а Антось – у аніякую, і настаяў на сваім. Праўда, будучы цесць тады сказаў, што за гэтую (за Ганьку) ані халеры не дасць. «І не давай!» – сказаў Антось. Тады Антось мала што ведаў пра цесця, апрача таго, што ў вёсцы гаварылі пра строгі, амаль дэспатычны характар Аляксандра Качаноўскага. Так, Лёнька Тытуш (па-суседству) расказваў як ён неяк зайшоў на падворак Качаноўскага, а там дзеці ходзяць у зімовых шапках, кажухах, валёнках… На вуліцы травень месяц, салаўі, сонца, гарачыня. На дзіўнае пытанне Лёнькі дзеці адказалі, маўляў, тата сказаў, што на двары дваццаць градусаў марозу і снег… Тады яшчэ Лёньку здзівіла тое, што і дзецям гэтым было ўжо каля дзесяці-пятнаццаці гадоў.

Не паслухацца Аляксандра Качаноўскага было роўназначным самагубству. Тады Антось не паслухаўся і недзе каля дзесяці гадоў дзверы цесцевай хаты для яго былі шчыльна зачыненыя.

А ў Антося з Ганькай усё было, як у людзей: і шлюб узялі ў мястэчку, і вяселле справілі, і дзеткі пайшлі адзін за адным. А пасля і хату новую паставілі. І адпусціўся тады цесць калі ўбачыў, што ўсё ідзе толкам у Антося: і чатыры дзесяціны зямлі даў, і каня ў прыдачу, і цялё. І стала ў яго восем дзесяцінаў. Трое дзетак, праўда, не збераглі: адно скроней стукнулася насмерць, а двое з хваробы не стала... Але Антось не выкрэслівае іх з памяці і, калі гутарка ідзе пра дзяцей, ён звычайна гаворыць, што ў яго дванаццаць дзяцей, бо столькі і павінна быць. Старэйшыя дочкі, – Стэфаніі – дзвятнаццаць, а Стасі – васямнаццаць, – ужо дзеўкі; добра дапамагаюць і без іх анічога Антось не зрабіў бы ў гаспадарцы. Вось ужо і хлопцы падрастаюць – старэйшаму Пятру ўжо шаснаццаць, астатнім трохі меней з розніцай у два гады – глядзіш, і падменяць бацьку, пакуль самі не стануць на свае гаспадаркі. Антось думаў ужо і пра пасаг нейкі дзяўчатам, і каб хлопцам нешта даць, а таму і заводзілася гаспадарка, і збіралася нейкая капейка... І вось усё гэта можа рухнуць заўтра. Заўтра ўсё адбяруць і вытрасуць да апошняй капейкі. Заўтра ён стане з сваёй сям'ёй не проста жа-

браком – заўтра яны стануць ворагамі і катаржнікамі, альбо, – як казаў Яська Качанюкоў: «у рабочых павінны быць рабы», – яны стануць савецкімі рабамі.

І толькі пад раніцу думкі рабіліся абыякавымі ў адносінах да ўсяго, што адбывалася навокал. А і сапраўды, колькі можна было знібець і душой і сэрцам у гэтым чаканні. Ходзіш ні жывы ні мёртвы. Хай лепш прыходзяць і вывозяць, чым такое жыццё на клумках, як у бежанцаў якіх, ці наадварот – тых, каго дэпартуюць за межы сваёй радзімы – парадокса нейкая. Адно зразумела, што тут ужо няма чаго чакаць. Не дадуць тут жыцця, не дадуць. Дык яно, можа, хай вязуць хутчэй у Смургоні. А там яшчэ паглядзім, там ён раскажа пра Цэрбера, пра Пуценьку і пра хату, можа там, у Смургонях, разбяруцца, не можа быць, каб там такія ж асталопы сядзелі, як тут, не можа быць... Павінен быць шанцунак, павінен… Ды і ў Сібіры тым можа і не так страшна, у канцы мінулага стагоддзя натоўпам туды ехалі з сем'ямі, і дабравольна...

*   *   *

Аднаго разу Пуценька прыйшоў неяк пад вечар і строга загадаў, каб Антось падышоў на сход. Антось падумаў і вырашыў пайсці. А можа, там што праясніцца, можа, там што гаварыць будуць, пра перахілы, да прыкладу, пра памылкі лініі, пра злоўжыванні і пра галавакружэнні...

Сход вёў новы, прыезджы старшыня калгаса, нехта Буцейка. Гаварылі пра свае калгасныя і сельсавецкія справы, і Антосю, «адналічніку», гэта было не надта цікавым, але паслухаць было можна. Дарэмна на нешта спадзяваўся Антось, калі ішоў сюды: ніхто нават і не заікнуўся пра нейкія памылкі і злоўжыванні, наадварот, павысіць, узмацніць, павялічыць – і гэта адносілася да ўсяго: да планаў, падаткаў, пільнасці і да колькасці «ворагаў народу».

На фоне такіх рашэнняў партыі смешнай выглядала пытанне прысвечанае угодкам смерці рускага пісьменніка Міхаіла Юр’евіча Лермантава... Пытанне падняў новы ўпаўнаважаны па культуры, загадчык бібліятэкі-чытальні і калгаснага клубу.

– У каго якія прапановы і ініцыятывы наконт мерапрыемства? – пытаўся загадчык клубу? Можа вы, таварыш, лермантаўскі камітэт хочаце ўзначаліць? – нечакана звярнуўся загадчык да Антося.

– Я?! – здзівіўся Антось пад рогат актыву.

– Дык чаго тады прыйшоў? – падкалупнуў Сцяпан пад той жа рогат. – Ніколі не хадзіў, а тут прыпёрся...

Сцяпан меў рацыю, на паседжанні актыву Антось не хадзіў, а тут апрача яго і Зінкі ўсе астатнія былі «з портфелямі».

– Дык я пайду! – ускочыў Антось і накіраваўся да выхаду.

– А можаш і застацца, – велікадушна дазволіў Кацалапаў і загаварыў болей сур'ёзна. – Скажыце, а вы ведаеце, хто такі Лермантаў?

– Я ведаю, хто такі Францішак Багушэвіч, – Антось падумаў, што пытанне адрасавалася яму. – Ён тут жыў недалёка і пра наша жыццё пісаў...

– Вот она, смотрите, деревня какая, какой тёмный этнографический материал,– Кацалапаў пакачаў галавой. – А я не разумею, таварышы, вашай легкадумнасьці ў адносінах да вялікага рускага паэта... Так слушайте: *„Всем горкомам и райкомам КП(б) Белоруссии! 27 июля 1941 г. исполняется 100 лет со дня убийства гениального русского поэта М. Ю. Лермонтова. Эта дата будет широко отмечаться всей общественностью нашей страны. В западных областях Белоруссии проведение лермонтовских дней приобретает особо важное значение, так как в панской Польше усиленно распространялось и внушалось мнение, будто русский народ не имеет своей литературы, своего искусства, своей культуры и „бескультурью» и „дикости» русского народа противопоставлялась „культурная» и „цивилизационная» Польша. Наша задача использовать лермонтовские дни для ознакомления трудящихся масс западных областей БССР с богатейшим наследием русской революционной литературы и разъяснить буржуазно-националистическую подоплёку отрицания русской культуры...»*[1]. Так, что каждаму надо будет выучить по одному стишку поэта...

– Мінулай вясной было стагоддзе з дня народзінаў беларускага пісьменьніка Францішка Багушэвіча... Чаму ніхто не адзначаў? Чаму, нават, ніхто нідзе не згадаў? – запытаўся Сцяпан.

– А хто такой твой Багушэвіч? Чым ён праславіўся? Можа, ён напісаў раман «Мать» ці, можа, раман «Отец родной»?.. То-та ж! – адказаў Кацалапаў. – В том году, как вы помните, было очень много врагов народа, колхоз организовали, не до ваших Богушевичей было... Понятно?!

– Панятна...

– То-та ж!

Антось неяк дэманстратыўна накіраваўся да выхаду, і гэта заўважалі ўсе прысутныя. Але каля самых дзвярэй да яго даляцеў вокрык новага старшыні калгасу:

---

1 Выкарыстаны матэрыялы з артыкула:Янка Трацяк. Рэлігийная і нацыянальная палітыка КП(б)Б у Заходняй Беларусі // Białoruskie Zeszyty Historyczne, Białystok, 2000, № 13

– А вы куда, товарыш этнаграфічны матэрыял?

– А я вершы вучыць, Лермантова...

– Як хотіте, – пачуў ён услед параду старшыні калгасу, і Антось выйшаў.

Пазней стала вядома, што лермантаўскі камітэт узначаліла галоўная калгасная даярка Зінка Сідаровіч – ей было даручана арганізаваць вечарынку з чытаннямі вершаў Лермантава і танцамі. Неяк, пры выпадковай сустрэчы, Зінка пахвалілася:

– А ты ведаеш, Антосю, імпрэза будзе выглядаць вельмі сур'ёзнай: дзеці будуць чытаць вершы Лермантава, а я – даклад на тэму: «Роля паэзіі М. Ю. Лермантава ў павышэньні надояў малака ў калгасе імя «18 верасьня», вось так!

– Ого! – усклікнуў Антось і пацікавіўся. – А для каго гэта ты чытаць будзеш даклад свой?

– Як, для каго? Для ўсіх, прысутнасьць абяцаў забясьпечыць Цэрбер, казаў з раёну нехта пад'едзе...

– Здорава, з раёну пад'едуць, – Антось задумаўся на момант і тут жа сур'ёзна запытаўся: - А прысутнасьць кароў ён таксама абяцаў забясьпечыць?

У Зінкі вочы зрабіліся як два яблыкі:

– Якіх кароў?

– Ну, гэтых, якія павінны павышаць надоі... Я, калі што магу сваю падвесьці, хай паслухае вершы, даклад...

– Ты што, Антось, здурнеў? Каровы ў бібліятэцы – там жа месца ўсім ня хопіць...

– Мая дзе-небудзь з боку прыткнецца, – пачаў быў даводзіць Антось, але Зінка рэзка развярнулася і пайшла.

«Можа, і здурнеў, – падумаў тады пра сябе Антось, – бо вельмі цяжка сярод такіх разумнікаў захаваць цвярозы розум. Гарачая пара – траву трэба касіць, каб не перастаяла, каб не замокла, каб высушыць, а яны даклады ладзяць, вершыкі чытаюць!.. Тут няведама, хто здурнеў».

І абставіны тут складваюцца зараз такія, што, відаць, будзе яму не да паэзіі.

* * *

Да чаго кароткія чэрвеньскія ночы... Толькі, здаецца, прысеў пасля заходу сонца, а ўжо глядзіш з усходу пачынае святлець, і да гэтага святла паступова далучаюцца птушыныя галасы. Некалі Антось ведаў спеў кожнай птушкі, асабліва, калі хадзіў з хлопцамі ў ноч коней пасвіць, высочвалі заранак і лавілі. А пасля адпускалі, але затое ведалі, што за птушка такая і як спявае.

А сёння, пры ўзыходзе сонца, заместа птушынага хору пачуліся нейкія далёкія і глухія выбухі. Антось яшчэ пастаяў некалькі хвілін на падворку, прыслухаўся да раскатаў і падумаў, што сёння днём будзе добрая навальніца.

А на раніцы, недзе а восьмай гадзіне, зайшлі ў хату опер Цэрбер і Пуценька:

– Ну што, дождаліcь?! З вешчамі на выхад! Марш! – гучна і злосна абвясціў Цэрбер.

– Куды? – быццам, нічога не ведаючы, спытаўся Антось, і нешта абарвалася ў яго грудзях. Чакаў, спадзяваўся і ведаў, што так можа быць, а калі прыйшоў час, дык быццам усё знянацку атрымоўваецца. А можа, яшчэ жартуе?

– Куды?! Сядзець! Помніш, я табе абяцаў! Гы-гы-гы!

Антося ўразіла не столькі гэта доўгачаканая абвестка, колькі нейкі дзіўна-дзікаваты рогат Пуценькі.

– Сядзець?! За што? – зноў Антось задаў дарэмнае пытанне.

– Каб ведалі за што, дык пастралялі б адразу, як дзікіх качак у Лапаўшчыне! Гы-гы-гы! – скаліў зубы Пуценька. – Павінны былі ноччу таварышы прыехаць. Але... ну, мала што, можа, дзе брагі перабралі. Гы-гы.

– У нас дакументы на вас фактіческі афармленыя, – растлумачыў Цэрбер. – Савецкая власть арестовывает вас как членов сем'і ворага народу і как контру, эта значіт – контрревалюціонный элемент.

– Якіх членаў, якой сям'і? – перапытаў Антось.

– Не прыкідвайся, дзядзька! Ганька твая – дачка ворага, і сам ты вораг! – Пуценька відавочна цешыўся. – Зачытайце, таварышч начальнік... Хай паслухае...

– А чё тут читать, – Цэрбер дастаў з папкі ліст. – Слушай: *«Приказ Народного Комиссара Внутренних Дел Союза ССР № 001552 от 10 декабря 1940 года. Всех совершеннолетних членов семьи изменников Родины, а также связанных родственными узами с ними, привлекать к уголовной ответственности. Подпись Л. П. Берия!»*. Всё.

– Дай глянуць, – Антось працягнуў быў руку.

– Эта гасударственный документ – в рукі не даётся, – і Цэрбер імкліва згарнуў паперу і засунуў у кішэнь.

– Ты здесь, Путенька, сам разьберёшся, а мне надо ешчо у адно месца падскочыць, – сказаў Цэрбер і выйшаў.

– Калі ты, Антось, ня верыш нам на слова, дык можаш напісаць ліст Лаўрэньцію Паўлавічу, запытацца, – параіў вясёлы Пуценька

– Так вось без разбору, без абвінавачваньня, бяз суду і павязуць? – спытаўся Антось, а сам чамусьці падумаў, што такі смех можа быць толькі ў хворага чалавека.

– Які разбор? Мы тут табе і суддзі, і пракуроры! Цябе павінны былі яшчэ ў пятніцу арыштаваць і судзіць, але валакіты шмат з тваёй сямейкай. Судзілі цябе, кшталту, завочна... Радуйся, што хоць мала далі, толькі чырвонец! Я ж цябе папярэджваў?! А маглі б і застрэліць, каб не я! Гы-гы-гы!

– Дзякую! Куды хоць павязуць?..

– Куды?.. Зараз усе дарогі вядуць у Сібір!

– Так адразу і ў Сібір?..

– Не, не адразу... Спецыяльна за вамі фурманка прыедзе, і ўсіх спачатку, – у Смургоні, на цягнік, там цэлы састаў фармуецца. Там такіх, як ты, – аматараў тайгі – шмат зьбіраецца. Так што, весела будзе вам у цялятніку! Гы-гы-гы! Зараз пакуль можаце ўпакаваць пару клумкаў... Толькі шмат не бярыце! Туды, як на той сьвет, – шмат ня возьмеш!.. Гы-гы-гы! Гадзіньнік каб вісеў на месцы!

– А што зь дзяцьмі будзе, Пуцечка? Парві тыя паперкі, – умяшалася ў гутарку Ганька, – мы ж суседзі, мы цябе й так пусьцім у гэтую хату, а самі пяройдзем у тваю... Давай, Пуцечка, па-добраму, па-харошаму... Антось, чаго ты стаіш як укопаны, там пад прыпечкам у бутэлечцы... Я на стол што-небудзь зьбяру...

«Што яна пляце, – думаў сам сабе Антось, – уся хата ў Пуценькі была ня большай за адну яго кухню. А наконт бутэлечкі... Па галаве хіба што яму гэтай бутэлечкай...».

– Я табе, цётка, ня Пуцечка, а Васіль Іванавіч, аператыўны ўпаўнамочаны! Пара ведаць! А наконт хаты – позна ўжо... і наконт паперак – позна. У мяне разнарадка, я вашай адной кулацкай сям‘ёй план перавыканаю… А дзяцей... Раскінуць іх як чээсаўцаў, членаў сям’і, значыць, у дзіцячыя калоніі, такія спецыяльна створаныя для дзяцей ворагаў народу па ўсёй Расеі. Так што няма чаго хвалявацца!

– Якія чээсаўсы? Якія калоніі? – Ганька загаласіла.

– Пуценька... Васіль Іванавіч, аператыўны ўпаўнамочаны, – паправіўся Антось, – паслухай мяне. Вы ж добра мяне ведаеце, у суседстве колькі гадоў... Які ж я вораг, Васіль Іванавіч, якая контра, які элемент? Мы ж разам з табой у двары, у пана Дабрынскага працавалі... Ты ж паглядзі на мае рукі... – Антось паказаў шырокія, як лапата, шурпатыя, рудаватага колеру далоні.

– Ого! На такія граблі трэба яшчэ «бранзалецікі» пашукаць! – усклікнуў Пуценька.

– Усё з мазаля... – працягваў Антось. – Сам працую... дзеці ў мяне што дарослыя працуюць... У нас продыху няма ад працы... Мы свой хлеб ядзім, сваёю працаю... Табе дапамагалі, калі цяжка было... А ў палітыку гэтую я ж ніколі ня лез.

– І я так думаў раней, што ты нармальны, пакуль савецкая ўлада мне вочы не адкрыла! – Пуценька лыпнуў вачыма. – А хто ж думаў, што ты акажашся контрыкам?.. Недзе я чуў, ці ня поп крэўскі казаў, што Антоній – тое самае, што контра... Гы-гы-гы! А ты дзяцей эксплуатуеш, дзядзька. Табе ўсё мала, мала, мала! Ад Качанюка дабро цягаў: плужкі, бароны, крэслы – а яно ў калгасе павінна быць!.. Карову ад улады хаваў – мала ўсё!.. Хапіла ўжо! Натура твая кулацкая! Таварыш Кацалапаў часта мне гаварыў пра цябе, што ты «не годен к строевой советской власти», што ты яе будзеш кампраметаваць... Такія, як ты, з такім граблямі, патрэбны там, у Сібіры, вот!.. А наконт палітыкі, помніш, як беларусінам сябе называў, га?... А беларускія школкі хто з Сьцяпанам арганізоўваў? Га!?

– Дык жа за гэтыя школкі палякі ганялі нас, Сьцяпан сядзеў, а я ж ледзь выкруціўся...

– Мала ганялі, мала! А хто быў сябрам нацыяналісту Дайновічу, га? Пушкін?

– Дык жа Дайновіч з палякамі змагаўся, прыходу Саветаў чакаў...

– Дачакаўся – сядзіць! І ты павінен сядзець! Тут кожны павінен сядзець!..

– Сукін ты сын, Пуценька! – не стрымаўся Антось. –Дзе й калі такое было, каб так перакруціць, каб так паставіць усё з ног на галаву...

– Паставім і пракруцім яшчэ й не такія сцэнары! – упэўнена гаварыў Пуценька.

– Антось! Пуценька, суседзік! Сядзьце за стол, перакусіце! – закруцілася між імі Ганька.

– Яшчэ нехта мне казаў, – Пуценька на хвіліну задумаўся, – вось дзе галава садовая, ці не Міхалка, што ты знаўся з вурляняцкімі Станкевічамі?.. А за гэта, калі пацьвердзяцца факты, вышку можна выклапатаць... Так што – маўчы і радуйся, што мала далі!

– Што значыць – знаўся? І ты быў на тых вечарынках, як яны прыязджалі! І пры чым тут гэта? – абурыўся Антось.

– Там растлумачаць, пры чым! – Пуценька шматзначна паківаў галавой. – І глядзі мне, дзядзька, пачнеш брыкацца, дык прыстрэлім на месцы за супраціў... «Оказал сопротівленіе прі задержаніі» – вось так, а яшчэ за абразу

ўлады, «клеветніческія ізмышленія»... Знойдзем за што... І шантрапу тваю пастраляем, які інтарэс цягацца з дзяцьмі ворагаў народу... Яшчэ няведама, што зь іх вырасьце, – Пуценька прайшоўся па кухні. – Дзе там гэты прыпечак? З аператыўнікамі трэба было б па кілішку разьліць. Ён спрытна выхапіў з-пад прыпечка пляшку казёнкі і засунуў яе ў кішэнь.

– Атруты бы табе... байструк! – працадзіў скрозь зубы Антось і, сціснуўшы кулакі, пасунуўся да Пуценькі.

– Ну, ну! – Пуценька адскочыў у бок і выхапіў пісталет. – Табе што, гарэлкі шкода?!.

Між імі зноў закруцілася Ганька.

– Каб праз гадзіну быў, як штык, – загадваў Пуценька. – І глядзі, калі пеўня пусьціш пад страху, застрэлю… па стацьце... «порча гасударсьцьвеннага імушчаства», бо твой дом ад сёньняшняга дня – гэта ўжо ня твой дом – ён пераходзіць ва ўласнасьць савецкай дзяржавы, якая і будзе рашаць, каму тут жыць... Абразы, цётка, можаш павыкідаць, я там Сталіна зь Леніным буду вешаць. А гадзіньніка не чапай, хай вісіць...

Калі б нехта яму, Антосю, яшчэ пару месяцаў таму назад сказаў, што ад Пуценькі будзе залежаць яго лёс, ён весела б рассмяяўся. Хто мог бы падумаць, што гэты заморак так увішна пойдзе ўгару пры новай уладзе?..

– Слухай, цётка, дай яшчэ адну пляшку, баюся, каб мала не было, – не было межаў пахабству Пуценькі.

– А хай цябе… Пуценька, апомніся, – прасіла Ганька.

– А ў Адоля, ня ведаеш, ёсьць? – гнуў сваё Пуценька.

– Ня ведаю!.. Суседзік, дык што, аніякага шанцу застацца тут?– скрозь плач спыталася Ганька.

– Аніякага! Не, праўда, ёсьць адзін...

– Які?! – страпянулася яна.

– Застацца тут мёртвым, гы-гы-гы! Пайду да Адоля.

– А хай цябе немач! Згінь ты, вылупак пракляты! – і Ганька загаласіла.

– Ідзі... Каб ты не дайшоў, скаціна! – пажадаў Антось, але Пуценька яго ўжо не слухаў.

Антось увачавідкі рабіўся нейкім абыякавым. Складвалася такое ўражанне, што гэта адбываецца не з ім, а з кімсьці іншым, а ён быццам з боку назірае за ўсім і нічога змяніць не можа, бо яго быццам гэта і не датычыць. Такое бывае іншы раз у сне, калі над табою нехта здзекуецца, а ты не можаш паварнуць, ані рукою, ані нагою – усё цела быццам спарыжаванае.

– Перастаньце хныкаць! – прыкрыкнуў ён на дзяцей і на Ганьку, і тыя прыціхлі. Дзеці слухаліся і баяліся Антося.

Другі раз варта было павесці толькі позіркам, і ўсё прыходзіла ў парадак.

Магчыма, гэта абыякавасць зрабіла яго ўраўнаважаным і спакойным. А яшчэ знекуль пачала выплываць мэта, якая надавала сэнс усяму, што тут адбывалася з Антосем і вакол яго. І Антось нават уявіў, як ён паставіць Пуценьку на калені і заставіць жэрці не проста зямлю, а тую зямлю, якая за гумном; а пасля стрэліць з карабіна. Жыць не будзе, калі не зробіць гэтага. Толькі трэба сям'ю ўладкаваць, каб пасля не шукаць дзяцей па тых расейскіх калоніях ад Брэста да Курылаў. Так, ён толькі ўладкуе дзяцей і вернецца, ён абавязаны вярнуцца... Антось яшчэ раз павёў позіркам на дзяцей і спакойна сказаў:

– Ня трэба плакаць – усё будзе добра...

А праз гадзіну недзе бачыў Антось, як да Пуценькі прыскакаў на кані нейкі чалавек.

– Ну вось, – прагаварыў услых Антось, – дачакаліся.

Але паводле таго, як з каня прыезджага валіў клубамі пар, Антось здагадаўся, што тут нешта не так. Стаў бы нехта заганяць каня падзеля яго, Антося. Тут, відаць, нейкая іншая і вельмі пільная справа ў прыезджага. Чалавек не пабыў і пяці хвілін у хаце Пуценькі, як выскачыў адтуль, узляцеў на каня і на хаду ўжо крыкнуў:

– Толькі гані хутчэй!

Не адразу зразумеў Антось, куды і каго трэба хутчэй гнаць. Няўжо іх?

Пасля Пуценька заляцеў у сваю хату і гэтак жа шпарка выбег, і подбегам даўся ў Багданоўку. За ім з плачам выскачыла была Марта, але ён на яе прыкрыкнуў, і тая заціхла і памалу пайшла ў хату. А праз нейкую гадзіну яна прыйшла заплаканая да Ганькі і пад вялікім сакрэтам сказала, што пачалася вайна: немцы напалі на Саветаў. Яе Пуценьку трэба зараз жа быць у Мястэчку, а можа і ў раёне. А цяпер ён паляцеў у сельсавет нейкія паперкі паліць. Відаць, усіх актывістаў і партыйцаў, у тым ліку і яе мужа, забяруць на фронт.

Антось не ведаў, што рабіць: плакаць яшчэ болей ці радавацца. З аднаго боку, гэта вайна, дык, можа, яно і лепей для яго, можа, скарыстаць шанцунак і ўцячы ад гэтай вайны хоць у тайгу тую глухую, хоць да белых мядзведзяў, хоць у дзікія стэпы, абы толькі не стралялі, абы толькі не рваліся снарады і бомбы, абы толькі не бачыць банды ўзброеных людзей. А што такое вайна – ён вельмі і вельмі добра ведае. З другога – вымалёўваўся, як з туману, цьмяны шанцунак на тое, што Пуценьку і Цэрберу будзе не да іх і яны застануцца ў сва-

ёй хаце. А ў сваёй хаце і вайна можа быць не такой страшнай. Яму ж не прывыкаць – пражылі ж неяк яны ў Мікалаеўскую вайну на лініі фронту. Дык можа, калі асцерагацца, яно і лепей будзе тут, на сваёй зямлі, сярод сваіх людзей, чым далёкая і невядомая чужына...

Цяжка было паверыць у тое, што недзе ідзе вайна. І толькі, калі ўважліва прыслухацца, дык можна было пачуць далёкія і глухія выбухі. Антось чуў іх і на раніцы, але з няведання ўспрымаў як раскаты грому, а тут вось яно што… Не тыя раскаты...

Пуценька з'явіўся на Антосевым падворку пасля палудня. З'явіўся з двума невядомымі, у якіх былі за плячыма стрэльбы.

– Вайна! – крычаў Пуценька. – Гітлераўская Нямеччына вераломна напала на нашу мірную дзяржаву СССР! З заўтрашняга дня пачынаецца эвакуацыя! Усім з сем'ямі і жывёлай быць у Багданоўцы! У дванаццаць гадзін дня ад'езд! Хто не паедзе, таго будзем пасля судзіць як сабатажнікаў і нямецка-фашысцкіх пасобнікаў. Усё, што немагчыма ўзяць з сабой – спаліць. Хаты, хлявы, гумны – спаліць! Ворагу трэба пакінуць адно папялішча! – крычаў Пуценька. – А ты, Антось, як вораг народу, едзеш, пакуль што, разам з усімі, а там цябе знойдуць, паперы пойдуць асобна. Усё! – і пабег Пуценька з сваімі памагатымі да Адоля.

– Вось дзе чалавек... Калі народзіцца бязмозглым, дык гэта ўжо на ўсё жыццё, – прагаварыў Антось услых.

Дзе ж гэта было відаць, каб людзі самі дабравольна палілі сваё дабро і хаты і шлі няведама куды. Нават, калі й трэба ўцякаць ад немцаў і ратавацца, дык не такой жа цаною. Спальваць за сабой масты – знішчаць усякі спадзёў на вяртанне. Так і хату: спаліць лёгка, а паспрабуй ты яе паставіць. І войны, магчыма, ад таго, што такія бязмозглыя, якія не ведаюць, што такое тварыць і будаваць, а лезуць да кіраўніцтва светам: ім бы толькі паліць і рушыць… А калі нешта яны пачынаюць ствараць, дык атрымліваецца нешта пачварнае і мёртвае, як той калгас у Багданоўцы... Вось дзе меў рацыю ксёндз Адам Станкевіч, калі казаў пра дзве энергіі, якія кіруюць светам: боскую – стваральную і д'ябальскую – разбуральную. Чалавек жа заўсёды стаіць перад выбарам...

А калі выбару няма? Ці смерць – гэта таксама выбар? Ці вось так: «Едзь сам, там цябе знойдуць...» Якім жа трэба быць дурнем, каб дабравольна ехаць блізкі свет у якасці «во-

рага народу»? Калі нехта для вас вораг, дык і вы таму не сябры. «Там цябе знойдуць...» – знойдуць і застрэляць... Ну-ну, хай пашукаюць...

Антось, як ніхто ў вёсцы быў падрыхтаваным да эвакуацыі – некалькі месяцаў сядзеў на клумках. Але што яму можа даць такая эвакуацыя? Ці ў дарозе з дзяцьмі гінуць, ці гінуць тут, дык тут яно можа і лепей?!

У тую ноч Антось зрабіў сваю эвакуацыю на балота, у Лапаўшчыну: вывез дзяцей, перавёў карову, а найбольш неабходныя рэчы схаваў у Глінішчы ў старых акопах з надзеяй, што не стануць лётаць кустамі і шукаць. Цэлую ноч ганяў каня Антось туды-сюды. А раніцай з Ясевым карабінам (нарэшце спатрэбіўся) засеў у гумне, на выпадак, калі прыйдуць падпальваць хату. На тарпе сена зрабіў сабе ляжанку, а ў саламянай страсе выскуб дзюрку, праз якую добра была відаць не толькі яго хата і падворак, але і хата Марты, і тая частка вуліцы да гасцінца, і сам гасцінец. Недзе а дзявятай гадзіне на падворку паказаўся Пуценька, і Антось тут жа ўзяў яго на прыцэл. Пуценька «пацалаваў замок» на дзвярах хаты, мацюкнуўся, прайшоўся падворкам, праверыў хлеў, паветкі, мацюкнуўся яшчэ раз і дастаў запалкі. Сэрца ў Антося затахкала ў грудзях. «Спакойна, спакойна, – супакойваў сябе Антось. – Вось і ўсё табе, Пуценька, далётаўся...» Пуценька, не спяшаючыся, дастаў папяросу і закурыў. «Кіне недакурак на страху, салома сухая, як свечка ўспыхне, трэба страляць... А можа пачакаць, а можа ён не падпальваць прыйшоў, а можа так зайшоў, развітацца?.. А можа разабраліся з ім, з Антосем у Ашмяне ці ў Смургонях?.. Разабраліся ў сувязі з вайною і можа ўсё адмянілі і аніякага высялення, можа?..».

Пуценька зацягнуўся некалькі разоў запар, яшчэ раз агледзеў падворак, пстрыкнуў недакурак пад плот і пайшоў.

«Ну, дзякуй Богу, усё абышлося», – з палёгкай уздыхнуў Антось.

Добрых паўдня прасядзеў Антось у гумне, але ніхто болей не прыходзіў. Чуў ён у Багданоўцы крыкі, роў скаціны і нават стрэлы, але што да чаго – не мог зразумець. Пасля ён даведаўся (Міхась Буткевіч – хата з другога канца вёскі – расказваў), што ў Багданоўку прыехала ўсяго толькі некалькі машын для эвакуацыі, і то забіралі ў асноўным жывёлу, а не людзей. Астатнім гаварылі, каб тыя ішлі ў лес, бо вёску ўсёроўна будуць паліць.

– Каб яны, гэтыя забіралы, не былі са стрэльбамі, дык іх бы самі людзі спалілі б! – рабіў высновы Міхась. – Правільна

зрабіў той, хто зусім не хадзіў, бо ніхто аніякай пераклічкі не рабіў, толькі Пуценька корпаўся ў сваіх паперах, адзначаў, відаць, каго не было.

## 37. Доля беларуса, верш
## (з нататніка заходніка)

*Я сад пасадзіў – усе дрэўцы зламалі,*
*( ніхто ж не пытаў пра дазвол альбо згоду ).*
*Прыйшлі і зламалі, стапталі, пакралі...*
*– Маўчы! – мне сказалі. – Ты – вораг народу!*

*Я дом будаваў, – а мой дом раскідалі:*
*– Твой дом – інтэрнат, ці «абшчак», ці камуна!*
*– Хоць волю мне дайце! – нічога ня далі...*
*Што злога рабіў, дзе, калі і каму я?!*

*Я праўду шукаў, а мяне, як за шкоду,*
*Ганялі, давілі, травілі, марылі...*
*Сыноў гадаваў я, а іх – да выроду:*
*Забілі, саслалі, зьвялі, адурылі...*

*Я сад пасадзіў – усе дрэўцы зламалі...*
*Я дом будаваў, – а мой дом раскідалі...*
*Сыноў гадаваў я, а іх – да выроду...*
*– Маўчы! – мне сказалі. – Так лепш для народу!*

## 38. « ...с Коммунистическим приветом... »

Пуценькі не стала відаць у вёсцы недзе на трэці дзень. І неяк, быццам ненарокам, Антось сустрэў Марту і далікатна спытаўся наконт начальства. Тая адказала, што нічога такога не ведае, апрача таго, што ён (Пуценька) сказаў чакаць ёй з клумкамі. А пасля гэтак жа нечакана знікла і Марта. З свайго падворка Антось бачыў вялікі амбарны замок на дзвярах Марцінай хаты. Вось тады Антось і падумаў пра тое, як яно ў жыцці можа павярнуцца: толькі што хацеў выгнаць яго сям'ю з хаты і заняць яе, а тут прыйшлося самому ўцякаць.

Тады, пад вечар, Антось перавёз дзяцей у сваю хату і вельмі пашкадаваў аб гэтым. У тую чэрвеньскую летнюю ноч Антось, як можа ніколі, вырашыў адаспацца, балазе нагода для гэтага была: спрацаваўшыся і знерваваўшыся за апошнія дні, Антось ды і Ганька хадзілі, як цені.

Але так здарылася, што тая кароткая ноч стала пачаткам новых трывожных і бяссонных начэй.

Недзе каля двух гадзін ночы пачуўся тупат коней. Ганька і старэйшыя дзеці прыліплі да вокнаў. Балазе гэтая летняя ноч не была такой цёмнай, і можна было разглядзець, як некалькі вершнікаў спыніліся каля Пуценькавай хаты. Ганька тады разбудзіла Антося. Праз нейкую хвіліну пачуўся звон разбітага шкла, а пасля зыркім полымем успыхнулі дзве паходні: адна паляцела на страху, а другая – праз разбітую шыбу ў сярэдзіну хаты.

– Вось яно што, – адзначыў Антось. – Так, усім на двор, бягом! Ганька, бяры малых... Ці не адтуль вецер...

Вершнікі яшчэ адну паходню кінулі на страху з другога боку, колькі хвілін пакруціліся каля хаты і паскакалі гасцінцам убок Ракавічаў.

– Так, дзеці, бярыце вёдры, цабэркі і бягом да студні! – скамандаваў Антось і першым кінуўся з вядром да Пуценькавай хаты.

Якраз пад вечар прайшоў спорны дождджык, і салома загаралася вельмі слаба, але паходні рабілі сваю справу, і полымя паціху расло. На пажар падаспелі астатнія суседзі: Будкевічы, Гіруці, Садоўскі, Сідаровічы і ў хуткім часе збілі агонь на страсе і затушылі полымя.

Вялікае зарыва асвятляла полову неба над Старымі Ракавічамі і Мазалямі. Там, відаць, так лёгка збіць агонь людзям не ўдалося.

Пачынала світаць. Вяскоўцы яшчэ пастаялі трохі каля хаты, пагаварылі пра пажар, згадалі Пуценьку і начных бандытаў нядобрым словам і разышліся.

«Пакуль добра не развіднее, трэба будзе пільнаваць сваю хату, – падумаў Антось, – мала што можа быць такім часам».

Наглядаць за дагараючымі галавешкамі засталіся Антосевы хлопцы: Пецька і Яська.

Антось з самай раніцы збіраўся ісці касіць сенажаць каля Глінішча – трава ўжо перастаяла і дзе-нідзе пажаўцела. За гэтай валтузнёй з высяленнямі рукі не даходзілі, а цяпер што-колечы трэба было рабіць, калі выйшла так. Ён пераглядзеў косы, выбраў лепшую, сказаў, каб сняданак яму паднеслі на сенажаць, балазе ёсць каму насіць, абвёў позіркам хату Пуценькі – галавешкі дагаралі воддаль хаты, закінуў касу за плечы і пайшоў.

Каля гумна дагнаў яго Пецька:

– Тата, пачакайце! Хачу нешта вам паказаць, – спыніў ён Антося і выцягнуў з-за пазухі два трохі абгарэлыя сшыткі. – У печы валяліся... Хочаце пачытаць, ці паслухаць?

– Найшоў што чытаць... Занясі ў адхожую...

– А вось, тата, слухайце...*«Андралович Антон, житель деревни Дойневичи, связан семейными узами и идейно с кулаком и врагом народа Качанюком, скрывал от Советской Власти лишки добра, а также обзывал Советскую Власть «лобидудой» и другими нецензурными словами, пользовался кулацким инвентаром и другими предметами сомнительного содержания, есть подозрение в связях с белорусскими националистами Станкевичами (данный факт уточняется), а местному отъявленному и махровому белорусскому мелкобуржуазному националисту Дайновичу приходится лучшим другом...»*.

– Та-ак, давай прысядзем, – толькі і прагаварыў Антось, і яны прыселі на камяні каля гумна. – Што там яшчэ!

– Так, *«До эпохальных мероприятий Советской Власти,* – працягваў чытаць Пецька, – *относится всегда с подозрением и критически. Неблагонадёжный, в трудную минуту для Советской Власти может перейти в логово её врагов. Является убеждённым частником, индивидуалистом и верующим католиком-униатом, склонен к обогощению и наживе. Антон Андралович находился под моим личным наблюдением с первого дня Советской Власти. Есть мнение арестовать и выслать в места не столь обитаемые, ибо трудолюбив и может, с одной стороны, запотребовать плоды своего труда, с другой – освоить лесные и земельные угодья в крайних районах Сибири. В данное время взят в разработку...»*.

– Пуценькава пісанка?! О дзе скаціна! – усклікнуў Антось.

– А вось, тата, прычытайце гэта, – Пецька паказаў яшчэ адзін, трохі прыкамячаны, лісток.

*«Дорогой Товарищь, Василий Иванович! – зачытаў Антось. – Районный Исполнительный комитет трудящихся, в целях проведения политической разведки среди местного населения, предлагает Вам в конце каждого месяца предоставлять в его адрес информацию о настроениях крестьян (бедняков, середняков) в деревне Дойневичи, с изложением конкретных фактов и требований, как положительных, так и отрицательных. Районный Исполнительный комитет, в целях воспитания и работы с массами, нуждается в следующей информации: 1) классовый и национальный состав населения; 2) наличие и отношение к религиозным обрядам, другим национальным меншинствам и вероисповеданиям; 3) участие в контрреволюционных организациях, антисоветских выступлениях и заговорах; 4) отношение местного населения к советской власти и к проводимым ею мероприятиям; 5) уважи-*

*тельные (неуважительные) высказывания по отношению к руководящему составу комитетов Коммунистической партии и исполнительных органов.*

*Будем благодарственны Вам, Дорогой Товарищ, за оказание соответсвующей помощи. Ваше сотрудничество с нами не подлежит публичному оглашению и будет учтено в проведении советской кадровой политики района.*

*С Коммунистическим приветом: председатель райисполкома тов. Гурин (подпись, дата)...»*[1].

– І гэта яшчэ ня ўсё, тата, вось гляньце сюды, – Пецька працягнуў другі сшытак, на вокладцы якога было нагрэйзана вялікімі літарамі на польскай мове «Zeczsyt».

– Tajnie. Naczalniku pastarunku policji powietu Oschmiany, hminy krewskie. Dopis. Andrałowicz Stefan, meszchkaniec s. Rakuwcy, biełorusin–nacyialisty, członak KPZB[2], – прачытаў Антось, пацёр кулаком вочы і «Зэшыт» працягнуў Пецьку. – На, хлапец, пачытай, каракулі нейкія – грамацей з Пуценькі нікудышны, дый, нешта, аслаб я на вочы...

– Дык гэта ж толькі чарнавік, – разважыў Пецька. – Чыставік, відаць, там, у начальніка, – і стаў працягваць чытанку.

Далей пісаў Пуценька пра арганізацыю Сцяпанам суполак «Грамады», ТБШ і КПЗБ; указвалася, у які дзень збіраліся сябры суполак з пералікам тых, хто быў на гэтых сходках. Пасля пайшлі абвінавачванні ў выступах супраць польскай дзяржаўнасці, агітацыі супраць польскіх законаў і непадпарадкаванні ўладам, у прапагандзе савецкага ладу жыцця ў Усходняй Беларусі і г.д.

– А вось у гэтым сшытку амаль што тое самае пра Сьцяпана, толькі на расейскай мове, – Пецька паказаў першы сшытак, на якім той жа рукой на вокладцы было нагрэйзана «Тетрадь». – Я магу з гэтага сшытка пачытаць, тут найноўшыя дадзеныя...

– Чытай...

– Так, *Андриолович Степан, житель деревни Ракович, член КПЗБ, белорус, активист, приверженец Советской Власти с 1918 г. В буржуазной Польше выступал за открытие белорусских школ, принимал участие в деятельности белорусских националистических организаций, преследовался*

---

1 Выкарыстаны матэрыялы з артыкула:Янка Трацяк. Рэлігийная і нацыянальная палітыка КП(б)Б у Заходняй Беларусі // Białoruskie Zeszyty Historyczne,. Białiystok, 2000, № 13.

2 Сакрэтна. Начальніку аддзелу паліцыі Ашмянскага павету, Крэўскай гміны. Паведамленне. Андраловіч Сьцяпан, жыхар в. Ракавічы, беларускі нацыяналісты, сябра КПЗБ…

*польскими властями за революционную деятельность, сидел в тюрьме. Однако: был связан с белорусскими националистами, в частности, с Рак-Михайловским и Станкевичами, инициатировал проведение в Раковичах и Богдановке разных белорусских националистических мероприятий, как-то: лекции, вечеринки, спектакли, симпотизировал белорусскому национальному возрождению, проявлял сочувствие к некоторым раскулаченным, был против некоторых мероприятий Советской Власти, в частности, против назначения меня оперативным уполномоченным по округу Дойневичи»*.

У канцы ўсёй гэтай пісаніны быў подпіс Пуценькі і надпіс: *«Осведомитель Путёвый»*.

Тут Антось аж прысвіснуў, а Пецька разрагатаўся.

З гэтай пісаніны Антось даведаўся шмат чаго цікавага не толькі пра сябе, але і пра вяскоўцаў.

Кожнага вяскоўца з Дойневічаў, Ракавічаў і Мазалёў (за выключэннем хіба што тых бальшавікоў-актывістаў, якія прыйшлі разам з Саветамі) Пуценька абвінавачваў у схільнасці да нажывы і ўласніцтва, адсутнасці ўстойлівай, надзейнай і прынцыповай пазіцыі да савецкай улады, згадваліся сваяцтвы, стасункі і супрацоўніцтвы з палякамі, панамі і кулакамі, выказы ў адносінах да Саветаў, бальшавікоў і камуністычнай партыі. Пасля кожнага прозвішча было кароткае рэзюмэ: *«В целях безопасности Советского строительства на селе целесообразно выселить в места отдалённые (альбо «не столь обитаемые»), а освобождённые места заселить надёжным элементом с восточных районов БССР либо с центральных районов РСФСР»*. Такім чынам, паводле Пуценькі, высылцы былі падвержаны ўсе карэнныя сем’і ў Дойневічах і ў Ракавічах.

Вось табе і «Путёвый»...

Чубік казаў: «Пустадомкі могуць завесьціцца ў тваёй хаце...».

У другім сшытку («Zeczsytu»), пад грыфам «Tajnie», са зваротам да «Naczalnika pastarunku powietu hminy krewskie» падавалася інфармацыя пра дзейнасць тых вяскоўцаў, хто выступаў тут, «на крэсах всхудніх» супраць польскасці, быў крытычна настроены да польскага ўраду і праяўляў сябе «беларусінам». Найбольшыя артыкулы ў такім кантэксце былі прысвечаныя Сцяпану Андраловічу, братам Антуку і Януку Дайновічам, Саковічам (асабліва старому Саковічу і яго унуку Юльяну, які тут не жыў, але часта бываў у дзеда. У артыкуле пра Юльяна былі зафіксаваныя амаль што ўсе яго «антыпольскія» і «рэвалюцыйна-пракамуністычныя» сустрэчы з Сцяпанам і Дайновічамі. Пра Янука Дайновіча ар-

тыкул быў ідэнтычным з артыкулам пра Сцяпана, толькі прозвішчы стаялі іншыя. Была інфармацыя ў «Zeczsytu» і пра іншых вяскоўцаў, у асноўным гэта былі праваслаўныя: браты і пляменнікі Сцяпана, Будкевічы і Садоўскія з Дойневічаў, Стрыгі з Мазалёў і іншыя. Палова старонкі ў «Zeczsytu» было прысвечана Антосю, маўляў, ненадзейны католік, сімпатызуе беларусінам і, у ліхую гадзіну для Польшчы, можа перайсці ў стан яе ворагаў. Адным словам, Пуценька стараўся пасеяць недавер у асяродку польскіх чыноўнікаў да Антося і такіх жа католікаў-беларусаў.

Пад артыкуламі ў «Zeczsytu» стаялі розныя лічбы: ад 10 zl. да 30 zl. Так, да прыкладу, пад артыкулам пра Антося была лічба 10 zl., а пра Сцяпана – 30 zl. Шмат пад якімі артыкуламі быў яшчэ допіс: “*не заплацій, курва*”.

Цяпер Антосю стала зразумелым, чаму ў тым жа паліцэйскім пастарунку Пуценьку доўга не трымалі – сваім чалавекам быў ён і там. Выходзіць, што Пуценька працаваў на тайную польскую паліцыю і быў сапраўдным ворагам беларускага працоўнага народу, бо толькі вораг беларушчыны мог абвінавачваць такіх людзей, як Саковічаў, Сцяпана, Дайновічаў і іншых. Гэтага мог не ведаць Цэрбер, але няўжо гэтага не ведаў Сцяпан альбо той жа Хамінскі. Хаця адкуль? А калі так, дык уся гэтая пісанка, як у адным, так і другім сшытку не мае аніякай моцы. І ён, Антось, і Дайновіч, і Далькевіч і ўсе, каго Пуценька ўжо «здаў» «энкэвэдыстам» і каго хацеў выслаць у Сібір – не вінаватыя! Толькі гэта трэба нейкім чынам абнародаваць, давесці да савецкага начальства, да Сцяпана, да Кабяка, хай ведаюць, каму патуралі, з кім працавалі і каму давяралі. Хаця ўсе гэтыя сцяпаны і кабякі пры першай жа магчымасці парадуюць Пуценьку тым, хто знайшоў яго пісанку і хадзіў, паказваў яе людзям. Трэба ў раён, да вышэйшага начальства, хай паглядзяць, хай пачытаюць...

Да Смаргоняў вёрст дваццаць, паўдня язды на добрым кані туды і назад. Толькі дзе ўзяць добрага каня? Добрых коней забралі былі чырвонаармейцы ў час свайго вызвольнага паходу, а зараз, на сама лепшых стаенніках, паўцякалі ўсе гэтыя касалапавыя і цэрберы.

Антось глянуў на сонца – сёння ўжо позна, трэба заўтра зранку і так, каб ніхто не заўважыў, у прыцемках выехаць... І не ў раён нават, а ў вобласць, у Вілейку, і да сама галоўнага, да пракурора вобласці! О, куды трэба!

А раніцою наступнага дня даўся Антось, як і меркаваў, лёгкім трушком на кані вярхом праз гай, нацянькі, убок грэблі.

Але чым далей Антось ад’язджаў ад сваёй хаты, тым болей пачынаў сумнявацца ў правільнасці сваёй задумы. Прыгадаліся чамусьці сын Сака, які паехаў шукаць праўду ў раён і не вярнуўся. Прыгадаўся і Левановіч з Ручаёў, каб яны тады не ездзілі ў гэтыя раёны, дык можа і сёння калупаліся б на сваіх агародах, а так...

На ажыўленным гасцінце Антось зноў задумаўся над сваім намерам.

З-першага, насустрач Антосю суцэльным рознакаляровым патокам ішлі бежанцы. Часта да гэтай стракатасці дапаўняўся зялёна-шэры колер вайсковых часткаў чырвонаармейцаў, розныя тылавыя і санітарныя абозы. Яны займалі амаль што ўсю дарогу, і атрымліваўся аднабаковы рух, супраць якога рухаўся адзін нейкі дзіўны чалавек. Чалавекам гэтым быў Антось.

З-другога боку, ніхто не дасць гарантыі, што сярод гэтых уцекачоў няма тых пракурораў і начальнікаў, да якіх так рупліва спяшаецца Антось.

«Можа, пакуль не позна, развярнуць каня», – сумняваўся Антось, але нейкі магнэс цягнуў яго ў горад, і конік памаленьку трухаў уперад. Антось яго не спыняў.

Бліжэй да Вілейкі дарога стала болей вольнай. Тут, відаць, бежанцы пайшлі старым трактам на Маладэчана.

У Вілейцы ён хутка знайшоў будынак, у якім месцілася раённая міліцыя (раней тут быў гмінны паліцэйскі пастарунак). Спытаўся, дзе абласная пракуратура, і неўзабаве апынуўся каля будыніны народнага суда і пракуратуры. На падворку, перад уваходам, дагаралі нейкія кнігі, папкі, паперы. У памяшканні амаль што ўсе дзверы былі адчынены насцеж, і іх паціху гойдаў скавыш. А ў вочы адразу кідаўся вэрхал у пакоях: перакуленыя крэслы і сталы, раскінутыя на падлозе паперы, газеты, папкі, плакаты, сшыткі. Тое самае было і на другім паверсе. Людзей відаць не было.

– Не паспеў, – сумна ў голас прагаварыў Антось. – Паўцякалі...

Увагу Антося прыцягнула кучка міліцэйскай макулатуры на падлозе: акты, пратаколы, інструкцыі, загады... І тут сярод іх ён убачыў агульны сшытак, вельмі падобны на тыя, пуценькавыя. На вокладцы сшытка чорным алоўкам было нагрэйзана «Вещьдок». Антось узяў, разгарнуў і прычытаў: «Нататнік заходніка», і неяк машынальна хутка запхнуў нататнік за пазуху.

– Гражданин! Вы чё здесь делаете? – пачуў ён ледзь не над сабой строгі голас.

Падняў галаву. Перад ім стаяў нейкі вайсковы начальнік: зялёны мундзір з блакітнымі пятліцамі, сіняе галіфэ, фураж-

ка з чырвонай стужкай і кабура з планшэтай. Антось адразу здагадаўся паводле формы, што перад ім «энкэвэдэшнік», хутчэй за ўсё лейтэнант, не болей. Рука «энкэвэдэшніка» мацала кабуру.

– Я начальніка хацеў бы бачыць...

– Тут никого нет... Начальник счас на операции!

– На якой аперацыі? – не падумаўшы запытаўся Антось.

– По задержанию...

– У яго... Задержанія чаго?..

– По задержанию врагов народа! – зноў вельмі сурова ўдакладніў чалавек у форме.

– Немцаў? – ажывіўся Антось.

– Я сказал: врагов народа! – павысіў голас лейтэнант. – А вы тут что делаете? Кто таков? Откуда? Куда? Зачем?

– Врагов народа, – расчаравана паўтарыў Антось. – А калі будзе начальнік?

– После войны... Дакументы! – запатрабаваў «энкэвэдэшнік».

– Якія дакументы? – не адразу зразумеў Антось – не браў ён з сабою аніякіх дакументаў. – У мяне было адно пытаньне да начальніка...

– Вы какие здесь бумаги подымали?

– Ат, аніякіх... Хацеў знайсьці дзецям кніжку з малюнкамі...

– С малюнкамі!.. Я счас цебя тут сам размалюю! – павысіў голас «энкэвэдэшнік». – Дакументы!?

Антось заместа дакументаў выцягнуў з-за пазухі два пуценькавыя сшыткі і стаў даводзіць вайскоўцу сфальшаваную сутнасць аднаго і другога сшытка, маўляў, як можна верыць чалавеку, які працаваў на польскую дэфензыву, а зараз працуе на вас...

– Ну і што? – абыякава спытаўся лейтэнант.

– А тое, што людзі пастрадалі невінаватыя...

– А почему вы так думаете? А если в этих записах – правда! Кто счас проверит? І где этого Путёвого счас искать? Так что выбросьте вы эти свои тетради в костёр, кстати, костёр во дворе, а заодно прихвате и эту кучу бумаг, – и поезжайте домой, пока не поздно! Немцы Вильню взяли, не сегодня-завтра будут здесь...

Лейтэнант пайшоў на другі паверх, а Антось узяў ў ахапак папяровую кучу і накіраваўся да выхаду, але паперы раз’ехаліся з ахапку, і Антосю прыйшлося парадкаваць іх так, каб можна было вынесці. Вось тут у рукі трапіла яму ней-

кая тоўстая папка, і ён, агледзеўшыся, імгненна сунуў і яе ў запазуху. Пасля Антось старанна выкінуў астатнія паперы ў агонь і недзе праз хвіліну змяшаўся з рознакаляровым патокам бежанцаў.

Папку тую і агульныя сшыткі Антось паклаў пад сядло і не даставаў амаль што ўсю дарогу. І толькі, калі пераехаў мястэчка і дахаты заставалася недзе каля трох вёрстаў, а на дарозе анікога не было, не ўтрымаўся, каб не глянуць у тыя асобныя паперы і нататкі.

У папцы, збольшага, анічога такога вартага не было: нейкія разлікі на выдачу авансу аператыўным работнікам, «финансовыя отчёты» і «Постоновления Совнаркома СССР». Некалькі такіх лісткоў Антось з задавальненнем выкарыстаў у прыдарожных кустах для патрэбы.

Увагу ж прыцягнулі лісты, да якіх былі наклеены паштоўкі. Першая такая паштоўка уразіла знаёмым прозвішчам адпраўшчыка:

*«Прокурору Вилейской области:*
*Жена арестованного Мончака Антона Феликсовича*
*Мончак Мария Михайловна, проживающая в г. Ошмяны,*
*Партизанская улица, 46…».*

І хаця ведаў Антось, што чытаць чужыя лісты непрыгожа, але, яшчэ раз азірнуўшыся навокал, разгарнуў невялічкі аркуш.

«ЗАЯВЛЕНИЕ

*Я узнала, что к вам поступило Дело моего мужа. Я решила обратиться к вам с просьбой о решении суда как можно скорее, только, уважаемые судьи, если вы подозреваете виноватым, то прошу казнить нас обоих расстрелом, а не тюрьмой, потому что нам солнце не светило, не мужу, не мне, то пусть засветит над нашей могилой. Муж детство прожил в горе, сын крестьянина, и работал и учился, на войне раненого немцы взяли в плен… ему 51 год, а мне 47 лет… не для нас мир, не мы для мира, прошу расстрелять нас, как бешеных собак… Просительница Мончак Мария»*[1].

Вось яно што… Антось задумаўся. Мончак ажаніўся ўжо будучы ў гадах, шукаў, як ён казаў, такую, каб да сэрца прылягла… І, відаць, знайшоў… І як проста і лёгка можна разбурыць чалавечае шчасце, давесці да такога стану, калі лепш

[1] Дакументы цытуецца паводле: Владимир Адамушко, Наталья Иванова. Людские судьбы в письмах // Крыжовы шлях: дапаможнік для вывучаючых гісторыю Беларусі. – Мінск: «Згода», 1993.

памерці, чым так жыць... А на месцы гэтай Марыі магла б быць яго, Антосева, сястра...

Антось праглядзеў яшчэ некалькі канвертаў і звярнуў увагу на адрасы: «Москва, Кремль, Дорогому Товарищу И. В. Сталину...», і «Москва, Кремль, товарищу М. И. Калинину...». Канверты былі перакрэсленыя чорным алоўкам крыж-накрыж, а да іх прыклееныя, спісаныя дзіцячым почыркам, лісты. Антось разгарнуў такі ліст.

*«Просьба к вождю,*
*Иосифу Виссарионовичу Сталину.*

*Просим дорогога товарища Сталина. Просим, чтоб нам посоветовал, как жить, потому, что мы маленькие, а татку нашего забрали. А нас осталось пять маленьких мальчиков, мамаша больная, работать не может. Бабушка тоже старая, лет, может, 70. Весна приходит, а на земле нет кому работать. Дорогой Иосиф Виссарионович Сталин, просим мы Вас, руки, ноги целуем. И просим может как-нибудь сжалиться над нами, бедными сиротами, может бы нам было можно вернуть своего татку. Дорогой наш Иосиф Виссарионович Сталин, просим прощения мы Вас, может, что мы и не так написали. Севастьян Левонтьевич».*

Ніжэй чорным алоўкам размашыстым почыркам было дапісана: *«Севастьян Юрий Августович, 1902 г.р., д. Слуки, Лещинского с/совета, Мядельского района, грамотный, белорус, земледелец. При бывшей Польше являлся руководителем контрреволюционной организации »Коло молодёжи», состоял членом КПЗБ до 1930 г., после чего оказался провокатором, являлся конфидентом полиции, за что получил вознаграждения. В настоящее время враждебно настроен к Советской власти и проводит контрреволюционную и антисоветскую деятельность, что подтверждается показаниями свидетелей... Подпис... дата»*[1].

Антось затрымаў каня, уважліва азірнуўся навокал і стаў чытаць далей:

*«Товарищу Сталину от дочери Кобылянского Виктора Антоновича:*
*Эмилии Викторовны Кобылянской, с/с Гулидова, пос. Ласица, р-н Дуниловичи.*

*К ТОВАРИЩУ СТАЛИНУ.*

*Пишу к Вам, товарищ Сталин, письмо, девочка из Белоруссии, в котором выражаю своё обидное сожаление. Мой*

[1] Дакументы цытуецца паводле: Владимир Адамушко, Наталья Иванова. Людские судьбы в письмах // Крыжовы шлях: дапаможнік для вывучаючых гісторыю Беларусі. – Мінск: «Згода», 1993.

*папа, 14.09. забран в тюрьму в город Вилейка. Когда пришла Красная Армия, мы цветами встречали бойцов, которые нам принесли равноправный язык, за освобождение Белоруссии, а за Польшей не в состоянии грамотно писать были... а сейчас имеем равные права, и я могу писать к товарищу Сталину как к родному отцу, пишу всё открыто, верно делю свою радость и жалобу...*

*...В 1936 г. мой папа очень тяжело заболел склерозом, и врач запретил тяжело работать, но мой папа по привычке не мог быть без работы, тогда купил пчёл три улья и досматривал пчёл, через 4 года добыл 32 улья.*

*Папа мой под Польшей всегда слушал радио из России, потому что равноправие любил и держал руку за родной язык, а польских правительств не мог переносить за то, что везде была несправедливость, в партиях польских никаких не был, а о партиях Коммунистических под Польшей всё знал, и когда послы к нам приходили из России может сам председатель Владимир Цырбан подтвердить... Когда пришла Красная Армия, папа сам землю разделил... ибо хотел, чтобы у всех было ровно. Папа мой планы государства выполнял прежде наказов, потому что папа знал за что даёт в государство, за правность. Также пишу свою жалобу дорогому Отцу Сталину и прошу обратить внимание на моё сожаление. Товарищ Сталин, так верно Вам пишу, что папа не виноват... Товарищ Сталин, дайте радостный ответ мне.*

*Белоруска Эмилия Кобылянская».*

Да гэтага пісьма быў падшыты лісток «Из дело»:

«*Виктор Антонович Кобылянский является самым крупным кулаком. В своём хозяйстве сам не работал, а эксплуатировал наёмную рабочую силу, батраков и сезонных рабочих, которых работало у Кобылянского по 5 человек. Кобылянский заставлял батраков работать от восхода до захода солнца и, зачастую, выгонял батраков, не заплатив им за труд. Кроме того Кобылянский являлся агентом бывшей польской полиции, по заданию которой выявлял и доносил о всех революционно настроенных лицах. В 1939 г., с приходом Красной Армии на территорию Зап. БССР, Кобылянский организовал банду, которая делала вооружённое сопротивление частям Красной Армии*»[1].

[1] Дакументы цытуецца паводле: Владимир Адамушко, Наталья Иванова. Людские судьбы в письмах // Крыжовы шлях: дапаможнік для вывучаючых гісторыю Беларусі. – Мінск: «Згода», 1993.

*«Москва, т. Михаилу Ивановичу Калинину.*
*Чеслава Ромуальда Матусевича, жителя села Еленовки, Кокшетащского района, Северо-Казахстанской области.*

ЗАЯВЛЕНИЕ

*Мне от роду 10 лет. Научился я по-русски уже писать и читать, а ввиду очень тяжёлого положения решился обратиться с просьбой. Дня 13 апреля с.г. вывезло нас (т.е.меня), НКВД, мою мать Леонарду Матусевич, брата Иренсуша 5 лет, сестрёнку Луцию 1 год и бабушку 80 лет Елену Матусевич в Северо-Казахстан. Отца же нашего Рамуальда Матусевича вывезли 10.02. с.г. в неизвестном нам направлении и до сих пор о нём ничего не знаем. Жили же мы в Западной Белоруссии Вилейской области Свирского р-на, хутор Нистанишки. Собственной земли мы не имели, так что отец купил кусок земли с помощью банка и мы его выплачивали, но ещё имели много долга. За что забрали и нас вывезли, нам неизвестно, нигде мой отец в никаких организациях не участвовал.*

*Мать моя в продолжении этих шести месяцев билась, чтобы нас прокормить, всё, что имела с собой, уже продала, и теперь, с наступлением зимы, нет средств к дальнейшему существованию. Просьба возвратить нас на Родину, где бы нам была возможность прожить. Там, среди родственников, не пропадёшь. Вторая моя просьба – это возвратить нам нашего отца, нашего кормителя. Вы наш опекун и в вашей силе это сделать. Здесь же мы все погибнем с голоду. Пожалейте меня... граждан маленьких. 24.10.40. Чеслав Матусевич».*

«СПРАВКА

*На Матусевича Ромуальда Станиславовича, 1902 г. рождения, поляк, хутор Нистанишки Вишневской волости. Обвинения: участник контрреволюционно-повстанческой организации. Арестован 10.02.40 г. Допрашивался 2 раза, виновным себя не признал, но обличается показаниями свидетелей. 31.05.40 г. дело направлено на рассмотрение Особого Совещания...»*[1].

Антось адклаў папку ўбок. Болей чытаць ён не мог – слёзы на вачах размывалі літары. Ён вельмі жыва ўявіў сваіх дзетак на месцы гэтых няшчасных. Нават калі бацька і быў у чым вінаваты перад гэтай нялюдскай уладай, дык у чым вінаватыя дзеці? І што гэта за ўлада такая, якая падвяргае дзяцей такому суроваму выпрабаванню і карае дзяцей? Не,

[1] Дакументы цытуецца паводле: Владимир Адамушко, Наталья Иванова. Людские судьбы в письмах // Крыжовы шлях: дапаможнік для вывучаючых гісторыю Беларусі. – Мінск: «Згода», 1993.

відаць, не камунізм нясе такая ўлада, а звычайнае, аздобленае прыгожымі словамі і ідэямі, рабства. І той, хто паверыць у гэтыя словы і ідэі, той неўпрыкметку для сябе і не ўсведамляючы гэтага стане рабом. І будзе раб шчаслівы тым, што мае права называцца савецкім чалавекам...

Свет яшчэ не бачыў такога ачмурэння.

* * *

Памыляўся Антось, калі думаў, што ўлады паўцякалі ў савецкую Расею. Як стала вядомым трохі пазней, паўцякалі толькі прышлыя: Кацалапаў, Цэрбер і Пуценька разам з імі. Астатнія апынуліся хто дзе: хто быў дабравольна мабілізаваны ў Чырвоную армію і адразу накіраваны на фронт, а хто яшчэ перад самым пачаткам вайны хаваўся пад рознымі нагодамі ад той мабілізацыі, а каго чамусьці не ўзялі на фронт, нягледзячы на іх жаданні. Так, да прыкладу, калгасны і сельсавецкі актыў з мясцовых членаў застаўся паводле загаду партыі для арганізацыі падпольнай работы і партызанкі. «Якой партызанкі – абураліся самі актывістыя – нас жа тут за адну ноч пераб'юць тыя, хто вернецца з Польшчы разам зь немцамі, ды, відаць, і людзі нас не пашкадуюць за руплівасьць у арганізацыі калгасу...». І ім заставалася толькі адно: хавацца ў лесе, хавацца ад усіх, а болей за ўсё, ад сваіх аднавяскоўцаў.

Такім чынам у лесе, недалёка ад сваёй хаты, апынуліся Сцяпан з сваімі братамі і пляменнікамі і іншыя мясцовыя актывістыя. Праўда, у лесе яны былі толькі першыя дні вайны, а пасля звычайна зыходзілі на дзень, а начавалі дома. А калі стала халадаць і калі трошкі ўсё супакоілася, круціліся каля сваіх хатаў, толькі што не высоўваліся ў адкрытую на людзі.

Калі аднаго разу, Антось абходзіў былую цесцяву сялібу – яна зараз засталася без гаспадароў анікому не патрэбнай – і думаў, што рабіць з ёй, яго нехта аклікнуў з кустоў. Антось прыгледзеўся – Пятро, пляменнік Сцяпана.

Антось даўно ўжо заўважыў, што, з устанаўленнем савецкай улады, перасталі людзі вітацца ў вёсцы адзін з адным. А, дзякуючы руплівасці мясцовых актывістаў, якія аніколі першымі не віталіся, перастаў з імі першым вітацца і Антось. Так, відаць, атрымалася і з іншымі.

– Эй, ты, ідзі сюды! – крычаў Пятро з кустоў і махаў рукой.

Антось хвіліну якую пастаяў – не было ў яго агульных інтарэсаў з гэтым чалавекам і ён развярнуўся і пайшоў у адваротны бок.

– Дык жа пачакай! – крычаў Пятро. – Сцяпан хоча з табой пагаварыць!

Антось спыніўся.

«Пра што ён хоча пагаварыць? – падумаў Антось. – Няма зараз у іх хвалюючых тэмаў, як некалі, для гаворкі. Апошні раз, перад арыштам Дайновіча, яны вельмі добра пагаварылі. А цяпер усё стала само сабой. Цяпер кожны сваёй дарогай, і лепш было б ім не сутыкацца на гэтых дарогах... Пайсьці яму і сказаць пра гэта... А яшчэ расказаць яму пра Пуценькавыя сшыткі і яго літаратурныя практыкаваньні, хай ведае...».

Антось развярнуўя і пайшоў да кустоў.

– Дзе Сьцяпан? – спытаўся ён падыходзячы бліжэй.

– Там! – Пятро кіўнуў галавой у кусты.

Першым жаданнем было выказаць Сцяпану ў вочы ўсё, што ён перажыў за апошні год яго, Сцяпанавай, улады: увесь свой боль і крыўду, згадаць яму і цесьця з цешчай, і Дайновіча, і Сакалоўскага, і Саковіча, але, падышоўшы бліжэй, ён убачыў зусім не таго Сцяпана. На камяні, прыгорбіўшы плечы, сядзеў схуднелы, паніклы і пастарэлы чалавек.

Побач, на другім камяні, на разасланым ручніку ляжаў хлеб, сланіна і цыбуля.

– Ну, што там у цябе? – першым загаварыў Сцяпан замест прывітання.

– У мяне – анічога! А ў цябе?

– Сядай, перакусі, – прапанаваў Сцяпан.

Хацеў Антось сказаць, што не з галоднай хаты, але язык не павярнуўся – апошнія месяцы савецкай улады елі і лебяду і крапіву.

– Абайдуся, – не зусім ветліва адмовіўся Антось.

– Гляджу, Антось, у цябе і сівізна ўжо зьявілася, – здзівіўся Сцяпан.

– А ты на сябе паглядзі, – болей-меней спакойна адказаў Антось. – А ўсё дзякуючы табе і тваёй уладзе!

– Старэем... А ўлада?.. Закончылася мая ўлада – можаш радавацца...

– А ня надта я й радаваўся, як яна пачыналася...

– Ведаю...

– Мала ты ведаеш! – тут Антось хацеў перайсці да Пуценькі, але Сцяпан яго перапыніў.

– Антось, ведай і ты, што савецкая ўлада – гэта мая ўлада!

– А ці была твая ўлада?

– Ці была, кажаш? – перапытаў Сцяпан і задумаўся, а пасля перавёў гутарку на іншую тэму:

– Ты, Антось, лепш пажні жыта свайго цесьця, каб не прападала дабро... Калі што – я дазволіў...

– А на халеру мне тваё жыта! Каб пасьля Цэрберы да сьценкі ставілі?!

– Зярно, колькі тут будзе... тоны дзьве... упарадкуеш палову ў Качанюкоў аруд, а палову сабе забярэш, – працягваў Сцяпан. – Там паглядзім, што будзе... Бульбы не чапай – самі выкапаем...

Тут было над чым падумаць. Калгас той лопнуў, як мыльны пухір. Ужо на другі дзень вайны людзі імгненна разабралі калгас паводле свайго ўнёску, праўда, разборкі яшчэ не спыніліся, бо нехта нешта ўзяў не сваё. А калі так здарылася, дык зараз аніхто не мае большага права на тое жыта, як Антось. Трэба будзе параіцца з Ганькай.

Меў такую-сякую інфармацыю Сцяпан і пра начныя пажары – усё было вельмі проста: малады паніч Лакуціеўскі (сын намесніка віленскага ваяводы) з атрадам польскіх легіянераў (а можа, і якіх бандытаў) хацеў адпомсціць Сцяпану і іншым актывістам, але яны засвяціліся яшчэ днём (заўважылі іх дзеці, якія збіралі ягады ў лесе – прыйшлі і сказалі). Зразумела, чаму ў хаце нікога не засталі з былога сялянскага і партыйнага актыву, – усіх паспелі папярэдзіць, а вось хаты шмат каму папалілі.

– Не было аніякага сэнсу ўвязвацца зь імі ў перапалку – сілы былі ня роўныя, – гаварыў Сцяпан. – Вось так, пакуль што, мірна разышліся...

Калі Антось згадаў пра Пуценькавыя запісы, Сцяпан анікольке не здзівіўся:

– А ты думаеш, толькі адзін Пуценька пісаў такія лісты? Анакдай мне ў раёне далі пачытаць... чытаю і вачам сваім ня веру, кшталту «Сьцяпан Андраловіч аніколі ня быў шчырым камуністым, разам з такімі ворагамі савецкай улады, як Станкевічы з Вурлянятаў, Юлесь Сакові з Баўдыроў, кс. Гадлеўскі з Жойдзішкаў, Луцкевіч і Астроўскі з Вільні, Пятровіч з Быкоў і іншымі змагаўся за адраджэньне беларускага нацыяналізму пад панскай Польшчай... Не пакамуністычнаму дзейнічаў Сьцяпан Андраловіч пры захопе панскіх маёнткаў, даў магчымасьць многім уцячы, праяўляў слабавольнасьць і непрынцыповасьць пры раскулачваньні, у выніку чаго такія ворагі народу, як Расальскія, Страчынскія, не былі арыштаваныя ў час, а прытаіўшыеся ворагі (Антось Андраловіч, Адоль Канопка, Язэп Дзядзюлевіч, Кастусь

Тамашэвіч, Вінцук Міргановіч) засталіся на волі непакаранымі, размаўляюць на беларускай мове і праводзяць далей сваю антысавецкую палітыку...». Шэдэўр!

– Не кажы! І хто ж такі гэты пісьменьнік?

– Век не дагадаешся... І не падумаеш нават...

– Магчыма, нехта з Страчынскіх, альбо з Лакуціеўскіх... Сваякі ж засталіся... З высланых можа хто? – выказаў думку Антось.

– Але ж што ж гэтым высланым і іх сваякам зрабіў ты? Пытаньне тут нават не наконт мяне ставіцца, – Сцяпан шматзначна падняў палец уверх. – Альбо што ім зрабіў Дзядзюлевіч... ці Міган, ці нехта іншы?

– Зайздрасьць, можа...

– Зайздрасьць? Каб жа толькі зайздрасьць... Дый каму зайздросьціць – табе, ім?.. А пісаў Зютэк!

– Зютэк?! – Антось аж прысьвіснуў ад такой нечаканасьці.

Пан Зютэк, альбо Зютэк Панскі, так яго называлі ў вёсцы, паходзіў з мясцовай збяднелай каталіцкай шляхты, якая цягацела да Польшчы, бо з ёю звязвала сваю шляхетнасць. Быў ён спярша хатнім настаўнікам у Лакуціеўскіх, а пасля арганізаваў польскую школку ў Ходзьках. Адначасна заставаўся пры панскай гаспадарцы ў якасці пісарчука. Дарэчы, адзін з нямногіх, хто намагаўся размаўляць усюды на польскай мове. Казалі, што яму многія з мясцовых панічоў абавязаны сваім польскім патрыятызмам. Савецкая ўлада не чапала Зютэка, а каго было чапаць – бедны інтэлігент: ані сям'і, ані зямлі, ані гаспадаркі – які з яго набытак для ўлады, а яго польскасць толькі смяшыла. Праўда, з прыходам саветаў стаў гаварыць на расейскай мове. А пасля яго пачалі выкарыстоўваць камунары ў якасці рахункавода, балазе быў пісьменным. Так ён паціху і прыжыўся з Саветамі. З Антосем заўсёды вітаўся так: «Дзень добжы, пану».

Вось табе і Зютэк...

– Пра Васіля Далькевіча нічога ня чуў? – спытаўся Сцяпан.

– Не, а што?

– Арыштавал і, відаць, засудзяць да вышкі разам з Раманом...

– З сынам? За што?

– Напачатку арыштавалі Рамана ў Савецкай Беларусі; быў там ён нейкім начальнікам, а калі пачалося паляваньне на «заходнікаў», дык яго й «узялі». Пасьля арыштавалі бацьку і сталі «капаць»... Бацька ўсё хацеў сустрэцца з сынам – зрабілі

ім сустрэчу ў засьценках НКВД: білі, катавалі аднаго і другога – усё патрабавалі, каб яны адзін на аднаго далі патрэбныя сьведчаньні…

– Што робіцца… што робіцца, – Антось толькі ў роспачы ківаў галавой.

– Прыкрая гісторыя сустрэчы бацькі з сынам, – пагадзіўся нават Сцяпан.

– А браты Левановічы? А колькі такіх сустрэч?.. Можа варта ставіць пытаньне пра прыкрую гісторыю ўз'яднаньня?..

– Уз'яднаньне – гэта гістарычны факт, гісторыкі разьбяруцца. А зараз не пра гэта трэба думаць – тут з дня на дзень акупанты будуць, – Сцяпан зноў перавёў гутарку на іншае.

– Хто будзе? – не зразумеў Антось.

– Немцы!

– А мне што адны, што другія, не прывыкаць…

– Тут пры немцах трэба мець на ўвазе… Што ўбачыш, пачуеш… Пасьля мне раскажаш.

– Пра немцаў? – зноў не зразумеў Антось.

– Пра ўсіх! – удакладніў Сцяпан.

– Пра немцаў – яшчэ куды ня йшло, а вось пра ўсіх хай табе нехта іншы расказвае...

– Ня хочаш ты дапамагаць савецкай уладзе?

– Дапамагчы ў чым: у вяртаньні Пуценькі, камісараў, цэрбераў... Дапамагчы той уладзе, якая мяне зрабіла жабраком і ворагам?!.

– Ты думаеш, што за немцамі табе будзе лепей?

– Ня думаю… Я ведаю толькі, як «добра» было за вамі!.. А мяне ты лепей не чапай – у мяне ёсьць каму дапамагаць.

– Ты ўсё сям'ёй прыкрываесся...

– А яшчэ няведама, што больш важней : ці бацькоў у Сібір высылаць, ці дзяцей гадаваць!

– Тут трэба з Гітлерам змагацца, Антось, а ты за старыя крыўды!

– Хай зь ім змагаецца той, хто зь ім абдымаўся і парады сумесныя праводзіў!

– Дык, можа, паляціш і данясеш на мяне немцам?!.

– І варта было б данесьці; так, як ты даносіў! Колькі арыштавана, пасаджана і выслана, дзякуючы табе!.. Але не мая гэта справа – данясуць на цябе тыя, каму ты болей зрабіў зла…

Тады на гэтым скончылася іх гутарка. Яны, не развітваючыся, разышліся кожны ў свой бок; так, як, відаць,

разыходзілася не раз не адно пакаленне Андраловічаў: адзін, усунуўшы галаву ў плечы, падаўся ў лес, другі, гэтак жа асцярожна, пасунуўся ў вёску.

У вёсцы было спакойна. Гэта якраз такі быў час безуладдзя, калі Саветы разбегліся хто куды: адны паўцякалі на ўсход, нехта пайшоў на фронт, а астатнія хаваліся ў лесе ад усіх і ўсяго, хаця і рабілі выгляд, што сітуацыю яны трымаюць пад кантролем. Але кожнаму было зразумелым, што кінулі яны народ той перад немцамі, праўда, перад гэтым пастараліся зрабіць так, каб ад народу таго немцам анічога не засталося.

Нічога не засталося не толькі немцам, але і самому народу.

Некалькі дзён Ганька варыла лебяду – атрымлівалася нешта кшталту рэдкага бульёну. Калі трохі падсаліць і прыскварыць, дык можна было есці, але страва была нясмачнай. На полі, на пустырах знік дзядоўнік – людзі выкопвалі карэнні і дзёрлі іх на муку, а пасля пяклі з іх аладкі.

Антось збіраўся пакасіць абмежкі, але спахмурнела, і стаў пырскаць дробны дожджык. Дагледзеўшы скаціну і навёўшы парадак на дрывотніку, Антось раптам згадаў пра «Нататкі заходніка» – лепшага моманту, як зараз, каб іх прагледзець і дачытаць да канца, пэўна, ужо не будзе. Антось, разгарнуўшы агульны сшытак, прысеў каля вакна і стаў чытаць:

## *39. Трактат пра бальшавікоў (з нататніка заходніка).*

*«... Весь мир насилья мы разрушим*
*До основанья, а затем,*
*Мы наш, мы новый мир построим,*
*Кто был ничем, тот станет всем!».*

***Интернационал.***

*Гвалтоўны пафас гэтай песьні ўражвае настолькі, што робіцца страшна ад уяўленьня таго, як «кипит наш розум возмущённый и в смертный бой вести готов...». А ў радках пра «мир насилья» выкладзена ўся сутнасьць такога «інтэрнацыяналу» – на зьмену аднаму гвалту прыходзіць другі гвалт «до основанья», яшчэ болей жорсткі і бесчалавечны, бо ўсякі гвалт над гвалтам – гэта яшчэ большы гвалт, яшчэ большае зло, чым папярэдняе. Гэта песьня-падбухторшчык, псіхалягічная ўстаноўка, якая даводзіць чалавека да фанатызму, да таго стану «узбунтаванага, парушанага розуму»,*

*пры якім траціць усякі сэнс сьвятасьць, чалавечнасьць, маральнасьць. Траціцца і сам розум.*

*Адзін партыйны функцыянер неяк казаў:*

*– Нам, бальшавікам, належыць улада, і мы пакажам сьвету, як трэба жыць і як жыць ня трэба...*

*Прароцкі дар меў функцыянер: у Савецкай Расеі бальшавікі паказалі, як ня трэба жыць (на прыкладах галадамору). А вось як трэба жыць, відаць, яны і самі пакуль ня ведаюць. Пакуль вітаюць сьветлай будычыняй, толькі, пасьля такога гвалту, ці будзе каму жыць пры той будучыні...*

*Росквіт, нармальнае функцыянаваньне і заняпад усякага грамадзтва вызначаецца паводле таго, хто ім кіруе: геніі, таленты, альбо «залатая сярэдзінка», ці шэрасьці зь нікчэмнасьцю. Старажытныя геніі казалі, што ўлада павінна належаць ня большасьці, а лепшым: «Адзін варты тысячы, калі ён лепшы» (Геракліт).*

*Але пра гэта даўно ўсе забыліся. Сталі гуляць у большасьць (бальшавікоў) і дэмакратыю: вызначаць, хто зь іх лепшы сярод лепшых і каму павінна належаць лепшае месца каля найлепшага – таму і лыжка большая.*

*А лепшым сёньня можа стаць кожны, у тым ліку і найгоршы – усё залежыць ад таго, хто, што, як і колькі стаіць за гэтым... Што можна гаварыць пра сытуацыю, калі шанцы ў найлепшага і найгоршага аднолькавыя і кантрасты між белым і чорным (добрым і злым) становяцца шэрымі...*

*У адным месцы прыходзіць да ўлады дыктатура ваеннага камунізму, а ў другім – дыктатура фашызму... А мэты, што ў адной, што ў другой дыктатуры, аднолькавыя... Аднолькавыя ня толькі мэты, але й ідэалёгіі, і метады, толькі назовы розныя – і ўся розьніца.*

*Чаму так здараецца – няведама...*

*У працэсе гістарычнага разьвіцьця (чаму разьвіцьця?), шанцы ў грамадзтва дасягнуць высокага роўню дасканаласьці нашмат меншыя, чым стаць шэрым і здэградаваным грамадзтвам. Нашмат лягчэй скаціцца да дыктатуры, чым да царства свабоды, роўнасьці і братэрства, што так абяцалі бальшавікі...*

*Абяцалі так, што хацелася верыць...*

*Нехта з французаў (нацыя клясічных рэвалюцыянераў) трапна заўважыў, што ўсе рэвалюцыі плануюць ідэалісты,*

*зьдзяйсьняюць фанаты, а яе пладамі карыстаюцца нягоднікі.*

*Можна ўявіць, які быў дэфіцыт кадраў у 1920-я гады. У час рэвалюцыяў і войнаў звычайна лепшая частка грамадзтва – найболей арганізаваныя, сьвядомыя, прыстойныя, сумленныя і ідэйныя падвяргаюцца большай небясьпецы і гінуць у значнай большасьці ў параўнаньні з горшай – найбольш несьвядомымі і амаральнымі, markaznymi жулікамі, махлярамі і прайдзісьветамі. І гэтыя горшыя, markaznymi праўдамі і няпраўдамі, застаюцца жывымі, і вельмі часта застаюцца жывымі за кошт лепшых і загінуўшых – такія ўжо законы вайны. Болей таго, менавіта гэтыя жулікі прыходзяць пасьля войнаў да ўлады. І гэта – ужо як заканамернасьць гістарычнай дэградацыі грамадзтва. З большага, амаральныя і малаадукаваныя пераможцы ў рэвалюцыях і войнах рабіліся кіруючай і напраўляючай сілай і воляй у будаўніцтве Савецкага Саюзу. Адзнакі прафэсыйнасьці, інтэлекту, розуму не адыгрывалі пры гэтым істотнай ролі. Галоўным было, – што ты ўдзельнік і член ВКП(б) (альбо нейкай надуманай, штучнай і не адпавядаючай патрэбам грамадзтва арганізацыі). У сутычках між такімі членамі-удзельнікамі і сапраўднымі прафэсыяналамі – перамагалі першыя, а другія альбо вынішчаліся фізічна, альбо накіроўваліся на перавыхаваньне на Салаўкі і ў Сібір. Так бальшавіцкая, а пасьля сталінская шэрасьць замацоўвала свае аднапартыйныя пазыцыі, і грамадзтва неўзабаве рабілася аднародным, аднаколерным статкам.*

*Час паказаў, што, калі паверх галоваў народных масаў узьнімаецца «грядущий хам», да ўлады прыходзяць «высокопоставленные скоты», якія ня могуць уявіць сваё існаваньне без ЗЛОўжыванняў, балазе для гэтага ствараюцца адпаведныя спрыяльныя ўмовы: нацыяналізацыя і калектывізацыя народнай гаспадаркі, ваенны камунізм, рыначны сацыялізм і, неабмежаваная канстытуцыяй улада з сваімі законамі «што дышла» – улада ўседазволенасьці чыноўнікаў і жорсткага кантролю (прыгнёту) народу. Такая сыстэма сама зьяўляецца правакуючай для «высокопоставленных скотов».*

*Сёньня нам прапануюць ведаць такую гісторыю, якую твораць, пішуць і хочуць пакінуць нам у спадчыну бальшавікі. Такая навука аб мінулым анічога ня вартая. Гэта гісторыя прыладаў працы, зброі й іх прымяненьня ў канкрэтнай сытуацыі (зброя зьяўляецца галоўным інструментам улады бальшавікоў), і толькі пасьля ўжо – гісторыя чалаве-*

*ка з... прыладамі працы і з зброяй. І тут зброю, як галоўны інструмент дэградацыі, варта паставіць на першае месца, бо гэтая гісторыя – гісторыя рэвалюцыяў і войнаў і гісторыя барацьбы за ўладу. Гаварыць пра такую гісторыю як пра гісторыю дасканаласьці – проста сьмешна. Але знаходзяцца і прыкормленыя летапісцы-нікчэмнасьці, якія пішуць патрэбную ім гісторыю й, такім чынам, будзе вывучацца і дасьледавацца (кастрыравацца) і папулярызавацца надалей гісторыя дэградацыі чалавецтва!*

*Што можна чакаць ад такой гісторыі і ад такога чалавецтва?!*

*Сама крыўднае ў такой сытуацыі тое, што яны бяруць на сябе абавязак выступаць ад народа і рабіць «усё ў імя чалавека і ўсё для чалавека», а народам гэтым яны лічаць толькі сябе і далучаных, альбо набліжаных да агульнага народнага карыта, якое яны адабралі ў гэтага народу (а таму і народнае).*

*Трэба заўсёды мець на ўвазе, што мы маем справу з бальшавізмам як праявай расейска-імперскай мянтальнасьці. Ідэалёгія такога бальшавізму вельмі і вельмі нагадвае шавіністычна-імперскую ідэалёгію царызму ў XIX – пачатку XX стст. Бальшавікі, ўсьлед царскай палітыцы, не прынялі пазытыўнага значэння слова нацыяналізм, наадварот, пры Сталіну ўсякія праявы нацыяналізму (мова, культура, гісторыя) сталі абвінаваўчым фактам генацыду іншых народаў шматнацыянальнага СССР.*

*Бальшавікі баяцца праўдзівай гісторыі, гісторыі духу нацыі, маралі, прыгажосьці; гісторыі, якая вучыць духоўнасьці і розуму і вядзе да сапраўднай дасканаласьці; гісторыі, якая спрыяе разуменьню ролі народу ў асэнсаванай, мэтанакіраванай і творчай дзейнасьці. А гэта ўжо – прэрагатыва нацыі, і ня кожны народ ведае такую гісторыю, а тым болей, творыць. А калі народы СССР будуць ведаць такую гісторыю і тварыць – маскоўская савецка-імперская вярхушка ня зможа існаваць і кіраваць такой адзінай дзяржавай-імперыяй. У такой гісторыі, як і ў такой будучыні, – бальшавікам ня будзе месца.*

*Бальшавізм – гэта д'ябальскі і зьмярцьвелы выкідыш Расейскай імперыі! Калі такая сыстэма служыць асновай развіцьця розных сфэр грамадзкага жыцьця, дык узнікае лягічнае пытаньне, якім чынам, альбо якім коштам можна забясьпечыць часовае функцыянаваньне мёртвай сыстэмы, якая прымае некрафільскія формы? Палітыка і ідэалёгія якой на-*

*гадвае нечым пазногці і валасы, якія растуць нейкі час на целе нябожчыка (Леніна). Што можна гаварыць, калі гэты нябожчык зьяўляецца іх сымбалем і богам.*

*Праўда, такія высновы не суцяшаюць, а тым болей, не надаюць аптымізму. Адсутнасьць нацыянальнага ўсьведамленьня народу на працягу некалькіх стагоддзяў можа істотна паўплываць на генетычны код нацыі (калі яшчэ такі захаваўся) і тады ўжо аніводны геній не ўратуе нацыю... Пры такой перспектыве траціцца мэтавая зададзенасьць народу, бо гутарка будзе ісьці не пра нацыю, а пра этнас, альбо насельніцтва, якое ня толькі гаворыць і думае па расейску і выхаванае на расейскай культуры, але й глядзіць расейскімі вачыма на сябе і на навакольны сьвет. Ад такога нядобрага позірку рана ці позна ўзьнікне нядобрае пытаньне: «Які сэнс сябе адносіць да нейкага народу (даводзіць сьвету, што ты не вярблюд), калі словы, і думкі, і вочы ўжо ня тыя?».*

*Вось так перш-наперш, перад сканаsucceed, народы праходзяць этап вярблюджай цягавітасьці (працавітасьць – найболей крыклівая рыса беларускай мянтальнасьці), а пасьля ўжо займае мову назаўсёды.*

*Саветы для беларускага народу зьяўляюцца найвялікшым выпрабаваньнем на духоўнае і фізічнае выжываньне. Чым болей будзе працягвацца саветызацыя, ідэйны змест якой складаюць такія паняткі, як эканамічная прыватызацыя Савецкай Расеяй тэрыторыі і прамысловасьці Беларусі, ліквідацыя нацыянальных кадраў і беларускай навуковай і культурнай прасторы і поўная русіфікацыя краю, тым меней і меней застаецца шанцаў у беларусаў для нармалізацыі свайго жыцьця...*

*Болей таго...*

На гэтым нататкі заходніка абрываліся.

Ніжэй чорным алоўкам, наўскос, размашыстым почыркам было дапісана: *«Вещьдок подлежит немедленному уничтожению!»*.

І подпіс: *Старший оперативный уполномоченный капитан Москвичёв.*

# Ад аўтара

## Праўда і вымысел у рамане-хроніцы

Падзеі ў рамане-хроніцы «Саветы» разгортваюцца ў 1939 – 1941 гг. у Заходняй Беларусі. Сюжэтную канву складаюць такія вельмі спрэчныя і неадназначныя ў беларускай гістарыяграфіі з'явы, як прыход Чырвонай Арміі, усталяванне савецкай улады, калектывізацыя, раскулачванне, рэпрэсіўная і культурная палітыка. Усё гэта адбываецца ў асяродку заходнебеларускага сялянства, якое такія карэнныя змены ўспрымала і ацэньвала неадназначна: для адных прыход Саветаў –доўгачаканае свята і вызваленне, для другіх – акупацыя і трагедыя. А ў цэлым, менавіта ў той час закладваліся тыя разбуральныя прынцыпы ў вынішчэнні маральных, ментальных і традыцыйных асноваў заходнебеларускай вёскі. Прынцыпы гэтыя сталі настолькі жывучымі, што з імі мы сутыкаемся і сёння.

Калі больш канкрэтна лакалізаваць рэгіён падзей у рамане-хроніцы, дык гэта будзе гістарычная Ашмяншчына (сучасны Смаргонскі р-н, Крэўскі сельсавет), сёння, дарэчы, мы не знойдзем на сучасных геаграфічных мапах Гродзеншчыны шматлікіх населеных пунктаў, якія згадваюцца ў рамане. Няма вёскі з назваю Дойневічы, хаця на мапе Вялікага княства Літоўскага ад XVI ст. між мястэчкамі Крэвам і Лоскам адзначаліся не Ракаўцы, Крыўск ці іншыя вёскі, а менавіта Дойневічы. Пасля Дойневічы спаланізаваліся ў Дайнювцы (Dojniuwcy), а ў народным вымаўленні засталіся Дойнеўцамі. У 1968 г. вёску Дойнеўцы рашэннем Смаргонскага райвыканкама далучылі да Ракаўцаў і назва вёскі перастала існаваць афіцыйна. А сёння ўжо няма каму ставіць пытанне аб вяртанні гістарычнай назовы вёскі – Дойневічы.

З усёй верагоднасці адпаведная моўная трансфармацыя адбылася і з назваю Ракаўцы: Ракавічы – Ракувцы (Rokywcy) – Ракаўцы. Нешта падобнае, відаць, адбылося і з Мажалямі (у рамане Мазалі): цяжка сказаць, дзе і калі ў польскай мове ў назове Mazałi, з'явілая кропка над z (ż). Так, да прыкладу, Зубраны ў Зубранскай пушчы на Ашмянчыне сталі Жупранамі. Калі гаварыць пра іншыя тапонімы, дык варта адзначыць, што ў рамане-хроніцы збольшага выкарыстаны назовы вымерлых у акрузе сённяшніх Ракаўцаў вёсак: Бяляніца, Дзёсны, Дзямідава, Драздзішкі, Казароўшчына, Казлоўшчына, Людвінова, Мажалі, Навінкі, Няроўка, Парлоўка, Ручаі, Трацякі, Харлаўшчына, Ходзькі.

Але падзеі ў рамане не замыкаюцца толькі на дадзенай акрузе: геаграфія саветызацыі і сталінскай рэпрэсіўнай палітыкі мясцовага насельніцтва пашыраецца да маштабаў Вілейскай вобласці і пацвярджаецца канкрэтнымі архіўна-дакументальнымі гістарычнымі фактамі (справа Пятровіча, арышты Жаўтка, Мончыка і іншых). У гэтым плане аўтарам выкарыстаны матэрыялы занальных архіваў г. Маладзечна і г. Ліда, багатая мемуарная, дакументальная і навуковая літаратура. Але, нягледзячы на такую дакументальную падкладку, трэба заўсёды помніць, што раман-хроніка "Саветы" не з'яўляецца дакументальным раманам.

У рамане цесна пераплятаюцца між сабою рэальнасць гістарычных падзеяў і мастацкі вымысел. Але мастацкі вымысел гэта не фантазія і не выдумка аўтара. Гэта, хутчэй, аўтарская інтэрпрэтацыя і спроба рэканструкцыі тых падзей: так магло быць, але магло быць і трохі інакш. Да прыкладу, спадар Янка Станкевіч хутчэй за ўсё не прыязджаў у Дойневічы, але ён мог бы там і быць. Добра вядома, што Янка Станкевіч пабываў у многіх беларускіх мястэчках і вёсках з падобнымі мэтамі, і калі ён можа і не быў у Дойневічах, дык ён абавязкова быў у сваёй вёсцы – у Вурлянятах (у сучаснай інтэрпрэтацыі – Арляняты), бываў у суседніх вёсках і гэтак далей. А калі зыходзіць з меркаванняў паводле яго свядомасці і творчай спадчыны, ён, прыкладна, мог гаварыць пра тое, што гаварыў у Дойневічах як свядомы беларус і як ідэолаг партыі беларускіх нацыяналістаў – а гэта ўжо факты рэальнай гісторыі.

У пошуках краязнаўчага матэрыялу ў 1990-я гады неаднойчы прыходзілася аўтару сутыкацца з такой з'явай: многія ўдзельнікі і сведкі тых падзеяў, аднекваліся ад пытанняў, маўляў: нічога не помнім, не ведаем, не чулі, не бачылі, і амаль катэгарычна заяўлялі, што нічога не помняць пра прыход Саветаў, нічога не ведаюць пра Станкевічаў з Вурлянятаў і нічога не чулі пра "акаўцаў". Актывісты калгаснага і савецкага руху, а таксама франтавікі стараліся гаварыць пра свае камсамольскія, арганізацыйныя і чалавечыя якасці і пра свае подзвігі на фронце. Складвалася ўражанне, што такія словы як "Станкевічы", "беларускі рух", "акаўцы" у іх свядомасці засталіся забароненымі на ўсё жыццё. Толькі неяк аднойчы адзін з слаўнага роду Станкевічаў – Валюсь Станкевіч – родны брат Стася Станкевіча (кнігара і паэта) даў мне зразумець, што лепш было ў той час зусім не ведаць такіх словаў, бо калі ведаеш, дык адкуль ведаеш, дзе ты іх пачуў, хто табе сказаў, і паспрабуй пасля давесці "энкэвэдэшніку",

што словы тыя ты сам прыдумаў. Страх, закладзены савецкай сістэмай ў тыя і наступныя гады не пакідаў гэтых людзей нават і тады, калі гэтая сістэма рухнула.

У рамане-хроніцы падзеі разгортваюцца на канкрэтным гістарычным фоне, згадваюцца канкрэтныя гістарычныя асобы, якія ўвасабляюць сабой новую, савецкую ўладу: ад Сталіна – да сакратароў райкамаў, старшынь сельсаветаў, калгасаў і іншых прыўладных, партыйных і наменклатурных функцыянераў раённага і мясцовага маштабу. Так паводле архіўных дакументаў прыводзіцца спіс раённага кіраўніцтва: *«Саламон Абрамавіч Дордзік – першы сакратар раённага камітэту КП(б)Б партыі, Парфіновіч Аляксей Рыгоравіч – другі сакратар, Сапожнікаў Якаў Давыдавіч – трэці. Загадчык аргінструктарскага аддзела – палітрук Агафон Дамінікавіч Абуховіч, інструктары Леў Саламонавіч Левін, Міхаіл Мееравіч Ліпмановіч, нехта А. М. Інтэ, Эсмантовіч – старшыня народнага суда, Брудно, Карпель – засядацелі, Лур'е – галоўны пракурор раёна, Якаўлеў, Айзенштад... Рабіновіч Б. І – загадчык райместпром аддзелам...» (с. ).* Гістарычнымі персанажамі з'яўляюцца такія асобы, як Гурын, Сапожнікаў, Сцяпан, Міхалка, Казакевіч і іншыя.

Разам з тым, такія надуманыя персанажы як Мокша, Кацалапаў, Трэпелеў (Цэрбер), Сухарукаў уяўляюць сабой зборныя вобразы прыезджых з савецкага усходу арганізатараў і спецыялістаў улады. Адсюль некаторая сімвалічнасць іх прозвішчаў, але менавіта такое склалася аўтарскае вобразна-асацыятыўнае ўяўленне пра іх паводле мемуарнай літаратуры, ўспамінаў і расповеду людзей, якім удалося перажыць падзеі савецкай дурноты тых гадоў.

А тое, што такой дурноты хапала – гістарычны факт.

Нявыдуманымі персанажамі ў раман-хроніцы праходзяць: Аляксандр Дабжынскі (у рамане Дабрынскі), Аляксандр Качананоўскі (Качанюк), Ян Сакалоўскі (Амерыканец), Антон Гоман, Страчынскі (Страчыцкі) і іншыя.

Некаторыя падзеі ў творы падаюцца праз прызму асэнсаванняў рэчаіснасці канкрэтным гістарычным персанажам – шматдзетным селянінам з вёскі Дойневічы – Антосем Андраловічам. Упершыню чытач мог сустрэцца з гэтым персанажам у апавяданні «Мікалаеўская вайна» (зб. «Колькі ў небе зор», Смаргоншчына літаратурная, 2009). Унікальнасць гэтага невымышленнага вобразу ў тым, што чалавек здолеў у вельмі складаны час ваенна-бандыцкага ліхалецця (1939 – 1950 –я гады) выжыць і захаваць жыццё сваёй сям'і (9 дзяцей) і пры

тым застацца ўбаку ад калгаснага будаўніцтва, саветызацыі і, што сама галоўнае, ані разу не ўзяць у рукі зброю, каб стрэліць у чалавека.

Некалі аўтар, будучы школьнікам, зайздросціў сваім аднагодкам, у якіх бацькі і дзяды на Дзень Перамогі важна хадзілі з бліскучымі медалямі і ардэнамі на грудзях, і толькі яго дзед (на Смаргоншчыне быў распаўсюджаны зварот *дзядунька*) не меў аніводнага медаля і на ўсе гэтыя хвалёныя ўрачыстасці не хадзіў. На пытанне дапытлівага піянера, «чаму так атрымалася?», дзядунька толькі адмахваўся, маўляў, так выйшла. І толькі нашмат пазней стала вядома пра «нейкага рускага камандзіра, якога, пакуль не ачуняў», хавалі і лячылі дзядунька з бабунькай, і пра Давіда Рабіновіча, які некалькі месяцаў хаваўся ў дзядунькі – і гэта ўсё пад бокам у немцаў, паліцаяў і, не заўсёды дабразычлівых, суседзяў. Сёння такім дзядунькам можна ганарыцца. Дарэчы, дзядунька, як і ўсё яго пакаленне народжаных у канцы XIX ст., не мацюкаўся так, як гэта сталі рабіць тыя, хто быў ужо выхаваны пры савецкай уладзе; не паліў папяросы і не захапляўся алкаголем, што ўжо не скажаш пра наступныя пакаленні.

Цікавым персанажам у рамане-хроніцы з'яўляецца Пуценька. Так, сапраўды жыў такі чалавек у Дойнеўцах з такой мянушкай (сёння захаваўся толькі куст чаромхі, дзе некалі стаяла яго хата). Але сапраўдны Пуценька быў вельмі і вельмі далёкі да таго, што вырабляе Пуценька ў рамане. Правобразам Пуценькі ў творы стаў родны брат Пуценькі сапраўднага (хата яго была насупраць хаты Антося Андраловіча), і толькі з этычных меркаванняў у рамане не згадваюцца іх сапраўдныя прозвішчы. Пра гэтага суседа ў сям'і Андраловічаў захаваліся не добрыя ўспаміны.

Некалькі зменена ў рамане імя Міхалкі, правобразам якога быў таксама канкрэтны чалавек. Аўтар сустракаўся з ім і размаўляў, але ўся яго інфармацыя была настолькі скупой і выверанай, што складвалася ўражанне пра расказчыка, які прайшоў вельмі строгую цэнзуру наконт таго, што можна гаварыць, а што нельга, нягледзячы на тое, што гэта былі 1990-я гады.

Недзе ў 1960-ых гадах памёр у Лоску Чубік – правобраз вайдэлка. Так, сапраўды быў у Лоску такі знахар і прозвішча яго было Русакевіч. Рознае пра яго гаварылі і гавораць людзі да сёння, што аўтар і стараўся адлюстраваць у рамане. Цяжка сказаць, наколькі Чубік быў сапраўдным вайдэлотам, але нешта ўсё ж такі ад паганства ў ім было.

Можна было б падаць кароткія каментары да кожнага персанажу, але вялікай патрэбы ў гэтым няма. Нешта лягло ў аснову таго ці іншага вобразу як паводле гістарычных падзеяў, так і паводле чутак, якія бытавалі ў наваколлі (раздзелы «Праклятае золата», «У кожнага свая вышка»), пры гэтым прозвішчы Сака, Кісялеўскага, Левановіча цалкам змененыя.

Вымышленым персанажам у рамане з'яўляецца Янук Дайновіч. Вымышленым не таму, што аўтару не ўдалося знайсці, як можа некаму здацца, правобраз такога станоўчага героя, беларуса-нацыяналіста. Такімі правобразамі маглі б быць канкрэтныя гістарычныя асобы: Янка Станкевіч, Юльян Саковіч, Мацвей Пятровіч, Зміцер Жаўток і іншыя персанажы. Але справа ў тым, што калі ў той час шмат хто з беларусаў падаўся ў эміграцыю, некага застрэляць Саветы, акаўцы ці немцы, нехта загіне ў сталінскіх ці гітлераўскіх канцлагерах, а нехта прыстасуецца да савецкай сістэмы – дайновічы застаюцца з сваімі ідэямі ў адзіноце і на маргінезе культурнага жыцця. Такім чынам, аўтар палічыў болей мэтазгодным стварыць зборны вобраз беларускага нацыяналіста (у станоўчым разуменні гэтага слова), у якога наперадзе адсутнічаюць усякія перспектывы і шанцы ў праяўленні сваёй беларускасці. Вобраз Дайновіча, як і многіх іншых персанажаў, застаўся ў рамане незавершаным.

Колькі слоў варта сказаць пра мову і правапіс. Не кранулася ў аўтара рука перадаць крэўскі моўны каларыт сучасным правапісам. Там яшчэ і сёння можна пачуць, і «бялет», і «няведама», і «зярно», і «мусіць анічога ня будзя», а што ўжо гаварыць пра 1930 - 1940 гады. Такім чынам, гутарка і дыялогі, а таксама раздзелы з «Нататніка заходніка» перадаюцца ў рамане-хроніцы класічным правапісам з моўнымі асаблівасцямі рэгіёну. Словы аўтара больш адпавядаюць сучаснаму беларускаму правапісу, але таксама не пазбаўленыя моўных рэгіяналізмаў.

У творы ёсць цікавыя матэрыялы і інфармацыя для мясцовых краязнаўцаў, гісторыкаў, настаўнікаў і літаратараў. Але гэта не гаворыць пра абмежаванасць і прывязку падзей да канкрэтнага рэгіёну. Так, нешта падобнае ў той час адбывалася ў кожным мястэчку, у кожнай вёсцы. Такім чынам, у рамане-хроніцы прасочваецца абагульняючы вобраз Саветаў у Заходняй Беларусі ў 1939 - 1941 гады.

*Янка Трацяк.*
*Дойневічы – Гародня, 2009 – 2014 гг.*

## ЗМЕСТ

Літаратурна-мастацкае выданне

**Янка Трацяк**
*(Трацяк Іван Іванавіч)*

# САВЕТЫ

*Заходнебеларускі раман-хроніка*

*Выдадзена ў аўтарскай рэдакцыі*

Верстка, апрацоўка вокладкі: *Аляксандр Рыжы*

Падпісана да друку 02.11.15
Фармат 60х84/16
Ум.друк.арк. 24,9. Ул.выд.арк . 19,3
Папера афсетная. Друк різо
Тыраж 90 паас. Заказ 56/102

Выдавец і паліграфічнае выкананне:
Таварыства з абмежаванна адказнасцю «ЮрСаПрынт»
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі
выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка
друкаваных выданняў № 1/388 ад 01.07.2014 г.

вул. Карла Маркса,11, 230015, г. Гродна
+375 152 7718 20
+375 295 87 84 11